№1(68)
/студзень-люты/ 2014

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Данута Бічэль



...позна пачаць ад пачатку
перапісаць жыццё, як нататку...

# Настальгія па дзявочай краіне

***Стомленыя экспромты***

### *НЕБА*

Неба населена духамі, душамі ды анёламі,
святымі, маўклівымі і вясёлымі...
Кажуць, дарога да неба ляжыць праз сэрца,
пакуль яно б'ецца, ці так яму толькі здаецца...

А зямля магнітам прыцягвае нас да каберца,
куды сэрца, як стоміцца, і перальецца,
перахвалюецца, зоркай закоціцца,
пераселіцца ў цокат зялёнага коніка...

Або ператворыцца невыпадкова
у чужое, ціхае, добрае слова,
з новага неба прышле прадчуванне:
і чакай нечаканага неспадзявання...

Кожнае сэрца калоціцца аб сваім...
а ў мяне спатканне з унукам малым!
Прыляцеў з нябёс, на чужыне падрос...
Неба з чужой краіны ў Гародню прывёз...

А з чакання сабралася хмарка дажджу...
Не хачу я нічога, толькі на ўнука гляджу...
Перад Богам кленчу, пацеры гавару,
і чужую Амерыку, як Беларусь, люблю...

*11. 05. 2013*

## РАДАНІЦА

У вёсачцы соннай, дзе ноччу і днём
людзі стамлёныя спяць вечным сном,
нават нячысцік прыціх,
толькі канваліі пахнуць для ўсіх...

Хаты, як людзі, сном ціхім спяць,
няма дзяцей – калыханкі спяваць –
комін забыўся, што грэў яго дым,
у поўнач нячысцік скуголіць пад ім.

Вецер вільчак абняў і заснуў,
комін пахілы снапочкам заткнуў.
Птаха малая звіла там гняздо,
песні пяе, ды не чуе ніхто.

Дождж па страсе слёзы страсе,
кроплю надзеі з нябёс прынясе,
толькі не цешацца ціхім дажджом
тыя, хто ў вёсачцы спіць вечным сном...

*14. 05. 2013*

## ДОБРЫ СОН

У добрым сне сню сваю хатку,
у якую адна не заходжу,
таму што там не знаходжу
ні маму, ні тату.

На падворку крот
ускапаў агарод,
пасеяў шчаўе і мяту,
кмен, сардэчнік, асот...

Стомлены, слепаваты,
заснуў і не страшна крату
назіраць, як прыносяць вайну
з вайны чужыя салдаты...
А прыходзяць салдаты з вайны
ў мае знерваваныя сны.

А сваіх, не чужых салдат
тут ніколі не бачыў ні крот, ні брат,
ні магнат, ані дэлегат –
ні разумны, ані вар'ят...

*15.05.2013*

### *ЗАГАСЦІНЕЦ*

Будавалі хаты ўсе разам,
не было ні платоў, ні лазаў.
Не ва ўсіх былі свае студні...
Быў Загасцінец шматлюдны...

Вясёлы, спеўны, стракаты...
Хадзілі ў касцёл на рараты.
Хадзілі пад крыж на ружанец.
Непатрэбных, нас нараджалі.

Пасылалі каровак пасвіць.
Не вучылі абманваць і красці.
Як бульбу пад весну канчалі,
адны ў другіх пазычалі.

Кадрэлю танчылі,
цялят малых няньчылі,
кветкі на комінах малявалі,
і сварыліся, і спявалі
свае сапраўдныя песні,
што з хатамі перанеслі.

Такі быў рай на зямлі.
Ды стаміліся ўсе і пайшлі –
паасобку і без чаргі,
адзін, а пасля другі...

Ігнась за Ганнай, іх хата з краю,
адной душой ляцелі да Раю...
з раю зямнога да светлых светлаў...
Нарэшце ўсе ўцяклі ад саветаў.

А ў цётчынай студні вада жывая –
гаючую таямніцу трымае...

Сонейка чэрпае цётчыну студню
ды палівае ўсю гэту бязлюдню...

*17.05.2013*

## *НАСТАЛЬГІЯ ПА ДЗЯВОЧАЙ КРАІНЕ*

Сэрца сціснецца – поўначкі выйду,
пайду праз жывое балота –
наіўная наіўнота –
ва ўрачыстую, з замкамі, Ліду.

Цуд адбудзецца – стану дарослай.
Але малады зялёны мой розум:
ад навукі мутнеў, нібы п'яны,
галаву вадзіла ў бакі,
як ішла праз мосцік драўляны,
то ляталі ў вачах матылькі.

Дом там рос – стары і прыгожы.
У ім жыла святая сям'я.
З імі Франя, Марыся і я –
у вузкай шчылінцы грэліся,
адгароджанай старым крэдансам.

Дабрыня панавала без межаў...
Магдалена замольвала ежу.
Нашу пані наведваў ксёндз,
і нас бласлаўляў перад сном.
Кніжкі мудрыя пані чытала,
усё жывое ў хляўку сакатала.

Мы – не мудрыя і не хітрыя,
геаграфію блыталі з хіміяй.
А Ліда, як добрая мама,
выпраўляла нас на экзамены.
А на поплаве каля Лідзейкі
калыхалі нас салавейкі.

Гаспадыня святая наша,
на мяне пагляне ды скажа:
– Ты ўмееш вершы складаць,
ці навучышся жыць прыгожа,
так, каб таленты не марнаваць
на зямныя справы і грошы?

Каб не дрэнчыў свет гэты хворы,
на Каляды і на Вялікдзень

нас праводзіла тайна на хоры,
каб на хорах ніхто не выдаў.

Ліда – дом прасторны, драўляны.
Ці застаўся, ці зруйнаваны?
Як жывы, то памятаць будзе:
у Лідзе нас выводзілі ў людзі!

*21.05.2013*

## ДЗЕ ЛЕПЕЙ

Лепей жыць у хаце пад лаўкай,
чым на руінах замкаў.

Лепей на руінах старога замку,
чым перад новым цалаваць клямку.

Лепей пад лаўкай, скуголячы, спаць,
чым у замку век векаваць.

Лепей пайсці, куды вочы глядзяць,
у кожны з шасці напрамкаў,
далёка ад вёсак і замкаў,
не аглядацца назад.

*23.05.2013*

## МУРКАЕ ХМАРКА

Муркае хмарка, поле маўчыць.
Няма дажджу, каб поле лячыць.
А лекарка без падарункаў не ходзіць.
А без дожджыку жыта не ўродзіць.

Паміж Біскупцамі і Заполлем,
паміж Белагрудам і Крупавам
не відно, што планета круглая
і навокал сонейка круціцца.

Спяць бабулі Франуся, Канстанцыя,
князі, касінеры, паўстанцы...
Унучкі ходзяць на кастылях,
стогне ад болю зямля.

У вёсцы Скрундзі Міхал Арханёл
не ўратаваў старажытны касцёл.

Хто такі касцёл пабудуе?
Каб боль не цярпець тут, пайду я...

І дожджык пойдзе з вачэй.
Паплачу – стане лягчэй...
Паблытаю ўсе вымярэнні...
Паеду да Рэні...
Але як спыніць на хаду цягнік?
Бабуля Канстанцыя, я твой двайнік...

Пасяродку Еўропы
ў дваццаць першым стагоддзі
да мяне ніхто не заходзіць:
ні кароль Баторый, ні каралева Бона.
Кожны дзень прылятае варона.

І на градцы, як толькі засну,
смерць з жыццём пачынае вайну.
Кветкі ў акно не пускаюць смерць.
Трэба яшчэ цярпець...

*24.05.2013*

## *АД ПАЧАТКУ*

Але ж не позна пачаць ад пачатку
перапісаць жыццё, як нататку.
Поўная цемра – прадвеснік світання,
чысты лісток – з Табою маўчанне.

Моўчкі ў цямне малюся слязьмі.
Моўчкі з Табой – без людзей і з людзьмі.
Паразмаўляю з Прысутным, Табою.
Знікну, як знічка ля вадапою.

Як усміхацца п’янай жанчыне,
яна сядзіць на маёй аблачыне?
П’е і не можа выпіць да дна
горкай атруты – гарэлкі, віна...

Мая галава, нібы трэснуты комін...
Прынёс бы ратунак святы Антоні,
дапамог бы ёй у святло апрануцца,
зноў нарадзіцца, дадому вярнуцца.

Ды яна не папросіць святога Антонія...
Такая вось п’яная антыгармомія.

*1.06.2013*

## *СЛЁЗЫ*

У маладосці астральныя слёзы
засыпаюць нябёсы,
падсцілаюць іх зоркі
пад старыя хворыя косці...

У маладосці
хтосьці пакрыўдзіў кагосьці,
а хтосьці яму пазайздросціў...

А потым слёзы сеюць на нівы,
сыплюцца, нібы
асенняе лісце, –
камень не перагрызці...

Дай жа мне, Божа,
камень прыгожы
разам з Табою
з сумным спакоем
дзень перамножыць...

Дапамажы
гэты боль пераЖыць...
і не вяртацца да злосці –
да слёз маладосці,
і тым, хто пакуль што не плача,
дапамагаць, не зайздросціць.

*10.06.2013*

## *НЯХАЙ БЫ ЦЯРПЕЛАСЯ*

Няхай бы цярпелася так і заўжды,
як было тады,
калі мы сунічак жывыя каралі
на росных палянках на дубчык збіралі...
пакуль не заўважылі, як затапталі
палянкі, зямлю, чысты Край.
Кудысьці наперад усе паўцякалі,
а мы засталіся, мы іх не дагналі...
А трэба было даганяць
ці лепш у цяньку пачакаць?

*12.06.2013*

## *СКРЫПАЧКА СПІЦЬ НА ВІШНЁВЫМ СУЧКУ*

Стромкая вішня ў маім акне
скрыпачцы-коці належыць, не мне.

Стромкую вішню гайдае шпачок
і хто аб кару пачомхаў бачок.

Скрыпачка спіць на высокім сучку,
любіць яе сучок, як дачку.
Ад злога цюцькі ляцела наўцёк,
яе ўратаваў вішнёвы сучок...

Ветрык шапоча, птушка пяе.
Сучок з той пары і бароніць яе.
Каго ж не ўдалося абараніць,
той пад карэньчыкам ціха маўчыць.

Свет наш прасторны, крохкі сучок,
душ невідочных анёл-двайнічок!
Скрыпачка, вішня, ветрык і я –
сямейка наша, ідылія.

*14.06.2013*

проза

Уладзімір Някляеў



...у мяне
мяне
няма...

# Шляхі выпадковыя

***Апавяданні***

## Цар зямлі

Лапік зямлі, на якім Тодар Цыркун зляпіў з аполкаў ды фанеры сваё лецішча, дастаўся яму выпадкова. Яшчэ за савецкім часам у міністэрстве фінансаў, дзе ён працаваў рэвізорам, стварыўся дачны кааператыў «Фінансіст», у які Тодар не збіраўся ўступаць, бо лецішча яму без патрэбы было, а Салівей, швагер ягоны, прапанаваў: «Вазьмі зямлю, я лецішча сабе збудую, а ты будзеш на шашлыкі да мяне ездзіць». Ну, швагер, якая ні ёсць, а радня, брат жонкі, дык тая прычапілася: «Вазьмі, вазьмі...» – Тодар і ўзяў. І гэтакі файны ўчастак у шэсць сотак па жэрабю яму выпаў – якраз паміж лесам і возерам. Тодар нават пашкадаваў, калі ўбачыў тую прыгажосць, што за нейкія шашлыкі яна швагру дастанецца. Дык нічога швагру і не дасталося. Ён толькі слупоў з аполкамі нацягаць паспеў, каб плотам шэсць сотак абгарадзіць. Укапаў першы слуп – і на тым

скончыў не на сваёй зямлі гаспадарыць. Ад шчасця, што гэтакі ўчастак на халяву ўрваў, сэрца парвалася. Такі сквапны быў чалавек. Наўрад ці Тодар шашлыкоў ягоных дачакаўся б.

Сямён Сурмач, які таксама рэвізорам міністэрства фінансаў быў і якому ўчастак побач з участкам Тодара па жэрабю выпаў, зяця меў. Зяць ягоны на дрэваапрацоўчым камбінаце, дзе фанеру выпрабляюць, галоўным тэхнолагам працаваў. Дык столькі фанеры той зяць накраў, што падзець не было куды – хоць спальвай яе, шашлыкі смажачы. Увесь участак фанерай завалілі, яна пад дажджом чарнець пачала, таму Сямён і адшкадаваў Тодару сорак лістоў, самых пачарнелых, а выгляд зрабіў, нібы даў праз сяброўства. З той фанеры, накрадзенай зяцем Сурмача, ды аполкаў, нацяганых нябожчыкам шваграм, Тодар і зляпіў сваё лецішча. Выглядала яно так сабе, але ўсе глядзелі не на фанеру з аполкамі, а дзівіліся на лес ды возера і зайздросцілі Тодару: "Якое ў цябе, Тодар, лецішча! Гэтакі рай, мусібыць, на небе ў Госпада..."

Наста, дачка Тодара, якая вучылася ў школе з мастацкім ухілам, намалявала лецішча з лесам ды возерам і назвала карціну "Рай". Лес і возера былі падобныя на лес і возера, а лецішча – на лятаючую талерку, над адным з круглых вокнаў якой было напісана паўкругам *Цар Зямлі*, а з таго вакна сумна глядзеў Салівей, швагер Цыркуна з зоркай Героя Савецкага Саюза на лобе. Гэта, мусібыць, каб яго ў рай прапусцілі, бо так – за што?..

Карціну ўзялі на конкурс юных мастакоў, нехта ўбачыў у зорцы на лобе швагра "савецкую свядомасць, ад якой грамадства пазбавіцца толькі тады, калі апошняга "саўка" забярэ ў ягоны камуністычны рай лятаючая талерка" – і Наста, "чатырнаццацігадовая мастачка з незвычайна глыбокім для яе ўзросту мысленнем", усіх перамагла. Прыйшла дахаты з прызам, бронзавым пэндзлем на мармуровай падстаўцы, і грымнула тым прызам так, што на стале лак патрэскаўся: "Што, саўкі засраныя! Каму цяпер не пазней васьмі вечара дома быць?.."

Мальвіна, жонка Тодара, праз перамогу дачкі ашалела ад шчасця і, як усе шчаслівыя жанчыны, ні пра што, апроч шчасця, не думала, а Тодар, які рэвізорам быў, спрабаваў уцяміць: дзе і ў чым глыбіня мыслення, за якую Наста займела гэткі салідны, мармурова-бронзавы прыз?

– Ну, добра, – тыкаў ён пальцам у зорку на лобе швагра. – Няхай гэта савецкая свядомасць, ад якой грамадства пазбавіцца толькі тады, калі апошняга "саўка" забярэ ў ягоны камуністычна рай лятаючая талерка. Але чаму тут напісана *цар зямлі*? Хто цар зямлі? Швагер? Салівей?..

Наста адмахвалася: "Ды не ведае ніхто, што гэта твой швагер Салівей! Гэта вобраз!.." Яна і дагэтуль з бацькам коратка размаўляла, а пасля таго як займела славу мастачкі з незвычайна глыбокім для яе ўзросту мысленнем, стала размаўляць яшчэ карацей.

Як гэта ніхто не ведае, што Салівей – Тодараў швагер? У кааператыве шмат хто ведае, у міністэрстве. Сямён Сурмач ведае, зяць Сямёнаў таксама.

Учора, як заўсёды ў суботу, яны пляшку ўзялі, запрасілі Тодара пасуседску пасядзець. Тодар пайшоў, бо як адмовішся, калі суседзі, хоць не надта любіў сядзець з імі – і ўвогуле ні з кім ні сядзець, ні ляжаць, ні стаяць не любіў. Чакаеш ад людзей аднаго, а маеш зусім іншае, кожны лезе са сваім. А што мне тваё – мне сваё цікава.

Мальвіна кажа: "Дык і сядзеў бы з самім сабой". Ён і сядзеў бы, калі б яшчэ нехта быў гэтакі самы, як ён.

Тодар не лічыў сябе лепшым за ўсіх, не. Ён проста лепш за іншых бачыў недахопы як асобных людзей: міністра фінансаў, ягоных намеснікаў, загадчыкаў аддзелаў, намеснікаў загадчыкаў аддзелаў, рэвізораў, старшыні дачнага кааператыва, – гэтак і ўсяго чалавецтва.

Вось у чым праблема чалавецтва? Надта шмат у людзях living rознага – вось у чым праблема. Як вонкава, гэтак і знутры.

Неяк яму прыснілася: усе ў іх дачным кааператыве фінансісты – і ўсе такія самыя, як ён. Прозвішчы ды імёны, каб не блытацца, розныя: Сурмач, Салівей, – але па сутнасці ўсе Тодары Цыркуны. У міністэрства прыйшоў – там таксама ўсе Цыркуны. І міністр Цыркун, і ягоныя намеснікі, і загадчыкі аддзелаў, і намеснікі загадчыкаў аддзелаў, і рэвізоры. Усе адзін аднаму ўсміхаюцца, ніхто адзін аднаму не зайздросціць, ніхто адзін пад аднаго не капае, ананімкі не піша, бо як будзеш пад сябе самога капаць і ананімкі пісаць на самога сябе? А галоўнае: усе ўсё гэтаксама, як ты, разумеюць, усе згодныя з табой, ніхто адзін з адным не вадзіцца, не б'ецца – вось вам і мір ва ўсім свеце. Усе любяць адзін аднаго, як саміх сябе. Няма вайны, няма тэрарызму – толькі росквіт чалавечай цывілізацыі. Рай.

Тодар паказаў карціну "Рай" Сурмачу і ягонаму зяцю, дык сам Сурмач нічога не сказаў, а зяць ягоны здзівіўся: "Чаму яна Салівея, а не вас царом зямлі намалявала?.."

Вось з гэтым зяцем Сурмача можна іншым разам пасядзець. Ён хоць і маладзейшы, але болей падобны на Тодара, чым сам Сурмач. Абсалютна тое самае, якое і Тодар самому сабе, пытанне задаў. "Чаму яна дзядзьку свайго, а не бацьку царом зямлі намалявала?.."

Вось у чым праблема, а не ў тым, што вобраз. Бацька хіба вобразам не можа быць?

Мальвіна кажа: "Ты родны бацька – ён родны дзядзька. Якая розніца? Яна любіла Салівея, ён і малявацьяе вучыў..."

Як якая розніца? Нічога сабе: бацька і дзядзька – розніцы ніякай! Наста што: ад дзядзькі нарадзілася? Паглядзелі б, якая б яна ад Салівея мастачка была!

"Ты зусім здурэў!.." – сказала на гэта Мальвіна, а Тодар, не дамогшыся разумення ні ад жонкі, ні ад дачкі, узяў фотакартку, якую на пашпарт рабіў, кругла выразаў свой твар і ўмайстраваў яго ў ілюмінатар касмалёта на карціне "Рай", роўненька заклеіўшы твар швагра.

Выйшла куды лепш, чым было.

Было гэта вечарам у суботу, калі Тодар ад Сурмачаў вярнуўся, а назаўтра, ноччу з нядзелі на панядзелак, заблiскала ў вокнах незвычайнае, калючае нейкае святло, ад якога Тодар прачнуўся і ўбачыў пасярод сваіх шасці сотак лятаючую талерку – якраз на градах з клубніцамі. Праз люк каля самага дна з талеркі выскачылі двое, адзін у чырвона-белым, другі ў чырвона-зялёным шлеме, падышлі да дзвярэй і пастукалі. Адчыняць ім паднялася заспаная Мальвіна: "Хто там?.. Вам што?.." – і з-за дзвярэй пачуўся гэтакі самы, як у Мальвіны, ну, абсалютна гэткі самы, нібы яна сама з сабой размаўляла, голас: "Цар Зямлі тут жыве? Мы па яго, яму а дзявятай раніцы на нараду".

А дзявятай раніцы ў панядзелак, як заўсёды па буднях, Тодару у міністэрстве фінансаў трэба было быць, дзе ніякай нарады сёння не планавалася. Дый не запрашалі яго ніколі ні на якія нарады, рэвізор – не такая

пасада, каб на нарады яго запрашаць. Таму і сам ён здзівіўся, і Мальвіна здзівілася, не ведаючы, што сказаць. Нарэшце накінула на сябе халат, адчыніла дзверы: “Ну, заходзьце...” – і раптам закрычала ва ўсю ноч: “А каб вас у чыстым полі дзвярмі прышчаміла і гэтак яйцы патрушчыла, як вы мне клубніцы патрушчылі!..”

Тодар падумаў, што, з аднаго боку, Мальвіну можна зразумець: ягады даспявалі, яна праз пару дзён думала іх збіраць, а тут гэтая талерка, – але, з іншага боку, разбярыся спачатку, што за людзі, і ці людзі ўвогуле да цябе сярод ночы з’явіліся, а пасля ўжо ці кляні, ці язычок праглыні. На дзіва, начныя госці не пакрыўдзіліся, адзін сказаў голасам Мальвіны: “Мы ўзляцім – і клубніцы падымуцца”, – а другі рассмяяўся: “А яйцаў у нас няма”.

Значыць, не людзі.

Увайшоўшы ў пакой, госці доўга глядзелі на карціну “Рай”, якую Тодар, уклеіўшы сябе ў ілюмінатар касмалёта пад надпісам *Цар Зямлі*, павесіў на сцяну, потым зірнулі на Тодара, кіўнулі адзін аднаму, узялі Тодара пад пахі і панеслі з хаты.

– Наста! – паклікала Мальвіна! – Бацьку забіраюць! Развітацца выйдзі!

“Няхай забіраюць... вернуць, як пагуляюць...” – сонна пачулася з бакоўкі дачкі, якая ў нядзелю днём, убачыўшы, што Тодар зрабіў з яе карцінай, пасварылася з ім, і цяпер Тодар падумаў пра дачку і жонку: “Во сямейка...” – ды тут Наста выскачыла на вуліцу ў адной начнушцы, убачыла касмалёт: “Як забіраюць? Куды?!. – і ўчапілася ў бацьку. – Не пушчу, пакуль не скажаце!..”

– Калі ласка, у нас жа не пытаўся ніхто, – голасам Насты сказаў бел-чырвоны, і аказалася, што ўзнікла небяспека, якая пагражае існаванню Сусвету, таму ўсіх цароў усіх планет збіраюць на сусветную нараду.

У Насты вочы вылупіліся.

– Ваў! Во сіла мастацтва!.. Але ж не бацька... – хацела яна, мусібыць, сказаць, што не Тодар, а Салівей цар Зямлі, ды перадумала. – Тады і я з вамі!

– Царэўнаў не запрашалі, – пахітаў галавой чырвона-зялёны. – Царская нарада.

– А што мне нарада! – збегаўшы па фотакамеру, рушыла да касмалёта Наста. – Я на экскурсію! Хіба царэўне на экскурсію нельга?

Чырвона-зялёны глянуў на бел-чырвонага, той пацепнуў плячыма: “На экскурсію царэўне, мусіць, можна, чаму не?..” – і Мальвіна не стала чакаць, пакуль ён перадумае. “А царыцы тым больш! – адсунуўшы ўбок Насту, першая палезла яна ў люк лятаючай талеркі. – Што мне тут рабіць, калі ўсе клубніцы патрушчаныя?..”

Паляцелі ўсёй сям’ёй. Мальвіна, як была, у халаце, Наста, як была, у начнушцы, толькі Тодар паспеў накінуць вельветавую куртку і нацягнуць вельветавыя штаны. Няёмка ўсё ж: цар Зямлі ў споднім.

Першы, каго сустрэлі на планеце, дзе праводзілася сусветная нарада, быў Салівей.

– Махляр! – накінуўся ён на Тодара. – Фальсіфікатар! Лецішча маё забраў ды яшчэ карціну падрабіў! Пад цара Зямлі падстроіўся!..

І засвяціў Тодару ў скулу.

Тодар не бачыў раней, каб нябожчыкі біліся, таму разгубіўся, не адказаў

Салівею адразу і, як аказалася, добра, што не адказаў, бо на планеце, дзе нарада праводзілася, нельга было вадзіцца і біцца, за гэта кідалі ў пекла, што й зрабілі з Салівеем, інакш бы Тодар ад яго не адчапіўся.

– Не, ну вы бачылі свайго браточка! Дзядзечку свайго! – наступаў ён на Мальвіну з Настай, калі іх пасялілі ў падземны, бо на той планеце ўсё пад зямлёй было, гатэль, у якім ва ўсе вокны, хоць гатэль быў падземны, свяціла сонца. – Ён калі памёр? Год па ім даўно справілі, а сустрэліся – ні табе дзень добры, ні як жывеш! Адразу з кулакамі кінуўся!

– Не быў ён раней такі, гэта па смерці нешта з ім сталася... – не надта рашуча, бо ўсё ж не пашкадаваў Тодар для Салівея ўчастак, апраўдвала брата Мальвіна, а Наста, якая стала царэўнай, таму што бацька стаў царом, адрэзала: “Засранец! Памёр, а ў цары лезе!..”

Тодару ў грудзях пацяплела: якая ўсё ж справядлівая ў яго дачка – уся ў бацьку.

Прыйшлі бел-чырвоны з чырвона-зялёным і сказалі, што пара на нараду.

– А экскурсія? – спытала Наста, і чырвона-зялёны пайшоў з Тодарам на нараду, а бел-чырвоны павёў Насту з Мальвінай на экскурсію.

Нарада праводзілася на паверхні – і як толькі Тодар падняўся, адразу зразумеў, чаму ўсё астатняе на гэтай планеце загнанае ў падзямелле: каб вызваліць месца для ўдзельнікаў нарады. Ён чакаў, што ўбачыць нейкі клуб ці Дом культуры са сцэнай і сталом прэзідыума, за якім будуць сядзець тры-чатыры, ці няхай нават трыццаць чатыры чалавекі, і сотня-другая, ці няхай нават тысяча-другая, як на з’ездзе прафсаюзаў, людзей у зале, а тут табе ні стала, ні сцэны, ні Дома культуры: на голай зямлі ва ўсе бакі да небасхілу – цары, цары, цары...

– Колькі ж іх?.. – збянтэжана, бо ніяк не думаў, што на царскай нарадзе будзе столькі цароў, спытаў чырвона-зялёнага Тодар, і раптам сам, успомніўшы тое, чаму вучылі ў школе, зразумеў: бясконцая колькасць! Бясконцы сусвет, бясконцая колькасць планет – і столькі ж цароў! Ну, магчыма, на нейкіх планетах дэмакратыя і цароў няма, але ўсё адно: тых планет, на якіх яны ёсць – бясконцая колькасць...

Гэта яго моцна ўразіла. Ды што там моцна: гэтак яго не ўражвала нічога і ніколі. Немагчыма было што-небудзь з гэтым суаднесці: міністр у міністэрстве фінансаў быў адзін, ягоных першых намеснікаў – два, другіх намеснікаў – чатыры, рэвізораў – дваццаць восем, сяброў кааператыву “Фінансіст” – сто сорак сем, ды няхай сабе іх было б у сто, у тысячу, у мільён, у мільярд разоў болей – гэта ўсё адно нешта такое, што паддаецца рэвізіі, а тут адных цароў – незлічона. І столькі ж царэўнаў і царыц, калі нават не ўсе цары маюць дачок і не ўсе жанатыя.

– Каб пазбегнуць небяспекі, трэба на ўсіх планетах стварыць штучныя падземныя сонцы! – крыкнуў нейкі цар злева ад Тодара, і ўсе запляскалі: “Правільна!” – а чырвона-зялёны крануў Тодара за плячо: “Вам слова”.

Тодар павярнуўся, бо стаяў тварам у спіну нейкаму цару ў гэтакай самай, як у Тодара, вельветавай куртцы – і аказаўся тварам у твар з самім сабой: абсалюна гэткім самым Тодарам у такой жа, якую паспеў накінуць, калі выходзіў з лецішча, вельветавай куртцы, і ў такіх жа, якія нацягнуў на скорую руку, вельветавых портках. І далей, за тым тварам, да якога ён павярнуўся, Тодар убачыў гэткі самы твар такога ж самага цара, і за тым царом – зноў гэткага самага ў вельветавых портках і вельветавай куртцы,

і з абодвух бакоў – гэткія самыя, як Тодар, цары, такія ж, як ён, Тодары, якіх была бясконцая колькасць...

Ён не ведаў, што сказаць, але тое, што ён зразумеў, пранізала, працяла яго так, як нічога і ніколі не працінала і не пранізвала. Тут была бясконцая колькасць аднолькава, у вельветавыя курткі і вельветавыя порткі апранутых цароў, а значыць, недзе была бясконцая колькасць цароў, апранутых у замшавыя курткі, і яшчэ бясконцая колькасць цароў, апранутых у курткі скураныя, ці ў вельветавыя курткі і скураныя порткі, і бясконцая колькасць цароў, якіх звалі Тодарамі, і цароў, якіх звалі інакш, таму яны, можа быць, казалі нешта іншае, а Тодар крыкнуў: “Трэба на ўсіх планетах стварыць штучныя падземныя сонцы!” – і калі ўсе запляскалі: “Правільна!” – чырвона-зялёны зноў крануў за плячо: “Можна ляцець назад...”

– Наш лепш за ўсіх выступіў, – сказаў ён бел-чырвонаму, калі спусціліся ў падземны гатэль, дзе Наста з Мальвінай сядзелі сумныя, бо экскурсія ім не спадабалася: колькі ні вадзіў іх бел-чырвоны па падзямеллі, паўсюль былі гэткія самыя гатэлі з гэткімі ж пакоямі. Таму абедзве ўзрадваліся, дазнаўшыся, што могуць вярнуцца дахаты, і спыталі бел-чырвонага з чырвона-зялёным, як Салівея з пекла забраць? Тыя адказалі, што ніяк. Калі б не з пекла, дык яшчэ можна было б падумаць, а з пекла – і думаць няма чаго. Дзе гэта, хто і каго забіраў з пекла? З раю забіралі, нават выганялі, а з пекла – не. Бо якія ж тады мукі вечныя?..

Дазволілі толькі самым блізкім пайсці развітацца. Тодар не збіраўся йсці, бо не самы блізкі, а Наста спытала: “Ты хіба быў у пекле?..” – і яму глянуць захацелася: як яно там? Хоць фанеру Тодар не краў, у міністэрстве фінансаў не было фанеры, але і святым сябе не адчуваў. Аднойчы з адной рэвізоркай на рэвізію ездзіў, так што ці мала што...

Пекла аказалася ў суседнім гатэлі, на якім вісела шыльда: “ПЕКЛА”. Тодар чакаў, што ўбачыць Салівея калі не ў катле са смалой, дык у змрочнай вязніцы з прыладамі для катавання, а Салівей сядзеў на крэсле пасярод покою, сцены якога разам са столлю і падлогай былі тэлевізійнымі экранамі – і на ўсіх экранах, куды б ні павярнуў, ні пахіліў Салівей галаву, паказвалі, як Тодар на лецішчы шашлыкі смажыць. Гэта была няпраўда, ніводнага разу з той пары, як Салівей памёр, шашлыкі Тодар не смажыў, але такую вось прыдумалі для Салівея ў пекле муку вечную.

Скрозь падробкі і фальсіфікацыі. Вось што пагражае існаванню Сусвета.

“Скрозь фальсіфікацыі! Паўсюль падробкі! Вось небяспека, якая пагражае існаванню Сусвета!” – павінен быў сказаць ён на царскай нарадзе, калі б не быў, як усе, царом, і не быў, як усе, Тодарам, які крыкнуў, як усе цары і ўсе Тодары: “Трэба на ўсіх планетах стварыць штучныя сонцы!” А што такое штучнае сонца, як не падробка і не фальсіфікацыя?..

Салівей гэтым разам з кулакамі не кінуўся, але лепш бы кінуўся, чым спытаў Мальвіну, калі ўжо яны з пекла выходзілі: “А ты ведаеш, што твой Тодар з адной рэвізоркай на рэвізію ездзіў?..”

Мальвіна пры бел-чырвоным, які іх у пекла вадзіў, зрабіла выгляд, нібы не пачула нічога, хоць насамрэч пачула ўсё, сама бел-чырвонай стала – і цяпер лепей было б у пекле застацца, чым вяртацца ў рай...

На Зямлю ў талерцы з аўтапілотам іх адправілі адных. Бел-чырвоны з чырвона-зялёным крыкнулі на развітанне “ўра!”, ускінулі ў неба шлемы

– і Тодар убачыў з ілюмінатара, што яны не людзі. Нешта штучнае: адзін чырвона-белы – другі чырвона-зялёны.

Тодар падумаў: "Гэтак і ў нас. Здымі пагоны ці скінь кароны – і што? Нешта белае, нешта чырвонае, нешта зялёнае..."

Наста сказала: "Не дзіва. Як яны могуць быць людзьмі, калі ў іх яйцаў няма?.." І Мальвіна ўсю дарогу пілавала Тодара: "Вось, слухай – і гэта ў чатырнаццаць год!.." Нават пра рэвізорку забылася. Але ўспомніць... Ну, Салівей!..

Калі вярнуліся, Мальвіна з Настай адразу пайшлі клубніцы збіраць, якія падняліся і якіх, як з неба, насыпала столькі, што за ягадамі кустоў відаць не было. Тодар занёс два вядры на рынак, прадаў, купіў мяса, паклікаў, вярнуўшыся, Сурмача з ягоным зяцем і, зірнуўшы ў неба, засмажыў шашлыкі.

## Выгнанне рака

У майго стрыечніка рак знайшлі, а ён, стрыечнік, нібыта вернік, дык кажа: «Мне не страшна паміраць, мяне Бог прыме». Я пытаю: «Ты хоць ведаеш, калі ў Бога прыёмныя дні?» Ён давай хрысціцца. «Не кажы так, бо з мёртвых не ўваскрэснеш». А чаго мне ўваскрасаць, калі я жывы? Памру – пабачым.

Я не прыкідваюся, нібы смерці не баюся. Яшчэ як! І ўжо калі паміраць давядзецца, дык так, каб са мной – усе. Ну, вайна атамная, выбух нейкі на сонцы, ці камета. Тады нармальна. Справядліва. А то я памру, а стрыечнік з ракам жыць будзе.

Стрыечнік кажа, што ён не такі, як я, і яму не хочацца, каб з ягонай смерцю да ўсіх на зямлі смерць прыйшла. Няхай ніхто не памірае, дык тады, можа, і ён не памрэ.

«Як гэта, – пытаю, – няхай ніхто не памірае? Калі б Цімох Цівунчык не памёр, які да таго, як памёрці, брыгадзірам быў, дык як бы ты заняў ягонае месца?» Тут ён не знайшоў, што адказаць, бо калі б Цівунчык не памёр, дык брыгадзірам мой стрыечнік не стаў бы. Ну, ніяк.

Ён таксама паміраць баіцца, толькі храбрыцца. Не баяўся б, дык не трызніў бы ўваскрашэннем. Не маліўся б дваццаць разоў на дзень: «Божа, зратуй! Божа, дапамажы!..» І калі пачуў, што недзе дзед ёсць, які рака выганяе, давай таго дзеда шукаць. Знайшоў і папрасіў мяне падвезці. Бо ў мяне машына, а ў яго няма. Хоць ён кажа: «Я з Богам – і ў мяне ўсё ёсць». Ну як усё ёсць, калі няма машыны? Дзе машына, калі ўсё ёсць?

Той дзед на хутары пад самай Літвой жыве. У такой глухмені, што не дабрацца. Нам дарогу паказваюць, а ў тым баку, куды паказваюць, няма дарогі. Лес. За мяжу па лесе заехалі – во мяжа! – літоўцы кажуць: нічога пра вашага дзеда не ведаем. У нас свой дзед, які рака выганяе. Я пытаю стрыечніка: «Дык, можа, да іхняга дзеда? Які-ніякі, а замежны». «Не, – кажа, – давай да нашага. А то мяжу пераехалі, літоўцы яшчэ арыштуюць». Што яго рак высмакча – яму не страшна, а што літоўцы арыштуюць – баіцца. Дзе логіка?

Арыштуюць – дык жыві ў Літве. Пі ў Вільні піва з ракамі.

Вярнуліся, знайшлі нашага дзеда. Сказалі яму пра літоўскага, ён махнуў рукой: маўляў, махляр. Стрыечнік кажа: «Бачыш. Добра, што вярнуліся».

Што вярнуліся, добра, бо памежнікі прыйшлі: «Вы з Літвы?» «Не, – адказваем, – не з Літвы». «А машына ў бок Літвы ніякая не праязджала?» «Не, – адказваем, – не праязджала». «А з таго боку?» «Не». «Калі раптам праедзе, скажыце». І пайшлі.

Во памежнікі!

Дзед здзівіўся, што мы здзівіліся. «У нас, – сказаў, – здаўна так. Людзі людзям на слова вераць». Я не вытрываў: «Дзед, мы ж толькі што пры табе зманілі! І ты зманіў!» А дзед у адказ: «Чаму зманіў? Я ў Літве не быў».

Да дзеда мы надвячоркам дабраліся, а р*а*ка, ён сказаў, трэба з раніцы выганяць. Бо на ноч рак не выйдзе, чаго яму на ноч выходзіць?

Селі вячэраць. Выпілі гарэлкі, пачалі гаворку. Стрыечніку майму цікава, як дзеда ў такую глушэчу жыццё закінула? Дзед кажа: «Партызаніў тут і застаўся». Я пытаю: «Як ты мог партызаніць? Табе колькі гадоў у вайну было?» А ён: «Я партызаніў пасля вайны». «Як, – пытаю, – пасля вайны? Пасля вайны тут немцаў не было!» А ён: «Дык я не супраць немцаў партызаніў».

Я ледзьве ўцяміў, пра што ён. Як гэта не супраць немцаў? Тады супраць каго? Не супраць жа французаў у 1812-м годзе? Потым дайшло: супраць, значыць, нашых! Лясным братам быў! І адкрыта пра тое кажа! Хаця чаго яму баяцца пры такіх памежніках?..

Тут яны, памежнікі, зноў прыходзяць. Гэтым разам з сабакам. «Вы, – пытаюць, – з Літвы?» «Не, – адказваем, – не з Літвы». «А машына ў бок Літвы ніякая не праязджала?» «Не, – адказваем, – не праязджала». «А з таго боку?» «Не». «Калі раптам праедзе, скажыце». І пайшлі з сабакам.

Вось чаго яны з сабакам прыходзілі?..

Начаваць нас дзед у пуні паклаў. Гонта на даху ў такіх дзірах – усё неба відаць. А ў найбольшай дзірцы над стрыечнікам – якраз сузор'е Рака. Стрыечнік спаць не дае, ляжыць ды ўздыхае. «Чаго ты, – пытаю, – не спіш?» Хоць ведаю, чаго. «Вунь у небе, – уздыхае стрыечнік, – рак, як і ўва мне. А яно ж не паміраe».

Во! Ён хацеў бы, каб разам з ім не толькі зямлі, але й неба не стала! А яшчэ будзе казаць, што ён не такі, як я. Вернік...

Прачнуліся, не спаўшы. Учора тым, што ў нас было, павячэралі, а снедаць дзед не запрашае. «Рак, – кажа, – галодны мусіць быць. Тады лепей выганяецца».

Сталі рака выганяць. За пуняй балея з нейкай зялёнай, смярдзючай вадой на агні ўжо стаяла, дзед напаіў стрыечніка той вадою і кажа: «Залазь. Рак як адчуе, што жыўцом варыцца, так з цябе і вывернецца. Ты толькі трывай, не выскоквай».

Стрыечнік стаў у балеі ракам, дзед загадаў мне дровы падкідваць. Я падкідваю, дзед трымае стрыечніка, каб не выскачыў, ды прыгаворвае:

«Рака выганяю, Цела ачышчаю, Ад хваробы, ад бяды, Да чыстай вады...» – і з галавой стрыечніка ў балею з гэтай «чыстай» вадой! Патрымаў, даў дыхнуць, пасля зноў: «Рака выганяю...» – і зноў з галавой у ваду: бух! Стрыечнік мой чырвоны, як рак, яго той смярдзючай вадой у тую смярдзючую балею ванітуе, а дзед топіць яго раз за разам: «Рака выганяю, Цела ачышчаю...» Я думаю: «Цела, можа, і ачысціць, але душу Богу аддасць...» – і падкідваю дровы, каб хутчэй яно ўсё скончылася, каб стрыечнік, з якога ўжо дух выходзіць, доўга не мучыўся, а тут дзед раптам як закрычыць: «Ёсць! Выгналі! Во ён, гад печаны!..» – і выцягвае рака з балеі.

Штукарства дзедава мяне ўразіла, але ж не настолькі, каб я рака, з якім піва п'юць, прыняў за рака, праз якога паміраюць. «І ты хочаш сказаць, – пытаю дзеда, – што гэты рак з майго стрыечніка – і стрыечнік мой цяпер здаровы і не памрэ?» Дзед галавой круціць: «Не зусім. Каб ён не памёр, трэба рака гэтага пакласці ў труну да нябожчыка. Пажадана свежага, каб не адны косткі. Тады рак зжарэ мёртвага, а стрыечнік твой застанецца жывы».

Стрыечнік мой нарэшце ачомаўся, глядзіць і не ведае, жывы ён ці мёртвы. Чырвань з яго паціху спадае – і яго ўсё болей на зелень б'е. А тут памежнікі зноў прыходзяць: «Вы з Літвы?» «Не, – адказваем, – не з Літвы». «А скуль во гэты зялёны?» Так пытаюць, нібы ў Літве ўсе зялёныя. Дзед кажа: «Ён з балота». Памежнікам і пытаць болей няма пра што. «Можа, сабаку нашаму, – просяць, – што-небудзь дасцё. Следу не чуе галодны».

Я ўзяў і кінуў сабаку рака. Са злосці. Каб дзед нам галаву тым ракам не дурыў. А сабака панюхаў і не стаў есці.

«Бачыце, – забраў рака ў сабакі і аддаў стрыечніку дзед. – Я ж вам казаў: гэта не той рак, якога ядуць, а які сам усіх з'ядае. Так што шукайце свежага нябожчыка».

Ну, калі так... Я адразу пра Цівунчыка падумаў. Пра брыгадзіра. І стрыечнік падумаў пра яго, бо пра каго яшчэ? Хоць ён не надта свежы, але свяжэйшага няма.

– А калі, – спытаў дзед, – ваш брыгадзір памёр? Сорак дзён не прайшло?

Мы палічылі: прайшло. Якраз учора. І дзед рукой махнуў: «Э, не... На саракавы дзень душа адлятае. А без душы раку няма смаку».

Стрыечнік мой яшчэ больш пазелянеў: «Дык што рабіць?..» І тут адзін памежнік кажа: «У літоўцаў сёння ўночы дзед памёр, які рака выганяе. Вам не падыйдзе?»

Во табе маеш!.. Наш дзед проста расквітнеў – такі рады, што ён адзін на ўсё памежжа лекарам, які рака выганяе, застаўся. Кажа: «Яшчэ як падыйдзе! Самае тое!..»

Можа, і самае тое. Але ж гэта літоўскі дзед, і ён у Літве памёр. А памежнікі праз мяжу не пускаюць. Самі ж не пускаюць і самі ж пытаюць, ці замежны дзед нам не падыйдзе?

«А вы...» – пачаў па кішэнях грошы шукаць, каб хабар даць, стрыечнік, і першы памежнік адвёў яго ўбок, а другі, пачакаўшы, спытаў: "Вы ў Літву з ракам?" "З ракам". "Даведка на рака ёсць?" "Якая даведка?" "Медычная. Што не хворы". "Ды ён здаровы!" "А чаму галодны сабака яго не жарэ?" "Сабака, можа, не такі ўжо галодны!" "А рак, можа, не такі ўжо здаровы! Так што чакайце, пакуль не літоўскі, а наш дзед сканае".

Во памежнікі! І хабар узялі – і ў Літву не пусцілі!.. А дзед рукамі развёў: маўляў, што магу – тое магу, але паміраць дзеля вас – выбачайце.

Забралі рака ў балеі, паехалі ў Менск. Вада ў балеі плёхае, выліваецца, рак б'ецца аб бляху галавой. Стрыечнік каля кожнай рачулкі штурхае мяне: «Стой!» Цягне балею ўніз, дабірае вады, цягне ўверх – сам гатовы галавой накласціся, абы рак не здох. Дома пусціў таго рака ў ванну – і стаў чакаць, калі хто-небудзь памрэ.

Тыдзень прамінае, месяц, другі... Ніхто не памірае! Ні на бетонным за-

водзе, дзе мы працуем і дзе стрыечнік брыгадзір, ні ў доме, у якім жывем. Ні радня, ні чужыя. Стрыечнік да ўсіх прыглядаецца, кажа: «Ніколі не падумаў бы, што людзі так доўга жывуць».

Надзею ён на галоўнага бухгалтара меў, які ў гадах быў і ледзь хадзіў. Кадыхаў так, што, здавалася, яшчэ раз кашляне – і сканае. Стрыечнік штодня з раніцы ў бухгалтэрыю: "Як вы, Вадзім Міронавіч, пачуваецеся?.." І пад вечар таксама ў яго клопат пра здароўе бухгалтара. Той кадыхае, жаліцца: "Ой, усё баліць!.." – а паміраць не памірае. Пасля нешта западозрыў, крычаць пачаў: "Што вы да мяне па два разы на дзень ходзіце, нібы чакаеце, калі памру!" Крычыць, задыхаецца, а стрыечнік ходзіць, пытаецца – і ўрэшце давёў: у шпіталь бухгалтара паклалі. Стрыечнік назаўтра да яго з кефірам – яму ж вынік патрэбны. І вынік быў, але не той, які чакаўся: галоўны бухгалтар, каб ніколі болей не чуць і не бачыць стрыечніка, выпісаўся са шпіталю, падаў заяву на пенсію і з'ехаў да дачкі ў Сыктыўкар. А дырэктар завода прэмію стрыечніку выпісаў. З радасці, бо толькі пра тое і марыў, каб ад старога галоўнага бухгалтара пазбавіцца і маладую галоўную бухгалтарку ўзяць.

Чыёсьці гора – нечая радасць. Стрыечнік прэмію атрымаў і кажа: "Во, грошы на бензін ёсць, паехалі ў Сыктыўкар".

Чаму не з'ездзіць, калі на бензін грошы ёсць? Тым больш, што Сыктыўкар хоць і далёка, але не ў Літве, і мяжа хоць і ёсць, але ўмоўная.

Узялі рака, які ледзьве ў балею ўлез, так стрыечнік яго адкарміў, і паехалі. Вада ў балеі плёхае, вылiваецца, рак б'ецца аб бляху галавой. Стрыечнік каля кожнай рачулкі штурхае мяне: «Стой!» Цягне балею ўніз, дабірае вады, цягне ўверх – сам гатовы галавой накласціся, абы рак не здох. Я думаю: «Гэта ж колькі мы так ехаць будзем да таго Сыктыўкара? Ракі колькі жывуць?..»

Даехалі да ўмоўнай мяжы за Воршай, а на той умоўнай мяжы – памежнікі з сабакам. Самае цікавае, што яны расійскія, але тыя самыя, што і на літоўскай мяжы. "Вы, – пытаюць, – у Літву праз Расію?" "Не, у Сыктыўкар". "З ракам?" "З ракам". "А даведка на рака ёсць?" "Якая даведка?" "Медычная. Што не хворы". І глядзяць на стрыечніка, а той не спяшае хабар даваць. Навучаны. Толькі размову падтрымлівае: "Ды які хворы? Паглядзіце, які здаровы!" "Вось зараз і паглядзім. Калі сабака не стане есці, дык хворы". І вывернулі рака з балеі. Сабака перапудзіўся, такое страшыдла ўбачыўшы, адскочыў і здаля гаўкае. "Бачыце, – кажуць памежнікі. – З таго часу галадае, як мы на літоўскай мяжы сустрэліся, а не есць. Так што не можам прапусціць." "А каб з'еў, дык прапусцілі б?" "Прапусцілі б". "Каго? З'едзенага рака?.."

Во памежнікі!..

Налілі вады ў балею, павярнулі назад. Вада ў балеі плёхае, вылiваецца, рак б'ецца аб бляху галавой. Стрыечнік кажа: «Гэта ж колькі б мы так ехалі да таго Сыктыўкара! Ракі столькі не жывуць...»

Пакуль туды, пакуль сюды – ноч праездзілі. Пад'ехалі да завода пад раніцу – усе якраз на працу йдуць, і новая галоўная бухгалтарка з усімі. Маладая, але такая худая, нават не худая, а высахлая і, як смерць, белая – ледзьве цягнецца. Стрыечнік паглядзеў на яе і кажа: "Добра, што вярнуліся".

Што вярнуліся, добра: дырэктар памёр. Застаўся ў кабінеце пасля працы з новай галоўнай бухгалтаркай – і вынеслі з кабінета. Ніхто падумаць не

мог – такі здаровы быў. А як касой скасіла. Нездарма тая бухгалтарка, як смерць, белая была.

А стрыечнік жыве. Да бухгалтаркі штодня заходзіць: “Як вы, Нэла Нічыпараўна, пачуваецеся?..” Вось чаго яму хадзіць да яе, калі рака з яго выгналі і з дырэктарам пахавалі?..

*Чэрвень 2012 г., Мінск*

## Тайшэт

Пра Тайшэт я ўпершыню пачуў з песні. “От Тайшета к Абакану не кончаются туманы, по туманам до Тайшета тянем мы дорогу эту”. Там яшчэ было нешта незразумелае: “Мы не турки и не янки, просто каски белые...” – але гэта, мусібыць, не мела адносінаў да трасы мужнасці, як называлі дарогу праз Краснаярскі край, бо што ў Краснаярскім краі рабіць янкам з туркамі?

Было гэта ў пачатку 60-х гадоў XX стагоддзя, калі я вучыўся ў электратэхнікуме сувязі. Дарога прагрызалася скрозь Саяны салдацікамі будбатаў ды зэкамі, але яе абвясцілі камсамольскай будоўляй – і я паехаў бы “за туманом, за мечтами и за запахом тайги”, як спявалася яшчэ ў адной песні пра сібірскую рамантыку, калі б не марыў стаць касманаўтам. Прычым, не другім, трэцім ці пятым – першым. Чытаючы часопіс “Навука і тэхніка”, прыкідваў час, калі яно можа стацца. Выходзіла: якраз тады, калі я для гэтага саспею.

Нечаканы прагрэс савецкай навукі і тэхнікі пахаваў маю мару. Навука і тэхніка для першага палёта чалавека ў космас саспелі раней, чым я.

Скончыўшы элетратэхнікум сувязі, я стаў электрамеханікам з дыпломам № 613762-Н і апынуўся хоць і не так высока, як у космасе, але гэтак жа далёка: у Тайшэце. Таёжным пасёлку былых зэкаў. Яны адбылі сваё ў тайшэцкім лагеры і засталіся пад той жа калючадрацяной сцяной – толькі з другога боку. Камусьці ехаць не было куды, а хтосьці проста не хацеў нікуды ехаць. Хоць і была дарога на Абакан.

Адным з іх і быў Антон Вуха – менавіта такое мёў ён прозвішча. Казаў мне: “Я беларус, як і ты, і прозвішча меў, як і бацька мой, Вуха, але запісалі ў савецкім сельсавеце *Вухаў,* а тут, у лагеры, калі адкідваўся, намалявалі на ксіве *Вуха*. П’яны начальнік не дапісаў адной літары – і стала так, як раней было. Я хацеў, калі ўбачыў, што апошняй літары няма, сам дапісаць, ці пайсці ў лагер, каб перарабілі, а пасля падумаў: нафіга? Гэта ж мне падфарціла. Не стала зэка Антона Вухава, а з’явіўся ні ў чым не вінаваты грамадзянін Антон Вуха, перад якім адкрытыя ўсе выпадковыя шляхі”.

Адкінуўся Вуха, што значыць вызваліўся, за сем гадоў да таго, як я з’явіўся ў Тайшэце, і сустрэліся мы ў электрамеханічнай майстэрні тайшэцкага прарабскага ўчастка ўладзівастоцкага ўпраўлення “Дальсувязь”, дзё ён, працуючы токарам, лічыўся электрыкам, а мяне над ім паставілі начальнікам, бо я – з дыпломам №613762-Н, а ён – і без дыплома, і без нумара. Мне было дваццаць гадоў, яму сорак сем, траціну з якіх ён адсядзеў. Начальнікаў ён наглядзеўся ўсялякіх, таму зусім не здзівіўся, калі ўбачыў яшчэ й такога, як я.

Нашая электрамеханічная майстэрня, закіданая дратамі, жалеззем,

застаўленая скрынямі, поўнымі нечым такім, чаго ніхто ніколі з тых скрыняў не браў, была ў самым канцы барака, які называўся прарабскім, і мела двое дзвярэй: у барак і на вуліцу. З усяго электрамеханічнага быў у ёй адзін такарны станок вытворчасці нямецкай фірмы Hermann Lembke, які з падвіскам і падсвістам, калі яго ўключалі, граў нешта падобнае да нямецкіх маршаў, спяваў нямецкія песні і хадзіў ходарам.

У першы ж дзень Антон Вуха, зірнуўшы спачатку на вуліцу, а пасля ў барак, замкнуў па абедзе і адны, і другія дзверы, паставіў на чорны ад тавоту стол пляшку гарэлкі, празванай у народзе "сучком", і прапанаваў:

– Пачнем з экскурсіі, начальнік?

Пакуль я намагаўся ўявіць, якая ў гэтым закутку барака, завэдзганым салідолам і заваленым жалезным смеццем, можа быць экскурсія, мой падначалены ўзяў ломік замест указкі і, як настаўнік, падышоў да станка.

– Вось глядзі, Вова. Гэта нямецкі такарна-вінтарэзны станок. Прадуманы і змайстраваны немцамі так, каб ён тачыў і рэзаў. І ўсё ў нямецкім станку нямецкае. Пярэдняя бабка, супарт, задняя бабка, кораб падач, фартук, ходавы валік, ходавы вінт... А во гэта, Вова, што такое? А гэта, Вова, наш шпіндзель у дупу немцам! Каб станок глыбей тачыў і хутчэй рэзаў! Нямецкі шпіндзель на нямецкім станку нашым рацыяналізатарам і вынаходнікам ну ніяк не падыходзіў. Прысабачылі свой – станок глыбей не точыць і хутчэй не рэжа. Маршы грае, спявае і ходарам ходзіць. Такарны станок стаў музыкальным аўтаматам. Рацыяналізатары з вынаходнікамі рэпы пачасалі – нічога не вычасалі. Нямецкі шпіндзель нехта спіз..., ну й плюнулі: грай сабе і спявай сабе, нямецкая морда!.. – адкінуў Вуха ломік і ўключыў станок. – Вось пад гэтую музыку мы і вып'ем.

Станок гыркнуў, як машына пад гару, торгнуўся і, здалося, напружыўшы ўсё нутро, закруціўся, зайграў і заспяваў.

– Давай адсвяткуем, Вова, нашую сустрэчу ў гэтым свеце выпадковых шляхоў, – пад музыку вярнуўся да стала Вуха. – Шляхі нашыя маглі й разыйсціся, але не разыйшліся, і мы з табой не фраеры, каб за гэта не выпіць. Згодны?

Гарэлкі ў маладыя гады я не піў, але адмовіцца ад прапановы не выпадала, бо хто яго ведае, што мяне чакае ў гэтай холадна-няўтульнай электрамеханічнай майстэрні ў кампаніі з былым зэкам з ломікам, пра якога прараб сказаў: "Ён увогуле... Але ты не бойся, мы цябе, калі што..." Таму я паківаў хуценька: маўляў, так, маглі і не спаткацца, падумаўшы: "Лепш бы і не спаткаліся..." – на што Вуха, зірнуўшы на мяне, сказаў нечакана: "А во тут, Вова, не твая праўда". Я так здзівіўся, што рот разявіў, падумаўшы: "Ён думкі чытае!" – але аказалася, што не, бо Вуха працягнуў: "Мы с табой не балванчыкі кітайскія, кабківаць, а нармальныя людзі, каб размаўляць. Згодны?"

Я адразу згадзіўся.

Задаволены, ён дастаў дзве малянкоўскія шклянкі з шуфляды стала.

– Во гэта, Вова, – паставіў ён шклянкі, дзьмухнуўшы ў іх, на стол, – для нашага працэсу вытворчасці выпіўкі. Во гэта, – выцягнуў Вуха з кішэні фуфайкі дзве лусты намазанага маргарынам і загорнутага ў газету, хлеба, – для працэсу вытворчасці закускі. А вунь тое, – кіўнуў ён на такарны станок, які так раскачагарыўся, што граў, нібы сімфанічны аркестр, – для вытворчасці шуму. – І падняў палец угару. – Самай важнай у нас сферы вытворчасці. Станок шуміць, значыць, мы працуем. І нікому ў галаву не

ўзбрыдзе, што ён проста пяе. Таму вып'ем, Вова, за навуку і тэхніку. За навукова-тэхнічны прагрэс, які пачаўся ў XIX стагоддзі з індустрыяльнай рэвалюцыі ў Англіі.

Вуха напоўніў шклянкі, у якія ўвайшла роўненька бутэлька, падняў сваю: "Ну..." – і я папрасіўся, бо баяўся памерці:

– Можна я не адразу?..

Ён плячом пацепнуў.

– А хто сказаў, што адразу? Я казаў?

Ён не казаў.

– Не.

– Дык чаго ты пытаешся? Думаеш, калі зэк і ў тайзе... У тайзе цяпер, Вова, самыя культурныя людзі. Раней былі ў Хоцімску, я з Хоцімску сам, а цяпер у тайзе. Давай, як хочаш і як можаш!

Я адпіў глыток. Вуха, п'ючы доўга, нават не п'ючы, а цэдзячы, выпіў шклянку да дна. Я ўявіў, што там зараз ад "сучка" робіцца з ягонымі кішкамі, а ён сказаў, нос даланёй падцёршы і хлеб панюхаўшы: "Што згарыць, тое не згніе".

Усё ж ён, мусібыць, чытае думкі. Можа, і сам пра тое не ведаючы. У турме ў многіх людзей незвычайныя здольнасці выяўляюцца.

– Вось ты малады будаўнік камунізму, – запаліўшы "памірыну", цыгарку з назваю гор, па якіх я мог хадзіць, калі б стаў геолагам, пачаў застольную гаворку Вуха. – А як мы будуем камунізм? Немцы нам яшчэ ў 19 стагоддзі, калі ў Англіі адбылася індустрыяльная рэвалюцыя, распісалі, як будаваць. Але што нам немцы! І мы ў нямецкі станок камунізму – свой шпіндзель! І што выйшла? Выйшла вытворчасць шуму пра камунізм. Во, – падсунуў ён да мяне лусту, намазаную маргарынам. – Усё, што з шуму маем.

У Тайшэце насамрэч ва ўсіх крамах прадавалася толькі гарэлка "сучок", хлеб ды маргарын і больш нічога, але гэта не азначала, што можна ўлазіць у небяспечныя дыскусіі, і я раскрыў рот, каб сказаць, што я не будаўнік камунізму, а, як і ён, будаўнік тайшэцкай тэлефоннай станцыі, але Вуха апярэдзіў мяне:

– А што па-твойму, Вова, будуючы камунізм, найлепей рабіць? Ці што найлепей рабіць, не будуючы камунізм? Увогуле?

Пытанне было сур'ёзным. Як для мяне. Я не надта хацеў паступаць у тэхнікум, які скончыў, і цяпер не разумеў: для чаго скончыў яго? Каб сядзець у Тайшэце з былым зэкам і разважаць, для чаго я скончыў тэхнікум?

Што б мне ў жыцці хацелася рабіць? Найперш стаць першым касманаўтам – і я стаяў і плакаў на школьнай лінейцы, калі дырэктар школы, захлёбваючыся ў захапленні слінямі, крычаў: "Та-ва-ры-шы! Першы чалавек у космасе савецкі чалавек! Ура! Гагарын! Ура! Слава КПСС!.."

Пасля я марыў стаць астраномам, каб адкрыць новую зорку і назваць яе Анін. Што значыць Ніна, калі чытаць наадварот. Нінка Шыдлоўская, у якую я быў закаханы ў сёмым класе, пра тое, што я хацеў назваць яе іменем зорку, не ведала – і стала хадзіць на танцы ў парку з Блізнюком. Я вырашыў набіць Блізнюку пысу, пасля танцаў кінуўся на яго, а ён мне так бэцнуў, што я ледзь падняўся – і захацеў стаць баксёрам.

З каханнем мне не шчасціла. Праз яго не паступіў я ў геолагаразведачны тэхнікум, калі захацеў стаць геолагам. Не так нават геолагам, як вандроўнікам, каб хадзіць па гарах, ставіць начныя намёты з вогнішча-

мі, сядзець каля агню, глядзець, як рояцца, знікаючы ў цемры, іскры і спяваць пад гітару: “А путь и далёк и долог, и нельзя повернуть назад. Держись, геолог, крепись, геолог, ты солнцу и ветру брат”. І мне давялося “держаться и крепиться”, калі старэйшыя за мяне хлопцы, з якімі, паступаючы ў геолагаразведачны тэхнікум, жыў я ў інтэрнаце, закручвалі мяне ў коўдру і білі кедамі. Я закахаўся ў Марыйку, бялявую ўкраінку, якая таксама захацела стаць геолагам. У каханні займеў суперніка: хлопца, які ўжо адслужыў у Савецкай арміі і ведаў, як біць, каб не заставалася слядоў. Я трываў датуль, пакуль не кашлянуў аднойчы ў ракавіну, мыючыся нараніцы, і не ўбачыў кроў.

Пра ўсё гэта я й распавёў Вуху, які пратупаў да такарнага станка, што спяваў нямецкія песні, каб праараб думаў, што мы будуем камунізм, намацаў пад сцяной за станком яшчэ адну пляшку “сучка”, адкаркаваў яе, гэтак кулаком ударыўшы ў дно пляшкі, што з яе зляцела “безказырка”, бляшаны корачак без язычка, наліў да краю: “Мякіна у тваёй галаве. Вып’ем, каб развеялася...” І калі выпілі, сказаў, зноў нос даланёй падцёршы і хлеб панюхаўшы: “Запомні: лепш за усё ў гэтым жыцці не рабіць ні-хрэ-на!”

Я хацеў спытаць: “Не рабіць ніхрэна, каб у Тайшэце выпіць не было чаго, апроч “сучка”, і не было чым закусіць, апроч хлеба з маргарынам?” – але не спытаў.

– Не рабіць ніхрэна, – удакладніў Атон Вуха, – каб ніхрэна не рабіць. Без аніякай мэты. – І нахіліўся да мяне. – Ты ж марыш пра шчасце? Думаеш, спрабуеш уявіць: якое там яно? Дык вось яно такое.

Я не зразумеў:

– Якое?

– Ды вось такое! – адхіснуўшыся, раскінуў ён рукі на ўсю электрамеханічную майстэрню з пявучым нямецкім станком. – Як у нас з табой... Шчасце, Вова, тады, калі ты пра яго не думаеш і не марыш. Вось ты зараз думаеш пра яго? Марыш?

Ніякіх думак пра шчасце ў маёй галаве, якая ўсё мацней шумела “сучком” і падпявала нямецкаму станку, не было.

– Не.

– А чаму?

– Не ведаю. Не думаю і ўсё.

– А ты падумай.

Я паспрабаваў падумаць – нічога не думалася. Шумела і спявалася.

– Ну, паспрабаваў?

– Паспрабаваў. Не думаецца ні пра што.

– Вось! – задаволена паклаў Антон мне руку на плячо. – Ні пра што не думаецца, бо ўсё ёсць! А калі ўсё ёсць, гэта шчасце.

Я падумаў, што, магчыма, яно і так, але што ў нас ёсць? “Сучок”, станок і хлеб з маргарынам? І спытаў:

– А што ў нас ёсць?

– “Сучок”, – наліў паўшклянкі Вуха. – Пявучы станок, хлеб з маргарынам... А галоўнае, у нас ёсць мы з табой. Хоць гэта ты разумееш?

Ён задурваў мне галаву, як той камсорг у тэхнікуме, які агітаваў мяне ўступіць у камсамол і паехаць будаваць дарогу Абакан-Тэйшэт. Мяне агітаваў, а сам не ехаў. І я сказаў:

– У мяне мяне няма.

Тут ужо Вуха не зразумеў нечага. Адставіў шклянку.

– Як гэта?

– Так... Не адчуваю... Вось я ёсць, а мяне ўва мне няма.

Вуха задумаўся. Сказаў, падумаўшы:

– Бачыш, якія ў табе мухі. Гэта ад "сучка". Я калі ўпершыню выпіў, дык наадварот стаў як бы не адзін. Мяне ўва мне стала некалькі. Можа, пяць, не помню. "Сучок", бачыш, па-рознаму сваё бярэ. Ну, давай, каб цябе болей стала, а мяне меней.

Выпілі.

– І адзін з іх... – працягнуў без паўзы, не занюхаўшы і не закусіўшы, Вуха, – ну, адзін з тых пяцёх, пайшоў і стукнуў па галаве касірку ў ашчаднай касе, калі "сучок" скончыўся. Чатыром астатнім "сучка" хапіла, а яму, пятаму, не. Касірка слабай на галаву выйшла, не выжыла. Рабаўніцтва плюс забойства – вышка. Маглі б мы з табой і не сустрэцца ў гэтым свеце выпадковых шляхоў. Але сустрэліся. Хіба не шчасце? Ты чаго?..

Я ўпершыню піў "сучок" – і ўпершыню быў побач з чалавекам, які некага забіў. Таму адсунуўся, калі Вуха зноў паспрабаваў пакласці мне на плячо руку.

– Баішся, што цябе заб'ю? Не бойся... Таго пятага, які забіў, болей няма. Расстралялі.

Ён памаўчаў.

– Не верыш? Расстралялі, я сваімі вачамі бачыў. Быў пры расстрэле. Паставілі на беразе Бірусы, на абрыве – і шпок! Ён бульк – і паплыў... Рыбы ўжо з'елі, тут шмат рыбаў... І што не спадабалася мне? Не тое, што расстралялі – расстралялі правільна. А тое не спадабалася, што ён, той пяты, думаў: "Няправільна вы мяне расстрэльваеце!"

Я глядзеў на Вуха і разумеў, што ён не пра некага, пра сябе кажа, што гэта яго, пятага, расстралялі, але не мог зразумець, як ён гэта ўяўляе: стаіць на беразе Бірусы трэцім ці чацвёртым і назірае, як яго, пятага, расстрэльваюць?

Ён убачыў, што ўва мне ўзнікла нейкае неразуменне, але не спыніўся, не спытаў: "Што?" Казаў далей так, нібы мы штодня з ім пра гэта гаварылі і ніяк дагаварыць не маглі, дык вось нарэшце...

– Ён бабу забіў, у якой без мужыка трое дзяцей, дзве дзяўчынкі трох і пяці гадоў, хлопчыку годзік, а думае, што яго расстрэльваюць няправільна... Адкуль, думаю, такі ўва мне ўзяўся? А пасля ўспомніў... Я, калі малы быў, меншы за цябе, у лесе заблукаў. У такім самым, як тутэйшая тайга, якая той жа лес, толькі тайгой называецца. Да ночы праблукаў. А ноч цёмная, кроку не ступіш, каб вока не выкалаць. Сеў пад ялінай з каменем у руках, а тут нехта каля ног па ігліцы: шу-шу-шу. Змяя, ці хто? Спудзіўся так, што ледзь сэрца не стала – і каменем наўслеп! Не кінуў, ударыў. З усёй сілы, здаровы такі камень. Руку ўсю скалоў. Падумаў: аб асцё нейкае. А ледзь развіднела: вожык. Вожыха. Побач нара і ў ёй важаняты. Трое. Не ведаю, хлопчыкі ці дзяўчынкі. А рука ў мяне распухла, торгае, баліць, дык я са злосці важанят таксама. Тым жа каменем. Каб не шушукалі.

Запаліўшы, Вуха спытаў:

– Табе гэта цікава? Калі не, дык скажы: я што-небудзь цікавейшае ўспомню. Я шмат чаго ў жыцці нарабіў цікавага... У хату той касіркі, калі яшчэ мяне не знайшлі і не пасадзілі, схадзіў. Там старая нейкая і дзеці, як важаняты. Худыя. Костачкі – як калючкі тырчаць. Усе ў брудзе, у слінях, у смаркачах, у лайне... Думаю: як яны жыць будуць? Старая

памірае, вось-вось памрэ, тады адна дарога ім – у дом сірацінцаў, дзе здзекі, здзекі, здзекі, я ведаю, сам сірацінец. Гэта не жыццё. Не жыццё гэта. Выйшаў і падпаліў хату, дзверы зачыніўшы... Калі мяне ўзялі, хату на сябе я не ўзяў. Касірку ўзяў, бо там было не выкруціцца, а хату – не. У мяне Тайка была такая, сказала, што я ў той дзень у яе начаваў. І брат яе, якому я праставіў, сказаў, нібы мяне ў сястры бачыў. За "сучок" засведчыў, сука, што я не спальваў спаленых дзяцей.

У галаве маёй шум сціх – раптам стала ціха і вусцішна. Толькі немец Hermann Lembke спяваў сваю нямецкую песню.

– Не змаглі яны павесіць на мяне хату. Але ўсё адно вышку далі. Суддзёй баба была. А тут вайна. Я рагамі ў сцены: на фронт! Што толку, што мяне стрэльнуць? А на фронце, калі заб'юць, дык з толкам. І ведаеш: нікога не забіў. За ўсю вайну нікога. Ну, можа, у каго й патрапіў, як у тую вожыху каменем, наўздагад страляючы, але вось так, каб як тую касірку забіць, не. Дзіўна, праўда?.. А што яшчэ дзіўней: на вайне я, пад канец ужо, у разведцы быў. Языка ўзяў, калі наступалі. І ўгадай, Вова, якое ў таго языка, у оберста прозвішча было?.. – Вуха падхапіўся і скочыў да станка. – З трох разоў, ну?..

Я адказаў адразу, бо тут або так, або ніяк:

– Герман Лембкэ.

Такога Вуха, мусіць, не чакаў – і паглядзеў на мяне з павагай.

– Герман! – стукнуў ён па станіне. – Лембкэ. – І вярнуўся да стала. – Пасля вайны мяне зноў пасадзілі. Каб дасядзеў, што засталося. Гады вайны залічылі, як гады турмы. Я спачатку ўскрыўдаваў: нават у гарачым цэху год за два йдзе, а тут – вайна. Пасля падумаў: справядліва. Я ж не забіў на вайне нікога. Адсядзеў, узялі сюды токарам, я да вайны такарыў, а тут – Герман Лембкэ! Га?.. А ты кажаш: няма шчасця ў жыцці!

Пра тое, што ў жыцці шчасця няма, я не казаў яму. І не разумеў, якое шчасце ў тым, што на такарным станку – імя палоннага оберста?..

Шчасце ў мяне было, пакуль я ў электрамеханічнай майстэрні тайшэцкага прарабскага ўчастка ўладзівастоцкага ўпраўлення "Дальсувязь" не спаткаўся з Антонам Вухам, былым зэкам, забойцам, які, падобна, і мяне заб'е, калі так адкрыта пра камунізм кажа і ва ўсім прызнаецца. Я недзе чытаў падобнае: забойца выгаварыўся перад жанчынай на чыгуначнай станцыі, каб на душы лягчэй стала – і скінуў яе з платформы пад цягнік. І жанчыну, і душу.

У сцяну з боку прарабскага барака пагрукалі:

– Вуха!..

Вуха падняўся, грукнуў у адказ і зноў сеў.

– Хочуць, каб мы станок выключылі. Хрэна. Мы з Германам Лембкэ працуем, камунізм будуем! Каму з намі не па дарозе, разыйдземся выпадковымі шляхамі! Праўда?.. – І крыкнуў у бок сцяны. – Зараз!..

Дапіўшы шклянку і заспяваўшы разам з узятым ім у палон немцам Германам Лембкэ:

Мы не турки, мы не янки,
Просто каски белые,
По горам идем Саянским
И дорогу делаем...

– ён падняўся, выключыў станок, адамкнуў дзверы на вуліцу і, грукнуўшы імі так, што ледзь не перавярнуў вядро з газай, у якой адмывалі мы рукі ад тавоту і машыннага масла, выйшаў з барака.

Я сядзеў агаломшаны...

Толькі што чалавек, з якім я выпіваў і закусваў, прызнаўся мне, што жыўцом спаліў трох дзяцей, забіўшы перад тым іх маці. Ды яшчэ бабулю спаліў разам з імі... Дзеля чаго? Не дзеля чаго спаліў – дзеля чаго прызнаўся? І што мне цяпер з ягоным прызнаннем рабіць?..

– Вуха! – зноў грымнулі ў сцяну, хоць Hermann Lembke не граў і не спяваў. – Табе прэмія з граматай! Хадзі грамату вазьмі! А прэмія заўтра! Касіркі няма!..

Дрыжыкі, што пачаліся ў пальцах, падняліся па руках вышэй: задрыжэлі локці, плечы – і дрыготка ўскалаціла цела. Я нагбом, абліваючыся, выпіў "сучок" – амаль поўную шклянку. На стале Вуха пакінуў размятую "памірыну", я ўзяў яе і запаліў. Паліў і тупа глядзеў у сцяну, за якой Вуху чакалі грамата і прэмія...

Што я раблю ў электрамеханічнай майстэрні тайшэцкага прарабскага ўчастка ўладзівастоцкага ўпраўлення "Дальсувязь"? Га, герр оберст Герман Лембкэ?.. У бараку, які стаіць пад агароджай тайшэцкага лагера?.. Што тут мяне чакае?.. Што чакае мяне ў гэтым жыцці выпадковых шляхоў?.. Чаму мае шляхі выпадковыя?.. Абакан... Тайшэт...

Недапалак пачаў прыпякаць пальцы, я пстрыкнуў ім у лоб Hermann'a Lembke, пацэліў у шпіндзель, стукнуўшыся ў які, недапалак, як той касцёр, каля якога я марыў спяваць песні, сыпануў іскрамі. Я паспрабаваў падняцца, каб прытаптаць недапалак, але ўпаў на стол у іскры галавой – і, як першы касманаўт, паляцеў да зорак...

Вярнуўся з космасу на снезе каля Бірусы. Недалёка ад прарабскага барака, які датляваў галавешкамі. Прараб бегаў па папялішчы, лаяўся.

Каля папялішча сядзелі на скрынях два аўтаматчыкі з аховы лагера. Мяне сцяла: "Пасадзяць! І жыць мне спачатку з таго, а пасля з гэтага боку калючадрацяной сцяны! Згарэў бы лепей – хто мяне выцягнуў?!."

Ад рэчкі, выціраючы мокры твар мокрымі рукамі, падышоў Антон Вуха. Нахіліўся: "Во якія, Вова, выпадковыя шляхі... Ты маўчы, я вазьму на сябе спаленую хату".

З ягонага твару на мой крапала халодная вада...

На следстве, а потым на судзе ён сказаў, што перад тым, як выйсці з майстэрні па грамату, паліў і кінуў недапалак каля вядра з керасінам. І спаліў трох дзяцей. Суддзя спытаў: "Якіх дзяцей?.." Вуха паглядзеў на мяне – я маўчаў. Таксама памаўчаўшы, Вуха адказаў: "Ніякіх. Гэта я так, выпадкова..." І як пасля ні чапляліся да яго суддзя і пракурор, казаў і казаў у адказ пра адно: пра выпадковасць шляхоў чалавечых у гэтым свеце.

*28.09 – 5.10.2012*

## Змены сувязяў

– Я магу сказаць, што я пра вас думаю. Я не думаю пра вас нічога!

Гэта няпраўда. Ён пра мяне думае. Хутчэй за ўсё, думае нешта кепскае, таму кажа, што не думае нічога.

– Вы дарма ў гэта ўлезлі. Яно не магло ў вас выйсці, бо яно не ваша.

Бадай, так. А кажа, што нічога не думае.

– А вы ніколі нічым не сваім не займаліся, доктар?

Ён маўчыць, унурыўшыўся ў сваё, з чаго вынікае, што нічым не сваім ён не займаўся ніколі.

– І не змушалі вас?..

Маўчыць.

Што ж, сапраўды яно не магло ў мяне выйсці, бо яно не маё. Тое, што не тваё, выйсці ў цябе не можа. Гэта зразумела кожнаму ад пачатку. Але ад пачатку зразумела кожнаму і многае іншае. Напрыклад, тое, што ён памрэ, і ёсць, хоць і няпэўная, верагоднасць, што паўстане па смерці перад Боскім судом. І што? Кожны баіцца суда? Ды кожны мяркуе, што ўсе сканаюць, а ён – не. Невядома як, але пазбегне смерці. Можа, праз дасягненні медыцыны.

Доктар, ці чалавек, якога лічу я доктарам, бо ён змушае мяне глытаць пігулкі, кажа:

– Гэта вам не дапаможа.

Ён не мае на ўвазе медыцыну. Хоць, можа быць, і мае, мы якраз пра яе гаварылі. Я стараюся не маўчаць, гаварыць і гаварыць з ім, каб ён услухаўся, угледзеўся ў мяне. Усвядоміў, хто я такі, і паспрыяў, каб з мяне знялі кайданкі, якімі я прышпілены да ложка.

– Трывайце.

Я трываю... Хачу толькі, каб ён зразумеў, што нельга з чалавекам, які не доктар, але пра тое, як ствараюць свае ланцужкі і ўзаемадзейнічаюць нейроны, ведае не менш за доктара, гэтак абыходзіцца.

– Я не магу спыніць актыўныя допыты.

Добра, няхай актыўныя допыты, як называюць тут катаванні, спыніць ён не можа, але ж ён доктар, ён даваў клятву Гіпакрата і абавязаны ў любым выпадку быць на маім баку. Угаварыць, упрасіць, каб з мяне знялі кайданкі, адшпілілі ад ложка, дазволілі зрабіць хоць некалькі крокаў ад сцяны да сцяны. Але ён нікога не ўгаворвае і не просіць ні аб чым нікога.

– Гэта не ў маёй кампетэнцыі.

У ягонай кампетэнцыі націскаць чырвоную кнопку над сталом – і, як толькі ён тую кнопку націскае, з’яўляецца худая, са шнарам над левым брывом медсястра. Яна моўчкі набірае ў шпрыц нейкай мярзоціны, якую падае ёй доктар, ці чалавек, якога лічу я доктарам, бо ён у белым халаце, і ён назірае, як медсястра робіць ін’екцыю, пасля якой пачынаюцца такія спазмы, што я страчваю ад болю прытомнасць. Калі ачомваюся, мне спачатку выварочвае вантробы, а пасля перакручвае свядомасць: я раблюся як бы не я – і той, хто не я, нагаворвае на таго, хто я, што заўгодна. Ужо столькі я ўсяго на сябе самога нагаварыў, а ім усё мала, мала, мала, яны мяне катуюць, катуюць, катуюць – і ў іх прэтэнзіі да доктара:

– Вы змяншаеце дозы, доктар!.. Ці ён прывыкае?

Доктар дозы не змяншае, і я не прывыкаю. Да гэтага нельга прывыкнуць. Проста я не разумею, чаго яны хочуць ад мяне, і, падобна, яны ўжо самі не разумеюць гэтага.

І доктар не разумее.

– Чаго вы ўпіраецеся? Выгадная ўмова...

– Якая выгадная?

– Жыццё. Інакш вы сканаць можаце. Для актыўных допытаў вашае здароўе...

Ён пакручвае пальцамі так, што маё здароўе не выглядае прыдатным для актыўных допытаў.

Жыццё сапраўды някепская ўмова. Але чаму яе прапануюць мне яны? Хто яны такія?

– Хто яны такія, – пытаю я доктара, – каб прапаноўваць мне тое, што ўжо без іх даў Бог?

Доктар моршчыцца, ён кожны раз моршчыцца, калі я згадваю Бога. Потым дае мне пігулкі, якія заўсёды дае за паўгадзіны перад кожнай ін'екцыяй, і кажа паблажліва:

– Яны ўлада, якая ад Бога. Значыць, могуць прапанаваць тое самае.

Праз паўгадзіны – чарговы ўкол і допыт. Яны мне па гадзінах, па хвілінах распісалі актыўныя допыты – і самае страшнае: глядзець на гадзіннік, які вісіць над сталом, дзе чырвоная кнопка, і чакаць.

– Гэта мана.

Ён дастае з маленькай лядоўні, з нутра якой даносіцца нечакана моцны для такой малечы гуд, ампулу з мярзоцінай.

– Што мана?

– Што ўлада ад Бога. У аўтэнтычным тэксце Святога пісання сказана: «Усялякая ўлада пад Богам». Гэта ўжо пры перакладзе пап*ы* прыдумалі для цароў, што ўсялякая ўлада ад Яго, а не пад Ім.

Доктар трохі думае пра нешта, потым кажа:

– Па-мойму, там усё ж сказана, што ўлада ад Бога, але гэта не важна. Бог да чалавека як да чалавека ўвогуле адносін не мае. Бо чалавек не чалавек.

Я не разумею: пра што ён?

– А хто?

– Жывёліна. У найпростым сэнсе. І пачакайце пярэчыць!.. Усё вызначаецца механізмамі ўзнаўлення, стварэння сабе падобных. Якія яны ў вас? Гэткія ж самыя, як у любой і кожнай жывёліны. Тады хто вы?..

– А вы?

– А калі вы не чалавек, – працягвае, як не пачуўшы мяне, доктар, – дык і Бог для вас не Бог. І для іх, – ківае ён на дзверы, за якімі ў чорнай форме і чорных масках стаяць вартавыя. – Так што вы дарма з імі пра Боскі суд. Сорам, сумленне... Ваўку не сорамна зайца зжэрці.

Доктар, вядома, не жывёліна, не з ягонай фанабэрыяй жывёлінай сябе лічыць. Нешта ў ягоным жыцці не склалася, інакш не быў бы ён тут і не займаўся б тым, чым займаецца, праз што стаў звычайным чалавеканенавіснікам. Але быць проста мізантропам надта банальна, таму ён выдае сябе яшчэ й за цыніка. Філасофствуе.

Усе гэта праз тое, што ён – бязбожнік. Але быць проста бязбожнікам гэтаксама банальна, як быць проста мізантропам, таму ён выдае сябе за верніка, які расчараваўся ў хрысціянстве. «Сын Бога, – тлумачыць ён прычыну свайго расчаравання, – не можа быць пакутнікам, які сам цягне свой крыж на Галгофу, каб быць раскрыжаваным за чужыя грахі. Кожны мусіць адказваць толькі за сваё».

Расчараваўшыся ў хрысціянстве, доктар спавядае індуізм, але не як рэлігію, а як філасофскую сістэму, і трыццаць першую частку трэцяй песні «Бхагавадгіты», прысвечаную рэінкарнацыі, лічыць найлепшым з усіх, якія калі-небудзь былі напісаныя, філасофскім трактатам, бо ў ім вырашаецца праблема суіснавання дабра і зла.

– Калі Бог – любоў і дабро, скуль зло і пакуты? Чаму гінуць дзеці?.. Папы з ксяндзамі выдумляюць такое, чаго самі не разумеюць, бо адказу на гэта няма ні ў Старым, ні ў Новым запавеце. А ў ведах ёсць: рэінкарнацыя. За грахі папярэдняга жыцця ў новым жыцці спасцігае кара за іх. Усё лагічна.

У доктара ёсць якасць, уласцівая ўсім людзям з завышанай самаацэнкай: яны мяркуюць, што ніхто, хто жыў да іх, пра жыццё на гэтым свеце нічога не петрыў. Вось і пра тое, што напісана пра дабро і зло ў ведах, доктар распавядае так, нібы сам пра гэта напісаў.

– Бог не ў дзеяннях, а ў іх прычынах.

– Ды кіньце!.. – паклаўшы на стол ампулу, націскае доктар чырвоную кнопку над сталом. – Адзін немец даўно сказаў: «Бог памёр!» Але немец гэты, як і ўсе немцы, паспяшаўся. Бог будзе жыць да той пары, пакуль мы не вызначым крыніцу нашай свядомасці.

Вось з чаго ён узяў, што ўсе немцы спяшаюцца?

– Дык ужо вызначылі. – І я чытаю яму па памяці, так у маіх мазгах ствараюць свае ланцужкі і ўзаемадзейнічаюць нейроны, што я даслоўна запамінаю тэксты, якія мне зусім без патрэбы: «Меркаванне, што нейроны не здольныя да трансфармацыі і зменаў сувязяў аднаго з адным, абвергнутае. Працэсы зменаў сувязяў зафіксаваныя пакуль на мікраскапічнай частачцы галаўнога мозга, аднак гэтага дастаткова для разумення сутнасці нашай свядомасці».

Я думаю, што гэтага ўсё ж не дастаткова для разумення нашай свядомасці, але доктара раздражняе не тое, што я думаю, а тое, што лезу не сваё, таму ён злуе, б'е зверху кулаком па лядоўні – і тая змаўкае.

– Не лезьце не ў сваё!.. Немцы зноў паспяшаліся – вызначанае імі нічога не вызначае! І ні на што не ўплывае! Хіба толькі на экспертаў камітэта па Нобелеўскіх прэміях можа паўплываць. – І кіўнуўшы на трох пахмурных мужчын за дзвярыма, якія адчыніла, уваходзячы, медсястра, ён кажа цішэй. – Але не на гэтых таварышаў.

Доктар ведае, што працэс змены сувязяў паміж нейронамі зафіксаваны нядаўна менавіта немцамі, а трое таварышаў, якія ўваходзяць за медсястрой у абкладзены сіняй кафляй, падобны да трупярні пакой, дзе мяне трымаюць ужо пятыя суткі, пра тое не ведаюць і ведаць не хочуць. Адзін з іх, таварыш генерал, ківае доктару, той ківае ў адказ, я ніяк не магу зразумець: што азначаюць гэтыя іх кіўкі адно аднаму?.. – а да мяне падыходзяць вартавыя, прыціскаюць да ложка, сястра адломвае кончык ампулы, набірае шпрыц, перацягвае гумовым пасам вышэй за локаць маю правую, якая не ў кайданках, руку, робіць укол – і мяне торгае яшчэ да таго, як у кроў маю пачынае ўлівацца мярзоціна...

– Спакайней, спакайней, – назіраючы, як выціскае апошнія кроплі са шпрыца медсястра, кажа доктар. – Няма чаго торгацца. Так, каб торгацца, яшчэ не баліць.

Я ўжо ведаю, як яно будзе балець, і праз гэтае веданне пачынаю адчуваць боль яшчэ да таго, як ён торгне мяне, скруціць, праб'е ад пятаў да мазгоў, у якіх у чаканні болю панічна пачынаюць мітусіцца, парываючы ўсялякія сувязі паміж сабой і мной, нейроны.

Сястра моўчкі выходзіць і зачыняе дзверы. Двое, што ўвайшлі з генералам, старэйшы і маладзейшы, глядзяць на доктара, і ён таксама ім ківае. Я не разумею, што гэта азначае, чаго доктар ківае і генералу, і гэтым

двум, але ведаю, што маладзейшы сярод іх усіх насамрэч найстарэйшы. Найгалоўны, бо ён сын таго, які ўсіх іх сюды, у гэтую трупярню, да мяне пасылае.

Мяне прывезлі сюды чатыры дні таму. Уночы, з завязанымі вачыма. Была зіма, і пахаў ніякіх не адчувалася, толькі пах снегу, але, мяркуючы па цішыні, якая напоўніла вушы, калі вывелі з машыны, прывезлі мяне ў лес. Лясная цішыня адрозная ад цішыні рачной ці палявой, я звык іх распазнаваць яшчэ ў дзяцінстве. Толькі ў дзяцінстве я не мог падумаць, пачуўшы лясную цішыню, што мяне ў ёй заб'юць, а тут падумаў, бо на першых допытах у турме, з якой сярод ночы мяне ў лес прывезлі, якраз гэтым палохалі...

Пад рукі мяне павялі прыступкамі ўніз, значыць, у лесе была нейкая будыніна – і калі развязалі вочы, я ўбачыў гэты халодна-голы, абкладзены сіняй кафляй, падобны да трупярні пакой. Пасярод яго стаяў ложак; каля адной сцяны з гадзіннікам на ёй – стол, крэсла і невялічкая лядоўня, а каля другой – штосьці падобнае на яшчэ адзін ложак, аблытаны правадамі, абстаўлены прыборамі ды прыстасаваннямі, адно з якіх было з гумовай камерай, як для мяча, якім гулялі мы ў дзяцінстве ў футбол. Я вырашыў, што гэта нешта для таго, каб дыхаць, і не памыліўся: аблытаны правадамі, абстаўлены прыборамі ды прыстасаваннямі ложак аказаўся апаратам для штучнай падтрымкі жыцця.

Яны не давалі тым, каго сюды прывозілі, памерці... Калі нехта не вытрымліваў на ложку пасярод пакоя, яго перакладвалі на ложак каля сцяны. А потым зноў клалі на ложак пасярод пакоя.

Госпадзі, што яны зробяць са мной?..

– У вас няма выбару... – кажа ў каторы раз адно і тое генерал. – Вы называеце краіны, канкрэтныя ведамствы і канкрэтных людзей, якія дапамагалі вам рыхтаваць дзяржаўны пераварот, мы ўводзім прэпарат – і болю не будзе.

Пераварот, прэпарат... Мне ўжо баліць, а ён: болю не будзе. Што значыць не будзе?.. Яны ўколяць мне нешта такое, ад чаго я сканаю?

– Я не рыхтаваў дзяржаўны пераварот.

– Вы называеце краіны, канкрэтныя ведамствы і канкрэтных людзей...

Доктар кажа: «У кожнага чалавека свой парог болю, які ён можа вытрываць. За гэтым парогам – смерць. Спыняецца ад болю сэрца». Ён мог гэтага й не казаць, я кожны раз здзіўляюся, калі боль пачынае спадаць, што сэрца не разарвалася. Я навыдумляў процьму краінаў, ведамстваў і людзей, якія мне дапамагалі, але гэта не тыя краіны, не тыя ведамствы і не тыя людзі – ім патрэбныя іншыя. Я пытаю: «Якія?..» – а яны не кажуць. Бо самі не ведаюць, якія? Яны ўвогуле, падобна, не ведаюць, чаго хоча ад мяне чалавек, які імі кіруе і пасылае іх да мяне.

– У кожнага чалавека свой парог болю, які ён можа вытрываць, за гэтым парогам смерць, ад болю спыняецца сэрца, – паўтарае словы доктара сын таго чалавека, наймаладзейшы з гэтых трох, якіх паслаў ён да мяне. – І паварочваецца да доктара. – Так, доктар?

Доктар у каторы раз ківае: так.

Першы спазм!.. Госпадзі, дай мне не вытрываць, дай мне сканаць!..

Боль невыносны... і доўжыцца, здаецца, з дня, у які я нарадзіўся, і калі гэткія мукі чакаюць нас па смерці за грахі нашы, дык трэба ці не грашыць,

ці не паміраць, а я паміраю, пачуў мяне Гасподзь... пачуў, але не прыняў, я кепскі вернік, ды не вернік я ніякі, бо ўвесь у спакусах, праз якія і ўлез у тое, што не магло ў мяне выйсці, бо яно не маё... і Гасподзь карае, пакідае мяне жыць у спазмах, у болю, які торгае, скручвае, працінае да мазгоў, у якіх панічна мітусяцца, парываючы ўсялякія сувязі паміж сабой і мной, нейроны... і калі я ачомваюся, іх выварочвае з мяне, я ванітую імі, нейронамі, маімі мазгамі, у якіх перакручваецца свядомасць: я раблюся як бы не я – і той, хто не я, на таго, хто я, нешта ўсё нагаворвае, нагаворвае, нагаворвае, а старэйшы з тых двух, што прыйшлі з генералам, запісвае, запісвае, запісвае на дыктафон і ў нататнік...

– Моцны вы... – кажа доктар, калі генерал і двое з ім выходзяць. – Ваш бацька ў якім веку памёр?

Я не помню, у якім веку памёр бацька.

– А маці?

І пра маці не помню... Я не помню нават пра сябе... Але помню пра доктара, якому спрабую сказаць: “Няхай вы не можаце гэтага спыніць, але...”

Мне цяжка прамаўляць не таму, што не хочуць слухацца язык і губы, а таму што ў мазгах парваныя сувязі паміж нейронамі – і думкі тыцкаюцца сляпымі кацянятамі, шукаючы тыя, якія засталіся цэлымі, ланцужкі.

– Што «але»?

– Вы маглі б у гэтым не ўдзельнічаць.

Доктар глядзіць на мяне так, нібы тое, што я сказаў, яго надта здзівіла.

– Мы ж гаварылі з вамі пра індуізм, пра карму, пра рэінкарнацыю...

Так, мы гаварылі з ім пра індуізм, пра карму, пра рэінкарнацыю, пра змены сувязяў паміж нейронамі, мы пра многае гаварылі – і што з таго? Мяне катуюць, а ён вядзе гаворкі пра індуізм! Пра закон кармы, па якім, калі ты нарадзіўся катам, дык найпершы твой абавязак – як мага лепей адсякаць галовы.

Хай нават так, хоць яно не зусім так, але ж ён не кат, а доктар. Менавіта гэта я хачу яму давесці, на што ён кажа: «Магчыма, у папярэднім жыцці я быў катам, выканаў карму ката і стаў доктарам».

Ён не выканаў карму ката і не стаў доктарам. Дактары не катуюць.

«Хіба я вас катую?»

«А хто?»

Ён ківае за дзверы...

«А мярзоціну хто мне ўшпільвае?»

«Сястра. Кожны мусіць адказваць толькі за сваё».

Ён, значыць, адказвае за тое, што націскае чырвоную кнопку.

Тады за што адказвае генерал? І той, хто з ім? І сын таго, які ўсіх іх да мяне пасылае?..

Я не задаю гэтыя пытанні доктару, бо яны з тых, якіх ён не чуе, і сам пытае: «Я выконваю карму доктара, а вы – чыю?..»

Ён хоча, каб я толькі пра тое й думаў, што ўзяўся не за сваё.

Я думаю, што карму доктара ён выконвае не так, як трэба, але мала што я думаю... Я нават не ведаю, думаю я ўвогуле, ці не?

Боль не можа думаць – проста баліць.

– Зрэшты, – кажа доктар, не дачакаўшыся адказу на тое, чыю карму я выконваю, – вы можаце гэтага й не ведаць. Таму й нагаворваеце на сябе абы што.

– Кожны з нас, нічога пра сябе не ведаючы, абы што на сябе нагаворвае.

Доктар маўчыць хвіліну, ківае галавой:

– Бадай, так. Хоць галоўнае пра сябе ведаюць усе.

Я не пытаю, што галоўнае пра сябе ўсе ведаюць – ён мне пра гэта ўжо казаў. «Націсні на любога – і з любога вылезе кавалак дзярма. Больш нічога». Калі я спрабую пярэчыць: «Дзярмо з сябе кожны мусіць выціскаць сам...» – ён кожны раз перапыняе:

– Мяне цікавіце не вы, а ваш боль.

Я намагаюся яго зразумець.

Ён кажа: «Усё вырашаецца тым, баліць табе, ці не баліць, а калі баліць, дык як?» – і ў хвіліны, калі мне не баліць, я згодны прызнаць, што ў ягоных развагах ёсць праўда: усім нам шкада, калі нехта, рыба ці птушка, гіне, ці нешта, кветка ці мова, знікае, але некаму – баліць, некаму – не.

– Вас цікавіць, ці баліць мне тое, праз што мяне прыкавалі да ложка ў вашай трупярні?

– Не. – Ён усміхаецца, усмешка ў яго пагардлівая. – Што вам можа балець? Свабода? Дэмакратыя?.. Такіх органаў у чалавеку няма.

Да болю прывыкнуць немагчыма, а да цынізму – можна. Мусібыць, я прывыкаю, бо пытаю: «А вам карма баліць, ці рэінкарнацыя?..» – і ён, як заўсёды, не чуючы таго, чаго не хоча чуць, доўжыць: «Ёсць шлункі, ныркі, залозы. Яшчэ дзве-тры ін’екцыі – і вы кінеце гульні ў тое, у што вам не трэба гуляць, каб выжыць».

«Я помню, што ўва мне ёсць нешта яшчэ, апроч шлункаў».

«Забудзецеся. Як у новым жыцці забываюцца на жыццё папярэдняе. Чаму, дарэчы, мы нічога з яго не помнім? У гэтым палягала асноўнае пытанне, звязанае з ідэяй рэінкранацыі. Брахманы знайшлі адказ: мы ўсё забываем праз боль народзінаў. Так напісана ў ведах. Не народзіны, а боль стварае новага, ці як бы новага, бо ён ужо быў, чалавека”.

Ён, можа, думае, што стварае ўва мне новага чалавека?..

– Вы, можа, думаеце, што ствараеце ўва мне новага чалавека, доктар?

– У пэўным сэнсе... Калі мы з’яўляемся ў свет праз боль, значыць, што?..

Ён робіць паўзу, чакае, пакуль нейроны ў маіх мазгах наладзяць такія сувязі, праз якія я здолею зразумець, дзеля чаго мы з’яўляемся ў свет праз боль, а я гляджу на гадзіннік, абедзве стрэлкі на якім няўмольна набліжаюцца да рыскі болю, і доктар, пачакаўшы, скончвае:

– Значыць, боль – шлях да ісціны. Нездарма, калі баліць, крычаць.

– Што значыць нездарма?

– Нездарма, бо бачаць ісціну.

– Яна такая страшная?

– Яна такая простая.

Я, дарэчы, не помню, ці крычу? Не чую сябе праз боль.

– Я крычу?

– Яшчэ як... – зірнуўшы на гадзіннік, ідзе да лядоўні, каб узяць мярзоціну, доктар, а я кажу:

– Вы не далі мне пігулкі.

Ён спыняецца.

– Вось бачыце: вы ўжо нешта зразумелі. Нарэшце.

– Што?..

Доктар не паспявае растлумачыць мне, што я нарэшце зразумеў, бо насцеж расчыняюцца дзверы, у якіх з'яўляюцца трое – і адзін, генерал, кідае з парога:

– Доктар, вы гатовы?

Да ін'екцыі паўгадзіны.

– Яшчэ паўгадзіны... – разгублена глядзіць на генерала і тых двух, што ўвайшлі з ім, доктар, а сын таго, хто ўсіх іх да мяне пасылае, кажа адрывіста:

– Давайце раней. Каб не прывыкаў.

Яму ўсё здаецца, што я прывыкаю. Няхай бы сам прывыкнуць паспрабаваў.

– Але я не... – пачынае і змаўкае, наткнуўшыся на позірк генерала, доктар, падыходзіць да стала, стаўшы каля якога спінай да ўсіх, націскае чырвоную кнопку... раз... другі... трэці... а сястра, якая звычайна з'яўляецца імгненна, не йдзе... не йдзе... не йдзе... і адзін з вартавых вінавата кажа ў дзвярах: "Яе няма. Выйшла, будзе праз паўгадзіны".

Шыя генерала над белым каўнерыкам кашулі пачынае налівацца чырванню.

– Як няма?.. Куды выйшла?.. Тут закрыты аб'ект ці раённая паліклініка? – наступае ён на вартавых, потым рэзка паварочваецца і кідае доктару. – Значыць, сам!

Доктар таксама паварочваецца:

– Я не...

І зноў не дагаворвае.

– Што не?.. Калоць не ўмееш?.. – з пагрозлівым здзіўленнем пытае генерал, а той, які павінаваціўся, вартавы прапануе:

– Давайце я... Я ўмею, нас вучылі.

Генералу, счырванеламу праз тое, што начальства прывёў не на закрыты аб'ект, а ў раённую паліклініку, і ў яго могуць быць праблемы, хочацца ўсё найхутчэй скончыць, ён згодна ківае: «Ну, давай ты, калі вучылі...» – і вартавы йдзе да майго ложка, але сын таго, хто ўсіх іх да мяне пасылае, раптам кажа: «Не! Кожны адказвае за сваё!» – і ва ўпор глядзіць на доктара, нібы падслухаўшы ўсё, пра што мы з доктарам гаварылі.

Можа, і слухаў... Яны і ў раённай паліклініцы слухаюць.

Доўгага позірку ва ўпор доктар не вытрымлівае, дастае з лядоўні ампулу з мярзоцінай, кладзе на стол, зноў націскае чырвоную кнопку... раз... другі... трэці... і рука, якой ён кнопку націскае, пачынае дрыжаць... а сястра не йдзе, не йдзе, не йдзе – і дзіўная рэч: мне хочацца, каб яна прыйшла, хоць я павінен хацець іншага, бо што мне гэты доктар, цынік, які даводзіў тут сваю выключнасць, а зараз яго ткнуць пысай у ягонае ж дзярмо, пакажуць, чаго ён варты, давядуць, што нічога ён не значыць, але вось жа я нешта для яго значу, калі ён хоча паказаць мне – бо каму яшчэ? – што не такі, як яны, што адказвае толькі за чырвоную кнопку, якую ціснe, ціснe, ціснe, пакуль трэці з тых, што ўвайшлі, найстарэйшы з іх, не крычыць: «Рабі, што кажуць!» – а генерал, якому перад сынам таго, хто ўсіх іх да мяне пасылае, толькі бунту ў раённай паліклініцы не хапала, падыходзіць да стала, бярэ ампулу і падае яе доктару: «Ці ты колеш гэта яму, ці ён, – ківае генерал на вартавога, які выззаўся зрабіць ін'екцыю, – коле гэта табе».

Генерал стаіць спінай да мяне, але нават па спіне генеральскай відаць, што чакае доктара, калі ён не возьме ампулу: вунь як вартавыя наструніліся! Доктар стаіць да мяне тварам – і па твары ягоным не скажаш, што ён гатовы зрабіць крок на шляху да ісціны, якая спасцігаецца праз боль. Такога развіцця падзей ён не чакаў, у мазгах ягоных рвуцца, лопаюцца звычныя сувязі паміж нейронамі, але чамусьці я не адчуваю праз гэта ніякага задавальнення, злаславай радасці: вось табе, маўляў, трыццаць першая частка трэцяй песні «Бхагавадгіты»! Мне нават шкада доктара, бо якім бы ён ні быў цынікам, ён адзіны, хто адчувае за тое, што тут робіцца, хоць нейкі сорам... ці, магчыма, не сорам, нешта іншае, я не ведаю, што ў такіх выпадках адчуваюць цынікі... але нешта ж ён адчувае, калі спрабуе захаваць хоць рэшткі годнасці, няхай не падобна, што гэта яму ўдасца, хіба пасля рэінкарнацыі, у іншым жыцці... а, можа, удасца і ў гэтым, бо ў дзверы ўскоквае задыханая медсястра: «Выбачайце!..» – і бярэ з рук генерала ампулу.

Пэўна, праз тое, што доктар не даў мне пігулкі, боль гэтым разам быў такі, што спынілася сэрца. «Вось бачыце: вы ўжо нешта зразумелі... нарэшце...» – чуўся ў снежнай лясной цішыні, не падобнай ні на цішыню рачную, ні на цішыню лугавую, нечы знаёмы голас, і мне ўсё хацелася ўспомніць, чый?.. і карцела дазнацца ў яго: што ж такое я нарэшце зразумеў? – але наўрад ці пра гэта я калі-небудзь дазнаюся, бо, ачуняўшы на аблытаным правадамі ложку, дыхаючы праз гумовую, як для мяча, якім гуляў у дзяцінстве, камеру, убачыў у халодна-голым, абкладзеным сіняй кафляй пакоі зусім іншага, незнаёмага мне чалавека, якога праз тое, што быў ён у белым халаце, можна было прыняць за доктара.

*12-21.02.2011, Мінск, хатні арышт*

Зміцер Вішнёў



...толькі лепрыкон
застаўся ў заплечніку
і гучна хіхікаў...

# Ад вінта!

***Вандроўныя нататкі па маршруце Мінск-Брэст-Тэрэспаль-Варшава-Лондан-Дублін-Глендалох-Франкфурт-на-Майне***

* * *

Сяджу ў брытанскім музеі – натхняюся
Пралятаюць пад столлю Міро і Пікасо
Макс Эрнст выгнуўся чорным і з сінім апаленым горадам

Геаметрыю маёй галавы раскалолі бяздушныя істоты Бойса
Я – чалавек з металічным тварам

* * *

брытанскага льва я знайшоў на Бейкер-стрыт
ён спрабаваў цапнуць мяне за нагу
але ўсё было марна
шумела лісце і галасы лонданцаў

я падкінуў ільва дагары і віртуозна злавіў торбай
ён муркнуў і заціснуўся паміж старонкамі кніг
у гэты момант я пачуў выразны клёкат
пра нешта буркавалі мясцовыя галубы
я быў не здольны іх зразумець
ўвогуле я кепска разумею ангельскую
тым не менш я прыслухаўся
і зразумеў адно
яны нешта мармыталі пра скрадане льва
не ведаю я гэткіх лясных каралёў
і неба ў Лондане ўвечары сіняе
нібы чарнічнае марозіва

дарэчы, леў цяпер на маім працоўным стале
зусім стаў цацачным і хатнім

*1 кастрычніка 2013, Лондан*

* * *

музеі нанізваюцца на шампур нібы кавалкі мяса
(гэх маё няспраўджанае вегетарыянства!)
блішчаць сокам і шклом схаваных палотнаў
кропаюць алеем мастацкіх думак
злосна ўсміхаюцца падлічваючы сантыметры крокаў турыстаў
закаркоўваюць у бутлі пластыкавых футурыстаў

* * *

Дублін нагадаў мне чамусьці дублон
не бляскам – коштам на сасіскі і піва
разглядаючы сучасныя сімвалы горада
я рушыў уздоўж наваспечаных штыкоў
прайшоў праз акварыум Фрэнсіса Бэкана
закусіў па дарозе Джэймсам Джойсам
перамыў мармуровыя косткі Оскара Уальда
пачысціў зубы ірландскім паветрам

зразумеў хто бульбаш а хто не

*2 кастрычніка 2013, Дублін*

### *СФА-ТА-ГРА-ФА-ВАЎСЯ*

На турыстычныя паводзіны ў мяне алергія.
Накшталт. Прыехаў, сфатаграфаваўся каля балкона злева.
Сфатаграфаваўся каля балкона справа, пад балконам
сфатаграфаваўся. Потым залез на балкон і паказаў язык –

сфатаграфаваўся. Затым падумаў-падумаў, абняў балкон і сфатаграфаваўся.

І потым абавязкова некалькі гадзінаў мучыць сяброў сваімі вандроўнымі фота. Не ўсведамляючы, што гэтыя балконы анікога не цікавяць. Часцей за ўсё чалавек з фотаапаратам выклікае ў мяне нервовыя дрыжыкі.

*5 кастрычніка 2013, Дублін*

## *СЯБРЫ*

адзін сябра папрасіў кельцкі крыжык
другі – вулічны каменьчык
трэці запатрабаваў прывезці трыліснік
я шпацыраваў сярод крамных крыжоў і пальмаў
круціў у руках адшліфаваную нумараваную гальку

а потым бадзяўся па Дубліне
і трапляліся пад нагамі дзіўныя камяні
“Во! Будзе сябру каменьчык з вуліцаў Джойса!”
але раптоўна заварушыўся ў руках джойсаўскі падарунак
бо гэта быў вінаградны слімак
і падумалася, што ледзьве не выправіў у эміграцыю
ірландскага бедачыну
і потым трызніў пра беларускую канюшыну
і параўноўваў яе з хвалёным трыліснікам
і вынайшаў шмат агульнага ў колеры і паху
і падумалася, што ў нас кельцкія камяні таксама растуць
толькі іх трэба вышукваць як грыбы
і хаваюць іх ад людзей слімакі і канюшына

* * *

ты заўважыла, што я пацалаваў цябе каля помніка Джойсу
так – гэта было зроблена наўмысна
каб у сведках быў слынны ірландзец
каб наш пацалунак перагукаючыся пакінуў Дублін і
дабег да горных масіваў
гэта быў свайго кшталту роспіс у сшытку легендарнай выспы
дробны додждж зацвердзіў мае здагадкі
ён запаліраваў брукаванку і нашыя думкі
зрэшты з новага пацалунка я зрабіў мячык
я запусціў яго ў неба
і ён падскочыў высока да аблокаў
і зваліўся недзе каля касцёла святога Патрыка

## *АД ВІНТА!*

штурман нашага карабля разрэзаў ірландскае неба
здавалася, што яно разляцелася гуашавымі пырскамі
праз пэўны час дзюрка ў аблоках шчасліва ўсміхнулася
і паказалася частка выспы ў марскіх хвалях
я пазяхнуў
ты пазяхнула
такім чынам мы развіталіся з пабамі хостэламі
горнымі авечкамі
згубленымі нумарамі дамоў і вуліцаў
з пранізлівым ветрам

толькі лепрыкон застаўся ў заплечніку і гучна хіхікаў

* * *

Франкфурт-на-Майне
круціцца як ваўчок лініямі метрапалітэна
атмасфера – фунт трысняговага цукру
еўра – відавочна не франкі
ранкам п’еш кальт-фанту
грызеш шакаладную цукерку
камечыш бліскучы фанцік
завязваеш на пантофлі жоўты банцік
на штанах квітнее махрой пурпуровы канцік
пальцамі намацоўваеш шчаслівы квіток
заўтра ты ідзеш на кніжны кірмаш – літараў ток

* * *

быццам гарыць пурпуровае вогнішча
а магчыма ў дровах палымнее сонца
колы націскаюць на клавішы ночы
“чок-чок” – скача цягнік-конь
б’е па рэйках залатымі падковамі

*Тэрэспаль, 11 кастрычніка, 2013*



Алесь Усеня



...каяцца трэба тут,
на гэтым свеце,
бо там, на нябёсах,
будзе позна...

# Грэх

***Раман. Кніга другая***

## АДРЫЯН

Тады будуць аддаваць вас на пакуты і забіваць вас; і вас будуць ненавідзець усе народы за імя Маё.

*Евангелле ад Мацвея, 24:9*

Па меры, як прымнажаюцца ў нас пакуты Хрыстовы, прымнажаецца Хрыстом і суцяшэнне нашае.

*Другое пасланне да карынфянаў апостала Паўла, 1:5*

### Прыхамаці імператара

У глыбіні перыстылю – агромністага, як акінуць вокам, двара, выбрукаванага ружовым мармурам, раскінулася велізарная зала пад купалам. З апсідаў-нішаў, выбітых у чатырох кутах, асклелымі позіркамі акідвалі

залу рымскія багі-статуі. Выява ж галоўнага з іх, Юпітэра, велічна ўзвышалася ў паўкруглай і самай дальняй апсідзе.

У гэтай зале імператар Адрыян даваў аўдыенцыі, прымаў дэпутацыі ад гарадоў і правінцый.

Сёння імператар прыняў толькі аднаго візіцёра, Акілу, і загадаў ліктарам нікога болей не запрашаць. Іхняя размова доўжылася амаль дзве гадзіны і, нарэшце, Адрыян устаў з крэсла, далонню прыязна паляпаў Акілу па плячы, прамаўляючы:

– Ты добра папрацаваў. Цяпер можаш з паўгода адпачыць тут, у Рыме. А то і ўвогуле застанешся назаўжды. Я яшчэ падумаю... Дарэчы, ці ёсць у цябе ў Рыме належнае жытло?

– Пакуль што не. Але я ўжо нагледзеў прыстойны дамок на Патрыцыянскай вуліцы, – Акіла ўдзячна зірнуў на імператара. – З тваёй ласкі сродкаў у мяне стае...

– Ну то і добра. А цяпер я пакажу табе сваё жытло. Хадзем.

Два гады мінулі з тае пары, як захлынуўся ў крыві іудзейскі мяцеж, і Акіла наноў і з яшчэ большым імпэтам распачаў забудову Святога горада. Штомесяц ён дасылаў імператару падрабязныя справаздачы, і ў рэшце рэшт Адрыян, задаволены ўвішнасцю свайго галоўнага забудоўшчыка, вырашыў аддзячыць яму, адклікаў у Рым, каб Акіла змог адвесці душу ў шматлікіх забавах, якіх у сталіцы імперыі было цераз край.

Апошнім часам Адрыян, лічы, не пакідаў сваю знакамітую вілу ў Цібуры, узведзеную лепшымі будаўнікамі імперыі ў адгор'і Апенінаў, за дванаццаць міляў ад Рыма. Гэта была нават не віла, а сапраўдны горад, які немагчыма было прайсці ўздоўж за цэлую гадзіну.

Віла раскінулася на ўзгорку паміж дзвюма невялікімі раўнінамі, якія паралельна цягнуліся з поўначы на поўдзень. Зрэшты, Адрыян, як і ўсе рымляне, любіў роўнядзь, таму, перш чым распачаць забудову, імператар загадаў знесці ўсе пагоркі ды ўзвышшы.

Дзве ручаіны, якія збягалі з Сабінскіх гор, перасякалі даліны і злучаліся ў адзінае рэчышча каля ўваходу ў вілу. Летам ручаіны амаль перасыхалі, таму з гор былі пракладзены акведукі, якія ўдосталь забяспечвалі вілу свежаю вадою.

Апроч палаца, паўсюль былі раскіданыя шматлікія порцікі, перыстылі, храмы, вежы, тэрасы, аздобленыя вінаграднымі альтанкамі, дзве бібліятэкі, тэатры, сады з безліччу антычных статуй...

Менавіта гэтае сваё "жытло" Адрыян хацеў паказаць Акілу.

Пасля працяглае хады праз васьмікутны вестыбюль яны апынуліся на адкрытай мясцовасці.

– Пазнаў? – Адрыян паказаў рукою налева ад сябе.

Акіла няўцямна паціснуў плячыма, і хоць яму няёмка было прызнавацца, бо гэта, пэўна ж, не спадабаецца імператару, але ўсё ж сказаў як ёсць:

– Калі па праўдзе, дык не...

– Ну як жа! – усклікнуў Адрыян. – Гэта ж Каноп! Егіпецкі горад паблізу Александрыі. Здаецца, мы былі там разам з табою...

– Во, цяпер пазнаў! – удавана-радасна загаманіў Акіла, каб дагадзіць імператару, хоць абрысы сапраўднага Канопа ўжо даўно сцерліся з ягонай памяці.

– Давай падыдзем бліжэй.

Яны выбраліся на раўніну, у глыбіні якой бачылася аграмадная апсіда.

Падобна, яна адначасна была і сажалкай, і храмам: пасярэдзіне апсіды высілася статуя Серапіса, а па баках – выявы іншых егіпецкіх багоў. Па мармуровых прыступках, а таксама цераз цэлы каскад басейнаў, размешчаных адзін вышэй за другі, у вялізную паўкруглую сажалку шчодра сцякала вада. Адтуль яна трапляла ў шырокі канал, які займаў усю сярэдзіну раўніны. Абапал берагоў гайдаліся дзясяткі лодак і караблёў накшталт александрыйскіх гандолаў.

Цераз масток, упрыгожаны калонамі, якія падтрымлівалі купал, Адрыян і Акіла перайшлі на другі бераг, дзе месціліся прасторныя гатэлі.

– Тут у мяне не толькі Каноп, – задаволена мовіў Адрыян. – Тут ёсць паменшаныя копіі ўсіх мясцін, якія прыйшліся мне даспадобы падчас вандровак. Болей блукаць па свеце не давядзецца, дый няма ніякай патрэбы: захацеў, скажам, зноўку наведаць грэчаскі Пойкім, – праз дзесяць хвілін хады ён перад тваімі вачыма. Вунь зірні: бліжэй да нас тая самая Вежа вятроў...

Акіла таксама нямала павандраваў, тым лікам і з самім Адрыянам, і чым далей яны ішлі, тым выразней акрэсліваліся знаёмыя абрысы: Лікей[1], Прытаней[2]...

– У мяне тут нават Пекла ёсць, – усміхнуўся Адрыян. – Але яно адсюль далёка, у самым канцы, і мы туды не пойдзем – не стае часу. – Зрэшты, ты ўжо, мусіць, маеш уяўленне пра маё “жытло”...

Зваротны шлях яны адольвалі па “Тэмпійскай даліне”[3]. Вядома, тут не было ні Алімпа, ні Пеліёна, ні Оссы, ні тых стромкіх скал і векавых лясоў, якія надавалі сапраўднай даліне Тэмпі велічны і ў той жа час зграбны выгляд. Аднак жа і мініяцюрная адрыянаўская копія была цудоўным месцам для прагулак, а зяленіва тут расло нават болей, чым у Грэцыі. З боку вілы, насупраць даліны, цягнуліся тэрасы з порцікамі і мармуровымі басейнамі, а над усёй далінай спадарыла шырокая экседра – глыбокая ніша, завершаная паўкупалам. Па яе адхоністым схіле Адрыян і Акіла сышлі да кветнікаў і трапілі ў галерэю, акаймаваную маленькімі ручайкамі (калісь іх называлі эўрыпамі). Па мармуровым мастку яны перайшлі на востраў, у цэнтры якога стаяла статуя Венеры, а абапал – фантаны, калоны і барэльефы з выявамі марскіх пачвараў, трытонаў, нерэід.

– Там, далей, – мае тэрмы, – сказаў Адрыян. – Я хацеў паказаць табе іх, але толькі што ў мяне з’явілася іншая задума. Памыцца нам усё-ткі трэба. Але не тут, у Цібуры, а ў Рыме. Даўно я там не быў... Зараз жа і паедзем!

Імператар крута развярнуўся і пашыбаваў да сваіх апартаментаў. Акіла ледзь паспяваў за ім услед.

– Усю сваю шыкоўную адзежу пакідаем тут. Апранаем тунікі, – на хаду камандаваў Адрыян. – Каштоўнасці і ўпрыгожанні таксама з сабою не бяры – у тэрмах часта крадуць.

А лёкаю, які выцягнуўся перад ім струною, коратка кінуў:

---

[1] Гімназія ў старажытных Афінах каля храма Апалона Лікейскага, дзе вучыліся Сакрат і Арыстоцель.

[2] Будынак у Афінскай рэспубліцы, дзе за дзяржаўны кошт палуднавалі асобы, якія зрабілі для дзяржавы важныя паслугі.

[3] Даліна ў Фесаліі паміж гарамі Осса і Алімп. Паводле старажытнагрэчаскага міфа, Геракл прабіў горны праход паміж скаламі, у якім утварылася рака Пенэй.

– Я еду ў Рым. І ніякіх насілак! Рыхтуйце звычайную каруку[1]...

Калі карука ўехала ў межы Рыма, Адрыян загадаў фурману:

– Спыніся і чакай тут, пакуль мы не вернемся!

І, ужо звяртаючыся да Акілы, патлумачыў:

– Я падпісаў эдыкт, які забараняе павозкам, асабліва перагружаным, уязджаць у гарады, тым болей у Рым. Вуліцы вузкія – не размінуцца. Дый брукаванка псуецца. Па горадзе дазволена перавозіць толькі будаўнічыя матэрыялы. Тут ужо нікуды не дзенешся...

Адрыян і Акіла саскочылі з карукі і без аніякай аховы пешкі рушылі ў глыбіню вірлівага Рыма. Адрыян не асцерагаўся, што гараджане пазнаюць у ім імператара: ён ужо тры гады запар не паказваўся на людзі, бязвылазна сядзеў у Цібуры, адно толькі і наведаў Іудзею ды Афіны, нават не ўдзельнічаў у трыумфе (дый які там трыумф?) з нагоды перамогі над іудзеямі. Без баграніц, у звычайных туніках, знешне Адрыян і Акіла нічым не адрозніваліся ад рымскіх грамадзян-просталюдзінаў, таму, пакуль яны, таўхаючыся з сустрэчнымі-папярэчнымі, прабіраліся па шматлюдных вулках, ніхто на іх не звяртаў увагі.

– Як ты думаеш: чаму я павёў цябе не ў сваю тэрму, а ў агульную, гарадскую? – на хаду запытаўся Адрыян у Акілы і сам жа адказаў: – Каб ты ўпэўніўся, што не толькі я жыву ў раскошы, але і ўсе рымскія грамадзяне і нават рабы маюць патолю для душы.

І хоць ніякай заслугі Адрыяна ў тым, што ў любым рымскім горадзе грамадскія тэрмы месціліся, мовіць так, ледзь не на кожным кроку спакон вякоў, Акіла асцярожна змаўчаў.

Да цэнтральнай часткі горада, дзе грамадскія тэрмы былі найбольш дыхтоўнымі, яны не дайшлі.

– Сюды, – паказаў Адрыян на невялікі садок, у якім у альтанках сядзелі-гаманілі нешматлікія дзяцюкі з расчырванелымі, прыпухлымі тварамі – адпачывалі.

Мінаваўшы калідор, на столі якога на блакітным фоне былі раскіданыя залатыя зоркі, Адрыян і Акіла апынуліся ў ападытэрыі, інакш кажучы, у распранальні. Гэта быў доўгі пакой, купал якога абапіраўся на магутны гзымс, упрыгожаны злепленымі грыфамі, амфарамі і лірамі. Паміж імі віліся дзівосныя арнаменты-арабескі. Сцены былі пафарбаваныя ў жоўты колер, столь падзеленая на белыя квадраты з чырвонымі бардзюрамі, а падлога выкладзеная простай, грубай мазаікай. Уздоўж сцен выцягнуліся доўгія лавы, над якімі мацаваліся паліцы з адзежай.

Святло ў ападытэрый трапляла цераз акно пад самым купалам з бронзавай рамай і тоўстым матавым шклом. Побач – магутныя рэльефныя трытоны з пасудзінамі на плячах, а ў нішы пад акном – вялізная маска Акіяна.

Адрыян накіраваўся да маленькага пакойчыка, прылеглага да ападытэрыя, і сунуў у руку рабу-вартаўніку (капсарыю) дзве сестэрцыі.

– Пакінем адзежу ў яго, а не на агульных паліцах, – прапанаваў імператар. – На ўсялякі выпадак. Я ж табе казаў: у тэрмах шмат баланаклептаўзлодзеяў... І вось гэта прыхопім, – Адрыян паказаў на скрабкі і збанкі, напоўненыя нейкаю вадкасцю.

– Што гэта? – пацікавіўся Акіла.

---

[1] Адкрытая дарожная карэта з высокім кузавам.

– Вадзяністае мыла. Гэта раней расціраліся аліўкавым маслам ці ўвогуле пяском. А пры мне во што вынайшлі...[1]

Калі яны пакінулі капсарыя, Адрыян паказаў рукою наперад:

– Направа – халодны басейн-фрыгідарый, налева – гарачая пара. Табе што болей даспадобы?

– Лепей бы спярша ў басейн...

– І я так думаю.

Падлога, басейн і лаўка ўздоўж яго былі выкладзеныя белым мармурам. З меднай трубы біў магутны вадзяны струмень. У фрыгідарыі чамусьці было бязлюдна. Па прыступках Адрыян і Акіла спусціліся ў басейн – вады ў ім было ўсяго па шыю – і адразу ж скурчыліся ад холаду. Зрэшты, пасля паўдзённай спёкі гэта прынесла толькі асалоду.

Акіла агледзеў памяшканне. Сцены былі распісаныя дрэвамі і кустамі, нагадвалі гушчар, у якім пырхалі птушкі. Зірнуў угару – і здалося, што басейн знаходзіцца пад адкрытым небам: купал меў блакітны колер. Паўсюль з ваз накшталт кветкавых кубачкаў білі фантаны.

– Ну, годзе, – мовіў Адрыян. – Хадзем грэцца.

У тэпідэрыі, дзе рымляне не мыліся, а толькі праграваліся, Акілу ў твар адразу патыхнула гарачым паветрам. Тут ужо было шматлюдна, хтоніхто сядзеў ці прагульваўся нават у вопратцы. За сцяною гучала ціхая музыка.

– А чаму тут адны мужчыны? – не хаваючы здзіўлення, запытаўся Акіла.

– Хоць з часоў заснавання Рыма мужчыны і жанчыны мыліся разам, у адным кагале, я сваім эдыктам забараніў гэткую непрыстойную завядзёнку, – насупіўшы бровы, сталёвым голасам адказаў Адрыян, а затым, палагаднеўшы, дадаў: – У рэшце рэшт што можа быць прыгажэйшым за мужчынскае цела?..

– Я згодны з табою, імператар! – падхапіў ягоныя словы Акіла, згадаўшы Антыноя і ўвогуле юрлівую цягу Адрыяна да юнакоў і маладых мужчын. Ён міжволі краёчкам вока акінуў голае цела самога імператара: некалі гонкі, падборысты, цяпер Адрыян выглядаў амаль на старога дзеда, паўсюль з'явіліся тлустыя скураныя складкі, пуза, хоць і не надта, але ўжо адвісла...

Тое, што імператар за апошні час вельмі пастарэў, асунуўся, Акіла заўважыў яшчэ па ягоным твары, як толькі пабачыў у Цібуры. Адрыян ужо ніколі – ні пры ўсмешцы, ні пры незадаволенасці – не крывіў, не выцягваў свае вусны ў трубачку, ледзяніста ці спустошана пазіраў не на Акілу, а нібы скрозь яго...

У тэпідэрыі таксама меліся паліцы-нішы для адзежы. Па краях перагародак паміж нішамі стаялі маленькія тэрактавыя фігуркі аголеных гігантаў, якія на выцягнутых руках трымалі цяжкі гзымс столі-купала, аздобленнага белымі рэльефнымі фігурамі: Ганімед, украдзены арлом, Амур з лукам, Апалон верхам на грыфе, маленькія амуры, якія кіруюць дэльфінамі, львы ў квадратах, ромбах, кругах і шматкутніках на фіялетавым, белым і светла-блакітным фоне.

---

[1] Хоць вадзяністае мыла (сумесь аліўкавага масла з попелам ці шчолаччу) рымляне сапраўды пачалі ўжываць пры Адрыяне, але яно было вядомае здавён. Напрыклад, шэсць тысяч гадоў таму вадзяністым мылам карысталіся егіпцяне, а ў Еўропе яго зноў вынайшлі галы і германцы.

Аднак жа Адрыян не даў магчымасці Акілу доўга любавацца гэтымі вабносцямі, пашыбаваў у кальдарый – самае спякотнае памяшканне ва ўсёй тэрме, дзе меўся басейн з гарачай вадою. Тут ужо ніякіх упрыгожанняў ці роспісаў не было. Дый навошта яны? Ад вільготнага, насычанага параю паветра фарбы ўсё адно сцерліся б. І толькі ў купале меўся рэльефны арнамент: крылатыя жанчыны луналі ў вышыні.

У кальдарыі людзей было найболей, але ўсе яны скрэбліся-мыліся моўчкі, засяроджана, падстаўляючы свае плечы рабам ці мясцовай прыслузе, якая за невялікія грошы падсабляла пазбавіцца бруду. І толькі воддаль мужчыны збіліся ў гурт, і з таго боку чулася гамана, а часам і рогат. Адрыяна зацікавіла тое, што да ягоных вушэй раз-пораз далятала слова “імператар”.

– Давай падыдзем бліжэй, паслухаем, – прапанаваў Адрыян і нетаропка падаўся да гурта.

... – І вось трэцца гэты ветэран спінаю аб мармуровую сцяну, і не надта добра ў яго атрымліваецца – спіна ўсё адно свярбіць, бо закарэла ад гразі, – распавядаў мажны дзяцюк з глыбокай залысінай і парэпанымі вуснамі. – І тут падыходзіць да яго нейкі мужчына і пытаецца: “Чаму гэта ты трэшся аб сцяну?” Зірнуў на яго ветэран і анямеў: перад ім стаіць сам імператар! Адрыян жа, бывала, разам з простым людам у тэрмы хадзіў. “А што ж мне застаецца? – з жалобаю кажа ветэран. – Няма ў мяне ні грошай, ні рабоў, якія б спіну паскрэблі. Вось і даводзіцца самому...” А трэба сказаць, што імператар ведаў таго ветэрана. Мусіць, яшчэ з Дакіі, калі ён легіёнам камандаваў. “Нядобра, – кажа імператар, – што такі заслужаны чалавек дый абяздолены”. І што вы думаеце? Назаўтра атрымаў той ветэран і рабоў, і грошай удосталь. Во як!

– Пашэнціла ветэрану...

– І не кажы...

– Мне б такую ўдачу, – пачуліся галасы з усіх бакоў.

– Ды я ж яшчэ не ўсё распавёў! Паслухайце далей! – падбадзёраны пільнаю да яго ўвагаю, працягваў дзяцюк. – На наступны дзень многія старыя людзі, прачуўшы пра гэты выпадак, лавінаю хлынулі ў тэрму і сталі церціся спінамі аб сцены. Разлічвалі, што імператар паспагадае і ім, шчодра адорыць дабротамі і рабамі. І праўда: Адрыян заўважыў агульную “часалаўку”. Паклікаў да сябе гэтых людзей і замест даброт даў ім карысную параду: “Па чарзе скрабіце і расціpайце спіны адзін аднаму”...

Спярша гурт прымоўк, пераварваючы пачутае, а затым грымнуў дружны рогат. Усміхнуўся і Адрыян.

– Што праўда, то праўда: наш імператар – дасціпны і на язык востры, – падхапіў размову другі дзяцюк, сухарэбры, як трэска. – Вось чуў я, напрыклад, такую гісторыю. Аднаго разу прыйшоў да Адрыяна чалавек, галава ў якога пачала сівець, і стаў яго аб нечым прасіць. Просьбу тую імператар выконваць не захацеў. Праз нейкі час просьбіт, пафарбаваўшы валасы, зноў звярнуўся да імператара. Вы думаеце, які ён атрымаў адказ? “Ідзі адсюль, бо я ўжо адмовіў у гэтым твайму бацьку!” – прагнаў яго Адрыян.

– Сапраўды было такое? – запытаўся Акіла.

– Было, было... – нехаця буркнуў Адрыян. – Хадзем лепей у судаторый – самы час пагрэць косці параю...

І яны падаліся ў наступнае прасторнае памяшканне, падзеленае на

невялікія пакойчыкі-кабіны, у якіх меліся “сядзячыя” ванны, дзе акурат спатрэбіліся вадзяное мыла і пахучы ялей...

Уволю напарыўшыся, Адрыян і Акіла выйшлі з тэрмы і трапілі на палестру – адкрытую спартыўную пляцоўку, з трох бакоў абкружаную крытай каланадаю. Вольнага месца на ёй не было: воддаль калашмацілі адзін аднаго баксёры, побач дужаліся барцы, а ўзброеныя гладыусамі юнакі, абступіўшы драўляны цурбан, вучыліся наносіць трапныя ўдары.

Аднак жа найболей людзей сабралася каля пляцоўкі, дзе ішла гульня ў “трохкутнік”. Большасцю гэта былі заўзятары. Самі ж гульцы, стаўшы па краях намаляванага на зямлі трохкутніка, перакідвалі адзін аднаму мяч. Ад гульцоў патрабаваўся неверагодны спрыт, былі задзейнічаныя абедзве рукі адразу.

Некалькі хвілін паназіраўшы за гульнёю, Адрыян і Акіла прыселі ў цяністым порціку, якіх тут было ўдостатку. Спярша маўчалі, а затым Адрыян раптоўна спахмурнеў, падумаўшы пра нешта сваё, і загаманіў на тэму, якая стала для Акілы нечаканкаю:

– Я столькі шмат зрабіў для народа... Даўжнікам імператарскай казны – не толькі ў Рыме, але і па ўсёй Італіі – прабачыў іхнія запазычанасці, а распіскі спаліў на форуме Траяна... Маёмасць злачынцаў перастаў забіраць сабе, як гэта было пры ранейшых імператарах, і аддаю яе ў дзяржаўную казну... Тым, хто жыве ў нішчымніцы і каму падсабляў яшчэ Траян, я павялічыў грашовыя выплаты... Я наладзіў працу казённай пошты... Я даю людзям відовішчы, праводжу гладыятарскія баі: толькі ў свой дзень нараджэння выпусціў на арэну тысячу дзікіх звяроў... Дый хіба ўсё пералічыць? А што за гэта маю? Хіба згадваюць мяне добрым словам? Адны праклёны...

– Ды што ты, імператар! – Акіла паспяшаўся яго супакоіць. – Народ цябе любіць! Ты ж сам чуў, з якою павагаю выказваліся пра цябе людзі ў тэрме...

– А-а, пустое!.. – махнуў рукою Адрыян. – Нічога гэта не значыць... Дарэмнымі былі ўсе мае патугі... Падзякі ад народа ўсё адно не дачакаюся...

І што зусім збянтэжыла Акілу – на шчаку Адрыяна выпаўзла дробная слязінка. Імператар не змог утаіць слабіну, і Акіла зразумеў, што нічога добрага гэта яму не зычыць: дыктатары звычайна помсцяць міжвольным сведкам свайго маладушша ці сентыментальнасці. І ўжо зусім даканала Акілу тое, што Адрыян ні з таго ні з сяго змрочна мовіў:

– З залатой чашы піць атруту і ад сябра хцівага параду прыняць – адно і тое ж...[1]

Трохі памаўчаўшы, ён зноўку загаманіў пра людскую няўдзячнасць:

– А колькі дабра я зрабіў іншым народам і плямёнам! Насуперак волі Траяна не стаў пашыраць памеры імперыі, спыніў заваёўніцкія паходы... А тым, хто знаходзіцца ў межах імперыі, даў амаль поўную самастойнасць... Я не пярэчыў, калі яны маліліся не Юпітэру, а ўласным багам... І што за таго? Варта мне было нешта перайначыць па-свойму, як гэтыя народы, разбэшчаныя маёй паблажлівасцю, распачыналі смуту... Узяць хаця б тую ж Іудзею... Цяпер я цвёрда засвоіў: усе войны, усе бунты распачынаюцца з-за таго, што людзі моляцца розным багам. Так

[1] Выслоўе Плутарха (каля 50-120 гг. н.э.), сучасніка і настаўніка Адрыяна, які часта ўжываў выразы гэтага грэчаскага гісторыка, а часам выкарыстоўваў як свае.

было, так ёсць і так будзе ў наступныя вякі і тысячагоддзі. А што гэта значыць? Што любую веру, калі яна супярэчыць нашай, рымскай, любых багоў, калі гэта не Юпітэр, Марс ці Венера, трэба бэсціць, а ўсіх, хто ўсё-ткі не хоча маліцца нашым багам, прытрымліваецца іншае веры, – вынішчаць на корані!..

Пры гэтым ён секануў далонню паветра і адразу ж схамянуўся, застыў.

– Што гэта я?.. Навошта?.. Ну, годзе, засядзеліся мы тут... Пайшлі!

Адрыян рэзка ўстаў і накіраваўся да выхаду. Ужо на вуліцы ён павярнуў галаву да Акілы, які плёўся ззаду, і з прахалодаю мовіў:

– Можаш мяне не суправаджаць. Сам дайду...

Акіла разлічваў правесці з імператарам астачу дня і, можа, нават пераначаваць на ягонай віле ў Цібуры, а пасля гэтых слоў зніякавеў зусім...

## На вуліцах Рыма

Пасля апошняе сустрэчы на Кірмашным полі, калі стала вядома, што Вірсавію павязуць у Рым, для Архелая не было іншае мэты, яна стала сэнсам ягонага існавання: любым коштам і як мага хутчэй трапіць у сталіцу імперыі, знайсці сваю абранніцу. Зрэшты, ва ўмовах, у якіх ён апынуўся, мэта здавалася недасяжнай. З ранку да позняга вечара пад бізунамі легіянераў-ветэранаў Архелай цягаў камяні на руінах Ерусаліма. Рабоў пільна вартавалі і ноччу.

Уцячы ўсё ж было магчыма: удзень вартавыя часам некуды сыходзілі, мусіць, ім, ужо састарэлым, невыносна было трываць пякельную спёку. Прытаіцца сярод каменных глыб, а затым выбрацца за межы горада – у гэтым заступоркі не было. Спрыяла і тое, што Архелай меў нетыповую для тутэйшых мясцін знешнасць, і нікому не магло ўзбрысці ў галаву, што гэта раб, а не рымскі грамадзянін.

Так што ўцячы Архелай мог і нават зрабіў дзве спробы. Першы раз яго пераняллі хутка, каля Гаваона. Шукалі ўцекача чамусьці па загадзе самога Акілы, ганцы былі разасланыя ва ўсе блізкія гарнізоны. Мясцовыя военачальнікі нават дзівіліся: чаму з-за нейкага беглага раба ўзняўся гэткі вэрхал?

Дзіўна, але па загадзе таго ж Акілы пакаралі Архелая не надта строга: іншага знявечылі б ці ўвогуле забілі б, а Архелаю толькі спаласавалі спіну бізунамі.

У другі раз уцекачу ўдалося дабрацца ажно да Веф-Арона – адтуль ужо рукою падаць да Іоппіі, дзе меўся порт і адкуль раз-пораз адплывалі караблі ў Рым. Акіла сам прысутнічаў пры пакаранні: было падобна, што сачыў, каб уцекача не забілі да смерці.

Архелай не мог акрыяць цэлы месяц. А потым, калі ўсё ж выйшаў на працу, да яго прыставілі асобнага ахоўніка.

Архелай невыказна здзівіўся, калі аднаго разу яго прывялі да Акілы і той з нейкаю лагодаю ў голасе абвесціў:

– Цяпер ты мой асабісты раб – я выкупіў цябе ў дзяржавы. Імператар выклікае мяне ў Рым, і я бяру цябе з сабою. Будзеш прыслугоўваць. І не ўздумай уцякаць. Болей літасці не будзе. Ты мая ўласнасць, і я магу зрабіць з табою ўсё, што захачу, дарма што імператар забараніў забіваць рабоў і караць вас толькі цераз суд. Я, калі спатрэбіцца, буду для цябе і суддзёй, і катам... Ты ўсё зразумеў?

Ад неверагоднае навіны Архелай не здолеў вымавіць і слова, адно

толькі скаўтнуў сліну і кіўнуў галавою. Ці можна было паверыць у такое шчасце? Тое, пра што марыў і мроіў, вось-вось збудзецца! Бог нарэшце пачуў ягоныя малітвы! Архелаю было няўцям, чаму менавіта яго выкупіў Акіла, каб зрабіць сваім лёкаем, дый ён над гэтым не задумваўся. Галоўнае – неўзабаве ён трапіць у Рым, знойдзе сваю Вірсавію!

Праз тыдзень на вайсковым караблі, абшытым меддзю, яны плылі ў сталіцу імперыі. Судна было хуткасным: яго "падганялі" наперад не толькі ветразі, але і рабы-весляры.

Апрача Архелая, Акіла прыхапіў з сабою Эфраіма і Манасію. Пасля захопу Бетара самарыцяне атрымалі шчодрую ўзнагароду, жылі бестурботна, але ўдадатак ім карцела стаць рымскімі грамадзянамі, як і паабяцаў Акіла. Галоўны забудоўшчык патлумачыў братам, што для гэтага трэба наведацца ў Рым, і калі з'явілася такая магчымасць, узяў іх з сабою. Вядома ж, Акіла не збіраўся хадайнічаць, каб гэтыя браты-аблуды атрымалі грамадзянства, але ён прадбачыў, што ў Рыме давядзецца "абцяпваць" не зусім прыстойныя справы, і падсвядома адчуваў: самарыцяне з іхняю подласцю і хіжасцю могуць спатрэбіцца. Да таго ж, будзе каму павіжаваць за Архелаем, даверу да якога Акіла ўсё-ткі не меў.

Пакуль шукаў прыстойны дом у цэнтры Рыма, Акіла засяліў сваю нешматлікую світу ў несамавіты гатэль з незразумелаю назваю "Пад мячом". Для сябе ён абраў самы лепшы пакой, які меўся ў гатэлі, а Архелаю, Эфраіму і Манасіі давялося марнець у адным і не зусім дагледжаным памяшканні, хоць на ягонай сцяне гаспадар гатэля пакінуў красамоўны надпіс-перасцярогу:

Раб твой хай ногі памые і вытра,  
Каб не мараліся просціны чыстыя нашы.

Праўда, нехта з былых пастаяльцаў ніжэй накрэмзаў сваю "рэзалюцыю":

Мы памачыліся ў ложак. Прабач, гаспадар.  
Толькі чаму ты не даў нам начнога гаршчка?

Акіла наказаў, каб без яго дазволу з гатэля ніхто не выходзіў. Харчавацца можна было на першым паверсе, дзе месцілася карчма. Архелай пачуў ад Акілы асабістую пагрозу:

– Тут табе не Іудзея. Калі і захочаш, далёка не ўцячэш. З беглымі рабамі ў Рыме строга... Дый куды ты паткнешся, хто дасць прытулак, апрача мяне? Так што глядзі...

Гэтая пагроза была залішняю. Архелай і не збіраўся кудысьці ўцякаць, прынамсі, да тае пары, пакуль не знойдзе Вірсавію.

Аднак жа праз тры дні бязвылазна сядзець у гатэлі абрыдла, тым болей у адной хеўры з Эфраімам і Манасіяй, якіх Архелай неўпадабаў з першых дзён: нейкія яны слізкія, цёмныя. Дый размаўляць з імі не было пра што, таму пастаяльцы, змушаныя дзяліць адзін пакой, толькі зрэдку перакідваліся словамі.

– Гаспадар, дазволь на некалькі гадзін выбрацца заўтра ў горад, – перастрэўшы Акілу з вечара, стаў прасіць Архелай. – Я ж у Рыме ўпершыню. Хоць бы адным вокам зірнуць... Дальбог, не ўцяку! Ты ж сам сказаў: куды мне падзецца?

Акіла, крыху падумаўшы-паразважаўшы, даў згоду:

– Так і быць, сходзі. Пасля полудня. Толькі будзь уважлівым: калі не ўцячэш, дык можаш заблудзіцца...

Архелай ледзь не самлеў ад шчасця: яму чамусьці здавалася, што заўтра ён пабачыць Вірсавію.

Архелай разумеў: Вірсавію трэба шукаць там, дзе найболей лупанарыяў[1], бо ў ягонай памяці заселі словы легіянера Кодры: “Файныя гетэры з гэтых дзевак атрымаюцца!” Гетэр было ўдосталь і ў гатэлі. Азызлыя, з разбэрсанымі космамі, яны сноўдалі па калідорах і выклікалі ў Архелая толькі агіду. Хіба ж можна ўявіць, што сярод такой набрыдзі будзе аціраццa Вірсавія?

Гатэль хоць і быў нехлямяжы ўсярэдзіне, але месціўся ён ледзь не ў цэнтры Рыма, непадалёку ад форума Траяна. Ступіўшы за парог, Архелай разгубіўся. Яны засяляліся ў гатэль позна ўвечары, калі вуліцы былі амаль пустыя, а цяпер яны віравалі, кішэлі людзьмі – не пратаўхнуцца[2]. І ўсё ж трэба было рухацца ў нейкі бок, і Архелай, сам таго не ведаючы, узбіўся на Свяшчэнную Дарогу, якая злучала галоўны Форум, раскінуты ў нізіне, з Палацінам.

Павольна тупаючы па вуліцы і азіраючыся па баках, Архелай звярнуў увагу, што сцены амаль усіх дамоў стракацяцца ад нейкіх надпісаў. Некалі яшчэ бабуля Алума навучыла яго распазнаваць лацінскія літары, але чытаў Архелай кепска, па складах. Дый дзе яму было спасцігаць навуку? І ўсё-ткі ён падышоў да бліжняй сцяны, стаў узірацца ў надпісы. Магчыма, там ёсць што-небудзь і пра гетэр?

“Зрабіце Пансу эдылам, прашу вас. Ён дастойны гэтага”.

“Цырульнікі: у эдылы – Юлія Трэбіла”.

“Земляробы патрабуюць зрабіць эдылам Марка Казелія Марцэла”.

“Рыбакі, выбірайце эдылам Папідзія Руфа”.

“Калі хто адвяргае Квінтыя, той няхай усядзецца побач з аслом”.

Архелай уцяміў, што на гэтай сцяне – нейкія перадвыбарчыя заклікі, і тое, што яго можа зацікавіць, варта пашукаць на іншых сценах.

“Гэты бой з дзікімі звярамі адбудзецца на пяты дзень перад вераснёўскімі календамі, а Фелікс пазмагаецца з мядзведзямі”.

“Баі з дзікімі звярамі, атлеты, распырскванне вады. Няхай жыве Май, першы з гараджан!”

І тут не тое, што трэба. Рушыў далей.

“Марк кахае Спендузу”.

“Карнелію Алену кахае Руф”.

Архелай узбадзёрыўся: калі пайшлі надпісы пра каханне, дык, напэўна, дойдзе і да гетэр. Аднак ягоная надзея не спраўдзілася, далей надпісы былі зусім будзённымі:

“Нядобра робіш, Сара, пакідаеш мяне аднаго”.

“Арунцый быў тут з Цібурцінам”.

“Эмілію Фартунату, брату свайму – прывітанне”.

“Самій Карнелію: павесся”[3].

Магчыма, у якім-небудзь месцы і гетэры пакінулі свае аб’явы, але ж, каб знайсці тую сцяну, і дня не хопіць. Архелай стаў узірацца ў твары гараджан, прыкідваючы, хто мог бы даць яму падказку. Ягоную ўвагу

[1] Публічных дамоў.

[2] Вуліцы Рыма былі вузкімі — ад 3 да 7 метраў, таму па іх забаранялася рухацца не толькі павозкам, але і коннікам. Забарона не распаўсюджвалася на вясталак — рэлігійных жрыц – і членаў імператарскай сям’і.

[3] Падобныя надпісы на сценах у старажытным Рыме выконвалі ролю сучасных газет.

прыцягнуў бялявы юнак з мітуслівымі вачыма, які чамусьці нікуды не спяшаўся, хадзіў туды-сюды на адным месцы, як быццам некага чакаў ці пільнаваў. Архелай падступіўся да яго.

– Ты... гэтае самае... не падкажаш, дзе тут лупанарыі месцяцца? – саромеючыся, нібы завёў размову пра нешта ганебнае, прамармытаў Архелай.

Юнак зірнуў на яго са здзіўленнем.

– Ты што, не тутэйшы?

– Ну так...

– А адкуль будзеш?

– З Іудзеі...

– Чуў пра такую. Адтуль гады два таму ў Рым рабоў навезлі. Але ты, падобна, не яўрэй...

Архелай на гэта нічога не сказаў, толькі злёгку пацепнуў плячыма: прызнавацца, што ён яўрэй ды яшчэ і раб, не выпадала ніяк.

– Дзявочага цела, кажаш, захацелася? – усміхнуўся юнак, не зважаючы на збянтэжанасць Архелая. – А што, магу памагчы. Здаецца, свайго сябра я ўжо не дачакаюся, так што вольнага часу – процьма. Пайшлі!

І ён, завярнуўшы са Свяшчэннай Дарогі на вузейшую, але таксама дыхтоўную вуліцу, пашыбаваў наперад – Архелай ледзьве за ім паспяваў. Аднак неўзабаве ім давялося запаволіць хаду, бо людзей на вуліцы пабольшала. Архелай ужо мог пазыркаць вачыма навокал, што-нішто разгледзець. Падобна, вуліца была забудаваная прыватнымі дамамі, уздоўж якіх шпарка ішоў гандаль рознай драбязою. Юнак заўважыў цікаўнасць Архелая і з ганарлівасцю стаў праяўляць сваю дасведчанасць перад жыхаром далёкай правінцыі:

– Вуліца называецца Аргілет, гэта значыць, “гліняная”. Вунь і кар’еры бачныя. Мы ўжо, лічы, прыйшлі туды, куды табе трэба – у Субуру.

Наперадзе даліну амаль на дзве роўныя паловы разразала вуліца, абапал якой назіралася яшчэ большая людская мітусня. Чаго толькі ні прапаноўвалі гандляры, ледзь не за крысо хапаючы тых, хто ішоў міма: капусту, масліны, казляціну, яйкі, курэй, рыбу, адзежу, абутак, жалеза... Адусюль даносіўся гул і грукат.

– Гэтае месца – самае шумнае ў горадзе, – патлумачыў юнак. – Яго называюць “крыклівым” ды яшчэ “кіпенем”. Але пра што гэта я? Цябе ж цікавіць зусім іншае. Акурат тут і аціраецца найболей гетэр, а лупанарыяў – цяжка пералічыць. Дарэчы, – раптам спахапіўся хлопец, – я ведаю, дзе тут можна купіць нештачка такое, што табе можа спатрэбіцца, калі ты ідзеш да гетэры. Кроў гладыятара! Варта яе выпіць, і сэксуальны імпэт будзе неўтаймоўным. Ты ж, мусіць, чуў, што смяротна параненых гладыятараў заносяць пад арэну і там выпускаюць з іх кроў. Усю да кропелькі. Праўда, каштуе яна не танна... У цябе грошай шмат?

– Не вельмі... – пашкроб патыліцу Архелай, не прызнаючыся, што ў яго ўвогуле нямашака ніводнае сестэрцыі.

– Значыць, забылі пра гладыятараў, – не суняўся юнак. – Можна набыць сумесь малака і крыві маладых рабынь. Таксама дзейсны сродак. І значна таннейшы. Будзеш купляць?

– Ды не... – Архелай адвёў вочы ўбок. – У мяне яшчэ і ўласнага імпэту хапае...

Па вуліцы сапраўды ледзь не цугам шпацыравалі большасцю маладыя ці зусім юныя дзяўчаты з заклікальнымі позіркамі. Архелай узіраўся ў

іхнія твары, маючы спадзеў, што вось-вось убачыць знаёмае аблічча, і з кожнай хвілінаю ягоны настрой усё болей псаваўся. Юнак гэта скмеціў.

– Табе што, тут не падабаецца? – і, не чакаючы адказу, прызнаўся: – Шчыра кажучы, мне таксама. Я пры патрэбе ў іншае месца хаджу, на Этрускую вуліцу. Яна адсюль непадалёку. Хадзем!

І ён пацягнуў Архелая за сабою. Пакуль ішлі, юнак не змаўкаў:

– Я гляджу, ты ў гэтай справе зусім недасведчаны. Дык слухай. Самыя шыкоўныя, самыя дарагія гетэры пасвяцца ў тэрмах. А ў корчмах ды бардэлях – большасцю абслугоўваюць правінцыялкі. І каштуюць яны нядорага – не болей як пятнаццаць асаў. А іншая і за два згодная. Гэта ж усяго адзін кубак віна ці праснак. Дарэчы, гетэры і па "спецыяльнасцях" розныя бываюць. Ёсць, напрыклад, булачніцы. Трымаюцца паблізу хлебных крамаў і гандлююць праснакамі – без солі і дражджэй. Яны прызначаныя для прынашэння багам і багіням – Венеры, Ізідзе, Прыапу... І што адметна: праснакі гэтыя маюць форму чэлесаў ці пахваў. Так што калі згледзіш, што дзеўка трымае ў руцэ падобны праснак, дык можаш смела з ёю дамаўляцца. Ёсць яшчэ "плакальшчыцы". Гэтыя сноўдаюць на могілках. А што ты думаў? І да такое жарсці ахвочых нямала... Ёсць "патрыцыянкі". Я назваў бы іх звычайнымі блудніцамі. Маюць багатых мужоў, але ў бардэлі ўсё адно ходзяць, каб свой юр спатоліць. Потым жа зробленыя грошы на храмы ды алтары аддаюць – грахі замольваюць...

Юнак і далей працягваў бы сваю "асветніцкую лекцыю", але яны ўжо ступілі на тую самую Этрускую вуліцу, і Архелай адчуў помесь розных водараў: кветак, ладану, віна, вэнджанага сыру...

– Ну, вось, глядзі, выбірай, – прапанаваў юнак.

І праўда: гетэр на вуліцы было яшчэ болей, чым на Субуры. Яны выглядвалі нават з аконных праёмаў, юрліва пасміхаліся, панадна аблізвалі вусны...

Да розуму Архелая канчаткова дайшло, што ўсе ягоныя спробы знайсці Вірсавію ў гэтай кішме, у гэтым незлічоным скопішчы гетэр і блудніц ніякага плёну не дадуць, хоць ты перабірай іх да астачы жыцця.

– Далей не пойдзем! Я перадумаў... – рашуча мовіў ён і спыніўся.

Спыніўся і юнак, няўцямна ўторкнуўшыся ў яго позіркам.

– Што здарылася?

– Перадумаў, і ўсё.

– Ну, як сабе хочаш... Дарэчы, мы з табою нават не пазнаёміліся. Мяне Эмілем завуць, – ён працягнуў руку. – А ты?

– Архелай.

– А дзе жывеш?

– У гатэлі "Пад мячом".

– А-а, ведаю. Можа, калі-небудзь зазірну. Ты не супраць?

– Ды не, вядома. Буду рады.

– Цябе правесці ці сам дарогу назад знойдзеш?

– Знайду. Я ўсё запамінаў...

– Ну то бывай! Я тут яшчэ трохі пагуляю, – і юнак, махнуўшы рукою, растварыўся ў людской гурме.

## Інтрыгі прэфекта

Будынак, з якога распачыналася Субура, рымляне называлі "домам, дзе вісяць акрываўленыя бізуны катаў". Гэткую нянавісць у іх выклікала

штаб-кватэра гарадскога прэфекта. І не таму, што ўжо каторы год запар прэфекторыю ачольваў жорсткі, неспагадлівы да чужое бяды Катылій Север. Так павялося здавён: гарадскую ўладу жыхары Рыма не любілі ніколі, бо ўсё карнае, дрэннае, бязглуздае ставілі ў правіну прэфекту, а самае прыемнае, відовішчнае, разумнае – у заслугу імператару.

Для Катылія Севера, якому доўгі час давялося кіраваць правінцыяй у Сірыі[1], пасада рымскага прэфекта была, вядома ж, памыснаю. Прынамсі, напачатку. Але паступова, увабраўшыся ва ўладу, спазнаўшы яе смак, Север захацеў большага. А менавіта – стаць імператарам. Балазе, для ажыццяўлення мары акурат з'явіўся шанец...

Тры разы Север таемна пасылаў свайго ліктара да швагра імператара, дзевяностагадовага Сервіяна, перадаючы просьбу, каб ён наведаў прэфекта для важнае размовы. Аднак Сервіян чамусьці запрашэнне ігнараваў, а загадаць такому саноўнаму чалавеку прэфект, безумоўна, не мог.

І вось, нарэшце, Сервіян усё-ткі азваўся на запрашэнне: ліктар далажыў, што ягоныя насілкі набліжаюцца да штаб-кватэры: як член імператарскай сям'і, Сервіян меў права перамяшчацца па вузкіх вуліцах Рыма нават у карэце.

Север наўмысна не паспяшаўся да ўваходу ў прэфекторыю, каб сустрэць знанага сенатара, бо для старонняга вока гэта азначала б, што візіт запланаваны загадзя, прычым самім прэфектам, а Северу хацелася, каб усё выглядала так, быццам сваяк імператара завітаў да яго дабрахоць, па нейкай будзённай справе.

Цяжкаю хадою згорблены, ссівелы сенатар усунуўся ў кабінет, і хоць прэфект, падхапіўшыся з крэсла, з выцягнутымі для абдымак рукамі і шырокаю ўсмешкаю кінуўся насустрач, Сервіян не выказаў узаемнай радасці, хмура запытаўся з парога:

– Што за прыхамаць? Чаму табе гэтак закарцела патрывожыць спакой старога чалавека? А калі ўжо закарцела, дык ці не лепей было мяне ўважыць і самому наведаць мой дом?

– Што ты, сенатар, я бязмежна паважаю і цябе, і тваю старасць! – усклікнуў Север, усё-ткі абхапіўшы рукамі слабыя плечы. – А што сам не завітаў да цябе дадому, дык на гэта, павер, ёсць важкая прычына...

– Што яшчэ за прычына?

Север планаваў пагаварыць аб гэтым пасля нязмушанай балачкі, аднак, калі сам Сервіян адразу ж "бярэ быка за рогі", дык і яму, прэфекту, таксама не след "хадзіць кругамі".

– Тое, што я хачу з табою абмеркаваць, чужыя вушы чуць не павінны. А я не ўпэўнены, што ў тваім доме можна забяспечыць гэтую ўмову...

Сервіян недаўменна ўскінуў бровы:

– Чаму ты так думаеш?

– Ну, у цябе ёсць рабы, прыслуга... Ці мала да якой сцяны або шчыліны яны прыкладваюць свае вушы...

– Магчыма. А ты ўпэўнены, што тут, у прэфекторыі, нямашака такіх жа вушэй?

– Упэўнены, – мовіўшы гэта, Север падышоў да дзвярэй у кабінет, расчыніў іх насцеж і абвёў рукою пакой з прыхаду. – Зірні, тут – нікога. А сцены ў прэфекторыі мураваныя...

---

[1] Не трэба блытаць з военачальнікам Юліем Северам, якога пасля іудзейскага паўстання Адрыян прызначыў праконсулам правінцыі Сірыя-Палесціна.

Ён, шчыльна прычыніўшы дзверы, вярнуўся да свайго груваcткага стала-картыбула, але прысеў не за яго, а за пераносны столік, які на зграбных выгнутых ножках з казлінымі капытцамі прытуліўся побач. За гэты столік Север запрашаў толькі сяброў ды блізкіх людзей, калі размова мела не дзелавы, а інтымны напыл.

Прэфект жэстам запрасіў Сервіяна таксама прысесці, і той, з крэктам уладкоўваючыся ў крэсле, зноў запытаўся:

– Дык хто ж не павінны ведаць змест нашае размовы? Каго ты асцерагаешся?

– Таго ж, каго і ты, – наўпрост выпаліў Север. – Імператара!

– Вось як? Чаму мне трэба асцерагацца ўласнага швагра? Што за таямніца, якую ты збіраешся са мною абмеркаваць? Дарэчы, ад Адрыяна немагчыма нічога ўтаіць увогуле. У яго столькі даносчыкаў... Падобна, і твае мураваныя сцены не засцерагуць... Ты ж, мусіць, чуў калішнюю забаўную гісторыю пра Адрыянавага сябра-спадарожніка, якога ў сваім лісце жонка папракнула ў тым, што, захоплены забавамі і купаннем, ён не хоча вяртацца дамоў. Адрыян праз сваіх таемных агентаў[1] адразу ж аб гэтым даведаўся. І калі сябар прыйшоў да імператара з просьбай, каб той даў яму адпачынак і дазволіў наведацца дадому, Адрыян таксама папракнуў яго ў залішніх забавах і купанні... “Няўжо і табе мая жонка напісала тое ж, што і мне?!” – усклікнуў збянтэжаны сябар... А ты спадзяешся, што ад Адрыяна можна нешта ўтаіць...

Север незадаволена зморшчыў твар:

– Навошта ты мне нейкія байкі пераказваеш? Пра змест нашае размовы імператар можа даведацца толькі ад нас. Але, думаю, гэта не ў тваіх і не ў маіх інтарэсах...

– Не разумею, да чаго ты хіліш.

– А вось да чаго. Не сакрэт, што Адрыян пачувае сябе не надта добра... Хварэе наш імператар – вунь і на людзі ўжо каторы год амаль не паказваецца. Лічы, адышоў ад дзяржаўных спраў. Дый гэта не дзіва: і ў дождж, і ў спёку, і ў слоту па свеце швэндаўся... Адкуль тое здароўе? Так што неўзабаве можа паўстаць пытанне пра імператарскага пераемніка...

– Ты з глузду з’ехаў, прэфект! Ведаеш жа, што Адрыян усынавіў Луцыя Цэйонія Каммода, даўшы яму новае імя – Цэзар.

– Усынавіў... А за якую ласку? За тое, што гэты прыгожанькі перастарак стаў ягоным палюбоўнікам. Трасцу Адрыян наблізіў бы Луцыя да сябе, калі б не загінуў Антыной...

– А вось у гэтым ты памыляешся, ці проста не ведаеш. З Луцыем у імператара была інтымная сувязь яшчэ да таго, як ён упадабаў Антынося...

– Ды якая розніца! Усё адно Луцый дабіўся прыхільнасці Адрыяна цераз ложак! Аболтус... А якое ўшанаванне ён атрымаў пасля ўсынаўлення! Цыркавыя гульні... Народу і войску раздалі грошы... Стаў прэтарам, цяпер, во, консул...

– Як бы там ні было, але менавіта Луцыю наканавана стаць імператарам пасля Адрыяна...

– Не прыкідвайся прастачком! – перабіў Север. – Усім вядома, што Луцый на гэтым свеце, лічы, не жыхар і з дня на дзень перабярэцца ў

[1] У войску служылі фрументарыі — “пастаўшчыкі хлеба”. Першапачаткова гэта быў канвой, які суправаджаў абозы. У легіёнах фрументарыям належала сачыць за салдатамі і выяўляць незадаволеных ці падазроных людзей.

падземнае царства – ва ўсякім разе хутчэй, чым Адрыян. Пра ягонае здароўе мне штодня дакладваюць... Зусім ужо здохлік... Галоўнае ж, што і сам Адрыян зміры́ўся з блізкаю смерцю спадкаемцы. Надоечы ўдалося пабываць у Цібуры, і імператар з адчаем-роспачу сказаў: “Мы страцілі трыста мільёнаў сестэрцый, якія заплацілі войску і народу. Мы абаперліся на даволі хісткую сцяну, якая не тое што дзяржаву, але нават нас з цяжкасцю можа падтрымліваць”. Як табе гэтыя словы? Відавочна, што зараз Адрыян падбірае новага кандыдата на ўсынаўленне...

– І правільна робіць. Імперыя не павінна заставацца без дыктатара ні на хвіліну, прычым ягонае імя трэба ведаць загадзя, інакш, як толькі трон апусцее, на яго паспрабуюць узлезці і жук, і жаба. Такая валтузня пачнецца, такі раздрай, столькі пральецца крыві... А галоўнае – у выніку міжусобнай вайны імперыя затрашчыць па швах, а то і ўвогуле распадзецца...

– Усё гэта так. Але няўжо цябе не хвалюе, хто можа стаць наступнікам Адрыяна? Ходзяць чуткі, што неўзабаве імператар збіраецца ўсынавіць Арыя Антаніна...

– І я гэта чуў. А што, неблагі выбар. Знаны сенатар. Адукаваны, добрапрыстойны. І не смаркач які-небудзь – паўвека пражыў. Разважлівы, мудры. Ва ўсякім разе не наломіць дроў, не насмяшыць увесь свет. Сам прыгадай: калі Рымам правілі сталыя імператары – Ціберый, Клаўдый, Веспасіян, Траян, – усё ішло як след. А што тварылася, калі да ўлады дарываліся “сысункі”? Суцэльны вэрхал. Узяць хоць бы Калігулу ці Нерона...

– Дык і я пра тое ж! Чым больш чалавек пражыў, тым болей у яго мудрасці, каб кіраваць імперыяй. Антанін, вядома, ужо сталага веку, але ж ёсць і старэйшыя за яго, больш дастойныя, каго мог бы ўсынавіць Адрыян...

– І хто ж гэта?

– Ты!

Сервіян недаўменна зірнуў на Севера, а той паспяшаўся патлумачыць:

– Каму, як не табе, стаць пераемнікам? Да таго ж, менавіта цябе Адрыян паважае больш за ўсіх: тры разы прызначаў консулам, хоць ты аб гэтым і не прасіў, усе ведаюць, што імператар толькі табе насустрач выходзіць са свайго пакоя падчас прыёмаў... Так што было б правільна, калі б Адрыян усынавіў менавіта цябе[1]...

– Правільна – не правільна, але ён гэтага ніколі не зробіць, – сумна мовіў Сервіян.

І ў яго былі прычыны для гэтакай высновы...

Вестка аб тым, што імператар Нерва ўсынавіў Траяна, заспела маладога трыбуна Адрыяна ў Дакіі, дзе на той час знаходзілася большасць рымскіх легіёнаў. У войску разумелі: Траян узыдзе на трон з дня на дзень, бо Нерва зусім ужо нямоглы, састарэлы, дзіўна, што ён раней не сканаў... А яшчэ, ведаючы ваяўнічы характар Траяна, у войску радаваліся: наперадзе чакаюць бітвы і агмены, зноўку закіпіць-забурліць застаялая кроў, а заадно будзе чым пажывіцца...

---

[1] З-за таго, што многія імператары не мелі прамых нашчадкаў, практыка ўсынаўлення існавала ў Рыме здавён, і не мела значэння, што “сын” намнога старэйшы за “бацьку”. Проста такім чынам імператар вызначаў свайго наступніка.

Легаты вырашылі, што было б няблага паслаць да Траяна ганца, які першым павіншуе будучага імператара ад імя ўсяго прыдунайскага войска. Каму даручыць такое адказнае і ганаровае заданне? Сышліся на Адрыяне.

Па-першае, гэты малады патрыцый, які ўзначаліў кагорту зусім нядаўна, адмовіўшыся ад цывільнага жыцця, паспеў набыць сярод ваяроў павагу сваёй храбрасцю, цвёрдасцю характару, ён не задаецца, не выказвае ўласнай адукаванасці, трымаецца з усімі на роўных. Да таго ж, выдатна падрыхтаваны фізічна, бо калісь, яшчэ ў юнацтве, захапляўся паляваннем на дзікіх звяроў, хадзіў на іх ледзь не з голымі рукамі. А гэта важная акалічнасць: ганца чакае няблізкі шлях, ажно ў Верхнюю Германію, дзе акурат і знаходзіцца Траян.

Па-другое, не было сакрэтам, што Адрыян даводзіцца Траяну нейкаю раднёю, а найбольш дасведчаныя дык і ўвогуле ведалі ўсю "паднаготную".

Бацька Адрыяна, які меў мянушку Афрыканец, памёр у іспанскім гарадку Італіка, калі хлопчыку споўнілася ўсяго дзесяць гадоў. Пад сваё апякунства яго ўзялі рымскі коннік Цэлій Аттыян і стрыечны дзядзька Ульпій Траян, на той час прапрэтар.

Хлопчык, а затым ужо і юнак, захапіўся культураю грэкаў, пераймаў іхнія звычкі: вывучыў мову, норавы, схільнасці афінянаў, гэтак жа, як яны, спяваў, маляваў, вырабляў скульптуры з медзі і мармуру ўпоравень з Паліклетам і Еўфранорам. Нездарма некаторыя называлі Адрыяна маленькім грэкам.[1]

Дзядзька ставіўся да Адрыяна як да роднага сына, паспрыяў, каб спярша юнака прызначылі дэцэмвірам, які вырашае судовыя справы, а затым і трыбунам другога, "Дапаможнага", легіёна.

Дык і не дзіва, што ў якасці ганца абралі менавіта Адрыяна.

І толькі адзін чалавек гэтаму праціівіўся – Сервіян, муж Адрыянавай сястры Паўліны. Здавалася б, навошта ставіць "палкі ў колы" не зусім чужому чалавеку? А справа ў тым, што першым імкнуўся данесці Траяну віншаванне сам Сервіян, бо разлічваў дабіцца ад Траяна яшчэ большай прыхільнасці і, чаго ўжо крывіць душою, спадзяваўся, што ў аддзяку калі-небудзь Траян, стаўшы імператарам, усыновіць яго самога...

Сервіян паслаў у Верхнюю Германію ад'ютанта з наказам, каб ён любым чынам апярэдзіў Адрыяна, а яшчэ ўпотайкі выправіў услед за афіцыйным ганцом ад войска сваіх людзей – з тым разлікам, што яны ўсяляк будуць замінаць Адрыяну ў падарожжы. Сваю ролю людзі Сервіяна выконвалі спраўна: спярша нечакана зламалася павозка, у якой ехаў ганец, а затым, падчас пераправы цераз раку, Адрыяна і ягонае нешматлікае атачэнне чакала засада, нападнікі перабілі ўсіх коней, так што значную частку шляху да Калоны[2], дзе месцілася рэзідэнцыя Траяна, маладому трыбуну давялося адольваць пешшу. Прыспешвала Адрыяна і тое, што ў дарозе ён даведаўся: Нерва памёр! А гэта значыць, што ёсць магчымасць першым павіншаваць дзядзьку не толькі з усынаўленнем, але і з узыходжаннем на імператарскі трон! І Адрыян ўсё-ткі апярэдзіў Сервіянаўскага ад'ютанта!

Раз'юшаны швагер адпомсціў сваяку як мае быць: пры выпадку распавёў

---

[1] Мянушка "Грэк" захавалася за Адрыянам да канца ягонага жыцця.

[2] Сучасны Кёльн.

Траяну, якое разгульнае жыццё вёў Адрыян у Рыме яшчэ да службы ў войску. Што праўда, то праўда: малады вісус тварыў нямала "подзвігаў", нават залез у даўгі. Дзядзьку, выхадцу з цнатлівай правінцыі, такія паводзіны прыйшліся неўспадоб, ён абурыўся і пачаў ставіцца да пляменніка з недаверам, нават непрыязнасцю, прычым, хоць потым і наблізіў Адрыяна да сябе, так і не прабачыў яму да канца сваіх дзён...

Натуральна, такую непрыемнасць Сервіяна Адрыян не мог забыць ніколі. Зрэшты, ён не стаў помсціць швагру, нават стаўшы імператарам. Наадварот, прылюдна выказваў яму такую пачцівасць, якой не меў ніхто. Аднак жа сам Сервіян адчуваў: стрэмка з душы Адрыяна яшчэ не вырваная...

Пра ўсё гэта Сервіян прэфекту не расказаў, а Север, пэўна, сам і не ведаў, бо ў той час, калі адбываліся згаданыя падзеі, ён знаходзіўся зусім далёка ад уладных вяршыняў.

– Адрыян мяне не ўсыновіць, бо я ўжо адною нагою ў магіле стаю, – сцяўшы сківіцы, мовіў Сервіян. Было бачна, што аб гэтым ён акурат і шкадуе: каму ж не хочацца памерці імператарам...

– А Гальба? А Нерва? Хіба ж яны былі нашмат маладзейшыя за цябе, калі ўзышлі на імператарскі трон? Лічы, і па году не пакіравалі, сканалі, але ў гісторыю ўвайшлі... – усё яшчэ даводзіў сваё прэфект, хоць і без ранейшага імпэту.

– Не, імператарам мне не быць...

Уласна кажучы, Север і чакаў ад суразмоўцы такіх слоў. Ён быў упэўнены, што Адрыян нізавошта не прызнае ў гэтай "порхаўцы" свайго "сына". Ведаў, што і сам Сервіян ужо даўно страціў надзею стаць усемагутным дыктатарам. Таму з гэткім паказушным запалам і падбіваў старога чалавека на імператарства, выказваючы яму сваю ўяўную павагу і адданасць, каб дабіцца ўзаемнай прыязнасці, а потым падступіцца да тае часткі размовы, дзеля якой ён настойліва дамагаўся сустрэчы з гэтым уплывовым чалавекам.

– Шкада, што ты зняверыўся... – скрушна-спачувальна мовіў Север. – Аднак жа, мне здаецца, было б няблага, каб наступнікам Адрыяна ўсёткі стаў не Антанін, а іншы, больш надзейны чалавек. Хто ведае, што ў галаве гэтага Антаніна і як ён падводзіцьме сябе, займеўшы ўладу. А табе ж, мусіць, хочацца дажыць астатнія дні спакойна і злагадна. Дый каб радня клопатаў не мела...

– Не думаю, што Антанін можа зрабіць мне якое-небудзь паскудства. За што? Папярок ягонага шляху я ніколі не стаяў.

– Заракацца не варта. Новая мятла звычайна вымятае ўсё смецце, якое раней не заўважалася...

– І хто ж, па-твойму, не зычыць мне нічога благога?

– А ты яшчэ не здагадаўся? Вось ён – перад табою. Гэта значыць, я, Катылій Север!

– Ты гэта сур'ёзна? – Сервіян зірнуў на яго з недаверам і лёгкаю пагардаю.

– А то як жа! Ва ўсякім разе Антанін мне не раўня. Я ўсё-ткі і правінцыяй пакіраваў, і ў такім вялікім горадзе, як Рым, парадак навёў... Так што вопыту маю ўдосталь. А для цябе, калі выпадзе, казкаю жыццё зраблю. У чацвёрты раз консулам прызначу – такога гонару яшчэ ніхто не меў. Грашыма не абдзялю...

– Пачакай з абяцанкамі. Лепей патлумач, пры чым тут я. Хіба ж ад мяне залежыць, хто стане наступным імператарам?

– Залежыць, яшчэ як залежыць. Хто, як не ты, найболей пераканаўча можа ўвесці ў вушы Адрыяну, што лепшага пераемніка, чым я, Север, у Рыме нямашака...

– Ты памыляешся, бо не ўсё ведаеш... Можа стацца, што маё хадайніцтва прынясе табе не карысць, а шкоду...

– Гэта чаму?

– Доўгая гісторыя... Але павер на слова: будзе лепш, калі тваё імя пры імператары я нават не згадвацьму...

Прэфект спахмурнеў: падобна, гэты стары корч проста не хоча яму паспрыяць. Ніякіх непаразуменняў паміж швагрaмі апошнім часам ніхто не заўважаў. Наадварот, адзін аднаму ў рот глядзяць... Але ж вось не хоча чамусьці гэты дзед бачыць яго, Севера, імператарам. Прэфект падумаў, што дарма ён зрабіў спробу пахеўравацца з Сервіянам: ужо ясна, што дапамагаць не стане, затое цяпер можа напаскудзіць, калі наплявузгае Адрыяну лішняе.

– Я ўсё зразумеў, – суха мовіў Север і ўстаў з крэсла. – Спадзяюся, што пра змест нашае размовы будуць ведаць толькі гэтыя сцены...

– Не сумнявайся, – Сервіян з хрустам у каленях таксама падняўся. – Адрыяну было б неўспадоб, калі б ён даведаўся, што я з кім бы то ні было вяду размовы пра ягонага наступніка. Нават тое, што я ў цябе пабываў, – вялікая для мяне рызыка...

## Ад знаёмства да сяброўства

Браты Эфраім і Манасія распазналі ў Архелаі былога галоўнага ахоўніка Бар Кохбы яшчэ пры першай сустрэчы, калі Акіла паведаміў ім, што вось гэтага раба ён таксама бярэ з сабою ў Рым. Прастакаваты Манасія адразу памкнуўся быў распавесці свайму апекуну, што за “птушку” прыгрэў ён каля сябе, бо Акіла, безумоўна, не мог ведаць, каму прыслугоўваў гэты бяскрыўдны на першы погляд юнак два гады таму. А браты ведалі. Яны хоць і аціраліся ў абозе, збіраючы харчовы аброк з арандатараў зямельных надзелаў, часцей за ўсё прападалі за межамі Ерусаліма, аднак жа і ў Святы горад раз-пораз даводзілася наведвацца. І, вядома ж, белагаловы юнак, які неадступна следаваў за Бар Кохбам, не мог не кінуцца ім у вочы. Праўда, у апошнія месяцы перад здачаю іудзеямі Ерусаліма гэты Архелай некуды прапаў, ва ўсякім разе побач з так званым Месіяй браты яго не заўважалі. Не было яго і ў Бетары падчас асады крэпасці. І вось, бач, аднекуль вынырнуў...

Пра тое, што Архелай проста хаваўся ад праследу, браты нават не чулі, бо “насаліў” ён толькі наймітам, і менавіта яны прагнулі расправы над забойцам сваіх таварышаў.

Калі Манасія толькі заікнуўся Акілу пра мінулае Архелая, хітраваты Эфраім адразу ж тузануў брата за крысо і, гледзячы знізу ўверх, скрозь зубы працадзіў-прашыпеў:

– Замоўкні, прыдурак!

А потым ужо, застаўшыся сам-насам, патлумачыў свайму бязмозгламу сваяку, чаму наконт Архелая ім пакуль што варта трымаць язык за зубамі:

– Ты памятаеш легата, якому мы трапілі на вочы адразу пасля ўцёкаў з Бетара і які пашкадаваў нам кавалка мяса за такія каштоўныя звесткі пра іудзейскую суботу? А ці згадваеш, як ён вызверыўся, калі

мы паведамілі, што атруцілі ваду ў акведуку? Дык пратры свае вочы: Архелай цюцелька ў цюцельку падобны на таго легата. Кім Архелай прыходзіцца таму легату і як ён апынуўся ў іудзейскім лагеры, мы не ведаем. Але што паміж гэтым хлопцам і легатам ёсць нейкая сувязь-повязь – бясспрэчна. І сам Акіла гэта адчувае. Таму і бярэ яго ў Рым, бо хоча займець для сябе нейкую карысць... І пакуль нам няўцям, што наўме ў Акілы, трэба перачакаць, прыглядзецца-прыслухацца... Магчыма, нашыя звесткі пра Архелая будуць для Акілы якраз неўспадоб, і замест пахвалы мы атрымаем ягоную лютасць... Гэта адно. А другое – мы пастаянна трымацьмем Архелая, так бы мовіць, на кручку, шантажуючы тым, што ў любы момант можам выкрыць яго перад гаспадаром. Зразумеў, курыная твая галава?

– Праўду кажаш, – лыпаючы вачыма, пагадзіўся Манасія. – Але ж які ты дальнабачны...

На першым часе браты рабілі спробы пахеўравацца з Архелаем, уціснуцца да яго ў давер, тым болей што і на караблі, і ў гатэлі сквапны Акіла не надта дбаў пра іхні побыт, каб не раскашэльвацца, засяліў у адно памяшканне: хочаш – не хочаш, а давялося і ўдзень, і ўначы месціцца побач, дыхаць адным паветрам. Але Архелай, нутром адчуваючы подлую існасць самарыцянаў, трымаўся з імі адчужана. А ведаў бы ён, колькі паскудства натварылі браты ў Ерусаліме ды Бетары...

Харчаваліся яны таксама асобна. Штодня Акіла выдаваў Архелаю такую мізэрную колькасць сестэрцый, што іх хапіла толькі на лусту хлеба, змочаную ў віне ці проста пасыпаную соллю, жменю алівак і кавалак сыру – гэта раніцай. У полудзень Архелай мог дазволіць сабе пакаштаваць знакамітую італійскую кашу: сумесь пшанічнай мукі, сыру, мёду і яек. А яшчэ – клёцкі з тых жа прадуктаў, пасыпаныя макам. Увечары на астачу грошай Архелай разгавейваўся на скрылічак сала ды салату з капусты, мальвы, шчавелю, рэдзькі. Чаго было ўдосталь, дык гэта часнаку і цыбулі, даступных па кошце для самых збяднелых рымлянаў і рабоў. Усё гэта мелася ў прыгатэльнай карчме.

Эфраім і Манасія спярша таксама спускаліся на першы паверх, каб спатоліць апетыт. А потым, калі ўсё часцей сталі выбірацца ў горад, сілкаваліся ў больш прыстойных харчэўнях, балазе, грошай у іх было ўдосталь.

Аднаго разу яны вярнуліся ў гатэль на добрым падпітку. Цэлы вечар гарлалі песні. Архелай пакуль што трываў. Перад тым, як улегчыся ў ложак, Эфраім раптам запатрабаваў у гатэльнай прыслугі, каб яму прынеслі ражку з гарачаю вадою. Гэта было дзіўна, бо самарыцяне ніколі не мылі ног перад сном, з-за чаго ад іх заўжды патыхала смуродам. А тут Эфраім чамусьці спадобіўся...

Усунуўшы свае адрузлыя ногі ў ражку, самарыцянін уторкнуўся позіркам у Архелая і загадаў:

– Мый!

– Што-о-о? – у Архелая ад такога нахабства ажно адвісла сківіца.

– Мый, кажу, мае ногі!

– За якую такую ласку я павінны пэцкацца аб твае кульцяпкі?

– Таму што ты раб, а я – вольны чалавек!

– Бач ты, поскудзь! Я раб Акілы, і тое ён не прымушае мяне да такога гвалту. А каб я мыў ногі табе... Калі будзеш плявузгаць абы-што, дык я іх у цябе проста павырываю!

– Глядзі, каб табе самому Акіла галаву не адарваў. Думаеш, мы не

ведаем, хто ты? Бачылі, як ты ў Ерусаліме побач з Бар Кохбам гарцаваў! Ягоным першым памочнікам быў! Ды за такое табе месца не сярод рабоў, а на шыбеніцы! Акіла ні пра што не здагадваўся, а мы яму заўтра возьмем дый шапнём... А можам і змаўчаць... Так што мый мае ногі!

Твар Архелая пачаў наліваццa чырванню, а вочы – ярасцю і лютасцю. Бач, паганец! Шантажаваць надумаў! А заўтра і зусім на галаву захоча сесці...

– У-у, гніда! Запалохаць мяне рашыў? Дык на табе! – Архелай у адзін скачок апынуўся побач з Эфраімам, і ягоны досыць ладны кулак увагнаўся ў пульхную шчаку самарыцяніна. Той не паспеў і войкнуць, адкінуўся ўсім целам назад, зачапіўшы нагамі ражку з вадою, якая выплюхнулася на ягонае ж чэрава.

Манасія кінуўся на помач брату, але праз імгненне шалёсткая зубатычына адкінула яго да дальняе сцяны памяшкання.

– А-а! Ратуйце! – нарэшце падаў голас Эфраім, зразумеўшы, што з гэтым маладым жарэбчыкам ім не справіцца, чаго добрага, абодвух пакалечыць, а то і пазабівае – вунь якая раз'юшанасць пырскае з ягоных вачэй.

Пакуль прыбеглі гатэльныя служкі, Архелай паспеў яшчэ прайсціся насакамі па рэбрах Манасіі і пусціць крывавую юшку Эфраіму, выбіўшы ў яго два пярэднія зубы. Служкі павіслі на руках буйнага пастаяльца, неяк суцішылі...

Неўзабаве на парозе з'явіўся і Акіла. Акінуўшы позіркам "рысталішча", ён не стаў высвятляць, з-за чаго адбылося пабоішча, бо для яго не было сакрэтам, што раб і самарыцяне жывуць як сабака з кат*а*мі, і дзіўна, што падобная сутычка не адбылася раней... Акіла толькі і мовіў:

– Ты, – ён паказаў пальцам на Архелая, – з сённяшняга дня будзеш жыць асобна. Хадзем са мною.

Цяжка паверыць, але ні ў той жа вечар, ні назаўтра браты так і не распавялі Акілу, з-за чаго атрымалі ў зубы і па рэбрах. Дый пра што яны маглі расказаць? Пра тое, што Эфраім вымагаў Архелая памыць яму ногі? Дык за гэта можна атрымаць у зубы і ад самога Акілы. Бо хто ён такі, Эфраім, каб распараджацца чужымі рабамі...

Пра іудзейскае мінулае Архелая браты таксама не абмовіліся. Ён, вядома, заслугоўваў помсты, але ў галаве Эфраіма саспела новая ідэя: тое, што Акіла прыгрэў каля сябе аднаго з кіраўнікоў іудзейскага паўстання, пры выпадку можна будзе скарыстаць супраць самога гаспадара...

Перамовіўшыся з уладальнікам гатэля, Акіла засяліў Архелая нават не ў пакой, а ў катух, дзе толькі і хапіла месца для канапы, а ўверсе, пад самаю столлю, свяціўся краёчак акенца – памяшканне знаходзілася ў падвале. Праўда, перш чым пайсці, Акіла абнадзеіў свайго раба:

– Дні два тут параб'ешся, а потым перабярэмся ў мой дом. Купчая ў мяне на руках.

І ўжо з парога, азірнуўшыся, дадаў паблажліва:

– А шкада, што ты таўстапузаму паспеў толькі два зубы выбіць. Можа, каб ты іх усе "пералічыў", дык гэты самарыцянін паменей жор бы...

Архелай хоць і быў у роспачы, але ўсё ж цешыў сабе надзеяй, што яму ўдасца адшукаць Вірсавію ў гэтым бяскрайнім, мітуслівым горадзе. Штодня ён адпрошваўся ў Акілы, блукаў па вуліцах і завулках, аднаго разу нават заблудзіўся і вярнуўся ў гатэль у прыцемках, але пошукі, вядома ж, не прыносілі плёну. Архелай нават спрабаваў прасіць помачы ў

Яхве, прыгадваў нейкія малітвы... Аднак, калі шчыра, задужа набожным ён сябе не лічыў, а ва ўсемагутнасці іудзейскага Бога дык зняверыўся зусім. Вунь як апантана маліліся і Акіба, і Рашбі, дый шараговыя іудзеі, а ўсё роўна Яхве не дапамог ім адужаць рымлянаў. Выходзіць, гэтыя Юпітэр ды Марс валодаюць большаю сілаю, чым Бог іудзейскі. Дый не дзіўна: іх жа, рымскіх багоў, цэлая хеўра[1], а Яхве адзін. Наваліліся на яго кагалам і падужалі...

Праўда, Архелай пакуль што не вызначыўся, як яму ставіцца да Хрыста, якога ўвесь час згадвала Вірсавія. Падобна, ён таксама не самы магутны, бо хрысціян шпыняюць усе каму ўздумаецца – і іудзеі, і рымляне, а Хрыстос сваіх прыхільнікаў абараніць не здалее... Ён, Хрыстос, увогуле нейкі не ваяўнічы, міралюбны, спакойны. Заклікае людзей жыць у міры і злагадзе, не рабіць шкоду бліжняму... Па праўдзе кажучы, Архелай Ягоныя думкі падзяляе, бо сам ніколі без дай прычыны не рабіў паскудства для каго-небудзь іншага, хіба толькі, калі даводзілася даваць здачы. Вядома, няблага было б, каб усе людзі жылі так, як вучыў Хрыстос, але ж гэтага, мусіць, ніколі не будзе, бо адзін сквапны, другі злодзей, трэці чужаложац, чацвёрты ўвогуле прагне чужой крыві... Хіба ж усіх перайначыш? Зрэшты, Архелай бліжэйшым часам усё ж намерваўся памаліцца Хрысту, папрасіць у Яго помачы, тым болей што некаторыя хрысціянскія малітвы заселі ў памяці з тых часін, калі Вірсавія шэптам малілася ў пячоры на беразе Мёртвага мора...

Архелай, амаль паўдня затраціўшы на блуканне па Рыме, прылёг на канапу ў сваім нягеглым катушку, каб пераварыць у галаве ўбачанае. Аднак думкі пайшлі ў іншым кірунку. Чаму ўсё ж Акіла спадобіўся прывезці яго сюды, у Рым? Пра колішнія заляцанні і дамаганні свайго гаспадара да Вірсавіі Архелай, безумоўна, ведаў. Дык, можа, Акіла і спадзяецца з ягонаю дапамогаю знайсці тут Вірсавію? Але ж гэта абсурд. Па-першае, Акіла не ведае, што Вірсавія знаходзіцца ў Рыме, толькі яму, Архелаю, пашчасціла пабачыць яе на Кірмашным полі і даведацца, куды павязуць “самых пекных дзевак”. Па-другое, скуль Акілу вядома, што Вірсавія стала абранніцай Архелая і што іхнія шляхі, іудзея і хрысціянкі, увогуле дзе-небудзь перасякаліся? Падказалі Эфраім і Манасія? Глупства. Не тое што гэтыя аблуды, у Ерусаліме нават блізкія людзі не бачылі Архелая і Вірсавію разам. Нешта тут не складваецца... Мусіць, Акіла ўсё ж прыхапіў яго ў Рым па нейкай іншай прычыне. Па якой? Пакуль што даўмець Архелай не мог, і гэта вярэдзіла ягоны розум, нават трохі насцярожвала...

Пры ўсім пры гэтым Архелай вымушаны быў прызнаць, што Акіла чамусьці ставіцца да яго паблажліва, прынамсі, іхнія стасункі не надта падобныя на адносіны гаспадара з рабом: пашкадаваў, не дазволіў забіць да смерці ў Ерусаліме, не прымушае прыслугоўваць (хаця б мыць тыя ж ногі) і нават дае такую-сякую капейку на харч.

Развагі Архелая парушылі крыкі, якія сталі даносіцца зверху, адтуль, дзе трымальнік гатэля звычайна сустракаў новых пастаяльцаў, як падалося маладзёну, нехта нават называе ягонае імя. Прыслухаўся – і праўда.

– У каторы раз паўтараю: мне трэба Архелай. Малады зусім, высокі... Дык у якім нумары ён жыве?

– А я кажу, што няма ў нас такога. І не тлумі мне галаву, а не, дык загадаю слугам выштурхаць адсюль у карак! – гэты голас, безумоўна,

[1] Галоўнымі багамі для рымлянаў былі: Юпітэр, Юнона, Веста, Марс, Цэрэр, Апалон, Дыана, Нептун, Вулкан, Меркурый, Мінерва, Венера.

належаў гаспадару гатэля. Знаёмым здаўся і голас суразмоўцы. Так і ёсць: гэта ж Эміль, той самы хлапец, які вадзіў яго па вуліцах Рыма. На развітанне ён яшчэ запытаўся, дзе Архелай жыве, і паабяцаў наведацца ў госці. І во, бач, стрымаў слова, хоць Архелай і не разлічваў, што іхняе выпадковае знаёмства будзе мець нейкі працяг.

Архелай падхапіўся з канапы, выскачыў з катуха. Згледзеўшы яго, Эміль дакорліва зірнуў на ўладальніка гатэля:

– Ды во ён, Архелай! А ты кажаш няма, не жыве... Ну, здароў, Архелай! – з выцягнутаю рукой ён памкнуўся насустрач, а затым дык і ўвогуле абняў свайго знаёмца, як быццам яны ведаліся ўсё жыццё.

– Дык які ж гэта пастаялец? Гэта ж раб! – пачуўся ззаду насмешлівы вокліч гаспадара. – Ён нават у мяне не пазначаны...

– Што ты пляцкаеш? Які раб? – Эміль кінуў калючы позірк на гаспадара, а затым перавёў яго на Архелая. – От пустадомак! Сваіх знаных пастаяльцаў запомніць не можа!

Аднак, заўважыўшы на твары Архелая разгубленасць, а яшчэ з-за таго, што той не ўспрыняў словы гаспадара як абразу і не паспяшаўся іх абвергнуць, Эміль недаўменна запытаўся:

– Гэта што, праўда? Ты раб?

Архелай нічога не адказаў, апусціў вочы долу і ўжо стаў паварочвацца, каб сысці, вярнуцца ў свой заняпалы катух. Яму было сорамна. Як гэта ён адразу не даўмеў, што не след яму паказвацца на вочы Эмілю ў другі раз, тым болей у прысутнасці таго, хто ведае ягоны паднявольны статус...

– Пачакай! – Эміль схапіў Архелая за плячо. – Чаму ж ты мне адразу не сказаў? А зрэшты... Гэта няважна. А што, калі і раб? Хіба рабы – не людзі? Людзі! І, можа, нават лепшыя, чым во гэткія, – ён паказаў пальцам на трымальніка гатэля. Той абурана ўзвыў:

– Пагавары мне тут! Як корак, вобмельгам адсюль выляціш!

Аднак Эміль на яго ўжо не зважаў.

– Хадзем пакажаш сваё жытло, – прыязна паляпаў ён Архелая па спіне.

– Ды якое там жытло... – хлопцу зрабілася яшчэ болей сорамна ад таго, што госця давядзецца весці ў катух.

– Гэта тое, што трэба! Сапраўдныя харомы! – ці сур'ёзна, ці жартам усклікнуў Эміль, калі яны апынуліся ў пакойчыку і прыселі на канапу. – Галоўнае – нямашака і не можа быць ніякіх падсяленцаў!

– Падсяленцаў нямашака, а жыву як на рынкавай плошчы. Сцены такія, што чуваць, як на другім канцы гатэля нехта храпе...

– Гэтак? Тады чаго мы тут расселіся? Мне не надта хочацца, каб нашую размову чулі чужыя вушы. Можа, пайшлі пагуляем? Ці табе гаспадар забараняе?

– Не сказаць, каб... Дый некуды з'ехаў ён, мусіць, толькі начаваць вернецца.

– Дык у нас жа немаведама колькі часу! Пайшлі! Заадно і горад яшчэ пакажу...

Спярша яны крочылі ранейшым шляхам, а на Этрусскай вуліцы збочылі ў лагчыну паміж паўночна-заходнім схілам Палаціна і Капітоліем.

– Гэта Велабр, – патлумачыў Эміль. – Колісь і тут, і на месцы Форума, кажуць, было балота. Людзі ў чаўнаках плавалі. А цяпер, во, не праткнуцца...

Як і паўсюль, на Велабры жвава ішоў гандаль, але знаёмцы на яго не

зважалі, дый грошай, падобна, ніводзін не меў. Абодва былі захопленыя размоваю. Зрэшты, большасцю распавядаў Архелай, а Эміль толькі зрэдчас устаўляў у ягоны маналог такія-сякія пытанні.

Пра што расказваў Архелай? Ды пра ўсё сваё ранейшае жыццё. Магчыма, таму, што ён адчуў духоўную еднасць са сваім новым знаёмцам-равеснікам, а можа, з-за таго, што рымляніна зусім не пакрыўдзіла слова "раб" у дачыненні да яго, Архелаю закарцела разгарнуць перад Эмілем душу. Ён распавёў і пра абяздоленае дзяцінства, і пра паўстанне. Калі ж аповед дайшоў да ад'ютанцтва Архелая пры Бар Кохбу, Эміль, падобна, не паверыў сваім вушам.

– Ды ты што? Няўжо праўда? Ды ты ж... ты ж такі чалавек... герой... Калі не хлусіш, вядома...

– А нашто мне хлусіць? Тым болей табе. Якая карысць?

– Яно дык так... Але ж гэта неверагодна! І мне выпала пазнаёміцца з табою...

Пра ўсё, што Архелай распавядаў далей, Эміль слухаў, як кажуць, у чатыры вухі. Чамусьці згадкі Архелая пра Бар Кохбу, пра бітву з Егіпецкім легіёнам яго зацікавілі найбольш.

Тым часам яны мінавалі Каровіны рынак, дзе, як патлумачыў Эміль, калісь гандлявалі жывёлай і аднойчы бугай забег на трэці паверх прылеглай будыніны, што ўсе палічылі дрэннай прыкметай; завярнулі на вуліцу Яромную, якая атрымала такую назву, бо тут жылі майстры па вырабе ярмоў, а яшчэ ўзвышаўся алтар Юноны Югі, у якім людзі злучаліся шлюбным ярмом; па гэтай вуліцы абышлі вакол Капітолія; спусціліся на Капіталійскі ўзвоз, якім заканчвалася Свяшчэнная Дарога.

– Дарэчы, гэты ўзвоз – адзіны шлях, па якім можна дабрацца да Капітолія на павозцы, – уважліва слухаючы, Эміль тады-сяды перабіваў Архелая, каб папоўніць ягоныя веды пра сталіцу імперыі. – Тут падымаюцца калясніцы трыумфатараў і спускаюцца ў даліну Вялікага Цырка – вунь яна, трохі ніжэй – павозкі з выявамі і сімваламі розных бажкоў... Скажы, а чаму ты ў мінулы раз цікавіўся гетэрамі? – зусім нечакана запытаўся Эміль. – Нешта ты не дагаворваеш...

Пытанне збіла Архелая з панталыку, бо ён і праўда пакуль што і словам не абмовіўся пра Вірсавію, палічыў, што ўсё-ткі ранавата раскрываць сваю галоўную таямніцу. Але ж, мусіць, давядзецца, дый няма прычыны замоўчваць...

Пачутае пра Вірсавію, пра іхнія сумесныя пакуты ўразіла Эміля яшчэ болей, чым згадкі пра Бар Кохбу. Ён не мог ачомацца і ўвесь зваротны шлях раз-пораз паўтараў:

– Чаго толькі не бывае на свеце... Як жа я вам спачуваю...

Ужо на падыходзе да Субуры Эміль, зусім пасур'ёзнеўшы, мовіў:

– Цяпер мая чарга спавядацца... Дык ведай, што я таксама раб. Толькі беглы... І мы з табою, можна сказаць, землякі: мае продкі таксама з Дакіі...

Ягоны расповед атрымаўся карацейшым, але не меней трагічным.

Эмілевы бацькі трапілі ў рабства пасля Дакійскае вайны, распачатае Траянам, і гарбаціліся на плантацыях землеўладальніка Папірыя на Сіцыліі. І калі Архелая заняволілі, лічы, дарослым, дык Эміль рабом нарадзіўся. Ён збег ад Папірыя яшчэ малым, дзесяцігадовым, да таго часу бацькі ад цяжкае працы сканалі. Папірый маленькага раба надта не расшукваў: ці многа карысці з дзіцяці? Толькі кармі, а што з яго потым атрымаецца – немаведама...

Да падлеткавага ўзросту Эміль аціраўся на востраве: дзе што скрадзе, дзе што ўварве... Тут ягонае жыццё супадала з Архелаевым амаль адзін у адзін. Калі споўнілася шаснаццаць, прыбіўся да рыбакоў, з паўгода падсабляў ім, з рыбакамі ж трапіў у Рым, дзе і атабарыўся.

З часам сышоўся з гэткімі ж, як сам, абяздоленымі падлеткамі-юнакамі, якіх у вялізным горадзе было процьма. У войска іх не бралі, бо ніводзін не меў рымскага грамадзянства. Паступова Эміль стаў верхаводзіць у досыць шматлікай хеўры – можа, на тры дзясяткі такіх жа маладзёнаў без даху над галавою. Днём усе выпраўляюцца “на промысел”. Інакш кажучы, крадуць дзе што можна. Але не рабуюць! Эміль за гэтым сочыць строга... Ён і горад вывучыў да драбніц, бо штодня даводзіцца бываць у розных месцах, кантраляваць сваіх хаўруснікаў.

Ужо напрыканцы, каля самага гатэля, Эміль, крыху падумаўшы, мовіў:

– А ведаеш, я паспрабую знайсці тваю Вірсавію... Хоць, прызнацца, шанцаў мала. Гетэр у Рыме столькі, што не злічыць... І нават калі падключу да пошукаў усю сваю “армію”, наўрад ці ўдасца ўправіцца. Да таго ж яшчэ немаведама, ці стала Вірсавія гетэраю ўвогуле. Вось ты кажаш, што яна вельмі прыгожая. Дык не выключана, што яе выкупіў хто-небудзь з багацеяў, мовіць так, для асабістага карыстання... Але ж паспрабаваць можна... Ты мне апішы знешнасць Вірсавіі, каб я сваім хлопцам пераказаў.

Архелай, узрушаны тым, што нечакана атрымаў такога дасведчанага памагатага, пачаў падбіраць словы:

– Невысокая... чарнявая... валасы ўвогуле як асмолак... вусны як ружы...

– Э-э, – перабіў яго Эміль, – што гэта за прыкметы? Чарнявых шмат. Ты пра што-небудзь адметнае скажы. Радзімка на шчацэ, шнар на твары...

– Што ты? Які шнар? Анёльскі тварык, ніякімі пісагамі не чэпаны. І радзімак нямашака... Во, ёсць адметная прыкмета! Ні ў кога няма такіх вачэй, як у Вірсавіі! Яе зрэнкі... як бы табе сказаць... быццам выкладзеныя мазаікай. Рознакаляровай, з асобных шкельцаў...

– Што ты нясеш? Якія шкельцы, якая мазаіка? Хіба ж бываюць такія зрэнкі? Ва ўсякім разе я зроду не бачыў.

– І я болей ні ў кога не бачыў! Ні раней, ні потым. Але ж, дальбог, не хлушу!

– Ну, калі так, дык гэта ўжо нешта... Нашыя шанцы павялічваюцца... Заўтра ж азадачу сваіх хлопцаў. Як будзе вынік – паведамлю. Так што да сустрэчы. Спадзяюся – блізкай...

Архелай крыкнуў Эмілю наўздагон:

– Пачакай! А як жа ты мяне знойдзеш? Мой гаспадар купіў сабе дом і праз пару дзён туды перабярэцца...

– Адрас табе вядомы?

– У тым жа й справа, што не.

– Твой гаспадар багаты чалавек?

– Думаю, што не бедны.

– Ну, тады зразумела: багацеі звычайна скупляюць дамы ці на Субуры ці на Патрыцыянскай вуліцы. Як завуць твайго гаспадара?

– Акіла.

– Не хвалюйся, знойдзем. Бывай!

Калі Архелай ужо расчыняў дзверы гатэля, яму чамусьці прыгадаўся Нахум...

## Сенатар Гней

Дом былога легата Гнея месціўся на самай ускраіне Рыма, можна нават сказаць, за ягонымі межамі, бо далей ужо наўсцяж туліліся адна да аднае несамавітыя сялянскія пабудовы ды стракаціліся сады і палеткі. Хоць імперыя няблага плаціла сваім салдатам, а тым болей камандзірам, у Гнея ўсё адно не хапіла грошай, каб купіць прыстойнае жытло ў самім горадзе. Да таго ж, варта было прыберагчы сродкі на астачу жыцця.

Зрэшты, Гней і не імкнуўся трапіць у вірлівую цэнтральную частку Рыма, паблізу Форума ці Палаціна, дзе з ранку да вечара не змаўкалі гул і гамана. Пасля бясконцых агменаў і бітваў, суровага салдацкага побыту яму хацелася цішыні, спакою і хоць трохі ўтульнасці і дабрабыту. І гэты дом, куплены ў землеўладальніка Глера за не надта вялікі кошт, акурат адпавядаў ягоным жаданням.

Сядзіба нагадвала прамавугольнік, абкружаны пабудовамі, якія цесна прылягалі адна да аднае, утвараючы вакол двара суцэльную сцяну, перарваную толькі там, дзе былі ўваход і ўезд. Над дваром, які меў назву атрый, навісаў дах, падпёрты каланадаю. Цераз праём у даху ў атрый трапляла дзённае святло.

Засяліўшыся, Гней перарабіў дом на свой манер. Да атрыя быў дабудаваны перыстыль, абапал якога жылі ў сваіх пакоях насельнікі дома і гатавалася ежа. Перыстыль таксама быў пакрыты дахам з праёмам, а на адкрытай прасторы пад сонечнымі промнямі буялі-красаваліся невялікі садок і кветнік. Гэтае месца Гней любіў найболей.

Звыклы да ранняе салдацкае пабудкі, ён не мог сябе перайначыць, падымаўся, калі сонца яшчэ не вынырвала з-за акаёму, а лёкай-дзяншчык Дыадор і рабыня, якія даглядалі ўсю гаспадарку, не прачнуліся. Гней ставіўся да гэтага паблажліва, не прымушаў іх успорвацца з ложкаў разам з ім ці нават раней. Ён звыкла ішоў у перыстыль, дзе з асалодаю бавіў свой час ажно да полудня.

Паўсядзённаю забаваю сталі для Гнея дэкаратыўныя расліны і кветкі. Ён сам іх пасадзіў, сам і даглядаў, на давяраючы гэта ні Дыадору, ні служцы-рабыні, хоць без правае рукі ўвіхацца было не надта спадручна. Усю плошчу перыстыля, аздобленую фантанамі і бронзавымі статуэткамі, пакрываў рознакаляровы дыван з раслін і кветак. Тут былі алоэ, плюшч, тамарыкс, мірт, трыснёг, стакроткі, просты і махровы мак, ліліі, шпажнік, нарцысы, ірысы, мальвы... І ледзь не кожную кветачку ці сцяблінку Гней штодня песціў-гладзіў шурпатаю даланёю, перабіраў каструбаватымі пальцамі. Гэты занятак прыўносіў у ягоную душу злагаду і спакой.

Калі па праўдзе, Гней мог бы знайсці для сябе і іншы занятак: з вялікае ласкі і пры падтрымцы імператара яго абралі сенатарам. Пасада хоць і надавала вагу асобе былога легата, але сам ён ставіўся да сваіх новых абавязкаў пагардліва-абыякава і наведваў Сенат гады ў рады. Дый навошта яму пустая балбатня ў пыхлівай зале? Гней цалкам быў згодны з Тацытам[1], які яшчэ дваццаць гадоў таму слушна выказаўся пра ролю Сената пры імператарскім дыктаце: “Цяпер свабода слова абмежаваная судовым красамоўствам. Аб прасторы, якою карысталіся прамоўцы часін Цыцэрона і Варрона, няма чаго і думаць... Якая патрэба ў шматслоўных прамовах, што гучаць у Сенаце, калі ўсе добранамераныя адразу ж прыходзяць да згоды? Навошта

[1] Гісторык і пісьменнік (55-120 г.н.э.).

цяпер народныя сходы, калі дзяржаўныя справы абмяркоўваюць не невукі і шматлікі натоўп, а самы мудры і адзін?" І сапраўды: Сенат, не тое што пры рэспубліканскім ладзе, стаў дэкаратыўным дадаткам да бязмежнай улады імператара, які сваімі эдыктамі перакрэсліваў, перайначваў усе законы...

Вось і ў гэты дзень Гней калупаўся-корпаўся ў перыстылі, паспеў пасадзіць "дамаскія ружы", а потым пачуў вінаваты голас Дыадора, якому, відавочна, не хацелася адрываць гаспадара ад любімае справы:

– Там чалавек прыехаў... Калі меркаваць па павозцы, дык заможны... І апрануты шыкоўна...

– Ён назваўся? – разагнуўшы спіну, незадаволена буркнуў Гней.

– Нейкі Акіла...

– Акіла?! – перапытаў-усклікнуў Гней, спярша не тоячы здзіўлення, а затым ягоны твар зрабіўся змрочным. – Ты сказаў, што я дома?

– Так...

Падумаўшы-паразважаўшы хвіліну-другую, Гней, нарэшце, мовіў:

– Правядзі яго ў атрый. Няхай пачакае. Скажы, што я хутка падыду.

Каго-каго, а Акілу ў сваім доме Гней ніяк не разлічваў убачыць. Якім ветрам яго сюды прынесла? Што ён увогуле робіць тут, у Рыме? Чаму яму закарцела сустрэцца з ім, Гнеем? Паміж галоўным забудоўшчыкам Ерусаліма і легатам ніколі не было ўзаемнай прыязнасці, тым больш апошнім часам, калі Гней даведаўся, што менавіта Акіла "наслаў" мор на Ерусалім і прылеглыя да яго мястэчкі. Ці ж гэта па-людску? Нічога, акрамя агіды, Гней да Акілы не адчуваў.

Гней падставіў запэцканую руку пад струмень фантана, які біў з рота мармуровае статуі Геркулеса, выцер яе ручніком, навешаным у нішы, выкладзенай мазаікай і ракавінамі, і пакрочыў у спачывальню, каб пераапрануцца – не варта паказвацца на чужое вока ў будзённай адзежы. Служка-рабыня ўжо чакала яго каля ўваходу ў спачывальню – без ейнай дапамогі Гней апрануцца не мог.

– Сенатарскую туніку, – коратка мовіў Гней, і рабыня паспешліва паднесла да яго доўгую кашулю з кароткім рукавом, які не дасягаў локця адзінай рукі. Спераду, ззаду і па баках туніку аздаблялі шырокія пурпуровыя палосы – сенатарская пазнака. Рабыня стала на дыбачкі і цераз галаву і шыю нацягнула на цела Гнея ваўняную тканіну, сшытую з дзвюх полак. На правым плячы яна сашчапіла тканіну засцежкай, а затым, абхапіўшы туніку поясам, стала абтузваць так, каб яна спусцілася трохі ніжэй каленяў. Спускаць адзежу яшчэ ніжэй мужчынам не належала, гэта было "па-жаноцку", а задзіраць яе вышэй, "насіць, як цэнтурыёны" ў адукаванай рымскай суполцы лічылася непрыстойным[1]. І хоць Гнею, як існаму ваяру, усё жыццё даводзілася насіць туніку менавіта "па-цэнтурыёнску", цяпер ён змушаны быў падпарадкавацца бязглуздым, на ягоную думку, правілам рымскай знаці.

Прыдбаўшы самавіты выгляд, Гней няспешна патупаў у атрый.

Колісь, калі Італія была яшчэ рэспублікай, гэты пакой лічыўся самым галоўным у доме любога рымляніна. Сюды сыходзілася ўся сям'я, каб паснедаць ці павячэраць, заняцца хатнімі справамі, пасядзець у вольны час, тут прыносілі ахвяры Ларам[2]. У атрыі стаяў і ткацкі станок – неад'емны прадмет любога рымскага дома. Дый увогуле пакой лічыўся "царствам гаспадыні", дзе яна з дочкамі і служкамі прала, ткала, вышывала.

---

[1] Слова "цэнтурыён" мела такое ж пагардлівае значэнне, як сёння "салдафон".

[2] Старажытнарымскія багі ў выглядзе двух юнакоў у сабачых шкурах, якія апекавалі дом, сям'ю.

Пасля таго, як у дамах пачалі з'яўляцца перыстылі, атрый ператварыўся ў парадную, афіцыйную гасцёўню. Ткацкі станок адсюль прыбралі, бо ў рымлянаў знікла патрэба ў "занятках воўнай", ежа гатавалася на кухні, туды ж перанеслі і нішу для ахвяраванняў Ларам.

Акіла сядзеў спінаю да перыстыля і таму не заўважыў, а пачуў, што ў атрыі з'явіўся гаспадар, ускочыў з крэсла і, выцягнуўшы наперад абедзве рукі, падаўся яму насустрач, удаванаю ўсмешкаю выказваючы радасць ад сустрэчы. Гней позіркам паказаў на сваё абкарнанае правае плячо, тым самым моўчкі патлумачыўшы, што ён не можа паўтарыць жэст Акілы, а леваю рукою здароўкацца неспадручна.

Яны прыселі за картыбул – выцягнуты ўдоўжкі стол-пліту, якая трымалася на чатырох ножках у выглядзе львіных лап. Па краях пліта была аздобленая барэльефам вінаграднай лазы над грыфонамі, пасярэдзіне ж на высокай падстаўцы месціўся кратэр, у якім дзве статуэткі аголеных юнакоў з усіх сіл цягнулі ўніз вялізную вінаградную гронку. Картыбул, бадай, быў цяпер адзіным прадметам ва ўсім атрыі, дзе Гней прымаў наведвальнікаў. А глыбокая ніша, якая для колішняга гаспадара служыла спачывальняю, стала цяпер таблінам – нечым накшталт завешанага фіранкаю кабінета Гнея, дзе ён захоўваў дзелавыя паперы і афіцыйныя дакументы.

Каб лішні раз падкрэсліць сваю блізкасць да імператара, надаць уласнай асобе велічы і пыхлівасці, Акіла адразу ж мовіў:

– Калі б не Адрыян, я нізавошта не знайшоў бы тваё жытло. Гэта ён мне падказаў, у якую глухмень ты забраўся. Няўжо не мог знайсці штосьці лепшае? Я вунь на Патрыцыянскай вуліцы сабе дом прыдбаў...

– Мне і тут няблага, – суха азваўся Гней.

– Але ж не па сане. Сенатар усё-ткі... Дарэчы, і пра тваё сенатарства мы з імператарам гаманілі. Адрыян табою задаволены. Сказаў, што, у адрозненне ад некаторых, не гарлапаніш, не высоўваешся дый увогуле ў тым Сенаце цябе амаль не відно... І правільна! Няма сэнсу пляцкаць языком, калі ў імперыі ёсць адзіны гаспадар... Дарэчы, Адрыян наогул ставіцца да цябе паважліва. Сказаў, што ты лепшым легатам у войску быў...

Гней змаўчаў. Ён чакаў, калі Акіла, нарэшце, выкажацца, з якою нэндзаю прыпёрся на далёкую ўскраіну Рыма. Галоўны забудоўшчык зразумеў запытальны позірк былога легата і патлумачыў:

– Ты не думай, мне ад цябе нічога не трэба. Імператар адклікаў мяне з Ерусаліма – для нас з табою ён па-ранейшаму Ерусалім, а не Элія Капіталіна, ці не так? – быццам бы на адпачынак. Але ў мяне ёсць прадчуванне, што гэты адпачынак можа зацягнуцца на гады... У Адрыяна мала сяброў, і ён хоча бачыць мяне побач з сабою... – Акіла мімаходзь, быццам бы незнарок, зноўку нагадаў пра значнасць сваёй асобы. – Так што, магчыма, стану я паўнапраўным жыхаром Рыма. Увесь жа час з імператарам бавіць не будзеш, а ў горадзе, лічы, у мяне знаёмцаў нямашака. Трэба ж наладжваць нейкія сувязі...

– У гэтай справе я табе не памочнік, – перабіў Акілу Гней. – Як бачыш, сам жыву пустэльнікам. Мае сябры даслужваюць у войску, а з тымі, што засталіся ў Рыме, у мяне цяпер мала агульнага...

– Ды я не пра тое! Мы ўсё-ткі столькі часу правялі разам, у гэтай праклятай Іудзеі! Хіба ж нам няма чаго ўспомніць, штосьці прыгадаць?..

Тут Акіла не крывадушнічаў. Хай сабе яны з Гнеем і былі зусім рознымі людзьмі, але самы хцівы, з гнілою душою чалавек з павагаю ставіцца і, можа, нават зайздросціць таму, хто не згінаецца, не ліслівіць, у любых

абставінах цвёрда стаіць на сваім. Менавіта такім Гней выглядаў у вачах Акілы – чаго вартыя толькі ягоныя бескампрамісныя адносіны з прапрэтарам Цінеем Руфам. А калі дадаць адмысловую ваярскую годнасць, дык Гней увогуле быў для Акілы ўзорам сапраўднага рымляніна, і яму хацелася зблізіцца з ім – нават не з нейкаю карысліваю мэтаю, а проста так, пачалавечы. Бо каму ж не хочацца мець побач з сабою сябра, які ніколі не пакіне ў бядзе і не здрадзіць? Што праўда, то праўда: у Ерусаліме Акілу не ўдалося дабіцца ад Гнея прыязнасці, уцерціся да яго ў давер, хоць ён і імкнуўся зрабіць гэта, як мог. Акіла спадзяваўся, што ўжо тут, у Рыме, яму ўдасца знайсці паразуменне з Гнеем, бо самае горшае, самае непрыемнае з часам забываецца, сціраецца – такая ўжо ўласцівасць чалавечай памяці, застаецца толькі шчымлівая настальгія па тых падзеях і часе, у якіх ты пакінуў часцінку свайго жыцця...

Уласна кажучы, па гэтай прычыне Акіла і раба Архелая спярша забраў на Кірмашным полі, а потым выкупіў яго ў імперыі, аберагаў ад смерці ці знявечання, разгледзеўшы ў ім неймавернае падабенства з легатам. Акіла падсвядома адчуваў, што такое падабенства не можа быць выпадковым. Падчас шматлікіх агменаў ці стаянак ніякі легіянер, нават такі добрапрыстойны, як Гней, не мог абысціся без жаночае пяшчоты (хоць агульнавядома, што для спатольвання салдацкае жарсці пры кожным легіёне трымалі коз ці авечак) і, пэўна, у маладосці недзе “наслядзіў”... Так гэта ці інакш, але Акіла разлічваў, што ў любым выпадку Гнею будзе прыемна сустрэцца са сваім двайніком, хай сабе і значна маладзейшым. Галоўны забудоўшчык Эліі Капіталіны быў упэўнены, што ягонае знаходжанне ў гэтым горадзе – не вечнае, што рана ці позна ён перабярэцца ў сталіцу імперыі і там іхнія з Гнеем шляхі абавязкова перасякуцца...

Акіла вырашыў не браць Архелая на першую сустрэчу з наваспечаным сенатарам: спярша хацеў пабачыць, як успрыме яго Гней цяпер, у новых абставінах, незалежна ад “двайніка-падарунка”. На жаль, былы легат хоць і не адмовіўся ад сустрэчы, але прывячае яго без асаблівага імпэту...

Аднак жа пакуль Акіла спрабаваў выклікаць у Гнея настальгічныя пачуцці, той зрабіў некаму лёгкі знак рукою, і неўзабаве з перыстылю выйшла рабыня. У адной руцэ яна трымала чашу з вінаградам, упрыгожаную фрызам з фігурамі жывёлаў і раслін, у другой – нізканогі кубак, аздоблены рэльефнымі фігуркамі амураў і вакханак.

– Гэта тваё любімае фалернскае – кіўнуў на кубак Гней, здзівіўшы Акілу тым, што былы легат не забыў, якому віну ён аддае перавагу.

Рабыня падышла да Акілы са спіны, і спярша ён не звярнуў на яе ўвагу (дый ці належыць знанаму чалавеку засяроджвацца на нейкіх рабынях?), а калі яна нахілілася, каб паставіць на картыбул чашу і кубак, усё ж кінуў на дзяўчыну позірк і ў тое ж імгненне голасна ўсклікнуў:

– Вірсавія?! Ты?!

Дзяўчына здрыганулася ўсім целам, таксама зірнула на госця, і ногі яе падкасіліся, яна, відаць, знепрытомнеўшы, пачала асядаць на падлогу. На шчасце, Гней, які яшчэ не страціў ваярскі спрыт, паспеў імкліва ўскочыць з крэсла і адзінаю рукою падхапіць тоненькае цельца – інакш дзяўчына вытнулася б галавою аб мармуровую пліту.

– Дыадор! Сюды! Хутчэй сюды! – на ўсю моц свайго голасу галёкнуў Гней, і дзяншчык, па-старэчы шаркаючы нагамі па падлозе, адразу ж выбег з перыстылю – як быццам чакаў, што яго ў любы момант пакліча гаспадар.

Дыадор перахапіў нерухомае цела з рукі Гнея.

– Нясі ў спачывальню! Хутчэй! – устрывожана загадаў Гней, і дзяншчык зноўку зашаркаў падэшвамі. Гней подбежкам рушыў за ім, не зважаючы на госця.

Пакуль Дыадор беражліва ўкладваў дзяўчыну на ложак, сам гаспадар завінуў да фантана, напоўніў кубак вадою і стаў пырскаць яе на застылы твар рабыні.

– Вірсавія, што здарылася? Вірсавія, ачуняй! – умольваў-прасіў ён, і, нарэшце, векі дзяўчыны расплюшчыліся.

– Гэты чалавек зрабіў табе нешта благое?

Вірсавія нічога не адказала, толькі злёгку кіўнула галавою.

Гней не стаў дакучаць рабыні падрабязным роспытам – гэта можна зрабіць пазней.

– Ты паляжы, адпачні, а я пакуль скончу размову з гэтым чалавекам, – ласкава сказаў Гней і, звяртаючыся да Дыадора, дадаў: – Не адыходзь ад яе, пакуль я буду адсутнічаць.

Акіла, вядома ж, дачакаўся гаспадара, які заспеў госця ўсхваляваным, узрушаным.

– Гэта твая рабыня? – таропка запытаўся Акіла, свідруючы Гнея масляністымі вочкамі.

– Так...

– Прадай яе мне! Любыя грошы заплачу!

Гней паласнуў па ім знішчальным позіркам.

– Ты вось што... Прэч адсюль! Не ведаю, якое паскудства ты зрабіў Вірсавіі – пэўна ж, яшчэ там, у Ерусаліме, – што яна ад аднаго твайго выгляду самлела. Ад цябе нічога слухаць не хачу, яна потым мне сама раскажа...

– Гней, ты што? – напраўду здзівіўся Акіла. – Гэта ж рабыня! Быдла! Больш за тое: яна хрысціянка! Я гэта дакладна ведаю. А ейны бацька быў нават епіскапам ерусалімскіх хрысціян!

– Ну і што? Рабыня – хіба не чалавек? І хрысціяне таксама людзі...

– Ты гэта сур'ёзна? А можа, і сам прыняў іхнюю веру? Наколькі мне вядома, пасля іудзейскае вайны імператар ужо не ставіцца паблажліва да тых, хто не прызнае нашых багоў...

– Якім багам я малюся, гэта не твая справа! І ўвогуле: у мяне болей няма ні жадання, ні часу на размовы з табою. Ідзі! – і Гней паказаў рукою на выхад з атрыя.

Нехаця падымаючыся з крэсла, Акіла зыркнуў на Гнея з-пад ілба і скрозь зубы працадзіў:

– Ты яшчэ аб гэтым пашкадуеш... Будзеш валяцца ў маіх нагах, а я, магчыма, і не злітуюся... Так што да наступнай сустрэчы!

– Ніякіх сустрэч з табою я болей не планую.

– А давядзецца...

Ужо седзячы ў каруцы, Акіла падумаў, як жа добра ён зрабіў, што на гэтую сустрэчу не прыхапіў Архелая. Дурань, хацеў аддаць Гнею раба задарма, толькі для таго, каб дабіцца ягонай прыхільнасці. Да д'ябла тая прыхільнасць! Вірсавія – вось што цяпер патрэбна яму ад Гнея. І Архелай у будучай угодзе можа стаць ягоным галоўным козырам...

Мусіць, толькі з Божае ласкі жыццёвыя шляхі Гнея і Вірсавіі некалі сышліся ў адным пункце.

Пасля няўдалай ампутацыі рукі рана доўга не зажывала. Адно, што ў Іудзеі на той час не было прыстойных лекараў, а другое – загойванню перашкаджала пякельная спёка. Наспела патрэба далечвацца ў Рыме, дзе і клімат лагоднейшы, і лекары лепшыя. Да таго ж, вяртання Гнея ў сталіцу запатрабаваў сам імператар.

Замінала толькі адно: хоць іудзейскае паўстанне сышло на нішто, флот па-ранейшаму дзяжурыў у сірыйскіх водах, не маючы загаду пакінуць свае пазіцыі. Так што з Іоппіі ў Рым адчальвалі толькі гандлёвыя судны. Плысці на іх – і марудна, і небяспечна, не тое што на ваенных караблях. Але выбару не было, бо чакаць, пакуль скончыцца блакада, – яшчэ горш.

З сабою ў дарогу Гней узяў ветэрана Русціка, у якога акурат сышоў тэрмін службы і якому таксама карцела патрапіць у Італію, дзе ў прадмесці Салоны дажывала свой век ягоная састарэлая маці. Русціку належала даглядаць легата падчас падарожжа, падсабляць яму пры любой патрэбе. Зрэшты, Юлій Север прапаноўваў Гнею ў помач ажно трох ветэранаў, аднак легат рашуча адмовіўся: ён хоць і паранены, але ж не дзіця, каб мець такі пільны догляд...

На тым жа судне буйны гандляр рабамі Фантыкул перапраўляў з Іудзеі ў Рым чарговую партыю "тавару", прычым элітнага: то былі адборныя, найболей маладыя і пекныя рабыні-яўрэйкі, якіх Фантыкул спадзяваўся з вялікаю выгодаю перапрадаць ў самыя шыкоўныя лупанарыі. Па гэтай прычыне ён вырашыў суправаджаць "тавар" асабіста.

Караблекрушэнні на той час былі звыклаю з'яваю, і судна, на якім плыў Гней, таксама трапіла ў моцны шторм. Русцік паспеў прывязаць Гнея да карабельнай мачты, так-сяк накінуў вяроўку і на сябе. Мора кідала судна, як трэску. Бурапенныя хвалі змывалі з палубы нават спрактыкаваных весляроў-матросаў, што ўжо казаць пра юных рабынь – большасць з іх апынулася ў царстве Нептуна. Адна з марскіх хваляў змыла-праглынула і Русціка.

Гней ацалеў. Гэтак жа, як і Фантыкул. Затое ад ягонае дзявочае хеўры засталося ўсяго пяцёра дашчэнту запалоханых істот, выратаваных толькі дзякуючы Богу, бо ніхто іх да мачты ці да чагосьці іншага не прывязваў.

Судна адолела толькі палову шляху, востраў Крыт, дзе можна было б ачомацца ад марское навалы, застаўся далёка ззаду, вяртацца туды не было сэнсу, і капітан вырашыў, што лепей усё ж дабірацца да Італіі, у горшым выпадку – да Грэцыі. Амаль без весляроў, толькі на адным ветразі, плысці належала доўга...

У Гнея становішча было крытычным. Без памагатага, з адною рукою, цяпер ён сапраўды пачуваўся як дзіця. Да таго ж, незагоеную рану стала раз'ядаць марская соль.

Легат змушаны быў папрасіць помачы ў Фантыкула:

– Хай бы хто з тваіх дзевак мне падсабляў... Хаця б рану прамыла кіпенем...

Фантыкул не адмовіў, нават успрыняў просьбу з імпэтам, бо ведаў, хто такі Гней, і спадзяваўся, што ягоная паслуга знаным чалавекам не забудзецца...

Гандляр падышоў да купкі дзяўчат, якія ці то ад холаду, ці то ад страху шчыльна туліліся адна да аднае, і тыцнуў пальцам на тую, што сядзела бліжэй:

– Як цябе завуць?

– Вірсавія...

– Дык вось, Вірсавія, пакуль будзем плысці, ты даглядацьмеш вунь таго чалавека без рукі. І каб ні на крок ад яго не адыходзіла, любую прыхамаць выконвала! Зразумела?

– Зразумела...

Ведаў бы Фантыкул, з якою радасцю ўспрыняла Вірсавія ягоны загад! З першага дня яна скмеціла, якое неверагоднае падабенства мае гэты сталы і, па ўсім бачна, вельмі паважаны ваяр з ейным Архелаем. Ну проста кропелька ў кропельку, калі не ўлічваць узрост! Архелай, у якога ад Вірсавіі не было ніякіх таямніц, безумоўна, распавёў ёй і пра тое, што некалі малады рымскі цэнтурыён згвалтаваў ягоную маці і праз пэўны тэрмін нарадзіўся ён, Архелай, – пра гэта яму паведала бабуля Алума. Дзявочае сэрца падказала, што чалавек з адною рукою – і ёсць той самы цэнтурыён, сапраўдны бацька Архелая...

Безумоўна, Вірсавія не магла без дай прычыны падысці да гэтага знанага рымляліна і расказаць пра ўсё, што ведае. Бо хто яна такая? Рабыня! Дый ці паверыць рымлянін ейным словам? Нізавошта!

Аднак жа толькі тое, што хоць на нейкі час, пакуль карабель плыцьме да Рыма, яна будзе падсабляць бацьку Архелая, кожную хвіліну знаходзіцца побач з ім, акрыліла Вірсавію.

Ніводная сядзелка, ніводная маці так не апекуе, так не дбае пра сваё дзіця, як Вірсавія дагаджала Гнею. Яна сапраўды не адыходзіла ад рымляніна, і калі ноччу ён варочаўся ці нешта ўсклікваў у сне, Вірсавія падхоплівалася, бегла да яго...

Гней, вядома ж, заўважыў, з якою ўвагаю, пяшчотаю і нават самаахвярнасцю ставіцца да яго маладая і надзвычай прыгожая рабыня. Магчыма, менавіта тады ў ягоным салдацкім сэрцы варухнулася нешта незразумелае, дагэтуль не знанае...

Яны шмат размаўлялі, зрэшты, Вірсавія болей маўчала, распавяла толькі пра свайго бацьку, пра Гідона дый увогуле што-кольвеч пра хрысціянскую суполку. Згадала і Архелая. Нават прызналася, як моцна яны адно аднаго кахаюць... Вірсавія не заўважыла, што пры гэтых словах твар слухача чамусьці крыху пацямнеў, азмрочыўся...

Аднак жа, нават зблізіўшыся, Вірсавія і словам не абмовілася пра падабенства Архелая і Гнея, а тым болей не выказала здагадку пра іхнюю роднасць. Яна нават дала сабе зарок, што ніколі, ні пры якіх абставінах не паведае легату гэтую праўду, бо немаведама, як ён да яе паставіцца. Каму ж прыемна згадваць свой грэх, усведамляць, што сын у цябе нарадзіўся не ад вялікай любові, а ў выніку твайго гвалту?..

Гней звычайна таксама быў скупы на словы, але побач з гэтаю прыгажуняю яго як прарвала: гаманіў і гаманіў. Зрэшты, што цікавае ён мог расказаць маладой дзяўчыне? Што ён бачыў у сваім жыцці, апрача крывавых бітваў ды салдацкага лагернага побыту? Тым не меней Вірсавія слухала яго з зачараваннем...

Калі судна ўжо ўвайшло ў рэчышча Цібра і на даляглядзе паказаліся абрысы Рыма, Гней паклікаў Фантыкула і папрасіў:

– Прадай мне гэтую рабыню.

Фантыкул хоць і ставіўся да легата паважліва, аднак, як і належыць гандляру, адчуў, што можна сарваць ладны куш, таму, адводзячы позірк убок, вінавата мовіў:

– Сам бачыш, колькі дзевак у мяне засталося пасля таго шторму...

Такія грошы патраціў... Каб хоць напалову кампенсаваць страты, астатніх давядзецца прадаваць па завышанай цане...

– Я з табою гандлявацца не буду! – перабіў яго Гней. – Плачу за Вірсавію як за траіх рабынь! Досыць?

– Лічы, што яна твая!

Пазней, калі Гней ужо прыдбаў дом у прадмесці Рыма, да яго прыбіўся і Дыадор.

Без чалавека, які даглядаў бы немалую сядзібу, абысціся было немагчыма, і Гней намерваўся купіць раба, а можа, нават і двух, ды неяк яму на вочы трапіўся не зусім састарэлы жабрак, які прасіў міласціну непадалёку ад Форума. Хоць і не адразу, але Гней пазнаў у ім колішняга шараговага легіянера сваёй другой кагорты (памяць у легата была ўчэпістая, кожнага салдата ён ведаў у твар і па імені).

– Дыадор, што ты тут робіш? – здзівіўся Гней. – Жабруеш? А куды ж падзеў грошы за службу?[1]

Ветэран-жабрак, згледзеўшы свайго былога легата, адразу ж зніякавеў, апусціў вочы долу – яму было сорамна.

– Камандзір... так склалася... Ляснуліся мае грошы, давялося прадаць і зямлю... Хацеў сваю справу адкрыць ды прагарэў...

– Не ты першы, – Гней спагадліва паляпаў Дыадора па плячы.

І сапраўды: многія ветэраны, адвыклыя ад цывільнага жыцця, неўзабаве пасля адстаўкі страчвалі ўсё атрыманае багацце, даходзілі да галечы.

У наступную хвіліну Гней падумаў, што, няйнакш, сам Марс, іхні вайсковы бог, паспрыяў, каб адбылася гэтая сустрэча. Можна і сваю патрэбу вырашыць, і дагадзіць Дыадору. А ён (легат гэта добра памятаў) быў ваяром разважлівым, самавітым. Такі і гаспадарку мог бы весці спраўна.

– Дыадор, у мяне ёсць прапанова. Не варта табе, заслужанаму ветэрану, стаяць з працягнутаю рукою. Ідзі служыць да мяне. Я акурат прыкупіў дом, і мне патрэбны чалавек, які б сачыў у ім за парадкам. А ты гаспадарлівы... Плаціць табе не буду, але жытлом ды ежаю-адзежаю забяспечу да астачы дзён. Ва ўсякім разе гэта лепей, чым галодным туляцца па сметніках...

Ці трэба казаць, што прапанову Гнея Дыадор успрыняў з радасцю.

Вось так і зажылі яны ўтрох – Гней, Дыадор і Вірсавія. З часам адзін да аднаго прывыклі, зблізіліся, нібы раднёю пачуваліся, дарма што Вірсавія была рабыняю.

У кожнага ў доме меліся свае абавязкі, з якімі яны паціху спраўляліся, і патрэбы ў іншых рабах не было.

Справадзіўшы Акілу, Гней паспяшаўся да Вірсавіі. Яна ўжо канчаткова ачуняла, але ўсё яшчэ ляжала на ложку, тужліва пазіраючы ў столь. Гней прысеў каля яе ног.

– Можа, раскажаш, што здарылася? Чаму ты самлела ад аднаго толькі выгляду Акілы? У Ерусаліме ў цябе з ім былі нейкія стасункі?

Вірсавія загаманіла не адразу, нібы сілком аднаўляючы ў памяці самыя жахлівыя часіны свайго жыцця, а потым ціхім голасам паведала, як гэты пярэварацень-грэк карысліва прыняў хрысціянскую веру, як дамагаўся і пераследаваў яе, Вірсавію, як здзекаваўся з яе бацькі.

Пасля сумнага аповеду дзяўчыны ў душы Гнея ўзнікла яшчэ большая

---

[1] У імператарскі перыяд рымскі грамадзянін служыў у войску з 17 да 46 гадоў, прычым пехацінец звычайна павінен быў паўдзельнічаць у 16-20 паходах або бітвах, коннік — у 10. Пасля службы ветэраны атрымлівалі немалыя грошы і ўчастак зямлі.

агіда да нахабнага, подлага Акілы. Дадавала нянавісці яшчэ і тое, што і сам ён ужо быў не зусім абыякавым да Вірсавіі...

Фантыкулу Гней пераплаціў утрая не таму, што разлічваў мець ад Вірсавіі належны догляд. Пачуццё, якое закралася ў ягонае сэрца яшчэ на судне, з кожным днём набірала моц, думкі ўсё часцей тычыліся гэтае рабыні. Часам Гнею самому хацелася стаць ейным рабом...

Звыклы ў салдацкім жыцці спатольваць свае мужчынскія прыхамаці з гетэрамі ды выпадковымі жанчынамі, Гней і ўявіць не мог, што калі-небудзь, нават пасля адстаўкі, зможа закахацца. Ён нават не ведаў, ці ёсць яно, каханне, увогуле, і з насмешкаю ўспрымаў гісторыі пра нечыя жарсці, рэўнасць, душэўныя пакуты. І вось – на табе! На старасці гадоў “з’ехаў з глузду”. Зрэшты, якая там старасць, толькі-толькі пераваліла за сорак, вунь і старэйшыя за яго патрыцыі імкнуцца ўзяць сабе ў абручніцы юных спакусніц.

Аднак жа Гней саромеўся свайго пачуцця, стараўся ні ў чым яго не выяўляць, тым болей перад Вірсавіяй. Наадварот, трымаўся з ёю строга, адчужана – нават залішне.

Нечаканы візіт Акілы і жахлівая рэакцыя на яго Вірсавіі падштурхнулі Гнея да таго, на што ён намерыўся б не хутка, а можа, і наогул не адважыўся б.

– Вірсавія, – ніколі яшчэ Гней не вымаўляў імя рабыні з такою пяшчотаю. – Я не дам цябе ў крыўду. Нікому. Заўтра ж ты атрымаеш ад мяне вольную... Больш за тое: я паруплюся, каб ты стала рымскаю грамадзянкаю. І тады ўжо ніякі Акіла, ніякі іншы паганец не здолее абыходзіцца з табою насуперак тваёй волі...

У вачах Вірсавіі застыла здзіўленне, яна не магла даўмець, чаму гаспадар вырашыў зрабіць ёй такую ласку, бо пра ягонае пачуццё нават не здагадвалася. Некалькі хвілін яны абодва маўчалі, затым Вірсавія пачала задаваць пытанні, якія змусілі здзівіцца ўжо Гнея:

– А навошта мне тая вольная? Нашто мне тое грамадзянства? Куды я паткнуся ў гэтым вялікім, ненавісным для мяне горадзе?

Гней паспяшаўся яе заспакоіць:

– Я ж цябе не выганяю! Жыцьмем, як і жылі. Проста ў гэтым доме ты ўжо будзеш не рабыняю, а... а... – Гней ніяк не мог вымавіць наступныя словы і нарэшце выдыхнуў: – А гаспадыняю! Так, так, я гатовы з табою пабрацца!

Ён хацеў яшчэ шмат чаго сказаць і ў рэшце рэшт прызнацца ў каханні, але Вірсавія раптам ўскрыкнула – гэтак жа, як і тады, калі згледзела Акілу, адно што не самлела, а толькі закрыла тварык далонямі, павярнулася на ложку спінаю да Гнея і, уваткнуўшыся ў падушку, наўзрыд заплакала.

Гней спярша разгубіўся, ён не чакаў ад Вірсавіі такога, а потым здагадаўся: гэта ж яна ад радасці! Анягож, толькі што была рабыняю, а цяпер можа стаць жонкаю сенатара! Узбадзёраны, ён вырашыў пакінуць спачывальню Вірсавіі, каб будучая абранніца ўволю і ўслодыч змагла нацешыцца сваім шчасцем...

## На баляванні ў Адрыяна

У другой палове дня да імператарскай вілы ў Цібуры адна за адною, амаль што цугам, з Рыма пацягнуліся разнастайныя павозкі: лёгкія двухколкі, якія рымляне называлі біротамі, калясніцы-эседы, адкрытыя спераду, элегантныя двухколавыя карпентумы, зверху захінутыя полагам (на іх

звычайна выязджалі знаныя рымскія матроны), раскошныя карукі, багата аздобленыя звонку і настолькі ўтульныя ўсярэдзіне, што ў іх можна нават улегчыся і выспацца...

Трапляліся і рэды – вялікія, аб'ёмістыя павозкі, якія цягнулі чацвёркі коней або мулаў. І ўжо зусім адзінкава па дарозе "плылі" дыхтоўныя насілкі-актафароны. Іх неслі на сваіх плячах восем рабоў-лектыкарыяў, апранутых у адмысловыя ліўрэі – кароткія дарожныя плашчы-пенулы. Колісь, пры Юліі Цэзары, насілкамі мелі права карыстацца толькі жонкі сенатараў ці ўвогуле жанчыны, а цяпер і самі сенатары дазвалялі сабе такую раскошу.

Можна сказаць, з Рыма ў Цібур выправілася ўся вышэйшая знаць. Упершыню за апошнія гады імператар вырашыў наладзіць баляванне, і запрашэнні на яго атрымалі толькі самыя прывілеяваныя асобы са сваімі жонкамі. Не дзіўна, што "абраныя" ўсе як адзін, нягледзячы на хваробу ці нямогласць, імкнуліся прыбыць на гэтае баляванне: калі яшчэ выпадзе магчымасць трапіць на вочы імператару, засведчыць павагу да яго, а заадно падкрэсліць сваю асабістую значнасць.

Наконт таго, чаму Адрыян, які даўно ўжо зрабіўся пустэльнікам, спадобіўся на такую "весялуху", хадзілі розныя здагадкі. Але часцей за ўсё сыходзіліся на адным: на баляванні, у прысутнасці ўсёй знаці, імператар хоча назваць свайго новага пераемніка, абвесціўшы аб ягоным усынаўленні. Луцыя, як будучага імператара, ніхто ўжо ў разлік не браў: усе ведалі, што ён дажывае апошнія месяцы, а можа, нават і дні. З такое нагоды некаторыя сенатары нават перашэптваліся, выказваючы адзін аднаму сваё неўразуменне: навошта Адрыян ладзіць гэтае баляванне цяпер, хіба нельга трохі пачакаць, пакуль Луцый сканае, каб не засмучаць, не вярэдзіць ягоную душу перад смерцю?

З некаторымі экіпажамі на вілу прыбывалі яшчэ адна ці дзве павозкі з рабамі, якім належала абслугоўваць гаспадароў, хоць у Цібуры і сваёй прыслугі мелася ўдостатку. Госці, якія трапілі сюды ўпершыню (а такіх было большасць, бо Адрыян амаль нікога да сябе не запрашаў), бавячы час, падаваліся ў глыбіню вілы, любаваліся вабносцямі, але далей Канопа не ішлі: можа стацца, што ў агромністую імператарскую трыклінію, дзе адбудзецца баляванне, запросяць з хвіліны на хвіліну.

Найболей знаныя патрыцыі, для якіх цібурскія дзівосы былі не ў навіну, адразу кіраваліся ў раздзявальні: у імперыі ўвайшло ў звычку перад ядою скідваць з сябе будзённую вопратку, пераапранацца ў "сінтэсіс" – адзежу, якую называлі "абедзеннай". Нічым адметным яна не вызначалася – набор рознакаляровых яркіх плашчоў, якія на працягу балявання мяняліся некалькі разоў.

Нарэшце прабегла чутка, што гасцям можна займаць свае месцы ў трыклініі. Прычым у кожнага было менавіта "сваё" месца – згодна са статусам, званнем і заслугамі. Рабы, якія стаялі пры ўваходзе ў вялікую і ярка асветленую залу, праводзілі гасцей куды тым належыць. Усіх вельмі здзівіла, што іх сустракае не сам імператар. На ранейшых баляваннях ён прывячаў кожнага: з кім проста здароўкаўся, а каго нават абдымаў. Такою ўвагаю да гасцей Адрыян вызначаўся сярод усіх папярэдніх імператраў. А на гэты раз, бач, не выйшаў...

Уся зала была застаўленая прыземістымі сталамі, каля кожнага з іх туліліся па тры паўкруглыя софы – за падабенства з грэчаскай літарай іх называлі сігмамі. Кожная сігма была разлічана на тры чалавекі, і мужчыны пачалі на іх укладвацца наўскасяк, левымі рукамі абапіраючыся на падушкі, пакладзеныя

збоку. Найболей ганаровым лічыўся правы “рог” сігмы, і госць, якому выпала яго заняць, пазіраў на сваіх суседзяў з гонарам і лёгкаю пагардаю...

Жанчын служкі-рабы праводзілі да асобных сталоў, засланых белымі абрусамі, якія ўвайшлі ва ўжытак параўнальна нядаўна, можа, з паўвека таму. Для матрон былі падрыхтаваныя крэслы, бо для рымскіх жанчын, прычым не толькі знаных, лічылася непрыстойным есці лежачы. На сталах пакуль што стаялі толькі кубкі для віна: ці авальныя чашы без ручак, якія на грэчаскі манер называлі фіяламі, ці кілікі – чашы з дзвюма ручкамі і на нізенькіх ножках. Усе яны былі срэбнымі або залатымі, да таго ж, упрыгожанымі каштоўным каменнем. Дзе-нідзе трапляліся чашы з чорнага крышталю. Побач – салянкі, воцатніцы ды пасуднікі-рэпазітарыі, куды слугі потым пачнуць класці прынесеныя стравы. А яшчэ – сурвэткі. Без іх рымляне не маглі абысціся ніяк. Хоць пры трапезе яны ўжо карысталіся і нажамі, і лыжкамі, але зазвычай бралі ежу рукамі, якія раз-пораз даводзілася выціраць. Кожны гаспадар абавязаны быў забяспечыць гасцей сурвэткамі, але многія “нахлебнікі”, якія любілі паласавацца за чужым сталом, прыносілі свае – шырокія, як палотны, каб непрыкметна скласці ў іх найболей прынаднае смакоцце, якое не ўдалося ўпіхнуць у чэрава.

Калі ўсе ўжо ўлегліся-ўселіся, слугі пачалі разносіць і класці на рэпазітарыі лёгкую, але вытанчаную страву, у якой былі змяшаныя печань рыбы скар, фазанавыя і паўлінавыя мазгі, языкі фламінга, малокі мурэнаў і яшчэ невядома якія інгрэдыенды, дастаўленыя сюды на караблях з усіх куткоў свету – ад Парфіі да Іспанскага праліва. Адначасна на сталах з’явілася салата, парэй, вострыя травы, яйкі, салёная рыба. Рыбу, дарэчы, рымляне вельмі любілі, таму ў імперыі было шмат сажалак і басейнаў, напоўненых прэснаю ці марскою вадою – у залежнасці ад таго, для якой пароды рыб яны былі прызначаны. Дасюль хадзілі пагалоскі, як яшчэ два стагоддзі таму знакаміты гурман Луцый Ліцыній Лукул, славуты сваімі легендарнымі баляваннямі, для таго, каб напоўніць басейны з марскою рыбаю салёнаю вадою, наказаў пракапаць у гарах шматкіламетровы канал. Некаторыя рымляне ўвогуле цанілі рыб вышэй, чым людзей. Напрыклад, багацей Квінт Гартэнзій не раз праліваў слёзы над сваімі здохлымі мурэнамі, а Ведзі Палліён, багаты коннік часін Актавіяна Аўгуста, разводзячы рыб, карміў іх целамі сваіх рабоў...

Між тым усе разумелі, што пададзеныя стравы – толькі на перакус, што наперадзе чакаюць яшчэ больш вытанчаныя далікатэсы і смаката, таму ніхто не спяшаўся спатоліць голад. Стравы засталіся амаль некранутыя. Была і яшчэ адна прычына, па якой госці наўзахапкі не кінуліся набіваць раты ежаю: чамусьці пакуль на людзі не выйшаў сам гаспадар, імператар Адрыян. Гэта збівала з панталыку і адначасна насцярожвала.

Тым часам слугі ўнеслі ў залу падносы, на якіх стаялі вослікі з карынфскай бронзы, у кожнага на спіне месціліся кошыкі: у адным масліны зялёныя, у другім – чорныя. На срэбных рашотках ляжалі гарачыя каўбасы, пад імі – слівы і карфагенскія гранаты. Амаль без перапынку, пакуль госці разглядвалі вослікаў, у трыкліній на велізарных падносах “прыляцелі” драўляныя курыцы з раскінутымі крыламі. Нібы на седалах, яны раскапошыліся ў кашалях, быццам выседжваючы куранят. Рабы пад гукі музыкі пачалі шнарыць у саломе, бесперапынна дастаючы і раздаючы гасцям яйкі паўлінаў. Адначасна ўсе атрымалі вялізныя лыжкі, не меней як паўфунта кожная, каб імі можна было разбіць шкарлупінку. Той, хто не прывык да такіх мудрагелістых гасцінцаў, не адразу справіўся з абвалянымі ў муцэ яйкамі і нават асцерагаўся, ці не выгляне з-пад шкарлупінкі птушаня.

Затое найболей спрактыкаваныя “балявальшчыкі” з крыкамі: “Тут павінна быць нешта смачнае!” – разбівалі яйкі і знаходзілі ў пасыпаных перцам жаўтках тлустых слонак...

Аднак жа гул і гамана амаль раптоўна прыціхлі, бо па трыклініі шапаткою хваляю пранесліся словы:

– Імператар! З’явіўся імператар!

Усе, тым лікам і жанчыны, паўставалі са сваіх месцаў, скіраваўшы позіркі ў адзін бок. Адрыян моўчкі прабег вачыма па зале, затым, вітаючы ўсіх адразу, падняў угару правую руку.

– Сябры мае! – урачыста мовіў ён. – Я ўдзячны, што вы адгукнуліся на маё запрашэнне. Спадзяюся, час, праведзены ў мяне ў гасцях, станецца для вас прыемным.

На гэтым ён збіраўся скончыць сваю кароткую прамову, аднак, адчуўшы нямое пытанне залы, скрушна дадаў:

– На жаль, мая жонка Сабіна не ўзрадуе нас сваёю прысутнасцю. Ёй трохі няможацца...

І Адрыян накіраваўся да імператарскае сігмы, якая дагэтуль, натуральна, пуставала. Усіх цікавіла, каго Адрыян запросіць да сябе ў хаўрус. Наконт першага абранага сумневу ні ў кога не было: швагер імператара, Сервіян, каторы год знаходзіцца ў фаворы, і яму Адрыян выказвае найбольшае ўшанаванне. А хто ж другі? Відавочна, што той, хто зараз займе месца па левы бок ад імперетара, і будзе ягоным пераемнікам, варта чакаць, што сёння Адрыян назаве яго сваім сынам...

І праўда: імператар паважліва зірнуў на сівагаловага сваяка і прапанаваў яму:

– Мой любы Сервіян! Не пагрэбуй патрапезнічаць побач са мною...

І ў напружанай цішыні, павярнуўшыся да надзвычай высокага, самавітага мужчыны, які, мяркуючы па знешнім выглядзе, пражыў ужо не меней чым паўвека, дадаў:

– І цябе, Арый Антанін, я запрашаю за сваю сігму...

Здагадкі спраўдзіліся, і госці амаль аднадушна з палёгкаю выдыхнулі. Ніхто не скмеціў, з якою лютасцю бліснуў вачыма прэфект Рыма Катылій Север...

Пасля з’яўлення імператара баляванне розняволілася, набыло новы імпульс. Слугі ледзь паспявалі заносіць у трыкліній новыя стравы, усё болей дзіўныя і экзатычныя, хоць рымскую знаць, дый нават простых рымлянаў, цяжка было здзівіць адмысловаю ежаю. З пашырэннем імперыі разнастайваўся і рацыён грамадзянаў Вечнага горада. Спазнаўшы раскошу Усходу, яны імкнуліся надаць свайму побыту тыя ж рысы. У мільённы Рым прывозілі не толькі тавары першай неабходнасці, але і розную экзотыку, якая задавольвала любыя прыхамаці гараджанаў і гараджанак. Сярэдні рымлянін харчаваўся хлебам, выпечаным з мукі пшаніцы, якая вырасла на Сіцыліі ці ў Паўночнай Афрыцы. Рымскі грамадзянін гатаваў стравы на афрыканскім масле ў гаршчках і каструлях з медзі, здабытай у Іспаніі, карыстаўся посудам, абпаленым у печах Галіі, піў іспанскія і гальскія віны, а калі ён праліваў які-небудзь соус на сваю тогу, дык ачышчаў яе спецыяльнай глінай з астравоў Эгейскага мора. Багаты гараджанін насіў адзежу з мілецкай воўны ці з егіпецкага палатна, ягоная жонка прыбіралася ў кітайскі шоўк, упрыгожвала сябе алмазамі і жэмчугам з Індыі, націралася духмянымі рэчывамі з Паўднёвай Аравіі. Стравы прыпраўляліся індыйскім перцам і афінскім мёдам. На сталы з афрыканскага цытрусавага дрэва ежу падавалі на падносах з іспанскага

срэбра, а сіцылійскае віно налівалі ў пасудзіны з сірыйскага шкла. Сцены ў доме заможнага рымляніна былі аздобленыя каляровым мармурам, здабытым у каменяломнях Малой Азіі, пакоі застаўленыя прадметамі з індыйскага эбенавага ці тукавага дрэва, інкруставанымі афрыканскай слановай косткай, паўсюль высіліся статуі, вывезеныя з Грэцыі...

У зале было досыць шумна, але гамана суцішвалася, калі хто-небудзь прамаўляў здравіцу – вядома ж, у гонар імператара. Раней Адрыян пачуваўся ніякавата, калі чуў хвалебныя словы на свой адрас, цяпер жа ўспрымаў іх як належыць. Прамоўцы навыперадкі пераказвалі заслугі імператара перад народам і дзяржавай, згадваючы нават самыя ранція і даўно забытыя. А іх, заслуг, па праўдзе было нямала.

У час другога пахода на дакаў Траян паставіў Адрыяна на чале першага легіёна Мінервы, і малады легат паказаў сябе настолькі мужным і мудрым камандзірам, што Траян падарыў яму алмазны пярсцёнак, які атрымаў ад папярэдніка – імператара Нервы. Дарэчы, менавіта з таго часу Адрыян стаяў цешыць сябе надзеяй, што стане пераемнікам... Ужо стаўшы імператарам, Адрыян зрабіў неймаверныя высілкі, каб усталяваць мір як на самой тэрыторыі дзяржавы, так і абапал ейных межаў. А неспакойна было ўсюды: нападалі маўры, ішлі вайною сарматы, немагчыма было ўтрымаць пад рымскаю ўладаю брытанцаў, мецяжамі быў ахоплены Егіпет, праяўлялі непакорны дух Лівія і Палесціна... І Адрыян дамогся свайго: дзе зброяй, а дзе ўгаворамі ўлагодзіў бунтарскія плямёны, хоць і ахвяраваў землямі за Тыграм і Еўфратам. Годна, мудра кіраваў Адрыян імперыяй, пры гэтым праяўляючы надзвычайную шчодрасць, добразычлівасць і асабістую сціпласць.

Асаблівую павагу меў Адрыян у войску, бо часам нёс службу ўпоравень з легіянерамі. У Германіі, напрыклад, адзін час камандаваў маніпулай, жыў у агульным лагеры, харчаваўся звычайным салам і тварагом. Ён увогуле загадаў разбурыць у лагеры памяшканні для баляванняў, портыкі, закрытыя галерэі і мастацкія сады, якімі карысталіся камандзіры.

Адрыян рабіў багатымі сваіх сяброў, хоць яны і не прасілі аб гэтым, а тыя, што прасілі, ніколі і ні ў чым не мелі адмовы.

Усё гэта, дый шмат што іншае, згадвалі лісліўныя прамоўцы. Акіла ж, які, безумоўна, прысутнічаў на баляванні і нават займеў месца на адной з самых ганаровых сігмаў, каб падкрэсліць боскую існасць Адрыяна, распавёў, як імператар аднойчы прыбыў у Афрыку і пасля пяцігадовае засухі з неба адразу ж хлынуў дождж...

Адрыян выслухоўваў прамовы з непарушным тварам, здавалася, што ён абыякавы да панегірыкаў, хоць на справе было зусім не так: проста яму, жывому богу на зямлі, належала захоўваць адпаведную самавітасць.

Не даслухаўшы да канца чарговую здравіцу, імператар раптам падняўся са сваёй сігмы і паволі патупаў у супрацьлеглы бок залы, дзе балявалі найменей ганаровыя госці. Спыніўшыся каля аднаго са сталоў, агледзеў стравы, што-нішто паклаў сабе ў рот.

– Вам усяго хапае? Вы задаволеныя? – спытаўся ён у збянтэжаных гасцей, якія з перапуду паўсхопліваліся з сігмы.

– Дзякуй, імператар! Нам усяго ўдосталь! І смачна! – запэўнілі яны.

"Найменей ганаровыя" не крывілі душою, бо слугі добра ведалі пра гэтую адметную рысу імператара – выказваць клопат пра ўсіх і каштаваць ежу з апошніх сталоў, таму наўмысна прыносілі сюды самае смакоцце.

Задаволены, імператар вярнуўся назад. Сам ён на ежу не налягаў, перад ім стаяў толькі пентафармакон – страва, прыдуманая ягоным любімым

Луцыем, якую Адрыян дужа ўпадабаў: помесь свіных саскоў, фазана, паўліна, запечанага кумпяка і вепруковага мяса.

Прадчуваючы, што вось-вось у трыклініі пачнуць заносіць асноўныя стравы, госці, якія паспелі набіць свае чэравы ежаю накшталт марскіх вожыкаў, драздоў са спаржаю і курыц, абпечаных у муцэ, пачалі ўставаць са сваіх сігмаў і наведвацца ў сумежнае памяшканне, дзе рабілі гвалт са сваіх арганізмаў: засоўвалі пальцы ў рот або проста пнуліся, каб званітаваць ужыты наедак і выслабаніць месца ў страўніку для новых прысмакаў. Прычым некаторыя паспелі зрабіць туды па дзве-тры ходкі.

Неўзабаве слугі і сапраўды ўнеслі ў залу вялізныя падносы, на якіх сыходзілі параю шматлікія рыбныя стравы, кабановыя галовы, свіныя смочкі, смажаныя качкі і зайцы...

Нехта з гасцей, мусіць, паспеўшы залішне хлебануць фалернскага віна і згледзеўшы такое смакоцце, не стрымаўся, стаў ва ўвесь рост на сваю сігму і ні з таго ні з сяго пачаў дэкламаваць сатыру Гарацыя:

– Прадаўгаватыя яйкі – запомні! – чым круглыя, лепей:
Там і бялейшы бялок, і жаўток там мацнейшы, таму што
Мае сапраўдны мужчынскі зародак. За званым абедам
Іх падавай. А капуста, што вырасла ў полі,
Значна смачнейшая той, што ўзнялася на градах,
Бо гаспадар сапсаваў яе паліўкай лішняй.
І калі госць завітаў да цябе на вячэру,
Дык, каб мякчэйшаю курыца стала, жывую
Трэба яе акунаць у фалернскі напітак спачатку.
Правільны грыб – лугавы, а другім давяраць ненадзейна.
...Не ганарыся, што знаўцам ты стаў балявання,
Покуль не вывучыш сам усе тонкія правілы смаку.
Мала таго, каб купіць дарагую ўсю рыбу,
Калі не знаеш, якою аздобіць падлівай,
Смажыць якую, каб госць ад наедку прыўзняўся на локаць...
Спінку зайчыхі цяжарнай ацэньваюць знаўцы.
Вызначыць рыбіны ўзрост і пароду па смаку
Колісь не мог бы ніхто, я спадобіўся першы!..

На гэтым суседзі асадзілі падпітага прамоўцу, бо ўскочыў ён не ў час і не да месца: розныя дэкламацыі і бяседы чакаліся напрыканцы балявання, а зараз належала ўволю частавацца.

Напоўніцу запрацавалі рабы, якія стаялі або сядзелі ззаду, за спінамі сваіх гаспадароў. Усе яны былі як на падбор прыгожымі, безбародымі юнакамі, аднолькава апранутымі і прычасанымі. Дагэтуль рабы трымалі-вартавалі сандалі, якія перадалі ім іхнія гаспадары, перш чым узабрацца на сігмы, а цяпер па-заліхвацку, спрактыкавана пачалі арудаваць нажамі, дзелячы рыбу і мяса на дробныя кавалкі. Колісь нахабны самадур-імператар Калігула прымушаў рабіць гэта знаных сенатараў...

Усе ўзрушыліся, калі на падносах слугі вынеслі аграмадных кабаноў. З іхніх клыкоў звісалі кашы, сплеценыя з пальмавых галінак: адны былі напоўненая сушанымі, а другія – свежымі фінікамі. На некаторых падносах месціліся не кабаны, а свінні, на што ўказвалі маленькія парасяты, выробленыя з цеста і ўкладзеныя вакол іх так, быццам яны цягнуліся да саскоў. Слугі паляўнічымі нажамі пачалі разразаць бакі кабаноў і свінняў, і адтуль павыляталі дразды. Іншыя слугі былі напагатове, з дапамогаю дубчыкаў, намазаных клеем, пералавілі ўсіх птушак і раздалі іх гасцям.

На дэсерт падалі фрукты: яблыкі, грушы, слівы, чарэшні, райскія яблычкі, гранаты, фігі, арэхі, каштаны, вінаград...

Пакуль ішло баляванне, Адрыян не ўступаў у размовы, зрэдку перакідваючыся словамі з Сервіянам ці з Антанінам. Толькі тады, калі госці ўволю наеліся, удосталь паванітавалі, разняволіліся, набрынялі злагадным настроем, імператар таксама трохі пажаваў. Слугі ўжо зносілі са сталоў стравы, а наўзамен з'явіліся пасудзіны з вінам: зазвычай рымляне спярша елі і толькі потым памяркоўна, з розгадам – пілі. Акурат наспявала пара для рэцытацый – публічнага дэкламавання сваіх ці чужых твораў.

Віно падавалася найлепшае: фалернскае – з вінаграднікаў у Кампаніі, масікскае – з памежнай вобласці Латыя, цэкубскае – адтуль, дзе Латыя падступалася да Цірэйскага мора. Было яшчэ віно капуанскае, сурэнтынскае, з выспаў Кос, Кнід, Крыт, з Сіцыліі і Іспаніі.

Усе ведалі, што Адрыян вельмі майстравіты прамоўца, піша вершы, мае досвед ва ўсіх галінах мастацтва, і самае галоўнае – заўсёды насміхаецца з іншых творцаў, ставіцца да іх з пагардаю, прыніжае, лічыць сябе самым разумным. Чаго вартая толькі гісторыя з гальскім філосафам і паэтам Фаварынам, да якога Адрыян спярша ставіўся з вялікаю прыхільнасцю. Аднойчы імператар папракнуў Фаварына за няўдалы выраз, ужыты ім. Філосаф прызнаў сваю памылку. І калі сябры сталі насміхацца над Фаварынам, маўляў, што ж ты пагадзіўся, ён адказаў ім: "Вы даеце мне няправільную параду, сябры, калі не дазваляеце мне лічыць самым разумным сярод усіх таго, хто камандуе трыццацю легіёнамі". Гэтыя словы дайшлі да вушэй Адрыяна, Фаварын адразу ж трапіў у няміласць і быў засланы на востраў Хіас[1]. А заадно – і ўсе ягоныя сябры-філосафы...

Таму не дзіўна, што ніхто з гасцей, хоць сярод іх былі і знаныя паэты, не асмеліўся чытаць свае творы пасля балявання: усё адно Адрыян іх збэсціць, а пачнеш пярэчыць, дык і ўвогуле не знасіш галавы... Дэкламавалі ўсё таго ж Гарацыя ды "правераных" Ювенала, Плаўта, Марцыала, Герода...

А потым чамусьці распачалася нязмушаная размова пра сям'ю, пра жонак. Адрыян не ўпусціў магчымасці бліснуць сваім красамоўствам ("Муж і жонка павінны ва ўсім знаходзіць паразуменне, але вяршэнства ўсё адно належыць мужу, за ім – апошняе слова"; "жонцы не трэба мець сяброў і сяброак, досыць ёй і тых, што ёсць у мужа"; "пры старонніх людзях жонка павінна маўчаць, бо гэта тое ж самае, што распранацца пры іх: па голасе можна вызначыць нутро чалавека").

Акурат дарэчы Адрыян распавёў пра Спурыя Карвілія па мянушцы Руга, які амаль чатырыста гадоў таму першым у Рыме скасаваў шлюб са сваёю жонкаю, бо яна не магла нарадзіць яму дзяцей; пра колішняга консула Публія Семпронія Софа, які адцураўся ад жонкі за тое, што яна выправілася ў тэатр без ягонага ведама.

І Карвілія, і Софа Адрыян асудзіў. У інтарэсах дзяржавы, выказаўся ён, лепей прытрымлівацца законаў Лікурга[2] і Аўгуста[3].

---

[1] Пры Антаніне Фаварын вярнуўся ў Рым і жыў пры дастатку і славе.

[2] Лікург — спартанскі рэфарматар. Паводле ягонага закона, маладыя людзі ў Спарце абавязаныя былі выбіраць сабе жонак з бедных сем'яў. Гэта замінала канцэнтравацца багаццю ў адной сям'і і адпавядала грамадскай роўнасці вольных грамадзянаў. А калі муж значна старэйшы за жонку і ў іх няма дзяцей, ён павінен выбраць моцнага і прыгожага юнака, прывесці ў дом да жонкі, а дзіцёнка прызнаць сваім. І наадварот: калі каму-небудзь падабаецца чужая пладавітая жонка, дык ён можа дамовіцца з мужам і жыць з ёю, як са сваёю.

[3] Імператар Актавіян Аўгуст (63 г. да н.э. — 14 г.н.э.) клапаціўся аб прыросце насельніцтва, таму ў шлюбе належала быць жанчынам ва ўзросце ад 20 да 50, а мужчынам — ад 25 да 60 гадоў. Той, хто скасаваў шлюб, абавязаны быў пабрацца наноў, жанчынам для гэтага давалася ад шасці месяцаў да двух гадоў.

А "на дэсерт" прагучаў анекдот пра знанага рымляніна, якога сябры папракалі тым, што ён адмовіўся ад сумеснага жыцця з прыгожаю і багатаю жонкаю. У адказ рымлянін выцягнуў сваю нагу са зграбным чаравікам і мовіў: "Гэты абутак новы і вельмі добра глядзіцца, але ніхто не ведае, дзе ён мне цісне..."

Ад сямейнае тэмы размова злагадна перацякла ў дыспут пра сяброўства, і Адрыян таксама выказаў некалькі мудрых думак, якія вельмі нагадвалі выслоўі Плутарха, але ніхто, натуральна, гэтага "не заўважыў" і не нагадаў. ("Сябар, які ва ўсім з табою згаджаецца і ўвесь час ківае галавою, – дрэнны сябар, бо цень робіць гэта лепей"; "здраднікі здраджваюць перш за ўсё самім сабе").

Мімаходзь Адрыян абмовіўся-намякнуў, як варта трымацца з валадарамі, каб дабіцца іхняе прыхільнасці ("Ад залішняе пахвалы людзі рэдка становяцца лепшымі, аднак чым менш ты будзеш хваліць свайго начальніка, тым менш у цябе будзе заслуг").

Успрыняўшы апошняе выслоўе як "кіраўніцтва да дзеянняў", госці наўзахлёб пачалі нахвальваць красамоўства імператара. Адрыян, у сваю чаргу, і на гэты конт падкінуў некалькі трапных фраз ("Трэба ўмець слухаць, бо нават ад дурня часам можна пачуць нешта вартае ўвагі"; "лепш прамаўчаць, чым сказаць нешта пустое, – будзе больш карысці"; "на баляванні бяседа павінна быць агульнаю – гэтак жа, як і віно"; "калі хочаш нешта сказаць, гавары коратка, а калі ў тваіх словах няма вялікага сэнсу, дык хоць бы гавары прыгожа").

Аднак жа не "застольная бяседа" імператара цікавіла гасцей найперш. Усе з нецярпеннем чакалі, калі ён абвесціць свайго новага пераемніка.

І імператар гэта разумеў, бо яму ўжо дакладвалі, што па Рыме распаўзаюцца чуткі, быццам ён, Адрыян, занепакоены слабым здароўем Луцыя, падбірае яму замену, і нават называецца канкрэтны чалавек – Арый Антанін, які зойме месца хваравітага пераемніка. Адрыян здагадваўся, "адкуль растуць ногі": не так даўно пры сустрэчы з прэфектам Катыліем Северам ён неабачліва абмовіўся пра "трыста мільёнаў сестэрцый", патрачаных дарэмна, бо Луцый – "даволі хісткая сцяна, на якую нам немагчыма абаперціся". Ці ж ведаў тады Адрыян, што прэфект, як памяло, пачне пляцкаць языком налева і направа?

Тое, што Луцыю засталося жыць не болей чым некалькі месяцаў, Адрыяну паведаміў ягоны асабісты лекар Гермаген, які па даручэнні імператара наведваў Луцыя ледзь не штодня: Адрыян усё ж спадзяваўся, што такі спрактыкаваны лекар здолее выцягнуць пераемніка з таго свету. Аднак Гермаген шчыра прызнаўся: "Якіх толькі лекаў я не перабраў... І Асклепію на востраве[1] ахвяру прыносіў... Але, падобна, нішто ўжо беднаму Луцыю не паможа..."

Адрыян змірыўся з непазбежнаю стратаю і лепшага наступніка, чым Антанін, не бачыў. У таго было ўсё, каб годна кіраваць імперыяй.

Найперш Антанін меў славуты радавод. Ягоны дзед, Ціт Аўрэлій Фульвій, прайшоў па ўсіх прыступках ганаровых пасад, двойчы прызначаўся консулам і, нарэшце, прэфектам Рыма. Другі дзед, Аррый Антанін, таксама быў консулам два разы, меў бездакарную рэпутацыю, а найбольш

[1] Асклепій (інакш — Эскулап) — грэчаскі бог. У 293 г. да н.э. у Рыме здарылася эпідэмія. Жрацы звярнуліся да прарочых кніг і даведаліся, што трэба прывезці з Эпідаўра змяю і ахвяраваць яе Асклепію. Калі карабель падплываў да Рыма міма невялікага вострава на Цібры, змяя выслізнула і пераплыла на востраў. У гэтым убачылі знак волі бога Асклепія, і таму ўзвялі там свяцілішча, якое адначасова служыла і лякарняй, як грэчаскія асклепіёны.

запомніўся тым, што вельмі шкадаваў састарэлага Нерву, калі таго абралі імператарам... Бацька Антаніна, Аўрэлій Фульфій, вызначаўся суровым норавам і непадкупнасцю, асабліва тады, калі быў консулам.

Антанін – спакойны, ураўнаважаны, вельмі міласэрны, шчодры, ніколі не пасягае на чужое дабро. Ён з такою глыбокаю пашанаю ставіцца да сваіх сваякоў, што нават стрыечныя браты, айчым і проста блізкія людзі па завяшчанню пакінулі яму сваю маёмасць.

І кіраўнік з Антаніна адмысловы: пацвердзіў свае здольнасці, калі трапіў у лік чатырох кансулярыяў, якім Адрыян даручыў кіраваць Італіяй.

Да таго ж, бліскучы прамоўца, выдатна ведае літаратуру, што Адрыяну асабліва даспадобы, зусім не ахвочы да віна...

Адна бяда: жонка, Аннія Фаўстына, у Антаніна няўдалая. Кажуць, блытаецца з кім папала, каб спатоліць сваю жарсць. А немаладая ж ужо, час суцішыцца, дый дзетак ажно чацвёра – два сыны і дзве дачкі. Тут зноў жа варта аддаць належнае Антаніну: як ні ганьбяць, як ні няслявяць людскія языкі Фаўстыну, ён абараняе годнасць жонкі як мага, хоць у душы, мусіць, моцна перажывае...

Ну чым не будучы імператар?

Але ж гэта не значыць, што ён, Адрыян, здольны зрабіць балюча Луцыю, любімаму чалавеку, якога загадзя назваў Цэзарам. Няхай дажыве ў спакоі, колькі яму адведзена...

Уласна кажучы, Адрыян і наладзіў гэтае баляванне толькі для таго, каб развеяць прыкрыя чуткі. Усе чакаюць, што ён з дня на дзень назаве новага пераемніка, дык, здавалася б, баляванне – акурат найлепшы момант для гэтага. Ажно не, не пачулі таго, што хацелі... Можа, нарэшце, хто-ніхто прыкусіць свой язык, ва ўсякім разе да тае пары, пакуль Луцый не сышоў у магілу...

Госці, задаволеныя раскошным баляваннем, але расчараваныя тым, што не даведаліся імя будучага імператара, пачалі выбірацца з вілы толькі пад раніцу. Адзін прэфект Катылій Север адчуваў сябе не расчараваным, а падбадзёраным: выходзіць, наконт пераемніка пакуль што нічога не вырашана...

Север пераняў Акілу, калі той ужо збіраўся садзіцца ў каруку.

– Дружа, – сказаў прэфект, – ты ўжо каторы дзень у Рыме, а ашчасліўіць сваім візітам галаву горада так і не спадобіўся. Нам ёсць пра што пагаварыць. Некалі мне давялося кіраваць Сірыяй, дык цікава было б даведацца, што цяпер дзеецца ў гэтай правінцыі. Ад Іудзеі да Сірыі рукой падаць, і табе, пэўна, многае вядома... Дык завітаў бы на хвіліначку?

Акіла, які выглядаў на дзіва цвяроза, паабяцаў:

– Бліжэйшым часам абавязкова зазірну ў прэфекторыю! Прычым не на хвіліначку...

– Ну-ну, буду чакаць...

Север добра ведаў, што імператар прыхільна ставіца да Акілы, і, у адрозненне ад іншых, здагадваўся, чаму: і Адрыян, і Акіла родам з аднаго гарадка – з іспанскай Італікі. Землякі...

## Сафія

Гнея дзівіла, што ні ў той жа дзень, ні назаўтра Вірсавія ніяк не азвалася на ягоныя прапановы. Больш за тое, яна старалася пазбягаць свайго гаспадара, толькі пры пільнай патрэбе паказвалася яму на вочы. А калі

Гней, нарэшце, узяўшы дзяўчыну пад локаць, сам зрабіў спробу вярнуцца да шчырай размовы, Вірсавія чамусьці, адчайна ўскрыкнуўшы “вой, не трэба”, шпарка пабегла ў свой пакой. Пасля гэтага да Гнея пачало даходзіць, што не ўсё так проста, што дарэмна ён быў саманадзейна ўпэўнены, быццам Вірсавія ўспрыме ягоныя ласку і шчадроты з вялікаю ўдзячнасцю, так бы мовіць, адразу ж кінецца яму на шыю.

“Можа, я, бязрукі калека, здаюся ёй агідным? – разважаў Гней. – Магчыма, у яе вачах выглядаю перастаркам? Але ж у дзеўкі няма асаблівага выбару: усё-ткі лепей быць жонкаю такога знананага чалавека, хай сабе і нялюбага, чым усё жыццё заставацца бяспраўнаю рабыняю з нявызначаным лёсам. Вірсавія – не дурніца, яна ўсё гэта разумее. Дык чаму ж не спяшаецца абедзвюма рукамі схапіць сваё шчасцейка? Мусіць, нешта ёй замінае, пэўна, у душы сядзіць нейкая стрэмка, пра якую я пакуль што не ведаю...”

У рэшце рэшт Гней вырашыў не прыспешваць падзей. Паспадзяваўся, што з часам ён выведае ў Вярсавіі прычыну, па якой яна цураецца свайго гаспадара, і калі ўсё стане зразумелым, яму, магчыма, удасца нешта паправіць, нешта зрабіць, каб вырваць тую “стрэмку”.

А што тварылася ў душы Вірсавіі, і пераказаць цяжка. Яна з першых дзён прыкмеціла, што гаспадар ставіцца да яе зусім не так, як да звычайнай рабыні. А часам і ўвогуле заўважала на сабе ягоныя жарсныя позіркі... Што ж тут незразумелага? Куды ўжо болей?

Пачуцці Гнея Вірсавію не радавалі, наадварот, яна жахалася ад думкі, што ў рэшце рэшт гаспадар не здолее зладзіць са сваёй жарсцю, і немаведама, чым гэта ўсё скончыцца...

Здараліся хвіліны, калі яна ўсё ж парывалася расказаць Гнею пра Архелая, пра тое, што яна ніколі не зможа забыць гэтага хлопца, што будзе адданаю яму да скону. Але ж заадно непазбежна давядзецца распавесці, што Архелай – ягоны сын, інакш гаспадар не адступіцца, будзе даводзіць, што любое каханне з часам затухае, так будзе і на гэты раз, тым болей што з тым каханым хлопцам ёй ужо ніколі не выпадзе пабачыцца. Ці ж магла Вірсавія нанесці гаспадару такую рану?

Аднак жа бывала, што дзяўчыну па-здрадніцку наведвалі і блюзнерскія, грэшныя думкі. Яна таксама выдатна ўсведамляла: няма ніякіх шанцаў на тое, каб іхнія з Архелаем шляхі калі-небудзь сышліся ці хоць бы перакрыжаваліся. Дзе тая Іудзея, а дзе Рым... Дык няўжо яна дзеля безнадзейнага кахання павінна ахвяраваць сабою, сваёю маладосцю, увогуле жыццём? А можа, Бог акурат і пасылае ёй гэтага Гнея, які нагэтулькі падобны да Архелая, дарма што старэйшы? Да таго ж, немаведама, як павядзе сябе гаспадар, калі не атрымае ад яе ўзаемнасці: магчыма, прадасць каму-небудзь іншаму, жорсткаму, неспагадліваму, а можа, – увогуле ў лупанарый, і тады жыццё сапраўды будзе пеклам...

Супярэчлівыя думкі і пачуцці разрывалі душу Вірсавіі на часткі. Яна адчувала, што не здолее самастойна зрабіць правільны выбар, не зможа абысціся без падказкі мудрага, разважлівага чалавека. І такога чалавека яна ведала...

Калі пачало ўжо брацца на прыцемкі, Вірсавія нясмела ўвайшла ў атрый, дзе Гней перабіраў нейкія паперы, і ціха мовіла-папрасіла:

– Гаспадар, дазволь мне сёння наведаць Сафію...

Гней недаўменна ўскінуў вочы:

– З чаго б гэта? Ты ж звычайна толькі па суботах да сваіх братоў і сясцёр ходзіш? А сёння серада.

– Мне вельмі трэба...

– Можа, патлумачыш, у чым такая пільная неабходнасць? А то ўсё таямніцы ды таямніцы...

– Гэта маё, асабістае... Дык адпусціш? На гэты раз я ў Сафіі доўга не затрымаюся. Прынамсі, не да раніцы, як звычайна.

– А Дыадор? Ты яго папярэдзіла?

– Не. Сёння ніякага набажэнства не будзе, і ён мне толькі замінацьме.

– Без Дыадора я цябе не адпушчу! У прыцемках, а тым болей ноччу, тут розная набрыдзь швэндаецца. Пяройме якая сволач, дык потым бяды не абярэшся... Дыадор! – гучна гукнуў Гней. – Хадзі сюды!

Ветэран не прымусіў сябе доўга чакаць, жвава прашаркаў з двара, пакорліва схіліў тулава перад гаспадаром.

– Слухаю!

– Вірсавіі раптам закарцела наведаць Сафію. Правядзеш, як зазвычай, туды і назад.

– А мне не ў напругу! – на дзіва радасна пагадзіўся Дыадор! – Тым болей, што па гаспадарцы я ўжо ўсё парабіў.

– Ну то і добра. Збірайся.

Адпрошвацца ў Гнея на хрысціянскія эклексіі-набажэнствы Вірсавія пачала неўзабаве пасля таго, як яны засяліліся у гэты дом. Першым часам яна толькі малілася ў сваім пакоі, а потым нейкім чынам знайшла, сышлася з хрысціянскаю суполкаю. “І як гэта ёй удалося? – не мог даўмецца Гней. – Здаецца ж, амаль нікуды не хадзіла, нідзе не бывала... Падобна, гэтыя хрысціяне чуюць адзін аднаго за мілю...”

Спярша Гнею было неўспадоб, калі ён даведаўся, што Вірсавія – хрысціянка, а тым болей не ўхваляў ейныя начныя адлучкі да нейкае Сафіі, па ўсім бачна, хрысціянскае заправілы. І хоць Вірсавія пераконвала, што нічога ганебнага на тых эклексіях не адбываецца, хрысціяне проста моляцца ці вядуць размовы пра свайго Бога, Гнея хвалявала зусім не гэта.

Высветлілася, што тая самая Сафія жыве нават не на ўскраіне Рыма, а досыць далёка за межамі горада, прынамсі, каб дабрацца туды, Вірсавіі спатрэбіцца паўгадзіны шпаркай хады. Ці ж мог Гней выправіць адзінокую дзяўчыну ў такую далеч, ды яшчэ на ноч гледзячы? Гэта проста небяспечна. Таму суправаджаць Вірсавію Гней наказаў Дыадору. Ветэран спярша выконваў загад з неахвотаю. І то праўда: цягніся немаведама куды, потым туляйся амаль цэлую ноч пад вокнамі, пакуль гэтыя хрысціяне ўволю не намоляцца. Наступны дзень, лічы, кату пад хвост – трэба адсыпацца. Зрэшты, Гней ставіўся да гэтага паблажліва. Але ж твае справы за цябе ўсё адно ніхто не паробіць. Паступова Гней стаў заўважаць, што Дыадор ужо не выказвае незадаволенасці начнымі падарожжамі, наадварот, увесь тыдзень як быццам чакае суботы...

Перамены, незразумелыя для яго самога, сталі адбывацца і ў душы Гнея. Чым болей ён распытваў Вірсавію пра ейнага Бога (а такія размовы апошнім часам адбываліся ўсё часцей, бо Гнею карцела выведаць, чым жыве абранніца), тым прыкметней расла ягоная павага да хрысціянаў. Па сутнасці, нічым ганебным яны не займаюцца. Хоць паўсюль распускаюцца плёткі, быццам хрысціяне пакланяюцца богу з аслінаю галавою, і што самае ганебнае – пры абрадзе прысвячэння забіваюць дзяцей. Прычым, маўляў, робіцца гэта пачварным спосабам. Да таго, хто павінен прыняць хрысціянскую веру, падносіцца немаўля, абсыпанае цестам, – каб лягчэй было яго забіць. Удар – і льецца кроў, усе яе п’юць, замацоўваючы такім чынам еднасць і

абяцаючы адзін аднаму захоўваць маўчанне. А калі нап'юцца крыві ўволю, парекульваюць каганцы, каб у цемры аддацца ўсеагульнаму блуду...

Усё гэта, вядома, бязглуздзіца, чыесьці хваравітыя фантазіі, і дарма Тацыт называе хрысціянскае вучэнне "шкодным", а Пліній-малодшы[1] – "бязмежна пачварным", як вычытаў Гней у іхніх творах. Ніякія яны не пачвары. На сваіх сходах слухаюць пропаведзі, чытаюць малітвы і... вячэраюць. Агульная трапеза звязаная з абрадам прычашчэння ў памяць тайнай вячэры Хрыста. Прычым кожны прыносіць тыя харчы, якія мае, і ніхто іх за сталом не дзеліць на "сваё і чужое" – усё агульнае. Праўда, як расказвала Вірсавія, здараюцца і прыкрыя непаразуменні, асабліва з тымі чальцамі абшчыны, якія толькі што ў яе ўступілі. Прынясе такі навічок клунак, разгорне перад сабою і давай "умінаць" у дзве шчакі, а той, хто побач і нічога не прынёс, бо жабрак, толькі глядзіць на суседа галоднымі вачыма... Пра такіх красамоўна сказаў колішні хрысціянскі правадыр Павел: "Хто есць і п'е недастойна, той есць і п'е асуджэнне сабе"[2], – здаецца, так Вірсавія пераказала ягоныя словы. Зрэшты, гэта зусім не азначае, што любы дармаед можа там падсілкавацца за кошт іншых, кожны хрысціянін павінен "рабіць сваю справу, працаваць сваімі ўласнымі рукамі"[3], бо "калі хто не хоча працаваць, той і не еж"[4]. Прынамсі, гэты Павел і пра сваіх паплечнікаў-прапаведнікаў выказваўся наўпрост: "мы ні ў кога не елі хлеб задарма, працавалі дзень і ноч, каб не абцяжарваць каго-небудзь з вас"[5].

Гэткае стаўленне хрысціянаў да тых, хто шчыраваў у працы, і лайдакоў, вельмі падабалася Гнею. А яшчэ – бескарыслівая дапамога, спагада хрысціян адзін да аднаго.

Нездарма яны называлі сябе братамі і сёстрамі. Усе па меры магчымасці рабілі ў "агульны кацёл" свае ўнёскі: хто маёмасць, хто грошы. Усё гэта ішло на лекаванне хворых, на пахаванне нябожчыкаў, на падтрымку тых, хто апынуўся ў турме. Таму не дзіўна, што да хрысціянскай веры найперш гарнуліся людзі абяздоленыя, збяднелыя, а то і ўвогуле жабракі.

Зрэшты, і сярод багатых рымскіх грамадзянаў было нямала прыхільнікаў Хрыста. Праўда, не ўсе яны шчодра дзяліліся з абшчынаю сваёй маёмасцю, некаторыя спрабавалі нешта ўтаіць і былі за гэта пакараныя Богам. Вірсавія расказала Гнею павучальную прытчу. Нейкі Ананія і ягоная жонка Сапфіра, па прыкладзе іншых, прадалі свой маёнтак і прынеслі грошы апосталам. Але не ўсе – частку прыхавалі. Вядома, ніхто не прымушаў хрысціянаў ахвяраваць усю іхнюю маёмасць на агульныя патрэбы, гэта была вольная праява ўзаемнай любові. Апосталы, прасветленыя Духам Божым, адразу адчулі няшчырасць, і Пятро сказаў Ананіі: "Чаму ты дазволіў д'яблу ўкласці ў тваё сэрца думку схлусіць Духу Святому і ўтаіць частку грошай за прададзеную маёмасць? Хіба маёнтак належаў не табе? Ты схлусіў не людзям, а Богу". І як толькі апостал мовіў гэтыя словы, Ананія ўпаў мёртвы. Вынеслі ягонае цела. Праз тры гадзіны прыйшла Сапфіра. На пытанне Пятра, за якія грошы прададзены маёнтак, яна адказала гэтак жа, як і Ананія. "Чаму вы пагадзіліся спакусіць Дух Госпада? – сказаў апостал Пятро. – Вось у дзверы ўваходзяць тыя, што пахавалі мужа твайго. І цябе вынесуць". У тую ж хвіліну Сапфіра ўпала і сканала...

---

[1] Старажытнарымскі палітычны дзеяч, пісьменнік, адвакат (61-112 гг. н.э.)

[2] Першае пасланне да хрысціянаў апостала Паўла, 11:29.

[3] Першае пасланне да фесаланікійцаў апостала Паўла, 4:11.

[4] Другое пасланне да фесаланікійцаў апостала Паўла, 3:11.

[5] Тамсама, 3:7.

Як патлумачыла Вірсавія, Бог пакараўАнанію і Сапфіру не за тое, што яны аддалі не ўсе грошы (гэтага ад вернікаў ніхто і не патрабаваў), а за тое, што карысліва схлусілі.

Праявы дабрачыннасці з боку імперыі ці асобных патрыцыяў для рымлянаў, тым лікам і для Гнея, былі не ў навіну. Яшчэ здавён у час святаў грамадзянам і нават рабам з гарадской казны раздаваліся грошы і харчаванне. Нездарма натоўп заўсёды патрабаваў у імператараў “хлеба і відовішчаў”. Аднак жа гэтыя раздачы былі разлічаны менавіта на натоўп, а не на асобных людзей: хто атрымае звыш меры, а каму не дастанецца нічога. Дый “ахвярадаўцы” трымалі наўме карыслівыя мэты: імперыя – каб задобрыць сваіх грамадзянаў, асобныя патрыцыі – каб атрымаць лішнія галасы на выбарах у Сенат.

У хрысціянаў жа ўсё было інакш. Яны не абмяжоўваліся “разавымі падачкамі” для тых, хто мае ў гэтым патрэбу, падсаблялі да тае пары, пакуль жабрак не ўзаб’ецца на ўласны хлеб, нявольнік – не выйдзе з турмы, гаротнік – не забудзе пра сваю бяду. Можна сказаць, дапамога хрысціянскіх эклексій была адраснай.

Прыхільнікаў Хрыста папракалі яшчэ і ў тым, што яны замест таго, каб узводзіць ахвярнікі, статуі і храмы, ствараюць “тайныя таварыствы”, цураюцца астатніх людзей, таму зазвычай свае сходні ладзяць начамі. Гней ужо не памятаў, у каго з сучаснікаў прачытаў ён такія абуральныя радкі пра хрысціянаў: “І сапраўды, для чаго яны любым чынам імкнуцца зрабіць тайнаю для іншых тое, што шануюць, калі пахвальныя справы звычайна здзяйсняюцца адкрыта і ўтойваюцца толькі справы злачынныя?.. Чаму яны не асмельваюцца адкрыта выказвацца і вольна збірацца на свае сходы?” Аўтар відавочна крывіў душою, і Гней разумеў гэта сам, нават без падказкі Вірсавіі. Як жа хрысціянам не збірацца начамі, калі яшчэ з часоў Нерона Хрыстос шэльмуецца, а саміх вернікаў пераследуюць і забіваюць? На справе ж хрысціяне нічога не ўтойваюць, яны проста аддзяляюць сябе ад іншага свету, унутрана жывуць па-за ягонымі межамі, хоць і існуюць у ім. У свае абшчыны яны прымаюць усіх, хто пранікся вераю ў іхняга бога і Хрыста, і ў той жа час з пагардаю ставяцца да сваіх пераследнікаў ці прыстасаванцаў, а іхнія прапаведнікі дык і ўвогуле заклікаюць: “Не давайце святыні сабакам і не кідайце жэмчуга вашага перад свіннямі, каб яны не тапталі яго нагамі сваімі і, перавярнуўшыся ў прыхільнікаў, не разарвалі вас”[1].

Гней усё часцей міжволі лавіў сябе на думцы, што і неаспрэчныя пастулаты гэтае веры, і шчырыя, бескарыслівыя ўзаемаадносіны хрысціянаў паміж сабою яму даспадобы...

Тым часам Дыадор і Вірсавія ўжо выйшлі са сваіх пакояў, апранутыя, як і належыць тым, хто выпраўляецца ў дарогу. Паверх тунікі на Дыадоры быў сагум – салдацкі плашч са шчыльнай, тоўстай тканіны, накінутай на спіну і зашпіленай фібулай на правым плячы. Ветэран аддаваў перавагу толькі гэтай, звыклай для яго апратцы, якая калісь, пры легіянерскім побыце, надзейна засцерагала ад непагадзі і слоты, ратавала ад спёкі. Вірсавія апранула доўгую закрытую сукенку з рукавамі да запясцяў, а зверху абматалася шырокаю паллай – хусткай, наконт якой некалі скардзіўся Гарацый, маўляў, “у матроны, акрамя твару, ты нічога не можаш разгледзець”. Па праўдзе кажучы, Вірсавіі больш падабалася стола, але яе, на жаль, не дазвалялася насіць ні гетэрам, ні рабыням...

[1] Евангелле ад Мацвея, 7:6.

– Ну, мы пайшлі? – ці то лішні раз папрасіў дазволу, ці проста паведаміў Гнею Дыадор.

Гаспадар на знак згоды моўчкі кіўнуў галавою.

Пакуль ішлі, Вірсавія чамусьці зацята маўчала, нават не адзывалася на грубаватыя салдацкія жарты Дыадора, пры якіх раней зазвычай густа чырванела. А ветэран, наадварот, быў у прыўзнятым настроі, яго цешыла, што лішні раз удасца правесці нейкі час у хрысціянскай суполцы, пазносіцца з адзінаверцамі. Так-так, з адзінаверцамі, бо зусім нядаўна хрысціяне прынялі Дыадора ў сваю эклексію.

Спярша ён не праяўляў цікавасці да таго, што адбываецца на хрысціянскіх зборышчах. Ці блукаў па наваколлі, ці, захутаўшыся ў сагум, паспяваў нават крыху паспаць на шырокай лаўцы каля падворка, балазе, ночы стаялі сухія, цёплыя. А неўзабаве пацягнула холадам, заімжэла...

Дыадор змусіўся звярнуцца да Вірсавіі:

– Спытайся ў гаспадыні, можа, яна дазволіць мне прытуліцца дзе-небудзь з прыхаду – абы пад дахам...

Дыадор ужо ведаў, што гаспадыню, прыгожую жанчыну сярэдняга веку са злёгку пасярэбранымі валасамі і сумнымі вачыма (відаць, паспела ў сваім жыцці паспытаць нямала гора), усе завуць неяк дзіўна – дзяканіса, і што яна ў абшчыне ледзь не галоўная.

Коратка перамовіўшыся з гаспадыняй, Вірсавія запрасіла Дыадора ў дом. Прычым яму дазволілі прымасціцца не з прыхаду, а ў досыць вялікім пакоі, дзе акурат і адбываліся адправы. Праўда, за агульны стол ветэрана не паклікалі, паставілі для яго табурэтку каля ўваходу, усеўшыся на якой і прытуліўшы галаву да сцяны, ветэран драмаў пад манатонныя пропаведзі і малітвы. Але гэта спярша. Пакрысе ён стаў прыслухоўвацца да тых малітваў і пропаведзяў, унікаць у іхні сэнс, і нечакана зрабіў для сябе выснову, што не такія ўжо бязглуздыя гэтыя прамовы, больш за тое, яны суладныя з ягонымі думкамі і перакананнямі, простыя і па-чалавечы справядлівыя...

Потым, па дарозе, ён распытваў Вірсавію пра ўсё незразумелае, а яна з ахвотаю распавядала ветэрану пра Бога, пра Хрыста, пра ягоных вучняў, тлумачыла, у чым сутнасць хрысціянскае веры.

Наспеў час, калі Дыадор без аніякага ўціску абвесціў Вірсавіі, што хоча стаць паўнавартасным хрысціянінам. І яго прынялі ў эклексію, правёўшы абрад хрышчэння, а папярэдне наказаўшы Дыадору пасціцца ў пятніцу цэлы дзень...

Так што цяпер ветэран не проста суправаджаў Вірсавію, а сам з ахвотаю кіраваўся за ўскраіну, каб папрысутнічаць на набажэнстве. Гнею, вядома ж, Дыадор не расказаў, што здрадзіў і Юпітэру, і астатнім рымскім багам, бо невядома, як гаспадар да гэтага паставіцца...

Калі яны ўжо наблізіліся да сядзібы Сафіі, Вірсавія нечакана мовіла:

– Ты пачакаеш мяне тут, на дварэ.

– Як гэта? – здзівіўся Дыадор. – Я ж таксама маю права...

– Маеш, маеш, – перабіла яго Вірсавія. – Але сёння ніякага набажэнства не будзе. Ці ты забыў, што яны адбываюцца толькі па суботах?

– Дык чаго ж мы сюды прыперліся?

– Мне трэба пагаварыць з Сафіяй... Сам-насам, каб ніхто не перашкаджаў... Гэта наша, жаноцкае...

– А-а, вось яно што... – расчаравана выдыхнуў Дыадор. – Ну, трэба дык трэба. Я пагуляю.

Кінуўшы на ветэрана ўдзячны позірк, Вірсавія тры разы – умоўны знак

– пастукала ў дзверы. Гаспадыня адчыніла не адразу, відаць, была занятая нейкімі хатнімі справамі дый, мусіць, не чакала позніх гасцей.

– Вірсавія? Ты? – недаўменна спыталася Сафія, і на яе твар набегла трывога. – Што-небудзь здарылася?

– Ды не, нічога асаблівага, – пасьпяшалася супакоіць яе Вірсавія. – Я проста хачу параіцца...

– Ну то заходзь, – Сафія саступіла ўбок.

Кім стала гэтая жанчына для Вірсавіі? Як ні дзіўна, але адначасна і маці, якой у дзяўчыны ніколі не было, і сястрою, і сяброўкаю, і настаўніцаю, і дарадчыцаю. Вірсавія лічыла вялікім шчасцем, падарункам Бога тое, што Сафія з’явілася ў яе жыцці. Тата, Архелай... Яны, вядома, самыя блізкія людзі, але ўсё ж мужчыны, і ім не заўсёды ўдавалася зразумець дзявочую душу, дый сама Вірсавія не магла выплюхнуць перад імі свае пачуцці напоўніцу, да астачы. Іншая справа – Сафія. Ад яе ў дзяўчыны няма ніякіх таямніц.

Пра ранейшае жыццё Сафіі ў абшчыне мала хто ведаў, дый яна сама не імкнулася выставіць яго напаказ. Вірсавія толькі чула, што яна, па нейкай прычыне застаўшыся ўдавою, з трыма малымі дзецьмі перабралася сюды аднекуль з-пад Мілана. І менавіта са з’яўленнем Сафіі хрысціяне адчулі сваю еднасць, пачалі гуртавацца вакол гэтае жанчыны, паступова ўзнікла сапраўдная эклексія, а Сафія, натуральна, стала дзяканісай.

Увогуле абшчыну ўзначальваў прэсвітэр, які чытаў пропаведзі, павучаў, дабравеставаў. А ўсе будзённыя справы акурат вырашала дзяканіса Сафія: збірала ўнёскі, размяркоўвала дапамогу, рыхтавала прытулак для тых, каго пераследавалі, наведвала хворых і вязняў. Яна ж прыслугоўвала іншым на прачашчальных трапезах. Таму не дзіва, што Сафію вернікі паважалі, можа, нават болей, чым прэсвітэра...

Тры дзяўчынкі, тры дачкі Сафіі, звыклыя да таго, што ў іхнім доме амаль ніколі не змаўкаюць галасы вернікаў, спярша засталіся абыякавымі да нейкай позняй госці. Іхні пакой быў аддзелены ад агульнага памяшкання досыць тоўстаю сцяною – каб начныя адправы вернікаў не перашкаджалі дзяўчынкам адпачываць (зрэшты, калі-нікалі Сафія дазваляла і дочкам папрысутнічаць пры набажэнствах), і зараз яны ўжо рыхтаваліся да сну, але з-за таго, што дзверы ў пакой былі зачыненыя не надта шчыльна, дзяўчынкам удалося распазнаць знаёмы і вельмі прыемны ім голас.

– Вірсавія! Вірсавія! – зашчабяталі яны, саскочылі-скаціліся з шырокага агульнага ложка, выробленага з ясеня і пакрытага ваўняным матрацам, і, расчыніўшы дзверы ў сумежнае памяшканне, навыперадкі кінуліся да свае старэйшае сяброўкі – прынамсі, гэтак лічылі яны самі.

Дзяўчынкі ўпадабалі Вірсавію з першых дзён, як толькі яна пачала з’яўляцца ў доме. Вірсавія звычайна прыходзіла на набажэнствы крыху раней, чым астатнія вернікі: з-за няблізкага шляху яна баялася дзе-небудзь наспадзявана затрымацца і, каб не спазніцца, разлічвала час з невялікім гакам. Акурат гэтыя “лішнія” хвіліны яна і бавіла з дочкамі Сафіі. Вірсавія трымалася з дзяўчынкамі “на роўных”, бо, як лічыла, яшчэ не адышла далёка ад дзяцінства, і ім было пра што пагаварыць...

А яшчэ Вірсавія ніколі не прыходзіла без гасцінцаў, частавала то арэхамі, то мёдам, то салодкай запяканкай, пасыпанай макам. Сафія была жанчынаю не беднаю, дзецям усяго хапала ўдосталь, але каму ж неўспадоб гасцінцы?

Таму не дзіва, што сястрычкі забылі на сон, кінуліся насустрач Вірсавіі,

абступілі яе, уваткнуўшыся тварыкамі ў яе паллу. Госця пяшчотна гладзіла іх па галоўках, усміхалася.

– Ну, годзе, годзе, – нарэшце падала голас Сафія, якая дагэтуль замілавана пазірала на ідылію. – Позна ўжо. Сёння памаліцеся на сон без мяне дый укладвайцеся... А мы з Вірсавіяй яшчэ трохі пагамонім...

Дзяўчынкі паслухмяна патупалі ў свой пакой, і толькі самая меньшанькая, Любачка, на хаду азірнуўшыся, запытальна глянула ў вочы Вірсавіі.

– Як жа гэта я забыла пра гасцінцы! – схамянулася госця, згадаўшы пра клунак, які трымала ў левай руцэ. – Тут салодкі крэм, булачкі і піцэнскае печыва...

Любачка памкнулася было да клунка, але Сафія яе спыніла:

– Давай пакінем гасцінцы на заўтра, дачушка. Нельга наядацца на ноч гледзячы.

– Дабранач, мае харошыя! – ласкава мовіла Вірсавія ўслед сваім любіміцам.

О, як прыкіпела яна душою да гэтых сястрычак-анёльчыкаў – паслухмяных, выхаваных, набожных! А яшчэ – такіх розных. Верачцы, старэйшай, нядаўна дванаццаць споўнілася. Амаль падлетак. Яна і сама ўжо лічыць сябе дарослаю, спраўна памагае маці па гаспадарцы. Дзяўчынка сур'ёзная, з удумлівым позіркам. Верачка прыглядвае за малодшымі сястрычкамі, а часам і павучае іх. У яе чарнявыя валасы, акурат як былі ў маці, пакуль іх не кранула ранняя сівізна.

У дзесяцігадовай Надзейкі галоўка святлейшая, дый вачаняты шэрыя, летуценныя. Дзяўчынка вельмі спагадлівая, чулая да чужое бяды. Часам яна нібы захінаецца ад гэтага свету, доўга і засяроджана глядзіць у вакно, думае пра нешта сваё...

Затое Любачка, меншая за Надзейку на год, – поўная ёй супрацьлегласць[1]. Рухавая, жвавая – адным словам, гарэза. Такімі ж свавольнымі выглядаюць і каштанавыя кучаравінкі на ейнай галоўцы. Па праўдзе кажучы, Вірсавія адчувае да Любачкі найбольшую сімпатыю, дый малая горнецца да яе як ніхто.

Часам Вірсавіі па-блюзнерску здавалася, што яна прыходзіць у гэты дом не для таго, каб папрысутнічаць на адправе, а каб сустрэцца-пашчабятаць з гэтымі мілымі сястрычкамі...

Аднак жа якраз сёння яна прыйшла не для гэтага.

– Прысядзьма, – прапанавала Сафія, паказаўшы позіркам на канапу, прысунутую да дальняе сцяны. – Адчуваю, што размова нашая кароткаю не будзе...

Так яно і сталася.

Распавядаць Сафіі пра Архелая, Акілу і Гнея патрэбы не было: дзяканіса ўжо ведала жыццё Вірсавіі да драбніц. Таму дзяўчына, то глытаючы словы, то заліваючыся слязамі ад роспачы, адразу пачала расказваць пра тое, да чаго іхнія размовы ніколі не даходзілі, дый сама Вірсавія раней старалася гнаць з галавы здагадкі і сумневы наконт Гнеевай жарсці да яе. Але ж цяпер гаспадар сказаў пра свае пачуцці наўпрост, нават прапанаваў пабрацца, і трэба даваць яму нейкі адказ, рабіць выгляд, што нічога не здарылася, не выпадае.

[1] Дзяўчынкі мелі грэчаскія імёны — Пістыс, Эліс, Агапэ, што ў перакладзе і гучыць як Вера, Надзея, Любоў.

– Што мне рабіць? Што мне рабіць? – амаль штохвілінна паўтарала Вірсавія, раз-пораз перапыняючы свой аповед.

Сафія супакойвала яе, але даць нейкую пэўную параду не спяшалася. І толькі калі Вірсавія канчаткова замоўкла, адно што зрэдку ўсхліпвала, скалынаючыся плечыкамі, дзяканіса пасля кароткай развагі пачала свой удумлівы маналог:

– Любая мая Вірсавія... Я пражыла нямала, а яшчэ болей зведала ўсяго рознага... Але шчыра скажу: сама не ведаю, што табе параіць. Давай разважаць разам. Па ўсім адчуваецца, гэты Гней – зусім неблагі чалавек. Прыстойны. Сумленны. Ва ўсякім разе не такі, як большасць ганарлівых, разбэшчаных асоб з ліку рымскае знаці. Іншы і не пытаўся б тваe згоды, а тым болей не прапаноўваў бы пабрацца, каб дамагчыся свайго. Анягож, рабыня! Чаго з ёю валаводзіцца? Гэта ж, лічы, звычайная рэч. Як стол, як крэсла, як дом, што належаць толькі гаспадару і больш нікому. І з табою, як з рэччу, Гней можа зрабіць усё, што ўздумаецца – хіба толькі забіць не мае права. Але ж ён, бач, не ўжывае сваю ўладу над табою, хоча, каб усё было па-чалавечы, можна сказаць, па-хрысціянску... Пра што гэта сведчыць? Не толькі пра тое, што твой гаспадар вельмі годны чалавек. Гэта пазнака таго, што ён сапраўды цябе пакахаў, таму не дамагаецца гвалтам, хоча дабіцца ўзаемнасці, бо для яго ты ўжо не рабыня, ён ставіць цябе ўпоравень з сабою... Наша жаночая доля – горкая. Не мы выбіраем, з кім ісці па жыцці. Выбіраюць нас. Нават дочкі патрыцыяў не вольныя прыгарнуцца да таго, да каго ляжыць сэрца. А што ўжо казаць пра рабынь... Ледзь не кожны, хто пачуў бы тваю гісторыю, палічыў бы, што табе пашанцавала. Я нават не ведаю, ці здаралася ў гісторыі Рыма, каб рабыня стала жонкаю сенатара. Мусіць, не здаралася. І ты ўяві, чым рызыкуе Гней, зрабіўшы табе такую прапанову: з яго будуць кпіць, насміхацца... Ён гэта разумее і ўсё адно робіць такі крок...

– Дык ты лічыш, што я павінна даць згоду? – ускінула вочы Вірсавія.

Сафія сумна ўсміхнулася:

– Пакуль што я нічога не параіла. Я толькі засведчыла высакароднасць Гнея. Ён – сапраўдны хрысціянін. Хай сабе не па веры, а па сваіх учынках. На жаль, далёка не ўсе нашыя аднаверцы могуць гэтым пахваліцца. І невядома, хто болей даспадобы Богу: той, хто апантана яму моліцца, але не заўсёды паводзіць сябе праведна, ці той, хто не пакланяецца Хрысту, але жыве па Ягоных запаведзях, захоўваючы душэўную чысціню... Дык вось, менавіта таму, што ў твайго гаспадара хрысціянская існасць, ты і павінна яму... адмовіць.

– Як гэта? Не разумею, у чым тут сувязь...

– Скажы, Вірсавія: тваё сэрца належыць Архелаю? Ты кахаеш толькі яго?

– Толькі яго! І да скону!

– А да Гнея ставішся зусім абыякава?

– Чаму ж... Я бясконца яго паважаю...

– І ён гэтага заслугоўвае. Але ж паважаць можна многіх людзей, а кахаць – толькі аднаго. Каханне – падарунак Бога, і не кожнаму яно даецца... А цяпер пра тое, чаму ты можаш адмовіць Гнею. Я ўпэўнена, што ён не стане цябе пераследаваць, не зробіць нічога благога – менавіта таму, што хрысціянін па сутнасці і не здольны на ганебны ўчынак. Калі б на ягоным месцы быў хто-небудзь іншы, я яшчэ падумала б, ці даваць табе такую параду...

– Але ж Гней, нават калі не стане помсціць, усё адно можа пакрыў-

дзіцца, больш за тое – абразіцца. І невядома, як будуць складвацца нашыя адносіны пасля...

– Вядома ж, ён пакрыўдзіцца. Пакрыўдзіцца, калі ты не скажаш яму ўсю праўду.

– Што ты маеш на ўвазе?

– Тое, што Архелай, хутчэй за ўсё, – ягоны сын.

– Як?.. Я не магу... Толькі не гэта... Ты ўяўляеш, якім ударам станецца для Гнея такая навіна?

– Дзяўчынка мая! Кожны з нас у сваім жыцці здзейсніў нямала грахоў. Прычым некаторыя нават не ўсведамляюць, не ведаюць, што зрабілі нешта неўспадоб Богу. Так і жывуць, не здагадваючыся, што калі-небудзь паўстануць перад Госпадам з цяжкаю ношаю... Учыніць грэх – страшная правіна. Але яшчэ страшней тое, што чалавек не пакаяўся ў гэтым граху. Гасподзь міласцівы – ён усё можа прабачыць, калі пакаянне будзе шчырым. І каяцца трэба тут, на гэтым свеце, бо там, на нябёсах, будзе позна... Пра свой грэх, здзейснены ў маладосці, Гней, магчыма, і згадвае, верагодна, і раскайваецца, але ён не ведае, якія наступствы прынёс ягоны грэх. І, можа, найболей пераканаўчым пакаяннем для твайго гаспадара будзе тое, што ён ахвяруе сваім каханнем дзеля шчасця свайго сына, які і стаў вынікам таго грэху...

– Сафія, пра якое шчасце ты гаворыш? Архелай – немаведама дзе. Я не ведаю, ці жывы ён увогуле. А калі і жывы, дык ці можа ён знайсці мяне на абсягах вялізнай імперыі?

Крыху памаўчаўшы, Сафія адказала ціха але цвёрда:

– Усё ў руках Госпада. І нявызнаныя Ягоныя шляхі. Трэба маліцца і спадзявацца. Спадзявацца і маліцца...

За ўвесь зваротны шлях Вірсавія не прамовіла ніводнага слова. Уцяміўшы, што паміж дзяўчынаю і Сафіяй адбылася нейкая важная размова і зараз спадарожніца “пераварвае” яе ў галаве, маўчаў, не дакучаў і Дыадор.

Сафія, безумоўна, выказала слушную параду: каханнем трэба даражыць і спадзявацца на Божую міласць. Аднак... Яны з Архелаем так раскіданыя па свеце, што немагчыма нават уявіць, быццам ёсць хоць нейкая верагоднасць іхняе сустрэчы. Усё ва ўладзе Госпада? Але хто яны такія, Архелай і Вірсавія, каб Бог паспрыяў ім? Вунь колькі абяздоленых і нешчаслівых, але не да кожнага ў Бога “даходзяць рукі”, хоць яны і моляцца апантана...

А можа, гэта якраз і ёсць ласка Госпада, і Ён замест Архелая пасылае ёй Гнея? Можа, варта змірыцца з лёсам і даць згоду на прапанову гаспадара? Шчыра кажучы, Вірсавія падсвядома чакала, што Сафія параіць ёй менавіта гэта. Ажно не...

Тым не меней Вірсавія адчувала, што ўпершыню не паслухаецца Сафію і зробіць па-свойму...

## Пакуты Луцыя

Луцый Цэйёній Каммод, якога пасля ўсынаўлення імператарам Адрыянам сталі называць Луцыем Эліем Цэзарам[1], курчыўся ад нясцерпнага болю ў жываце. Гэты боль пераследаваў яго даўно, амаль год, але сёння з раніцы ён чамусьці зусім сцішыўся, а затым пекануў з яшчэ большаю сілаю, здавалася, па кішках цячэ распаленая смала. Ды каб жа толькі

[1] Летапісец Элій Спартыян памылкова дадаў яму яшчэ адно імя — Вер, якое і замацавалася ў памяці нашчадкаў як асноўнае, бо памылку Спартыяна пачалі паўтараць іншыя гісторыкі.

боль у жываце! На целе занылі незагойныя скураныя язвы, стаў даймаць бесперапынны кашаль, пасля якога з горла ляцелі макроты з прожылкамі крыві. Боль калоў і ў скроні, кругам ішла галава, з-за чаго Луцый не рызыкаваў падняцца з ложка, варочаўся, стагнаў, скрыгітаў зубамі.

Ніводзін лекар не мог вызначыць, што за немач схапіла ў абцугі імператарскага спадкаемца. А можа, і не адна, а адразу некалькі хваробаў адразу, як зграя раз’юшаных сабак, накінуліся на некалі прыгожае, спешчанае цела і пачалі разрываць яго на часткі, душыць з сярэдзіны, выпальваць гарачкаю. Падобныя сімптомы раз-пораз з’яўляліся і ў іншых рымлянаў-патрыцыяў і просталюдзінаў, праз кароткі час яны каналі, не ведаючы ад чаго, і ніхто не звяртаў на гэта ўвагі, бо незразумелых хваробаў было столькі, што не ўсе мелі назвы. А тут жа не плебей і нават не консул, а Цэзар!..

Луцыя даймаў не толькі фізічны боль – з ім ён за доўгія месяцы звыкся і ўспрымаў як належнае. А з мінулага дня дадаліся і пакуты душэўныя.

Учора раніцай да яго наведваўся чалавек ад гарадскога прэфекта, прынёс на подпіс нейкія папірусы наконт маёмасці і мімаходзь – ненаўмысна ці знарок – абмовіўся, што ў другой палове дня распачнецца баляванне ў імператара, на якое запрошаны самыя знакамітыя людзі Рыма. Мусіць, ён сказаў гэта ўсё ж наўмысна, бо блізкаму атачэнню Луцыя, тым лікам і жонцы Луцыле, было забаронена расказваць Цэзару пра грамадскае жыццё – каб не абцяжарваць хворага чалавека.

Луцыя не надта засмуціла тое, што ён асабіста запрашэння не атрымаў: Адрыян ведаў, у якім стане пераемнік, таму і не паклікаў на баляванне, бо гэта выглядала б насмешкаю і нават здзекам. Дый сам Луцый нізавошта не паехаў бы ў Цібур. Які з яго “балявальшчык”? Ужо даўно прапаў апетыт, ежу проста немагчыма глытаць, бо яна драпае горла, і такое ўражанне, быццам у страўніку засела іншароднае цела. Па гэтай прычыне Луцый схуднеў да непазнавальнасці, павытыркаліся рабрыны, запалі шчокі і вочы, і толькі нос абвострыўся, нібыта дзюба.

Узрушыла іншае. Чалавек ад прэфекта мімаходзь дадаў (тут ужо дакладна – наўмысна, каб зрабіць балюча Луцыю), што па горадзе ходзяць чуткі, быццам на гэтым баляванні імператар хоча абвесціць пра ўсынаўленне Антаніна. Ці ж можна было Луцыю ўспрыняць гэтыя словы без горычы?

Луцый, безумоўна, разумеў: на чале імперыі ён ужо не стане, бо проста не пераўжыве Адрыяна. Уласна кажучы, Луцый з-за гэтага не надта засмучаўся, бо ў яго ніколі не было асаблівага жадання ўзысці на імператарскі трон. Але ж чаму Адрыян спяшаецца з новым усынаўленнем, тым самым быццам загадзя хавае свайго былога фаварыта, яшчэ жывога? Чаму не можа дачакацца ягонае блізкае смерці? Няўжо не ўсведамляе, што гэтаю паспешлівасцю ён выказвае абыякавасць да папярэдняга сына, прыносячы яму душэўныя пакуты?

Цяжкія думкі перапыніў раб, які паведаміў, што прыйшоў Гермаген. Сам Адрыян не наведваў свайго фаварыта з тае часіны, як на Луцыя накінуліся хваробы. Можа, таму, што асцерагаўся падчапіць заразу, а больш з-за таго, што не жадаў бачыць некалі любімага чалавека ў такім жахлівым, бездапаможным аблічча, хацеў, каб ён застаўся ў памяці жыццярадасным і прыгожым. Зрэшты, тут іхнія жаданні супадалі: Луцыю таксама хацелася, каб светлае да яго пачуццё Адрыяна не перарасло ў шкадаванне.

Затое наведваць Луцыя імператар наказаў свайму асабістаму лекару. Гермаген прыносіў новыя лекі, аглядваў-абстукваў, даваў нейкія парады.

– Ну, як ты пачуваешся? – яшчэ з парога бадзёра запытаўся Гермаген, але, перахапіўшы патухлы позірк Луцыя, насцярожыўся. – Што-небудзь здарылася? Табе стала горш?

– Стала горш... – панура мовіў Луцый.

– Што найболей дакучае? Страўнік? Галава? – не дачакаўшыся адказу, лекар пачаў даставаць са скрынкі накшталт футарала розныя лекі і інструменты, раскладваць іх на століку побач з ложкам. – Зараз паглядзім...

– Гермаген, скажы, гэта праўда? – не зважаючы на мітусню лекара, Луцый зірнуў на яго поўнымі слёз вачыма.

– Я цябе не зразумеў. Што “праўда”?

– Што ўчора на баляванні імператар усынавіў Антаніна...

Ад такое нечаканкі лекар ажно разявіў рот. Ён, натуральна, ведаў, што па Рыме гуляюць чуткі-плёткі, дый сам Адрыян неяк абмовіўся, што яму варта падабраць новага пераемніка. Але ж як мог даведацца пра гэта Луцый? Тым болей пра Антаніна...

– З чаго ты ўзяў? – Гермаген адказаў не адразу. – Хто ўвёў табе ў вушы такую... такое...

– Дык праўда ці не?

– Вядома ж, не! На баляванні нават размовы не было пра нейкае новае ўсынаўленне. А ўвогуле...

– Што ўвогуле? Імператар усё-ткі мае падобны намер?

– Я ў душу імператара зазірнуць не магу, але нізавошта не паверу, што ён пра гэта задумваецца, – каб не нашкодзіць пацыенту, Гермаген, як і належыць лекару, высакародна хлусіў. – Ты ж ведаеш, як ён цябе любіць.

– Лепей сказаць – любіў...

– І цяпер любіць! Каму, як не мне, гэта ведаць найперш? Вунь як пра цябе клапоціцца.

– Ну, не так, як калісь...

Лекарам людзі чамусьці заўжды распавядаюць не толькі пра свае хваробы, але і выкладваюць душу. Вось і Луцыю закарцела паспавядацца Гермагену.

– А ведаеш, чаму імператар усынавіў мяне? Аднойчы пасля нашай інтымнай блізкасці, калі Адрыян атрымаў найбольшае задавальненне, ён пакляўся зрабіць мяне сваім пераемнікам... А калі б не пакляўся? Хутчэй за ўсё я ніколі не стаў бы Цэзарам...

– А вось гэта ты дарэмна. Мне здаецца, імператар даўно выношваў такую задуму, і зусім не з-за вашай інтымнай блізкасці. І вось табе доказ: Антыной. Якія ўжо жарсці былі паміж гэтым юнаком і Адрыянам, але ж імператар, бач, яго не ўсынавіў...

Гермаген зноў жа пакрывіў душою, каб падбадзёрыць свайго пацыента, хоць выдатна ведаў, што так яно і было: пытанне пра ўсынаўленне вырашалася ў ложку, бо Луцый мог пахваліцца толькі сваёю знешняю прыгажосцю, а вялікага розуму і ваеннага таленту багі яму не далі. Менавіта за тое, што Луцый майстравіта спатольваў інтымныя патрэбы Адрыяна, той прызначыў яго спачатку прэтарам, а затым і правіцелем у Панноніях. Неўзабаве Луцый стаў і консулам.

Аднак жа пра Антыноя Гермагену пляцкаць было не варта. І гэта ён сам адразу ж зразумеў, калі пабачыў, як перакрывіўся твар Луцыя пры згадцы пра свайго інтымнага саперніка.

– Антыной? О, зноў гэты Антыной! – Луцый пакутна закаціў вочы пад лоб. – Як я яго ненавіджу! Нават мёртвага! Ці ведаеш ты, Гермаген, што

палюбоўнікам Адрыяна я стаў задоўга да таго, як гэты Антыной трапіў на вочы імператару? Так-так, Адрыян упадабаў мяне яшчэ тады, калі хадзіў у консулах. О, якімі слодычнымі былі нашыя імгненні! А потым нехта падсунуў імператару гэтага Антыноя... Як я перажываў, як пакутаваў з-за таго, што Адрыяну болей не патрабавалася мая пяшчота... Але ж багі пачулі мае малітвы! Сорамна пра гэта казаць, але я жадаў Антыною... Ну, чаго жадаў, тое з ім і здарылася... Грэх, вядома, вялікі на мне... Ты, Гермаген, пра ўсё гэта Адрыяну не кажы – вельмі цябе прашу. Бо імператар можа і мяне самога ўзненавідзець за праклён... Абяцаеш не казаць?

– А навошта мне распускаць язык? Што было, тое было, усё адно ўжо нічога не паправіш. Дык не варта лішні раз вярэдзіць душу імператару, ён і так пачуваецца не надта здорава. А табе я тым болей нічога благога не зычу...

– Дзякуй, Гермаген! – задаволены прыязнасцю лекара, Луцый выплюхнуў на яго і астатнія рэшткі рэўнасці да Антыноя, які калісь перабег яму дарогу. – Мне балюча, што ў сэрцы Адрыяна ўсё яшчэ захоўваецца пачуццё да гэтага юнака. Бывала, што ў найбольш жарсныя моманты імператар называў мяне Антыноем...

– Гэта яшчэ нічога не значыць. Падобнае з кожным здараецца – такія ўласцівасці чалавечай памяці: раз-пораз выкідваць на паверхню што-небудзь прыемнае...

– Кажаш, раз-пораз? Не, Антыной засеў у душы Адрыяна як стрэмка! Інакш не называў бы ягоным імем гарады, не будаваў бы ў яго гонар храмы, не стаялі б па ўсёй імперыі статуі Антыноя...

– Гэта не павінна цябе засмучаць. Тыя храмы і статуі перш за ўсё сведчаць не пра заслугі Антыноя, а пра высакароднасць нашага імператара. Ён не забывае пра тых, хто пакінуў у ягоным жыцці прыемны след. Тое ж самае будзе і з табою. Я ўпэўнены, што пасля тваёй... ну, калі ты зоймеш месца побач з усімі нашымі багамі, у твой гонар Адрыян загадае ўзвесці і гарады, і храмы, і статуі.

– Ты сапраўды так лічыш?

– А то як жа! Імператар любіць цябе, як і раней. Ён толькі і гаворыць, што пра Луцыя... Вось, напрыклад, надоечы ён прагульваўся па садзе і напяваў радкі Вергілія:

> Толькі на кроплю імгнення пашлюць юнака на зямлю,
> Ну а потым
> Жыць не дазволяць яму...

Трэба сказаць, што побач з ім на той час знаходзіліся вельмі адукаваныя людзі, якія ведаюць творы Вергілія не горш,чым Адрыян. Дык нехта і нагадаў:

> А здалося б занадта магутным
> Для багоў племя рымлянаў, каб
> Дар падобны для іх захавала...

Але Адрыян яму запярэчыў: “Гэтыя радкі не падыходзяць да жыцця Луцыя.” І сам жа дадаў словамі таго ж Вергілія:

> Дайце руж пурпуровых і жоўтых лілей:
> Я хачу імі ўнука душу вельмі шчодра абсыпаць –
> Перад ім абавязак свой выканаць неяк,
> Хоць бы гэткім дарункам мізэрным...

Ці ж гэта не доказ, што імператар не дазволіць, каб тваё імя знікла ў небыцці? Ён ушануе цябе так, што свет не бачыў...

У дадзеным выпадку Гермаген ні кропелькі не схлусіў, але... не пераказаў змест далейшае размовы ў імператарскім садзе. Адрыян лічыў сябе найлепшым астролагам (зрэшты, ягоныя выключныя здольнасці ў гэтай навуцы адзначалі ўсе сучаснікі). Ён нават на сябе склаў гараскоп, а ўжо на свайго фаварыта Луцыя – тым болей. І яшчэ да ўсынаўлення ведаў, што імператар з яго будзе проста нікчэмны. Дый ці будзе? Зоркі загадзя падказалі Адрыяну, што Луцыю ніколі не ўзысці на імператарскі трон. Для чаго ж тады ўсынаўляў? Захацелася зрабіць свайму палюбоўніку прыемнае, спатоліць ягоныя амбіцыі... Вось і тады, у садзе, Адрыян, працытаваўшы Вергілія, з сумнаю ўсмешкаю прызнаўся: "Я ўсынавіў баство, а не сына". Нехта з прысутных, каб суцешыць імператара, выказаў сумнеў: "А можа, пры нараджэнні Луцыя не зусім правільна было вызначана размяшчэнне зорак, і ён, як мы спадзяемся, будзе жыць доўга?" Адрыян жа з прыкрасцю яму адказаў: "Гэта лёгка гаварыць табе, бо ты шукаеш спадкаемца сваёй маёмасці, а не імперыі".

Дык ці меў права Гермаген давесці ці намякнуць Луцыю, што Адрыян ніколі на яго не разлічваў, што будучыня імперыі яго хвалюе значна болей, чым лёс аднаго чалавека, хай сабе і вельмі блізкага? Ён не мог зрабіць гэта, бо асноўная запаведзь лекара – "не нашкодзь!"

Луцый жа, даведаўшыся толькі пра пачатак размовы ў імператарскім садзе, увачавідкі акрыяў, разняволіўся і нават ледзь не расплакаўся.

– Якія незабыўныя імгненні зведаў я з любым Адрыянам!.. Я прысвячаў яму вершы, а ён – мне... Я ведаю, што некаторыя папракаюць мяне ў разбэшчанасці. І праўда, любіў я палюбоўныя жарсці. Дык хіба ж гэта дрэнна? Чалавек і нараджаецца для таго, каб жыць з асалодаю... Ведаеш, якая палюбоўная забава падабалася мне найболей? Калісь я загадаў зрабіць ложа з чатырма высокімі спінкамі. З усіх бакоў яно было зацягнутае густою сеткаю. Я напаўняў гэтае ложа пялёсткамі ад ружаў, прычым, заўваж, рабы папярэдняе абразалі ў гэтых пялёстках кончыкі, каб ад іх зыходзіў водар. Побач са мною песціліся юныя спакусніцы, накрытыя коўдраю з лілей... А што датычыць жонкі, якая папракала мяне ў залішняй юрлівасці, дык я сказаў ёй раз і назаўсёды: "Калі ты не можаш даць мне таго, што я хачу, дык дазволь мне спатольваць жарсць з іншымі жанчынамі, бо слова "жонка" служыць для азначэння годнасці, а не прадмета асалоды". Вось нарадзіла яна мне прыстойных дзяцей – і досыць. Мой меншанькі, Вер, такім разумным хлопчыкам расце...

Гермаген слухаў гэтыя саладжавыя прызнанні і ў душы радаваўся, што Луцый ніколі не ўзыдзе на трон. У што ён ператварыў бы магутную імперыю? У ложу, пакрытую пялёсткамі руж?

Але гэтага ён, вядома ж, не сказаў. Лекар быў задаволены тым, што яму ўдалося хоць трохі падняць Луцыю настрой, развеяць цяжкія думкі і здагадкі. Пакінуўшы на століку новыя лекі, Гермаген ужо каля самых дзвярэй павярнуўся і яшчэ раз заспакоіў:

– Так што наконт новага пераемніка не хвалюйся. Плёткі ўсё гэта. Іх распускаюць зайздроснікі. Імператар ніколі не прамяняе цябе на некага іншага.

Луцый з удзячнасцю зірнуў лекару ўслед.

Вярнуўшыся ў Цібур, Гермаген па завядзёнцы накіраваўся на справаздачу да імператара.

– Ну, як ён? – нецярпліва і заклапочана запытаўся Адрыян.

– Нічога прыемнага... Тры-чатыры месяцы, можа, пражыве, але не болей. Горш іншае...

– Што яшчэ?

– Складваецца ўражанне, што хто-ніхто хоча заўчасна загнаць Луцыя ў магілу.

– Чаму ты так думаеш?

– Луцыю ніяк нельга хвалявацца, а яму ўвялі ў вушы, што ты ўжо намеціў сабе новага пераемніка – Антаніна. І быццам бы на ўчарашнім баляванні намерваўся гэта абвесціць...

– Хто? Хто мог яму такое сказаць?

– Луцыя “ўзрадаваў” чалавек, які прыходзіў ад прэфекта...

– Катылій Север?! Ну, нягоднік... Мала таго, што расплявузгаў словы, неабачліва сказаныя мною ў ягонай прысутнасці – пра “трыста мільёнаў сестэрцыі, патрачаных дарма”, дык яшчэ і вось гэта... Север не Луцыя ў магілу загоніць, ён сябе пахавае...

## Двайнік

Праз некалькі дзён Акіла сапраўды перабраўся ў новае жытло. Дом быў тыповы для таго часу – з атрыем, перыстылем, каланадамі, трыкліняй, – толькі больш дыхтоўны, чым у звычайнага рымляніна. У былога гаспадара Акіла выкупіў і ўвесь рыштунак, мэблю, посуд, так што ў доме нічога перарабляць не давялося. У Архелая складвалася ўражанне, што Акіла прыдбаў жытло для часовага карыстання, таму і не збіраецца ў ім нешта мяняць.

Неяк апоўдні Акіла загадаў Архелаю:

– Паедзеш са мною!

– Куды?

– Куды трэба! Ці, можа, ты ўжо не адчуваеш сябе рабом, што асмельваешся задаваць пытанні?

Фурман, відаць, добра ведаў дарогу і куды трэба дабірацца, бо карука доўга не тарахцела па брукаванцы, неўзабаве спынілася каля досыць прыстойнага дома на самай ускраіне горада.

– Хадзем са мною, – сказаў Акіла, саскочыўшы з карукі.

Усю дарогу Архелай губляўся ў здагадках: куды вязе яго гаспадар, навошта спатрэбілася выбірацца ажно за межы Рыма? Калі ж павозка спынілася каля няблага абгароджанае сядзібы, у клёк кальнула: “А ці не прадаваць ён мяне прывёз іншаму гаспадару?” Гэта было зусім верагодна, бо Архелай разумеў, што ніякае карысці з яго для Акілы пакуль што няма, адно харчы пераводзіць. Такое жыццё Архелаю падабалася, і ён нават устрывожыўся, бо невядома, у чые рукі можа патрапіць зараз і як з ім будуць абыходзіцца.

– Гаспадар дома? – строга запытаўся Акіла ў сталага служкі, які выглянуў з-за варотаў. Той доўга ўзіраўся ў твар нечаканага госця, адчувалася, што пазнаў, але чамусьці мовіў:

– Няма яго...

– Не хлусі! – гаркнуў Акіла. – Па вачах бачу, што няпраўду кажаш. Дома твой гаспадар, дома! Дакладзі Гнею, што я хачу з ім пабачыцца. І вось што... Магчыма, усё-ткі адмовіцца, дык ты яму дадай, што сустрэча больш патрэбная для яго, чым для мяне. У ягоных інтарэсах перамовіцца са мною! Зразумеў?

Служка моўчкі і насцярожана кіўнуў галавою.

Калі Дыадор далажыў Гнею, што прыехаў той самы чалавек, з-за якога зусім нядаўна самлела Вірсавія, сенатар раз'юшыўся:

– Я ж наказаў не пускаць яго на парог! Чаму ты не сказаў, што гаспадар некуды з'ехаў?

– Не ўмею я хлусіць... – апусціў вочы Дыадор. – Да таго ж, ён вельмі настойвае на сустрэчы. Кажа, што яна больш патрэбная табе...

– Э-э, што з табою зробіш!.. Ну, няхай заходзіць, калі дужа настойвае.

Іншым разам Гней нізавошта не пагадзіўся б зноўку пабачыцца з Акілам, але сёння ў яго быў прыўзняты настрой, бо ўчора вечарам здарылася тое, чаго ён чакаў усе апошнія дні. Гней неназаляў Вірсавіі, не патрабаваў, каб яна неадкладна дала адказ на ягоную прапанову, але ўчора дзяўчына сама падышла да яго, відаць, адчуваючы, што нельга бясконца "гуляць у маўчанку", рабіць выгляд, быццам тае прапановы не было ўвогуле. Не, Вірсавія не сказала наўпрост, што хоць заўтра гатовая стаць ягонай абручніцай, але ўсё адно дала Гнею надзею. "Гаспадар, – сказала Вірсавія, – я зраблю ўсё, што ты загадаеш. І жонкаю тваёю стану. Але... Не прыспешвай мяне, калі ласка. Мне трэба трохі разабрацца ў сваіх пачуццях, супакоіць сваю душу..." Гэтых слоў Гнею было дастаткова, каб акрыліцца. Няма вялікае розніцы, цяпер ці потым, галоўнае, што Вірсавія зрабіла выбар, прычым канчатковы, бо гэтая дзяўчына, адчуваецца, слоў на вецер не кідае, перш чым на нешта адважыцца, як след усё ўзважвае.

І вось жа якраз прыпёрся гэты Акіла! Няўжо ён разлічвае, што Гней усё-ткі прадасць яму Вірсавію? Ды ні за якія грошы! Тым болей цяпер... Трэба яму так і сказаць – як абсекчы. Каб нават і думкі пра Вірсавію выкінуў са сваёй бязмозглай галавы!

Тым часам Акіла ўжо ступіў у атрый. Архелаю ён наказаў чакаць каля варотаў.

– Вітаю цябе, – суха мовіў Акіла, памятаючы, чым скончылася ягоная апошняя спроба павітацца з Гнеем "па-людску".

– І я цябе... – з іранічнаю ўхмылкаю адказаў Гней і дапытліва стаў пазіраць на непажаданага госця. Гаспадар і сам стаяў у поўны рост, і Акілу не прапанаваў прысесці, гэткім чынам даючы пазнаку, што на працяглую размову госць можа не разлічваць.

– Прадбачу тваю рэакцыю, – сказаў Акіла, – але я зноўку з тою ж прапановаю: прадай мне сваю рабыню...

– Калі прадбачыш, дык чаго ж тады завітаў? – Гней усё яшчэ не сагнаў з твару ўхмылку.

– Змяніліся абставіны...

– Калі яны і змяніліся, дык толькі не на тваю карысць!

– Не спяшайся... Апрача любых грошай, якія ты запатрабуеш за рабыню, я гатовы прапанаваць вельмі важкі дадатак...

– Які яшчэ дадатак?

– Жывы!

– Я не люблю паўтараць двойчы, але для цябе гэта зраблю, калі адразу не дайшло: Вірсавія не прадаецца і не купляецца! Ні з нейкім дадаткам, ні без яго!

– Ды ты спярша зірні, што за дадатак. А можаш называць яго падарункам. Падыдзі сюды...

Хоць і без вялікае ахвоты, Гней усё ж зрабіў некалькі крокаў з глыбіні атрыя, скіраваў свой позірк туды, куды паказаў Акіла. За расчыненымі ва-

ротамі туды-сюды тупаў ці ўжо дзяцюк, ці яшчэ юнак. Ён не пазіраў у атрый, але твар усё-ткі быў павернуты ў іхні бок, і яго можна было разгледзець.

– Ну? – злавесна запытаўся Акіла.

– Што “ну”?

– Ды пратры свае вочы!

Толькі цяпер гаспадар пільна ўгледзеўся ў твар чалавека, якога, відавочна, прывёз з сабою Акіла, і знерухомеў. Кроў хлынула яму ў галаву. Гэта ж ён, Гней, толькі не цяперашні, а такі, якім быў гадоў дваццаць таму!

– Х-хто гэта? – пабялелымі вуснамі прашаптаў Гней.

– Табе лепш ведаць! – задаволены ўражаннем Гнея, усклікнуў Акіла. – Асабіста я ведаю адно: гэта мой раб...

– Твой раб?

– Так. Здагадваешся, адкуль я яго прывёз? Мусіць, здагадваешся! З Іудзеі!

– Прычым тут Іудзея? – усё яшчэ не мог ачомацца Гней.

– Дык ты ж у Палесціне, лічы, палову жыцця правёў...

– І што з таго?

– Ну які ты няўцямны! Мой раб з Іудзеі, і ты для тых мясцінаў не чужы... Мне здаецца, улічваючы выключнае падабенства, паміж вамі павінна быць нейкая сувязь...

– Якая яшчэ сувязь?

– Ды скуль я ведаю? – Акіла траціў цярпенне. – Сын, брат, пляменнік ці яшчэ якая радня – сам мне лепей скажы, кім ён табе даводзіцца!

– Які сын? Які брат? Што ты плешчаш? У мяне нікога няма і ніколі не было – ні жонкі, ні дзяцей! Я за свае ўчынкі заўсёды ў адказе... – Гней, нарэшце, узяў сябе ў рукі, да яго вярнулася здольнасць разважаць. – Гэта звычайнае супадзенне! У свеце ўсякае бывае...

– Бывае. Але каб супадзенне было поўнае – да рысачкі, да драбніцы, – мне пра такое чуць не даводзілася...

– Трэба яшчэ паглядзець, ці поўнае яно...

– Ну дык і паглядзі! Аддай сваю рабыню ўзамен гэтага хлопца, і разглядвайце адзін аднаго хоць усё астатняе жыццё! Пагаманіце, паўспамінайце, і, мне здаецца, абавязкова знойдзеце нешта агульнае...

Згадка пра Вірсавію канчаткова прывяла Гнея да розуму.

– Які абмен?! Я не ведаю, што гэта за чалавек, але ён не варты і пазногця Вірсавіі!

– Нават калі гэта твой сын?

– Няма ў мяне сына! Чуеш? Няма! І ўвогуле: годзе тлуміць мне мазгі! Ідзі прэч! І гэтага... свайго...

– Твайго!

– Свайго! Забірай, і каб мае вочы болей яго не бачылі! Прэч!

Акіла быў расчараваны, нават раззлаваны, бо дагэтуль ён не сумняваўся, што абмен абавязкова адбудзецца. Ну хто такая для Гнея Вірсавія? Звычайная рабыня, якіх на рынку – тысячы. А за яе ж можна атрымаць не толькі грошы, але і раба! Ды якога раба! Нават дзеля цікавасці кожны захацеў бы прыдбаць уласную копію. А калі яшчэ высветліцца, што ў жылах гэтае “копіі” цячэ родная кроў... Не, у Акілы былі ўсе падставы для ўдалай здзелкі! І вось на табе...

– Дык, значыць, Вірсавію ты мне не прадасі?

– Я ж казаў: двойчы не паўтараю.

Акіла вырашыў зрабіць апошнюю спробу дамагчыся свайго не пер-

нікам, дык бізуном. Гней хоць і фанабэрыцца, але па ўсім бачна, сустрэча з двайніком яго ўразіла, і цяпер сенатар не будзе абыякавым да лёсу Архелая. Ён абавязкова задумаецца: “А раптам паміж намі сапраўды ёсць нейкая сувязь?”

– Калі так, дык я ствару для гэтага раба сапраўднае пекла, – прыгразіў Акіла. – Ён шкадавацьме, што нарадзіўся на белы свет.

– Ты гэта можаш...

– Магу. А калі табе захочацца яму паспагадаць, дык, адумаўшыся, мяне знойдзеш. Прапанова наконт абмену пакуль што застаецца ў сіле... – з гэтымі словамі Акіла пакінуў атрый.

Застылы, як слуп, Гней правёў яго лютым позіркам...

А ў гэты час Вірсавія, забіўшыся ў кут свайго пакоя, калацілася ўсім целам. Калі завітаў Акіла, яна акурат знаходзілася ў перыстылі. Пачуўшы знаёмы і такі ненавісны голас, Вірсавія ледзь не самлела, яе апанаваў жах, падкасіліся ногі. Спатыкаючыся, яна міжволі кінулася шукаць хованку.

Пакуль Гней і Акіла вялі перамовы, Вірсавія сядзела ў сваім пакоі, як мыш у норцы. Яна была ўпэўнена, што гаспадар не дасць яе ў крыўду, а тым болей не прадасць гэтаму нелюдзю. І ўсё адно калацілася: нават блізкая прысутнасць ненавіснага чалавека выклікала ў яе душы панічнае пачуццё.

Вірсавія заставалася ў пакоі нават тады, калі галасы заціхлі і, падобна, Акіла пакінуў дом, атрымаўшы ад гаспадара належны адлуп. Гней чамусьці не стаў шукаць яе, каб сказаць, што зноўку наведваўся Акіла. І яно зразумела: навошта лішні раз вярэдзіць Вірсавіі душу? Лепей бы ёй увогуле не ведаць пра гэты візіт.

Затое, папярэдне пастукаўшы, у пакой увайшоў Дыадор. Згледзеўшы спалоханы тварык Вірсавіі, ён паспяшаўся дзяўчыну супакоіць:

– Ды не хвалюйся ты гэтак! Твой Акіла ўжо даўно сышоў.

– А чаго яго зноў сюды прынесла?

– Як быццам не ведаеш! Па тваю душу прыходзіў... Ды гаспадар яму кукіш паказаў. Калі па праўдзе, я ўсю іхнюю размову падслухаў...

– І многа грошай Акіла за мяне прапаноўваў?

– Па любой цане гатовы быў купіць! Яшчэ і жывы дадатак даваў.

– Як гэта – “жывы дадатак”?

– Свайго маладога раба. І што цікава: вось тут гаспадар наш трохі зніякавеў... Той раб у дом не заходзіў, каля варотаў туляўся, але ягоны твар усё-ткі можна было разгледзець. Гнея, мусіць, уразіла (гэтак жа, дарэчы, як і мяне), што той раб – выліты Гней, толькі ў маладосці...

Твар Вірсавіі імгненна зрабіўся белым, як палатно.

– Паўтары, што ты сказаў... – прашаптала яна здранцвелымі вуснамі.

– А што я такога сказаў? Той раб сапраўды вельмі падобны на нашага гаспадара. Лічы, адзін у адзін.

– Ты пачуў, як яго завуць?

– Ды не, імя не называлася.

– Архелай... – паспела прашаптаць Вірсавія, перш чым вочы яе заплюшчыліся.

Седзячы ў каруцы, Акіла не знаходзіў сабе месца, жаўлакі на ягоных сківіцах хадзілі хадуном. Архелай жа, наадварот, у душы радаваўся: калі і хацеў гаспадар прадаць яго некаму іншаму, дык, падобна, задумка не

атрымалася. Трохі бянтэжыла толькі тое, што купец нават не захацеў зірнуць на тавар: Архелая ніхто ў дом не паклікаў.

Акіла ж увесь час думаў і ніяк не мог даўмець, чаму Гней гэтак упарціцца, адмаўляецца прадаць яму рабыню. І ўжо напрыканцы шляху кальнула здагадка: “Ды, мусіць жа, Гней сам упадабаў Вірсавію! А чаму б і не? Дзеўка такой пекнаты, што ва ўсёй імперыі не знайсці...”

У такім разе Гнея можна зразумець. Ён ніколі не адасць Вірсавію дабрахоць. Трэба прыдумаць нешта іншае...

Дарэчы, варта падумаць і пра Архелая. Безумоўна, Гней заклапоціцца ягоным лёсам і, занепакоены тым, што ён, Акіла, паабяцаў “стварыць для гэтага раба пекла”, магчыма, паспрабуе неяк аблегчыць долю Архелая. Не выключана, што нават захоча яго выкрасці, бо Акіла, каб дапячы Гнею, таксама не прадасць раба за любыя грошы. Так што Архелая трэба берагчы, як зрэнку вока, можа, нават на нейкі час ізаляваць яго ад белага свету, забяспечыць надзейную варту, каб зламыснікі да яго не дабраліся.

Акіла нават ведаў, дзе лепей за ўсё ўтрымліваць Архелая, пакуль усё не ўсталюецца, пакуль не вырашыцца лёс Вірсавіі. Калі ён яшчэ толькі збіраўся купіць дом і аглядваў усе ягоныя куткі, у вочы кінулася досыць прасторная жалезная клетка, якая месцілася ў падвале. Мусіць, колішні гаспадар трымаў у ёй льва ці мядзведзя (а што, у людзей бываюць розныя прыхамаці), прынамсі, у падвале дагэтуль стаіць застаялы жывёльны дух. На клетцы і надзейны замок ёсць. Калі хто і захоча вызваліць Архелая, дык не ўдасца...

Сваю задуму Акіла вырашыў здзейсніць адразу ж.

– Ідзі за мною, – сказаў ён Архелаю, як толькі яны ўвайшлі ў дом, а сам па пакатай лесвіцы стаў спускацца ў падвал.

– Туды, усярэдзіну, – кіўнуў Акіла галавою, калі яны апынуліся перад клеткаю.

– Не зразумеў... – няўцямна прамармытаў Архелай.

– Ідзі ў клетку! – гаркнуў Акіла і, не чакаючы, пакуль раб самахоць зробіць два крокі наперад, падштурхнуў яго ў плечы. Затым прычыніў дзверцы, два разы крутануў ключом у вялізным замку.

– За што, гаспадар? – шчыра здзівіўся Архелай. – Што я такога зрабіў, каб ты мяне ў клетку – як звера?

– Не звера, а раба, – удакладніў Акіла. – Рабам акурат у клетцы і месца. А то адчуў вольніцу...

Затым чамусьці палагоднеў і дадаў:

– Не хвалюйся, гэта часова. Так трэба...

Ззаду ў Акілы ўжо стаялі Эфраім і Манасія. Яны адчувалі сябе ніякавата – з-за таго, што прапусцілі з’яўленне гаспадара, і цяпер, пераступаючы з нагі на нагу, вінавата апускалі вочы долу. Эфраім, зразумеўшы, што Архелай, падобна, атрымаў новае і не зусім зайздроснае жытло, радасна ўсклікнуў, шапялявячы скрозь шчыліну ў зубах:

– Во-во, тут гэтай шволачы шамае мешца!

– Замоўкні! – асадзіў яго Акіла. – Слухайце мяне. Зараз жа прынесці сюды матрац, коўдру, падушку. І начны гаршчок. Тры разы на дзень будзеце яго карміць і паіць. Ежу падавацьмеце вунь у тую дзірку, – Акіла паказаў на адтуліну ў самым нізе клеткі, цераз якую былы гаспадар, відаць, карміў свайго звера. – Вось вам ключ. Але дзверы не адчыняць, а то ён табе, Эфраім, і астатнія зубы выб’е. Раз-пораз будзеце сюды наведвацца, сачыць, каб ніхто чужы сюды і носа не паказаў... Зразумелі?

– Яшчэ як жражумелі! Жвер – ён і ёшць жвер...

## Шлях да ўлады

Ці марыў Адрыян стаць імператарам? Чаго ўжо крывіць душою — марыў. Прычым акурат з таго часу, як Нерва ўсынавіў Траяна. Гэта азначала, што стрыечны дзядзька рана ці позна "перахопіць лейцы" ў нямоглага кіраўніка імперыі. А што потым? Траян жа таксама не вечны. Уласных дзяцей у яго нямашака, дык зусім натуральна, што ён можа прызначыць сваім пераемнікам пляменніка...

Адрыян тады ўпершыню паваражыў на ўласны лёс. Для клерамантыі[1] абраў твор Вергілія, і яму выпалі такія вершы:

Хто гэта на даляглядзе, увенчаны голлем алівы,
Нашы трымае святыні? Яго сівізну пазнаю я!
Рымлянаў цар, ён законамі горад спрадвечны ўмацуе.
Беднай зямлёю народжаны, з'явіцца з Курый нікчэмных,
Прыме вялікую ўладу. Яе перадасць ён...

"Царом рымлянаў", паводле Вергілія, быў Нума Пампілій, але ж радкі цалкам адпавядалі і Траяну, які стаў імператарам. Займеўшы ўладу, "яе перадасць ён..." Ну каму ж іншаму, як не Адрыяну? Бо менавіта яму адкрыліся вершы ў гэтым месцы.

Аднак напачатку ўсё складвалася не зусім спрыяльна, і Адрыян нават усумніўся, ці не "падмануў" яго Вергілій...

Пасля перамогі над дакамі Адрыян у свіце Траяна вярнуўся ў Рым. Імператар шчодра раздаваў трафеі сваім военачальнікам, ладны куш атрымаў і Адрыян. Цяпер ён ужо не нейкі правінцыял, з якога колісь кпілі саслужыўцы-суддзі. Ён паспяховы, багаты чалавек, да таго ж пра яго ходзіць слава як пра адважнага ваяра, а калі ўлічыць яшчэ і прыродную прыгажосць, дык адбою ад жанчын не было...

Аднак жа Адрыян, памятаючы, з якою пагардаю паставіўся Траян да ягоных "моладзевых загулаў" ("дзякуй" зайздросніку Сервіяну, які расказаў пра іх імператару), не кінуўся ў блуд, на юных спакусніц не зважаў. Ён цалкам аддаўся дзяржаўнай службе, балазе займеў пасаду куратара і хавальніка заканадаўчых актаў Сената.

Якраз тады яго і ўпадабала Плоціна, жонка Траяна, надзвычай разумная і тактоўная жанчына. Упадабала за ягоную адукаванасць, арыстакратычныя манеры, бо і сама была вытанчанай асобай, востра ўспрымала прыгажосць і гармонію. А найперш яна адчувала да Адрыяна мацярынскія пачуцці, магчыма, таму, што ўласных дзяцей багі ёй не далі.

Хто-ніхто распускаў плёткі, што паміж Адрыянам і паважанаю матронаю існуе не толькі сяброўская сувязь, што падмацоўваецца яна і ў ложку. Анягож: Плоціна — жанчына яшчэ ў самым саку, на выцягнутым злёгку твары з удумлівымі вачыма і пульхнымі вуснамі добра захаваліся рэшткі былое пекнаты. А ў Траяна, занятага дзяржаўнымі справамі, застаецца мала часу, каб спатольваць жарсць зусім не старое кабеціны. Дык ці дзіва, што Плоціна падабрала для сябе палюбоўніка.

Гэтыя плёткі дужа не падабаліся Адрыяну, тым болей што яны былі беспадстаўныя. А яшчэ горш, што нехта данёс іх і да вушэй імператара. Вялікае небяспекі ў тым не было: Траян бязмежна давяраў сваёй жонцы, яна ўвогуле мела на яго велізарны ўплыў і лёгка здолела пераканаць ім-

[1] Варажба па "на лёс". Была шырока распаўсюджаная ў антычнасці. Існавала таксама варажба па Гамеру, Гесіоду і г.д. У хрысціянаў — па Бібліі.

ператара, што гэтыя плёткі — лухта, нічога, акрамя агульнага захаплення літаратурай і мастацтвам, у яе з Адрыянам ніколі не было і не будзе[1]. Траян жонцы паверыў, але хто яго ведае, што асела ў глыбіні ягонай душы. Ва ўсякім разе асаблівай прыхільнасці да свайго пляменніка імператар не выказваў. На тое была і другая прычына.

Траян не вызначаўся асаблівым красамоўствам. Ён мог няблага выказаць свае думкі, ставячы задачы перад военачальнікамі, бо сам быў закасцянелым ваяром. Але каб выступіць з адмысловаю прамоваю ў Сенаце, майстэрства яму бракавала. Вось тут Плоціна і падказала, што варта скарыстацца дапамогаю Адрыяна, які выдатна ўмее складаць прамовы. Траян хоць і з вялікаю неахвотаю, ды ўсё ж прыслухаўся да парады жонкі. З таго часу Адрыян стаў своеасаблівым "рэферэнтам" імператара. А калі той па нейкіх прычынах не мог прысутнічаць на пасяджэнні Сената, дык "рэферэнт" зачытваў ад імя імператара прамову, ім жа самім і напісаную...

Траяна такое становішча прыгнятала, ён адчуваў сваю хібнасць, непаўнавартасць. І ў параўнанні з кім? З гэтым смаркачом, хай сабе не чужым. Натуральна, Траян ставіўся да пляменніка з прахалодаю, бо той быў своеасаблівым дакорам імператару за ягоную неадукаванасць.

А Плоціна рабіла сваю справу як належыць: паступова, спакваля, па драбніцы яна набліжала свайго любімчыка да імператарскага трона. І, нарэшце, задумала пажаніць Адрыяна з Сабінай, унучатай пляменніцай Траяна. Імператар стаў на дыбкі:

— Ні ў якім разе! Сабіна вартая лепшага кавалера!

Шчыра кажучы, Адрыян і сам не надта жадаў пабрацца з Сабінаю. Не падабалася яму гэтая пыхлівая, фанабэрыстая дзяўчына з халодным позіркам ледзяністых вачэй, хоць хто-ніхто лічыў Сабіну нават прыгажуняй. Ды якая там прыгажосць: доўгі нос, шчыльна сцятыя тонкія вусны... Такія маладзіцы Адрыяну былі зусім не даспадобы: і трымаюцца незалежна, і ў ложку ніякага імпэту не выяўляюць... Але ж куды дзявацца? Хочаш стаць імператарам, дык і на кабыле ажэнішся...

Плоціна тым часам не здавалася і, як зазвычай, здолела настаяць на сваім, пераканала мужа, што лепшага абранніка для Сабіны не знайсці. У рэшце рэшт Траян даў згоду на шлюб, і Адрыян стаў чальцом імператарскае сям'і.

Аднак жа чапурыстая старадаўняя рымска-іспанская радня Траяна была чужою для Адрыяна, які адчуваў сябе элінам, гарнуўся да ўсяго грэчаскага. Не сышоўся ён і з грамадскімі дарадцамі імператара, хіба што толькі з былым сваім апекуном Аттыянам ды таварышам па службе ў войску Марцыем Турбонам знаходзіў агульную мову. А яшчэ да яго паблажліва ставіўся Ліцыній Сура, блізкі сябар Траяна. Вось і ўсе паплечнікі-аднадумцы.

Таму не дзіўна, што Адрыян невыказна ўзрадаваўся, атрымаўшы новае прызначэнне. У Рым пачалі даходзіць трывожныя весткі: на толькі што створаную правінцыю – Дакію — з усходу робяць наскокі зграі-полчышчы сарматаў. Траян выклікаў Адрыяна:

— Прызначаю цябе сваім намеснікам у Панноніі. Возьмеш тамтэйшыя легіёны і прагоніш сарматаў з Дакіі. Думаю, шмат часу і высілкаў у цябе гэта не зойме. Я і сам падаўся б туды, але няма калі: рыхтуемся да вялікае вайны з Парфіяй дый мой форум трэба дабудаваць...

---

[1] Некаторыя гісторыкі, тым лікам і Дыаан Касій, лічаць, што Адрыян усё-такі быў палюбоўнікам Плоціны.

Адрыян таксама разлічваў, што сарматаў яму ўдасца ўтаймаваць хутка: ну чаго вартае нейкае дзікае племя ў параўнанні са спрактыкаванымі ў вайсковай справе легіёнамі? Аднак жа атрымалася зусім інакш. Сарматы і праўда не маглі супрацьстаяць рымлянам у адкрытых бітвах, але яны рабілі нечаканыя кавалерыйскія налёты, падчас якіх легіёны пачувалі сябе нясоладка, тым болей, што іх, легіёнаў, было няшмат: Адрыян самаўпэўнена спадзяваўся пакараць сарматаў малымі сіламі. Да таго ж, Дакія была разрабаваная і спустошаная папярэдняю вайною, гарады і вёскі абязлюдзелі, таму для войска не хапала харчу. Пры гэтым уцалелыя дакі ненавідзелі заваёўнікаў-рымлянаў і як мага памагалі сарматам. Давялося іх сурова караць...

Тады Адрыян упершыню задумаўся: а ці варта імперыі пашыраць сваю тэрыторыю, якая і так вялікая? Бясконцай агрэсіяй рымляне толькі нажываюць сабе новых ворагаў.

У рэшце рэшт сарматы сышлі з Дакіі самахоць — гэтак жа нечакана, як і з'явіліся. Толькі праз год Адрыяну ўдалося вярнуцца ў Рым. Ён ужо канчаткова стаў праціўнікам любых захопніцкіх войнаў. А Траян акурат рыхтаваўся да паходу на Парфію... З-за гэтага Адрыян адчуваў сябе прыгнечана, нават узнагарода (стаў консулам) не надта ўзрадавала.

Адно суцешвала: Ліцыній Сура, можна сказаць, першы дарадца імператара, падзяляў погляды Адрыяна. І хоць на Усход перакідваліся ўжо шматлікія абозы з зернем і амуніцыяй, усё яшчэ захоўвалася надзея, што Траян прыслухаецца да Суры, перадумае і не стане распачынаць чарговую вайну. Магчыма, так яно і сталася б, аднак Сура цяжка хварэў, і ніяк не мог ачомацца для вырашальнае размовы з імператарам. А неўзабаве ён і ўвогуле сканаў.

Траяну стала вядома, што Адрыян узначальвае "партыю міру", якая супрацьстаіць ваяўнічым дарадцам з генеральнага штаба. Імператар стаў выказваць новаму консулу яшчэ большы недавер: яго нават не запрашалі на нарады, прысвечаныя блізкай вайне.

Калі консульскія паўнамоцтвы ў Адрыяна скончыліся, імператар паслаў яго сваім намеснікам у Сірыю. Што гэта азначала? Што ён не хоча, каб Адрыян "блытаўся пад нагамі", бо Сірыя стане глыбокім тылам, калі распачнецца вайна з парфянамі.

На той час Сірыя была квітнеючай правінцыяй: дагледжаныя палеткі, выдатныя дарогі, паўсюль забудоўваліся гарады, паліцы базараў стракацелі ад разнастайных тавараў, рыхтаваліся і разгружаліся шматлікія караваны, які адыходзілі і вярталіся з далёкай Індыі ці Кітая. Не дзіва, што за год намесніку ўдалося напоўніць усе вайсковыя склады. Легіёны, якія прыбывалі сюды адзін за адным, ні ў чым не мелі патрэбы.

Нарэшце ў войску з'явіўся і Траян са сваёю шматлікай світаю, у ёй былі нават Плоціна і Адрыянава цешча Матыдыя. З цешчай, дарэчы, дзякуючы намаганням Плоціны, у Адрыяна да таго часу склаліся неблагія адносіны, хоць напачатку менавіта яна працівілася шлюбу з Сабінай.

Імператар адобрыў дзеянні свайго намесніка, правёў агляд легіёнаў і накіраваў экспедыцыйны корпус у Арменію. Сам узначаліў астатняе войска, якое стала высоўвацца да вярхоўя Еўфрата. Акурат дарэчы без асаблівых намаганняў экспедыцыйны корпус захапіў Арменію і далучыўся да асноўных сілаў.

На зіму Траян вярнуўся ў Антыохію, а вясною зноў прыбыў у войска, якое стала спускацца ўніз па цячэнні ракі. Парфянская вайна пачалася.

Адрыян па-ранейшаму заставаўся ў Сірыі, у глыбокім тыле: яму было загадана забяспечваць патрэбы арміі. Цягам года, хоць і са спазненнем, да яго даходзілі весткі пра паспяховы рух рымскіх легіёнаў на поўдзень, потым пра ўзяцце Вавілона, Селеўкіі і парфянскай сталіцы Ктэсіфена. Здавалася б, трэба радавацца, але ў душу Адрыяна ўсё часцей закрадвалася трывога, бо вырашальная бітва так і не адбылася. Парфяне ўвесь час адступалі, навязваючы рымлянам ар'ергардныя баі, каб заманіць легіёны ў глыбіню сваёй неабдымнай тэрыторыі. Спыніць войска ўжо немагчыма, бо проста няма дзе замацавацца: навокал пустыня. Яшчэ горш, што заканчваюцца харчовыя запасы, а армія адышла далёка ад пладавітага ўзбярэжжа і марскіх шляхоў. Непадалёку, за Тыграм, уздоўж усяго ніжняга цячэння ракі цягнуўся магутны горны ланцуг, куды і "нырнула" парфянскае войска. Перасладаваць яго ў гарах не было ніякага сэнсу, таму ўсю наступную зіму рымляне затрацілі на беспаспяховую асаду непрыступнай крэпасці Асра, якая месцілася пасярэдзіне пустыні. Адрыян разумеў, што дзеянні імператара тлумачацца не стратэгічнай задумаю, а ягонай упартасцю...

А тут яшчэ і Іудзея выбухнула новым паўстаннем. Праўда, Сірыю яно не закранула, і Адрыян гэтаму вельмі радаваўся. Тым не менш, імператар змусіў распалавініць сваё войска і накіраваць карную экспедыцыю супраць іудзеяў.

Недзе ў канцы траўня ў Антыохію прыбыла нешматлікая вайсковая калона. Наперадзе ехаў коннік, але ў сядле ён трымаўся неяк ненатуральна: павады трымаў у левай руцэ, а правая, як плётка, бязвольна звісала ўздоўж цела. Адрыян не адразу распазнаў у конніку імператара: ён вельмі пастарэў, прыгорбіўся, вочы выглядалі пакутнымі.

Траяна суправаджалі Аттыян, які на той час узначальваў прэтарыянскую гвардыю (на вайну з Парфіяй былі кінутыя нават імператарскія кагорты), асабісты лекар Крытон, а таксама Плоціна і Матыдыя. Адрыян нават не паспеў падбегчы да калоны, каб павітаць імператара, як Траяну дапамаглі злезці з каня Аттыян і Крытон, таропка завялі яго па лесвіцы ў памяшканне, дзе Плоціна і Матыдыя паспешліва падрыхтавалі ложак. Трохі пазней Плоціна патлумачыла Адрыяну:

— Тры тыдні таму Траяна паралізавала. Ледзьве гаварыў, а правыя рука і нага амаль не варушыліся. Праўда, затым яму трохі палепшала. Аднак Крытон усё адно настаяў на вяртанні ў Рым. Маўляў, аравійская спёка можа выклікаць паўторны прыступ, пасля якога ўвогуле магчымая трагічная развязка...

Назаўтра, нягледзячы на свой цяжкі стан, імператар усё ж паклікаў Адрыяна да сябе. Ён ужо не ляжаў, задуменна сядзеў у глыбокім крэсле.

— Бачыш, якая бяда на мяне навалілася... — замест прывітання мовіў Траян. — Не думаў, не гадаў... Крытон кажа, што мне патрабуецца працяглы адпачынак. Хутчэй за ўсё, ён не хлусіць: я сапраўды пачуваюся пагана... Каб працягваць вайну, трэба падлекавацца. Частку войска я мяркую пакінуць на Еўфраце — там яно трымацьме абарону. Астатнія адыдуць сюды, у Сірыю, для адпачынку. Праз нейкі час ты іх заменіш. За зіму мы назапасім правіянту... Аб'яўлю новы набор у войска і прывяду сюды яшчэ дзесяць свежых легіёнаў. Мы там у горы ніяк не можам паткнуцца, дык у Гельвецыі збяром з горцаў некалькі атрадаў спекулаторасаў-праваднікоў...

У наступнае імгненне Адрыян пачуў словы, якіх не чакаў:

— Даручаю табе камандаванне над усім войскам...

Заўважыўшы ў вачах намесніка недаўменне і зразумеўшы яго па-свойму, імператар дадаў:

— Ды не хвалюйся ты... Усіх тваіх ворагаў пры маім штабе я забіраю з сабою ў Рым. Так што ніхто табе замінаць не будзе...

Пасля гэтых слоў Траян прымоўк, надоўга задумаўшыся. І затым зноў нечакана спытаўся наўпрост:

— Што ты зрабіў бы на маім месцы? Сышоў бы з Парфіі?

Адрыян зразумеў: ад адказу залежыць, ці прызначыць яго Траян сваім пераемнікам. Ён нават ведаў, якога адказу чакае імператар, але не змог пакрывіць душою перад чалавекам, якога бязмежна паважаў.

— Так, я сышоў бы з Парфіі, — пацвердзіў Адрыян. — Больш за тое: пакінуў бы і Арменію, і Дакію. І ўвогуле адмовіўся б ад заваёўніцкіх войнаў. Хіба ў нас мала тэрыторыі? Ды аж залішне! Нам з вялікаю цяжкасцю ўдаецца трымаць наёмныя арміі на дальніх межах імперыі...

— Але ж варвары па-ранейшаму нападацьмуць на нашыя тэрыторыі, — запярэчыў Траян. — Каб іх уціхамірыць, усё адно давядзецца трымаць легіёны напагатове...

— Якраз рэгулярныя легіёны нам і не трэба, — Адрыян паспяшаўся выкласці імператару ўсё, пра што думаў апошнім часам. — У Азіі заслонаю ад варвараў будуць для нас саюзныя царствы. У Еўропе ўздоўж усяе лініі абароны па Дунаі і Рэйне цераз кожныя дзесяць міляў варта размясціць невялікія, але добра ўмацаваныя лагеры, злучыць іх равамі, частаколам і добрымі дарогамі. Легіёны можна фармаваць з мясцовых жыхароў, даўшы ім рымскае грамадзянства. У мірны час легіянеры няхай апрацоўваюць прылеглыя землі, зімою чысцяць дарогі ад снегу. У кожным лагеры будзе пастаянна дзяжурыць адна зменная кагорта, якая высылацьме конныя раз’езды. Варта пабудаваць высокія вежы і на іхніх вяршынях распальваць кастры, каб яны бачыліся з двух суседніх лагераў — і так па ўсім ланцугу. Засланяючы ці прыкрываючы полымя, можна паведамляць пра варожы напад. Легіянеры адразу ж збяруцца ва ўмоўленых месцах і рушаць на падмогу. І што таксама вельмі важна: у мірны час іх не трэба будзе карміць ці плаціць грошы. Хіба ж так не было калісь, калі Рыму давялося абараняцца ад ваяўнічых суседзяў і галаў?..

— Але ж такая палітыка пагубіць імперыю. Рым растворыцца ў лавіне правінцыялаў, бо, скажам, дзеці тых легіянераў таксама будуць рымскімі грамадзянамі. Затым гэтага ж захочуць і астатнія, хоць у войску служыць не будуць...

Ад Траяна можна было чакаць гневу, але ён чамусьці трымаўся спакойна, нібы прапаноўваючы намесніку мірны дыялог. Адрыян, падахвочаны рахманасцю імператара, вырашыў выказаць яму ўсё.

— Ну і няхай! Галоўнае — захаваць мір. Богападобны Аўгуст выдатна разумеў неабходнасць трывалага міру для росквіту Рыма. Ён здолеў дамовіцца з парфянамі, вывеў войска з Германіі. Зрэшты, у адным Аўгуст памыляўся: ён хацеў падпарадкаваць Рыму прылеглыя да імперыі правінцыі, абклаўшы іх данінаю. Але ж такі мір — нетрывалы, а становішча рымлянаў у гэтых правінцыях — ненадзейнае. Тыя народы, якія засталіся ў скарочаных межах імперыі, павінны мець такія ж правы, як італікі, адчуваць сябе добраахвотнымі падданымі адзінай для ўсіх дзяржавы. Рымскае грамадзянства трэба паступова, але няўхільна пашыраць. Спярша на тых, хто самахоць становіцца ў вайсковыя шэрагі, а потым і на ўсё астатняе насельніцтва правінцый. У часіны смяротнае небяспекі ўсе рымляне выходзілі на сцены старажытнага Горада, каб адбіць нашэсце ворага. Імперыя павінна стаць быццам бы велізарным горадам, грамадзяне якога гатовыя

абараняць сябе і сваіх дзяцей на ягоных межах. Дамы і храмы горада заменіць адзіны для ўсіх парадак, заснаваны на шматвекавым вопыце Рымскае дзяржавы. З большаю сілаю павінна ўзнавіцца грамадзянскае апалчэнне. Тады ніякія варвары не здолеюць уварвацца ў межы абноўленай Рымскай імперыі. Нацыянальныя асаблівасці захаваюцца, аднак лацінская мова будзе мець галоўную ролю ў збліжэнні народаў. Не ваенныя трафеі і разрабаванне пакораных суседзяў, а гандаль стане крыніцаю дабрабыту рымлянаў. Усю імперыю трэба пакрыць сеткаю дарог, якія не саступалі б італійскім. Адроджаная культура Грэцыі ў сукупнасці з вопытам рымскай цывілізацыі паступова пераўтвораць сённяшнія дзікія правінцыі, дый саму Італію. Я выдатна разумею, што ў блізкай будучыні Рым не зможа адмовіцца ад ганебнага рабства. Але прыток новых рабоў спыніцца, а дзеці цяперашніх паступова будуць атрымліваць волю. Ужо зараз рымлянам варта прызнаць, што рабы — гэткія ж людзі, як і мы...

— Ну, годзе, — у рэшце рэшт перабіў Адрыяна імператар. — Я здагадваўся, якая каламуць у тваёй галаве, але каб настолькі... Пакуль я жывы, буду ўмацоўваць магутнасць Рыма і сілаю прымушу ягоных ворагаў паважаць нашыя межы, якія пастараюся адсунуць яшчэ далей. Нягледзячы на тое, што ты мне тут нагаварыў, я не змяню сваё рашэнне: ты ўзначаліш войска. Военачальнік з цябе неблагі, а на здраду ты не здольны. Так што ваюй, а там пабачым... Да аднае высновы я прыйшоў канчаткова: сваім пераемнікам цябе не прызначу. Магчыма, што ўвогуле не назаву яго пры жыцці... Няхай вырашае Сенат. Вось калі зможаш пераканаць сенатараў, што ты дастойны імператарства, дык калі ласка... А я сваімі рукамі пахаваць імперыю не хачу... Ну, усё. Я стаміўся. Хачу адпачыць...

Праз некалькі дзён імператар узышоў на карабель і накіраваўся ў Рым.

А яшчэ праз два тыдні Адрыян атрымаў тайнае пасланне ад Плоціны, у якім яна паведаміла, што Траян памёр. Плоціна таксама напісала, што перад смерцю ён усынавіў Адрыяна і што паведамленне аб гэтым з надзейным чалавекам даслана ў Рым. Імператрыца абяцала два-тры дні ўтойваць смерць мужа — з тым разлікам, каб Адрыян змог належна падрыхтавацца да ўсіх нечаканак. А яны зусім магчымыя, бо ўсынаўленне не было афіцыйна абвешчана імператарам і зацверджана Сенатам.

Адрыян паспешліва адплыў у Селінунт, каб развітацца з нябожчыкам і папрысутнічаць пры спальванні ягонага цела. Пасля гэтага Плоціна з невялікаю світаю марскім шляхам павезла урну з попелам Траяна ў Італію, а Адрыян вярнуўся ў Сірыю. Пра смерць імператара і ўсынаўленне было шырока абвешчана. Войска аднадушна вітала Адрыяна ў якасці імператара. Аднак Сенат у Рыме ўспрыняў гэтыя звесткі не так адназначна. Многія сенатары сумняваліся ў сапраўднасці ўсынаўлення...

А як жа было на самай справе? Пра гэта не даведаўся нават Адрыян, і колькі ні распытваў ён потым Плоціну, яна не расказала, адно толькі мовіла:

— Якая табе розніца? Меней будзеш ведаць, мацней будзеш спаць...

Аднак жа дакладна было вядома, што ў апошнія прыжыццёвыя хвіліны побач з імператарам прысутнічала пяць чалавек: ягоны дарадца і былы апякун Адрыяна Аттыян, жонка Плоціна, пляменніца Траяна і цешча Адрыяна Метыдыя, лекар Крытон і ардынарац імператара Федзім. Першыя чацвёра былі гарачымі прыхільнікамі Адрыяна, а Федзім — лютым ягоным ненавіснікам. Выглядала дзіўна, што ўжо на наступны дзень пасля смерці

Траяна ад ліхаманкі сканаў і ягоны ардынарац... Было зусім відавочна, што Федзіма атруцілі, таму ў Сенаце хадзілі размовы, што Плоціна і астатнія змоўшчыкі здзейснілі падробку, насамрэч жа Траян Адрыяна не ўсынавіў, наадварот, на чале імперыі ён хацеў бачыць Нератыя Прыска, бо ўсе памяталі, як некалі імператар прылюдна сказаў яму: “Калі са мною што-небудзь здарыцца, я даручаю табе правінцыі”.

Зрэшты, размовы хоць і хадзілі, але ўсе выказваліся шэптам, бо Адрыян своечасова прыслаў у Сенат пасланне, у якім ён прасіў прабачэння за тое, што не даў сенатарам магчымасці выказацца наконт пераходу да яго імператарскае ўлады, але гэта, маўляў, здарылася таму, што ён “паспешліва быў абвешчаны ваярамі, бо дзяржава не можа заставацца без імператара”. У пасланні да сенатараў між радкоў чыталіся выяўныя намёк і пагроза: майце на ўвазе, што мяне зацвердзіла парфянскае войска, у якім больш чым палова ўсяе рымскае арміі, і калі вы не пацвердзіце рашэнне ваяроў, дык... Ці трэба казаць, што сенат прызнаў Адрыяна імператарам у той жа дзень.

Здавалася б, усё складвалася так, што лепш не прыдумаеш. Ажно не. Адданы Аттыян прыслаў у Антыохію свайго табілярыя з трывожнаю весткаю: у Рыме чатыры кансуляры, Нігрын, Цэльз, Пальма і Лузій, “муцяць ваду”. Больш за тое, маюць намер забіць новага імператара, як толькі ён з’явіцца ў сталіцы.

Пагроза не была пустою. Усе змоўшчыкі-кансуляры — знаныя военачальнікі. І калі ўжо задумалі нешта сур’ёзнае, дык не адступяцца, балазе, за імі стаяць немалыя сілы. Рызыкаваць Адрыян не захацеў, вырашыў, што трэба перачакаць, тым болей, што на Усходзе неадкладных спраў хапае.

Адрыян стаў выконваць тую “праграму”, якую зусім нядаўна выклаў Траяну: Арменія атрымала незалежнасць, з Парфіяй быў заключаны мір. Вялікая кроў пралілася толькі ў Іудзеі, па якой давялося прайсціся агнём і мячом, бо бунтарскае яўрэйскае племя ніяк не магло ўтаймавацца.

Але што ж рабіць са змоўшчыкамі-кансулярыямі? Аттыян паведамляў, што яны ўсё яшчэ выношваюць зламысныя планы: магчыма, ад забойства імператара ўжо адмовіліся, але ўсё адно нешта задумваюць, ва ўсякім разе пакоры ад іх не дачакаешся, пры любым зручным выпадку будуць “ставіць палкі ў колы”. Аттыян сам прапанаваў выйсце.

Амаль адначасна прэтарыянцы па загадзе свайго камандзіра Аттыяна забілі чатырох кансулярыяў: Пальму — у Тэрацыне, Цэльза — у Байях, Нігрына — у Фавенцыі, а Лузія — проста ў дарозе[1].

Аттыян у сваім пасланні-справаздачы параіў на гэтым не спыняцца, прапанаваў забіць яшчэ прэфекта Рыма Бебія Макра, Лаберыя Максіма, які знаходзіцца ў ссылцы на востраве, а таксама Фугі Краса. Усе яны, даводзіў Аттыян, уваходзілі ў “кіраўнічы штаб” змоўшчыкаў. Аднак Адрыян палічыў, што “галава гідры” ўжо адсечаная, крыві досыць, названыя людзі заслугоўваюць менш суровае кары...

Цяпер ужо можна было вяртацца ў Рым з трыумфам. Але Адрыян усведамляў, што залішняе ўшанаванне не да месца: усё-ткі ад няўцямнага ўсынаўлення і таямнічага забойства чатырох кансулярыяў у рымскае знаці застаўся непрыемны асадак, дый сам ён адчуваў нейкую віну...

---

[1] Элій Спартыян сцвярджае, што ў сваім “Жыццяпісе”, які да нашых дзён не дайшоў, Адрыян пераконвае, быццам кансуляры былі забітыя па загадзе Сената, насуперак ягонай волі. Але гэта, вядома ж, не так: Адрыян склаў уласны “жыццяпіс”, каб апраўдацца перад нашчадкамі за ўсе свае злачынствы і грахі.

З гэтае прычыны Адрыян перанёс свой трыумф на былога імператара: у трыумфальнай калясніцы загадаў везці выяву Траяна. А яшчэ — адмовіўся прыняць імя “Бацька Айчыны”. Каб улагодзіць сенатараў, паабяцаў ніколі не караць ніводнага з іх без згоды Сената, а просталюдзінам загадаў выдаць яшчэ “па тры залатых”, хоць столькі ж яны атрымалі раней.

Тым не меней, змыць крывавую пляму не ўдалося: па-ранейшаму сенатары цішком абвінавачвалі Адрыяна ў забойстве паважаных военачальнікаў. Аб гэтым не затухалі размовы аж да таго часу, пакуль імператар не пазбавіў Аттыяна пасады прэфекта прэтарыянскай гвардыі, прызначыўшы замест яго Турбона. Гэтым самым Адрыян паспрабаваў цалкам перакласці на Аттыяна віну за забойства: маўляў, за тое і прагнаў, што ён дзейнічаў насуперак маёй волі. Аднак гэта была толькі спроба пусціць пыл у вочы, бо ўся камбінацыя задумвалася сумесна з Аттыянам, і калі жарсці ўтаймаваліся, імператар правёў яго ў Сенат...

Усе тыя падзеі яскрава захаваліся ў памяці Адрыяна. О, колькі непрыемных момантаў давялося яму перажыць толькі з-за таго, што ягонае ўсынаўленне Траянам ставілася пад сумнеў! Вунь і па трупах давялося прайсціся...

Дык навошта будучаму імператару здаваць такія крывавыя іспыты? Яму, Адрыяну, належыць зрабіць усё, каб улада перайшла з рук у рукі без аніякіх непаразуменняў.

## Адзінае выйсце

Ужо каторую гадзіну, нерухома лежачы ў ложку, Вірсавія невідушчымі вачыма глядзела ў столь. Дыадор двойчы заходзіў да яе ў пакой, спрабаваў пра нешта загаманіць, але дзяўчына не зважала на ветэрана. Дыадору было відавочна: Вірсавію зваліла не хвароба, яна здранцвела ад таго, што пачула пра хлопца, якога прывозіў Акіла. Таму ён не спяшаўся дакласці Гнею, што рабыні няможацца: крыху паляжыць, падумае дый акрыяе.

Вірсавія зрабіла выснову: Акіла не ведае, што яна знаёмая з Архелаем, што яны ўвогуле як адно цэлае, інакш выставіў бы свайго раба напаказ не толькі Гнею, але і ёй самой, каб паздзекавацца ці нарабіць яшчэ большага паскудства. Архелай жа — разумны хлопец, пра Вірсавію Акілу не абмовіўся, бо чуў пра ягоныя заляцанні.

Дык радавацца ўсяму, што адбылося сёння, ці засмучацца? Немаведама...

Сорамна прызнацца, але Вірсавія ўжо змірылася з незваротнаю стратаю, хоць шчырае пачуццё да Архелая не затухала ў яе сэрцы ні на хвіліну. А галоўнае — яна дала згоду Гнею. Ці ж можна падмануць, напляваць у душу гэтаму амаль святому чалавеку, які дзеля яе гатовы на ўсё?..

Ну чаму, чаму яна не прыслухалася да парады Сафіі? Перачакала б яшчэ тыдзень-другі, і не давялося б цяпер ірваць сваю душу на шматкі...

Вось яна, Божая кара! Зняверылася, страціла надзею — і за тое пакутуй.

Але чаму кара? Можа, гэта Божая літасць? Магчыма, Бог, хоць і са спазненнем, пачуў ейныя малітвы, зліταваўся з іх, Архелая і Вірсавіі, і вырашыў зноўку злучыць іхнія лёсы?

Ну вядома ж, так і не іначай! Бо вельмі ўжо шмат нітачак пераплялося ў адным клубочку, вельмі многа выпадковасцей, якія без Божае ласкі нізавошта не маглі б увасобіцца ў існасць.

Дык што рабіць? Як жыць далей? Да якога берагу ёй прыткнуцца? Вірсавія так і не змагла прыйсці да пэўнае высновы. Адно не выклікала сумневу: ужо няма сэнсу ўтойваць ад Гнея ўсю праўду. І яна раскажа...

Пасля сустрэчы з Акілам, пасля таго, як пабачыў свайго маладога двайніка, Гней таксама пачуваўся агаломшана. Прынамсі, калі Дыадор завітаў да гаспадара, каб параіцца наконт нейкае гаспадарчае нэндзы, ён заспеў Гнея ў прыгнечаным стане і ў адказ пачуў толькі адрачона-незадаволенае:

— Потым, потым!

"Што гэта з імі зрабілася?" — не мог даўмецць Дыадор, але на ўсялякі выпадак вырашыў болей нікому не дакучаць.

Гнею, натуральна, было над чым задумацца. Што гэта за хлопец? Адкуль такое падабенства? Гней хоць і даводзіў Акілу, што яно можа быць выпадковым, але сам сабе ж і не верыў. Здараецца, вядома, што ў зусім розных людзей амаль аднолькавыя рысы твару, постаць, хада... Але каб вось гэтак! Адзін у адзін! Такое, бадай, выпадковым не бывае...

Колькі ні напружваў мазгі, дапяць, дзе ён сапраўды "пакінуў след", Гней не здолеў. Зрэшты, якая розніца? Калі гэта насамрэч сын, дык няважна, хто яму даў жыццё — патрыцыянка ці гетэра. Бацька ж усё адно Гней.

Сын... Неяк дзіўна гучыць. Нязвыкла. Нечакана. Няўжо і сапраўды адна кроў? Чакай, дык Акіла ж можа здзейсніць пагрозу! Учыніць з раба свайго здзекі! Не, не над сваім рабом, а над Гнеевым сынам! Ці ж можна гэта стрываць? Ды ні ў якім разе! А чым Гней можа дапамагчы? Абмяняць таго хлопца на Вірсавію? Ды гэта ж усё адно, што вырваць са сваіх грудзей сэрца... Прадаць усё — дом, маёмасць, узнагароды — і выкупіць у Акілы гэтага раба? Але ж ён (цяпер гэта відавочна) не прадасць хлопца ні за якія грошы.

Гней ліхаманкава думаў-мазгаваў, аднак прымальнага выйсця так і не знаходзіў....

Бралася на вечар, і Гней прысеў за картыбул у атрыі, каб да цемры прагледзець папірусы, якія прыслалі яму з Сената. Не паспеў прабегчы вачыма па першых радках, як з перыстылю павольна выплыла постаць Вірсавіі. Менавіта выплыла, бо дзяўчына рухалася павольна, неяк нясмела, хістаючыся, нібы цень.

— Можна? — спыталася яна і паказала на крэсла, тым самым просячы дазволу прысесці.

Гэтая просьба здзівіла Гнея: Вірсавія ніколі не садзілася побач з ім, пры любой патрэбе, стоячы, таропка задавала якое-небудзь пытанне і, пачуўшы адказ, адразу ж сыходзіла. А цяпер чамусьці зусім інакш... Гней нават насцярожыўся: мусіць, Вірсавія хоча распачаць нейкую важную размову, прычым кароткаю яна не будзе.

— Сядай, калі ласка, — лагодна мовіў гаспадар, з пяшчотаю пазіраючы на сваю пакуль што рабыню.

Прысеўшы на краёчак крэсла, Вірсавія колькі хвілін маўчала, не ведаючы, з чаго пачаць. Каб парушыць няёмкую цішыню, Гней загаманіў сам:

— Сюды сёння з раніцы зноўку Акіла наведваўся. Далдоніў пра адно і тое ж: прадай ды прадай рабыню. Я, вядома, спраwадзіў гэтага нахабніка. Але вось што цікава: на гэты раз ён прапаноўваў за цябе не толькі грошы, але і свайго раба ў дадатак...

Пры апошніх словах Вірсавія злёгку здрыганулася, але Гней гэтага не заўважыў, працягваў далей:

— Мне той раб і дарэмна не трэба, але... Ці паверыш, ён вельмі падобны на мяне ў маладосці! Я нават і ўявіць не мог...

— Гэта быў Архелай... — выхрыпела са сваіх грудзей Вірсавія, зразумеўшы, што больш зручнага моманту, каб сказаць наўпрост і адным махам, не будзе.

Да розуму Гнея не адразу дайшоў сэнс ейных слоў, і ён без аніякіх эмоцый перапытаў:

— Хто?

— Гэта быў Архелай, – ужо больш упэўнена паўтарыла Вірсавія. — Той самы хлопец, пра якога я табе расказвала...

Твар Гнея пабялеў.

— А... а... чаму ты так думаеш? — заікаючыся, нарэшце выціснуў ён з сябе.

— Таму што Архелай, мой каханы чалавек, акурат і падобны на цябе кропелька ў кропельку...

— Як гэта?.. Не можа быць... Чаму ты раней не казала мне пра гэтае падабенства?

— Я не хацела рабіць табе балюча.

— Што значыць балюча? Чаму мне павінна быць балюча з-за таго, што твой... твой хлопец... былы... мае такія ж рысы твару?

Вірсавія сумна ўсміхнулася:

— Таму што гэта не проста хлопец. Ён, хутчэй за ўсё, твой сын... Так-так, сын. А не гаварыла я таму, што табе непрыемна было б пачуць, пры якіх абставінах ён нарадзіўся...

— Якія абставіны? Пра што ты?

— Ну, добра. Паспрабую табе што-кольвечы нагадаць. Я, натуральна, ведаю гэта паводле слоў Архелая, а яму, у сваю чаргу, рассказала ягоная бабуля Алума. Сям'я Архелая некалі жыла ў Дакіі. Але, мусіць, уцякаючы ад вашага... ад рымскага нашэсця, перасялілася ў Самарыю, у мястэчка пад Сіхемам. Маці Архелая звалі Хавівай... Аднойчы яна аднекуль ішла дадому, а ўздоўж дарогі разбіў свой лагер рымскі легіён. І яе пераняў нейкі малады рымлянін... Ён быў не шараговым легіянерам... А яшчэ, пэўна, вельмі шмат выпіў...

— Не трэба... Не трэба далей... — амаль прашаптаў Гней і павольна ўзняўся з крэсла. Цяпер ужо ён, хістаючыся, нібы цень, паплыў з атрыя ў сваю спачывальню.

Дыадор, які, прыставіўшы вуха да вушака, падслухоўваў размову, ледзь паспеў адскочыць у глыбіню перыстылю.

У тую ноч Гней не самкнуў вачэй. Ні на хвілінку не заснула і Вірсавія.

Назаўтра Гней прыйшоў у атрый з самае раніцы. Пад вачыма ў яго з'явіліся чорныя кругі, але позірк быў на дзіва ўпэўнены: відаць, ён прыняў нейкае цвёрдае і канчатковае рашэнне.

— Пакліч Вірсавію, — загадаў гаспадар Дыадору, які сёння чамусьці ўспароўся ні свет ні зара. — Калі спіць — разбудзі.

— Ды не спіць яна. У трыклініі нешта гатуе...

— Тым лепей. Няхай прыйдзе сюды.

Вірсавія нібы пачула гэтыя словы, нават без запрашэння Дыадора паўстала перад гаспадаром. Адчувалася, што цела яе напружанае, на гэты раз яна не папрасіла дазволу прысесці, застыла нерухома, як статуя. Затое прапанаваў Гней:

— Сядай.

Калі дзяўчына, не адводзячы вачэй ад гаспадара, апусцілася ў крэсла, Гней загаварыў так, быццам іхняя размова і не перапынялася на ноч:

— Я ўспомніў тую маладзіцу... Я ўсё ўспомніў... Зрэшты, той ганебны выпадак ніколі і не знікаў з маёй памяці. Проста потым мне было так прыкра, што я ўвесь час імкнуўся адагнаць жахлівыя ўспаміны, нават хацеў, каб яны ўвогуле сцерліся. У некаторай ступені мне гэта ўдалося, і калі б не жывы напамінак у асобе гэтага хлопца... майго сына, я, бадай, і апошнія хвіліны жыцця сустрэў бы з чыстым сумленнем. І праўда: ну што, здавалася б, такога? Хіба мала гвалту адбываецца падчас любое вайны? Але ж... Аказваецца, за ўсё некалі давядзецца несці адказнасць... Нічога не сплывае ў Лету без следу, нічога не забываецца...

Гней цяжка ўздыхнуў і працягваў ужо на новай хвалі:

— Я тады толькі-толькі пачынаў служыць. Цэнтурыёнам. У Сірыйскім легіёне. Зусім яшчэ маладзён, нават ні ў адным баі не паўдзельнічаў. Імператар Траян акурат рыхтаваўся да вайны з Парфіяй. Ішла перадыслакацыя войска. Наш легіён рухаўся з Ерусаліма ў Сірыю. Спыніліся на прывал... А тут якраз прыскакаў веставы з Антыохіі, паведаміў, што імператар прызначыў праконсулам Сірыі нейкага Адрыяна. Я такога імя дагэтуль не чуў. Затое добра ведалі іншыя, асабліва ветэраны. Зусім нядаўна легіён вярнуўся з Дакіі, дзе ішла вялікая вайна. Мне ў ёй паўдзельнічаць не давялося. А астатнія павals... Дык вось яны вельмі ўзрадаваліся, пачуўшы, што цяпер камандаваць імі будзе гэты Адрыян. Былога намесніка правінцыі ніхто не любіў, асабліва ў легіёне, бо ў вайсковай справе ён нічога не петрыў. А пра Адрыяна ўсе гаварылі з захапленнем: у Дакіі ён праявіў сябе годна. З такое радаснае нагоды легат дазволіў на прывале расслабіцца... Адсвяткаваць прызначэнне новага праконсула. Было выдадзена шмат віна... Піць я тады не любіў і не ўмеў. Гэтак жа, дарэчы, як і цяпер. Але ж малады, фанабэрысты... Сорамна было адставаць ад бывалых ваяроў, хацелася паказаць, што ніякі я не смаркач, а мужчына... Карацей кажучы, піў з усімі ўпоравень і добра-такі наглыкаўся. А тут якраз і гэтая — як ты сказала, Хавіва? — па дарозе крочыць... Мне да яе ніякае справы не было, але прыкмеціў яе нехта з цэнтурыёнаў. “Трэба, — кажа, — наладзіць нашаму маладому сябру іспыт. Калі не баявы, дык на мужчынскую годнасць. Вунь прыгожая яўрэйка ідзе. Ты, Гней, — кажа, — павінен ёю авалодаць, нібыта варожаю крэпасцю. А мы паназіраем...” Іншыя ягоную ідэю падхапілі. Я ўпарціўся як мага, дык усе насміхацца сталі: маўляў, які з цябе камандзір, калі нават з жанчынаю справіцца не можаш. Мне б тады плюнуць на іхнія кпіны, заставацца пры сваёй галаве, а назаўтра б пра гэтае “цкаванне” ніхто і не прыгадаў бы. А я не плюнуў... Бо ўжо зусім п’яны быў. У рэшце рэшт дацiснулі мяне цэнтурыёны, пераканалі, што для сапраўднага ваяра нічога ганебнага ў тым нямашака... Яна, Хавіва, нават не закрычала, не вырывалася. Дый хто б лямантаваў? Добра, калі аднаго ператрываць выпадзе, а тут жа цэлы легіён... Наогул выжыць бы... Яна толькі пазірала ў мае вочы невыносна тужліва... Моўчкі... Ніколі не забуду гэты позірк...

Гней замоўк і пасля працяглае паўзы загаварыў ужо абрыўкамі фраз — відаць, цяжка яны яму даваліся:

— Грэх на мне вялікі... І я не ведаю, ці ўдасца яго змыць... Я вінаваты перад усімі: перад Хавівай, перад табою, перад Архелаем... маім сынам... Як жыць мне цяпер?.. Адзінае, што я магу зрабіць... для сына, для цябе... Вірсавія, ты ведаеш мае пачуцці... Але пасля ўсяго... Я не маю права на тваё сэрца...

Я павінен перацярпець... ператрываць... Я асудзіў свайго сына на жахлівае дзяцінства, на голад, у рэшце рэшт на рабства... Няўжо ж магу забраць у Архелая яшчэ і каханне? Не маю права... Адзінае, што магу зрабіць... Можа, хоць гэтым апраўдаюся перад багамі... Ну, словам... Я не стану ўпоперак вашае дарогі... Ты мне нічым не абавязаная... Лічы, што я не прасіў цябе стаць маёй абранніцай... Я хачу, каб ты была шчаслівая з Архелаем...

Вірсавія слухала, і на вочы яе нагортваліся слёзы. Нечакана яна ўсхапілася з крэсла і кінулася да Гнея, упала перад ім на калені, абхапіла рукамі ногі і стала іх цалаваць.

— Дзякуй табе... дзякуй... — толькі і прыгаворвала.

— Не трэба... — Гней пагладзіў далонню па яе валасах. — Падыміся. Лепей давай падумаем, што рабіць, каб твой каханы і мой сын апынуўся побач з намі. Зараз яму пагражае вялікая небяспека...

І праўда: Вірсавія, болей заклапочаная тым, як ёй давядзецца разрывацца паміж Гнеем і Архелаем, мала думала пра абставіны, у якіх апынуўся апошні. Ён жа раб! Гэткі ж, дарэчы, як і яна, але ж хіба параўнаць іхняе становішча? Усвядоміўшы гэта, Вірсавія зірнула на Гнея ўжо з жахам і надзеяй адначасна.

— Нам можа дапамагчы толькі адзін чалавек — імператар, — суха мовіў Гней. — Я ў яго ніколі нічога не прасіў...

## Уцёкі

Чалавеку, які дрэнна ведаў Рым, амаль немагчыма было адшукаць патрэбныя дом ці нават вуліцу: нідзе не мелася ні шыльдачак, ні нумароў. І калі ў галоўнае вуліцы квартала была хоць назва, дык маленькія вулкі, тупікі і завулкі заставаліся безыменнымі. Месца, дзе яны знаходзяцца, удавалася вызначыць толькі апісальным шляхам. Напрыклад, Асконій[1] ў сваім каментары да суцяшальнай прамовы Цыцэрона “За Скаўра” піша, што дом таго самога Скаўра “месціцца на Палаціне; спусціўшыся па Свяшчэннай Дарозе, узяць у першую бакавую вуліцу налева і пытацца дом Цэцына Лара, які быў консулам разам з Клаўдыем”.

Эмілю ў гэтым сэнсе пашанцавала. Ён хоць і абшнарыў Рым з краю да краю, але ўсё ж знайсці Патрыцыянскую вуліцу[2] — гэта не шукаць тупік, які “знаходзіцца каля дзявятага слупа, адлічваючы ад храма Кастара і Паллукса”.

Трохі параспытваўшы, Эміль даведаўся, што нейкі Акіла днямі акурат купіў “Тамфіліеў” дом — відаць, названы так у гонар колішняга гаспадара. А значыць, менавіта там варта шукаць Архелая. Для яго ў Эміля ўжо меліся такія-сякія навіны.

Дзверы доўга ніхто не адчыняў, і хлопец нават падумаў, што гэты Акіла не паспеў сюды перасяліцца. Калі ён павярнуўся ўжо, каб падацца да гатэля “Пад мячом”, дзверы злёгку здрыгануліся. Праўда, расчыніліся яны не насцеж, а роўна на столькі, каб у праём змагла высунуцца круглая галава — з чырванашчокім тварам, хітраватымі лупэткамі і асмолкавымі валасамі.

---

[1] Квінт Асконій Педыян (9 г. да н.э. — 76 г.н.э.) — рымскі гісторык і філолаг, вядомы сваімі каментарамі да прамоваў Цыцэрона. 12 апошніх год жыцця быў сляпым.

[2] Па загадзе шостага цара Старажытнага Рыма Сервія Тулія (578-535 г.д.н.э.) на гэтую вуліцу прымусова засяляліся патрыцыі: “Калі яны задумаюць што-небудзь супраць мяне, іх можна будзе адолець, дзейнічаючы з вышыняў”.

— Што табе трэба? — запыталася галава.

— Акіла тут жыве? — у сваю чаргу запытаўся Эміль, надаючы свайму голасу паболей важнасці і самавітасці.

— Ну, тут.

— А ён дома?

— Не, нямашака. Шкажаў, што будзе толькі вечарам.

Шапялявая галава збіралася знікнуць па другі бок дзвярэй, і Эміль паспяшаўся яе супыніць:

— Э-э, пачакай! А Архелая я магу пабачыць?

Хітраватыя лупэткі насцярожыліся:

— Дык хто табе трэба: гашпадар ці ягоны раб? І ўвогуле — хто ты такі?

— Я з гарадской прэфектуры, — схлусіў Эміль, інакш, відавочна, размова на тым і скончылася б. — І мне трэба гаспадар. Узніклі пытанні наконт купчае...

— А раб табе навошта? Прыедзе Акіла, ж ім і пагаворыш...

Галава ўжо конча намервалася скончыць размову, таму Эміль ляпнуў зусім нечаканае:

— Грошай атрымаць хочаш?

— Што? Якіх грошай?

— Дарэмных.

— Дарэмных не бывае. Дык што табе трэба?

— Пакліч Архелая.

— Не магу... І нашто табе гэтая шволач?

— Што сволач, то сволач. Ён у мяне грошы пазычыў і не аддае, — працягваў хлусіць Эміль.

— І калі ж гэта ён пашпеў?

— Аднаго разу ў горадзе перасекліся. Увайшоў да мяне ў давер і...

— Ён можа, — голас у галавы палагоднеў. — Пашкуда...

— Дык ты паклічаш Архелая?

— Не, не паклічу. У клетцы ён...

— У якой клетцы? Што ты мелеш?

— У жвярынай! Гаспадар яго пад жамок пашадзіў.

— За што?

— А адкуль я ведаю? Жашлужыў, жначыць. Я б яго яшчэ і ланцугамі прыкаваў...

— А ты можаш мяне ўпусціць, каб я з гэтым прайдзісветам хоць двума словамі перакінуўся?

— Не магу.

— Чаму?

— Жабаронена.

— Кім забаронена?

— Гашпадаром.

— Ты ж казаў, што Акілы няма. Ён і ведаць не будзе...

Чалавек па той бок дзвярэй завагаўся. У рэшце рэшт вырашыў, што з клеткі нявольнік усё адно не ўцячэ.

— Колькі!? — запыталася галава.

— Што “колькі”?

— Колькі грошай я атрымаю, калі цябе ўпушчу?

— Тры асы...

— Трыццаць!

— Ды ты з глузду з’ехаў! Гэта ж шалёныя грошы!

— Я шкажаў — трыццаць! А не, дык і няма чаго гаварыць, — галава зноў памкнулася знікнуць за дзвярыма.

— Э-э, стой! Я згодны! Трыццаць, дык трыццаць...

— Гэта ўжо іншая шправа. Пакажы грошы.

— Ты што, мне не верыш? Во, паслухай!

Эміль патрос на сабе адзежу, і ў ёй сапраўды нешта зазвінела. Гэтага для шапялявага было досыць, і ён цалкам расчыніў дзверы.

— Тады праходзь...

Як толькі Эміль ступіў у атрый, ён убачыў перад сабою не толькі адрузлага дзецюка, які вёў з ім перамовы, але і другога — доўгага, як жэрдка. Ён, відаць, у час размовы стаяў за спінаю таўстуна.

— Ну, давай грошы, — працягнуў руку шапялявы.

— Ды пачакай ты з грашыма! — адхіліў ягоную руку Эміль. — Спярша пакажыце Архелая. Можа, вы мяне абдурыць хочаце. А што? Вас двое, а я адзін. Грошы заберацe, а затым насоўгаеце ў карак і на вуліцу вытаўхаеце... Дык дзе Архелай?

Эфраім і Манасія пераглянуліся. Самалюбства братоў відавочна ўсцешыла тое, што незнаёмец прызнае іхнюю сілу.

— Ну, глядзі, — сваім перуновым голасам пагрозна пракатаў Манасія. — А то мы можам сапраўды ў цябе рэбры пералічыць...

Ён не заўважыў з’едлівую ўхмылку Эміля, які прыкінуў, што, калі спатрэбіцца, гэтых целяпня і “жэрдку” ён адужае без асаблівае напругі.

Па лесвіцы яны спускаліся цугам: наперадзе — Эфраім, пасярэдзіне — Эміль, ззаду — Манасія. Нібы пад канвоем.

У паўцемрадзі Эміль не адразу заўважыў за металічнымі кратамі Архелая, які, павярнуўшыся тварам да сцяны, ляжаў на злінялым матрацы. Ён нават не павярнуўся, калі ў падвал увайшлі людзі, відаць, хлопцу абрыдлі ненавісныя морды Эфраіма і Манасіі, а іншых ён і не разлічваў убачыць.

— Гэй, абоўдзіла! — гаркнуў Манасія. — Падымайся, тут чалавек па тваю душу прыйшоў! Грошай напазычаў — і ў хмызняк?

— Якія яшчэ грошы? — незадаволена буркнуў Архелай і нехаця пераварнуўся на матрацы. — Эміль, ты?! — пазнаўшы свайго новага сябра, ён імгненна падхапіўся на ногі. — Як ты сюды трапіў?

Эміль, стаўшы бокам да братоў, па-змоўніцку прыклаў палец да сваіх вуснаў: маўляў, не надта распускай язык, лепей жа ўвогуле маўчы. А ў наступную хвіліну ён паказна-раззлавана рыкнуў:

— А ты думаў, я цябе не знайду? Спадзяваўся схавацца ў гэтай клетцы? Ды я цябе з-пад зямлі дастаў бы!

Архелай, прыняўшы гульню, вінавата-пакорліва апусціў галаву.

— Гэй, ты дамову помніш? — падступіўся да Эміля Эфраім. — Трыццаць ашаў давай...

— Адчапіся ты са сваімі ашамі! — адмахнуўся Эміль. — Дай з аблудаю пагаварыць, а ўзнагароду атрымаць паспееш. Куды я падзенуся? І ўвогуле... Мне трэба паразмаўляць з гэтым, як вы кажаце, абоўдзілам, сам-насам.

— Што яшчэ за сакрэты могуць быць паміж вамі? — гулка азваўся Манасія. — Мы так не дамаўляліся! Грошы давай!

— Ну, вось што. Калі будзеце на мяне гэтак насядаць, дык дабрахоць зусім нічога не атрымаеце.

— Што-о-о? — растапырыўшы пальцы, Манасія з выцягнутымі наперад

рукамі-граблямі пасунуўся на нахабнага незнаёмца. — Ды я з цябе і так вытрасу!

Першапачаткова Эміль, вядома, ніякае бойкі не планаваў, бо не ведаў пра "жывёльнае" становішча Архелая. Потым, ужо спускаючыся па лесвіцы, прыкінуў, што, магчыма, сашчапіцца ўсё ж давядзецца, калі гэтых недарэкаў перахітрыць не ўдасца. Цяпер жа, калі на яго насоўвалася "перахлябістая малпа", Эміль конча ўпэўніўся, што без валтузні не абысціся.

Што-што, а біцца Эміль умеў. Жыццё навучыла. Інакш проста не выжыў бы сярод гайні бязлітасных бадзяжак і звераватых партовых бандзюкоў, а тым болей не здолеў бы стаць верхаводам цэлай хлапечай хеўры. Дарма, што з выгляду не надта мажны. Бывала, аднаму з чатырма адразу біцца даводзілася, і з нажамі на яго ішлі, ды ўсё роўна Эміль заўсёды браў верх. Толькі аднойчы ледзь не сканаў, калі нехта ззаду кінжалам пырнуў пад лапатку... Так што вялікае пагрозы гэтыя агамолкі для яго не ўяўлялі.

Эміль выкінуў нагу наперад і патрапіў Манасіі акурат у пах.

— А-а! — узвыў ад болю самарыцянін і, схапіўшыся за вутнутае месца, скурчыўся, сагнуўся напалам.

Сашчапіўшы рукі на патыліцы Манасіі, Эміль рэзка тузануў ягоную галаву ўніз, калена зрабіла сустрэчны рух і смачна чвякнула ў перакошаны ад пакуты твар, які адразу ж абкрывяніўся. Каб канчаткова выключыць гэтага праціўніка з бойкі, Эміль рабром далоні зверху моцна ўдарыў яго па шыі. Манасія заваліўся на бок, ён ужо не крычаў, а толькі скуголіў.

Усё гэтае адбылося ледзь не ў адно імгненне, таму Эфраім нават не паспеў скрануцца з месца. Калі ж да яго падскочыў Эміль, каб збіць з ног і гэтага таўстуна, той толькі прыкрыў твар далонямі і жаласліва заенчыў:

— Не бі мяне, не бі!

Эміль ужо на замаху спыніў сваю руку і гаркнуў:

— Ключ! Дзе ключ ад клеткі?

Эфраім расплюшчыў адно вока, зыркнуў ім паміж пальцаў і, уцяміўшы, што пагроза мінавала, стаў ліхаманкава абмацваць адзенне на сваім целе. Нарэшце выцягнуў аднекуль тое, што патрабаваў ваяўнічы незнаёмец.

— Во, бяры, толькі не бі!

За ўсім, што адбывалася ў падвале, Архелай пакуль што назіраў моўчкі, і толькі калі Эміль стаў варочаць ключом у замку, з непрыхаваным жахам запытаўся:

— Што ты нарабіў?

— А што я нарабіў? — перапытаў Эміль. — Трохі пусціў крывянку, а цяпер, во, вызваліць цябе збіраюся.

— І што далей?

— Як што? Дадзім адсюль драла, — Эміль ужо расчыніў дзверы клеткі. — Выходзь!

Аднак Архелай так і не зрабіў крок наперад.

— Дадзім драла... Ты забыў, што я — раб, чалавек паднявольны? Акіла мяне па ўсім Рыме шукацьме. А як знойдзе...

— Не знойдзе! — перабіў яго Эміль. — Выходзь, кажу! Калі Акіла цябе ў гэтую клетку пасадзіў, дык, значыць, задумаў нешта паганае. Так што выбару ў цябе няма — толькі ўцякаць.

Крыху павагаўшыся, Архелай усё ж ступіў з клеткі.

— А ты ідзі сюды! — загадаў Эміль Эфраіму, які спалохана лыпаў вачыма і ўсё яшчэ стаяў на адным месцы, не асмельваючыся сігануць уверх па лесвіцы. Самарыцянін паслухмяна, дробненька перабіраючы ножкамі,

стаў клыпаць бліжэй. Эміль падхапіў яго за каўнер, падцягнуў да клеткі і з усяе сілы тауханулў адрузлае цела ўсярэдзіну.

— Там табе самае месца! — крыкнуў услед. Затым падступіўся да Манасіі, які, скруціўшыся ў абаранак на падлозе, па-ранейшаму скуголіў.

— Сам запаўзеш ці дапамагчы? — злавесна запытаўся Эміль.

Каб пазбегнуць больш жорсткай экзекуцыі, Манасія таропка стаў на карачкі і папоўз да клеткі, пакідаючы за сабою крывавую сцежку — кроў з ягонага носа цякла ручаём. Эміль падэшваю падштурхнуў яго ў азадак.

— Вось і сядзіце там, як пацукі! — задаволена мовіў ён, зачыняючы дзверы. Крутануўшы ў замку ключом, адкінуў яго да дальняе сцяны, каб цыбаты Манасія не змог дацягнуцца сваёю доўгаю рукою.

— А цяпер хадзем, — звярнуўся Эміль да Архелая. — Па дарозе штокольвечы раскажу...

— А мы? — нарэшце ачомаўся Эфраім. — Як мы адсюль выберамся?

— Вернецца Акіла — ён і выпусціць, — ужо на хаду з усмешкай адказаў Эміль. — Заадно і ў карак насоўгае...

— Ну і куды цяпер? — разгублена запытаўся Архелай, калі яны з Эмілем апынуліся на вірлівай вуліцы.

— Павязу цябе ў сваю “рэзідэнцыю”, у Нявіевы гай. Чуў пра такі? Ды дзе табе!... Гэта ў чатырох мілях ад ускраіны. Акіла, пэўна, сапраўды кінецца цябе шукаць, усю гарадскую паліцыю на ногі паставіць, але хваробу яму. У Нявіевы гай нават паліцыя не паткнецца. Там вотчына такіх, як я: бандзюкоў ды беглых рабоў... Нейкі час адсядзішся, пакуль усё супакоіцца, а там я табе ўжытак знайду...

Што заставалася рабіць Архелаю? Пакінуць сябе на волю лёсу ды спадзявацца на Эміля...

— Чаму ж ты пра Вірсавію не цікавішся? — запытаўся той ужо на ўскраіне горада.

— А што, ты яе знайшоў?! — не верачы сваім вушам, усхвалявана ўсклікнуў Архелай.

— На жаль, пакуль што не, — астудзіў ягоны імпэт Эміль. — Але штосьці ўдалося выведаць. Мае хлопцы, лічы, усё гетэрскае асяроддзе перавярнулі. Але Вірсавіі ў ім не выявілі...

— Дык гэта і ёсць тваё “што-нішто”? — зусім засмуціўся Архелай. — Лепей ужо сказаць — “нішто”...

— Не адчайвайся! — падбадзёрыў яго Эміль. — Наадварот, радуйся, што твая дзяўчына па руках не пайшла! Можа, якому-небудзь прыстойнаму чалавеку прыслугоўвае.

— Чаму ты так думаеш?

— Бо ёсць падставы. Вірсавію хлопцы не знайшлі, але натрапілі на тых, хто плыў з ёю на караблі сюды, у Рым. Па часе ўсё сышлося. Па знешнасці — таксама, хоць на адметныя вочы тваёй Вірсавіі ніхто з тых дзевак увагі не звярнуў. Не да таго ім было... Іхні карабель трапіў у шторм. Хвалямі амаль усіх пазмывала з палубы. Вірсавія, на шчасце, уратавалася. Гэтак жа, як і бязрукі, але, падобна, вельмі знаны рымлянін...

— Пры чым тут нейкі рымлянін? — нецярпліва ўсклікнуў Архелай. — Ты пра Вірсавію кажы!

— Рымлянін якраз “пры тым”. Мяркую, што ён — з ваяроў. І не шараговых. Бо дзе ж яму руку адсеклі б? Толькі ў бітве. Якраз і вярнуўся ў Рым з лютае іудзейскае калатнечы. Зрэшты, табе пра гэта лепей ведаць... Дык вось, дзеўкі расказалі, што памочніка таго ваяра таксама

змыла ў мора, і рымлянін папрасіў гаспадара рабыняў, каб адна з іх яму прыслугоўвала — без аднае рукі не надта ўправішся, дый рана, казалі, не зусім загаілася. Вось твая Вірсавія ўвесь астатні шлях яго і даглядала. А калі карабель прыплыў у Рым, военачальнік Вірсавію выкупіў. Дзеўкі самі бачылі, як ён гаспадару грошы адлічваў. Дый на беразе яна за рымлянінам пайшла...

— Хто ён? Дзе жыве? Ты высветліў?

— Калі тое было? І так за некалькі дзён увесь горад абшнырылі, шукаючы тых дзевак. Але не хвалюйся, дай яшчэ трохі часу — знойдзем. Мае хлопцы аціраюцца каля дзяржаўных устаноў, бо мне чамусьці здаецца, што той знаны рымлянін на нейкую службу прыстроіўся: ён, казалі, яшчэ не стары і без справы сядзець не будзе. А галоўнае — у яго ёсць выяўная прыкмета: адсутнасць рукі. Так што адшукаем...

Дамоў Акіла вярнуўся позна ўвечары. Увесь дзень гойсаў па горадзе, завязваў новыя знаёмствы: ці давядзецца вяртацца ў Элію Капіталіну — немаведама, а лішнія сувязі ў любым выпадку не пашкодзяць.

Яго здзівіла цішыня ў атрыі. Звычайна Эфраім і Манасія, пачуўшы, што прыехаў гаспадар, кідаліся яму насустрач, падсаблялі распранацца. А на гэты раз чамусьці не выбеглі...

— Гэй, вы ёсць у доме? — крыкнуў Акіла.

Ніхто не азваўся.

— Куды вы падзеліся? — ужо ва ўвесь голас галёкнуў гаспадар.

На гэты раз, як здалося, пачулася нейкае скавытанне ў падвале.

“Няўжо Архелай заскуголіў? — здзівіўся Акіла. — Анягож, нясоладка яму ў клетцы...”

Да гэтага хлопца Акіла ніякай непрыязнасці не меў. Наадварот, трохі шкадаваў яго і нават паважаў: горды (але не ганарлівы), высакародны, ва ўсякім разе не раўня гэтым слізнякам-самарыцянам. Але даводзіцца рабіць Архелаю непрыемнасці, бо ён стаў “разменнаю манетаю”...

Акіла накіраваўся да лесвіцы, павольна, з розгадам перастаўляючы ногі, сышоў па ёй у падвал і... Убачыць такі малюнак ён не разлічваў ніяк. Манасія, прыкрываючы твар рукамі і выставіўшы наперад вострыя калені, сядзеў у куце клеткі, а Эфраім, прыткнуўшыся шчокамі да прэнтаў, пазіраў на гаспадара вінавата-болесна. Відаць, гэта ён скуголіў, як пабіты сабака, бо азвацца звычайным голасам на крык гаспадара яму было боязна.

— Як вы там апынуліся? — ачомаўшыся ад першага ўражання, запытаўся Акіла. — І дзе Архелай?

Эфраім упаў на калені і пачаў мянташыць языком, наўзахлёб пераказваючы сённяшнія падзеі. Незнаёмец, паводле ягонага расповеду, выглядаў не звычайным хлопцам, а мацаком-асілкам, які “галавою падпіраў столь”.

— Чаму вы яго ўвогуле ў дом пусцілі?! — ад раз’юшанасці Акіла пырскаў слінай. — Як ён згледзеў гэтую клетку? Я ж вам загадваў нікому яе не паказваць!

“Трыццаць асаў” Эфраім, вядома ж, не згадаў, затое доўга плявузгаў пра “чалавека з прэфектуры”, якім назваўся гэты нягоднік, а хіба ж маглі яны не падпарадкавацца прадстаўніку ўлады...

Зрэшты, ягоныя слёзныя апраўданні зусім не кранулі, а тым болей не супакоілі Акілу. Ён, як той самы тыгр, толькі па-за межамі клеткі, рабіў шырокія крокі ад сцяны да сцяны і выгукваў раз’ятраныя словы і праклёны:

— Прыдуркі! Пустадомкі бязглуздыя! Каб у вас зусім мазгі паадсыхалі! Каб на вас немач!

У рэшце рэшт ён, хоць і не астыўшы, перастаў тупаць туды-сюды, налітымі крывёю вачыма зірнуў на самарыцянаў і скрозь зубы злавесна працадзіў:

— Я з вамі заўтра разбяруся! Атрымаеце па завязку! Будзе вам і рымскае грамадзянства, і ўсё астатняе!

Ён павярнуўся, каб падацца з падвала, але пачуў за спінаю ўмольны голас Эфраіма:

— Гашпадар, а мы? Выпушчі наш, вунь каля шцяны ключ ляжыць...

— Што-о?! Выпусціць? Ды за ўсё, што вы нарабілі, я вас у гэтай клетцы згнаіць павінен! Можа, і згнаю! Гадаўё!

І ён, гулка тупаючы, стаў падымацца па лесвіцы.

## Варажба

Адрыян хоць і вызначыўся з пераемнікам, аднак, перш чым запрасіць на размову Антаніна, усё ж вырашыў параіцца з багамі. Для падобнага “дыялогу” існаваў толькі адзін спосаб — варажба. Бязмежнае захапленне ёю рымляне перанялі ў грэкаў.

Уласна кажучы, і сам Рым узнік у выніку варажбы. Браты Ромул і Рэм, задумаўшы заснаваць горад, доўга спрачаліся, у якім месцы варта “пакласці ў падмурак першы камень”. У рэшце рэшт дамовіліся вырашыць спрэчку з дапамогаю прарочых птушак. Яны разышліся ў розныя бакі і сталі чакаць, пазіраючы ў неба. Рэм налічыў шэсць каршуноў і пабег пахваліцца гэтым перад братам, але Ромул паведаміў яму, што на сваім месцы гэтых каршуноў ён згледзеў ажно цэлы тузін. Рэм яму не паверыў, паміж братамі ўсчалася лютая свара, і ў выніку ці то сам Ромул, ці то нехта з ягоных сяброў Рэма забіў. З гэтае пары аўспіцыі — варажба па птушках — сталі афіцыйнай рэлігійнай традыцыяй. Прычым рымляне аддавалі перавагу менавіта каршунам.

Яшчэ з часін цара Нумы Пампілія аўгуры (так называліся знаўцы аўспіцый) стварылі сваю калегію, у якую маглі ўвайсці нават плебеі, але колькасць афіцыйных варажбітоў строга абмяжоўвалася: пры Пампіліі іх было 9, пры дыктатары Суле — 15, пры Юліі Цэзары — 16.

Аўгуры самі не рабілі ахвярапрынашэнні, гэтак жа, як і не выконвалі іншых жрэчаскіх абавязкаў, яны толькі сачылі за прарочымі птушкамі, за іхнім палётам і крыкамі. Аўспыцыі праводзіліся напярэдадні народных сходаў, вайсковых экспедыцый, важных дзяржаўных спраў. Калі варажба выпадала неспрыяльная, акцыю адкладвалі, каб паўтарыць працэдуру іншым разам. Лёгка здагадацца, што ў многіх выпадках зыход палітычнай барацьбы або асабістых інтрыг залежыў ад аўгураў: яны мелі права адкласці ажыццяўленне любога праекта на няпэўны тэрмін і такім чынам трымалі сітуацыю пад сваім кантролем.

Трохі меншы аўтарытэт мелі гаруспікі, якія прарочылі па жывёльных вантробах. Гэтую варажбу рымляне запазычылі ў этрускаў — народа-папярэдніка з надзвычай развітай цывілізацыяй, які яны “зжылі са свету”, пакарыўшы, выцесніўшы з Апенінскага паўвострава. Гаруспікі ўважліва вывучалі сэрца, лёгкія і асабліва печань, бо лічылі яе вельмі складаным органам. Пры варажбе печань дзялілася на сорак частак, кожная з іх адпавядала асобнай нябеснай сферы. Калі гаруспікі пры вывучэнні вантробаў

выяўлялі нешта неспрыяльнае, яны тройчы абыходзілі з імі вакол алтара, на якім спальвалі ахвяравальны пірог.

Рымляне надавалі значэнне і выпадкова пачутаму слову, у якім (так ім здавалася) гучала якое-небудзь прароцтва. Калі ў першай палове IV ст. да н.э. галы разбурылі Рым, Сенат стаў вырашаць: трэба адбудоўваць горад на ранейшым месцы ці ўсім жыхарам перабрацца ў блізкія Вейі. Якраз у гэты момант за дзвярыма пачуўся голас цэнтурыёна, які вёў міма атрад вартавых і загадаў сцяганосцу: “Пастаў сцяг, застаёмся тут!” Пачуўшы гэтыя словы, сенатары палічылі іх прарочымі і прыйшлі да высновы, што як мага хутчэй трэба адбудаваць знішчаны Рым.

У 171 г. да н.э. консул Луцый Эміль Павел вагаўся, ці варта распачынаць вайну з македонскім царом Персеем. Прыйшоў ён аднойчы дадому, а маленькая дачка сказала: “Перса больш няма”. Дзяўчынка мела на ўвазе сабаку, які здох, але консулу ейныя словы падаліся спрыяльным знакам. Ён смела павёў войска на бітву і перамог. А цар Персей Македонскі трапіў у палон і праз два гады сканаў, як той самы сабака...

Адгукаліся рымляне і на ўсе нязвыклыя з’явы: заўчасную паводку на рацэ, падзенне метэарыта, разнастайныя таямнічыя гукі, якім даваліся самыя фантастычныя тлумачэнні. Асабліва шмат чутак-плётак хадзіла ў Рыме ў час цяжкай 2-й Пунічнай вайны. Людзі расказвалі адно аднаму то пра народжанае немаўля з галавою слана, то пра таямнічы знак у выглядзе карабля на небе, то пра маланку, якая нечакана ляснула проста ў храм багіні Фартуны...

Лічылася, што і самі багі раз-пораз твораць відавочныя цуды. Напрыклад, з пакалення ў пакаленне перадавалася такое паданне. У пачатку IV ст. да н.э. рымляне захапілі і разбурылі этрускі горад Вейі. Ваяры па загадзе военачальніка збіраліся перанесці ў сваю сталіцу статую Юноны Манеты. Адзін з легіянераў жартам запытаўся ў статуі: “А ці хочаш ты перабірацца ў Рым?” І нечакана яна адказала: “Хачу!”

Вось чаму Адрыян вырашыў цалкам даверыцца варажбе, тым болей што ён лічыў сябе і найлепшым аўгурам, і самым дасведчаным гаруспікам ва ўсёй імперыі. Акрамя таго, панавала думка, што прароцтвы найболей дзейсныя ў дачыненні менавіта да імператарскіх асоб — тых, хто ўжо знаходзіцца на троне, і тых, хто на яго пакуль што прэтэндуе, бо гэтыя людзі — самі ледзь не багі. Скажам, незадоўга да смерці Аўгуста на Марсавым полі з’явіўся арол. Ён спусціўся на храм, пабудаваны Маркам Віпсаніем Агрыпам, імя якога было напісанае на фасадзе. Прычым сеў арол менавіта на літару “А” — такую ж, з якой пачыналася імя імператара. Таму Аўгуст паверыў у сваю блізкую смерць. За некалькі дзён да сканання імператара Тыберыя рухнула ад землятрусу вежа маяка на Капры, дзе ён на той час жыў. А перад забойствам Калігулы, як піша Светоній, “у Алімпіі статуя Юпітэра-Зеўса, якую Калігула загадаў разабраць і перавезці ў Рым, раптам выбухнула такім рогатам, што машыны задрыжалі, а работнікі разбегліся...”

Варажбу Адрыян вырашыў правесці як і належыць — на Капіталійскім узвышшы. Там аўспіцыі адбываліся спакон вякоў, для гэтага нават было адведзенае адмысловае месца.

Загадзя Адрыян паслаў ганца да Турбона, які ачольваў імператарскую гвардыю. Прэтарыянцам належала выставіць ачапленне вакол Капіталійскага ўзвышша, каб ніхто не замінаў варажбе.

Хоць імператар і намерыўся правесці абрад самастойна, аднак жа палічыў, што прысутнасць аўгураў лішняю не будзе, няхай выконваюць

другасныя ролі. Таму кіраўнік калегіі аўгураў таксама быў папярэджаны, калі ягоным падначаленым трэба сабрацца ў традыцыйным месцы.

На аўспіцыі Адрыян выехаў з Цібура, так бы мовіць, пры поўным парадзе, карэту суправаджала цэлая цэнтурыя прэтарыянцаў на чале з самім Турбонам. Тузін аўгураў, збіўшыся ў купіну, ужо чакаў імператара. Усе яны былі апранутыя ў трабеі — парадныя белыя плашчы з пурпуровамі палосамі, кожны абапіраўся на выгнуты посах — сімвал сваёй прыналежнасці да калегіі.

Каб імператар не змусіўся чакаць, шчодрыя ахвяраванні багам былі прынесеныя загадзя: над узвышшам стаяў пах свежага мяса.

Адрыян з-пад ілба кінуў позірк на аўгураў і даў адмашку рукою: маўляў, пачынайце.

Жрацы замітусіліся, займаючы вызначанае для кожнага месца, і пачалі маліцца. Адрыян адышоў убок, з вышыні стаў аглядаць абрысы горада.

Аўгуры, нарэшце, скончылі свае малітвы, і адзін з іх памкнуўся выконваць наступнае дзейства, аднак імператар яго асадзіў:

— Пачакай! Я сам!

Адрыян узяў посах у галоўнага аўгура і стаў акрэсліваць ім замкнёную прастору квадратнай формы. Дзве лініі па зямлі ён правёў з усходу на захад, а яшчэ дзве — з поўдня на поўнач. Выканаўшы гэтую няхітрую, але абавязковую працу, Адрыян зноў адступіў убок.

Без аніякага дадатковага загаду памагатыя аўгураў кінуліся ставіць шацёр на тым квадраце, які акрэсліў Адрыян. Гэта не заняло ў іх шмат часу, бо справа была звыклая. Як і належыць, уваход у шацёр быў з паўднёвага боку.

Служкі таропка вывалаклі з рэды шыкоўнае крэсла, спецыяльна прывезенае з Цібура, і паставілі яго перад уваходам у шацёр. Усё гэта рабілася ў поўнай цішыні, як і прадугледжвалася абрадам.

Адрыян самавіта падышоў да крэсла і павольна апусціў у яго сваё цела. Акінуўшы позіркам наваколле, ён няспешна правёў па зямлі тым жа посахам, акрэсліваючы яшчэ адну прастору — ужо вакол сябе, і застыў у крэсле нерухома. Позірк Адрыяна скіраваўся ў неба.

Калі не ўлічваць гукаў гаманлівага горада, якія даносіліся знізу, цішыня на ўзвышшы стаяла неймаверная: ніхто не адважваўся нават пераступіць з нагі на нагу, каб яе не парушыць.

Прайшло пяць хвілін, дзесяць... Птушкі над узвышшам амаль не пралятала, апрача рознай драбязы, на якую не варта было звяртаць увагі. Адрыян чакаў каршуноў і ўжо на горшы выпадак — крумкачоў. А іх, як на тое, не было. Адрыян пачаў хвалявацца. Ну хоць бы не каршуны ці крумкачы, хоць бы якая варона праляцела над галавою! Не было і вароны...

Захваляваўся не толькі Адрыян, трывожнымі позіркамі пачалі перакідвацца паміж сабою і аўгуры. Амаль ніколі не было, каб над насычаным аб'едкамі і падлаю горадам чародамі не кружылі вароны ці не завісалі ў паветры гордыя, адзінокія каршуны. Выходзіла, што багі наўмысна даюць пазнаку: тое, на што варожыць Адрыян, на што разлічвае — не спраўдзіцца. А на што ён варожыць, аўгуры не ведалі, бо імператар палічыў залішнім патлумачыць, для чаго яму спатрэбілася гэтая варажба. Але чаму б яна ні была прысвечаная, усё адно атрымлівалася неспрыяльнаю. Зрэшты, аўгуры здагадваліся, што імператар прыехаў сюды не дзеля нейкае дробязнае прыхамаці (калі тое было, каб ён сам ачольваў аўспіцыі!), што Адрыян хоча прыняць якоесьці лёсавызначальнае рашэнне, прычым не толькі для

сябе асабіста, але і для ўсяе імперыі. А варажба, як назло, жаданага выніку не дае... Аўгуры трывожыліся нездарма: чаго добрага, імператар палічыць, што яны не паднеслі багам удосталь належных ахвяраванняў, з-за чаго тыя раззлаваліся, або зробіць выснову, што аўгуры маліліся не так апантана і шчыра, як гэта патрабуецца. Калі аўспіцыі будуць неўспадоб імператару, дык ён можа разагнаць калегію. Таму аўгуры, усе як адзін, моўчкі, у душы, працягвалі маліцца, каб багі падалі добры знак.

Аднак мінула ўжо амаль гадзіна — безвынікова. Было бачна, што вочы імператара наліваюцца шаленствам.

І раптам... Спярша высока ў небе з'явілася чорная кропачка, але з кожнаю хвілінаю яна, набліжаючыся, разрасталася, і, нарэшце, можна было разгледзець абрысы немалое птушкі, але ні ў якім разе не каршуна і не крумкача. Дык што гэта? Прыгледзеўшыся, Адрыян нават не паверыў сваім вачам: да Капіталійскага ўзвышша ляцела сава! Прычым менавіта ў тым накірунку, як і патрабуецца для спрыяльнае варажбы — з усходу на захад[1].

Адкуль яна ўзялася ў такім вялікім горадзе ды яшчэ сярод белага дня? Што "пераклініла" ў ейнай галаве, што прымусіла сарвацца з седала? Тут і сумневу нямашака: выправіць саву ў небяспечнае і, на першы погляд, бязглуздае падарожжа маглі толькі багі, каб пераканаць Адрыяна: тое рашэнне, якое ён намерыўся прыняць — правільнае. І нездарма багі прыслалі не нейкага заўсёднага, звыклага для вачэй каршуна, а саву, сімвал мудрасці!

Была і яшчэ адна важлівая пазнака. Пралятаючы над шатром, сава, як падалося ўсім (такое ўражанне склалася з-за таго, што ўзвышша знаходзілася "бліжэй да неба"), крыху знізілася і — што зусім ужо ўяўлялася неверагодным — гучна "вухнула" проста над галавою імператара, хоць дагэтуль яна ляцела моўчкі.

І аўгуры, і прэтарыянцы, якія стаялі ў ачапленні, ды і сам Адрыян на некалькі імгненняў здранцвелі: бачыць нешта падобнае ім не выпадала ніколі.

Нарэшце Адрыян жвава ўскочыў з крэсла, твар ягоны праменіўся невыказнаю радасцю.

— Усе аўгуры будуць належна ўзнагароджаныя! — кінуў ён на хаду і хуценька забраўся ў карэту, загадаўшы адначасна фурману і Турбону: — Вяртаемся ў Цібур!

Ужо на віле, нават не распрануўшыся, Адрыян наказаў слугам прынесці свяшчэнных куранят. Калі дзень такі ўдалы для варажбы, вырашыў ён, дык варта гэтым скарыстацца, правесці яшчэ адно традыцыйнае дзейства.

Варажба на куранятах таксама была "вотчынай" аўгураў, але для яе не патрабавалася асаблівых высілкаў, таму Адрыян раз-пораз праводзіў гэтую варажбу самастойна, без нечай дапамогі.

Звычайна памагатыя аўгураў прыносілі клеткі з куранятамі і падсыпалі ім зерне. Калі птушачкі ахвотна пачыналі дзяўбсці, гэта лічылася добрым знакам. Калі ж яны не выяўлялі асаблівай цікавасці да ежы, дык зыход варажбы лічыўся неспрыяльным. Натуральна, і тут аўгуры маглі наваражыць у сваіх інтарэсах: варта толькі загадзя ці перакарміць, ці недакарміць тых куранятак...

[1] Палёт птушак з левага боку ад аўгура разглядаўся як добрая пазнака, з'яўленне ж птушак з правага, заходняга боку прарочыла штосьці неспрыяльнае. У Грэцыі, дарэчы, усё было якраз наадварот.

Здаралася, што з такім “несур’ёзным” прароцтвам не лічыліся. Напрыклад, у час 1-й Пунічнай вайны, у 249 г. да н.э., консул Публій Клаўдый Пульхр перад вырашальнаю марскою бітваю з карфагенцамі традыцыйна вырашыў паваражыць. Калі памочнік аўгура паведаміў яму, што свяшчэнныя кураняты ўвогуле не хочуць выходзіць з клеткі, консул, разгневаўшыся, загадаў выкінуць іх у мора і пры гэтым усклікнуў: “Не хочуць есці, дык няхай пап’юць!” А рымскі флот, дарэчы, пацярпеў паразу...

Адрыян быў упэўнены, што ягоныя кураняты не галодныя і не перакормленыя (хто асмеліўся б уводзіць у зман імператара?), аднак жа на ўсялякі выпадак перапытаў у служкі:

— Тое, што трэба?

— Так...

— Тады адчыняй клетку.

Калі кураняты высыпаліся каля ног імператара, ён зверху стаў цадзіць са жмені тонкі струменьчык з зярнятак, якія, стукаючыся аб мармуровую падлогу, пачалі разлятацца ў розныя бакі. Але, на жаль, кураняты на іх не зважалі...

Назіраць за гэтым малюнкам Адрыяну было непрыемна. Аднак хоць ягоны настрой і азмрочыўся, у глыбіні душы ён быў задаволены вынікамі сённяшняга дня: у першым выпадку ён варажыў на будучае імператарства Антаніна, у другім — на жыццё ці блізкую смерць Луцыя...

## Саюзнікі

У Акілы не было сумневу, з чые ласкі Архелай апынуўся на волі. Ну каму мог спатрэбіцца звычайны, нічым не адметны раб? У Рыме ў Архелая сяброў нямашака — гэта відавочна. Хіба ж была ў яго магчымасць за час кароткіх адлучак у горад усур’ёз з кім-небудзь пахеўравацца? Пазнаёміцца — мог. Але ж дзеля нейкага выпадковага знаёмца ніхто не пойзе на злачынства, не будзе рызыкаваць уласным жыццём.

У Рыме лёсам Архелая зацікаўлены толькі адзін чалавек — Гней. Тут і думаць няма чаго: каб палепшыць долю свайго двайніка, а хутчэй за ўсё і сына, сенатар наняў нейкіх бандзюкоў (Акіла быў упэўнены, што дзецюка, які “скруціў у рог” Эфраіма і Манасію, за варотамі страхавалі ягоныя паплечнікі), і тыя вызвалілі раба з клеткі. У рэшце рэшт, толькі Гней ведаў, дзе трэба шукаць Архелая. Акіла ж сам яму абмовіўся, што збіраецца купіць дамок на Патрыцыянскай вуліцы.

“Аднак жа якая поскудзь гэты Гней! — у думках абураўся Акіла. — А я, дурань, лічыў яго прыстойным чалавекам...”

Прабачаць быламу легату такое нахабства Акіла не збіраўся. Хай сабе ён цяпер і сенатар, аднак і на яго ўправа знойдзецца. Прычым Акіла дакладна ведаў, дзе яе шукаць. У прэфекторыі. Надоечы, пасля балявання ў імператара, Катылій Север настойліва запрашаў яго для быццам бы нязмушанае размовы пра тое-сёе, і ў першую чаргу пра сённяшнюю Сірыю. Акіла разумеў: не трэба Северу тая Сірыя, у прэтара наўме нейкая іншая нэндза. Па гэтай прычыне Акіла адкладваў візіт у прэфекторыю як мага: Север жа, мусіць, будзе прасіць у нечым помачы і запатрабуюцца пэўныя высілкі, каб яму дагадзіць. А навошта Акілу лішнія клопаты? Але ж цяпер у яго з’явілася ўласная пільная патрэба, і скарыстацца запрашэннем прэфекта будзе акурат дарэчы...

У той дзень у чарзе да гарадскога валадара тоўпілася шмат хадакоў і прасіцеляў, аднак, калі яму далажылі, што ў пакоі з прыходу чакае Акіла, прэфект адразу ж загадаў ліктару:

— На сёння прыём скончаны! Усіх, хто аціраецца перад дзвярыма, — выправоджвай. Каб ніводнае душы ў пакоі не засталося! Зразумеў? Акілу ж запрашай сюды...

Вітаючы госця, прэфект, як і колісь да Сервіяна, палез да Акілы ў абдымкі, пры гэтым прыгаворваючы:

— Ты ўжо прабач, што чакаць змусіўся. Не пазналі мае людзі такога знакамітага чалавека...

— Які там знакаміты... — засаромеўся Акіла. — Дый дзе твае людзі маглі мяне дагэтуль бачыць? У Рыме ж я лічаныя тыдні...

— Ну і што? Такога ўплывовага чалавека кожны павінен ведаць. А хто не ведае, дык яму ж і горш...

У адно імгненне на століку з'явілася фалернскае віно.

Спачатку размова сапраўды ішла "пра тое-сёе", потым яны абмеркавалі апошняе баляванне, выказаўшы здагадкі, з якою мэтаю імператар яго наладзіў. І тут ужо ніяк нельга было абысціся без здагадак пра магчымага наступніка Адрыяна...

Толькі цяпер Акіла даўмеў, для чаго ён спатрэбіўся прэфекту. Зрэшты, Север і сам неўзабаве выказаўся наўпрост:

— Луцыю хутка капец. Наступным кандыдатам на ўсынаўленне ўсе прарочаць Антаніна, аднак я гэтым чуткам не веру, калі б імператар сапраўды захацеў яго ўсынавіць, дык аб'явіў бы гэта на баляванні, у прысутнасці ўсіх знаных рымлян. Ажно не, не аб'явіў... Значыць, канчатковага рашэння яшчэ не прыняў. І ў мяне застаецца шанец...

Акіла недаўменна ўскінуў бровы. Ён, вядома, здагадваўся пра амбіцыйныя памкненні прэфекта, дый у асяродку патрыцыяў пра іх гаварылі, але каб акрэсліць іх вось так, без аніякае сціпласці...

Север заўважыў недаўменне Акілы, аднак не збянтэжыўся, наадварот, загаварыў больш упэўнена:

— Так-так, я разлічваю, што Адрыян аб'явіць мяне сваім наступнікам. А што? Я ўсё ж прэфект Рыма. Да імператарства — адна прыступка. Хто мяне прызначыў прэфектам? Адрыян. А гэта значыць, што цэніць, давярае. Дык чаму б яму не зрабіць наступны крок? І яго варта падштурхнуць у належным кірунку...

Самаўпэўненасць Севера трохі насмяшыла Акілу, бо ён ніколі не чуў, каб Адрыян згадваў прэфекта добрым словам. Аднак ніводзін мускул не здрыгануўся на твары госця. Захоўваючы сур'ёзнасць, ён палымяна мовіў:

— Лепшага імператара, чым ты, Север, і яўвіць немагчыма.

Безумоўна, Акіла насамрэч гэтак не думаў, але ён уключыўся ў гульню, якая магла паспрыяць вырашэнню ягонай праблемы.

— Я рады, што ты так лічыш, — задаволена сказаў Север. — І тым болей спадзяюся на тваю дапамогу. Пра твае сяброўска-зямляцкія адносіны з Адрыянам я добра ведаю. Таму разлічваю, што пры зручным выпадку ты ўвядзеш яму у вушы, што лепшага кандыдата на ўсынаўленне, чым я, Адрыяну не знайсці...

— Абавязкова замоўлю слова! Абяцаю! —горача запэўніў Акіла, хоць выдатна ведаў, што імператар і слухаць не стане пра Севера. Дый ягоны ўплыў на Адрыяна прэфект яўна перабольшвае: Акілу і самому б не трапіць у няміласць да імператара... Аднак, калі прэфект гэтак лічыць — ну і

няхай. Тым лепш. Пераконваць у адваротным няма ніякага сэнсу. Больш за тое, каб набіць сабе цану, Акіла дадаткова падліў масла ў агонь.

— Я паспрабую пагаварыць і з Сабінай, — пыхліва сказаў ён. — Хоць у адносінах Адрыяна з жонкаю асаблівай цеплыні не назіраецца, у дзяржаўных справах імператар да ейнае думкі часам прыслухоўваецца. А з Сабінай, дарэчы, стасункі ў мяне вельмі блізкія. Можа, нават больш душэўныя, чым з самім Адрыянам. Ты ж ведаеш, яна пляменніца Траяна, таксама з нашых мясцін... Дык вось, будзе няблага, калі слова за цябе закіне і Сабіна.

— Цудоўна! Гэта амаль палова поспеху! Калі мне выпадзе стаць імператарам, я ўзнагароджу цябе як мае быць! Хочаш, прызначу консулам? Хочаш?

— А хто ж не хоча! — прыязна ўсміхнуўся Акіла. — Толькі калі гэта будзе...

— А што я магу зрабіць для цябе цяпер? — абнадзееный падтрымкаю Акілы, Север захацеў хоць нейкім чынам яго аддзячыць. — Я ўсё-ткі галава горада, магу ў нечым паспрыяць.

Акіла зразумеў, што акурат наспеў той момант, калі можна выкласці прэфекту сваю нэндзу.

— Ёсць у мяне адна невялікая просьба, — Акіла знарок па-плебейску апусціў вочы долу. — Калі дапаможаш, буду ўдзячны...

— Прасі што хочаш! Ні ў чым не адмоўлю!

— Ну дык вось...

І Акіла падрабязна пераказаў апошнія падзеі, звязаныя з Гнеем і Архелаем. Не згадаў толькі пра Вірсавію, вакол якой і закруцілася ўся каламуць. Дый не мог жа ён на самай справе распавесці прэфекту пра нейкую рабыню, што запала ў ягоную душу. Калі коратка, дык, паводле Акілы, гісторыя выглядала наступным чынам.

У Іудзеі Акілу трапіўся на вочы раб, знешне вельмі падобны на былога легата Гнея. Акіла выкупіў яго. З якою мэтаю? Чаго ўжо крывіць душою, хацеў на гэтым трохі пажывіцца. Зусім магчыма, што легат некалі абдарыў дзіцём якую-небудзь кабеціну і сам пра гэта не памятае. Дык чаму б не перапрадаць гэтага байструка легату (цяпер ужо былому, бо ён перабраўся ў Рым) па добрай цане? Тым болей што і самому Акілу належыла неўзабаве адправіцца ў сталіцу. Аднак Гней адмовіўся плаціць за раба-двайніка завышаную цану (што праўда, то праўда: ён, Акіла, запатрабаваў утрая болей, чым рабы каштуюць на рынку). Замест гэтага ён наняў нейкіх разбойнікаў, якія ў адсутнасць Акілы ўварваліся ў ягоны дом, да паўсмерці збілі слуг і выкралі таго маладога раба...

— Ці ж гэта не абуральна? — падсумаваў свой аповед Акіла. — Ці ж гэта не беззаконна?

— Калі ўсё, што ты мне расказаў, праўда, дык таго Гнея самога трэба прадаць у рабства! — ускіпеў праведным гневам Север. — І калі я табе дапамагу, дык гэта не будзе паслугаю. Гэта мой абавязак як прэфекта!

І тут Север ніколькі не перабольшваў.

У Рыме прэфект меў неабмежаваную ўладу. Гэтаму спрыяла тое, што прызначаўся ён самім імператарам, прычым на любы тэрмін.

Перш за ўсё прэфект быў абавязаны забяспечыць парадак у горадзе. Між тым ноччу Рым ахутвала абсалютная цемрадзь. Ужо толькі гэта давала падставы для розных зламысных дзеянняў. Пампцінскія балоты і Курыны лес на беразе Кумскага заліва, зарослы хмызняком, служыў надзейным сховішчам для

бандыцкіх зграй, якія рабілі наскокі на Рым. “Шматлікія натоўпы ўзброеных разбойнікаў разгульвалі адкрыта, — піша Светоній. — Падарожнікаў, рабоў і вольных людзей хапалі без разбору і хавалі іх па эргасталах. Пад выглядам новых калегій збіралася мноства шаек, і не было злачынства, на якое яны не пайшлі б”. Зрэшты, у Рыме хапала і іншага падазронага люду. Сюды з усяго свету сцякаліся аматары лёгкай нажывы, авантурысты, беглыя рабы[1].

Каб змагацца з усім гэтым збродам, існавала гарадская паліцыя — тры кагорты, па 1000 чалавек кожная. Па сваім статусе яны лічыліся вышэйшымі, чым вайсковыя, але ніжэйшымі, чым прэтарыянскія, якіх, дарэчы, было ўтрая болей. І прэтарыянцы, і паліцэйскія мелі агульны лагер — на Вімінале, самым высокім месцы Рыма, якое гаспадарыла і над горадам, і над дарогамі.

Звычайна рымская паліцыя не ўдзельнічала ў шматлікіх дзяржаўных пераваротах і толькі двойчы паспрабавала ўмяшацца ў палітычнае жыццё краіны. Светоній расказвае, што пасля смерці Калігулы консулы і Сенат сумесна з гарадскімі кагортамі занялі Форум і Капітолій, запатрабаваўшы аднаўлення рэспублікі. Аднак далей слоў справа не пайшла: на наступны дзень пачаліся хістанні і рознагалоссе, а натоўп, які стаяў навокал, запатрабаваў адзінага валадара, называючы Клаўдыя. У другі раз гарадскія кагорты выступілі ў 69 годзе, у час барацьбы Веспасіяна з Вітэліем, калі рымская знаць стала падбухторваць прэфекта горада Флавія Сабіна выступіць прэтэндэнтам на трон. Сабін заняў Капітолій, аднак гарадскія кагорты, ядро ягонага войска, былі разбітыя, і Сабін загінуў.

У гарадской паліцыі мелася шмат іншых клопатаў. Трэба было наглядаць за відовішчамі (у цырку, амфітэатры, тэатрах), сачыць за харчэўнямі і шынкамі (Адрыян “касіўся” на гэтыя месцы, бо там збіраліся галыцьба і падазроныя асобы, незадаволеныя ўладаю), за тэрмамі, якія наведвала процьма народу і дзе часта адбываліся крадзяжы, за гандлёвымі памяшканнямі і самім гандлем: правільнасць мер і вагаў была засведчана імем прэфекта горада, выбітым на гірах.

Дык вось паліцыя цалкам падпарадкоўвалася прэфекту — і нікому іншаму. Галава горада мог самастойна, у адзіночку, разгледзець любую крымінальную справу і вынесці прысуд.

А для Акілы акурат дарэчы было тое, што менавіта прэфекту наканоўвалася разбірацца са справамі, так ці інакш звязанымі з рабамі.

Таму Север ахвотна пагадзіўся выканаць просьбу Акілы: гэта была якраз ягоная “вотчына”. Праўда, на ўсялякі выпадак ён перапытаў:

— А ты ўпэўнены, што раба ўкраў менавіта гэты Гней?

— Галаву даю на адсячэнне, што ён! — ускочыў з месца Акіла. — Больш няма каму! Тут, у Рыме, таго раба ніхто проста не ведае, каб яму дапамагаць.

— Ну, калі так... — “галава на адсячэнне” канчаткова пераканала Севера, што нейкіх непрыемных наступстваў не будзе, і ён ужо збіраўся паціснуць руку Акілы — як пазнаку таго, што ўгода адбылася, і тут розум прэфекта кальнула неакрэсленая згадка. — Пачакай... Як завуць таго былога легата-зламысніка? Гней? Нешта знаёмае... Ці не ён год таму быў абраны сенатарам?

Нутро Акілы пахаладзела: ці не стане сенатарства Гнея перашкодаю, якую прэфект не захоча пераадольваць?

— Сапраўды, гэта той самы Гней... — з неахвотаю выціснуў з сябе Акіла.

[1] Ювенал сцвярджаў, што на ланцугі для злачынцаў даводзіцца траціць столькі жалеза, што хутка яго не будзе хапаць на плугі і матыкі.

Па твары прэфекта прабег цень.

— Чаму ж ты адразу не сказаў? Гэта мяняе справу... Абвінаваціць сенатара, правесці ў ягоным доме вобшук... Ты ўяўляеш, які будзе скандал? Да вушэй самога імператара дойдзе...

Падобна, Север збіраўся адмовіцца ад абяцанкі, але Акіла таксама не меў намеру здавацца. Згадка прэфекта пра імператара імгненна нарадзіла ў галаве Акілы новы аргумент.

— Кажаш, да імператара дойдзе? — з жарсцю загаварыў ён. — Дык гэта ж акурат тое, што трэба! Не раз я чуў ад Адрыяна, што ён незадаволены Сенатам, маўляў, там засядаюць адны дармаеды і нахлебнікі, — каб дамагчыся свайго, пераканаць прэфекта, Акіла пачаў хлусіць наўзахлёб, бо імператар ніколі не гаварыў яму нічога падобнага. — Таму Адрыян шукае любую магчымасць, каб "уесці" Сенат, падкрэсліць ягоную хібнасць. А цяпер уяві, які козыр ты дасі імператару, калі дакажаш, што адзін з сенатараў апусціўся да выкрадання чужых рабоў... Адрыян будзе табе ўдзячны, ён адзначыць тваю ўвішнасць, і ты займееш яшчэ болей шанцаў стаць ягоным наступнікам...

Апошнія словы сталі самымі дзейснымі. Прэфект яшчэ некалькі хвілін павагаўся і, нарэшце, пагадзіўся:

— Так і быць, рызыкнём... Тым болей што, як ты мне даводзіш, прамашкі не будзе... Заспеем сенатара на гарачым, дык і ў перавышэнні паўнамоцтваў мяне ніхто не папракне...

— Мудра развважаеш! — падхапіў ягоную думку Акіла і, каб ужо канча перацягнуць Севера на свой бок, выклаў апошні аргумент, які павінен быў закрануць самалюбства прэфекта: — Забыў распавесці пра важную акалічнасць. Тыя бандзюкі-выкрадальнікі, каб патрапіць у мой дом, назваліся прадстаўнікамі прэфектуры...

— Вось як?! — усклікнуў Север. — З гэтага і трэба было пачынаць! Цяпер я проста абавязаны заняцца гэтаю справаю, хто б за ёю ні стаяў, бо закранутая годнасць улады! Словам, будзем дзейнічаць так. Заўтра з самае раніцы я пашлю да дома сенатара Гнея цэлую цэнтурыю. Перш чым правесці вобшук, няхай паліцэйскія паставяць вакол падворка ачапленне — каб ніводная істота адтуль не вышмыгнула. Думаю, і табе варта там папрысутнічаць: ты ж адзін ведаеш таго раба ў твар...

— Гэта само сабою! — бадзёра мовіў Акіла.

## Вобшук

Колькі ні парываўся Гней патрапіць на прыём да імператара, ніякага плёну ягоныя намаганні не прынеслі. Тройчы сенатар ездзіў у Цібур, але кожны раз сакратар Адрыяна, Светоній Транквіл, адказваў адно і тое ж:

— Імператар дужа занямог. Ён нікога не прымае ўвогуле.

І гэта была праўда. Здароўе Адрыяна рэзка пахіснулася, падкошваліся ногі, а галоўнае — не даваў спакою нясцерпны тупы боль у галаве...

І Гнея, і Вірсавію прыгнятала тое, што яны нічога не могуць зрабіць для Архелая. А мусіць жа, недзе ненавісны Акіла здзекуецца з любімага чалавека — любімым цяпер ужо для абодвух...

Аднойчы на самым досвітку нехта так гулка загрукатаў у вароты, што нават звыклы да ўсяго Гней здрыгануўся. Дыадор, натуральна, яшчэ спаў, таму сенатар сам падышоў да брамы.

— Хто там? — насцярожана запытаўся ён.

— Імем закона, адчыняйце! — пачуўся ў адказ грамавы голас.

— Якога закона? Хто вы?

— Гарадская паліцыя! Цэнтурыён Планкус! Па загадзе прэфекта Рыма!

Гней палічыў, што пажартаваць гэткім чынам ніхто не асмеліўся б, і адчыніў вароты.

— Цэнтурыён Планкус, — яшчэ раз, хоць і не так гучна, назваўся высокі, шыракагруды чалавек, апрануты і ўзброены амаль гэтак жа, як і вайсковы легіянер. За ягонаю спінаю тоўпілася яшчэ з дзесятак паліцэйскіх .

— Што вам трэба? — Гней калюча зірнуў на Планкуса.

— А ты, няйнакш, гаспадар гэтага дома? — у сваю чаргу запытаўся цэнтурыён.

— Так, гаспадар.

— Мне загадана правесці ў тваім доме вобшук. Вось, калі ласка, — і ён працягнуў папірусны скрутак, разгарнуўшы які, Гней разгледзеў подпіс прэфекта Катылія Севера.

— І што вы хочаце ў мяне знайсці? — стрымліваючы гнеў, скрозь зубы запытаўся Гней.

— Беглага раба.

— Ваш прэфект што, з глузду з’ехаў? Адкуль тут можа быць нейкі беглы раб?

— Нічога не ведаю. У мяне ёсць загад.

— А табе, цэнтурыён, вядома, хто я такі? Я — сенатар!

Пасля гэтых слоў Планкус трохі сумеўся, аднак працягваў стаяць на сваім:

— Вы з прэфектам самі потым разбірайцеся, а зараз я павінен выконваць загад...

Толькі цяпер Гней звярнуў увагу на каруку, якая стаяла воддаль. Чалавека, што сядзеў у ёй, сенатар пазнаў нават са спіны. Гэта ж Акіла! Дык вось у чым справа! Няйначай, Архелай збег ад свайго гаспадара, і Акіла першым чынам кінуўся шукаць хлопца ў ягоным доме. Вунь нават і падтрымкаю прэфекта заручыўся. Ну, з Северам яшчэ сапраўды належыць разабрацца, даведацца, што яму наплявузгаў Акіла. А пакуль што трэба падпарадкавацца паліцыі. Ён, Гней, закон паважае...

— Праходзьце, — суха мовіў сенатар. — Толькі адразу папярэджваю: таго, каго вы шукаеце, у маім доме няма шака.

— Праверым... — з каменным выразам на твары сказаў Планкус і ступіў у атрый. Следам за ім у двор спехам пасунуліся астатнія паліцэйскія, таропка пачалі разбягацца па ўсім доме, каб знянацку заспець таго самага беглага раба. Яны абшнырылі кожны закуток, зазірнулі пад усе ложкі і картыбулы...

Дыадор і Вірсавія ўжо былі на нагах, бо гучны грукат у вароты іх, вядома ж, разбудзіў. У рэшце рэшт, паліцэйскія і прывялі дзеншчыка і рабыню ў атрый.

— Больш нікога не знайшлі? — Планкус расчаравана задаў агульнае пытанне для ўсіх паліцэйскіх, бо тыя, каго яны прывялі, ніяк не выглядалі на “маладога раба”. — Добра ўсё агледзелі?

— Куды ўжо лепш...

— Кожную цагліну абмацалі...

— Пакуль пачакайце тут, — сказаў цэнтурыён паліцэйскім, а сам падаўся за вароты — каб перамовіцца з Акілам. Гаварылі яны досыць імпэтна, Акіла нават размахваў рукамі, і ў рэшце рэшт, вярнуўшыся, Планкус загадаў:

— Абшукайце дом яшчэ раз. У кожную дзірачку зазірніце!

Хоць і з выяўнаю неахвотаю, паліцэйскія зноў разбрыліся па доме. Паўторны вобшук, натуральна, таксама не даў плёну.

— Выбачай, сенатар, — цэнтурыён пачціва злёгку схіліў перад Гнеем галаву і аддаў кароткі загад сваім падначаленым: — Сыходзім!

Гэты нечаканы вобшук збянтэжыў як Гнея, так і Вірсавію. Пасля тае размовы, калі паміж імі знікла апошняя таямніца, яны ўжо сумесна абмяркоўвалі, як аблегчыць долю Архелая, што ўвогуле трэба зрабіць, каб хлопец апынуўся побач з імі. Таму, як толькі сышлі паліцэйскія, Вірсавія адразу ж запыталася ў Гнея:

— Што ўсё гэта азначае? І каго яны тут шукалі?

— А ты не зразумела? Архелая шукалі...

— Як гэта?

— Там, за варотамі, я згледзеў Акілу... Менавіта з ягонае падачы абшуквалі мой дом. Да таго ж, мэтанакіравана: як сказаў цэнтурыён, ім патрэбны быў беглы малады раб. А хто ім можа быць, калі не Архелай, тым болей што, паводле ўпэўненасці Акілы, ён знайшоў хованку ў нас...

— Значыць, Архелай ад Акілы ўцёк?! — ці то з радасцю, ці то з роспаччу ўсклікнула Вірсавія.

— Выходзіць, што так.

Вірсавія пляснула ў ладкі, на ейныя вочы нагарнуліся слёзы.

— Бедненькі... Гэта ж як Акіла з Архелая здзекаваўся, калі ён палічыў за лепшае збегчы... Можа, нават знявечыў...

— Калі б знявечыў — не ўцёк бы, — супакоіў дзяўчыну Гней. — А што здзекаваўся, дык у гэтым сумневу нямашака. Абяцаў жа...

— Пачакай... А што ж далей? — Вірсавію апанаваў жах. — Дагэтуль мы хоць ведалі, дзе Архелай знаходзіцца. А цяпер? Дзе нам яго шукаць?!

Гней і сам ужо зразумеў, што ўцёкі Архелая дадалі ім яшчэ болей клопату. Дагэтуль можна было хоць на нешта спадзявацца, на таго ж імператара, а цяпер, падобна, пахаваная апошняя надзея не толькі выратаваць, але і ўвогуле пабачыць Архелая. Як знайсці яго ў мільённым горадзе, тым болей што Архелай, хутчэй за ўсё, будзе хавацца, каб не патрапіць на чужыя вочы? А калі нейкім цудам яго і ўдасца знайсці, дык немаведама, што з ім рабіць потым. Хаваць? Але ж Акіла не адчэпіцца, рана ці позна, ды высачыць... І тады ўжо ні літасці, ні паратунку для Архелая не будзе. Нават імператар не падсобіць: беглых рабоў чакае суровая кара... З гэтае прычыны звяртацца да імператара цяпер няма сэнсу: толькі наклічаш на сябе ягоны гнеў...

— Што ж нам рабіць? — Вірсавія ўклінілася ў развагі Гнея.

— Не ведаю... — разгублена мовіў ён. — Трэба падумаць...

Вірсавія, каб не дакучаць гаспадару, вырашыла заняцца надзённымі справамі, але ўсё валілася з рук. Думкі віравалі толькі вакол Архелая. Шчасце, якое здавалася такім блізкім, зноў схавалася за далягляд...

Хто мог нешта падказаць ці параіць Вірсавіі ў гэтыя цяжкія хвіліны? Ну вядома ж, Сафія. Але дзяўчыне сорамна было ісці да дзяканісы. Вірсавія ўжо тры тыдні запар не наведвала эклексію — акурат з тае пары, як адбылася шчырая размова з Сафіяй, і Вірсавія, насуперак яе парадзе, прыняла прапанову Гнея. Дык як жа пасля таго глядзець Сафіі ў вочы? Дыадор, дарэчы, кожную суботу насядаў на Вірсавію: маўляў, чаму мы не выпраўляемся на адправу? Ды хіба ж яму ўсё растлумачыш...

Сёння акурат была субота. “Дык, можа, усё-ткі пайсці на эклексію? — вагалася Вірсавія. — Сафія, безумоўна, зла на мяне не трымае...”

У рэшце рэшт дзяўчына конча наважылася пагутарыць са сваёю духоўнаю настаўніцаю. Вось толькі варта пайсці да яе не сёння, у суботу, калі на адправе будзе шмат людзей, а заўтра, у нядзелю, калі мецьмецца магчымасць пагутарыць сам-насам.

Не меншая роспач прыгнятала і Акілу. Адно што ён паставіў у няёмкае становішча прэфекта, і цяпер, калі Гней падыме вэрхал, Северу давядзецца апраўдвацца ў Сенаце (а магчыма, і перад імператарам) за беспадстаўны вобшук у доме знанага чалавека. А другое і, бадай, самае галоўнае — не ўдалося заспець на месцы Архелая. Менавіта заспець, бо Акіла і цяпер быў упэўнены, што Гней паспрыяў свайму двайніку, дапамог яму ўцячы з клеткі. Іншая справа, што ў сенатара хапіла розуму не трымаць беглага раба ў сваім доме, відаць, знайшоў яму хованку ў другім месцы, бо абачліва прадугледзеў, дзе будуць шукаць уцекача ў першую чаргу.

Гней прадугледзеў, а вось ён, Акіла, даў маху. Чаму адразу не даўмеў, што магчымы такі зыход? Спярша варта было наладзіць віжаванне за домам Гнея, адсачыць, куды ён цягаецца, каб пабачыцца з Архелаем, і толькі потым ужо рабіць аблаву. А так, во, і прэфект на яго азлобіцца, і Гнея спудзіў...

Аднак жа лепей позна, чым ніколі. Дзе б ні хаваўся Архелай, у Гнея ўсё адно ўзнікне патрэба з ім сустрэцца. Магчыма, ён паспрабуе трохі перачакаць, пакуль не заціхне розгалас, але ў рэшце рэшт "навядзе" на Архелая. А можа, і сам уцякач захоча цішком наведацца ў "бацькоўскі дом". Тады не схібіць бы зноўку...

У любым выпадку з сённяшняга дня трэба назіраць за домам Гнея, тым болей што рабіць гэта ёсць каму — абэлтусы Эфраім і Манасія ўжо каторы тыдзень лынды б'юць.

Іх і гукнуў Акіла, як толькі вярнуўся дадому пасля няўдалага вобшуку. Браты, вінавата апусціўшы галовы, амаль імгненна паўсталі перад гаспадаром.

— Ну, вось што, агамолкі, — сурова сказаў Акіла. — Напаскудзілі, як памыйныя каты, дык самі будзеце і прыбіраць. Даю вам апошні шанец. Пасля полудня завязу вас у адно месца на ўскраіне горада. Там жыве сенатар Гней. Памятаеце такога?

Браты моўчкі заківалі галовамі.

— Будзеце сачыць за ягоным домам, — працягваў Акіла. — Прычым круглыя суткі! Па чарзе! Калі Гней куды-небудзь паткнецца — будынак Сената ў разлік не бярыце, — ідзіце следам за ім. Калі ж паблізу дома згледзіце Архелая, не ўпускайце яго з выгляду. А лепей няхай адзін віжуе, а другі бяжыць па мяне. Зразумелі?

— Не зусім, — нясмела мовіў Манасія. — А дзе ж мы будзем жыць, калі папераменна давядзецца назіраць цэлыя суткі?

— Гэта вашая справа! — рыкнуў Акіла. — Здымеце паблізу які пакойчык. Прычым за свае грошы!

— І доўга нам віжаваць? — Эфраім з-пад ілба зыркнуў на Акілу.

— Колькі спатрэбіцца! А дакладней, пакуль не высветліце, дзе хаваецца Архелай. Гней абавязкова павінен яго наведаць...

Мовіўшы гэтыя словы, Акіла раптам злавіў сябе на думцы: "А чаму менавіта Гней? Ён жа можа паслаць да Архелая і свайго дзеншчыка, і Вірсавію..." Таму дадаў:

— Гэта не ўсё. Пільнаваць будзеце не толькі Гнея, але і ягоных слуг. Іх там няшмат, усяго двое: рабыня і дзяншчык. Куды яны — туды і вы. Так што рыхтуйцеся...

*(Працяг будзе)*

## Яўген Вапа



...я не хачу
каб за быццё
толькі беларускім "кацапам"
дрыжаць ад страху і пераляку...

# Падляшскі вандроўнік

* * *

На мяжы
мы жывем і дрыжым
тут патруляць усе
і свае і чужыя
Каб адвесці душу
ўзносім толькі ахвярныя крыжы
ці ж так нам паміраць
мае людзі лясныя?

*2013*

### КУЕ ВЭСНОВА ЗАЗУЛЯ

*Віктару Стахвюку*

Ой куе куе вэснова зазуля в лісі
А наш Вітюленько спішыт до Марысі

Ой нэ куй нэ куй зазулё так моцнэнько
Бо ужэ з міленькою ліжыт Вітюленько

Зэмля зворухнулась зоры заглядiлiсь
Воны молодэнькі гожэ так любілiсь

Гожэ так любілiсь у шчасці шэптали
Росою туманом сэбэ обмывалі

Сэбэ обмывалі доленьку гадалі
Над бэрэжком Нарвы хвалі ім співалі

А колі поднялiсь і вэрнулiсь з ранку
Злыя батюленькі выгналі коханкув

Нарва зажурылась слёзы пролівала
Там за Тросьцяніцёй рэчунька всыхала

Нэ всыхай рэчунько будь ты нам мілая
Мы на твоіх хвалях плавэм до Дуная

Так наша доля по світі блудіті
Коб за двісты рочкув зноў над Нарвой жыті

Нарва усміхнулась в бэрэжкі вступіла
На місці кохання крыніцёю біла

*2006*

## ***ПАДЛЯШСКІ ВАНДРОЎНІК (частка II з трыптыху)***

*нашаму тату*

Я не хачу
як тады у дванаццаць гадоў
над уласнаручна капанай магілай
слухаць працяглае тра-та-та-та
з нямецкага аўтамата

Я не хачу
такіх партызанаў
начных шкурадзёраў
што ў ценю пушчанскіх хвояў
прысвойвалі сабе званні герояў

Я не хачу
франтавога гуку разрыўных гранатаў
і свісту снарадаў з гарматаў

забраных у Сібір і Нямеччыну маладзёнаў
прапаўшых без следу ў чужых загонах

Я не хачу
каб за быццё толькі беларускім “кацапам”
дрыжаць ад страху і пераляку
сярод спаленых ушчэнт
родных бацькоўскіх хатаў

Я не хачу
дыхаць цяжка-млявым пахам
з пагарэлых кароў і ягнятак
дзе ўдасца вывесці толькі каня
з гэтага мора агня

Я не хачу
прымушана глядзець
на скручаных дротам людзей
аблепленых пяском, мухамі і кроўю
пастраляных з ненавіснай у вачах любоўю

Я не хачу
болю разрыванага сэрца
адчайнага ляманту маладзіц-удавіц
плачу дзяцей
адарваных толькі што ад матчыных грудзей

Я не хачу
з жабрачай торбачкай
блукаць галодным па суседніх вёсках
за акраец хлеба і скрылік сала
са слязьмі ў горле і вачах дзякаваць прыпала

Я не хацеў
каб другія смяяліся з нас
бо бедныя, нявучаныя –
сынкі, пра тое знайце
мы з мамай стараліся як маглі
бы добрымі людзьмі
ў свет вы ў згодзе пайшлі
і такімі жыццё пражылі.

Зянон Пазьняк



...за саветамі
людзі пабойваліся
казаць пра палітыку, веру,
Бога і начальства...

# Гісторыі з савецкага часу

***Апавяданні-згадкі***

## Дукшта

...А быў у нас такі млынар Казюк Дукшта. Пасля вайны ён адбудаваўся ў цэнтры мястэчка і, памятаю, заўсёды хадзіў на працу ў млын гародамі непадалёк ад нашага дома. Млын быў велізарны, на чатыры паверхі і на чатыры магутныя, метраў па 12 у дыяметры, колы. Будынак быў абабіты шалёўкай і пакрыты гонтай, стаяў на востраве пасярод Гаўі. Там жа на востраве стаяла велізарная, крытая гонтай, павець, куды заязджалі з вазамі і навязвалі коней. З двух бакоў быў мост з плацінай і застаўкамі, якія падымалі, калі было зашмат вады, і тады Гаўя з шумам імчала па драўляных падэнях і спадала вадаспадам у сваё рэчышча. Тады драбнейшую рыбу з глыбіні вадой выганяла далей на доўгі пяшчаны брод, з чаго карысталіся заўзятыя рыбакі і аматары павудзіць.

Памятаю адзін такі выпадак у маленстве, калі быў спуск вады, і я прыбег з сваёй крывой вудачкай (вудзільна

з арэхавай ляшчыны) і жылкай з конскага воласу. Рыбакоў (старэйшых хлопцаў, дзядзькоў) было асобаў з дваццаць, і час ад часу нехта выцягваў то кялба, то верхаводку.

Мая лоўля, аднак, выглядала інакш і заключалася ў тым, што я закідаў вуду і тут жа выцягваў кялба. Шморгаў аднаго за адным. На мяне коса пазіралі, дзядзькі пасмейваліся з малога (мне было гадоў дзесяць-адзінаццаць), станавіліся на маё месца, а я на іхняе. Але ў іх не бралася, а я цягнуў аднаго за адным. Каля мяне сабралася куча разявак, вохкалі, ахкалі, як заўзятары на футболе, рагаталі, калі дзядзькі нерваваліся. Неўзабаве я налавіў цэлы бідончык і пабег дадому парадаваць маці, праведзены гулам здзіўлення і адабрэння.

На рыбе, ведаеце, як з дзеўкамі: каму шанцуе, каму не, каму самы плывуць. Я не ведаў тады, чаму ў мяне рыба бралася, а ў іншых не. Але дасведчаны рыбак, наш сусед Франук Лаўрэль, мне растлумачыў дасканала: усе лавілі на жылку, якую дасталі (такія ж бо спрытныя) хто ў Лідзе, хто ў Вільні, а я, малы, на конскі волас (адкуль у мяне тая жылка-раскоша). Рыба чуе пах і пабойваецца ненатуральнай жылкі, а конскі волас яе не пужае, вось яна і чаплялася на мой кручок.

Дзядзька Франук, бачачы маю схільнасць да рыбы, мяне запаважаў, як дарослага. Калі спаткае, то абавязкова спыніцца і пагаворыць пра рыбу.

Матруна (прыток Гаўі) працякае метраў за 60-70 ад нашага дома. Вада ў ёй чыстая крынічная і сцюдзёная. Тыя, што жылі ля Матруны, студняў не капалі. З Матруны ваду бралі. І яшчэ бляханы з малаком у ваду ставілі – такая яна халодная была, і сепарацыя ішла хутка. А тут табе і смятана, і сыр, і тварог.

Але галоўнае ў Матруне – гэта рыба. На ўсім працягу вадзіліся стронгі пад карчамі. Як сонечны дзень, выходзілі грэцца на струмень ды на плёсы. Толькі падышоў, а яны стралой пад карчы.

Вадзіліся яшчэ сліжы пад камянямі. Ну і былі маляўкі ды калюшкі, якіх ніхто не лавіў і за рыбу не лічыў.

Летам я ўставаў у маленстве а 6-7-й гадзіне, браў кароткую вудачку, нанізваў на вялікі падвойны кручок некалькі чарвякоў, ціхенька падпаўзаў да рэчкі, спускаў вуду на яме пад корч, дзе сядзелі стронгі, і асцярожна адпаўзаў. Праз хвілінаў 15-20 зноў падпаўзаў і бачыў, што паплавок зацягнуты ажно пад корч. Тут сэрца маё як застукае. Хвалюючы момант. Р-раз! Вудзільна выгінаецца, стронга ў вадзе лапоча, а я яе на бераг – і мая.

Больш за адну ніколі не лавіў. Трэба ж было і назаўтра пакінуць. Дый бабуля, бывала, раніцою кажа:

– І што ты, унучак, на сняданне будзеш есці? Можа, пайшоў бы пстранга злавіў.

Я ішоў і лавіў. Тут жа, побач, амаль пад ганкам. Ды і рэчка гэтая лічы, што наша (так я яе ўспрымаў).

А дзядзька Лаўрэль, бывала, ідзе каля рэчкі і пытае:

– Ловіш?

– Пстранга лаўлю, – кажу я.

Дзядзька Лаўрэль сядаў на траву і пачынаў ціхую (каб не спалохаць стронгаў) гаворку пра рыбу са мной, малым, як з дарослым.

Лаўрэляў было ў Суботніках тры браты: Адварды, Ляўнарды і Франук. Адварды і Ляўнарды мелі вялікія сады і былі апантаныя садаводы. Каго ні спаткаюць – пачнуць гаворку пра сад. Яны пра сады гаварыць

любілі, а Франук – пра рыбу. Франук трымаў дзве лодкі па абодва бакі млына (на ставе і на рэчышчы) лавіў трыгубіцай буйную рыбу (брадніка не прызнаваў). Лавіў так: ставіў трыгубіцу, адгароджваў ёй кавалак рэчкі, потым адплываў на лодцы далей і доўгім калом пачынаў бухаць глыбока ў ваду, пужаў рыбу, каб тая ўцякала ў бок сеткі.

Бывала, што заблытвалася і невялікая рыбка, асабліва акунькі. Лаўрэль іх выкідваў у рэчку. Малой рыбы не браў ніколі.

Жонка яго была вельмі гаваркая; колькасць словаў, якія яна выпускала ў хвіліну, была велізарная. І калі яна бачыла, як мужык выкідвае малую рыбу, то бесперапынна абурана стракатала. У гэты момант у цёткі развівалася сквапнасць і, вядома ж, яна трымала тады свайго Франука за дурня.

З іхнім сынам Юзікам мы крыху сябравалі, і аднойчы дзядзька Лаўрэль узяў нас дваіх у лодку на рыбу. На носе сядзела Лаўрэліха, мы з Юзікам пасярэдзіне, і ў канцы дзядзька Лаўрэль правіў лодкай. Пачалі вымаць сетку. Рыбы набілася ніштавата: акуні, плоткі, нават пару шчупакоў. Лаўрэль скінуў вялікую рыбу ў мяшок і пачаў выкідаць малую назад у раку. І тут пачалося. Суцэльная кулямётная чарга. А Лаўрэль пасмейваецца сабе і мелюзгу выкідае.

– Ну, а гэта во, нашто выкідаць? – закрычала Лаўрэліха, паказваючы на добрага такі акунька, – дай сюды! Дай сюды, кажу!

– Хай расце! – кажа Лаўрэль і хоча кінуць рыбу ў рэчку.

– Ты што? Халера! Здурэў!

З гэтымі словамі Лаўрэліха кідаецца да Франука, каб адабраць акуня. Той выкідае рыбу ў ваду, а Лаўрэліха з попрыску скача за акунём у рэчку, наважваючыся злавіць. Гук быў такі: “чыбулды-ы-ых!” Сукенка Лаўрэліхі надзьмулася, бы парасон, потым пайшлі бурбалкі, і баба пачала тапіцца, малоцячы, як сабака, рукамі па вадзе. А дзядзька Франук стаіць у лодцы і назірае.

– Франук! – крычыць Лаўрэліха, – таплюся, ё. т. м., чаго стаіш?

Лаўрэль падаў ёй канец кала, якім ганяў рыбу. Лаўрэліха ўчапілася і пачала чаперыцца ў лодку.

– Чакай, перакуліш! – крычыць Лаўрэль.

Падплылі да берага. Лаўрэліха залезла ў лодку і пачала лаяць Франука, што праз яго яна во, уся намачылася.

– Нічога, высахнеш, – адказвае Лаўрэль.

Але я тут не пра рыбу хацеў казаць. Вернемся да Дукшты. Млынароў у млыне было чатыры, ці нават пяць. У тым ліку і наш далекаваты сусед Віктусь Тучкоўскі (“Адасюк”, бацьку звалі Адасем).

Як і ўсе млынары, ён хадзіў абсыпаны мукой, маленькі, вёрткі, са шляхецкімі вусамі і вясёлай усмешкай, гаварыў тэнарком і хуценька, нібы тарахцеў, і заўсёды пра нешта смешнае, і сам першы смяяўся.

Побач з млынам на “Вулачцы” стаяў вялізны драўляны дом кшталту панскай афіцыны, пакрыты чырвонай глінянай дахоўкай. Гэта быў дом для загадчыка млына. Ён там і жыў з сям’ёй, нібы ксёндз у плябані. Памятаю, хадзіў такі насуплены ў зашпіленым сталінскім кіцелі і ні з кім не гаварыў, бо мала што разумеў па-беларуску. Прыслалі аднекуль з усходу.

Казюк Дукшта быў чалавек-волат, пад два метры ростам, хадзіў, гаварыў, рабіў не спяшаючыся. Меў дзвюх прыгожых дачок – Яню і Ядзю, і малога сына. Дакладней, двух сыноў. Але старэйшы, Ян, не быў яго родным.

А гісторыя была такой. Калі ў 1941-м прыйшлі немцы, то каля вёскі Шаркуці (тры кіламетры ад Суботнікаў) нейкі паўгловак стрэліў па немцу і забіў. З мясцовых гэтага ніхто не мог зрабіць, бо людзі былі толькі радыя, што немцы пагналі бальшавікоў (дый зброі ніхто не меў). Хутчэй за ўсё, стрэліў нехта з бадзяжных савецкіх салдатаў, якія, ратуючыся, разбегліся па лясах і дарогах. Але немцы не разбіраліся, акружылі вёску, сагналі ўсіх вяскоўцаў у гумно і спалілі. Мала хто ацалеў. Сярод іх – двухгадовы хлопчык Янка, які застаўся круглым сіратой. Вось Казюк Дукшта з жонкай зжаліліся над дзіцём і ўзялі ў сваю сям'ю, усынавілі.

Янка вырабіўся ў добрага хлопца з прыроджанай інтэлігентнасцю, лексіка яго была чыстай, без вульгарных словаў і грубага тону. Калі моладзь летам купалася ля млына на шырокім разводдзі, то Янка плаваў асобна, гэтак далікатна, каб не намачыць сваю падстрыжаную пад “польку” шавялюру. Хлопцы кпілі з ягонай “гжэчнасці”, лавілі ў вадзе і спецыяльна “тапілі”, каб “фрызура” намокла. Потым рагаталі ўсе разам. Янка таксама. Гумару ў яго хапала.

Янка вырас, стаў пазіраць на дзевак, што праўда, нічога ў яго з дзяўчатамі не атрымлівалася, але тым не менш ён паступіў вучыцца ў медінстытут і неўзабаве, яшчэ студэнтам, ажаніўся. У інстытуце ён добра паказаў сябе па прафсаюзнай ды камсамольскай лініях і неўзабаве па сканчэнні вучобы як малады спецыяліст быў прыняты ў партыю (у члены КПСС). Яго ўзялі інструктарам райкама, потым стаў загадчыкам аддзела, далей адным з сакратароў, і пайшло ўсё як па масле, адчыняліся прывабныя сацыяльныя далягляды.

Казюк Дукшта ведаў, што прыёмны сын стаў начальнікам. У пэўнай ступені гэта яго цешыла, што Янка выбіўся ў людзі і стаў не абы кім. З іншага боку, бальшавікоў у Суботніках ніхто не любіў, і Дукшта таксама. Таму сваім Янкам Дукшта нідзе не хваліўся, але гонар за яго меў.

Пасля інстытута Ян некалькі гадоў не прыязджаў у Суботнікі. Але вось, нарэшце, пасля доўгай адсутнасці, паведаміў, што прыязджае. Дукшта сабраў усю радню і падрыхтаваў вялікі стол.

Ян прыехаў з жонкай і дзіцём на ўласнай новай светлай “Волзе”. Тут мушу патлумачыць. У 60-70-я гады ў СССР мала хто з простых смяротных мог мець машыну вышэйшага класу – “Волгу”. Тры машыны было ў СССР: “Волга”, сярэдні клас – “Масквіч” і малалітражка “Запарожац”. Чарга на пакупку гэтых машынаў сягала да некалькіх дзясяткаў гадоў, хоць каштавалі яны велізарныя грошы, непад'ёмныя для простага чалавека.

Дык вось Янка ўехаў у двор Дукшты на светлай “Волзе”. У яго ўжо завязаўся ладны такі круглы жываток, рухаўся ён павольна, гаварыў прадумана, па-расейску, але падкрэсліваў сваю даступнасць і адкрытасць, каб здавацца на роўні з усімі. Дукшту, праўда, не спадабалася, што іхні Янка гаворыць з ім па-расейску, але ён нічога не сказаў.

– Ну, – кажа, – Янку, вадаправода ў нас пакуль не правялі, дык во над мядніцай памыйся і за стол.

– Да-а, цивилизация, папа, впрямь скажем, аховая, – вымавіў Янка.

– Так, хрэновая арганізацыя, – кажа Дукшта, не зразумеўшы, – хоць я цябе ругацца і не вучыў.

Селі за стол. Усе віталі Янку, распытвалі, “дзе робіць”. Жонка Янкава з пышнай, дробненька закручанай кудзеркамі “эндуляцыяй”, казала, што

яна “тоже из деревни”, але ў горадзе “лучше и она не представляла”, што адсюль мог выйсці ў свет яе “Ваня”.

Нешта Казюка пачало вярэдзіць, сам не ведаў, што. Ён пастукаў відэльцам па графіне і сказаў усім наліць. А потым устаў, падняў кілішак і кажа:

– Дарагі Янка, дазволь мне ад нас з маткай прывітаць цябе ў родным доме. Даўно мы цябе не бачылі, але вось ты прыехаў паважаным чалавекам, начальнікам. І мы, скажу табе, вельмі радыя з маткай, што падабралі цябе сіратой, вырасцілі, далі адукацыю і дарогу ў жыццё. Добра, што наша ахвяра не змарнавалася напуста і ты стаў такім салідным чалавекам. Дык вып’ем жа за тваё шчасце, каб ішоў далёка і не забываўся дарогі да хаты.

Тут трэба было, як па звычаю, выпіць і пачаць закусваць тым, што было на стале. Але Янка, ломячы правілы, устаў з кілішкам ды пачаў дзякаваць Казюку за добрыя словы. А потым і кажа:

– Конечно, спасибо, папа, за добрые пожелания и за всё, что вы для меня сделали в жизни. Должен только добавить и сказать о вещах совершенно очевидных. Ведь если бы не советская власть, не получил бы я ни образования, ни перспективы в жизни. Возможно, сидел бы здесь, пас скот или пил водку, как бывает, к сожалению, на селе. В сущности, дорогие мои земляки, мы должны всегда об этом помнить: в какой передовой стране и в какое счастливое время мы живем. Раньше такое бы было немыслимо. Поэтому дело не во мне и не в обстоятельствах, моей заслуги здесь нет. Советская власть нам всем дала возможность выбора пути и честной работы на благо всех. Поэтому разрешите присовокупить к пожеланию папы так же и мой тост и выпить за нашу действительность, в которой живем, и за идею, что озарила нам жизнь.

Запанавала цішыня. Янка, усцешаны сваёй добрай прамовай, кульнуў чарку, сеў і ўзяўся за відэлец. Але ніхто не піў.

– Во, – патлумачыла ў паўголаса ўсім, хто не зразумеў, Франя Рапэцкая, – кажа, што яго савет вывучыў.

– Аяёяёй! – праспяваў у вусы Віктусь Адасюк, гледзячы ў кілішак.

Госці пачалі перашэптвацца, пераглядацца, закруцілі галовамі.

– Дык кажаш не я, а савет табе ўсё даў? – басам пратрубіў Дукшта.

– Нет, папа, конечно же вы. Но советская власть создала условия для реализации... – пачаў быў Янка.

– Вон з хаты! – прыцішыў голас Дукшта. – Прэч пайшоў!

– Нет, папа, вы меня не так поняли, я не против...

– Сядай у машыну і едзь, адкуль прыехаў. Зараз жа! Начаваць тут не будзеш.

Дукшта выйшаў з-за стала, у сенях узяў шапку, адзеў і пайшоў сабе праз гароды ўніз, да Матруны, прыхапіўшы граблі сена варочаць. Хоць быў ужо вечар, сонца якраз заходзіла і не час быў на тое сена, што ляжала ў валках, чакаючы раніцы.

Але Дукшта рашыў цяпер зрабіць і заўтрашнюю работу. Карова шмат значыла для сельскага чалавека пры калгасна-саўгасным ладзе. Так што корм для жывёлы справа першасная. Усё астатняе – так сабе, па чарзе зробіцца. Восенню бульбу скапаць, гарод выбраць, брыкет ды дровы завезці. І так і цягнецца, пакуль жывы і здароўе дазваляе.

Янку больш у Суботніках не бачылі. Дзе ён, што ён, і сам Казюк не ведаў. Ды і не цікавіўся. Можа, дзе палез угару. Але неўзабаве і савет

разваліўся, і бальшавікі выпарыліся. Але гэта ўжо, як Дукшта памёр. А Янка?.. Хто яго ведае. Можа, дзе яшчэ і сядзіць на пасадзе такі “Ваня”. Самы ж бо на яго час.

*25 ліпеня 2013 г.*

## Гарнізон

Дзесьці ў 1969-м я паступіў у аспірантуру Акадэміі навук у Менску і шукаў кватэру, бо “акадэмік” (аспіранцкі інтэрнат) трэба было чакаць у чарзе (пры саветах усюды была чарга).

Я пазнаёміўся на прыпынку трамвая з адным старшыной, які служыў звыштэрмінова ў гарнізоне ў Менску і толькі што пабудаваў сабе кааператыўнае трохпакаёвае жыллё. Гэта быў такі “напаўваенны” дом на вуліцы Кальцова, дзе гэтых звыштэрміновых старшын-сяржантаў парадкам сабралася. Прытым – ніводнага беларуса – усе акупанты з Расеі. Толькі мой знаёмец Пеця Краўчук украінец з Карпатаў.

Пеця (Пэтро) быў душа-чалавек, вясёлы, сумленны, трохі з гумарам і з крытычным розумам. Асноўны клопат яго быў правільна пакарміць кенара ў клетцы, каб спяваў, і выхоўваць шасцігадовага сыночка дзяжкай.

– Вы знаеце, Зянон, не магу зразумець: у нас ва ўсім родзе ніхто ніколі не хлусіў. А мой хлусіць на кожным кроку. Спасу няма. Адлёпаю, паплача і зноў хлусіць. Ну? Што рабіць, скажыце?

– Перарасце, Пеця, – кажу, – гэта ў яго гульня такая. Ён жа не разумее, чаму нельга. Казку яму лепш раскажыце, дзе з хлусаў смяюцца і Бог карае, – павучаў я старшыну Пецю.

Наступная тэма была – пра кенара. Часам Пеця з жонкай ад’язджаў на дзень, то прасіў мяне пакарміць птушку – адну лыжачку, не больш, а то спяваць перастае.

– Яму як больш дасі, – кажа Пеця, – дык нажарэцца і тады маўчыць. Нічога яму не трэба.

– Во, якраз, як чалавек, – адказваю я, – наесца, і ніякая ні свабода, ні мастацтва яго ўжо не цікавіць. Толькі піва хоча. Праўда, Пеця?

– Так точна, – кажа Пеця, – і шмат такіх.

Побач на пляцоўцы ў суседніх кватэрах жылі два старшыны-расейцы, таксама некалі засталіся на звыштэрміновую службу. Адзін, “Костя”, аднекуль з Пензы, меў жонку Марфу (таксама расейку), якую часам “поколачивал”, каб лепшай была, і шасцігадовую дачушку, якая хадзіла ў акулярах.

Другі, “Митя”, што жыў насупраць, паходзіў з нейкага горада, выгаварыць назву якога было цяжка і тым больш запомніць (нешта накшталт Сыктыўкар). Жонка яго, Клава, адтуль жа. Бывала, у добрым настроі казала: “Ой, девочки, в Белоруссии такие хорошие люди. Мы решили остаться.”

Косця трымаў “вучонага” голуба, які жыў у яго ў кватэры. Часам Косця адпускаў яго палётаць, але голуб зноў прылятаў. І тады Косця камандаваў: “Гена!” – і паляпваў сабе па плячы. Голуб сядаў яму на плячо і круціў галоўкай. Тут Косця даваў яму з рукі чаго-небудзь падзюбаць. А калі ў доме быў госць, Косця часам, так, між іншым, зноў ляпаў сабе па плячы і камандаваў “Гена!” Гена сядаў на плячо (на здзіўленне госця), і так Косця з галубом і працягваў гаворку ды праводзіў госця да дзвярэй.

Косцеў голуб быў справай яго прэстыжу. Нават у гарнізоне ведалі, што Косця мае вучонага голуба, які слухаецца яго камандаў.

Тым часам Міця быў чалавекам ціхім. Ягоным аўтарытэтам была Клава. Яе жаданні ён прадбачыў наперад. “Что й та Костя сегодня разошелся! Никак опять Марфушу гоняет?” – казала, бывала, Клава. І Міця йшоў да Косці пагаварыць пра рыбалку. Скандал сціхаў.

Праўда аднойчы Косця разышоўся так, што дрыжэў дом. А справа была ў тым, што ў той час у Савецкай Арміі ўвялі званне прапаршчыкаў. Усіх старшынаў перавялі ў прапаршчыкі і выдалі пагоны з малымі зорачкамі і суцэльным полем. Аддалена гэтыя пагоны нагадвалі генеральскія, толькі бедна выробленыя і зорачкі малыя.

Косця, як прышоў у новых пагонах, адразу хлабыснуў паўшклянкі гарэлкі за свой новы выгляд. Падышоў да люстэрка, паўзіраўся і закрычаў:

– Марфа! Генерал, ей-бо! Генерал! – Косця наліў яшчэ і выпіў нагбом. – Нет, ты посмотри, Марфа, генерал ей-бо, а?!

– Ой, прямо, очень похоже, Костя, ну впрямь, генерал! – пляснула далонямі Марфа.

– Ге-не-ра-а-ал! – зароў Косця, – Ге-не-ра-а-ал! – і пусціўся “в пляс”. – Э-э-эх! – крычаў Косця і выстукваў ботамі ў падлогу так, што сервант з хрусталём задрыжэў. Дом хадзіў хадуном.

Пеця пастукаў да мяне ў дзверы:

– Чуеце?

– Чую, а што гэта?

– Ну, гэта ж прыдурак так пагоны абмывае. Ну, ці ж не дурань! – Пеця пакруціў пальцам каля віска. – Гэта яшчэ тая кадра.

Ад радасці Косця не мог супакоіцца і пачаў камандаваць голубам, які ўзляцеў на карніз за штору і трывожна пазіраў адтуль, як Косця гасіць ботамі ў падлогу.

– Гена! Сюда. Каму сказал! Сюда! – І Косця ляпнуў па плячы. Голуб, нарэшце, усё ж зляцеў. – Вот давно бы так! Пей! Пей, Гена, за генерала, ей-бо! – І Косця паднёс голубу шклянку з гарэлкай. Голуб адвярнуўся. – А-а, не хочешь? Не уважаешь, да?? Ну і дурак!” – сказаў Косця і выпіў сам.

Тым часам у Міці быў план адзначыць падзею ўсім траім суседзям разам з жонкамі, але Клава сказала “не нада”:

– Ты же слышишь, он уже сам отметил, даже Васька испугался.

“Васька” – гэта вялікі пушысты кот, любімец сям’і, якога Міця, пераймаючы Косцю, таксама навучыў сядаць сабе на плячо. Бывала, Міця выходзіць, спусціцца ўніз пошту забраць, а на плячы гэтак спакойна сабе кот сядзіць.

– Ой, мы так любим животных, – казала Клава Марфе, – они такие умные, ну как люди.

І ўсё было б добра ў гэтым “гарнізоне”, калі б аднойчы кот Васька не пералез на балкон да Косці, не злавіў і не з’еў голуба Гену.

Да бойкі суседзяў справа не дайшла, але скандал быў грандыёзны. У канцы Косця пристрашыў Міцю:

– Подожди, я те сделаю, я те сделаю!

І “сделал”. Праўда, тое сталася ўжо не за маёй прысутнасцю. Да гэтага часу я з’ехаў з “гарнізона” на іншую кватэру. Але аднойчы я спаткаў Пецю Краўчука, і ён, весела смеючыся, расказаў мне, што адбылося.

А сталася вось што. Аднойчы Марфа вярнулася дадому раней часу і, падыходзячы да дзвярэй, пачула ў кватэры дзіцячы енк. Дзяўчынка павінна была быць яшчэ ў садку, але Косця мог яе ўжо забраць. Енк быў такі, што здавалася, быццам дзіця рэзалі.

Хвалюючыся і не трапляючы ключом у замок, Марфа сама пачала лямантаваць:

– Доченька, доченька! Помогите! – тут на пляцоўку выскачыў Пеця, дапамог адчыніць дзверы і ўляцеў з Марфай у кватэру. Чуваць быў пах паленага, нібы курыцу смалілі. На кухні сядзеў Косця і ашалелымі вачыма глядзеў на Пецю з Марфай. Побач, апутаны дратамі, ляжаў спруцянелы кот Васька.

Аказалася, што Косця злавіў галубажэрцу ката Ваську, абматаў яго за шыю і за хвост аголеным дротам і падключыў праз рэле ў электрасетку. Павялічваў напружанне да таго часу (а кот енчыў), пакуль Васька не спруцянеў і не пачаў падгараць.

– Во якая кадра! Вы маглі б пра такое падумаць! – закончыў расповяд Пеця. – У нас на Украіне такіх ідыётаў шчэ нэма.

– Е, Пэтро, е, – гэта імпартны варыянт, – у тон яму адказаў я. – “Драка” была?

– Клава сказала, што вочы выдрапае. Цяпер не размаўляюць між сабой.

– Вось бачыш, Пятро, а ўсё з-за любові да брацціяў нашых меншых.

– Добра, що воны так людэй нэ любяць, отжэ парэзалі б ужэ.

– А кенар жыве?

– Жыве, спявае.

– Ну і добра, хай спявае.

На гэтым мы разышліся. Экзатычная гісторыя з савецкага часу. Часам успамінаецца ні з таго ні з сяго.

*22 студзеня 2013 г.*

## Геранім

У 1985 годзе, будучы ў Абхазіі ў горадзе Гудаута, я зачытаўся творамі Міху Лакрбы (Міхаіла Лакербая, абхазскага класіка XX ст.) і даведаўся, што знакамітая вёска (ці, як сказалі б мы, – мястэчка) Лыхны было тут зусім недалёка, кіламетраў за пяць-шэсць.

Я адразу вырашыў туды схадзіць, бо няма нічога прыемнейшага, як хадзіць пешкам і аглядаць незнаёмыя прыгожыя мясціны.

Дарога – вузкі асфальт без узбочыны, таму давялося йсці па асфальце і ўвесь час азірацца, каб не задавіла машына. Тут гэта проста. У мяне склалася ўражанне, што на гэтай зямлі ніхто ніякіх правілаў дарожнага руху не прызнае. Насустрач мне гнаў грузавік з каўпом, як сена воз, нагружаны, нібы сіласам, лісцямі зялёнай гарбаты. Лісце разляталася ў бакі, усцілаючы дарогу, хуткасць пад 100 кіламетраў, а на версе гэтага стогу яшчэ двое вясёлых хлапцоў сядзяць і рагочуць. Нават памахалі мне рукамі: “Привет, дарагой!”

“Хоць бы жывымі даехалі”, – падумаў я. Дастаткова было ліхачу (які яшчэ, магчыма, выпіў чачы) тармазнуць на павароце ці вільнуць пры абгоне – канец і стогу, і хлапцам: прызямленне было б кароткім з доўгатэрміновымі вынікамі.

Перад гэтым я ехаў аўтобусам у гарах на горнае возера “Рыца” на вышыню 900 метраў. Вузенькая дарога на самым краі бездані віляла серпанцінам, як змейка, глыбока ўнізе бездані рэчка бурліць, а шафёр гоніць сабе на хуткасці, як той з гарбатай, і ў вус не дзьме. У аўтобусе мёртвая цішыня. Усім заняло дых. Некаторыя заплюшчылі вочы. Шчыра кажучы, і я ў думках ціха памаліўся.

На Апсару – святую гару абхазаў – я пешшу падыбаў, чатыры гадзіны йшоў. Няма дурных. Адчайны народ – што абхазы, што грузіны: жывуць, як хочацца. Спачатку робяць, потым думаюць. О, цяпер я разумею гэтую гісторыю, якую нядаўна пачуў. Гумар-сатыра. Анекдот. Ішлі два грузіны з гасцей. У Грузіі гасцей без віна не бывае, як у Беларусі без гарэлкі. У выніку адзін зваліўся ў бездань. Той, што зверху, гукае:

– Голія, ты мяне чуеш?

– Чую.

– Галава цэлі?

– Цэлі.

– Рукі цэлі?

– Цэлі.

– Ногі цэлі?

– Цэлі.

– Дык вылазь сюды.

– Не магу, я яшчэ не даляцеў.

Па дарозе на вяршыню Апсары захацелася піць. Ніякага пойла ў бутэльках я, зразумела, не ўжываў. Го – думаю – найлепш было б кефіру. Падыходжу, стаіць нейкі аб’ект на схіле, падобны на сталовую-чайную. Напісана: «абед – 13.00-14.00» Было 13.00. На ўсялякі выпадак прыадчыніў дзверы і зазірнуў. У глыбіні памяшкання нейкі мужчына гадоў пад сорак размаўляў з дзвюма афіцыянткамі (так я падумаў). Я зачыніў дзверы, а яны там крычаць:

– Эй, заходзь, дарагі, заходзь!

Я зноў прыадчыніў дзверы.

– Ты што хацеў, дарагі?

– Дык жа ў вас абед.

– У нас абед, і ў цябе абед, дык у чым справа, дарагі?

– Кефіру хацеў.

Тут запанавала цішыня. Уражанне, што яны не чулі пра такі напітак.

– Кефір, кажаш? Гм... Заходзь, дарагі, знойдзем, дастанем. Грузінскае віно лепшае ў свеце.

Зазначу, што наконт віна я цалкам згодны. Самае лепшае. Але пры чым тут кефір?

Гэтак думаючы пра тое ды сёе, я дайшоў да Лыхноў. Па дарозе мяне больш за ўсё ўразілі сядзібы, дзе побач з домам былі магілы. Калі паміраў сямейнік, яго тут жа, каля хаты, і хавалі, ставілі помнік, усё, як трэба. Асцярожна дапытаўся. Аказваецца, так рабілі абхазы, якія прынялі мусульманства.

Справа перад Лыхнамі я ўбачыў дах і вежы мураванай царквы Багародзіцы, з выгляду вельмі старажытнай. Так яно і аказалася – XI стагоддзе. Якраз адбываўся рамонт. Я зайшоў да святара-настаяльніка. Строгая пападдзя адамкнула мне храм. Я пахадзіў, паглядзеў на даўнія роспісы (XIV ст.), зрабіў пару здымкаў, пагаварыў з пападдзёй, развітаўся і збіраўся

адыходзіць, як з рыштаванняў спусціўся чалавек, крыху старэйшы за мяне, на выгляд гадоў пад пяцьдзясят, відаць, рабочы рэстаўратар, і спытаўся, усміхаючыся:

– Храмам цікавіцеся? Гэта вельмі старажытны храм.

Завязалася гаворка пра фрэскі, пра архітэктуру і мастацтва, пра рымскую гісторыю. Незнаёмец добра арыентаваўся ў старажытнай Беларусі, ведаў усе гарады, дзе былі пабудовы XII стагоддзя: Полацк, Віцебск, Гародню, Менск. Ведаў, што ў Віцебску храм XII стагоддзя быў узарваны ў 1961 годзе.

Мы выйшлі на панадворак і прыселі пад светлым платанам. Мне спадабаўся гэты чалавек. Ён быў адкрыты, дабрадушны, глядзеў у вочы і адчувалася, што не меў ніякіх засцярог і падазрэнняў адносна маёй асобы (успомнілася строгая пападдзя і настаяльнік з вачыма, як свідэркі). Размова была шчырай і даверлівай. Трэба ўзгадаць, што за саветамі людзі пабойваліся казаць пра палітыку, веру, Бога і начальства. Гэты гаварыў, што думаў. Для мяне тое таксама было найлягчэй. Таму мы добра разгаварыліся, расказваючы адзін аднаму не толькі пра свае меркаванні, але і цэлыя гісторыі.

Рэстаўратара звалі Геранім. Тут я задумаўся.

– Вы не з Беларусі часам?

– Не, я грузін. Мама мая беларуска. Ужо не жыве. Я шмат ведаю пра Беларусь ад мамы. Бываў там не раз. У Нясвіж ездзіў, у Полацк і Мір, а мама жыла ў Гародні.

– Геранімам, відаць, мама назвала?

– Не, ведаеце, я Зураб. Геранімам я сам сябе назваў.

Я падумаў, ці варта пытаць далей (нешта не тое), і кажу, што мне маё імя ўвогуле падабаецца, усе, хто меў такое імя (у абсягах маіх ведаў) былі прыстойнымі людзьмі. На што Геранім кажа, што яму “Зураб” таксама падабаецца, але калі чалавек змяняе жыццё, то трэба быць паслядоўным.

– Звычайна змяняюць імя манахі, епіскапы, – працягваю я.

– Ну так, – кажа Геранім-Зураб – гэта проста, назваўся Серафімам, ці нават Херувімам, але не стаў ні анёлам, ні вернікам, ні нават прыстойным чалавекам.

– Тады скажыце, Геранім, – пачаў я, – як вы мяркуеце, калі б, напрыклад, Гітлер альбо Сталін атрымалі б дакладныя звесткі і доказы, што Бог ёсць, ну, калі б сам Бог з’явіўся б да іх, зрабіў цуды, як бы яны сябе сталі паводзіць?

– Не, не змяніліся б, – адказвае Зураб-Геранім. – Што да паводзінаў, то хутчэй за ўсё пастараліся б Бога расстраляць.

– Ну, – кажу, – сумны жарт, але праўда.

– Які жарт? Хрыста ж укрыжавалі. А ён жа Сын Божы, прыйшоў да людзей і рабіў цуды. Перш, чым даведацца, што Бог ёсць, трэба паверыць. Бог пазнаецца толькі праз веру. Веды могуць дапамагчы ў веры, але ніякія веды без веры не прывядуць да Бога.

– Так, – згаджаюся я. – Усё ж відавочна, зразумела і нават проста, але як цяжка чалавеку ўсё тое асягнуць. Ведаюць, але ж не вераць. Усё роўна не вераць. Адкуль жа тады вера?

– Выходзіць, што тут усё, як напісана: стукайся, дык адчыняць, – кажа Геранім. Урэшце, усё роўна ўсё залежыць ад Бога, а не ад чалавека, але трэба адно – каб чалавек пастукаўся. У гэтым, я думаю, і ёсць сакральны сэнс свабоднай волі, дадзенай Богам чалавеку.

Гэтак мы разважалі аб вядомых рэчах, нібы правяраючы адзін аднаго і дэманструючы погляды ды пазіцыю, словам, шукаючы адзінства ў размове на агульныя тэмы. Мы лёгка гэтае адзінства знайшлі і размаўляць было хораша, як раптам Геранім кажа:

– Але, ведаеце, ёсць адзін чалавек, які дакладна ведае, што Бог ёсць.

– Як? Без веры?

– З верай. Але ведае.

– Цікава. Хто гэта.

– Гэты чалавек перад вамі, пане мой. Пасля таго, як я даведаўся, я і стаў Геранімам.

– Вы бачылі Бога? – спытаў я, насцярожана ўглядаючыся ў суразмоўцу.

Геранім усміхнуўся, злавіўшы мой позірк.

– Не, не бачыў. Было мацней.

– А што мацней?

– Бог падарыў мне жыццё.

– Ну, так, але Бог усім дае жыццё.

– У тым і справа, што мне Ён даў асабіста.

«Вось табе, бабулька, і дажылі да Юр'я», – падумаў я, углядаючыся ў яго лагоднае аблічча: няўжо шызоід?

– І як гэта здарылася, Зураб, што Гасподзь вылучыў вас сярод людзей? – спытаў я ўжо без энтузіязму, гледзячы на малады кедр, што рос на другім канцы двара.

– Тое, што вы цяпер думаеце, – гэта памылковае меркаванне, – кажа Зураб-Геранім з усмешкай.

– А што я думаю?

– Вы думаеце, што я вар'ят. Але я не вар'ят. Я адразу ўбачыў, што вы не той чалавек, якому могуць усяго нагаварыць, і ён паверыць. І гэта добра, бо ўсё, што я мог бы вам расказаць, – праўда.

– Вы адчуваеце патрэбу расказаць мне сваю праўду?

Геранім задумаўся, памаўчаў і потым кажа:

– Калі па шчырасці – адчуваю не тое, што патрэбу, хутчэй абавязак. Але я вельмі рэдка пра тое кажу. І ведаеце, рэдка каму можна й казаць. Тут ёсць над чым падумаць.

– Я ведаў чалавека, які быў прэсвітэрам у баптыстаў, – адказваю я Гераніму. – Ён горача верыў і ўсё хацеў убачыць Бога, начамі маліўся без перастанку, прасіў Бога паказацца. А Бог усё не паказваўся. Дык ён перастаў верыць.

Геранім усміхнуўся.

– Ну, дзівакоў хапае. Вера не можа хадзіць у цемры. Інакш неадукаваныя прымітывы патопяць усялякую веру.

– Выбачайце, Геранім, за мае сумненні, якія вы заўважылі, – кажу я. – Бачу і разумею, што з вамі нешта адбылося. Але лічу сябе чалавекам навукі і маю звычку сумнявацца ва ўсім, пакуль у нечым пераканаюся. Такая вось метадалогія майго думання. Бога нельга ўбачыць.

– Я яго не бачыў і не кажу пра гэта. Але я паспытаў цуд Божы, – неяк асабліва спакойна сказаў Геранім. – Як вы апынуліся ў гэтым месцы? Тут рэдка хто з'яўляецца з далёкіх людзей? – перавёў ён гаворку на іншую тэму. – Вы на машыне?

– Я прыйшоў пешкам, – адказаў я.

Геранім зноў задумаўся, а потым:

– Ці варта было ісці пешкам?

– Я заўсёды стараюся пешкам. З-за машыннага ветравога шкла шмат не ўбачыш...

Калі мне было пяць гадоў, – пачаў я ўспамінаць сваё, – на мяне напаў вялізны сабака і пачаў кусаць. Людзі абаранілі. Потым нешта падобнае паўтарылася. Быў нервовы шок, і лекары асцерагаліся, ці буду я жыць. Аднойчы, калі я з маці ехаў у цягніку, да мяне падышоў хлопчык, такі, як я. Ён адвёў мяне ў купэ, дзе быў яго бацька. Чалавек паглядзеў на мяне і сказаў маёй маці, што вылечыць яе сына. Ён даў вады, якой маці мяне паіла так, як ён казаў. Я выздаравеў. Гэты чалавек папярэдзіў, што праз дзесяць гадоў хвароба паўторыцца, захварэю на сэрца, і я альбо выжыву, альбо памру – усё будзе залежыць ад маці, ад таго якія будуць умовы і догляд.

Усё сталася, як сказаў чалавек. Я выжыў. Памятаю пра гэта ўвесь час, бо разумею, што менавіта Пан Бог з Ласкі сваёй даў мне магчымасць жыць на гэтым свеце.

А Геранім:

– Гэта цікава, і, я думаю, што тое было не проста так. Мне прыходзілася задумвацца над тым жа, бо зразумела, што калі Бог нешта асабліва (ці нават выключна) дае, то для нечага. Для чаго? Чалавек павінен зразумець. Нельга змарнаваць дар Божы... Дык вось пра тое, што здарылася са мной. Гэта адбылося 23 красавіка 1966 года. Мне было 28 гадоў, я толькі што скончыў мастацкую акадэмію і ляцеў па справах з Баку ў Махачкалу. Той дзень стаіць у мяне ў вачах рэзка і ярка, памятаю дэталі, якія фіксаваліся самі сабой. Памятаю нумар рэйса, якім я ляцеў, і нават бартавы нумар самалёта ИЛ-14 на фюзеляжы – 61772.

Салон быў поўны (недзе каля 30 пасажыраў). Я сядзеў з правага борту (там адзін рад крэслаў) каля вакна якраз перад крылом. Мне было добра бачна правае крыло і матор, нават часам дым з выдзьмухоўцаў, хоць гэтага ўвогуле на чыстым авіябензіне не павінна было відаць.

Раніца выдалася дажджлівая, было халодна і дзьмуў вецер, але мы шчасліва ўзляцелі і неўзабаве апынуліся над воблакамі, дзе ярка свяціла сонца. Настрой ў мяне быў таксама сонечны такі, што хацелася спяваць. У гэты час самалёт пачало моцна трэсці. Ён пачаў разварочвацца і зноў зніжацца. Мне здалося, што нешта тут не тое. Пасажыры з супрацьлеглага боку ўсе павярнуліся да вокнаў, некаторыя пачалі спалохана крычаць. Я зірнуў у вакно насупраць і ўсё зразумеў: лапаткі прапелера былі нерухомыя. Гэта значыць, што мы ляцелі на адным маторы. Бортправадніца, мілая жанчынка, пачала ўсіх супакойваць і казаць, што на адным маторы самалёт можа доўга ляцець і мы зараз вяртаемся ў аэрапорт. Мы ляцелі так у воблаках ужо нейкі час, праляцелі над зямлёй, потым апынуліся зноў над морам. Мне здалося, што самалёт зноў стаў набіраць вышыню і пачаў рабіць разварот

У гэты час я заўважыў, што дым з выдзьмухоўцаў пайшоў густы, чорны і нават з іскрамі. У той жа момант самалёт на павароце лёг на левы бок, з матора паваліў чорны, як сажа, дым, і ён загарэўся. У салоне пачуўся лямант. Нейкая руская кабета крычала: “Немцы, немцы!” Пачалася паніка. Я не мог адарваць вачэй ад палаючага матора, разумеў, што ў любы момант можа стацца нешта страшнае. Самалёт моцна лёг на

левы борт, крыло з вогненным маторам паднялося ўверх, і якраз у гэты час я ўбачыў, як па краях крыла пабег сіні агеньчык і тут жа ўсё крыло ахапіла сіняе полымя. Я не паспеў нават нічога падумаць, як адчуў рэзкі штуршок, гром і трэск. Уражанне, што выбухнула ўсё крыло. Кадлуб (мне здалося) разламаўся проста перад маімі вачыма. Мяне ўдарыла аб борт так моцна, што я страціў прытомнасць, але імгненна ачуўся.

Кроў залівае вочы, але я бачу, што адзін у паветры, а нада мной шэрае неба і свішча вецер. Я зразумеў, што падаю ў мора, і жыць мне засталося, можа, некалькі секунд. Усё маё жыццё, як маланка, жыгнула ў свядомасці. Гэта было імгненне, але я ўсё ўбачыў, год за годам, дзень за днём. Я падаў тварам уверх, і шэрыя воблакі нада мной аддаляліся. Няма слоў, каб сказаць, як мне хацелася жыць. І ў гэты момант я крыкнуў з усёй сілы ў хмарнае неба: “Госпадзі, уратуй мяне, я ж веру, што ты ёсць!” У мяне хлынулі слёзы, я глядзеў у неба і чакаў, што Гасподзь пачуе мяне.

Мне здалося, што сціх вецер і свіст ў вушах, стала цёпла, і ў гэты час я акунуўся ў мора, нават не ўдарыўся, і адразу паплыў. Нідзе не было відаць берага, уздымаліся халодныя хвалі, але побач плавала вялікая драўляная бэлька. Я падплыў і ўхапіўся за яе, трымаючыся на паверхні.

Ну адкуль тая бэлька ў моры? Вядома, у моры яшчэ не тое плавае. Але ж я зразумеў. Я ўсё зразумеў. Мне стала неяк спакойна, як бы ніякага стрэсу, як быццам так і трэба. Сваімі словамі я стаў маліцца і дзякаваць Богу.

Можа, з паўгадзіны, можа, гадзіну я трымаўся на вадзе, учапіўшыся за бэльку. Я замярзаў, бо вада яшчэ была халодная, мяне курчыла і трэсла. Але ўсё роўна верылася, што і тут не загіну, і толькі шаптаў малітвы, успамінаючы словы з дзяцінства.

Неўзабаве я пачуў шум матора. Удалечыні плыў кацер. Мяне заўважылі і ўжо ледзь жывога выцягнулі на борт і адвезлі на бераг у шпіталь.

І вось тут пачалося тое, што і павінна было пачацца. Мяне пачалі дапытваць у КГБ, устанаўліваць, хто я такі, пытаць, навошта я ўзарваў самалёт і дзе падзеў парашут, на якім спусціўся. Мой расповяд успрынялі за дурную хлусню, разлічаную на цёмных прасцячкоў. Урэшце мяне пачалі біць і заціскаць пальцы ў дзверы.

Потым павезлі на псіхіятрычную экспертызу. Мне ўжо хацелася, хай бы лепш мяне прызналі вар’ятам і пакінулі ў спакоі. Але ў псіхушцы сказалі, што я здаровы, і гэбісты зноў пачалі мяне біць.

Я ўжо ведаў, што ад самалёта не знайшлі нават шчэпкі і ніводнага пасажыра, акрамя мяне. Катастрофу, як звычайна тады, відаць, засакрэцілі. Такое правіла, хоць, як я ведаю, савецкія самалёты падаюць увесь час. Гэбісты не маглі растлумачыць, якім чынам я застаўся жывы. А паколькі я расказаў ім такое, чаго не можа быць, і пры гэтым медэкспертыза пацвердзіла, што я здаровы, то яны западозрылі мяне ў дыверсіі. Дапытваліся, як пранёс на борт парашут, дзе ўзяў яго, у якім месцы ўтапіў у моры, якім чынам і навошта ўзарваў самалёт, ці маю родзічаў у Ізраілі і г. д.

Матэрыялаў для суда не было ніякіх, але і выпускаць мяне не хацелі. Паспрабавалі ізноў катаваць і збіваць, паламалі рэбры (гэта калі нагамі ў ботах таўклі). Але я цярпеў, крычаў і цярпеў, бо думаў, што не дасць мне Бог загінуць. Ды й не мог я здрадзіць Яму, нават калі б мяне яны рэзалі на кавалкі.

Дзесьці праз месяц катаванні спыніліся, і гэбісты супакоіліся, былі нейкія

заклапочаныя. Мяне пратрымалі ў турме КГБ пяць месяцаў без суда. Зноў вазілі ў псіхушку, афармлялі нейкія паперы (як я зразумеў, дакументальна рабілі з мяне вар'ята). Потым выпусцілі, сказаўшы: "Мы еще к тебе вернемся. А о самолете советуем не распространяться, в твоих же интересах. Понял?" "Понял", – кажу. "Тогда подписывай бумаги". Гэта былі паперы "о неразглашении" таямніцы следства і факту катастрофы самалёта. Я падпісаў. Потым я даведаўся праз знаёмых, што той самалёт вадалазы, быццам бы, знайшлі на дне мора. І тады якраз гэбісты перасталі мяне катаваць.

Яшчэ седзячы ў турме КГБ, я шмат думаў пра Боскі цуд, які здарыўся са мной. Чаму Бог мяне ўратаваў і дазволіў жыць? Дзеля чаго? І я падумаў, што дзеля таго, каб сведчыць людзям, што Бог ёсць. Паперы КГБ не мелі тут для мяне ніякага значэння. Хаця, па-праўдзе, яны значэнне ўсё ж мелі. Мяне нідзе не бралі на працу. Але ж я мастак. Вольная прафесія. Цяжка, але зарабіць мог.

І ведаеце, калі я пачаў расказваць, пра тое, што са мной адбылося, мне амаль ніхто не верыў і пачалі сапраўды лічыць мяне вар'ятам (а тут яшчэ і «мнение» з КГБ). Вось тады я і задумаўся моцна аб тым, як данесці праўду, каб мне паверылі і не лічылі ненармальным.

Я разумеў, што жыць, як раней, ужо нельга. Мне проста хацелася служыць Богу, успрыняўшы Ягоны дар. І я вырашыў стаць салдатам, рыцарам Бога, Ягоным слугой у гэтым свеце. Я зрабіў такі зарок і змяніў сваё імя. Я змяніў прафесію і пайшоў у рэстаўрацыю. Рэстаўрую храмы, фрэскі і жывапіс. Гэтым я дапамагаю Боскай прысутнасці ў нашых душах, на нашай Зямлі. І канешне ж, я расказваю пра Боскі цуд, які здарыўся са мной, усім тым, хто здольны слухаць і чуць.

– Вы маглі пайсці ў манастыр, – сказаў я.

– І што б я там рабіў, у тым гета?

– Маліўся б?

– За збаўленне сваёй душы? Але ці дзеля гэтага Гасподзь дазволіў мне жыць, зрабіўшы цуд?

– А што кажа бацюшка-настаяцель? – спытаў я.

– Нічога не кажа. Я яму не расказваў. Бацюшка – кадравы сексот КГБ. Гэта не для яго розуму.

– Геранім, вы жанаты?

Геранім паглядзеў на мяне і засмяяўся:

– Я крыху ведаю беларусаў. Дык вы тыповы беларус. Ну да чаго ж асцярожны народ! Ведаеце, пасля радасці жыцця самае каштоўнае, што даў мне Гасподзь Бог, дык гэта добрую жонку. Мы жывем небагата, але ў нас чацвёра дзяцей – усе хлопцы і ўсе здаровыя.

– Та-а-к, – кажу, – нам трэба выпіць цудоўнага грузінскага віна, Геранім, за тое, што так добра і радасна жыць на свеце. Я зараз збегаю ў Лыхны...

– Не трэба нікуды бегчы, дарагі. Віно ёсць, сапраўднае, грузінскае.

Мы зайшлі ў рэстаўрацыйную бытоўку каля рыштаванняў і паднялі келіхі за знаёмства "двух добрых людзей". Потым пілі за шчасце, за яго жонку і дзяцей, за Грузію і за Беларусь.

– І ўсё ж такі, што вы думаеце (Геранім увесь час гаварыў на рускі манер, ужываючы "вы"), што вы думаеце пра цуд над Каспійскім морам?

– Я думаю, што ён здзейснены дзеля падтрымання веры. Бязбожнікам расказваць няма сэнсу. А вось для людзей веруючых гэта падтрымка.

– Я таксама гэтак зразумеў, – кажа Геранім, – хаця напачатку расказваў усім.

Мы абмяняліся адрасамі (Геранім жыў у Тбілісі), нават сфатаграфаваліся на развітанні, папрасіўшы матушку-пападдзю нас “пстрыкнуць” маім фотаапаратам. Матушка “пстрыкнула” моўчкі, падціснуўшы вусны. Потым, калі я ўжо адыходзіў і развітваўся з ёй, на ўсялякі выпадак кажу: “Спасибо за гостеприимство, матушка. У вас работает в церкви такой чудесный человек”, – і гляджу на яе. Пападдзя хмыкнула:

– Да уж, чудесный пациент. Некоторым лапши навешает, а они и довольны. – Завярнулася і пайшла, варочаючы акруглымі формамі.

Выходзячы з Лыхнаў, кажу сабе: “Ну, расёмон, поўны расёмон”, – успамінаючы назоў і сюжэт японскага фільма. Аж бачу, ідзе мужчына прыблізна маіх гадоў. Вырашыў і яго зачапіць размовай пра Гераніма (раз ужо такі “расёмон”). Пытаю, дзе тут можна купіць віна?

– Вына? Слухай, дарагі, ты адкуль спусціўся? Якога вына? Ты што, не ведаеш? Гарбачоў адмяніў вына. З сённяшняга дня няма больш на Каўказе вына.

– Гарбачоў дурань, – кажу я, – але адзін разумны чалавек мне сказаў, што няма праблем у Лыхнах купіць віна.

– Ха! Гэта хто?

– Геранім з царквы.

– Які Геранім? А, гэты, пamешаны. Ну, гэтаму сам Бог налье, цэлае Каспійскае мора.

Увесь час, як тупаў да Гудауты, я думаў пра Гераніма. Урэшце рэшт нічога неадэкватнага я ў ім не заўважыў, усе мае пачатковыя сумненні на гэты конт развеяліся, і сэрцам я адчуваў праўду ягонага цуду, паверыў яму. Але розум... пракляты розум супраціўляўся. Ён, гэты розум, хоча проста засумнявацца. Але сумнявацца тут бессэнсоўна.

Вечарам у прыцемку я сядзеў на лавачцы перад клумбай з цвітучымі ружамі і назіраў, як лётаюць светлячкі, мігцяць, нібы самалёты перад пасадкай.

*21 студзеня 2013 г.*



Яраслава Ананка, Генрых Кіршбаум



...клякоча, кліча

птушыная мова...

# Бязмоўны знайдыш Еўропы

***З цыклу вершаў «Беларускі Бідэрмайер»***

### *МУТАБОР*

Паўжыцця мешкае паблізу людзей,
ахоўвае ад бед,
сурокаў, хвароб,
есць гадаў ды брудных жаб,
прыносіць душу ва ўлонне кабет.

У прадчуванні крумкачовай зімы
адлятае ў вырай –
над пралівамі, гнутымі перасмыкамі
Азіі, над затокамі горкіх азёр,
над пустэчамі і пяскамі,
адчувае сэрцам
птушыным
шляхаводны пульс –

жоўтую жылу Ніла,
туды, адкуль чалавек калісьці
следам за лепшым лёсам –
разблукаўся па ваколіцах айкумены.

Клякоча, кліча
птушыная мова,
будзе падаць
пёрысты снег
на крохкую Ікараву шыю.
Захрасне смех
у чырвонай дзюбе,
і халіф назаўжды забудзе
вядзьмарскае слова.

## *КАСПАР ХАЎЗЭР*

*Беларусь – бязмоўны знайдыш Еўропы*

На Сёмуху ў 1828 годзе
у горадзе механічных музычных прылад,
гадзіннікаў і змярцвелых лялек
на рынкавай плошчы знайшлі падлетка.

Незнаёмец хістаўся,
бы шыбенік,
сіратлівая марыянетка
на друзлых апухлых нагах.

Яго пальцы тырчалі з ботаў,
падбітых іржавымі цвікамі,
падкаваных, бы конскія капыты.

Пад ім,
гранатавымі зярнятамі,
зубамі, выдзертымі з крывёю,
калываліся камяні бруку.

У руцэ ён трымаў ліст:
«Гэта Каспар Хаўзэр.
Калі стане дарослым, аддайце яго
ў шосты кавалерыйскі полк».

Дзікаватага дзівака
навучылі хадзіць,
размаўляць, разважаць,
маляваць садавіну,
яго дапытвалі і разглядалі

як кенгуру ці гіену,
пужалі стрэламі,
рогатам і агнём,
вымяралі дыяметр галавы,
лічылі зубы, мацалі спіну,
быццам ён быў
пародзістым зверам:
сабакам альбо канём.

Хто быў гэты жывы
выкідыш людства,
бязмоўны знайдыш Еўропы?
Носьбіт іхніх карыслівых мар,
выкрадзены з калыскі,
кроўны спадчыннік трона
альбо спрытны клоўн,
таленавіты махляр?

Заступнікі і разявакі
з замілаваннем любаваліся
яго першабытнай дабрынёй,
абралі пад*а*нне,
ў якое ён паверыў сам,
пра маленькага прынца
ў цьмяным падвале,
ў сырасці і самоце,
калі яго адзінай цацкай
быў паламаны драўляны конь.

Ён адмаўляўся ад малака і мяса,
еў толькі хлеб,
піў толькі ваду,
пакутаваў на правалы памяці,
прыпадкі скрухі,
марыў стаць вершнікам,
і халодны зацішны склеп
здаваўся яму мілейшым
за навязаную свабоду.

Яму прышчэпвалі свецкія манеры,
прывівалі асновы веры;
не здольны быў зразумець,
як яго любілі і прыніжалі.

Ахвяра грамадскага жалю,
ён меў прытуплены парог болю,
на адлегласці адчуваў жалеза,
нават у сябе за спінай.

У 1833 годзе,
напярэдадні золкіх Каляд,
чалавек у чорнай масцы
выцяў яго пад грудзі
доўгім нажом.

Тры дні крывавіла смяротная рана.
За акном сутаргава хістаўся сад.

### НАВАГРАДАК

Горад жыве на могілках.
На каталіцкіх –
вучні цалуюцца ўпершыню,
п’юць і паляць
па-за сценамі
сціплых склепаў.

Над трунамі караімаў
волкая крапіва,
кляшчы і мухі,
сум і сорам,
сорам і сон
занядбанай скрухі.

На мемарыяле воінскай славы
жухнуць дзяржаўныя кветкі,
каўнерыкі на фотаздымках салдатаў,
іржавеюць вянкі і зоркі.

Квёлыя козы ходзяць
па скроні горкі.
У кожным кургане
гніюць косткі пагоні.

На чарговых памінках
сядзяць хмурныя людзі
ў беспамерных строях з чужога пляча,
у гальштуках з чужой шыі.

Пад шклом, у краязнаўчым музеі,
дагэтуль выразная
нямецкая фарба беларускай лацінкі.

Сонца заходзіць і горбіць схіл.
Хлопцы без памяці
ганяюць на ровarах
паўз зняважаныя скрыжалі
габрэйскіх магіл.



Павел Ляхновіч



...люблю

слухаць вясну...

# З нататніка “серыйнага забойцы”

***Зацемкі***

## Сезон пачаўся

Інтэрнэт познюю вясну абяцае. Сапраўды, мінулымі гадамі на разлівах насупраць Пінска апошнім тыднем лютага сотні гусей сядзелі, а сёлета ў сакавіку яшчэ мароз і снег. І разлівы напалову пад лёдам. Вада чорная, крыгі белыя. Ніколі вясна не прыходзіць гэткая ж, як летась.

Паляўнічыя – не ўсе, толькі “гусятнікі” – хвалююцца, набоі з буйным шротам робяць, пуцёўкі набываюць. Не церпіцца. Хутчэй бы сезон дазволілі.

Марознай ранічкай, зацемна яшчэ, да абалоні Стыры пад’ехалі. Замаскаваліся за дамбай на краі поля. За сцянной трыснягу, на разліве – гусіны гоман. Дзве крыжанкі крыламі празвінелі. “Кр-р-р-р-у-у!” – Журавы. Магутна і прыгожа, як арган. Яшчэ чаплі пару разоў крыкнулі. Па полі заяц пратрусіў, у хмызы ля канавы палез. На днёўку.

Гусі на світанку павінны карміцца ляцець. А замест гусей снег паваліў. І як закруціла! Гэта цыклон "Хаўер" да Беларусі дапяў.

З разліваў, манеўруючы між крыгаў, двое на надзіманцы прыплылі. Гусіны гоман – гэта яны электронны вабік уключалі. Няма гусей.

Але ж і "Хаўер"! Узімку такога не было.

Мы ўсё роўна шчаслівыя – сезон пачаўся.

## Белыя ледаколы

Уначы мароз закаваў ваду на лугах. Рэчышча Прыпяці чыстае, а разлівы пад лёдам. Падняўся на світанку, пайшоў да хутара Рафаловічы, ён ў двух кіламетрах ад Пінска, на беразе, паміж Прыпяццю і шашой. Учора насупраць Рафаловічаў двух шыпуноў бачыў.

На месцы мае знаёмцы! Цяжкія птушкі, мажныя. Залазяць на лёд і ламаюць. Такім чынам маленькую палонку захавалі. На рэчышчы не пакормішся, глыбока, а тут перакульваюцца, галовы пад ваду, нешта ж там есці знаходзяць, ледаколы!

## Першыя гусі

Сонечна. Раніцою было мінус трынаццаць, а ў поўдзень з дахаў пацякло. Паехалі на разведку.

За трыста метраў ад дарогі, уздоўж канавы на белым снезе – здаецца, зусім чорныя – гусі. Я лічыў, лічыў, далічыў да васьмідзесяці і кінуў. Вочы ад белага і ад сонца заплакалі.

Генадзь, не адрываючыся ад бінокля, шэпча сцішаным голасам:

– Гусі! Гусі!

І не заўважае, што шэпча.

## Беларусь – маленькая?

Сакавік ужо праз палову пераваліў, у Пінску ручаі звіняць, Піна і Прыпяць ад лёду ачысціліся. Шпакі, кнігаўкі, чаплі прыляцелі. І тут давялося на пару гадзінаў у Полацак з'ездзіць. На Дзвіне – лёд, і на лёдзе рыбакі над лункамі схіліліся. І вясной зусім не пахне. Хто сказаў, што Беларусь – маленькая?

## Адрэналін

Сядзім у снежным акопе, апранутыя ў белае. Вясна такая, што па-зімоваму даводзіцца апранацца. Перад намі на белым полі – гусіныя профілі з фанеры. Сам выразаў, сам размалёўваў. Невядома, як іх сапраўдныя гусі ўспрымаюць, а паляўнічыя пару разоў да маіх "дурылак" паўзлі. От я тады павесяліўся!

Ужо чатыры гадзіны сядзім, а гусі не лятуць. Мне сумна, і я забаўляюся – дзьму ў дудачкі-вабікі, выдзімаю гусіныя галасы. "Гак-гак-гак!" – гэта шэрая гусь. Вабік драўляны, мне яго сябра падараваў. "Кг-г-і-і, га-га-га" – гуменнік, вабік у краме набыў. Доўга выбіраў, ажно крамнік ужо нервавацца пачаў. Неблагі, здаецца, выбраў. А вось гэты, з латуннай гільзы, на белалобага – сам змайстраваў. Ён мне больш за астатнія падабаецца – "Вуль-вуль! Вуль-вуль! Вуль-вуль-вуль!"

“Гак-гак-гак!” – гэта не я, гэта гусак. Напарнік у акопе прысеў, шыпіць на мяне. Кручу галавою, і вось: самотнік панізу сцелецца. Лапы-“шасі” выпусціў, садзіцца будзе. Выцэльваю, страляю – гусь кідаецца ўбок, назад! – зноў выцэльваю, страляю – паляцеў! Эх, мазіла!

– Чаму ты не страляў? – пытаюся ў Генадзя.

– Дык ты ж узмаліўся: “Генік! Генік! Я – першы! Я – першы!” Ды так жаласна!

А я не памятаю...

## На разліве

Падняліся рана-рана. Ехалі праз туман. Яго, здаецца, можна мацаць – такі густы. Алесь, кіроўца, галаву ў вакно высоўваў, быццам так яму лепей відно. У Фядорах егера забралі, а ён нам з Алесем падсадных качак даў. У маленькіх кошыках з дзверкамі.

За Фядорамі кіламетры са два дамбай ехалі, потым пехатой ішлі. Світае, і туман яшчэ гусцейшы здаецца. На чорнага бусла наткнуліся. Узмахнуў крыламі і растаў, як прывід.

Бярэзнік міналі, пад кожнай бярозай пластыкавыя бутэлькі. Калгас бярозавік нарыхтоўвае. Большасць бутэлек ужо поўныя, і сок на зямлю цячэ. Напіліся. Нічога асаблівага, вада і вада. Можа, саладкаватая крыху. Вось каб мёду дадаць ды вытрымаць колькі дзён... Боскі напой атрымліваецца.

Разліў, і навокал кусты. Шалаш ля вады. Я застаўся, Алесь з егерам далей пайшлі.

Качку з кошыка на ваду высадзіў. У падсадной ужо шнур за нагу прывязаны, за “нагаўку” – скураную пятлю. Другі канец шнура я за палку прывязаў і палку ў дно разліва ўткнуў.

Сяджу ў шалашы на раскладным зэдліку, слухаю. “Та-а-к! Та-а-к! Та-а-к! Та-а-к!” – безупынна крычыць падсадная сіплаватым голасам. Гэта “квачка”. Качарам сігналіць – “Тут я! Тут я!” “Фі-фі-фі-фі...Сві-й-у-у! Сві-й-у-у!” – свіязі праляцелі. На маю падсадную не зрэагавалі. І добра. Апошнія гады вясною толькі на крыжня дазволена паляваць, астатнія качкі пад забаронай.

“Луп-п-луп-п-луп-п-шух-шух-шух-шух-х...” – лебядзь недзе недалёка па вадзе разганяецца і ўзлятае.

“Ляп-ляп-ляп-ляп-ляп-ляп-ляп!...” – бусел дзюбай трашчыць. Чамусьці ў кніжках гэты сухі пошчак “клёкатам” часта называюць. Ніякі не клёкат, стук дробны.

“І-і-г-гі-і! І-і-г-гі-і” – жаласна. Гэта кнігаўка.

Падсадная крычаць перастала, натапырылася, галавою круціць. “Плюх-плюх-плюх... – крокі па вадзе. – Плюх... Плюх... Плюх...” Каго гэта носіць? Хто паляваць перашкаджае?

Ого! Бачу ў прасветах паміж галінкамі шалаша – лось з-за хмызоў выйшаў. Вада яму ледзьве да сярэдзіны галёнкі дастае. Пройдзе пару крокаў, спыніцца. Вушамі стрыжэ, слухае, прынюхваецца. Ай, як шкада, што фотаапарат сёння забыўся ўзяць! Ужо зусім светла. І туман знік. За ласём неба на даляглядзе залацістае, вось-вось сонца ўстане. Хвацкія маглі б здымкі быць!

За спінаю недзе недалёка цецярук забалбатаў.

Гусі загаманілі. Высока ідуць. Вялізны клін, штук мо пяцьдзясят-

семдзесят. Апошнія. Валавы пралёт тыдні два таму адбыўся, усё неба ў гусях было.

“Та-а-к! Та-а-к!” – крычыць мая качка. “Бу-бу-бу-бу...” – глуха балбоча цецярук. “Цок! Цок!” – металічна азываецца ў трыснягу чаротніца. “Та-а-та-та-та-та!” – раптам мяняе мелодыю падсадная. – “Та-а-та-та-та-та!”. Гэта “асад”, недзе качара паблізу заўважыла...

“Ж-ж-ж! Ж-ж-ж! Ж-ж-ж!” – ціхае “жваканне”. Крыжань! Праз шчыліны ў шалашовай сцяне шукаю яго на фоне блакіту. Кружыць наводдаль. “Та-а-та-та-та-та!” – надрываецца падсадная. “Ж-ж-ж! Ж-ж-ж! Ж-ж-ж!” – адказвае качар. Хутка да яго далучаецца другі. Што ж вы не ляціце да распаленай жарсцю падсадной? Яна ажно крыламі па вадзе б’е! Што круціцеся на адлегласці?

“Тах!” – гучыць далекавата стрэл. Потым яшчэ – “Тах!” – і кавалеры знікаюць. Другі стрэл – значыць, дабівалі падранка. Алесь, ці егер ужо з трафеем. Мне зайздрасна. Ну што за качары? Чаму не кідаюцца навыперадкі да маёй падсадной?

У тым баку, куды пайшлі Алесь з егерам, зрэдку гучаць стрэлы. Час палявання няўмольна падыходзіць да канца.

Усё. Выбіраюся з шалаша, падцягваю за шнур падсадную. Яна крычыць і спалохана б’ецца. Заціхае толькі ў кошыку.

За сотню метраў ад майго шалаша чалавек рэжа лазу. А каб ты здаровы быў!

## Качары не пацярпелі

Світае. Тут, у абалоне Піны ўлетку калгасныя палеткі, а цяпер усё заліта вадою. Хоць Піну і заціснулі з абодвух берагоў дамбамі, вясеннія высокія воды амаль штогод знаходзяць сабе шчыліну.

Сяджу ля ўрэзу вады, абкружыўшыся камуфляжнай сеткай, развешанай на палках-крывулях. Мая схованка недарэчна выдзяляецца на голым беразе разліву, але я спадзяюся, што качкі усё ж прымуць яе за куст ракіты.

На вадзе плаваюць дзясятак качыных муляжоў. Прамысловай вытворчасці пластыкавыя “крыжанкі”(вельмі падобныя да сапраўдных), гумовыя “чыркі” (зусім не падобныя, хоць таксама фабрычныя), і “ныркі” з пенапласту. Пенапластавыя я сам змайстраваў зімовымі вечарамі. Пару вёснаў ужо, як на ўсіх качак, апрача крыжняў, паляваць забаранілі, але я па-ранейшаму выстаўляю на ваду ўвесь свой “пташнік” – не зашкодзіць.

За спінаю, на ўсходзе высозная труба пінскай ТЭЦ. Неба за трубою чырвонае. Зараз сонца выкаціцца. Каб не сляпіла, сеў тварам на захад. Перада мною цэлае возера. З вады тарчаць роўныя лініі хмызоў. Яны растуць уздоўж меліярацыйных канаваў. Канавы цалкам пад вадою, і толькі хмызы іх выдаюць.

Бліжэй да Піны, там дзе нябачная зараз старыца – сцяна трыснягу. За трыснягом крычаць металічнымі галасамі і ляпаюць крыламі па вадзе лысухі.

Радасна мне! Люблю слухаць вясну. За Пінай у хвойніку вяхір бурчыць страшным голасам. У небе чароды свіязяў свішчуць. З трэскам чыркі-траскункі носяцца за самкай. Штук, можа, дзесяць за адной. Кнігаўкі канькаюць. Груган спявае. Ягоны спеў крыштальна-пяшчотны, як звон вясенняга ручая пад лёдам, як удар струменьчыка віна па сценцы крышта-

лёвага келіха. І адначасова пілатажныя фігуры – на спіну перакульваецца, і так ляціць некалькі секундаў – дагары нагамі.

Жабы на розныя галасы крумкочуць. Ёсць такія, што як пеўчыя птушкі ціўкаюць.

Зямлёю пахне.

Сонца ўзышло. У аддаленні – яркія белыя плямы. Бяру бінокль – лебядзі-шыпуны. Чатыры пары.

Буслы па беразе ходзяць. Відаць, пералёт з выраю цяжкі быў – брудныя, пашкамутаныя. Нічога, хутка пераліняюць, у свежае апрануцца.

Крачкі на маю схованку наляцелі. Увагі не звярнулі, значыць, працуе мая сетка-схованка, іначай бы ўбок шугануліся.

Два ўдоды у трох метрах селі. Корпаюцца ў леташняй траве, хахлы-веeры распускаюць-складаюць. Першы раз іх так блізка бачу. Незвычайныя, быццам не беларускія птахі, а аднекуль з тропікаў.

Звер па разліве ў мой бок плыве. Андатра? Бабёр? Хутка плыве, ажно хваля-“вусы” па вадзе. Выходзіць. Выдра! Удодаў як ветрам здзьмула. Ходзіць па беразе, прынюхваецца. У ваду вярнулася, нырнула.

Перыферыйным зрокам улаўліваю нешта рухомае ўгары. Гусь, шэрая! Эх, праспаў, варона! Проста над скрадком праляцела. Відаць мясцовая, бо пралёт ужо тыдні са два, як скончыўся. Яны за Прыпяццю насупраць Хойна некалькі гадоў запар гняздзяцца. Як там заказнік утварылі, людзі рэдка сталі наведвацца, так і загняздзіліся. Можа, і добра, што праспаў? Хай пладзяцца.

Нешта не лятуць да маіх падманкаў качары... Дзьму ў вабік, імітую “квачку” крыжанкі. Дзьму, раблю перапынкі, дзьму. Пераваліўшы кусты, побач падае на ваду чырок і пачынае трашчаць. Дурны, няўжо не чуеш – тут крыжняў клічуць! Патрашчаў пару хвілінаў і паляцеў.

З шумам праносяцца два качары, рэзкі паварот на крыло са зніжэннем, плюхаюцца пасярод майго пластыкава-пенапластава-гумовага статку. Трывожна круцяць галовамі і працягла свішчуць. Чырвонагаловыя чарняці. А і прыгожыя ж! Галава і шыя цаглянага колеру, тулава светла-шэрае. Але ж дазвол толькі на крыжня...

Хутка разабраліся, што да чаго – і на крыло.

Сяджу, дзьму... Ажно галава забалела. Цікава, чаму пакуль сезон на качараў не пачнецца, пакуль толькі на гусей дазволена, крыжні цэлымі табунамі амаль на галаву садзяцца, а як сезон – дык яны нібыта ведаюць? З таго ж дня знікаюць.

Метры за тры, разам з рэзкім гукам, уздымаючы фантаны, хвошчуць па вадзе стрэлы. Ускокваю. Злева-ззаду, з-за дамбы, вырастае згорбленая постаць у камуфляжы. З дубальтоўкай. Я нешта спалохана і злосна крычу, а “камуфляжнік” – відаць ад сораму – кідаецца прэч і, як крэйсер гонячы хвалю, шпарка шыбуе па разліве. Трапляе ў нябачную пад вадою яму, правальваецца па грудзі, але не спыняецца.

Збіраю муляжы. У пластыкавай “крыжанцы”, як у дзіцячай бразготцы, грыміць шрот.

## Зачараваны скарб

Пакінуў зяця ў шалашы прывабліваць качараў, хай прывучаецца паляваць самастойна. З плёначным “Фотаснайперам” швэндаюся – можа, што цікавае на вочы трапіць.

Уначы было прахалодна, раса выпала. На павуцінні вадзяныя шарыкі ланцужком. Сонца ўстала, і расінкі на павуковых сетках загарэліся. І гэта ўжо не павучынне, а нібыта дыямантавае кальe. Наводжу фокус – з размытым заднім планам “кальe” яшчэ прыгажэйшае. Пстрыкаю затворам, мяняю вытрымкі, дыяфрагмы, пстрыкаю... Сквапнічаю. У мяне залатая ліхаманка, я ў пячоры Аладзіна. Пакуль хапае плёнкі – пстрыкаю!

...Калі плёнку праяўляў, пераблытаў фіксаж з праяўнікам. Эх!..

## Ласіная сталоўка

Толькі-толькі снег сышоў. Мы з Аляксеем у вандроўку выбраліся па вясеннім лесе. Ад Вялікай Вулькі да Ізіна. Прабіраліся ляснымі дарогамі, сцежкамі, абыходзілі нізкія месцы з вадою. Фатаграфавалі пралескі, мурашоў, вавёрку, дзікоў. На павалены асіннік натрапілі. Летась ураган прайшоўся. Астатнія дрэвы вытрымалі, а асіннік лёг. Лес яшчэ празрысты, мы яго здалёк заўважылі па белых ствалах, спачатку думалі – бярозы. А гэта за зіму ласі ўсю кару з паваленых асінаў аб’елі. Начыста! Тут іхняя сталовая была. Уся зямля капытамі збіта і ласінымі “арэшкамі” ўсыпана.

## Уратаваў

Мы ехалі па дамбе сярод палескіх палеткаў-“картаў”, і Віктар, самы зоркі з нас (газету чытае, паклаўшы на падлогу, а росту мае метр дзевяноста два), закрычаў, што бачыць на полі чараду гусей.

Гусіны пралёт скончыўся тыдні два таму, і мы не паверылі. А Віцька лаяўся і абзываў нас сляпымі кратамі. Прыйшлося спыніць машыну і дастаць біноклі. Сапраўды – метраў за семсот на тарфяным полі, дзе летась кукуруза расла, штук пяцьдзясят гусей. Большая частка корміцца, некаторыя спяць, заклаўшы галовы пад крыло, а чатыры па краях статку, на водшыбе, шыі выцягнулі ўгору. Варта. Але ж і зайздросны зрок у Віці! На чорным полі амаль чорных гусей заўважыць! Каб не белыя падхвосцi, дык і ў бінокль не надта разгледзіш, а ён іх без оптыкі...

Поле раўнюткае, без аніводнага кусточка, па перыметры меліярацыйныя канавы. Вады ў канавах сантыметраў сорак ніжэй берагу. Мне захацелася падабрацца і гусака здабыць. Чым мацней адгаворвалі, тым больш карцела.

Прыкінуў: гусі ад бліжэйшай канавы метраў за семдзесят. Калі канавай падпаўзці, дык буйным шротам можна дастаць. Напхаў у магазін маёй “эмцэшкі” набояў з чатырма нулямі, халявы ботаў адкасаў і папоўз. Злева вада ў канаве, а я сарака сантыметрамі берага прыкрываюся.

Зямля вільготная, на першых дзесяці метрах ужо мокры і перапэцканы ў торф. Патранташ на поясе перашкаджае. Падумаў – у стрэльбе пяць набояў, навошта патранташ? – і скінуў. Як гуся здабуду, забяру.

Сярэдзіна красавіка, сонца ўжо прыпякае. Метраў праз сто скінуў хустку-бандану. Дарэмна, бо без яе пот стаў вочы залiваць. Але не вяртацца ж.

Яшчэ сотню метраў прапоўз. Далоні ў торфе, стрэльба ў торфе, пра вопратку казаў ужо. Не забіць бы торфам рулю. Выглянуў – гусей ужо без бінокля бачна. Пакінуў бінокль.

Да чаго ж цяжкі занятак – падпаўзаць! Дыханне збілася, пот градам. Спыніўся, адпачыў крыху. Назад глянуў – здаецца, паўдарогі ўжо прапоўз. Сябры мае з машыны павылазілі, ў біноклі за мной сочаць. Куртку

скінуў – у мяне пад ёю кашуля колеру хакі. Можа, крыху прахалодней стане.

Як жа павольна я рухаюся! Па канаве пайсці? А што – зайду ў канаву, сагнуся, каб з-за берага не вытыркацца – так хутчэй павінна быць! І, можа, лягчэй?

Спаўзаю ў ваду і адразу чэрпаю ботамі – глыбіня ля самага берага амаль па пояс. А-а! Хай! Сагнуўшыся, брыду. Спачатку камянее, а потым пачынае балець паясніца. Чым далей, тым больш невыносна. Уяўляю сябе разведчыкам і снайперам адначасова. Я падкрадваюся за "языком". Або мяняю пазіцыю, снайперскую "лёжку".

На суседняй "карце" некалькі сотняў крачак. Пакуль поўз, сядзелі параўнальна ціха, поркаліся ў раллі, а як пайшоў па вадзе – гвалт паднялі. Гусі ўстрывожыліся, пазадзіралі галовы. Няўжо злятуць? Зусім няшмат засталося падбірацца. Выпаўз зноў на бераг, паляжаў нерухома. Крачкі супакоіліся крыху. Гусі зноў пасвіцца пачалі. Толькі зараз "вартаўнікоў" не чатыры, а бадай палова статку – стаяць з выцягнутымі шыямі. Папоўз.

Ну вось. Бліжэй ужо не будзе. Правяраю, ці не забіта руля зямлёю, прыўзнімаю галаву над грудамі торфу, прасоўваю стрэльбу, здымаю з засцерагальніка.

Проста перад руляй быццам пушчаны з рагаткі зрываецца і, загразаючы ў вільготным тарфяніку, мільгае белымі "штанамі" шарак. Праз лужыны, у пырсках прэ на гусей. "Га-га-га!! Ж-ж-жу-х-х!" – і праз імгненне яны недасяжныя.

Па беразе канавы мой след – быццам бервяно правалаклі. Збіраю раскіданыя рэчы. Ля машыны спаборнічаюць у дасціпнасці мае сябры. Вось за што я іх люблю, дык гэта за спагаду!

### Упала-прапала

Прыехаў на Стыр. Тут увесну імчала паводка, запоўніла ўсю абалонь, а я ў гумовым камбезе, па пояс у вадзе дабіраўся да выспачкі. Хацеў там зрабіць шалаш-схованку, паляваць з яго на гусей і качараў. І згубіў нож, падарунак сяброў. Прычапіў нож да шлейкі камбеза, а яна развязалася. Пахла лазой, нераставалі шчупакі, за бліжнімі хмызамі гаманіў качыны базар – я і не заўважыў, як ён булькнуў.

Зараз тут пахне аерам і балотнай мятай, чмялі гундзяць. І трава вырасла – вышэй, чым тады вада была – па грудзі. Дзе ты што знойдзеш!

### Чорны з падпалам

З Алесем, заводчыкам вельштэр'ераў, мы ішлі палявой дарогай да засідкі, збіраліся паляваць на дзікоў, а дарогу шпарка перабягаў вялізны калматы вусень. Зверху яго футра было чорнае, а ніжэй – рыжавата-карычневае. Наш цень упаў на вусеня, і ён замёр. "Глянь. – Сказаў Алесь. – У яго масць, як у вельша. Чорны чапрак з падпалам".

### Дабраслаўленне

Шаснаццатага ліпеня мы ішлі на вельбоце "Сакавік 25" з Пінска ўніз па Прыпяці, падыходзілі на вусця Стыры, а ў небе недзе над Гальцамі павольна

і паважна круціўся тарнада з буслоў. Іх было – тысячы! Раскінуўшы крылы, карагодам усплывалі яны ў блакіце, пакуль не ператвараліся ў ледзьве бачныя крэсачкі. І адтуль, з вышыні, слізгалі, як з гары, у накірунку поўдня.

Уладзімер Арлоў, той самы, з тварам ляснога разбойніка, закінуўшы галаву, цікаваў за імі, і твар яго мякчэў, і на ім праступіла душа дзіцяці. Калі ўсе буслы нарэшце заслізнулі за далягляд, сказаў з уздыхам:

– А крылы ў іх не белыя... Чорнага больш. Але назва “Зямля пад чорнымі крыламі” была б як вырак. А ён дабраслаўляў...

Наша вандроўка была прысвечана памяці Караткевіча.

## Лясны голас

Мы палявалі на дзікоў, і паспрачаліся з Генадзем за месца – “нумар”. Нават не, ніякай спрэчкі не было. Проста – я адчуў жаданне спрачацца.

Бабіна лета, цёпла, пад нагамі лістота грыміць, нібыта жалезны дах. Ідзем адзін за адным, я крыху ўперадзе Генадзя. Наляцеў караценькі ветрык, варухнуў дрэвы, і недзе злева ўгары скрыпнула чалавечым голасам. Тоненькім такім чалавечым голасам. Так бывае – выраслі дрэвы, шчыльна прыцісьнуўшыся адно да другога, і ў вецер пачынаюць церціся, і тады разносіцца скрыпенне...

...Уверсе скрыпнула, і зусім яскрава пачуліся словы: “Стань тут!” І я спыніўся, паслухаўся ляснога голасу, і пачаў разграбаць лістоту пад нагамі, ачышчаць ад іх пляцоўку, каб у час загонкі не шумнуць, пераступаючы з нагі на нагу. Тут мяне нагнаў Генадзь і, зрабіўшы ўмольны твар, папрасіў: “Пусці мяне тут стаяць... Я здалёк гэтае месца загадаў... Га? Ну пусці...” І так глядзеў на мяне, так благальна, што я адразу здаўся. Так што ніякай спрэчкі не было, гэта я дарэмна ў пачатку пра спрэчку... Хоць унутрана я быў гатовы. Але стрымаўся і пайшоў далей, і стаў на наступным, метраў праз сто.

Хто бываў на загонных паляваннях, ведае, як гэта “адрэналініста” – стаяць на стралковым нумары, слухаць, глядзець, чакаць выхаду звера і спадзявацца, што выйдзе ён абавязкова на цябе.

Далёка-далёка, ледзьве чутны, гучыць сігнал паляўнічага горна, і адразу за ім пачынаюцца крыкі загоншчыкаў. Стрэльба ў руках, слых, зрок напружаныя, гук падаючага лістка здаецца громам нябесным.

Крыкі ўсё бліжай, і тут чуеш: “Чу-чу-хх! Чу-чу-хх!” – нешта вялікае рухаецца па сухой лістоце.

І гэта такое задавальненне – пачуць рух звера, потым пабачыць ягоны цёмна-шэры, амаль чорны бок і выставіць насустрач рулю стрэльбы!..

...Я спыніўся метраў праз сто ад Генадзя, памахаў яму, дачакаўся махання ў адказ – упэўніўся, што ён ведае, дзе я стаю...

Весела крычалі загоншчыкі, весела курлыкнулі ў небе позвнія жураўы, ім адазваўся гоманам гусіны клін. Краем вока ўбачыў я, як заварушыўся Генадзь, падняў стрэльбу і доўга стаяў так – прыклаўшыся, у драпежнай, напятай паставе. Востры, як страла.

А я быў зусім побач і зайздросціў. І ўсё яшчэ спадзяваўся.

## Вясна-лета

...Зацемна яшчэ прыехалі. Пакінулі аўто за хмызамі, нагрузіліся рознымі патрэбнымі рэчамі – фанернымі профілямі, пластыкавымі муляжамі, мешкавінай, стрэльбамі, набоямі, складнымі зэдлікамі. Ідзем на азімае поле. Ранняя вясна, гусі з выраю вяртаюцца. Зараз расставім нашыя

профілі і муляжы, схаваемся за мешкавінныя шторы і будзем у дудкі-вабікі дзьмуць, гусей клікаць.

Збоку поля канава, а за канавай дзік стаіць. Цёмна яшчэ, але падпусціў метраў на дзесяць, а сам на фоне снежнай плямы – снег яшчэ не ўвесь сышоў – як на карціне. Вялізны! Мы спыніліся, і ён не вытрымаў. Вухнуў і стартануў, ажно пырскі з-пад капытоў. І знік у ранішнім змроку.

А гусі тым разам да нас не падляцелі. Не паверылі ні фанеры, ні пластыку, ні дудкам-вабікам...

***

Другая палова лета. Сяджу ля кукурузнай плантацыі на краі зжатага ўжо жытнёвага поля, чакаю выхаду дзікоў з лесу. Кожны вечар прыходзяць карміцца ў кукурузу.

Сонца за дрэвы закочваецца. Камары шалець пачынаюць.

На мне класная маскіроўка – "кікімара" з мачалы. Сядзеш ў жухлую траву ці іржышча – з трох крокаў ніхто не заўважыць!

Над Прыпяццю ў небе цёмная палоска. Перамяшчаецца, і праз хвіліну ператвараецца ў рухавы ланцужок. Чарада шэрых гусей, штук восемдзесят. Яны ўжо гадоў пяць, як у заказніку Прастыр загняздзіліся. Тут, у ланцугу, і старыя, і маладыя. Таксама карміцца лятуць.

Увесь абшар запаўняецца басістай і гартаннай гусінай гутаркай. Я забываюся пра дзікоў – ніштто так не хвалюе маё сэрца, як гэты гусіны гоман.

Гусі робяць пару кругоў над "маім" іржышчам, потым ланцуг ламаецца, клубіцца, і падае проста перада мной, метрах за трыццаць. Я баюся варухнуцца, баюся дыхаць, баюся адганяць камароў – толькі б не сагнаць птахаў! Толькі б наглядзецца!

..."Так-гак!" – і з грамавым шумам усе ў паветры.

А дзікі тым разам не выйшлі. І "кікімара" не дапамагла...

## Сойчына памяць

Напярэдадні раптоўна пацяплела і два дні запар ішоў дождж. Ён змыў увесь снег, агаліў зямлю. А пасля дажджоў падмарозіла.

Мы з Рэем прайшліся ўздож Прыпяці, абшукваючы прыбярэжныя "джунглі".

Праз некалькі гадзінаў бясплённых спробаў падняць зайца я стаміўся і прысеў на пянёк адпачыць. Сядзеў, паклаўшы стрэльбу на калені, і слухаў, як непадалёку з моцным шоргатам па мерзлай лістоце лазіць Рэй, і думаў, што хутчэй за ўсё зайцы палохаюцца ўласнага шоргату пад нагамі і таму не ляглі на днёўку ў зарасніках.

З крыкам прыляцела сойка і села побач са мной на сук. Нахіляючы галаву то так, то гэтак, з недаверам узіралася, але я не варушыўся, і сойка, відаць, вырашыла, што перад ёю бяспечны пень. Зляцела на зямлю, зноў пакрычала і пачала адрываць ад замерзлай лясной падсцілкі лісткі і адкідваць убок. А потым выцягнула з-пад лістоты жолуд, узляцела на дрэва і стала яго раздзёўбваць. Жолуд ляжаў на невялікай палянцы і побач не было дубоў. Значыць, сойка скарысталася ўласнай схованкай.

Калі хочуць падкрэсліць слабую памяць, кажуць – "курыная". Не ведаю, як там у курэй, а сойчына мяне ўразіла.

Віка Трэнас



...ведай, зменіцца ўсё,
што хуткаплынна...

# Пошук залатой сярэдзіны

* * *

Мы хапаем ратамі паветра, быццам рыбы, на бераг выкінутыя.
Толькі справа ўся ў тым, што не морам, а самі сабой мы адрынутыя.

Толькі гора ўсё ў тым, што сумневаў, быццам камення — горы.
Мы заплюшчваем вочы і прадаем свой гонар.

І адзінае, чаго мы не здамо без бою,
Чаго вораг не возьме цаной любою —
Нашай любові.

* * *

Асядзе на дне душы ўсё неператжытае і перажытае,
Каб некалі абудзіцца — бо памяць не скрасці,
Падкіне яна табе тыя сюжэты і віражы тыя,
Ў якіх не прапаў ты, хоць мусіў прапасці.

Не скрасці любові, і сумлення не выгандляваць,
Статысячным тыражом не стварыць прыгажосці.
Статыстыка, у якой няма каго вінаваціць,
Калі застаешся кім ёсць.

Дакладна адно — каму ў вочы ні зазірнеш,
Пабачыш асадак на дне.

## ***ПАЭМА ЗАЛАТОЙ СЯРЭДЗІНЫ***

Гэта проста прыемна — трымаць цябе за руку
і ведаць, што свет не стане ні лепшым, ні горшым
за той хаос, праз які мы будуем свой лёс, як мост праз раку,
і за які ніхто, акром нас, не стане зварочваць горы.

Мне кажуць: ты не знаеш жыцця,
для цябе яно — роўнай сцяжынкай,
гарадская дзяўчынка, адкуль табе ведаць сапраўднае гора.
Я кажу: калі вы абіраеце ролю хлопчыкаў для біцця,
чаго здзіўляцца, што вам не ўласцівыя гонар і годнасць.

Таму я не жыву для тых, чые вочы не бачаць і вушы не чуюць,
чые словы нямыя, а сэрцы не чуйныя.
Я жыву для шляхоў прамых, і, маючы зрок і слых,
маю спадзеў, што ў пасткі патрапім не мы,
а тыя, кім гэтае ліха было ўчыненае.

Я не буду разводзіць кастры і запальваць агні.
Сэрца быццам у боскіх далонях.
Каб сагрэцца, хапае адно тваёй цеплыні.
І любоў па жылах цячэ, і пульсуе ў скронях.

***

Калі ты не расчараваўся і выжыў,
хаця беглі па тваім следзе выжлы;
калі, гледзячы ў вочы ваўчысе,
дараваць навучыўся;
ведай, зменіцца ўсё, што хуткаплынна,
і не паварочвайся спінай.

Ні да людзей, ні да звяроў,
ні да чужых, ні да сяброў.

***

сэрца гаворыць: выберы шлях любові,
бо ліхам працягнецца злосць.

сэрца адрозніць, хоць абернешся ты любою,
якая насамрэч ты ёсць.
рупіцца сэрца, каб сышоў з дарогі ў нікуды
той, хто спасціг не адзін пацалунак Іуды,
той, хто адчуе нарэшце сэрца сваё.

* * *

У Кракаве мірна, у Кракаве дыхаецца вальней,
і можна хадзіць, расправіўшы плечы.
А тут баішся ступіць, бо міны,
бо крок управа ці ўлева, як на вайне,
караецца, і гэта ў парадку рэчаў.

Адзінае, чаго не стае чужыне — стаць радзімай,
і дзіўныя тыя, хто кажуць мне: “Гэта магчыма”.
Адзінае, што з крыві маёй не вытравіць, —
словы родныя, словы, як шэпт травы,
як запаўненне пустэчы,
калі два сэрцы радуюцца сустрэчы.

* * *

Спакой, і доўгая дарога, ад сноў ключы —
І мы за пазухай у Бога, і не ўцячы
Ад лёсаў сумных, нашых сэрцаў чуйных,
Якім адно —
Трымацца разам, біцца ў змроку побач, ісці на дно.
Каб дараваць, рабіць за спробай спробу,
Каб выплываць.

* * *

Калі не можаш зразумець — тады адчуй.
І ўсё як ёсць табе прадстане ўваччу.
Душой пачуй, калі не досыць важкіх слоў,
Якіх накідана было, бы камянёў.

І час прыйшоў цяжкі — сабраць бы іх!
Тады б вярнуліся да нас і зрок, і слых.

* * *

Тым, хто знае цану жыццю, роўна як і смерці,
Не трэба тлумачыць, чаму не могуць быць дзеці,
Бы марыянеткі, і не апраўдаеш нагодай любою
Да іх недахоп любові.

Усе мы пад небам адным, і пад Богам таксама:
Спярша пра малых, а пасля пра сябе падумае мама.

* * *

мы ідзем шляхамі няпростымі
толькі лепш спатканне на ростанях
за маўчанне ў дарозе наўпроставай
лепей лёс пакруч*а*сты

быць не мусяць адзіна вернымі
рашэнні нашы, а ж*ы*цці — канвеернымі
адно ў рызыцы варта зверыцца нам
з пульсацыяй часу

бо прайшоўшы аднойчы праз боязь і боль
едзеш хоць куды — Бог заўжды з табой
як рука ў руцэ, а ў вачах — любоў
сэрца б'ецца так часта

* * *

Праз Амстэрдам, праз Гётэборг і праз Парыж
У лабірынтах шляхоў спазнаеш ты свой жах.
З гэтага моманту меней гаворыш, ды болей маўчыш,
Бо стала ясна: з радзімай цяпер на нажах
Ты, і чыя тут віна, што згубіла ключы,
Ведаючы,
Што дадому дарога — нямая.
Дзверы замкнёныя. Марна, крычы не крычы.
Грукаць сэнсу не мае.

* * *

Мы не хочам паверыць у нашыя сны,
і тады прыходзіць бяссонне;
Мы закладнікі шуму, і нам не стае цішыні.
Мы заўжды не адны, дома мы пачуваемся,
быццам на зоне.
Мы сярод безыменных, і за намі цікуюць яны.
Толькі ў момант, калі мы заплюшчваем вочы,
Ноч становіцца днём, дзень змяняецца ноччу,
І тады сустракаемся тут, за ўскрайкам зямлі.



Уладзімір Сіўчыкаў



...калі хочаш ведаць імёны
ворагаў Беларушчыны,
дык прайдзіся хаця б
па цэнтральных сталічных вуліцах...

# З “Уладзевых гісторый”

## Начны дырэктар

Жэня М. паспяхова скончыў Інстытут замежных моў. Прычым скончыў не педагагічнае, а вельмі прэстыжнае, элітнае перакладчыцкае аддзяленне са спецыялізацыяй “Англійская і французская мовы”.

Праз гэта атрымаў выпускнік размеркаванне ў Міністэрства энергетыкі Савецкага Саюза і чакаў адтуль выкліку. З Масквы яго паабяцалі накіраваць у доўгатэрміновую і выгодную замежную камандзіроўку.

Прычэкваць факса ці тэлеграмы было нялёгка, але і прыйсці яны маглі ў любы момант. Таму Жэню нельга было ўладкавацца ў Мінску на сур’ёзную пасаду: паводле заканадаўства там маглі б затрымаць, не аддаць працоўную кніжку, покуль не знойдуць яму замену, і прымусіць адбываць два месяцы. А тым часам і вакансія ў Маскве напэўна прапала б.

З тае прычыны і пайшоў Жэня, каб мець хоць які заробак, працаваць вартаўніком на вытворчае аб’яднанне “Інтэграл”.

Аднае раніцы прыехала да электроншчыкаў дэлегацыя замежных калегаў ажно з-за акіяну, з амерыканскай Сіліконавай (Крэмніевай) даліны.

Сустрэлі яе мінчукі на найвышэйшым узроўні: быў і генеральны дырэктар, і галоўны інжынер, і вядучы канструктар...

Але атрымалася нечаканая загваздка – на няпэўны час пазніўся перакладчык з ангельскай мовы. Званілі яму, шукалі, як маглі, але ўсё марна. Госці нецярпліва пазіралі на гадзіннікі, і, відавочна, наспяваў скандал.

Раптам на галоўнага інжынера як святы дух сышоў:

– А давайце паклічам за перакладчыка новенькага "начнога дырэктара"!

– Каго-каго?! – не зразумеў генеральны дырэктар.

– Ды нашага маладога вартаўніка! Ён, напэўна ж, выручыць!

Дзякаваць Богу, Жэня яшчэ не здаў сваю змену, не паспеў з'ехаць дадому, а таму госці-каліфарнійцы і гаспадары-«інтэгралаўцы» аб'яднання ўрэшце рушылі па бюро і цэхах.

"Начны дырэктар" дзве гадзіны бездакорна адпрацаваў сінхронным перакладчыкам з ангельскай і на ангельскую, за што кіраўніцтва было яму бязмерна ўдзячнае.

Затое каліфарнійцы бязмежна дзівіліся:

– Што за дзіўная краіна?! Электроншчыкі найвышэйшага звяна двух слоў звязаць не могуць, а вартаўнік у іх валодае дзвюма замежнымі мовамі!

*7 сакавіка 2008 года*

## Тамада

На святкаванні Уладзевай круглай даты, якую зазвычай не прынята лічыць за юбілей, за маршалка на лысагорскім лецішчы быў знаны празаік Генрых Д. і, трэба прызнаць, са сваімі пачэснымі абавязкамі спраўляўся бліскуча. Перш чым даць мажлівасць ахвотніку прамовіць тост ці прывітальнае слова, ён напаўжартам, але тактоўна і артыстычна прадстаўляў яго.

Імяніннік, дый госці, таксама былі спрытныя на язык, а праз тое ўсе бакі пападрывалі.

Найчасцей абыгрываліся, вар'іраваліся дзве тэмы на мяжы фола.

Першая. Шаноўнае спадарства Д. прыпазнілася на свята, бо задоўга і імпэтна "раўняла спіны" пасля таго, як пасадзіла на дадатковым участку на былым калгасным полі гарох і бабы.

Другая. Раней у Генрыха хрэн быў добры, але потым звёўся і ўсе жанчыны сталі хадзіць па хрэн на так званы хутар, на ўскраек садовага таварыства, да Жоры, мужа Валянціны Коўтун.

*3 траўня 2008 года*

## Фізіянамістка

Некалькі гадоў працаваў Уладзя за мастака-афармляльніка ў сталічным Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў.

Аднаго вечара прыйшлі да яго сябры-калегі, памкнуліся былі падняцца на другі паверх у творча-вытворчую майстэрню, але лесвічны пралёт заступіла суворая і мажная вахцёрка Дзіяна Неміроўская.

– Не трэба мяне падманваць – аніякія вы не мастакі! – безапеляцыйна заявіла яна Адаму Г., Ігару Ц. і Пятру В.

– Ну, добра, – прымірэнча сказаў апошні. – Я, і праўда, не мастак, а ўсяго толькі мастацтвазнаўца і крытык. А хто тады, па-вашаму, мастак?!

– Вось ён! – вахцёрка ўпэўнена паказала на Максіма К., які меў доўгія, да плячэй, валасы і джон-ленанаўскія акуляры-“веласіпед”, а насамрэч быў дыпламаваным інжынерам-дарогабудаўнікам. – Ён адзіны падобны да сапраўднага мастака! Вось яго і прапушчу!

*13 красавіка 2011 года*

## Дэмарш

Пагодлівым жнівеньскім надвячоркам прагульваўся Уладзя па лысагорскіх пісьменніцкіх лецішчах па суседняй вуліцы і мімаволі пачуў фінал сямейнай сцэны на падвышаных танах.

Жонка ўшчувала мужа, без пяці хвілінаў класіка, за пэўную правіну.

У мужа, чалавека пенсійнага ўзросту, чуліся ў голасе роспачныя ноткі. Мабыць, стаміўся ён апраўдвацца і ўрэшце выклаў апошні, ледзь не падлеткавы аргумент, кшталту: “Вось вазьму і пайду ў лепшы свет, а тады пагляджу, як вы ўсе па мне паплачаце!”

– Вось загавею душою, а ты лёгка гэта перажывеш!

– Я твой адыход, можа, неяк і ператрываю, а вось беларуская літаратура такую страту не перажыве! – на поўным сур’ёзе (!) прагучала яму ў адказ.

Сталася відавочна, што кабета зрабіла геніяльны дыпламатычны рэверанс, і бакі ўжо гатовыя замірыцца дзеля жыцця і росквіту айчыннага краснага пісьменства.

*На Яблычны Спас, 19 жніўня. 2011 год*

## Палітычная тапанімія

Даўні Уладзеў знаёмец, мастак-графік і публіцыст Рыгор С., кажа:

– Ёсць пэўная адметнасць беларускай тапанімікі. Калі хочаш ведаць імёны ворагаў Беларушчыны, дык прайдзіся хаця б па цэнтральных сталічных вуліцах, удумайся ў іхнія найменні!

І праўда, многія асобы, імёны якіх можна прачытаць на шыльдах, не прымалі права беларусаў на нацыянальнае самавызначэнне і дзяржаўную самастойнасць, непасрэдна спрычыніліся да фізічнага знішчэння найвыдатнейшых сыноў і дачок Беларусі!

Адзін з бальшавіцкіх лідараў, нібыта латыш па паходжанні Вільгельм Кнорын (а папраўдзе Кнорыньш!), выпраўляў рэгулярныя часткі Чырвонай арміі задушыць Слуцкі збройны чын наступнымі словамі: “Гэта нашая, расійская тэрыторыя. І я паўтараю: тэрор! І татальнае знішчэнне нацыянальнай заразы, інакш запалымнее ўвесь Паўночна-Заходні край, за які Расія змагалася стагоддзямі і нікому саступаць не намерваецца. І мы, бальшавікі, лічым, што беларусы не з’яўляюцца нацыяй, і што тыя этнаграфічныя асаблівасці, якія адрозніваюць іх ад астатніх рускіх, трэба выкараніць. Мы, інтэрнацыяналісты, павінны будзем не толькі адабраць у іх гісторыю, але і назаўсёды пазбавіць іх гістарычнай памяці. Гэта магчыма ажыццявіць толькі пры поўнай ліквідацыі іхняй інтэлігенцыі, якая цалкам заслужыла гэтага ўжо сваім з’яўленнем...”

– Дык чым гэты цемрашал і крывасмок лепшы за крывавага генералісімуса Суворава альбо за Мураўёва-вешальніка?! – пагаджаецца з Рыгорам Уладзя. – Але і сёння, на вялікі жаль, нястомна шчыруюць іхнія паслядоўнікі – імперскія ідэолагі дый і вычварэнцы-янычары! І сёння найінтэлегентнейшыя асобы, такія, як паэтка Галіна Булыка, інтэлігенты ў трэцім і нават чацвертым пакаленнях, мусяць жыць на вуліцы імя крываж эрнай бальшавіцкай пачвары!

*8 верасня 2011 года*

## "Эўрыка!"

Зусім непадалёк ад Плісы, а дакладней, пры вадасховішчы на ёй, насупраць гарадскога пляжа, на былой балаціне збудаваў Ігар А. трохпавярховы катэдж з сівых валуноў і з чырвонае цэглы.

Пад таполямі, што раслі амаль на самым беразе, паставіў ён лаву, каб і самому пасядзець надвячоркам, пагаманіць з рыбалоўцамі, дый каб добрым людзям адпачыць можна было.

І такую трывалую лаву зладзіў, што ні зламаць яе, ні знесці.

Ды вось бяда – панадзіліся прыладжвацца там выпівохі, якія цягнуліся з бліжэйшае манапалькі. Хацелася ім бавіць час каля ракі з камфортам ды з гожым краявідам, але выходзіла, што і насупраць Ігаравых вокнаў.

Думаў ён, думаў, як даць рады, ды й знайшоў арыгінальнае рашэнне. Прычым знайшоў яго, не раўнуючы як той Архімед, – калі плёскаўся ў басейне пры лазні, якую ўбудаваў у свой катэдж на першым ды на цокальным паверхах.

Проста на самой лаве буйнымі літарамі белай фарбаю Ігар напісаў: "Для алкашей".

Пасля не раз пасмейваўся ён, калі бачыў такую сцэну.

Падыходзіла да ягонай лавы кампанія з сабойкаю, намервалася была атабарыцца, але, прачытаўшы лапідарны надпіс, чухала патыліцы.

"Не, мы не алкашы!" – мабыць, думалі й казалі сабе дзядзькі і адыходзілі ўбок, прыладжваліся на траве бліжэй да прыбярэжнага аеру.

*4 кастрычніка 2011 года*

## Гатычны ўспамін

Жодзінцы-творцы – тыя, хто нарадзіўся, жыве ці жыў, працуе ці працаваў у горадзе па-над Плісою, правялі некалькі сваіх калектыўных выставаў па ўсёй краіне. Выдалі яны і аднайменны літаратурна-мастацкі альбом "Жодзінцы. Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова".

Уладзя прынёс яго прэзентаваць дырэктарцы гімназіі-каледжа мастацтваў, бо некаторыя з жодзінцаў самі былі навучэнцамі, а некаторыя тагачаснымі выкладчыкамі ці бацькамі выхаванцаў унікальнай навучальнай установы. Яе неафіцыйную назву "Парнат" многія ўспрымалі і ўспрымаюць як абрэвіятуру, утвораную са слова "Парнас", прыстанак багоў і муз і слова "інтэрнат".

Людміла Ш., якая мела пашанотную мянушку Шахіня, з піетэтам узяла ў рукі альбом, на вокладцы якога было рэпрадукавана стромкае настраёвае палатно Аляксандра Ф. "Успамін". Мальберты на ім нагадвалі гатычны храм, тым болей, што да аднаго з іх была прышпіленая і копія з абраза.

Але нездарма дырэктарка вырасла ў кіраўніка “Парната” з выхавацелек. Яна адразу ўгледзела паміж залаціста-бэзавых валераў зеленкавата-вірыдонавыя выявы бутэлек пад мальбертамі і тыцнула ў іх пальцам.

– Дык, мабыць, гэта бутэлькі з-пад пінену ці з-пад піхтавага алею, – праявіў прафесійную салідарнасць Уладзя.

– Ага, толькі вось абрысы іх надта нагадваюць “фаўсты” з манапалькі “Чарадзей”, што проста праз дарогу ад нашага каледжа! І, мабыць, зусім не алей спажылі творцы пасля прагляду! Ці будзеце і надалей даводзіць, нібыта штосьці іншае згадвае аўтар палатна?!

– Я вучыўся адначасна з Аляксандрам у мастацкай вучэльні, разам удзельнічаў у выставах і магу засведчыць, што ён найперш аддае даніну Апалону-Фебу і досыць памяркоўны ў сяброўстве з Бахусам-Вакхам.

– Ну, вы мне не казырайце сваімі рымлянамі ды грэкамі! Тут вам не кабінет мастацтвазнаўства!

– Тады перакажу на “обшчапанятнам языку”. Дзядуля Іван Крылоў мараллю знакамітай байкі “Музыкі” вывеў такія радкі:

А я скажу: по мне уж лучше пей,
Да дело разумей!

– Ну добра, добра, – міласціва рэзюмавала Шахіня. – Перадам ваш альбомчык у бібліятэку.

*8 сакавіка 2012 года*

## Кнігалюбы

Чарга з творцаў стаяла па ганарары ў фае літаратурна-мастацкага холдынга блізу плошчы Перамогі.

З пакоя ад касіркі выслізнуў паэт Віктар Г., схаваў у нагрудную кішэню партманэт і, нібыта апраўдваючыся, буркнуў:

– Прайдуся ў “Кнігарню пісьменніка”, пагляджу навінкі...

– Ага, – з выглядам дасведчанага бібліяфіла паківаў празаік Анатоль К. – Бяры па экалагічнай праблематыцы – пра зуброў ці пра Белавежу і як мага больш важкі том. Ну, хаця б нуль-сем!

– А лепш адразу двухтомнік, каб потым другога разу не бегаць, – падхапіў публіцыст Алесь Г., гучна зарагатаў і са словамі: “Перамога будзе за намі!” – знік за абабітымі бляхаю дзвярыма.

*8 траўня 2012 года*

## Ружовы абсурд

Пасля доўгай рэпарацыі шмат што змянілася ў сталічным Цэнтральным універсальным магазіне.

Прадавачкі аказаліся апранутымі ў ружовыя строі, а некаторыя з іх, асабліва маладзенькія бландзінкі, неверагодна выдавалі на амерыканскіх лялек Барбі.

А вось хлопцаў-гандляроў, як імаверных Кэнаў, пашкадавалі – апранулі не ў блакітнае адзенне, а ў строгія чорныя гарнітуры.

Многія аддзелы перамясцілі ў іншыя, нязвыклыя месцы, і шукаць некаторыя тавары стала куды цяжэй.

Каб не марнаваць час пошуках патрэбнай яму наждачнай паперы, Уладзя падыйшоў быў у даведачнае бюро, а там адправілі яго ў аддзел... электрасвяцільнікаў!

Якая логіка размяшчаць тавары падобным чынам і чаму ў прадуктовы аддзел трэба прабірацца між паліцаў жаночае касметыкі, не змог патлумачыць яму нават віртуоз абсурдысцкае прозы Павал К., якога Уладзя перастрэў у тым самым ЦУМе выпадкова.

Затое паскардзіўся Павел, што днямі касірка прабіла яму ў чэк і піва (якога не было ў ягоным кашы!) ад папярэдняга пакупніка, а ахоўнікі на выхадзе пры металёвай "рамцы", якая запішчэла на чамусьці неразмагнічаны штрых-код, нахабна ўткнулі свае насы, пакорпаліся ў ягонай торбе – дзякаваць Богу, што квіткі захаваў!

*13 чэрвеня 2012 года*

## Felicita*

Адным летнім вечарам выправіўся быў Уладзя са сваім даўнім прыяцелем Сяргеем Сумарам на рыбалку на сажалку пад Баярамі.

Параскручвалі ды пазакідвалі свае плексігласавыя пяцікаленкі як мага далей у спадзяванні, што возьмецца што-небудзь важкае.

Доўгае чаканне міналася марна, затое можна было ў ахвотку фатаграфавацць і любавацца грацыёзнымі лебедзямі. Тыя няспешліва праплывалі ледзь не каля самых паплаўкоў разам са сваімі лебедзянятамі, а потым знікалі ў чаратах і трыснягах ля дальняе выспы.

Затое Коля, Сяргееў сын-першакласнік, на сваю бамбуковую вудудубчык з паплаўком з гусінага пяра спрытна цягаў карасікаў-"пятачкоў" ледзь не з пад самага берага. Выхапіў хлопчык і аднаго ладнага, з далонь, залатога карася.

Калі сонца хавалася за небакрай і наспеў час ісці да машыны, каб вяртацца на лецішча, выцягнуў Коля таго карася з вядзерца і прамовіў сакраментальную фразу:

– Гэта быў самы шчаслівы дзень у маім жыцці!

*30 жніўня 2012 года*

## Семінарысты

У даўні дзень позняе восені чальцы літаратурна-мастацкага семінара ладзілі традыцыйнае, лысагорскае паседжанне з шашлыкамі.

Назаляў дробны, але несупынны дождж, і першым ад мангала нібыта на хвілінку адышоўся Мірык. Праз чвэрць гадзіны, нібыта зацепліць у печы, падаўся брат Адам, а неўзабаве ў нетрах жытла знік і Сцяпан.

Зірнуць, куды ж яны падзеліся, пайшоў Максім, і праз хвіліну абурана крычаў гаспадару "фазэнды":

– Уяўляеш, мы тут мокнем, а гэтыя абібокі прынялі па кілішку ў якасці аперэтыву, дый заваліліся ўпокат на печ-ляжанку!

– Падымай іх як хочаш! Няхай хаця б на стол накрыюць, хітраванцы!

---

* Шчасце (*італ.*)

* * *

– Ну, і як прайшло ваша выязное паседжанне? – пыталася наступнага дня Уладзева жонка. – Амаль не сумняваюся, што і чытанні, і бухгалтарская справаздача, і шашлыкі ўдаліся.

– Усё было ніштавата, акрым надвор'я. Хлопцы пайшлі на апошнюю электрычку на Мінск, а я заночыў, бо палілася ў печы.

– Ну дык не змерз? – удавана клапатліва дапытвалася жонка. – Мабыць, пакланіліся шкляному богу? Прызнавайся, колькі спажылі на пяцёх?

– Пятнаццаць бутэлек малдаўскага каньяку...

– Ды вы што, звар'яцелі?! Гэткага не можа быць! Вы б там не падняліся!

– Ну, кажу табе – пятнаццаць.

– Ды не дам веры! Мабыць, падсмейваешся, як заўсёды.

– Ды калі я табе маніў?! Хочаш, у заклад пойдзем?

– Я ўжо й не ведаю, калі ты жартуеш, а калі кажаш усур'ёз. Але давай, і праўда, паспрачаемся. Толькі як ты давядзеш, што агаралі столькі?

– Ды ты сама іх зможаш пералічыць, як паедзем закрываць дачны сезон. Я толькі збольшага прыбраўся ў доме...

* * *

Праз тыдзень аматарка паспрачацца мусіла прызнаць сваю фармальную паразу, бо насамрэч налічыла на падваконнях пятнаццаць... стограмовых бутэлечак!

*7 лістапада 2012 года*

## Аўтограф

Франкфуркцкая галерэйшчыца Ангела Д. даволі ўдала гандлявала палотнамі беларускіх жывапісцаў, а таму штолета арганізоўвала пленэры ў адным са сваіх катэджаў. Пяць-шэсць мастакоў супольна аплочвалі праезд на мікрааўтобусе да ціхага гарадка на Майне, дзе іх чакала жытло, кухня з плітою, усялякім начыннем, посудам і прыладамі, а таксама заўсёды поўная лядоўня з прадуктамі. А аплатаю за гэтыя выгоды цягам дванаццаці-пятнаццаці дзён служылі свежанапісаныя палотны – па адным з кожнага творцы.

Завіталі аднаго дня мастакі ў галерэю і заспелі фраў Ангелу ледзь не ў слязах.

– Гэта ж як крыўдна! Літаральна ўчора палатно Георгія С. сышло па вельмі добрай цане, а сёння мае сталыя пакупнікі-пенсіянеры, гер і фраў Ка́йталі вярнулі яго! – патлумачыла свой стан галерэйшчыца.

– А што такое? Чаму? – устурбаваліся калегі Георгія, які не змог прыехаць.

– Ды я сама вінаватая. Прыняла твор на рэалізацыю, а не ўгледзела, што мастак не паставіў на ім свой подпіс!

– І гэта адзіная прэтэнзія да палатна? – спытаўся Аляксей М., які негалосна лічыўся ў мастакоўскай суполцы за ачольніка.

– Здаецца, так, бо гер і фраў Кайталі ўпадабалі Георгіеву манеру і летась ўжо набылі невялікае палатно.

– Ну, тады мы дамо рады, – пасля невялічкай паўзы паабяцаў Аляксей. – Скажыце ім, што ў нас ёсць аказія з транспартам. Мікробус едзе ў Мінск, а праз тыдзень прывязе назад падпісаную аўтарам карціну, калі вернецца па ўсіх нас.

Забралі мастакі адрынутае палатно, а літаральна на ганку галерэі накінуліся на старэйшага калегу з роспытамі:

– Ну, што ты прыдумаў? Аўтобус наш даўно паехаў!

– Нічога, мальцы! Усё будзе нармалёва! Хадзем зараз... на пошту!

– Дык гэта ж які клопат – адсылаць палатно па пошце! – турбаваўся Уладзімір С. – Безліч фармальнасцяў, дый зусім не факт, што па часе абернемся!

– А я і не збіраюся адсылаць яго нават экспрэс-дастаўкаю! – аарэшты заінтрыгаваў сяброў Аляксей і пакруціў перад імі тэлефонным нататнікам. – Калі гара не ідзе да Магамеда, дык Магамед прыйдзе да гары!

Вызваніў Аляксей Георгія па тэлефоне, патлумачыў сітуацыю і параіў, калі той хоча атрымаць немалы ганарар, тэрмінова выслаць факсам узор аўтографа.

У прызначаны час у галерэі сабраліся ўсе зацікаўленыя бакі: гаспадыня, прыдзірлівыя аматары жывапісу і мастакі, якія майстравіта ўзнавілі сябраў подпіс.

Гер Конрад Кайталь доўга ўзіраўся ў палатно, нібыта бачыў яго ўпершыню, ледзь не пад мікраскопам вывучаў аўтограф на ім, шаптаўся з жонкаю, а потым цішком выказаў свае сумненні галерэйшчыцы.

– Гер Кайталь кажа, што подпіс на даўнейшым палатне Георгія С. значна меншы па памеры, – пераказала Ангела мастакам.

– Тады перакладзіце яму, што і палатно тое было куды меншае, – да пераможнага канца бараніў сябраў інтэрас Аляксей. – Акрамя таго, у Георгія зімою пад патранажам буйнога банка прайшла персанальная выстава ў найпрэстыжнейшай зале ў Нацыянальным мастацкім музеі. З яе набылі не адзін твор, а таму мастак падвысіў самаацэнку. Адпаведна і падпісвацца стаў больш упэўнена і размашыста!

Пакупнікі выслухалі тлумачэнні, згодна паківалі і папрасілі запакаваць палатно зноў.

А праз паўгадзіны, пасля асушаных флетаў шампанскага, прадбачліва ахалоджанага гаспадыняй, бакі развіталіся, надзвычай задаволеныя адно адным.

*30 сакавіка, у дзень нараджэння Францыска Гойі,*
*Вінцэнта Ван Гога і Алеся MAR'ы. 2013 год*

## Калыска цывілізацыі

Знаны паэт і ўніверсітэцкі прафесар ўзімку паслізнуўся, зламаў нагу і мусіў не адзін месяц прахадзіць у гіпсе.

Праз нейкі час, па вясне, перастрэў ён у Аляксандраўскім скверы каля фантана перакладчыка “Песні пра зубра” Язэпа Семяжона.

Спытаўся той у класіка пра здароўе і пачуў няспешны, паважны, нібыта ў студэнцкай аўдыторыі, адказ:

– Ды вось, доўгі час быў я ў гіпсе...

– У Ягіпце?! – перапытаў глухаваты на той час перакладчык з лаціны. – Дык гэта ж выдатна, гэта ж адна з калысак сусветнай цывілізацыі! І як вашы ўражанні? Я вось на афрыканскім кантыненце аніразу не быў...

*22 красавіка 2013 года*

## Найшчаслівейшы дзень

Брытанскі навуковец Кліф Арнал вылічыў самы непрыдатны жыхарам развітых краінаў Паўночнага паўшар'я дзень для працы. Згодна ягоных формулаў дзень гэты прыпадае на апошні панядзелак студзеня і нават мае неафіцыйнае найменне Сумны панядзелак (Blue Monday). На яго карысць брытанец залічвае такія фактары, як зімняе надвор'е, пазыкі, якія нярэдка набягаюць пасля святкавання Калядаў, і паныласць, якая немінуча прыходзіць па вясёлых і шумлівых навагодніх святах і вакацыях.

А вось пятніца, відавочна, – адзін з самых любімых дзён на тыдні ў тых, хто працуе. На некаторых фірмах супрацоўнікі замест "пятніца" жартам нават кажуць "цяпніца".

Але пятніца, якая прыпадае на 21 чэрвеня – абсалютна адметны дзень. Паводле Кліфа Арнала гэта найшчаслівейшы дзень года: колькасць станоўчых фактараў, якія падымаюць настрой, дасягае тут максімума. Гэта і дзіцячыя ўспаміны пра лета, і прыемныя думкі пра адпачынак, і цяпло за акном, і смакаванне наперад выходных.

Асабіста ва Уладзі чэрвеньскія святы доўжацца болей і пачынаюцца напярэдадні, 20-га чысла, калі ён нясе кветкі маме, маці, матулі – той жанчыне, якая падаравала яму жыццё, узгадавала і выхавала, – і ўшаноўвае яе.

Натуральна, што працягам фэсту ёсць і наступны дзень, бо 21 чэрвеня – гэта і дзень ягонага вяселля, калі кветкі павінны падносіцца той жанчыне, якая падарыла яму двух цудоўных дачок, дый поруч ідзе па жыцці не адно дзесяцігоддзе.

Акрамя таго, як і кожны абазнаны беларус, памятае Уладзя, што надыходзіць сонцаварот – дзень летняга сонцастаяння. А гэта значыць, што блізяцца самы доўгі дзень і самая кароткая ў годзе ноч. Многія суайчыннікі зважаюць іх за пачатак Купалля і выпраўляюцца шукаць Папараць-кветку, кветку шчасця.

*Пятніца, 21 чэрвеня 2013 года*

## Рашэнне дылемы

– Ну што, апарат Ілізарава пастаўлены вам хараша. Усё ідзе хай сабе й павольна, але і някепска, – рэзюмаваў прафесар, загадчык аддзялення траўматалогіі Іван Л., і адклаў убок рэнтгенаўскія здымкі ў двух праекцыях. – А што ацёк галёнкаступнёвы суглоб, дык такое бывае. У эпікрызе гэта было б адзначана як серознае запаленне мяккіх тканак у месцах выхаду спіц. Таму настойліва рэкамендую легчы на тыдзень да нас у стацыянар.

– Але, доктар, можа, мы неяк самі рабіцьмем працэдуры, – паспрабаваў запярэчыць Уладзя, аднак загадчык аддзялення мякка, але настойліва перапыніў яго:

– Ніякіх "але"! Паназіраем за вамі, параімся з калегамі, прафесійна заменім асептычныя павязкі, паколем антыбіётыкі.

– Антыбіётыкі можна пакалоць і дома...

– Рашэнне прымаць вам, ды ўсё ж я раіў бы паслухацца мяне, – сказаў прафесар і паставіў сваю рэзалюцыю з подпісам на клінічным накіраванні. – Ідзіце, афармляйцеся, кладзіцеся!

У фае лякарні Уладзя прыпыніўся нібыта на ростанях, рашаючы дылему, скакаць на мыліцах у знаёмую ўжо палату №13 ці кіравацца да ліфтаў, каб выбірацца пасля кансультацыі дадому.

*– Пойдзеш проста – патрапіш у палату,*
*Направа рушыш – дапнеш дахаты...*

Дагаварыць ён не паспеў, бо гумовая булдавешка мыліцы знянацку заслізгацела па мокрай падлозе ўбок. Уладзя страціў раўнавагу, механічна адкінуў мыліцы, згрупаваўся, як змог, але развярнуўся на паўабароты і грымнуўся на плячук, а потым перакаціўся на спіну.

Неба падалося яму з літоўскі кажух, а як толькі крыху ачуняў ад болю, дык выдаў тыраду, у якой выказаў ледзь не ўсё, што думаў на той момант пра лякарню, яе персанал і дапатопную вільготную ўборку. Потым прыслухаўся да свайго арганізму – нібыта нічога больш не зламаў – і не змог устрымацца, каб не ўпікнуць жонку:

– Вось бачыш, праз тваё сарамяжлівасць, далікатнасць і клопат пра іншых муж бразнуўся на бетонную падлогу! Навошта было аддаваць крэсла-каталку?! Ці то да машыны, ці то да палаты зусім не зашкодзіла б даехаць на ёй! – потым, як пабачыў слёзы на жончыных вачах, дадаў прымірэнча: – Невялікі цымус ляжаць у лякарні, але застаюся, як ты і хацела, прынамсі, на сёння. Хай і табе будзе спакайней!

Падымацца Уладзю дапамагалі трое: жонка, спалатнелая прыбіральшчыца і нават прафесар, што выскачыў са свайго кабінета.

– Вы, Іван Мікалаевіч, як я і казаў раней, сфармавалі высокапрафесійны калектыў. Ваша санітарка з дапамогаю швабры і мокрай анучы пераканаўча давяла, што, і праўда, мушу ў вас затрымацца!

– Ну дык, як казаў ваш цёзка, у нас любая кухарка здольная кіраваць дзяржаваю. А чым наша санітарка горшая? – падтрымаў горкую самаіронію пацыента загадчык аддзялення.

*7 траўня 2013 года*

## Спрытныя на язык

У аддзяленні спалучальнай* траўматалогіі палату №13 цвялілі "звярынаю". Уладзевымі сябрамі па няшчасці былі ў ёй пацыенты з прозвішчамі Барсукоў, Ваўчок, Выдроў ды Собаль.

Калі раніцою зайшла ў яе мініяцюрная медсястрычка, Уладзя павітаў яе – як мог праспяваў пераніцаваныя словы калісь папулярнай праснякоўскай песенькі пра сцюардэсу:

Медсястрычка па імені Жана,
Быць з табою – маё пажаданне.
Мой анёл незямны,
Пра цябе мары-сны,
Медсястрычка па імені Жана!

Але тая, узброеная шпрыцамі, павярнулася да яго спінаю і скіравалася да ложка Ягора Собаля. Спрактыкавана зацягнула ў таго жгут на руцэ

* Спалучальная траўма – пашкоджанні ў розных сістэмах органаў.

вышэй за локаць і папрасіла папрацаваць кулачком – сціскаць і расціскаць пальцы, каб лепей выявіліся вены.

Ягор, відавочна баючыся болю і нервуючыся з-за немінучай аперацыі на плячы, загаворваў да сястрычкі жаласлівым голасам, але ў кампліментарным стылі.

Уладзя і раней пікіраваўся з суседам па палаце, а таму зымітаваў, што хоча паспрыяць медсястрычцы:

– Ягор Язэпавіч, вас папрасілі папрацаваць не язычком, а кулачком!

– Цьфу, пашляк! – фыркнула медсястрычка і выскачыла з палаты з чатырма шпрыцамі "сабалінай" вянознай крыві.

– А што я такога сказаў?!– няўцямна паціснуў плячыма Уладзя.

– Язык ваш – вораг ваш! – пракаментаваў Собаль, заціскаючы ватным тампонам уколатую вену.

– А, можа, яна так ацаніла вашы, Ягор Язэпавіч, кампліменты?

– Ну, самакрытычна пачніце з таго, што сястрычку гэтую завуць не Жана, а Надзея. А як папраўдзе прыйдзе Жана, дык пакажа вам, дзе камар козы пасе! – помсліва напрарочыў сусед. – Я папрашу ўжо ў яе – так уплішчыць антыбіётык у мяккае месца, што да столі падскочыце!

*9 ліпеня 2013 года*

## Тырады

Калі блізка да душы прымаць боль кожнага пацыента, дык і звар'яцець нядоўга. Таму нярэдка ахоўнымі механізмамі служаць дактарам прафесійны цынізм і своеасаблівы гумар.

* * *

– Якая анестэзія?! Што, хіба вам так балюча, што не можаце патрываць? – доктар у перавязачным пакоі дэмантуе апарат Ілізарава – раскручвае звычайным гаечным ключом на 10 паўкольцы, потым кусачкамі абкусвае спіцы, якія і праз косткі наскрозь праціналі галёнку пацыента, і ўрэшце тымі самымі кусачкамі адну за адной выцягвае дзесяць спіц. – Я ведаю, што гэта горш, як вырываюць зубы. Згодзен, што нікому не вырываюць дзясятак зубоў запар, але вы мужчына, пацярпіце!

* * *

– У цябе не спыталіся і выдалілі касу?! Не перажывай, некаторыя людзі нараджаюцца зусім без яе і нічога, жывуць! Касá фактычна толькі дублюе функцыі печані.

* * *

– Не зусім правільна зраслася і крыху тырчыць ключыца?! Ну дык гэта ўвогуле непатрэбная костка! Нам цяпер важна паставіць вас на ногі, а да ключыцы можна вярнуцца і праз год. А шнары? Шнары толькі ўпрыгожваюць мужчыну!

* * *

– Што, у бальніцы ў цябе выявілася цукроўка II тыпу?! Ну дык радуйся – цяпер уведаеш шмат цікавага, напрыклад, што такое гіпаглекімічная кома. Будзеш кантраляваць сваю вагу, дбаць пра дыету, даваць сабе

фізічныя нагрузкі, станеш рэгулярна кантраляваць узровень цукру ў крыві і пажыццёва прымаць, зноў жа, радуйся, бясплатныя лекі! А яшчэ шмат пікантных дробязяў дазнаешся ад спецыяліста-эндакрынолага. Жывуць з такой цукроўкаю і да ста гадоў!

* * *

– За паўгода не зрасліся косткі галёнкі?! Дык гэта бывае! А чаго вы хацелі – у вас і ўзрост не юначы, і пэўныя ўласцівасці арганізму, і яшчэ цэлы букет хваробаў. А ўплыў Чарнобыля? Калі і вядуцца якія даследванні, дык нам іх вынікі не даводзяць...

*10 ліпеня 2013 года*

## ЗЧТ

Вярнуўся Ягор Собаль у палату і ледзь не складваўся напалам.

– Ой, трымайце мяне! Зараз швы на пузе паразыходзяцца!

– Ну, што ўжо зноў такое? – ускінуў на яго вочы Уладзя С.

– Помніце, я расказваў пра сваіх сабак...

– ...пра суку-лабрадора Дзіну і немца-аўчара, якога назвалі Грэкам? Ну-ну, ужо смешна...

– І так яны “здружыліся”, што тры тыдні таму з’явіліся на свет шчанюкі, якіх я вызначыў лабраўчарамі. Параілі мне знаёмыя трэнера-сабакара, які спецыялізуецца якраз на лабрадорах. Ну, пад’ехаў я да яго на пляцоўку распытаць, пракансультавацца, якіх якасцей чакаць у маіх новых гадаванцаў. Трэба ж будзе іх неяк прыладжваць – распрадаваць ці проста раздаваць у добрыя рукі. І, можаце не паверыць, проста пры мне адзін кабель так тузануў шлейф, што сабакар той не толькі паваліўся, але і зламаў нагу!

– А вось і паверым. Паляжыце тут, Ягор Язэпавіч, пару тыдняў – пра самыя неверагодныя выпадкі пачуеце...

– А дасцё веры, што сабакар той – пацыентам у суседняй палаце?!

– А чаму й не?

– А хаця б таму, што ў яго загіпсаваная рука! – з пераможным выглядам заявіў Ягор.

– Чакайце, вы ж казалі, што на пляцоўцы ён зламаў нагу?

– Там – нагу, а ўжо тут, у лякарні надумаўся ён заняцца любошчамі ў душавым пакоі з медсястрычкаю, але паслізнуўся дый зламаў і руку!

– І што тут смешнага? Паспачуваць чалавеку трэба!

– Я ж не супраць, але прыйшоў да яго ў адведкі швагер і толькі што ў калідоры прадказаў, што гіпс будзе ў сабакара і на галаве, калі прыедзе раўнівая жонка і дазнаецца пра ягоныя донжуанаўскія подзвігі!

– Ага, і праўда, “весела” яму будзе! – выявіў мужчынскую салідарнасць Уладзя. – Тады слухайце анекдот на актуальную тэму. Пачуў сёння ў ардынатарскай.

Доктар-траўматолаг дыктуе практыканту-стажору: “Пішыце пра сённяшняга пацыента: ЗЧТ – закрытая чарапная траўма”. – “Можа, закрытая чэрапна-мазгавая траўма, доктар?” – “Ды якія ў яго мазгі?! Гэта ж трэба было надумацца – прыйсці з маладой каханкаю на юбілей да сваёй жонкі!”

*17 ліпеня 2013 года*

Арыя-Ульрыка Гатальская



...хто гэты бруд і макрэчу
заве прыгажосцю?..

# Шчасляндыя

* * *

*К. Каліноўскаму*

Няма найменні...
Я нямею.
Не ўмею
выказаць у словах
Адчай сыходу,
утрапенне,
віну і грэх
над гэтай мовай.
Нас мала так.
Чырвонай кнігі
не завядуць на нашы словы.
Глыток свабоды, як адлігі –
і зноў мароз.
І карнік новы.
Нас ведаюць.

Даюць нам жару,
калі знаходзяць.
Паіменна.
Хапаюць, судзяць.
Ад цяжару сыходзіць хтосьці.
Ды нязменна
нясём, напяўшы ў коўш далоні
з палону бруду і мітрэнгі
свой скарб
праз чорныя калоны.
Усцяж крывавыя шарэнгі.
Няма наймення.
Не, не сніцца.
Не трызніцца.
Такая ява.
Пляц.
Зброя.
Пратакол.
Вязніца.
І дагараць сляды крывава.

## *ЯЕ ІМЯ*

Ад прыцягнення ночы зорнай
На міг свой позірк адарві.
Яна паўстане ўся ў крыві,
Яна ідзе нямой і чорнай.
Гучыць адна ўсяго струна,
Мелодыі няма і сэнсу.
Ад філасофскага працэсу
Ты адарвіся – вось яна!
Працягвае табе далоні
У ранах і ў пустой мальбе,
Яна глядзіць унутр цябе,
Яна сціскае ў жаху скроні.
Была раней, паўстане зноў,
Прыходзіць будзе і жахацца
І нас жахаць. Маўчаць, жагнацца,
Сумленнем абуджаць ад сноў.
Не просіць не аб чым даўно:
Ёй гонар не дазволіць гэта!
Але адна ў яе ёсць мэта,
У позірку скразіць адно:
Успомні, назаві яе!
Імя яе, яе пароду!..
І будзе аднаму народу
Выратаванне на Вайне.

### *ЦАГЛІНЫ*

Краіна балконаў і вокан.
Па блоках, бы бельмы на вока,
муруе кеп нечае “шчасце”
няпэўнае шэрае масці.
Закрые сцяною жалобнай
мне сонца той жолаб бетонны.
На неба з каравае лапы
рашчынай слаціну накапаў,
намазаў штампованым бытам
праграму прагрэсу нібыта.
І думкі з тупымі кутамі
вось так завалодаюць намі.
Плячом да пляча, як цагліны,
хадзіць, жыць і думаць павінны.
На век, да апошняй хвіліны.

### *ВІЛЬНЯ*

Да мапы падышла пакута –
бязвокі просіць Вільню паказаць.
І ходзіць палец белай смутнай кульбай
па жылах рэк, радзімках гарадоў.
Сляпы бяспомачна мусоліць мапы цалі,
нас просіць яму Вільню паказаць.
Знаходзіць сам яе. І замірае.
Сляпога просім:
“Вільню пакажы!”
І ўсе мы просім Вільню паказаць...

### *ІЛЮЗІЯ*

“На волю!”
Я думала трэба
За шчасцем ганяцца няспынна.
Дзівосная Адыс-Абеба,
Нязбыўных фантазій краіна.

Шчасляндыя – мірнае месца,
Магчыма, на выспах Сейшэлаў.
Там шчасце павінна займецца!
Ці ў Альпах ля белых гатэляў.

А шчасце,
Птах шляху пустога,
Сядзела ў халоднай краіне,

Дзе правяць паўзмрок і знямога,
Дзе хутка птах сіні
Загіне.

### ГОРАД

Небачэрпы, камяніцы,
Шэрыя шкілеты дрэваў.
Праплываюць хмары ніцма,
Туліцца да дахаў неба.
Дыму шлейф на даляглядзе.
Горад сцяўся і зміры ўся.
І ў калядным зарападзе
Ён ніколькі не змяніўся.

* * *

Пусты мой тралейбус.
Самотныя вулкі.
Руіны хацінаў,
Што падаюць ніц.
Бадзяюся ў горадзе я без прытулку
Сярод раўнадушша людзей, камяніц.
Камфорт шматкватэрны руйнуе хібары
І проста будыніны з векам дзядоў.
Паўзуць небачэрпы, чапляючы хмары,
Раўнуючы памяць мінулых гадоў.
Знікаюць назовы старыя паціху,
Знікае, што бытам было і жыццём.
І ў дворыку спрахлым,
Чуллівы да ліха,
Дварняк праважае былое выццём.

* * *

У белы дзень счарнела неба,
Аблокі цяжкія паўзуць.
Вязуць нам вільгаць на патрэбу,
Здаецца ж – смерць яны нясуць.
Лунае ў хісткасці прасторы
Між чорных хмараў  і зямлі
Гругання хеўра.
У разоры
Зярняты, бы ў труну ляглі.
Прыходзіць пышнае лítанне,
Бы на хаўтуры звонкі смех:
У дыме і дажджы світанне,
Пакуль не ляжа моцна снег.

## *СТУДЗЕНЬСКІ ДЗЕНЬ*

Белая раніца –
шчокі румяныя:
полымя дня пакрысе разгараецца.
Мройна туманяцца далі смузяныя,
дзень пазяхае
і прачынаецца.
Дзень белабокі, шурпаты зысподу:
шэрань кашлатая,
хвоі бухматыя.
Ён яснавокі,
ён любіць свабоду,
ён мае планы
на сёння багатыя.
Дзень прачынаецца, сонна-румяны,
і з асалодай
бярэцца за справы.
Ён усміхаецца, светла-смузяны,
ён абяцае
быць добрым і спраўным.

* * *

Скрыжаваныя ў гэтай зямлі
Два пачаткі спрадвечнай веры:
Колер чырвоны – колер крыві,
Колер белы – колер паперы.
Нахіліўшыся, ночы супроць,
Нехта выводзіць, бы плуг на раллі,
І паўтараецца ў словах стокроць
Колер паперы, колер крыві.

## *КРОПАЧКІ*

штрых-пункцір на вакне
кропачкі
ад маленькіх імкнуць
да большанькіх
у каралі кароткія
пацеркі
пананізаныя на дроцікі
ад маленькай-малой
да большанькай
цягнуць спевы свае
кропачкі
быццам пэндзлі каланковыя

быццам фарбы Селешчуковыя
на каралі дажджу
кропачкі

## ХТОСЬЦІ

хтосьці самлелы ад жоўтага лісця
ходзіць

паэтка

хтосьці каменне ды брук дотыкам
лашчыць

восень

нехта ў асфальту далоні вільгаць
збірае

горад

хто гэты бруд і макрэчу
заве прыгажосцю?

восень
паэтка

Мікола Ільючык



...Жыць як жыў.
Жыць – і ўсё.
Так казаў доктар...

# Цыдулка Богу

*Апавяданні*

## Усім вінаваты

Паміраў Юзік доўга і пакутліва. Здавалася, балела кожная часцінка, кожная клетачка яго старэчага цела. Быў ціхі вечар. Позняя восень, але яшчэ не зіма. Марозіла. Нават вецер прыціх за акном, каб не замінаць дыханню стомленага жыццём чалавека. Юзік ляжаў на скамечаным ложку. Ад напаленай з вечара печы дыхала цяплом. Але яно ўжо не саграваладо.

Дыханне станавілася з кожным разам радзейшым, грудзі ўзнімаліся зусім слаба. Праз нейкі момант наступіла абсалютная цішыня. Але не надоўга. Праз нейкае імгненне шкрабанула ў закутку мыш, за печчу распачаў сваю адвечную песню цвыркун, а ў коміне азваўся вецер.

Раніцай дзверы ў Юзікаву прачыніла суседка. Пераканаўшыся, што яму ўжо не патрэбна ні тая хата, ні што іншае, зрабіла тое, што робяць у падобных выпадках, – паклікала суседак. Такіх жа старэнькіх, як сама. І ўжо

разам падрыхтавалі нябожчыка да пахавання. Пляменнік з далёкага канца некалі вялікай вёскі купіў труну. А на наступны дзень нешматлікія жыхары старога, выміраючага паселішча пахавалі Юзіка на вясковых могілках. Ціхі шэпт векавых сосен быццам агучваў нейкія развітальныя словы. А сухі і кароткі гук малатка паставіў апошнюю кропку на зямным жыцці яшчэ аднаго чалавека.

Усе ведалі: недзе далёка ёсць у Юзіка адзіны сыночак, якога разам з Гантоняй, дзесяць год як нябожчыцай, выпрасілі ў Бога недзе пасля пятнаццаці гадоў сумеснага жыцця. Сын з'ехаў даўно, і ніхто не ведаў, як і куды паведаміць таму пра смерць бацькі...

Калі Юзік, ужо безнадзейна хворы, ляжаў на сваім ложку, то не аднойчы ўзгадваў пра Косціка і разважаў пра ўласную гаротную долю. Жахліва ляжаць аднаму, доўгімі днямі і бясконцымі начамі думаць аб тым, што ты знямоглы, хворы і нікому непатрэбны. З такімі думкамі, мабыць, і пайшоў Юзік з гэтай зямлі. А можа, яму гэта толькі здавалася? Але не ўсё так дрэнна: пра Юзіка памяталі і нават нешта хацелі ад яго.

Першымі азваліся да Юзіка сувязісты. У пустой, астылай хаце доўга звінеў тэлефон. Па некалькі разоў на дзень цішыня парушалася гарэзлівым дзынькannem тэлефоннага апарата. А недзе праз месяц у паштовую скрынку лягла паперка-папярэджанне аб тым, што тэлефон будзе выключаны, калі абанент тэрмінова не аплоціць доўг за мінулы месяц ды яшчэ пеню за тэратэрміноўку. І сапраўды – адключылі. Апарат заціх назаўжды. Бо Юзік не заплаціў. Тэлефонная сувязь яму ўжо была непатрэбна.

Яшчэ прыкладна праз тыдзень Юзік стаў вінаваты камунальнікам. Яны па тэлефоне спрабавалі паведаміць Юзіку, што ён стаў злосным неплацельшчыкам і ягоны доўг за вываз смецця не такі ўжо і малы. На тэлефанаванні камунальнага дыспетчара ніхто не адказваў, і ў паштовую скрыню зноў лягло папярэджанне-пагроза Юзіку пра тое, што за вываз смецця трэба абавязкова заплаціць у самы кароткі тэрмін. У іншым выпадку з яго будзе спагнаны штраф. Ага, возьмуць яны той штраф!

Праз некалькі дзён у тую ж паштовую скрыню лёг буклет і запрашэнне ў нейкую фірму. Камерсанты абяцалі Юзіку замяніць драўляныя вокны ў ягонай хаце на якасны пластык з вялікай зніжкай – як пенсіянеру.

Мінула месяцы тры з той пары, як пайшоў Юзік у лепшы свет. Энергетыкі заўважылі ў сваіх кампутарных базах, што перастаў Юзік плаціць за спажытую электраэнергію. Хоць спажываў яе на нейкія капейкі за месяц. Драбяза. Што там мог напаліць Юзік са сваімі дзвюма цьмянымі лямпачкамі? Прыехалі электрыкі, а хата на замку. "Зараз мы навучым старога, як не плаціць своечасова за электрычнасць", – гучна прамовіў дзяцюк у сіняй спецвопратцы свайму напарніку і ўскараскаўся на слуп, што стаяў побач з Юзікавай хатай. Пстрыкнуў кусачкамі – і пара алюмініевых дратоў бліскучай стужкай упала на зямлю.

Банк запрасіў Юзіка перааформіць рахунак. Там ужо тых грошай... Некалі клаў Юзік грошы на кніжку. Меркаваў, што Косціку спатрэбяцца. Марыў, што ажэніцца сын ды парадуе старых унукамі. Але сын не ехаў і нават не азываўся, дзе ён і як ён. Гантоня першая сышла, а грошы рознымі дэвальвацыямі і дэнамінацыямі ператварыліся ў труху. Цяпер вось запрашаюць перааформіць рахунак у ашчаднай касе. Але там, дзе зараз Юзік, грошы непатрэбны. Ніякія – ні малыя, ні вялікія.

Напярэдадні Дня Перамогі пра Юзіка ўзгадалі дактары. З нагоды юбілею

Перамогі старому як ветэрану вайны было прапанавана прайсці медыцынскі агляд, а таксама, калі патрэбна, зрабіць пратэзаванне зубоў. На адмысловым бланку чырвоным маркерам былі выдзелены словы "з'явіцца абавязкова". Канечне ж, нягледзячы нават на суровае папярэджанне, ніяк Юзік не мог аддаць сваё скалечанае і схуднелае цела медыкам на гэтае даследаванне.

Напачатку лета Юзіку прыйшло чарговае запрашэнне. У ім паведамлялася, што ў чэрвені (была пазначана дакладная дата) Юзіку трэба прыйсці на выбарчы ўчастак нумар 969 і прагаласаваць на выбарах. З некалькіх кандыдатаў трэба было выбраць самага правільнага, які будзе кіраваць краінай у наступныя пяць гадоў. Юзіку і пры жыцці было ўсё роўна, хто там і кім кіруе. Цяпер жа ён – жыхар зусім іншай краіны. А калі настаў дзень тых самых выбараў, то старшыня выбарчай камісіі – не перарабляць жа спісы – укінула бюлетэнь за Юзіка ў чырвоную скрынку, папярэдне паставіўшы птушачку насупраць самага лепшага з кандыдатаў.

Нехта разбіў шкло ў шыбе, ці, можа, само трэснула ў перакрыўленай раме. Пра гэта паведамілі Юзікаваму пляменніку. Той прыехаў з возам дошак і пачаў забіваць вокны. Скончыўшы працу, зазірнуў у скрыню, што вісела на плоце побач з брамкай. Дастаў усю макулатуру – нікому не патрэбныя паперкі. Сярод папер ляжаў канверт. Гэта быў ліст ад Косціка. Мужчына дрыготкімі пальцамі разарваў яго і дастаў ліст, напісаны акуратным почыркам. Сын паведамляў Юзіку, што жывы і здаровы. Прабачаўся, што доўга не паведамляў нічога пра сябе. Пісаў, што вяртаецца з нейкай доўгатэрміновай экспедыцыі і, атрымаўшы ільготную пенсію, будзе жыць у вёсцы разам з бацькамі, даглядаць іх да скону, няхай не хвалююцца. А можа, адорыць і ўнукамі.

Пляменнік пачухаў патыліцу. Эх, Косцік, Косцік...

## Цыдулка Богу

Сцяпан сядзеў у кабінеце ўрача анкалагічнага дыспансера. Прайшло два тыдні, як ён пакінуў вёску і не па ўласнай волі апынуўся ў горадзе. Лета. Столькі працы, а ён ляжыць тут лежма! Ды каб балела сапраўды што. Патэлефанавалі з амбулаторыі і паведамілі, што нейкую пляму на лёгкіх заўважылі. Трэба ж таму здарыцца. І не хварэў амаль ніколі, але ж рэнтген гэты мусова ўсім праходзіць. Прайшоў вось. Не было клопату...

Доктар корпаўся ў нейкіх паперках, разглядаў здымкі, на якіх Сцяпан бачыў толькі хрыбетнік і рэбры, пэўна ж, ягоныя. Доктар, мабыць, бачыў нешта яшчэ, але пакуль не прамовіў ані слова. У доктара быў дрэнны настрой, ды і пахла ад яго ў гэтую раніцу першага на тыдні працоўнага дня не толькі парфумай. Спрактыкаваным вокам Сцяпан заўважаў тыя цяжкасці, з якімі змагаўся доктар, і ведаў дакладна: медыку патрэбна тэрмінова пахмяліцца. Але хто ён такі, каб прапаноўваць такое паважанаму чалавеку? Хлопцы з палаты бегалі ў краму і ціхенька папівалі віно і нават гарэлку, але Сцёпа вырашыў для сябе, што не будзе «ўжываць». Лячыцца, дык лячыцца.

«Як там Ганна адна, – падумаў Сцяпан, – што яна вартая без мяне?» Учора званіла, але Сцёпа так расхваляваўся, што нават не спытаў, ці дала дзецям грошай з пенсіі. Не захацелі жыць у вёсцы. Кватэры пабудавалі, а колькі гадоў той крэдыт вяртаць давядзецца?.. Тэлефон вісеў у фае. Там заўсёды шматлюдна, і Сцёпа саромеўся размаўляць, толькі коратка адказваў на пытанні жонкі.

Доктар пракашляўся ў кулак, нібыта адводзячы Сцяпана ад сумных думак, і нарэшце ціха прамовіў:

– Так, Гаўрылевіч, буду казаць шчыра, чалавек вы дарослы, век пражылі на свеце.

«Які ж то век, шэсцьдзесят два гады толькі, – падумаў Сцяпан, – у палаце мужыкі газету чыталі, дык нейкая бабенцыя недзе ў Японіі сто трыццаць другі дзень нараджэння адзначыла. Вось гэта век».

– Дык вось, – працягваў доктар, – хвароба ваша невылечная і засталося вам, нават не ведаю дакладна, можа месяц, а можа – два. Я магу прызначыць вам хімію, але гэта ўсё дарэмна. Хіба што яшчэ нейкі месяц... Але ці варта? Бо ад хіміі вас будзе ўвесь час ванітаваць, застанецеся без валасоў. А колькі праблем і нязручнасцей будзе для сям'і! Жонка, пэўна ж, карову апошнюю прадасць, каб падтрымліваць вас. А што потым? Як яна будзе?

– І што, ужо нічога нельга зрабіць? – Сцяпан не пазнаў свайго голасу.

– Нічога, вы неаперабельны.

Незнаёмае слова балюча шкрабанула недзе ўнутры.

– І што мне рабіць? – з несхаваным хваляваннем спытаўся Сцёпа, мацаючы па кішэнях. Цыгарэт не было. Ён кінуў курыць у першы дзень, як толькі трапіў сюды. Здаровы сэнс падказваў яму: лячыць лёгкія і курыць – несумяшчальна.

– Мне шкада, але апошняя стадыя. Я магу даць вам накіраванне да псіхолага, але, мая вам парада, едзьце дадому і жывіце так, як жылі да гэтага. Як кажуць, колькі Бог прызначыў...

Гарачы камяк падступіў да горла, а ў грудзях зрабілася пуста і холадна.

– Гаўрылевіч, вам што, дрэнна? – спытаўся доктар.

Сцяпан ажно скалануўся ад ягоных слоў.

– Не, усё нармальна, усё добра, – ледзь чутна адказаў. А сам падумаў: “Якое ўжо тут дабро. Мне толькі 62. Як яны будуць без мяне – Ганна, дзеці? Неяк жа будуць...”

– Дзякуй вам, бывайце, – прамовіў хворы і выйшаў у калідор.

Так, менавіта “бывайце”, а не “да пабачэння”. Сцёпа сам не заўважыў розніцы. Стала цяжка дыхаць. Прысеў на чорную дэрмацінавую лаву. Неяк змрочна ў гэтым калідоры... Трэба на вуліцу, там паветра, сонца, святло. Сцёпа ўсхапіўся на ногі і шпарка пакрочыў да выхаду.

У бальнічным двары ярка цвілі кветкі. Сцёпа не ведаў іх назваў: кветкі, ды і ўсё. Над рознакаляровай клумбай завіхаліся матылькі і некалькі пчолак шчыравалі ў сваёй штодзённай руплівай працы. Сцяпан пастаяў ля кветніка. Думкамі поўнілася галава. Як жа цяпер дзеці без мяне? Як будзе з тымі крэдытамі? Хто ім дапаможа? І маленькаму Стасіку абяцаў, што на канікулах, у касавіцу, возьме ўнука з сабой. Збіраліся ўюноў налавіць. Мабыць, тая канава, што ля ягонай сенажаці, ужо зусім перасохла. А ў гразі ўюноў здабыць зусім проста. Не трэба і кашы ладзіць. Капай рыдлёўкай, ды і толькі. Але трэба вяртацца дадому. Хай ужо будзе, як казаў доктар, што Бог дасць.

Сцёпа вярнуўся ў палату і стаў збіраць свае пажыткі. У палаце быў толькі Васіль Пялюк з суседняй вёскі. Астатнія, мабыць, на нейкіх працэдурах ці так сабе бадзяюцца па бальнічнай тэрыторыі.

– Бывай, Васіль! Дамоў еду, – Сцёпа працягнуў руку на развітанне.

– Што, вылечылі ўжо?

– Вылечылі. Паеду.

– Ну едзь. Дома ўсё роўна лепш.

– Дык я пайду? – з сумам вымавіў Сцёпа.

– Ідзі, ідзі з Богам!

Сцяпан шпарка выйшаў з бальнічнага двара і пакрочыў у бок вакзала. Апошнія словы Васіля, як свярдзёлкі, круціліся ў галаве. Ужо можа з паўкіламетра прайшоў, а яны так хутка паўтараюцца: “Ідзі з Богам, ідзі з Богам...” А дзе ж той Бог? Ды і ці патрэбна ведаць Яму пра нейкага Сцёпку Гаўрылевіча?

Сцяпан прыгадаў, што ў царкве быў толькі аднойчы. Нічога не зразумеў, што там гаварылася. А яшчэ пах! Ці то ад ладану, ці ад згарэлых свечак яму стала моташна. Сцёпка, як адурманены, выйшаў тады на царкоўны ганак. На вуснах яшчэ доўга заставаўся той непрыемны смак, а пах трымаўся на вопратцы некалькі дзён.

Ці патрэбен я таму Богу? Я ж нават нейкага хлапчука, зусім падлетка, выгнаў з хаты, калі той прыйшоў з пакункам кніжак і лапатаў падвыпіўшаму Сцяпану нешта пра Бога, пра Ягоную любоў да ўсіх людзей. Юнак тады ўжо з парога зноў паўтарыў: “А ўсё ж Ён любіць вас!” – і паклаў на стол невялікую кніжачку. На сіняй вокладцы залатымі літарамі было напісана: “Новы запавет”. Якая любоў, які запавет?! Хацеў шпурнуць тую кніжачку ў печ, ды Ганна выхапіла яе з рук. Потым бачыў, што ляжыць тая кніжка ў шуфлядзе стала. Але ў рукі так і не ўзяў ніколі.

Сцяпан прайшоў два кварталы ад бальнічных карпусоў і прысеў на лаўку, што стаяла ў цяньку пад вялізнай бярозай. Гнуткае галлё старога дрэва амаль кранала ягонай галавы. Пад струменямі лёгкага ветру яно калыхалася і ласкава павявала прыемнай прахалодаю. Сцёпку падалося, што бяроза гладзіць яго па галаве. Нібыта ён малы, пакрыўджаны хлопчык, а побач матуля. І гэта яе цёплая рука гладзіць яго па бялявых валасах. Галава зараз таксама бялявая, але гэта ўжо зусім іншая бель.

Колькі часу прайшло, Сцёпа не ведаў. Трэба ісці далей. Дадому... Падняў пакет. У ім некалькі сістэм для кропельніц ды з дзясятак шпрыцоў, што засталіся ад ягоных бальнічных прызначэнняў. А яшчэ пухнатая медычная картка. У ёй рознымі, але аднолькава каравымі почыркамі былі запісаны ўсе Сцяпанавы балячкі, аб якіх і сам не ўсё ведаў. Вось узгадаў пра іх, і зноў стала маркотна. Дадому! Толькі туды.

Паскорыў крок. Павярнуў на скрыжаванні за нейкім каменным гмахам. Нечаканае сонца, што ззяла ва ўсю моц, балюча рэзанула па вачах сваімі промнямі. Аж прымружыўся. Зноў павяло галаву. Гэта пасля больніцы.

Калі зрок прыстасаваўся да яркага святла, Сцёпа заўважыў вялізны будынак з чырвонай апаленай цэглы, што нейкім вострым трохкутнікам уразаўся, як падалося Сцяпану, у самае неба. Над жалезнай брамай было напісана: “Бог любіць цябе”. Што гэта? Мабыць, царква нейкая...

Ён стаяў нерухома і разглядаў, здавалася, кожную цагліну, кожны круценік на металічнай агароджы, кожны пруток на браме. Нечакана заўважыў невялікую скрынку, вельмі падобную на паштовую. На ёй маленькімі літарамі было напісана: “Вашыя патрэбы”.

Сцёпа задумаўся. «Бог любіць мяне. Чаму менавіта мяне і за што? Калі я нават у бальніцы не ўзгадваў Яго, не звяртаўся да Яго. Хутчэй – да д’ябла. Нават з ужываных кропельніц навучыўся рабіць такіх пластыкавых чорцікаў. Раздаваў усім гэтыя самаробныя бальнічныя цацкі. А сябе

цешыў, што ачуняю, паеду дадому здаровым. І тут такое, нібыта гром з яснага неба – хвароба невылечная. За што мяне любіць? Звычайны чалавек, што пражыў усё жыццё ў вёсцы, пракорпаўся ў калгасе і на ўласнай гаспадарцы. Так большасць жыве».

Думкамі поўнілася галава. Здавалася, што яна ажно закіпае. Сцяпан шэрай насоўкай абцёр пот з ілба.

«А яшчэ скрынка гэтая. Тут тысячы людзей праходзяць, і ў кожнага столькі патрэб, што яна павінна была б узарвацца ад цыдулак. Але ж не трэснула. Хтосьці ж іх вымае, нехта ж чытае...»

Сцяпан рашуча дастаў з унутранай кішэні пінжака ручку, а з пакета медыцынскую кніжку. У самым канцы гэтага пухнатага медычнага «самвыдату» было некалькі чыстых аркушаў. Вырваў адзін і хуценька напісаў: "Я хачу жыць. Сцяпан". Перагарнуў паперчыну напалам і, азірнуўшыся па баках, хуценька апусціў аркушык у скрынку. Яшчэ раз узняў вочы туды, дзе яркі надпіс зноў нагадаў, што Бог яго любіць, і шпаркай хадою пакрочыў далей.

Вось і вакзал. З раскладу даведаўся, што наступны аўтобус амаль праз гадзіну. Непрыемна засмактала ў жываце. Звычайна ў гэты час чырванашчокая Света з харчблока прывозіла ў палату свой вазок і карміла хворых абедам.

У вакзальным буфеце – невялікая чарга. Сцёпа расшпіліў кішэню на грудзях. Калі збіраўся ў шпіталь, Ганна прыкалола да кашулі вялікую шпільку і параіла:

– Заўсёды зашпільвай грошы, бо як не ўкрадуць, то згубіш.

Узяў з сабою амаль усю пенсію за мінулы месяц. Крыху патраціўся – шпрыцы, сістэмы, шакаладка медсястры...

– Эх, была, не была, – амаль услых прамовіў Сцёпа, – усё ім ды ім. Хоць напаследак пашыкую, куплю чаго смачнага, хоць і дарагога.

Замаўляў усё, што вочы бачылі. Нават дзве бляшаначкі ікры: чырвонай і чорнай. Грошай акурат хапіла на ўсе прысмакі. Хацелася пакаштаваць ўсяго таго, што не дазваляў сабе ніколі. Еў з такой асалодаю і апетытам, быццам у апошні раз. Ікра не спадабалася. «Ну і што ў ёй такога, – думаў Сцёпа, – селядзец селядцом, дарма што дарагая, не дакупіцца». Напаследак з'еў шакаладку і некалькі маленькіх піражных. Ледзьве падняўся з-за стала.

У аўтобусе схіліла на сон. Ці то ад доўгай хады, ці то ад ежы адчуваў стому ва ўсім целе і нейкую млявасць у галаве. Прачнуўся тады, калі забразгалі дзверы аўтобуса на першым вясковым прыпынку. Ягоны – другі, апошні...

Жыць як жыў. Жыць – і ўсё. Так казаў доктар, з гэтым цалкам пагадзіўся і Сцёпа...

Мінула касавіца, пакапалі бульбу, прыбраліся на палетках. Хутка Пакровы, а потым і зіма. Вясною – зноў сеяць, саджаць бульбу. Звычайнае вясковае жыццё...

* * *

Сцёпа зноў у анкалагічным дыспансеры. Запрасілі на абследаванне. Прайшоў год, як выпісалі дадому жыць, проста жыць, колькі прызначана. Ужо не было трывогі, страху, роспачы і адчаю. Усё засталося недзе там, ля чырвонай будыніны ў той сонечны летні дзень.

– Гэта неверагодна, – доктар прыцмокваў языком, разглядаючы новыя рэнтгенаўскія здымкі, – неаперабельная пухліна ў апошняй стадыі знікла! Скажыце, калі ласка, што вы прымалі?

– Ды нічога не прымаў, проста жыў, – стрымана адказаў Сцяпан.

– Я напішу пра вас, Гаўрылевіч, пра ваш выпадак у медыцынскі часопіс. З вамі ніхто не размаўляў пра хваробу? Вы нікуды больш не звярталіся? Ніхто пра вас нічога нідзе не пісаў? – доктар забегаў па кабінеце, і Сцяпану падалося, што гэтыя роспыты не скончацца ніколі.

Загадчык аддзялення зноў і зноў сыпаў пытаннямі, а здымкі перыядычна разглядаў то ў святле лямпы, то ў прасвеце аконнай шыбы. Сонейка ззяла ва ўсю моц, здымкі трымцелі глянцам, сонечны зайчык радасна скакаў па сценах кабінета.

– Неверагодна! Ну дык што – нічога не прымалі, ніякіх лекаў і ніхто пра гэта не ведае, ніхто нічога не пісаў? – Сцяпану падалося, што доктар здзяцінеў і гэтыя пытанні будуць бясконцымі.

– Я пісаў, цыдулку Богу пісаў...

– Што, што вы сказалі? – доктар не пачуў Сцяпанавых слоў і толькі зноў тараторыў: – Я абавязкова напішу, вы цалкам здаровы, няма пухліны, гэта неверагодна...

## Зборлівы Міхась

Міхась Кацюпа – чалавек не бедны. Рабацяга, якіх мала. І грошы быццам ліплі да ягоных рук. За што б Міхась ні браўся, тое прыносіла карысць. Так было заўсёды. Апошнія гадкоў пяць займаўся Кацюпа сапраўдным бізнесам. Хоць і застаўся жыць у вёсцы, але ў райцэнтры ў яго мелася некалькі гандлёвых кропак. Не раней, калі думаць трэба было, дзе купіць танней, а потым зноў жа думай-разважай, дзе б прадаць даражэй. Цяпер усё цывілізавана. Ёсць свае пастаўшчыкі, ёсць прадаўцы і пастаянныя кліенты. Усё адладжана, адпрацавана. Хоць і прыжымісты Міхась, але цешча паважальна называе яго зборлівым: маўляў, збірае грошы рублік да рубліка. Нічога ў яго не прападзе, нідзе свайго ён не ўпусціць. Дзецям вунь якія дамы пабудаваў у горадзе! Зайздросцяць усе. Ды і аб адукацыі іх паклапаціўся. І аб пасадах добрых. І запас, так бы мовіць, “на чорны дзень”, маецца. Усё добра ў Міхася. І справа, і здароўе. Нічога, што паўстагоддзя за плячыма. І моцы, і спрыту яшчэ хапае.

Але аднойчы раніцай Міхась заўважыў, што кончык ягонага мезенца на левай руцэ мае нейкі незвычайны колер. Ягадка і палова пазногця чамусьці былі не ружовага колеру, а аддавалі нейкай сінню. Міхась памацаў палец. Нічога не балела, але непрывабны і незвычайны колер ягонага пальчыка не на жарт устрывожыў Кацюпу. Што такое? Трэба тэрмінова паказацца доктару! Міхась з вялікай адказнасцю ставіўся да ўласнага здароўя. Ніколі не меў ніякіх шкодных звычак, харчаваўся правільна і не цураўся фізкультуры.

Загадчыца сельскай амбулаторыі, да якой Міхась звярнуўся ў тую ж раніцу, агледзеўшы пальчык, параіла здаць усе аналізы і ехаць у раённую паліклініку, бо там шмат вузкіх спецыялістаў. Яна ж нічога канкрэтнага не скажа, бо прычын тут можа быць шмат. А самае страшнае, што пачуў Кацюпа ад яе, гэта тое, што незвычайны колер ягонага мезенца можа быць прадвеснікам сур’ёзнай хваробы.

Жонка патэлефанавала дзецям і паведаміла сумную навіну: захварэў бацька, і, мабыць, сур'ёзна. Дзеці паднялі на ногі ўсіх знаёмых і не вельмі, хто меў хоць нейкае дачыненне да медыцыны. Трэба тэрмінова ратаваць бацьку! Агледзелі Міхася ў паліклініцы ўсе: практолаг, анколаг, тэрапеўт, кардыёлаг і нават акуліст. Усе вузкія спецыялісты, за выключэннем бадай што педыятра ды ўрачоў з жаночай кансультацыі, агледзелі безнадзейна хворае цела Кацюпы, які ў адзін момант асунуўся. Даследавалі ўсе ягоныя органы, але ніхто не адважыўся паставіць дыягназ і прызначыць лячэнне. Гэта ж не жартачкі вам! Сам Міхась Кацюпа нечакана захварэў!

Галоўны параіў: "Пакладзем у тэрапію, няхай тыдзень-другі пад наглядам пабудзе, пракапаем, падмацуем". Пагадзіліся. Ляжыць Кацюпа ў палаце адзін. Спецыяльная палата для важных такіх персон. Усё добра – і мэбля прыгожая, і нейкія апараты лямпачкамі мільгацяць, і дактары бегаюць навыперадкі. Клопат на вышэйшым узроўні.

Думак у Міхася поўная галава. І свае турботы замінаюць, ды і наслухаўся за дзень рознага ў кабінетах паліклінікі. А можа, сэрца здало? Кардыёлаг надта ж доўга прыслухоўваўся да кожнага ўдару, ды і кардыяграму разглядаў вельмі пільна. А можа, анкалогія? Нешта доўга анколаг размаўляў з дзецьмі напаўголаса. А мо нешта з унутранымі органамі? Надта ж пільна дактары ўглядаліся ў экраны сваіх прыбораў, калі праводзілі даследаванні. Пытанні не давалі Міхасю заснуць, і раніцай ён выглядаў вельмі стомленым і сапраўды хворым.

Прыехалі дзеці. Кацюпа спытаў, колькі яны патрацілі за ўчарашні дзень. Названая сума яго ніколькі не збянтэжыла. Здароўе – гэта галоўнае. І ён вылечыцца, чаго б гэта яму ні каштавала. І няма чаго тут разлежвацца ў нейкай там раённай бальніцы. Міхась выказаў дзецям гэты свой цвёрды намер, і праз нейкія паўгадзіны перад ім ляжала накіраванне ў абласную паліклініку.

На наступны дзень у абласным цэнтры ўсё паўтарылася з вялікай дакладнасцю. Галоўны сказаў: "Ну, што вы думаеце, мы ж не можам даць веры таму, што там панапісвалі вашыя раённыя эскулапы". І зноў аналізы, зноў праверкі ў кожнага спецыяліста. А як жа інакш? За жыццё трэба змагацца. Асабліва калі гэта жыццё самога Міхася Кацюпы. А потым былі прызначаны нейкія кропельніцы і ўколы. Міхась пагадзіўся на ўсё. Імгненна праляцелі тыя два дні ў абласной бальніцы. Усё добра – і догляд, і лекі самыя лепшыя. Але пальчык колеру так і не змяніў. Ад думак хоць галаву абручамі сцягвай. Дзеці па тэлефоне праз кожную гадзіну пытаюцца: "Як ты, тата? Табе ўжо лепш?" Гэтыя турботы яшчэ больш дадаюць дум у Міхасёву галаву. Не, трэба нешта рабіць. З панядзелка новае жыццё. Толькі так. У сталіцы выратаванне. Чаго б гэта ні каштавала.

Новы тыдзень пачаўся для Міхася ў сталічнай клініцы. Дзеці сказалі, што тут лепшыя спецыялісты, і аглядаць Кацюпу будуць прафесар і некалькі кандыдатаў навук. Нічога, думаў Міхась, галоўнае выкарабкацца, перамагчы хваробу, а грошы грашыма, заробіць яшчэ. Сталічныя медыкі пасмяяліся з абласных. Ну хто ж там такі несур'ёзны дыягназ паставіў? І пачалі працаваць з новым пацыентам, паважаным Міхасём Кацюпам. Ну і што, што з вёскі? Чалавек жа вунь які паважаны. Такія ўплывовыя людзі за яго прасілі.

Новыя аналізы, даследаванні і працэдуры. Усё вытрымаў Міхась дзеля ўласнага здароўя. Мінуў тыдзень, пайшоў другі. Лечаць, лечаць, а пальчык

не ружавее. Кацюпа не пазнаваў сябе, гледзячы ў люстра. Твар асунуўся, стаў нейкі хваравіта-шэры. На абходзе запытаўся ва ўрача, ці можна на выходныя дадому паехаць. Доктар прычмокнуў языком. Маўляў, небяспечна ў такім стане, але пад ягоную асабістую адказнасць чаму б і не з'ездзіць.

Напрыканцы тыдня вечаровым часам даставілі Міхася ў вёску. Дома і дыхаецца лягчэй. Толькі сабраліся павячэраць, прыбег суседскі сын, зусім яшчэ хлапчук. Кацюпы прыязна ставіліся да яго і дапамагалі рана аўдавелай Марылі падняць падлетка. Гэтым летам, скончыўшы ветэрынарную акадэмію, хлопец застаўся працаваць у вялікім горадзе ды лячыў пацыху там котак з сабачкамі. Павітаўся, сказаў, што даўно не бачыліся, таму зайшоў даведацца пра справы і ці ўсё добра ў Кацюпы. Міхась запрасіў суседа да стала, але вырашыў пра хваробу не размаўляць. Пагаманілі аб усім патроху. Юнак ужо сабраўся ісці, але раптам заўважыў пасінелы мезенец на Міхасёвай руцэ: "Дзядзька Міхась, у вас пальчык зусім сіні. Дакладна не ведаю, чым гэта выклікана, але вам тэрмінова трэба папіць аспірыну. Гэта каб кроў крыху разрэдзіць і наладзіць капілярны кровазварот. Некалькі дзён – і пальчык зноў ружовенькім зробіцца". Суседскі хлопец яшчэ нешта гаварыў аб штодзённых стрэсах і неспрыяльнай экалогіі, але Кацюпа не чуў ягоных слоў. Аспірын... Вось яно што!

Міхась не вярнуўся ў сталічную клініку. Яму некалькі разоў тэлефанавалі, але ён адмовіўся. Да канца наступнага тыдня, як і абяцаў сусед-ветэрынар, пальчык стаў ружовым і ніяк не адрозніваўся ад свайго брата на правай руцэ. Нічога. Што такое грошы? Грошы заробім. Галоўнае – здароўе. Здароўе любой цаной.

## Непатрэбны берэт

Наста ўзгадала свой клас. Нельга сказаць, што дагэтуль не ўзгадвала. Кожны дзень прыходзіла на памяць што-небудзь з таго часу яе зусім яшчэ кароткага жыцця, які яна сама называе "да таго, як захварэла". У асноўным гэта нейкія малюнкі са школьнага жыцця, насычанага і яскравага, альбо нейкія эпізоды, што здараліся з ёю самой ці з некім з таварышаў. Клас сапраўды быў выдатны. А калі што-небудзь і здаралася, то класны кіраўнік Анатоль Сцяпанавіч уладкоўваў усё найлепшым чынам. Менавіта вакол яго і існаваў гэты соцыум пад назвай клас. Цяпер ужо 11-ты.

Наста памятала, як у 5-м прыйшоў да іх ружовашчокі прыгажун, высокі, русакосы, з валошкавымі вачыма. Дзяўчынкі ўсе разам закахаліся ў яго. І гэта было іх першае каханне. Хлопчыкі паважалі, хоць і не адразу змірыліся з тым, што ўся жаночая палова класа кахае толькі яго аднаго. Потым усё пайшло як мае быць. На працягу некалькіх гадоў гэта быў лепшы клас у школе.

Акрамя школы было яшчэ некалькі паездак у санаторыі і, аднойчы, у Галандыю. Як тады казалі, "на аздараўленне". Гэта былі сапраўды незабыўныя дні. Бацькі далёка... Гэта потым яны засумавалі. А напачатку не маглі нарадавацца. Бо з імі іх настаўнік, іх Анатоль Сцяпанавіч. З ім цікава. А колькі прыгод і розных, часцей прыемных, нечаканасцей! А навокал сябры, аднакласнікі і аднадумцы. Вясёлыя і бестурботныя імгненні дзяцінства...

У 9-м Настачка закахалася па-сапраўднаму. Віця сядзеў за апошняй

партай ля вакна адзін. У класе было 27 вучняў, і яму не хапіла пары. Хлопчык не камплексаваў, бо заўсёды трымаўся незалежна і неяк нават адасоблена. На перапынках дзяўчынка любіла садзіцца з ім побач. Віця быў не супраць. Яны аб нечым размаўлялі, раіліся і марылі. Марылі аб тым дарослым жыцці, што неўзабаве настане. Будавалі нейкія ўласныя планы на доўгае жыццё...

Аднойчы Віця пасля школьнага вечара правёў Насту дадому. Нейкі час яны прастаялі ля веснічак. Аб нечым гаманілі. Віця нешта прамовіў, а Наста перапытала. Тады юнак нахіліўся да самага вуха, каб паўтарыць сказанае, і быццам незнарок дакрануўся губамі да дзявочай шчакі. Той першы няўмелы пацалунак і цёплае юначае дыханне Наста памятае дагэтуль.

На наступны дзень аднакласніцы і сяброўкі Анюта і Марыйка папрасілі Насту застацца пасля апошняга ўрока “для размовы”. Размова перарасла ў сапраўдную лаянку. Дзяўчынкі моцна крычалі. Уся справа ў тым, што Марыйка быццам бы даўно кахае Віцю, а Наста спрабуе “разбурыць іх сумеснае шчасце”.

Наста выйшла са школы. Вочы набрынялі слязьмі. Бачыць нікога не хацелася, тым больш размаўляць. Апусціўшы галаву, хуткімі крокамі выйшла яна тады са школьнага двара. Раптам гучны і знаёмы вокліч:

– Наста!

– Што, Анатоль Сцяпанавіч.

– Што здарылася? Чаму слёзы?

– Нічога, мне трэба дадому.

Настаўнік дакрануўся да дзявочага пляча, але яна рэзкім рухам змахнула руку і яшчэ шпарчэй, амаль подбегам, рушыла па вуліцы.

З падпухлым тварам і чырвонымі вачыма прыйшла на наступны дзень у школу. Не лепш выглядала і Марыйка. А Анатоль Сцяпанавіч на класнай гадзіне доўга распавядаў класу пра каханне і закаханасць, пра ўлюблівасць і сапраўдныя адносіны.

Усё стала як раней. На перапынках сядзелі з Віцем за адной партай, а са школьнага вечара магла ісці з кім заўгодна.

Напачатку другой чвэрці, у адзін з дажджлівых асенніх дзён, Наста адчула сябе дрэнна. Проста на ўроку страціла прытомнасць. Ачулася ў медыцынскім кабінеце. Расплюшчыла вочы і ўбачыла Анатоля Сцяпанавіча і медсястру.

– Ну што ты, Настачка, пужаеш нас? – ціха прамовіў настаўнік.

– Што са мною? – спытала дзяўчынка.

– Нічога страшнага, проста саслабела і страціла прытомнасць, – адказала жанчына ў белым. – Мы патэлефанавалі тваёй маме, яна хутка прыйдзе і забярэ цябе дадому.

– Заўтра дзянёк адпачні, а потым прыйдзеш на заняткі, – сказаў Анатоль Сцяпанавіч, – табе трэба адпачыць.

Але назаўтра Наста адчула сябе горш і бацькі павезлі дачушку ў райцэнтр, у паліклініку. Потым было абследаванне ў бальніцы. Нейкія надта ж дрэнныя аналізы і накіраванне ў абласную. Два тыдні там, а потым рэспубліканскі анкалагічны цэнтр.

Ужо вясна, хутка пачатак чацвёртай чвэрці, а яна тут. Анатоль Сця-

панавіч казаў: “Дзянёк адпачні”, а яна вунь колькі ўжо адпачывае. Тут таксама не сумна. Шмат дзяцей рознага ўзросту, ёсць і равеснікі. Некалькі дзяўчынак, ёсць і юнакі. Паспелі пасябраваць. Сумаваць не давалі. Кожны дзень, а то і па некалькі разоў на дзень дзынькаў мабільнік, запрашаючы да размовы то з бацькамі, то з аднакласнікамі. Званілі і настаўнікі, часцей Анатоль Сцяпанавіч.

Дактары падбадзёрвалі дзяўчыну, і ўсе мелі надзею, што паправіцца, што ачуняе. Яна і сама марыла аб выпускным балі, аб святочнай сукенцы, аб шыкоўнай прычосцы і абавязкова аб тым, як закружаць яны з Віцем у віхуры вальса. Урач казаў, што лячэнне доўгае, шмат розных працэдур, але ўсё складваецца спрыяльна і, хутчэй за ўсё, апошнюю чвэрць Наста правядзе дома, зможа здаць выпускныя іспыты, а на лета зноў трэба будзе вярнуцца ў клініку пад медыцынскі нагляд. Дзяўчына разумела, што пра паступленне трэба забыцца як мінімум на год. Нічога, галоўнае вылечыць гэтую страшную хваробу.

Але чым бліжэй да дня выпіскі, тым больш Настачка сумуе. На пытанне матулі, чым выкліканы гэты сум, расплакалася.

– Дачушка, усё будзе добра. Дасць Бог, ачуняеш канчаткова і не ўзгадаеш потым гэтай праклятай хваробы, – маці сама гатова была заплакаць, але за гэтыя часы навучылася трымацца, – з такой падтрымкай, з такімі сябрамі ты ўсё зможаш: і да экзаменаў падрыхтуешся, і да тэстаў на наступны год.

– Мама, а як жа я да іх з’яўлюся, дзе ж мая каса ў пояс, дзе ж мае валасы, – дзяўчо зайшлося плачам, – пасля ўсіх гэтых хімія- ды промнетэрапій я ж зусім лысая, ніводнага валаска не засталося.

– Ой, дачушка мая, адрастуць новыя, і не заўважыш калі, – маці абняла дачку, – будзе новая каса.

– А як школа, выпускны... Тут не страшна, амаль усе такія, а там...

– Нічога, ты ў мяне моцная, не такое вытрывала, а пакуль паходзіш у шапачцы ці ў хустцы.

Развіталіся з матуляй. Праз колькі дзён прыедзе бацька і забярэ яе дадому. Дзяўчына запэўнівала сябе думкай, што яна сапраўды моцная. Навучылася быць моцнай за дні і месяцы хваробы. Без гэтага нельга. Бо не ачуняеш, бо жыць не будзеш. Астатняе – гэта ўжо драбяза! А яна ачуняе, яна будзе жыць!

Нарэшце Наста дома. У яе пакоі ўсё так, як і тады, у лістападзе мінулага года. На сцяне ў прыгожай рамцы фота яе класа. Выпускнікі запрасілі фатографа ў вясковую школу, а яны, тады дзевяцікласнікі, таксама зрабілі агульны фотаздымак на школьных прыступках. У цэнтры сядзіць Анатоль Сцяпанавіч, а Наста акурат за ім. Так хацелася тады дакрануцца да ягонага пляча. Якія яны цяпер? Дзяўчына разглядала фотаздымак, быццам вітаючыся з кожным. Ёй прыемна было зноў сустрэцца з класам, пакуль няхай сабе і так, завочна. Як яна сумавала па ўсіх. Вось яны, яе сябры, яе аднакласнікі, яе настаўнік. Заўтра сустрэнемся наяве. Прыемныя думкі раптам перабіла на сум. Не проста сум, нават нейкі адчай.

Наста злавіла сябе на думцы, што на фота яна не проста разглядае твары сяброў, яна акцэнтуе ўсю ўвагу на прычосках, на валасах. Усё мае значэнне – даўжыня, колер, стрыжка, стыль, укладка... І зноў слёзы і камяк у горле. Сум і адчай. “Ты моцная”, – вымавіла пра сябе Наста, узяла свой школьны заплечнік, паклала туды дзённік, некалькі агульных сшыткаў і

касметычку. Для першага разу хопіць. Бо Наста нават раскладу ўрокаў не ведала, ды і што там за вучоба ў першы дзень пасля такіх неспадзяваных і доўгіх вакацыяў.

Доўга не магла заснуць у той вечар. Розныя думкі хвалявалі і трывожылі.

– Дачушка, прачынайся, у школу трэба збірацца, – мамін голас абудзіў ад сну.

– Ну, мама, навошта ты са сваёй школай, такі сон мне перабіла, – дзяўчына зноў заплюшчыла вочы, але ўжо не вярнуць таго адчування і тых імклівых рухаў, што кружылі яе ў вальсе. – Ах, і натанцавалася я сёння за ноч, з усімі аднакласнікамі па чарзе, з Анатолем Сцяпанавічам, з фізруком і нават з дырэктарам.

Наста рассмяялася, бо прыгадала маленькага і лысаватага дырэктара ў заўсёды расшпіленым пінжаку. Здавалася, што ніякія гузікі не змогуць утрымаць ягоны акруглы жывот. Але ж у танцы дырэктар быў даволі спрытным, і паўната не перашкаджала яму танчыць з прыгожай выпускніцай.

Тата падвёз Насту да школы, пажадаў добрага дня і паехаў на працу. Да пачатку першага ўрока было яшчэ колькі часу. У школьным гардэробе дзяўчына глянула ў люстэрка, паправіла берэцік і накіравалася ў клас. Хваляванне такое, што не толькі сэрца трымціць. Лёгкія дрыжыкі прабеглі па целе і спыніліся недзе ў каленях. “Я моцная, усё будзе добра”, – нібы нейкі загад вымавіла сама для сябе і рашуча прачыніла дзверы класнага пакоя.

– Шчыра вітаем Насту! – нібы гром з неба, гучна і дружна ў адзін голас выгукнулі ў класе.

Увесь клас стаяў на нагах за сваімі партамі, Анатоль Сцяпанавіч стаяў ля настаўніцкага стала і працягваў дзяўчыне агромністы прыгожы букет. Але штосьці не так. Неверагодна! Наста толькі цяпер заўважыла, што ўвесь клас стаіць з астрыжанымі пад нуль валасамі. 27 лысых галоў. Усе як адзін. І Марыйка, і Віцёк і... Анатоль Сцяпанавіч.

Усмешка і слёзы радасці на вачах адначасова. Рука нібыта сама пацягнулася да галавы, і шапачка, якой так саромелася Наста, засталася ў руцэ. Яна ўжо не патрэбна. Настаччына лысая галоўка на кволай шыйцы нікога не шакавала. Свая сярод сваіх.

## Асоба 109-450-986-017-243

Іван Б. на момант адарваўся ад экрана. Гарадскі кінатэатр сёння даслаў яму на хатні па папярэдняй заяўцы не фільм, а запіс футбольнага матча. І не нейкі там еўрапейскі ці сусветны футбол цікавіў Івана. Яму захацелася прагледзець толькі адзін матч з чэмпіяната Беларусі 2013 года.

Бацька браў яго, зусім яшчэ падлетка, з сабой на футбол. Як там было цудоўна! Трыбуны ашалела раўлі. Заўзятары нешта крычалі, пляскалі ў далоні. Яны з татам таксама гучна крычалі, падбадзёрвалі гульцоў. А ў перапынку ласаваліся бутэрбродамі, што загадзя прыгатавала матуля, і пілі газіроўку. Іван добра памятаў той дзень. Красавік, 13-га. Стаяў цёплы вясновы надвячорак. «Дынама-Брэст» змагалася з «Нёманам». Але якая

розніца, хто з кім гуляе? Галоўнае, што побач тата і яны разам, а мама чакае іх дома на позннюю вячэру...

Здаецца, учора, а прайшло два дзясяткі гадоў. Іван, як ні ўглядаўся ў запоўненыя трыбуны, так і не змог нідзе заўважыць ні бацьку, ні сябе. Шкада. Захацелася есці. Трэба замовіць вячэру. Няхай прывязуць са службы гастранамічнага сэрвісу. Сам ён нічога гатаваць не ўмее, а жонка з'ехала праведаць дачушку, што вучыцца ў школе суседняга гарадка. Там і заначуе.

Іван набраў нумар. Усе гэтыя сэрвісы былі акуратна запісаныя на адмысловым бланку і віселі ў калідоры. Тут і дастаўка ежы, і замова фільмаў ці спартыўных трансляцый і запісаў на хатні кінатэатр, выклік транспарту і яшчэ самыя разнастайныя паслугі. Як той казаў, любы капрыз, але за вашыя грошы.

Даволі хутка Іван пачуў прыемны жаночы голас:

– Вітаю Вас, я аператар харчовага сэрвісу "Пнішчагрыль". Што жадаеце?

– Вітаю, я хацеў бы замовіць вячэру для аднаго чалавека, – манатонна адказаў Іван.

– Калі ласка, назавіце свой НІН.

– Што назваць?

– Назавіце свой Нацыянальны Ідэнтыфікацыйны Нумар.

– Хвіліначку, – Іван прытуліў тэлефон да запясця левай рукі, да таго месца, дзе стаяў чып. На экране засвяціліся радкі лічбаў. – Пішыце: 109-450-986-017-243.

– Дзякуй вам, спадар Б. Ваш адрас: Чырвоная, 344, кватэра 122. Ваш тэлефон 25-58-90, ваш мабільны тэлефон 874-209-061. Ваш працоўны тэлефон у кампаніі "Лунінплазмарухавік" 29-06-27. Правільна?

– Так, так. Але адкуль у вас гэтыя звесткі?

– Мы салідная кампанія і падключаныя да Вялікай Сістэмы Інфармацыі. ВСІ супрацоўнічае з намі, а мы з ёю.

– Добра, але ж я хацеў замовіць вячэру, – Івану надакучыла размаўляць з жанчынай, а можа, гэта ўвогуле і не жанчына. Можа, тэлефон так настроілі, каб з мужчынамі размаўляць прыемным жаночым голасам, а з жанчынамі – наадварот.

– Прабачце, я Вас слухаю. Што будзеце замаўляць?

– Калі ласка, мне кураня-грыль, паўкіло хлеба з жытняй мукі з семкамі ды 2 літры фруктовага напою.

– Па-мойму, выбар не надта ўдалы.

– Што?

– У Вашай медыцынскай гісторыі напісана, што ў Вас павышаны ўзровень халестэрыну, гіпертанія, таксама са страўнікам праблемы. Ды і па ўмовах страхавання Вам забаронена ўжываць прадукты, што могуць прынесці шкоду здароўю.

– Ну, няхай сабе і так, – незадаволена прабурчэў Іван. – Тады што вы можаце прапанаваць мне на вячэру?

– Я магу прапанаваць Вам наш апошні хіт "Гародніна-грыль". Гэта вельмі карысна і не нашмат даражэй за курыцу. Да гэтага прапаную Вам тры літры вады замест двух. Адзін літр бясплатна. "Лунбурвадканал" прэзентуе сваю новую ўстаноўку па паляпшэнні ачышчаных гарадскіх стокаў і да канца месяца яны дораць літр ачышчанай другаснай вады

ўсім, хто купіць двухлітровую капсулу. Вада добрая, паверце, мая знаёмая піла і пакінула на Гарадскім Інфармацыйным Полі вельмі добры водгук. ГІПаўцы абы што не размесцяць.

– Добра-добра, што там за гародніна?

– Бурачок, морква, бульба. Усё традыцыйна нашае. Без солі. Гародніна вырашчаная на мясцовых плантацыях. І заўважце, ніякай шкоды.

Іван уявіў, як ён жуе несалёную запечаную гародніну, запівае другаснай вадой. Нейкая агіда і ванітаванне падступілі недзе з глыбінь страўнікакішэчнага тракту. Ледзьве стрымліваючы сябе, вымавіў:

– А колькі каштуе гэтая радасць?

– 122,99 талера. Але Вы можаце разлічыцца любой валютай. Сёння толькі наяўнымі.

– Чаму гэта, а картка?

– На Вашым рахунку па “Вышбанку” адмоўнае сальда, а па картцы “БББ-банка” Вы даўно перавысілі ўсе ліміты.

– Добра, няхай. Я знайду наяўныя грошы. Вязіце хутчэй!

– Што значыць хутчэй? У нас дастаўка на працягу 40 хвілін. Калі Вам патрэбна хутчэй, то сядзьце на свой электрацыкл і забярыце замову самі. Але памятайце: Вы рызыкуеце трапіць у аварыю.

– А з чаго вы вырашылі, што я паеду на электрацыкле і чаму я магу трапіць у аварыю? – раздражнёна вымавіў Іван.

– Вы атрымалі тры папярэджанні аб тым, што Ваш аўтамабіль не адпавядае экалагічным нормам. Па нормах “Эка-2030” бензінавыя рухавікі забароненыя. Вас папярэджвалі, каралі штрафамі, але Вы так і не здалі яго на ўтылізацыю. Вось я і вырашыла, што Вы паедзеце на электрацыкле. А пра аварыю, гэта толькі маё прыватнае меркаванне, прабачце. Вялікая Сістэма Інфармацыі на мой запыт аб маршруце дастаўкі Вашай замовы выдала інфармацыю, што па ўсёй Чырвонай вельмі насычаны трафік. Таму папярэджваю: будзьце абачлівымі і асцярожнымі.

– Пайшлі вы к чорту з вашымі папярэджаннямі, – зароў Іван, – дастала ты ўжо мяне!

– Папрашу падбіраць выразы. Вялікая Сістэма Інфармацыі паводле Вашага НІН-кода дае інфармацыю, што Вы ўжо неаднойчы былі няветлівымі з прадстаўнікамі розных сервісаў. Калі Вы не змеціце тон, я павінна буду зрабіць яшчэ адну адзнаку не на Вашу карысць, – псеўдаветліва і салодкаагідна прамовіла прадстаўніца “Пнішчагрыль”.

– НІН чортавы, чортавыя лічбы, вязіце самі, я нікуды не паеду. І замяніце мне вашу другасную ваду на «кока-колу». Усё! Хопіць размоў!

– Прабачце, але наша дзейнасць рэгламентуецца дакументам 9575710/31, што забараняе нам працаваць з прадуктамі з павышаным утрыманнем цукру і кафеіну.

– К чорту вас, вашы нумары і вашы прапановы, зараз з акна выкінуся, давялі мяне ўжо да ручкі, – закрычаў Іван. Ажно ў пот увагнала гэтая суразмоўца.

– Нічога страшнага...

– Што нічога страшнага?

– Ваш лічбавы НІН мне падказвае, што ў вас першы паверх. Цяжкіх траўм не атрымаеце.

– Чортавы лічбы! Жыць нельга ніяк! Павячэраць нават немагчыма, – бурчэў незадаволена Іван, стан яго набліжаўся да істэрычнага.

– Але, выбачайце, Вялікая Сістэма Інфармацыі выдае звесткі, што Вы самі пагадзіліся на чып і на прысваенне Вам Нацыянальнага Ідэнтыфікацыйнага Нумара. Больш за тое, Вы прынялі ўдзел у агульнадзяржаўным рэферэндуме дзесяцігадовай даўніны аб добраахвотнай чыпізацыі насельніцтва краіны.

– Але ж нам абяцалі выгоды і льготы.

– Вы дарослы чалавек, а верыце розным абяцанкам. Але, выбачце, я не маю права выказваць сваё ўласнае меркаванне.

– Дзякуй, я адмаўляюся ад вашых паслуг, – стрымана прамовіў Іван і націснуў на пімпачку «On» на тэлефоне.

– Паснедаю заўтра на працы, – падумаў Іван і пайшоў у ложак, хоць ведаў, што заснуць з пустым страўнікам будзе не так ужо і проста.

Чортавы лічбы...



Алесь Плотка



...Ты засынала з Вольскім,
Я прачынаўся з Зямфірай...

# На мяжы генерацыі Ігрэк

***ПРЭТЭНЗІІ***

гэта зусім і не вершы,
я прэтэнзій ніякіх не маю
лепшы не той, хто першы,
лепшы той, хто маўчыць і знае

што калі душа пойдзе ў вандроўку
і нябёсы ёй скажуць: “Welcome!”
стане *едно* пытанне толькі, –
“Ці застаўся ты чалавекам?..”

***ЛЮДЗІ***

Вага
Тваёй павагі
Дыміць на хвасце іголкі

Я не звяртаю ўвагі
Усе грэшныя мы
І толькі

*9.02.2012 мнск*

## *ЖОРНЫ*

мелюць жорны зерне нашых мараў:
мудрасці не слухае каханне.
недзе паміж катам і ахвярай
станеш у строй і выйдзеш на світанні

сваё імя заменіш ты на роспач
у той святой чарговай барацьбе
а на золку глянеш ў твары побач
і пабачыш там адно сябе

## *А ТЫ?*

ніколі ніколі
не вер маргіналам,
ніколі ніколі
не стань адным з іх.

як словы паволі
ляцяць над абшарам,
так і твая роля
біць рыфмай пад дых.

ніколі ніколі
не вер ты паэтам,
ніколі ніколі
ты з імі не пі.

паміж зямлі солі,
я ведаю гэта,
жывуць камкі болю.
а ты? ці такі?

*9 сакавіка 2011 г., Гомель*

## *XX.YY.ZZZZ – XX.YY.ZZZZ*

на мяжы генерацыі Ігрэк
я гляджу ў пакаленне Ікс
і адзін толькі бачыцца вынік
ўсё адно: што місіс, што міс...

ўсё адно: што містэр, што хлопчык
ўсіх раўняюць труна і вакзал
ты не тое заўжды, што ты хочаш
толькі тое, чым ў выніку стаў

за падзякамі маеш пагрозы
а каму і старт-апам карніз
у жыцці-п'есе мацерна-рознай
толькі лічбы пад фота выходзяць на біс

### *ПАЭЗІЯ*

Маладыя шакалы
Услед за старымі
Аббіваюць вакзалы
Нябёснае Вільні
А старыя шакалы
Маладым наўздагон
Блаславенне з трыбуны
А ў сэрцы – праклён!

Праўда, Божа, што я – адзін з іх?..

### *FACEBOOK*

у жыцці гэтым любіў дзве рэчы:
віскі з колай і віскі без,
водар каляднае свечкі
і ў душу каб ніхто не лез

з баўнці ці нішчымную каву
і людзей. з іх брахнёю і байкамі.
на працы глядзець тут-баву
і застацца сабой...

толькі небам залайканым

### *МЯТА*

аднасоладавы віскі моцна ўзяў мяне ў ціскі
камсамольскія дзве кіскі пудраць мне мазгі
я ў горадзе паснулым між баулам і мінулым
стаўся праўдай паспалітай – просты, як рэцэпт махіта

побач твар Хэмінгуэя, то смяецца, то нямее
з ім чатыры жонкі разам, звонкі смех, восем абцасаў

пакідаючы сцігматы – яны танчаць, я паддаты
па-над гэтым маскарадам – мята. Моцны водар мяты

### *МАСКВА. БАЛКОН*

Масква. Балкон.
І безлічныя гмахі
Урачыста палымнеюць над Масквой

Жыцця майго
Чатыры чарапахі –
На Захад клінам, Усходамі за мной.

*26 ліпеня 2010 г., Масква*

### *СОНЦА*

Сонца
Імкнецца
Спыніцца
  На міг

Сэрца
Заб'ецца
Адно
  На дваіх

*11 студзеня 2010 г., Фрыпарт, Багамы*

### *АНЁЛЫ*

Гублялі
Анёлы
Крылы

– Кахаю!
– Дашлі
На мыла

*30 кастрычніка 2010 г., Гомель*

### *КАЛЯДА*

Даў Бог нам шанцаў,
Імя нам – еднасць
Уніят паганцу –
Як брат на вечнасць!

*25 снежня 2010 г., Гомель*

### НОВЫ ГОД

Мой жах – мяжа
Мужык – мой жаль
Дажынкі – баль
Жыццё – шаша

На веру – шаль,
Пад вэлюм – сталь
Пусты грааль
Каля крыжа...

Ты не пытай.
Пароль – душа

*31 снежня 2010 г. Гомель – 29 кастрычніка мнск*

### КРЫЖЫ

выйдзеш з храма.
ўвойдзеш у фэйсбук.
меладрама?
ды не. проста круг

гаджэтова –
крыжова парука:
крыж націснеш
і выйдзеш з фэйсбука...

*2011, Мінск*

### ЛЮТЫ

За вакном –
ампір,

У вакне –
вампір

П'е гарбату без цукру і колеру

У вакно глядзіць:
Там кіпучы вір

А ў вачах адно –

...жаль-туга па донару

*(с) 26 студзеня 2012, мнск*

### *БУДЗЬМА РАЗАМ?*

Чужое золата заўжды блішчыць ярчэй,
Сваё ж за абразом схавана ў хаце
Крычым мы зычна, гучна – "Будзьма, гэй!",
Хоць Разам мы адно, калі нас гвалцяць...

*7.12.2011, мнск*

### *СЛАЙДЫ*

У летніх снах пад подых навальніцы
Сябры, як слайды, йдуць па-аднаму
Я часам веру, што жыццё нам сніцца...
Хоць ведаю: насамрэч – мы яму...

*28 ліпеня 2010 г., Гомель*

### *HARDCORE NARODOWY*

нам праспекты сталі канспектамі,
што залілі ў глыткі волава
прачыналіся мы з німфеткамі,
набівалі штакеты словамі
іх палілі мы, так нас торкала
ад Неўзорава да Празорава
і каб стаць пасля narodowymi
мы шчыра жылі хардкорава

*19 ліпеня 2013*

### *ТЫ*

ты – чалавек трэкліст
чалавек-падкаст
чалавек-дарагая-рэдакцыя-пастаўце-боба-марлі-мне-
так-пагана
чалавек-абстракцыя
чалавек-атракцыя
чалавек-мама-бля-так-не-хачу-ўставаць-рана
чалавек-мастурбацыя
чалавек-незагойная-рана
чалавек-вы-ўсе-такія-смешныя-з-таго-боку-экрана
чалавек-пад-кайфамі
чалавек-метафара
чалавек-а-не-йшоў-бы-ты-нахер, а?

мне з табою, смяротным, нармальна выпіць па поўнай
а ты жыві і цешся, калі так лягчэй, што я табе не роўня

*26 красавіка 2013. Мінск*

## *ТРОІЦА*

ёсць з кім жыць, з кім спаць, каго кахаць...
троіца – ці вобразная з’ява?

*(с) ранняе*

## *НАДЗЮХА І ЛАТЫШ*

Ты засынала з Вольскім,
Я прачынаўся з Зямфірай
Можна было сказаць – здрада,
Не было каму нас судзіць...

З лёгкім акцэнтам польскім
Бурбалкі Швэпсу шапталі
Нешта пра новы парадак,
Сэрцаў двух залатую ніць...

*9.1.2012, мнск*

## *МАЁР*

Сны на мове – значыць не памёр,
Жоўты ліст – не смерць, хутчэй натхненне.
Не выкручвай рукі мне, Маёр
Вечнае не скорыцца імгненню...

*29.09.2011*

## *ЗАВЕТ КРЫТЫКАМ ЗАЎТРАШНЯГА ДНЯ*

пацалуй мяне ў тэстамент, прыдурак!
напішы за мяне на цэгле
мае творы – не твой завулак
бяры матор і валі адсюль!

...і дзякуй Богу, што я ўжо ў пекле...

*(с) мнск, “розачка”, 14.08.2012*

Дзмітрый Лавіцкі



...Мне трэба сны, я без іх не бачу
прышласці гэтых гаротных месцаў...

# Птушыная нара

### *ЗЕРНЕ*

Котка псавала адзенне, збягала ў вакно,
яна сунімала яе рыбалоўнай сеткай,
потым дастала бляшанку і дадала ў малако
пацучынай атруты, скрадзенай у суседкі.
Гумовыя боты мясілі асеннюю гліну,
на адтапыраным вуху ляжалі тлустыя пасмы,
яна прызвычаілася да мімалётных кпінаў,
не здымала з плеч перашытую занавеску,
хацела разбагацець –
кідала манеты, як зерне, сярод пералеску,
і наступным ранкам там было пуста.
Яна насіла пад пахай закачанелую котку,
глядзела перад сабой, замірала ў выродлівай позе,
і людзі звалі яе ідыёткай.
Але я ведаў гэты падмерзлы позірк,
за шкельцам стаялі саланаватыя, горкія воды,

я ведаў, на месцы пустога жытняга поля,
якое чарнела за ейным з сёстрамі домам,
калісьці гучна шумела мора.

### *ПТУШЫНАЯ НАРА*

Ты лёгка пераканаешся, калі будзеш ісці за мной,
роўна ў след, як насланнё ці пільны ахоўнік,
выпадкова не забяры з сабой
чартапалохаву кветку, хітры дзядоўнік.

Будзь маўклівая, проста сачы за мной:
мой крок спакойны, ён не баіцца
неасцярожна прымяць нагой
познія травы, рудуюігліцу.

Мы патрапім у найапошнейшую пару,
нам шанцуе, нас не заспее старасць і стома.
Калі ты ўбачыш, як птушка злятае ў нару,
табе падасца, нібы ты дома.

### *ПУГАЧ*

Шкада, але дзверы не зачыніць надзейна,
вецер прыносіць чужыя гукі, старыя словы,
увосень рыбы харчуюцца бруднай пенай –
і рыбакі не рады свайму улову.
Мне так шкада, малако наша пагарчэла,
усе вельмі спакойныя – значыць, і ты не плач,
я запомніў, ты маеш занадта тонкае цела
і з усіх істотаў табе найбліжэй пугач.
Але ты не ведаеш: іншыя птушкі ў лесе
глядзяць на яго з нянавісцю і праклёнам,
і ён хаваецца, ён не спявае песень
і выгукае цемру замест імёнаў.

### *КЛЁНЫ*

Калі яшчэ птушка ноч ляжала, як чорны к*а*мень,
у ціхім гняздзе на краі воданапорнай вежы,
я апрануў кашулю, выбіў шкло кулакамі,
і з торбай пайшоў па лесе без пачатку, без межаў.

і ведае толькі падуб, расліна з шырокім вокам,
не гэтага я хацеў

У лесе мне быў абраны найцяжкі сярод законаў –
закон кляновага лісця ў вырытых ветрам ямах:
калі б хто ўзяў маю торбу, то зашумелі б клёны,
і рысь павярнула б торбу з аздобай чырвоных плямаў.

і ведае толькі падуб, расліна з калючым вухам,
не гэтага я хацеў

Калі ж адкідаў я торбу і крок свой трымаў дахаты,
дзе сад вастралістых дрэваў родзіць прыгаршчы ягад,
то чуў, як мяккая лапа расчэсвае твар калматы,
і торбу я там знаходзіў, дзе клёны глядзяць на захад.

і ведае толькі падуб, не гэтага я хацеў

## НЕ ХАВАЙ СВАЙГО ЎБОСТВА

– Я бачыў за колькі гадзін да свята,
чакання і абнаўлення,
як выкідалі на сметнік елку,
і ты там была сярод іншых.

– Значыць, ты глядзеў не на елку,
калі запомніў тугія спіны.

– Я сачыў за табой, не адводзіў вока,
ты апранула гарачае футра –
бляск незвычайны з сінім адлівам
жорсткага ворсу на мёртвай скуры.

– Яву ты бачыш не горш за мрою,
толькі губляеш сваю сцяжыну.

– Мне трэба сны, я без іх не бачу
прышласці гэтых гаротных месцаў,
мне трэба лес, ён дае прастору
і колер верны знаёмых рэчаў.

– Ты бачыш далёка не ўсе адценні,
ты цьмяныя абіраеш фарбы.

– Мне было дадзена прадчуванне,
а ты заўсёды ўдыхала пахі
мараў сваіх і ўспамінаў дзіцячых –
ты ціхі падман, папяровая кветка.

– За маёй хлуснёй ты сваё хаваеш –
сапраўдны празорца, шкляное сэрца.

## *АБНЯСЕННЕ СОЛЛЮ*

Чорны вол неба арэ –
над полем хмара плыве,
дождж не прагнаць рукой,
усмешку крывую, хітрую
я павяртаю колам.

як стала, так перастала

Трэснуў гліняны посуд –
маланка рассекла поўню,
туман праліўся над лесам,
вока пустое, чорнае
я пасыпаю соллю.

як стала, так перастала

Рудое кацяня падбяру,
з лап шалуды звяду,
і хто ва ўсім вінаваты,
будзе меткай закляты –
скуру пазначыць пляма.

як стала, так перастала

Не я свае словы кажу,
і сілы сваёй не маю –
мой векавечны бацька
бачыць вышэй за комін
гэтага цьмянага дома.

як стала, так перастала

## *НЕЛЬГА ПЕРАСТАВАЦЬ ГРАЦЬ*

Маці разгледзела ў ім муз*ы*ку,
абяцала сабе, што не стане плакаць,
вучыла яго апранаць дзве кашулі –
адну ад холаду наваколля,
другую ад злога людскога дыху.
У школе ён так і не змог адолець
хітрыя літары, крохкія лічбы –
колер старонкі выслепліваў вочы,
і ён імкнуўся да цёмных нораў,
шукаў падземныя ручаіны,
з кожным разам глыбейшыя,
больш аддаленыя, забытыя.
Валасы наліпалі на лоб,
скуру псавала пылам,
розум мутнеў ад змроку,
пальцы зрасталіся з флейтай.



Тым Бэртан



...смех святога Міколы гучаў, нібы стогны,
і да груку касцей быў звон бомаў падобны...

# Кашмар на Каляды

*Пераклад з ангельскай і прадмова – Макс ШЧУР.*

***Паэма кінарэжысёра Тыма Бэртана «Кашмар на Каляды» была напісаная на пачатку 1980-х гг., калі творца працаваў аніматарам у кампаніі «Дыснэй» і нішто яшчэ не прадказвала ягонай будучай славы. У той жа час Бэртан дзеля ўласнай забавы стварыў шэраг дзіцячых вершаў, якія ўвайшлі ў кнігу «Меланхалічная смерць хлопчыка-вустрыцы ды іншыя гісторыі». Пазней, калі Бэртан «прабіўся» і стаў вядомым дзякуючы фільмам «Бітлджус», «Бэтмэн» і «Эдвард – рукі-нажніцы», на матывы ягонай паэмы быў зняты аднайменны поўнаметражны мультфільм з музыкай Дэні Элфмэна (1993), аднак Бэртан быў толькі суаўтарам новага сцэнара, у якім дадаліся іншыя персанажы і сюжэтныя лініі. Арыгінальная паэма, надрукаваная асобнай кнігай пры канцы 90-х, засталася адносна мала вядомай у параўнанні з фільмам. Тэкст з’яўляецца шмат у чым парадыйным і адсылае да папулярнага класічнага верша Клемэнта Кларка Мора (1779-1863) «Візіт святога Мікалая» (1823): першы радок верша (“Twas the night before Christmas”) абгульваецца ў назве паэмы, адтуль жа запазычаны вершаваны памер, асобныя рыфмы і цэлыя выразы. Натуральна, калядная ноч у Бэртана ператвараецца ў «кашмар на Каляды» (беларускі пераклад перайначвае назву песні «Цуд на Каляды»), а ролю святога Мікалая бярэ на сябе***

***Ясь Шкялед (Jack Skellington – з рытмічных меркаванняў ён стаў Ясем, а не Якубам). На жаль, беларускага перакладу верша «Візіт святога Мікалая» не існуе, таму парадыйным аспектам паэмы (да якога яна, аднак, не зводзіцца) мы ў беларускай версіі ахвяруем. Англасаксонскія рэаліі (вядомыя шмат каму і ў нас) суіснуюць у перакладзе з айчыннымі: Дзяды (амерыканскі Хэлаўін) згадваюцца побач з дыкенсавым Калядным Духам, падарункі кладуць як у панчоху, так і пад ялінку, і г.д. Наколькі гэты сінтэз арганічны – меркаваць чытачу, але з увагі да міжнароднага, нават глабалізаванага характару самога свята, нам здаецца, што ў такім спалучэнні няма нічога надзвычайнага.***

Вечарком у Краіне Памерлых, дзе
восень аж да касцей праймае,
на пагорку сядзеў і на месяц глядзеў
Ясь Шкялед, празваны Бабаем.
Нібы смерць, бляды, нібы струк, худы,
з кажанком замест матылька,
сумаваў ён, ажно паміраў з нуды:
“Мне абрыдла быць сейбітам вусцішных жахаў!
Па начох я ўжо досыць стагнаў і бабахаў –
зубы й вочы баляць ад такое забавы,
і ад танцаў злавесных смыляць мне суставы.
Жыць магчыма жыццём цікавейшым, бадай —
а то ўсё па цвінтарах хаджу, як бабай!”
Тут, нібы подых ветру, з паблізнай магілы
дух сабачкі з’явіўся плаксівы, панылы.
Гэта Нуль быў, адданы дружбак чалавечка —
у дзіравае пысе паміргвала свечка.
Быў сабачка для Яся найлепшы таварыш —
ды хіба ў гэткай роспачы сябра заўважыш?
Марна цягам начы і наступнага дня
Ясь бадзяўся вакол, прэч хандру адганяў.
Тут у лесе глухім (надыходзіла цемень)
Ясь дзівоснае з’явішча раптам зацеміў.
Недалёка, сярод невялічкай паляны
ўбачыў трое дзвярэй ён – вялізных, драўляных.
Ясь стаяў і не мог даць відовішчу веры:
асабліва адны яго вабілі дзверы.
У экстазе і трансе ён іх адчыніў –
паглынуў яго тут жа віхуры парыў!
Ясь, сабе неўпрыкмет, прызямліўся знянацку
ў самым сэрцы сталіцы Калядаў — Калядску!
Ад святочных агнёў Ясь не плакаў ні мала –
вось якіх адчуванняў яму бракавала!
Каб сябры не лічылі прыгоду прыдумкай,
прыхапіў ён з сабою ласункаў, дарункаў,
аздабленняў, святога партрэт Мікалая,
з елкі зорку – здабыча была немалая;
а на шыльдзе Калядску ўхапіла рука
мімалётам вялікую літару «К».
Што блішчэла і ззяла для Ясева вока –
снегу прыгаршчу нат – ён цягнуў, як сарока,
і прынёс гэта ўсё, бы той злодзей, цішком у
Край маўклівы й гаротны Памерлых – дадому.
На трафеі з Калядску страхоты-таварышы
пазіралі, раты ад здзіўлення разявіўшы.

Нават перапалохаліся некаторыя,
да сюрпрызаў такіх у душы не гатовыя.
У наступныя дні зацяжной навальніцы
Ясь не мог ад маркотных развагаў пазбыцца:
“Калі нехта быць можа святым Мікалаем,
дык чаму мы наўкол толькі сум разсяваем?
Я б не горшы быць мог за таго Мікалая!
Як яго шырыць радасць штогод не стамляе?”
Гэтак, крыўдай абураны, думаў Бабай –
і прыдумаў! “А што? Паспрабую давай...”
Мікалай запакоўваў калядныя цацкі
і пачуў з-за дзвярэй нейкі грукат дзівацкі.
Падышоў, адчыніў – во дзе радасць! Цудоўненька!
Да яго завітала гурма калядоўнікаў!
Апранутыя дзецьмі нябожчыкі-пудзілы
на калядкі й секунды якой не марудзілі:
Мікалая ў мяшок, каб не стаў адпірацца, і –
шусь да Яся, што выдумаў план аперацыі.
Згуртаваўся народ з усяго таго свету –
Мікалая ніхто з іх не бачыў дагэтуль!
І пакуль у дзядулю ўзіраліся монстры,
падзяліўся з ім Ясь сваім планам няпростым:
“Дзед Мікола! Стаміўся ад прывіда ролі я –
а ў цябе на забаву і смех манаполія!
Значыць, сёлета я падарункі раздам –
быць святым Мікалаем я здолею й сам,
за цябе павіншую дзяцей з Калядой –
ты ж ляжы ў дамавіне, псуй людзям настрой.
Адпачні, не крыўдуй, майго плану не лай –
за цябе я не горшы, святы Мікалай!”
Ясь з сябрамі лічылі задуму выдатнай,
толькі ўява пра свята ў іх змрочная надта.
Каляда на парозе! Бабай, без вагання,
у труну, а не ў санкі аленя ўпрагае.
Ды знянацку пад самы прыход Каляды
стала хмарна й туманна, нібы на Дзяды.
Ясь самлеў: “Зацягнула імгла ўсё густая...
Эх, Міколам не буду святым ні чарта я!”
Тут з глыбіняў смугі, невядома адкуль,
свечка бліснула... Хто гэта? Ведама ж, Нуль!
Ясь дадумаўся: “З свечкаю ў пысе дзіравай
ты паказваць мне мог бы, дзе ўлева, дзе ўправа!”
Нуль падобнай ідэяй не мог не натхніцца і
паімчаў, што меў сіл, папярод экспедыцыі.
Як панесліся санкі-касцянкі над сёламі,
заквахтаў Ясь: “З Калядамі ўсіх вас вясёлымі!”
Во кашмар на Каляды! Ад крыку Шкяледава
мыш і тая куды ёй схавацца не ведала.
Калі б раніцай хто зазірнуў у панчоху
над камінам, то, пэўне, спалохаўся б троху.
І якім бы ні быў найутульнейшым ложак,
дзеці снілі бабаяў адно й бабаёжак.
Калі срэбраны месяц заззяў над сумётамі,
у святле ўсе сялібы здаваліся мёртвымі.

Смех святога Міколы гучаў, нібы стогны,
і да груку касцей быў звон бомаў падобны.
Без сумневу, самлелі б усе ад здзіўлення,
каб убачылі санкі з шкілетам аленя!
А пакрыты смяротнаю плесенню фурман
мог падацца Міколам святым толькі дурням.
Гэта Ясь – задаволены, шчасны праўдзіва –
нёс у кожную хату каляднае дзіва.
Усю ноч ён ад коміну лётаў да коміну –
кожны дом атрымаў з таго свету штуковіну!
Ясь не бачыў, што люд у жалобе і паніцы –
ён жа ўсім даў нагоду смяяцца і бавіцца!
Стасю й Стасі малым ён паклаў пад ялінку
яшчэ цёплых, з труны, Васіля й Васілінку.
Падарункам пацешыў малую Амальку:
духам злым апантаную выдаў ёй ляльку.
Іншым даў ён вянок – людажэрную кветку,
да забойцы падобную марыянетку,
паравоз з канцавінамі спрута нязвыклымі,
і мядзведзіка з плюшу з вампірскімі ікламі.
Ясь не бачыў, што жах выклікае і скруху –
ён быў сам у палоне Каляднага Духу!
А калі ён урэшце зірнуў з паднябесся,
то пабачыў агні, знізу грукат данесся...
“Гэта, пэўна, салют! Наваколле святкуе,
каб падзякаваць мне за работу цяжкую!”
Толькі быў беспадстаўна ён выбухам рады –
не салют гэта быў, а гранаты й снарады!
Ад забойчых аскепкаў, шрапнеляў і куль
у вышыні яго верны выцягнуў Нуль.
Уцякалі яны, быццам бурай заспетыя –
толькі збілі іх саманаводнай ракетаю...
Ясь паспеў яшчэ ўчуць, як на могілкі падаў:
“Добрай ночы ўсім вам і вясёлых Калядаў!”
Ён на крыж велічэзны каменны ўскараскаўся –
і адкрылася Ясю карціна фіяска ўся...
“Я ж так верыў, што месца займу Мікалаева!” –
бедаваў ён, не цямячы раптам ні каліва,
і ад горычы вочы закочваў у неба –
арасілася плачам магільная глеба.
Ясь прыпаў да зямлі, побач – роспачны Нулік...
Раптам голас знаёмы абодва пачулі,
гэта быў Мікалай: “Даражэнькі мой, брава!
Не бядуй! Твая спроба – пачэсная справа!
Ды дарма ты мяне падмяняў, баламут:
ты прыдатны ў Краіне Памерлых, бо тут
табе родны знаходзіцца жудасны кут.
Я б сказаў табе болей, – працягваў мудрэц, –
ды спяшаюся надта, бо будзе ўжо днець!
То вясёлых Калядаў!” Ускочыўшы ў сані,
ён імгненна растаў у зімовае рані.
А калі Ясь заснуў, то вясёлы той дзед
пакрыёма Каляды прынёс на той свет.

# “Калі б мы былі сапраўды шчырыя...”

*Сучасная літоўская паэзія*

**Антанас А. ЁНІНАС**

### *ЗАЧАРАВАНАЯ ПРЫГАЖУНЯ*

Хто я ў гэтым пакоі
у гэтым горадзе на гэтым свеце

пяшчотна трымцяць ноздры
злёгку растулены вусны
пульсуюць жылкі на шыі

ці існую яшчэ насамрэч
у гэтай цнатлівай канкрэтыцы спальні
так лёгка магу знікнуць
такі залежны ад твайго сну

нахіліўся над тваім тварам
знікаюць мае абрысы
і ўжо не маю чым
адчуць зусім блізкі жах

### *ПАКОЙ*

У гэтым пакоі мая радзіма
бо тут я з табой засынаю

ключы вісяць над дзвярыма
маўчыць радыёкропка

з усімі кадрылямі й полькамі

у  гэтым пакоі мая радзіма
тут я магу і памерці

ты гнуткая як лазінка ў руках пастуха
калі ён гоніць статак у горы

сумна мне калі ты адыходзіш
але тады я бяру кнігу

столькі разам вымаўчана
пра нашы мінуласці

* * *

Сонца ўзыходзіць знячэўку
промні танцуюць
на вільчыках дахаў
усё крышачку прыгажэй
чым у сапраўднасці
але ў сапраўднасці
яно яшчэ крышачку прыгажэй

### *БАЛАДА ЧАСУ*

Сабакі з волава й цыны
стамлёна ляжаць там
на сходах тэрасаў у ценях калон

гандляры каўбаскамі і марозівам
там не з’яўляюцца

а цыркуль часу крэсліць вакол мяне
усё цяснейшае й цяснейшае кола

у пыльным сонечным святле
сіняй здаецца там срэбная трава

хочацца выць
быццам табе здрадзілі
але сабакі з волава й цыны
там маўчаць

## ВАНДРОЎНАЯ ПЕСНЯ

Гэтыя лясы нараджаюцца з майго сну
гэтыя прасекі зараснікі вольхі на берагах

грукоча млын акрапляе ўзбочыну пырскамі
і – праязджае паўз мяне

бубнач і вартаўнік – яны маўчаць
за імі маўчыць пыльны маліннік

здаралася – ідзе па возеры чалавек
ідзе набліжаецца робіцца меншым і меншым

урэшце знікае ў чароце

цвінтарную браму ўжо замкнулі але я заходжу
ключ ад нумару ў гатэлі якраз да гэтага замка

## ВОСЕНЬ ПРЫЙШЛА Ў НАШ ДОМ

Але але але
той сумны чалавек
анічога больш не скажа
ані слова не прамовіць
але

ляжыць ён на пыльнай траве
ляжыць ён на пыльнай траве
з поўным ротам камянёў
але

анічога яму не сніцца
утаропіліся пяткі ягоныя ў раку
белыя пяткі ягоныя ўтаропіліся ў раку
растае ў небе яго белая далонь
але але
гэта месяц

мы дратуем траву вакол сябе
у злосці мы дратуем траву
ужо нічога ён больш не скажа
але але
ані слова ўжо не прамовіць

гэта толькі мох хрумсціць у нас на зубах

*Пераклаў з літоўскай Уладзімір АРЛОЎ*

## Гінтарас ГРАЯЎСКАС

### *ШЧЫРА*

калі б мы былі сапраўды шчырыя,
мы б не казалі столькі пра шчырасць

увогуле казалі б меней
або зусім маўчалі б

калі б мы былі сапраўды шчырыя,
казалі б: "няшчыра спачуваю"

або "прыміце мае няшчырыя спачуванні".
"няшчыра Ваш –
Граяўскас"

увогуле казалі б нашмат меней

лаканічна

не пыталі б: як пажываеш, як маешся
пыталі б наўпрост: як табе паміраецца?

і шчыра адказвалі б: дзякуй, добра.

### *ХТО СЯДЗІЦЬ У ЦЭНТРЫ СЕЦІВА?*

містыкі кажуць:
у цэнтры сеціва сядзіць павук

няпраўда, не сядзіць

кажуць профі

гэта проста самая вялікая
у свеце сметніца,
дзе туляюцца бамжы
у пошуках хостынгу

самае цікавае тое,
што гэта ўсё – у Нідзе

і мы там маем
свае адрасы

### *WORLD IN YOUR POCKET*

свет вялізны
таму трэба яго ўвесь аб'ехаць
каб ты сам не быў такі маленькі

або капрызна выпнуць губу
і ўсім на злосць не рухацца з месца
пакуль кола не зробіць абарот

так ці інакш, папраўдзе кажучы
няма ніякай розніцы
канец той самы

сядзеш дзе-небудзь на лузе
і ўбачыш: свет ужо якраз
з твой вочны яблык памерам

дакладна памяшчаецца ў вачніцу
быццам бы тут і быў

* * *

будую барыкаду
вакол сябе

груваштчу шафу на ложак
завальваю на бок лядоўню

яны высылаюць парламенцёра
прадаўца піцы

супраціў бессэнсоўны, кажа ён

супраціў бессэнсоўны, згаджаюся я

ён сыходзіць як пераможца
пакідаючы піцу з крабамі

прыходзіць паштальён: вам заказны
ліст, распішыцеся, калі ласка

падпісваюся, мы абодва ўсміхаемся
супраціў бессэнсоўны, кажа мне ліст

я не спрачаюся, ветліва
пагаджаюся: няма ніякай надзеі

тады прыходзіць мармон: ці ведаеш ты
боскі план, пытае мармон

так, супраціў бессэнсоўны, кажу я, мармон
сыходзіць па сходах, мурлыкаючы сабе пад нос

узмацняю барыкаду: затыкаю шчыліны
старымі газетамі й жуйкамі

звоняць у дзверы, ізноў

за дзвярыма прадавец піцы
мармон і паштальён

чаго там яшчэ, пытаю я

вы мелі рацыю, кажуць яны, супраціў
бессэнсоўны, няма ніякай надзеі

таму мы з табой
на адным баку барыкады

## АДЗІН-АДЗІНЫ ВЕРШ

вось паэт, які чуе
галасы, і яму ўжо досыць

вось паэт, што спрабуе вырыгнуць
душу, бо яна яму без патрэбы

вось паэт, што сядае ў вялізны
грузавік і развозіць тушы

вось паэт, што ўдае маладога, рукі
ў кішэні, даўно састарэлы жаргон

вось паэт, які хоча быць лётчыкам,
але стане паэтам, бо шмат чытаў за ядой

вось паэт-ваўкалак, паэт
толькі ўночы, а днём бухгалтар

вось мацёры паэт, які ведае
што друкаваць, а што выкінуць

вось вельмі сур’ёзны паэцішча, які робіць
увесь час тое самае, паўтараючы: пішу няшмат,

вершы доўга выношваю ў галаве, а вось
паэцішча, які нічога не бярэ да галавы

вось паэт-рамантык, які прысвячае
вершы афіцыянткам і вечна гатовы рыдаць

вось іншы паэт, што ўмывае рукі
і насвістае пад дуду клазета

вось паэт, які праслаўляе прыроду, быццам
ёй тыя праслаўленні патрэбныя

вось паэт, які не напісаў ніводнага
добрага радка, але гэта нічога не значыць

вось модны паэт, са сваёй світай,
тайком марыць пра навуковую кар’еру

вось паэт-прафесар, які ўвесь час
хацеў быць модны, але не лёс

вось наіўны паэт, які глядзіць на тое,
што напісаў і дзякуе Ўсявышняму
вось паэт у самым соку, два-тры
дні да вар’яцтва

вось паэт-містык, які скруціў
сабе шыю на кабалістыцы

вось паэт, у якога ў ваннай
постэр з голай Мэрылін Манро

а вось паэт, які не мае ні Манро,
ні ваннай – і мыецца ў тазіку

вось паэт, загнаны ў кут, кінуты
жанчынай, злы і спалоханы

вось паэт, што ахвяруе вершам дзеля метафары
а вось іншы, што ахвяруе метафарай дзеля верша

а вось верш, што прынёс у ахвяру паэта,
кучаравае
ягнятка, ды што там, цэлага барана

адзін-адзіны верш:
такога хопіць на ўсіх.

*Пераклаў з літоўскай Андрэй ХАДАНОВІЧ*

## Гіціс НОРВІЛАС

### *ХРЫБЦАВАННЕ*

Хрыбетнік расце – калі ў незнаёмым асяродку лічаць мяне стоікам
Хрыбетнік расце – калі я глытаю змяю
Хрыбетнік расце – калі ляжу на раздзяляльнай паласе
Хрыбетнік расце – калі ў бацькоўскім палітоне зімую на дарозе
Хрыбетнік расце – калі, абапёршыся на дарожны знак
"асцярожна, вечнасць!", гляджу ў твар вымені сонца
Хрыбетнік расце – калі басанож хаджу туды-сюды па палаце
Хрыбетнік расце – калі шаман праз яго цэліць проста ў вавёрку
Хрыбетнік расце – калі абдымаю слуп тралейбуснага
прыпынку без раскладу
Хрыбетнік расце – калі апоўначы Тласольтэотлі ахвярую свой пот
Хрыбетнік мой – прыступкі на піраміду мурашкавую
Хрыбетнік мой – пазногцем перарваны волас
Хрыбетнік мой – катастрафічны Ла-Манш, што яднае бацьку і маці
Хрыбетнік мой – канат з нанізанымі валунамі, які цюлені
цягнуць далей ад берагу
Хрыбетнік мой – на дне мора капсула з іпрытам, а ён проста
падвеска для ключэй ад морга чужой адзіноты
Хрыбетнік мой – гэта слуп з сульфіду серы ў акіянскім віры,
па якім у святле лавы ідуць карагодам захмялелыя малюскі
Хрыбетнік расце – на паплавах дзяцінства, шчодра ўгноеных, калі
мы, неразрыўна счапіўшыся з братам, абтрасалі свяцілы
ў змроку жнівеньскім, мы іх пасля зарылі, так атрымалася, мяне
не было бачна, так атрымалася

### *ВЕРШАСКЛАДАННЕ АБО КУМПЯКІ Ў ВЯНДЛЯРНІ*

пакуль цёплае мяса яшчэ
часныком шарую і чорным перцам
цукрам
з усіх бакоў
кручу і пляскаю
каб далонню
адчуць як распаўзаецца гарачая
чырвань

абразаю бакі
дзе-нідзе надсякаю
каб форму надаць

абвязваю –
трэба моцна трымацца на драўляным
круку

забіраю ў белую фіранку
каб выглядала прыгожа
як дзіця на хрышчэнні

пакідаю на суткі мокнуць у сваім расоле
каб увабраліся ўсе спецыі
каб косткі змерзліся – настрылася джала
для вострага звону

у маці я папрасіў каб запаліла ў вяндлярні
у полымя добранька падсыпала свежага пілавіння
але так каб дым не быў загарачы –
каб увайшоў, ахалодзіў –
і пакінуў без зменаў і твар і колер

тады вешаю над сабой
у выразна акрэсленую прастору –
над прыпекам

прыходжу праз тыдзень
прыкладаю правае вуха да дзвярэй вяндлярні

## ПАСЛУХАЦЬ

паслухаць – як яно?
рыкае або спяваецца

## ФУТБОЛЬНЫ ЧЭМПІЯНАТ

*...новыя сусветы нараджаюцца з напружанасцяў*

– Я ішоў прагуляцца ў палі
жалезныя балваны высокага напружання
з аглядкай на захад
махалі электрычнымі пугамі
рулоннай саломай ганялі ў футбол
а тым часам у агародах
людзі пладзілі дзяцей і адпускалі грошы –
я апынуўся ў галюцынагенным афсайдзе

## ШЧАСЛІВЫЯ – ПАКУЛЬ У ВОЗЕРЫ –

*...ложкі мы хрыбетнікамі аралі, абменьваліся*
*хрыбцінамі – гулялі ва ўласныя косткі...*

***I***

лодкай слізгаючы па возеры, на іншы бераг –
лязом мовы далікатнічаю з тваім горлам, спаўзаю

па шыі, плячах, кісці пралізваю і пальцы, лашчу пупавіну, і пах
заворваецца, і ўпіваюся, як натомлены ўсім летам клешч,
лодкай слізгаючы па возеры –
вільготна ласуюся саспелай грушай твайго падбародка, дзе гучна
балююць пчолы, цягну да сябе набрынялыя слівы смочак, ад
паўнаты спрабуюць лопнуць, набрынялыя дрыготкай,
нібы авечкі, што коцяцца з гары.
лодкай слізгаючы па возеры –
шчакой гладжу скроні, перасякаю бровы і лоб, вуснамі зрываю
саспелыя вінаградзіны поту –

***II***

калі мы ўначы перакрэслілі возера лодкай, ад сораму не ведаючы, куды пахавацца, зоркі кашлялі ў кулакі. мы махалі сцягамі нашых кашуль, мы веславалі нагамі і тапілі цянёты памяці, мы якары абарвалі, а імі нас трымала зямля. сустрэчны вецер назад запіхваў у горла мары, крыкі і скаргі –
ад сораму не ведаючы, куды пахавацца, зоркі кашлялі ў кулакі –
пакуль мы караскаліся на другі бераг, да глухога мястэчка, з імем, напэўна, Гадэс, месяц рагатаў ва ўсё горла –
а чаўняра мы напаілі і паклалі яго ў чароце. на яго кроўныя мы хацелі купіць опію і ракіі. чым бліжэйшы быў бераг, тым ён рабіўся далейшы. цьмяна відаць было яслі, да іх звяры дзікія шыхтаваліся ў чэргі, Пан меладычна гуляў у косці. ад сораму не ведаючы, куды пахавацца, зоркі кашлялі ў кулакі
і глядзеліся ў азёры – адчыненыя земляныя язвы, дзе мы выгіналіся, юрам набітыя чарвякі, галодныя прагай жыць і паміраць. кожны за двух. шчаслівыя – пакуль у возеры, сярод усіх гэтых дзеяслоўных нявызначаных формаў –

*Пераклаў з літоўскай Андрэй АДАМОВІЧ*

## Данатас ПЯТРОШУС

### *РУБАЦКІЯ ПЕСНІ*

#### *1. Расправа над капустай*

Абвяшчаю пра заканчэнне кастрычніцкай рэвалюцыі:
цямнее, і галовы шух-шух – і ў мех.

Ні кроў, ні грошы, ні ўлада,
не хвалююць, калі такая цемра – узіраешся, абы
не схібіць міма свайго двара.

Палі да вясны пусцеюць,
перапоўненыя насеннем пустазелля.

***2. Сеанс з сякерамі***

з травы лезуць галовы валуноў
мы з бацькам сякерамі дзелім дровы
адна галава рыскрыецца зірне і зноўку назад

вось-вось сцямнее пойдзем вось цяпер паказваць фільм
толькі б не асвісталі не накашлялі
а калі высока-высока там нехта і жыве – нават лепш –
дапаможа ў залю заганяць гэтае быдла

## *СЛЯПЫ БУБНАЧ З АТЛАНТЫДЫ*

ты заснула. Прастора ўздыхнула: яна
сытая намі. А крэйда прыліпае да адказаў
сабака бяжыць. Поўсць следам. Ліняе плямамі.
Свет, які разбураецца. Паводка. Перад світаннем

астрафізіка. Досыць. І колькі пустотаў,
і мы тонем так доўга, што дна ўжо няма нам
так і трэба: табе Поўнач. І твой жа Усход
вось мой сабака. Мая поўсць. А над барабанам
чыесьці косці. Даўлюся. Нахлябаемся ўшчэнт
гэта касту са смехам нясуць плыні
Пасейдона. Платона званітуе дыялогам –
па частках. І ўрэшце толькі соль. І ў выніку

безыменная вільгаць паўзверх валуноў
арыхалкам – калі хочаш – робіцца, веючы
іду лічыць каралеўскіх сланоў
і бяру барабан. Рытм і стварае звера

## *ВЫПРАЎЛЕННЕ ЗАЎВАЖАНЫХ*

Самая пяшчотная жыве на Шкляной гары,
на іншым канцы горада.
Кожнае імгненне побач з ёю – незвычайнае.
Я кахаю яе, гэтую прынцэсу – і ў гэтым мая *arspoetica*.

Часам яна ад’язджае ў Альпы ці Малую Азію – надзяляючы мяне
коткамі, папугаямі і трохпакаёвай трывогай. Толькі развітаемся –
і ўступаюць у сілу ўсе ейныя бяскрыўдныя заклёны.

Ведаць бы, што яны значаць, а то я вар’яцею,
каб паскорыць час – упадаю ў паліклініку,
аддаюся кардыяграфіі і да таго ж перастаю сачыць,

чым жывы свет фатаграмаў. І начамі аднаўляю
немату нашых словаў і прамоваў, іх арфаграцыю і
пунктуарнасць. Перабяляю сторазова кожнае

слова, што замахнулася адлюстраваць яе дасканаласць,
хачу больш ясна ўцяміць поўную немагчымасць моўных
суадноснасцяў, а ўсё маё чыстапісальніцтва – спрэс

бясконцае выпраўленьне заўважаных хібаў.

### *УСТРЫМЛІВАЦЦА АД МЕРКАВАННЯЎ*

На гэтым здымку мне – тры.
На стале – увесь пластмасавы звярынец.
І хоць вочы мае завязаныя ручніком – усіх
звяроў я пазнаю далонямі. Жанчына ў белым
халаце з паперчынай, яна штосьці пазначае,
зебра і я – вось-вось заплачу.

А тут – мне ўжо сем. На вачах
той самы ручнік. Адстаронена і ў той жа
час пераможна – я пасміхаюся і кранаю пальцамі
тую самую зебру. Слонік, ваўчок
і ўвесь звярынец мяне вітаюць і цешацца.

Тая самая жанчына – без нейкіх зменаў
праз усе гады высушальнай медытацыі і аскезы –
раптам кідае ўсе свае запісы, хапае
мяне за плечы, трасе і крычыць:
хто гэта!? хто гэта!?

*Пераклаў з літоўскай Віталь РЫЖКОЎ*

## Бірутэ ЯНУШКАЙТЭ

* * *

апоўначы
сусвет прарваўся
і кроплі
Божае сліны ўпалі

змяшаўшы іх кончыкам языка
з будзённым пылам
ты камячкамі любові
вушы заткнула

спі спакойна любая
у ракавінцы тваёй
плешча месяца ззянне

* * *

усё жыццё шукала
вызначэнне кахання
выпадкова на лесвіцы
ўзяў мяне за рукі
саслізнула ракавінкай багоў
назад у чэрава маці
салодкія воды
залілі мае вусны
знайшла

* * *

у лагчынку
да майго сэрца
упусціла сонца
апошнюю кроплю кастрычніцкага мёду

яна расла
цяжэла
наліла мяне ўсю
я замёрла
у вуллі тваіх далоняў

* * *

углядаючыся
ў цябе, адбітак
у люстры
дзень пры дні
ўсё карацей
валасы
падстрыгаю
калі адрастуць
абцяру імі
Госпаду ногі

* * *

запалала барбарысам
я ў далонях кастрычніка
пляскалі твае рукі
танчылі водбліскі ў тваіх вачах

цяпер у абдымках марозу гасну
хаваюся пад кару зямлі

бледны снежань накінуў
прасціну на маё паміранне
на ёй твае ступакі
пакінулі першы след

*Пераклала з літоўскай Алеся БАШАРЫМАВА*



**Гінтарас Граяўскас** – паэт, драматург, празаік. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў Мар'ямпалі (Літва), вучыўся на Клайпедскім факультэце Дзяржаўнай кансерваторыі Літвы (кафедра джазу). Піша вершы, эсэ, п'есы і раманы. Лаўрэат шматлікіх літаратурных прэміяў, сярод якіх прэмія Міністэрства культуры Літвы (2003) і Залаты Сцэнічны Крыж (2007) за п'есу «Дзяўчынка, якой баяўся Бог». Вершы перакладзеныя на шматлікія мовы. Жыве ў Клайпедзе.



**Антанас А. Ёнінас** – паэт і перакладчык. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Вільні. Старшыня Саюза літоўскіх пісьменнікаў. Скончыў Віленскі ўніверсітэт, працаваў у выдавецтве «Vaga». Выдаў 14 паэтычных кніг. Перакладае нямецкую, латышскую, беларускую і расійскую паэзію. Аўтар перакладу «Фаўста» Гётэ. Лаўрэат шматлікіх літаратурных прэміяў. Жыве ў Вільні.



**Гіціс Норвілас** – паэт, перакладчык, публіцыст. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў Ёнава. Скончыў Віленскі ўніверсітэт, дзе вывучаў гістарычныя навукі. Першая публікацыя вершаў Гіціса адбылася ў 1997 годзе. Выдаў тры паэтычныя кнігі: «Расколы камянёў» (2002), «Сняданак саранчы» (2006), «Зоны разрадкі» (2012). Яго першая кніга была ўзнагароджаная прэміяй за паэтычны дэбют на фестывалі ў Друскінінкаі. Паэзія Норвіласа перакладалася на ангельскую, балгарскую, рускую, латышскую мовы. З 2010 году сябар Літоўскага саюзу пісьменнікаў. Жыве ў Вільні.



**Данатас Пятрошус** нарадзіўся ў 1978 годзе ў Біётай. Скончыў Віленскі педагагічны ўніверсітэт па спецыяльнасці «літоўская філалогія», атрымаў ступень магістра літаратуры. З 2011 года – сябра рады Літоўскага саюза пісьменнікаў і каардынатар міжнародных праграмаў. Аўтар дзвюх паэтычных кніг «З з. захавання» (2004) і «Аорыст» (2009), за якія атрымаў некалькі прэстыжных узнагародаў. Удзельнік шматлікіх літаратурных фестываляў у розных краінах. Вершы Пятрошуса перакладаліся на дванаццаць моваў.



**Бірутэ Янушкайтэ** – паэтка. Нарадзілася ў 1959 годзе. Дэбютавала ў 1986 годзе. Сябра Літоўскага саюзу пісьменнікаў. Лаўрэатка шэрагу літаратурных прэміяў. Паэзія Бірутэ Янушкайтэ перакладзеная на многія мовы, у тым ліку на ангельскую, нямецкую, беларускую, рускую, украінскую і грузінскую. Жыве ў Вільні.

Ніл Гілевіч



…паднесці Вялікаму Сталіну
рыфму "Рагачоў – Магілёў" –
у дзень юбілею! –
гэта ўжо проста хуліганства…

# Мая першая любімая газета

***«Літаратура і мастацтва», 1946-1949***

У адной з папак майго архіва захавалася каля паўсотні «выразак» з газеты «Літаратура і мастацтва» за 1946-47 гг. і каля дзясятка – за гады 1948-49. Вядома ж, выразаў я іх – спачатку вучань сямігодкі, а затым навучэнец педвучылішча – толькі па адной прычыне: гэтыя публікацыі нечым мне падабаліся, нечым былі мне дарагія, і таму – вартымі захавання. Дарагія, бо былі сведчаннем маіх уражанняў ад прачытанага, маіх перажыванняў, маёй надзвычайнай цікавасці да паэзіі, да літаратуры ў цэлым. Дарагія, бо былі для мяне свайго роду «падручнікам па паэзіі»: на чужых дасягненнях і на чужых памылках, аб якіх гаварылася ў газеце, вучыўся пісаць, авалодваць майстэрствам, праходзіў ідэйна-эстэтычную школу. Захоўваў іх, бо – адчуваў патрэбу перачытваць (як неаднойчы руплівыя вучні перачытваюць тэксты ў падручніку).

Усе мае «выразкі» паводле тэматыкі (пра што, аб чым гаворка?) можна падзяліць на пяць груп (падзел досыць умоўны, вядома, бо ўсе яны цесна звязаныя між сабой). Першая група: весткі з гісторыі беларускай літаратуры дакастрычніцкага перыя-

ду; другая: публікацыі аб творчасці сучасных беларускіх паэтаў (артыкулы, рэцэнзіі, фельетоны); трэцяя: інфармацыя аб літаратурным жыцці ў сталіцы і на перыферыі; чацвёртая: матэрыялы пра выкрыццё ў беларускай навуцы, літаратуры і мастацтве «бязродных касмапалітаў»; пятая: старонкі ў гонар 70-годдзя Сталіна.

# 1.

З вялікай цікавасцю, помніцца, я чытаў на старонках «ЛіМа» матэрыялы з гісторыі нашай дакастрычніцкай літаратуры. У прыватнасці, артыкулы Л. Бэндэ, прысвечаныя Якубу Коласу і Янку Купалу. Ну так, таго самага Лукі Бэндэ, які на мяжы 1920-1930-х гадоў бязлітасна, з лютай нянавісцю бэсціў вялікіх народных паэтаў як нацдэмаў – г. зн. ворагаў савецкага ладу і бальшавіцкай партыйнай ідэалогіі. У 1946-47 гадах ён часта наязджаў з Ленінграда ў Мінск і актыўна тут друкаваўся. Вядома ж, ужо зусім з іншых – хвалебных у дачыненні да Купалы з Коласам – пазіцый. (Між іншым у ліпені 1947 года на Першай Рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў ён здрапежыў вершы зялёнага пачаткоўца Ніла Гілевіча). Коласу Л. Бэндэ прысвяціў артыкул «Першае выступленне ў друку» («ЛіМ» за 30.Х.1946 г.), з якога я даведаўся, што «12 жніўня (ст.ст.) 1906 года віленскі губернатар даў дазвол на выданне беларускай газеты «Наша Доля». Коласа «запрасілі прыняць удзел у газеце». “Першы нумар «Нашай Долі» выйшаў з друку 1 верасня (ст.ст.) 1906 года. На сёмай старонцы першага нумара быў надрукаваны верш «Наш родны край!» Якуба Коласа». І яшчэ было мне цікава даведацца, што ў тым жа першым нумары «Нашай Долі» быў надрукаваны яшчэ адзін твор Канстанціна Міхайлавіча – празаічны памфлет «Слабода», падпісаны псеўданімам «Дзядзька Карусь». Аказваецца, Якуб Колас адначасова, у адзін і той жа дзень, упершыню выступіў у друку і як паэт, і як празаік. «Памфлет «Слабода», – справядліва зазначае аўтар артыкула, – паказаў наяўнасць новай рысы таленту Якуба Коласа – схільнасць да сатыры... Гэтая якасць таленту Канстанціна Міхайлавіча разгарнулася далей ва ўсёй сваёй сіле».

«У трэцім нумары «Нашай Долі», – піша Л. Бэндэ, – быў надрукаваны верш Якуба Коласа «Беларусам», у якім паэт заклікаў беларускі народ паўстаць на барацьбу за сапраўдную свабоду роднага краю:

Выйдзем разам да работы,
Дружна станем, як сцяна,
І прачнецца ад дрымоты
З намі наша старана!

У чацвёртым нумары газеты «Наша Доля», канфіскаваным паліцыяй, быў надрукаваны твор новага для Канстанціна Міхайлавіча жанра – казка. Называлася яна «Тры браты». Гэтая казка была пасля перадрукавана ў газеце «Наша Ніва» пад назвай «Дудар» і падпісана псеўданімам «Тамаш Булава».

І яшчэ адна невялічкая цытата з гэтага артыкула: «На старонках газеты «Наша Ніва» пад шматлікімі псеўданімамі (нам вядома 24 псеўданімы Канстанціна Міхайлавіча, якімі ён карыстаўся на працягу першых двух год друкавання), Якуб Колас выкрываў самаўладства і заклікаў беларускі народ на рашучую барацьбу за свабоду».

Паўтараю: мне, пятнаццацігадоваму ў той час падлетку, які ўпотай марыў пра свой паэтычны лёс, адкрываць такія факты з творчай біяграфіі Коласа было вельмі цікава.

У артыкуле «Перапіска Купалы з акадэмікам Карскім» (паводле архіўных матэрыялаў) мяне ўразіла перш за ўсё інфармацыя, што Янка Купала, які закончыў у той час (1919) празаічны пераклад «Слова аб палку Ігаравым» на сучасную

беларускую мову, даў гэтай геніяльнай старажытнай паэме назву «Аповесць аб паходзе Ягоравым, Ягора Светаслаўлева, унука Алегава» і пад такой назвай пачаў друкаваць у часопісе. Акадэмік Карскі, атрымаўшы ад Купалы пераклад, зрабіў пэўныя заўвагі, у тым ліку параіў «не перамяняць скандынаўскае імя «Ігар» на грэцкае – «Егор». У тым жа лісце Карскі пісаў Купалу: «Думаю, што... вы дасце таксама вершаваны пераклад гэтага помніка...» І паэт прыслухаўся да гэтай парады. 5 верасня 1921 года ён скончыў працу над вершаваным перакладам «Слова». Да публікацыі гэтага перакладу Купала зрабіў заўвагу: «Песня аб паходзе Ігара» напісана старой беларуска-славянскай мовай у XII стагоддзі». Вось гэтае «беларуска-славянскай» было для мяне радасным адкрыццём. Бо яшчэ недзе ў 5-м класе мы жалезна засвоілі «памятник древнерусской литературы».

Артыкул «Першыя вершы Янкі Купалы» («ЛіМ» за 30 жніўня 1947 г.) нейкай навізны для мяне не ўтрымліваў, у асноўным быў паўтарэннем вядомага па школьных хрэстаматыях. Хіба што адзін факт уразіў, – акалічнасці апублікавання першага верша «Мужык». «Калі надышоў бурны 1905 год, Іван Дамінікавіч гарэў жаданнем надрукаваць дзе-небудзь свае вершы. Але ўзнікла пытанне, дзе надрукаваць? Свае думкі Іван Дамінікавіч выказаў аднаму знаёмаму. Той выбраў сярод твораў Купалы верш «Мужык» і, карыстаючыся асабістымі знаёмствамі, прапанаваў яго рэдактару газеты «Северозападный край”. У нумары 746 ад 15 мая 1905 года ў гэтай газеце і з’явіўся верш «Мужык». Гэта было першае выступленне Івана Дамінікавіча ў друку”.

Да гэтых публікацый пра творчасць Купалы трэба далучыць і «выразку» з артыкулам «Аб мове Янкі Купалы» («ЛіМ» за 10 жніўня 1946 г.). Аўтар – Пятро Глебка, знакаміты, хрэстаматыйны паэт. Незвычайна змястоўны, глыбока навуковы артыкул. Як уважліва, пільна і па ўсіх правілах мовазнаўства даследаваны лексіка, фразеалогія і сінтаксіс (Глебка піша «сінтакс») мовы народнага паэта, з якой павагай і любасцю! Як прафесійна (з дзясяткамі прыкладаў) паэт ахарактарызаваў усе адметнасці купалаўскіх назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў, дзеяпрыметнікаў! Узрадаваўся, помню, што многія дзеясловы ў Купалы гучаць гэтак жа, як і ў маёй Слабадзе: *скосе, прыходзе, галосе, вуча, ліча, крыша, гавора, зачэпе, асіле, заплаце, працярэбе* (усе прыклады – з артыкула). Ад Глебкі ж даведаўся, што дзеяпрыметнік «паважаны» («паважаны таварыш!») ужываецца ў цяперашнім часе, але мае форму мінулага часу, што гэтая з’ява засведчана яшчэ ў мове «Літоўскага статута» і сёння (1946 год!) мае тэндэнцыю да пашырэння.

Гаворачы пра «адменны каларыт купалаўскага слоўніка», П. Глебка зазначае: «аснову яго складае народная лексіка. Купала выкарыстаў яе, як ніхто. І, бадай што, купалаўскі слоўнік самы багаты ў нашай літаратуры. Ён павінен стаць прадметам спецыяльных доследаў нашых мовазнаўцаў”.

У «ЛіМе» за 27 мая 1946 года пад рубрыкай «Літаратурны каляндар» быў надрукаваны артыкул Р. Шкрабы пра Каруся Каганца. Карусь Каганец – «вядомы беларускі пісьменнік, драматург і паэт». Вядомы! А я і не чуў. А які псеўданім незвычайны, запамінальны! Так, Карусь Каганец – гэта псеўданім, сапраўднае імя – Казімір Кастравіцкі. Памёр «20-га мая 1918 года ў фальварку Юцкі, недалёка ад Койданава,» – паведамляецца ў першых радках артыкула. А калі нарадзіўся – не сказана. Але якая цікавая постаць у гісторыі беларускай літаратуры! Р. Шкраба піша: «Карусь Каганец быў адданым змагаром за вызваленне народа. У 90-х гадах, калі пачыналася літаратурная дзейнасць пісьменніка, ён удзельнічаў у рэвалюцыйных гуртках. За ўдзел у рэвалюцыйным руху К. Каганец быў пасаджаны ў Мінскі астрог, дзе ў той час адбываў пакаранне Якуб Колас». І далей: «Як сапраўдны патрыёт, К. Каганец рашуча асуджаў тых, хто выракаўся сваёй роднай мовы, культуры і звычаяў. У той жа «Прамове» ён пісаў: «Ці справядліва гэта – усяго, што сваё, чурацца: і мовы свае, і звычаю свайго, і вопраткі свае?»

Не толькі мовы, звычаяў, але і вопраткі... Гэта я чытаў у сваёй Слабадзе ў маі 1946-га. Чытаў, і запамінаў, і асэнсоўваў, і, адпаведна, – думаў. Пазней, калі пайду ў Мінск вучыцца, буду чытаць зусім іншае, буду даведвацца, што ў процілегласць Купалу і Коласу Карусь Каганец належаў да буржуазна-дваранскага, рэакцыйнага лагера ў дакастрычніцкай беларускай літаратуры. Так было: першыя два пасляваенныя гады адчувалася пэўная паслабка да праяваў беларускага нацыянальнага патрыятызму. Ну а затым – пачалося! Пачалася жданаўшчына... У справах літаратурных – перш за ўсё...

## 2.

Натуральна, асноўнае месца на старонках «ЛіМа» займала асвятленне сучаснага літаратурнага працэсу. Адпаведна і ў стосе маіх «выразак» пераважаюць публікацыі пра сучасную паэзію: эсэістычныя або крытычныя артыкулы і рэцэнзіі на новыя кнігі беларускіх паэтаў.

У нумары за 18 студзеня 1947 года змешчаны невялікі літаратурны партрэт Максіма Танка, выкананы пяром ужо знакамітага ў той час (сталінская прэмія першай ступені!) Аркадзя Куляшова. Шчыра кажучы, і выразаў я гэтую публікацыю таму, што яе аўтарам быў мой самы любімы з усіх сучасных паэтаў Аркадзь Куляшоў. («Смак» да паэзіі самога Танка ў мяне абудзіцца намнога пазней). Я ведаў вершы і паэмы Куляшова, а тут – проза, артыкул, і напісаны бліскуча, на ўзроўні яго паэтычнага таленту. Заінтрыгавала ўжо сама назва артыкула: «Максім Танк». Без ніякага дадатку-удакладнення. Вельмі нязвыкла. «Максім Танк» – і ўсё! Коратка – як стрэл.

Сёння можа здацца проста неверагодным, што Аркадзь Куляшоў так высока ацаніў творчасць калегі. Вядома, што гэты майстар пахваламі не раскідваўся, у публічных ацэнках паэзіі сваіх сучаснікаў быў досыць стрыманы, ды і рэдка, вельмі рэдка калі выказваўся. Ну а тут вось... поўнай мерай аддаў належнае.

Дарэчы, вытрымкі з вершаў Танка, якія прыводзіць у артыкуле Куляшоў, пазней цягам дзесяцігоддзяў будуць паўтарацца ў артыкулах іншых даследчыкаў яго паэзіі, ува ўсіх падручніках па гісторыі беларускай літаратуры. Напрыклад, з верша «Спатканне»:

Не плач. Мы вернемся вясной
І ў поле выйдзем грамадой.
Яшчэ мы ўбачым свет зары, –
Не плач і не бядуй, стары.

Або – з верша «На пероне»:

На Захад ідуць цягнікі.
Лён,
Жыта,
Сасна і бяроза...
Гляджу і гляджу з-пад рукі,
Як моладасць нашу вывозяць.

Або – вось гэтыя крылатыя радкі з верша пра пахаванне «галоўнага ката былой Польшчы» Пілсудскага (“Гавораць, кат памёр»):

А я іду і ледзь не крыкну,
Каб несці радасць памаглі.

Дзеля справядлівасці зазначу, што ў гэтым артыкуле Куляшоў разглядае толькі даверасьнёўскую паэзію Танка, і амаль ні слова – пра вершы ваеннага часу. А ёсць

жа сярод іх і выдатныя (напрыклад, «Што за узгоркам сінее, таварыш?»). Як у такім разе кажуць: ёсць пытанне.

Роўна праз год (28 лютага 1948 г.) у «ЛіМе» быў надрукаваны даклад Аркадзя Куляшова «Беларуская савецкая паэзія за 1947 год», з якім ён выступіў на рэспубліканскім сходзе пісьменнікаў. Канечне, сярод усіх захаваных мною артыкулаў і рэцэнзій, прысвечаных паэзіі, гэта – дакумент галоўны. Даклад надрукаваны ў скарачэнні, тым не менш – займае цэлую лімаўскую паласу (тады фармат «ЛіМа» быў удвая большы, чым сёння). Калі мяне ўвогуле цікавіла, хто і што гаворыць у друку пра сучасную беларускую паэзію, то словы Куляшова па ўжо сказанай трохі раней прычыне (любімы паэт!) было мне асабліва цікавым.

Зрабіўшы, як і павінна быць у дакладзе, досыць грунтоўны ўступ, Куляшоў перайшоў да канкрэтных імёнаў і твораў. І пачаў – думаю, што невыпадкова – з Максіма Танка (хаця быў жывы і плённа працаваў славуты народны паэт Беларусі Якуб Колас, які мог за такое «апярэджанне» і пакрыўдзіцца.) «Трэба адзначыць, – гаворыць Куляшоў, – работу паэта Максіма Танка над вялікай кнігай вершаў». (Мелася на ўвазе кніга «Каб ведалі», якая ўжо была падрыхтавана да друку). «Новыя вершы М. Танка даюць нам падставу гаварыць аб творчых удачах паэта». Далей, пасля доўгага пераліку творчых удач у іншых паэтаў, Куляшоў больш-менш падрабязна спыняецца на трох наступных кнігах.

«З кніг, што выйшлі з друку ў 1947 годзе, у першую чаргу трэба назваць эпічны твор Якуба Коласа – паэму «Рыбакова хата». Тэма твора – уз’яднанне беларускага народа ў адзінай савецкай дзяржаве.

У імкненні да аб'яднання з Савецкай Беларуссю, у імкненні да савецкай улады з боку працоўных былой Заходняй Беларусі – асноўная ідэя твора, яго паветра, яго сонца».

Помню, як мяне ўразіла гэтая цудоўная метафара «яго паветра, яго сонца».

А далей – пра камуністаў: «Камуністы – абаронцы народа, яго патрэб, гэта сам народ. Да такой думкі прыходзіць аўтар у паэме «Рыбакова хата».

«Вось перад намі другая кніжка, выдадзеная ў 1947 годзе. Гэта невялічкі зборнік вершаў і паэмаў памёрлага ў тым жа годзе паэта Валянціна Таўлая. (...) Вершы Таўлая чытаеш як агністы летапіс змагання.

Глядзі ў ваўчок як дзень, так ноч, –
Не ўбачыш, чорт зіркаты,
Як я заўзята і даўно
Пілую вершам краты.

Вершам паэт пілаваў турэмныя краты, каб даць волю вязням капітала».

«Асаблівай увагі заслугоўвае надрукаваная ў зборніку невялічкая паэма Таўлая пад назвай «Таварыш». Гэтую паэму, падкрэслівае Куляшоў, «я лічу адным з лепшых твораў, які мне давялося прачытаць у 1947 годзе». І далей: Таўлая «можна лічыць адным з лепшых савецкіх беларускіх паэтаў».

Зборніка В. Таўлая «Выбранае» я тады яшчэ не чытаў, але ўяўленне пра яркасць таленту паэта меў і быў заінтрыгаваны гэтым імем, калі ў «Полымі» прачытаў верш «Аддаю шчыры голас салдацкі» (яшчэ недзе ў пачатку 1946 года). Верш быў напісаны да выбараў у Вярхоўны Савет, здавалася б – будзе, адпаведна тэме, нешта казённа-рытарычнае, афіцыйна-пафаснае, а тут – чалавечныя, спавядальна-шчырыя радкі, і зусім натуральная даверлівая інтанацыя:

Я ўзмужнеў, пасталеў на вайне,
І хоць свеціцца срэбра на скронях –
Дзядзькам клічаш дарма ты мяне:
Першы раз галасую сягоння.

З таго часу і па сённяшні дзень помню гэтую страфу, якой верш пачынаўся.

«У 1947 годзе, – гаворыць далей дакладчык, – выйшла з друку яшчэ адна кніга вершаў, якая, на жаль, да гэтага часу не знайшла ў нас ацэнкі, вартай свайго значэння. Я маю на ўвазе кнігу вершаў Міколы Засіма «Ад шчырага сэрца». Да гэтага часу ў літаратурных колах бытуе не зусім правільная ацэнка Міколы Засіма, якая, бясспрэчна, прыніжае яго вартасць. (...) Я прывяду тут верш Міколы Засіма «Сэрца», які, на маю думку, не павінен пакінуць і ценю сумнення ў майстэрстве паэта. Вось гэты невялічкі па памеры, але глыбокі па пачуццю і думцы верш:

Ці хто зрабіў ключы ад сэрца?
Такі мудрэц яшчэ не жыў.
І носіць, беднае, да смерці,
Што лёс сабраў і палажыў.
Не скажа нават смерці лютай,
Пра скарбы тайнікоў сваіх.
Таму – на ўсё надзенеш путы,
Адно – няма на сэрцы іх.

Сёння, з вышыні часу, ведаючы, якія тады былі патрабаванні да паэзіі: дай сучаснасць, дай пафас пераможнага будаўніцтва камунізму, дай вобраз гераічнага савецкага чалавека, – проста дзіўна, што Куляшоў праяўляе і мудрасць, і мужнасць, і падае як узор сапраўднай высокай паэзіі верш, у якім ніякага водгуку на гэтыя дай! дай! дай! няма: ні пераможнага пафасу, ні гераічнага вобразу, ні гераічных будняў, – а ёсць толькі чалавечнасць, толькі праўда пра чалавечае сэрца.

Думаецца, што Куляшоў адкрыў тады таленавітага паэта Міколу Засіма для многіх-многіх чытачоў, – як і для мяне, аднаго з многіх. Бачу нешта прыгожае, высакароднае ў гэтым учынку знакамітага паэта.

А з адным крытычным выпадам у дакладзе я тады не пагадзіўся. Асуджаючы «непераадоленую літаратуршчыну» ў паэзіі, Куляшоў у якасці прыкладу разглядае верш Максіма Лужаніна «Васілёк». На яго думку, Лужанін некрытычна паўтарае памылковы, «ідэалістычны погляд на мастацтва», выказаны калісьці Багдановічам. «Савецкі паэт Максім Лужанін, на жаль, не ўзняўся вышэй сцвярджанняў Багдановіча. Вось як піша Лужанін аб васільках:

Говораць – марная трава.
Мой васілёк! Я разумею,
Цябе я з жыта вырываў,
А з сэрца выпалаць не ўмею».

Калі я прачытаў «Васілёк» Лужаніна ў «Полымі» (1946, № 12) – я быў у захапленні, і, вядома ж, не бачыў у ім ніякага ідэалізму. Васілёк як сімвал павінен быць у сэрцы беларускага паэта! Абавязкова! А як жа інача?! І вось – на табе! Куляшоў верша не прыняў.

Артыкул І. Кудраўцава пра апавяданні ў часопісах «Полымя» і «Беларусь» («ЛіМ» за 2-га жніўня 1947 г.) называецца «Статычнасць і схематызм». Як сведчыць назва, артыкул цалкам крытычны. Вось некалькі вытрымак з яго: «За некаторымі выключэннямі ў гэтых апавяданнях мала жыцця, мастацкай праўды». І далей: «Коўзанне па паверхні, схематызм і спрошчанасць, яшчэ ў большай меры, чым для ваенных, характэрна для апавяданняў на сучасныя тэмы. Аўтары іх звычайна – пабочныя сузіральнікі, рэгістратары падзей... Невыпадкова і сюжэты апавяданняў будуюцца трафарэтна...»

Яшчэ ў большай меры крытычнасцю ацэнак вызначаюцца рэцэнзіі на новыя кнігі паэзіі. У стосе маіх «выразак» іх каля дзясятка, і вось як яны гучаць:

«Аб вытворчасці рыфмаў» – пра першы зборнік П. Прыходзькі “Голас сэрца»

(аўтар Ул. Шахавец); цытата: «Мы, некалькі разоў прачытаўшы “Голас сэрца», не знайшлі ніводнага сапраўды паэтычнага радка...» Вось так! Ніводнага радка! А кніга выдадзена. «Выдавецтва зрабіла мядзведжую паслугу і чытачу, і маладому паэту...» («ЛіМ» за 18 кастрычніка 1947 года).

«На старых сцежках» – пра зборнік Ніны Тарас «Суніцы» (аўтар І. Кудраўцаў). На старых – значыць, нічога новага. Цытаты: «Мова вершаў бедная, месцамі неахайная...» «На некаторых вершах ляжыць адзнака паспешлівасці, непатрабавальнасці да сябе...» «Паэтэса пачынае паўтараць сама сябе, топчацца на адным месцы». І прысуд: «Далейшага росту Ніны Тарас як паэта няма» («ЛіМ» за 15 сакавіка 1947 года).

«Непераадоленыя традыцыі» – пра першы зборнік вершаў Алеся Астапенкі «Выпрабаванне» (аўтар Ул. Шахавец). Цытаты: «Вершы маюць значныя хібы і недахопы...» «Змешчаныя ў зборніку вершы сапраўды гавораць аб тым, што пакуль што свайго яскрава вызначанага голасу Астапенка не мае і знаходзіцца ў палоне перайманняў і ўплываў...» «На жаль, Астапенка часта... не ўмее знаходзіць дакладнае слова, дае вобразы, якія не стасуюцца да кантэкста, не прадумвае іх» («ЛіМ» за 9 жніўня 1947 года).

«Прастата і спрошчанасць» – рэцэнзія на зборнік вершаў Адама Русака «На родных палетках» (аўтар Ул. Шахавец). Замест прастаты – амаль у кожным творы спрошчанасць, – канстатуе рэцэнзент. Цытаты: «...у яго вершах цяжка знайсці новыя вобразы, якія з’яўляліся б яго ўласным здабыткам як паэта»; «...большасць вершаў гэтай катэгорыі... з’яўляюцца толькі перапевам, некаторай перафразіроўкай»; «...згубіўшы пачуццё меры, ён звёў прастату да аднастайнасці» («ЛіМ» за 12 красавіка 1947 года).

«У палоне прыроды» – пра першы зборнік вершаў Міколы Гамолкі «Зварот шчасця» (аўтар Ул. Шахавец). Цытаты: «Паэт даволі часта сцвярджае, што шчасце ў спакоі, цішыні, адпачынку на ўлонні прыроды. Зусім няправільнае, глыбокапамылковае разуменне». «У некаторых вершах няма не толькі глыбокай думкі, але нават ніякай». «Асобна патрэбна спыніцца на нядбайных, неахайных адносінах паэта да рыфмы» («ЛіМ», 15 лютага 1947 г.).

«Заганная ідэя, фальшывы герой» – рэцэнзія на новую паэму Антона Бялевіча «Дарога з няволі» (аўтар Пімен Панчанка). Назва гаворыць сама за сябе, і таму цытаты непатрэбныя. Груба кажучы, аўтар не пакінуў жывога месца на паэме. Хіба мог я не захаваць гэту «выразку» – я, бязмежна ўлюбёны ў паэзію Пімена Емельянавіча? Калі гэта напісаў Панчанка – значыць, я павінен чытаць, чытаць і чытаць.

За нязначным выняткам, усе лімаўскія рэцэнзіі і водгукі тых гадоў былі вельмі крытычныя. Самі іх загалоўкі часам проста агаломшвалі. Напрыклад, водгук на прозу Максіма Лужаніна ў «Вожыку» называўся «Пошлая пісаніна» (аўтары А. Зарыцкі і А. Вялюгін, «ЛіМ» за 1 сакавіка 1947 г.). Паспрабуй не прачытаць! Гэта ж пра Лужаніна! Мяне гэта ўражвала незвычайна. Аказваецца, можна і так гаварыць пра творчасць паэтаў і пісьменнікаў, прычым – не маладых, а прызнаных і вядомых. Можна, бо да гэтага – да прынцыповай бальшавісцкай крытыкі – заклікае партыя. І калі нехта ад лініі партыі адступіў і напісаў нешта «не тое», не «у адпаведнсці» – ніякай літасці! Крытыка павінна за гэтым сачыць! І яна сачыла. І не толькі за творчасцю, а і за грамадскім абліччам аўтара, за яго маральнымі паводзінамі. Помню, якое ўражанне на мяне зрабіла публікацыя «Кепскія ландышы» (пад рубрыкай «Замест фельетона»). Аўтар – нехта Якрас Ятута (псеўданім, вядома). Перачытваю гэтую пажоўклую «выразку». Аж не верыцца, што быў час, калі пра паэтаў (мастакоў, кампазітараў, артыстаў) можна было пісаць вось так.

“Яшчэ Някрасаў сказаў:

Поэтом можешь ты не быть,
Но гражданином быть обязан...

Нават кожны школьнік ведае гэты святы запавет вялікага паэта. І вельмі дзіўна, калі ў асяроддзі савецкіх пісьменнікаў знаходзяцца людзі, якія ў прыватным жыцці не дбаюць аб чыстаце свайго грамадскага аблічча, не лічацца з нашай камуністычнай мараллю, з нашымі поглядамі на сям'ю і побыт.

У сваіх вершах паэт Анатоль Астрэйка часта дакляруе аб «чыстым, непарушным каханні». Прыгадаем яго верш «Ландышы», які пачынаецца:

Я іх табе вясной прынёс
З зялёнай кальварыйскай далі.
Празрыстыя крупінкі слёз
Яшчэ на лісці трапяталі.
Пачырванела ты ў адказ
На мой паклон і прывітанне.
Хай стане песняй гэты час
Святога чыстага кахання.

(...) Ад самога аўтара гэтых радкоў да «святога чыстага кахання» гэтак жа далёка, як да зор нябесных. Для кожнага, хто добра ведае вельмі ласага да выпіўкі Анатоля Астрэйку, вядома, што ягоныя «ландышы» – своеасаблівая «дон-жуанская вуда», якая закідваецца для спакусы лёгкаверных жаночых сэрцаў.

Кінуўшы дзвюх сваіх жонак з дзецьмі, гэты паэт рынуўся ў амурнае падарожжа, і ўжо паспеў ажаніцца ў трэці раз... Кепска пахнуць «астрэйкавы ландышы», ад іх тхне смуродам багемы» («ЛіМ» за 12 кастрычніка 1946 г.). «Выразка» з фельетоннай публікацыяй «Кепскія ландышы» ў маім архіве счэплена з «выразкай», у якой змешчана паведамленне аб рэагаванні кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў на амаральныя паводзіны паэта Астрэйкі. Чытаю: «Праўленне заслухала інфармацыю П. Кавалёва аб справе члена ССПБ Анатоля Астрэйкі. Выступіўшыя т.т. К. Крапіва, М. Клімковіч, П. Глебка, А. Куляшоў, Я. Шарахоўскі, Ц. Крысько, А. Кучар і інш. сурова асудзілі бытавую разбэшчанасць А. Астрэйкі, несур'ёзныя адносіны да сваіх літаратурных выступленняў, якія дыскрэдытавалі яго як савецкага пісьменніка. (...) У пастанове Праўлення адзначана, што А. Астрэйка, безумоўна, заслугоўвае выключэння з Саюза СПБ, але, улічваючы яго самаадданую працу ў час вайны і шчырае прызнанне сваіх памылак, яму была вынесена суровая вымова з папярэджаннем».

Вось гэтак строга, каб не сказаць – жорстка, крытыкаваліся ў першыя пасляваенныя гады і заганы творчасці (асабліва заганы ідэйна-змястоўнага характару), і маральныя правіннасці ў побыце. Аднак заяўляла гэтая практыка пра сябе не вельмі доўга, паступова размова пра паэзію і паэтаў стала больш спакойнай, стрыманай, асцярожнай. А затым – і больш раўнадушнай. Каму якая справа, хто колькі разоў жаніўся, хто колькі разоў трапляў п'яны ў міліцыю, хто колькі пакінуў бязбацькавічамі дзяцей? А каго надта цікавіць і сама паэзія? Ну ёсць, ёсць яшчэ трохі чытачоў. Але, але!..

## 3.

З матэрыялаў пра падзеі ў літаратурным жыцці рэспублікі захаваліся: адна «выразка» і два нумары «ЛіМа» цалкам. «Выразка» – з некралогам памяці Валянціна Таўлая і невялічкай нататкай пад загалоўкам «Развітанне». Некралог падпісалі: Я. Колас, затым чатыры высокія чыноўнікі, затым К. Крапіва, М. Лынькоў, П. Броўка, А. Куляшоў, М. Танк, П. Глебка і яшчэ 25 пісьменнікаў, сярод іх і жонка Янкі Купалы У. Луцэвіч (Таўлай працаваў навуковым супрацоўнікам Музея Янкі Купалы, дырэктарам якога

была Уладзіслава Францаўна). На паніхідзе, якую адкрыў М. Лынькоў, развітальнае слова сказалі М. Танк, Я. Брыль і П. Пястрак – усе трое з былой Заходняй Беларусі (маўляў, нябожчык быў нам бліжэй). Калі верыць «ЛіМу», Янка Брыль сказаў так: «Жыццё Валянціна Таўлая будзе служыць яркім прыкладам для нашай моладзі ў нястомнай самаадданай барацьбе за справу Леніна-Сталіна».

З двух нумароў «ЛіМа» адзін (за 2 жніўня 1947 года) я свята захоўваў таму, што ў ім быў падрабязны рэпартаж пра Першую рэспубліканскую нараду маладых пісьменнікаў Беларусі, удзельнікам якой мне, у няпоўныя шаснаццаць, пашчасціла быць. У інфармацыі аб рабоце секцыі дзіцячай літаратуры паведамляецца: «Н. Гілевіч надрукаваў некалькі сваіх вершаў у часопісе «Бярозка». На секцыі ён прачытаў новыя вершы. Усе выступаўшыя адзначылі, што маладому паэту неабходна дамагацца дасканаласці ў апрацоўцы твораў».

На гэтай жа паласе газеты быў змешчаны шырачэзны здымак з подпісам: «Беларускія пісьменнікі сярод удзелынікаў рэспубліканскай нарады. У цэнтры Якуб Колас». Так, у цэнтры сядзіць Канстанцін Міхайлавіч, злева ад яго – Янка Маўр, справа – П. Броўка. За Броўкам стаіць удзельнік нарады І. Шамякін, за Шамякіным, ужо ў трэцім радзе, Н. Гілевіч, палавіну твару якога засланіла шавялюра Івана Пятровіча.

У інфармацыйнай нататцы «Заключнае паседжанне» паведамляецца:

«П. Броўка падтрымаў пажаданне ўдзельнікаў нарады аб выданні маладзёжнага часопіса». (Праз шэсць гадоў, толькі праз шэсць гадоў! – гэта здзейсніцца: пачне выходзіць часопіс Маладосць»). Далей у гэтай нататцы падаюцца ўрыўкі з выступлення Якуба Коласа перад маладымі. Галоўнае пажаданне народнага паэта – цытую: “трэба, каб літаратурная моладзь увесь час рухалася наперад, развівала назіральнасць, узбагачала сваю мову, веданне людзей».

Другі цалкам захаваны нумар «ЛіМа» (за 6 сакавіка 1948 г.) прысвечаны рэспубліканскаму сходу пісьменнікаў Беларусі. Якой дзяржаўна-грамадскай важнасці гэта была падзея – можна меркаваць па дзвюх дэталях. Першая – прывітальнае пасланне ад удзельнікаў сходу «Таварышу Сталіну Іосіфу Вісарыёнавічу», другая – удзел у сходзе Генеральнага сакратара Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР А.А. Фадзеева.

Вельмі цікава сёння перачытваць пасланне правадыру. Цытую: «Агульны рэспубліканскі сход пісьменнікаў Беларусі ўрачыста абяцае Вам, дарагі і любімы таварыш Сталін, што пісьменнікі Беларусі ўпарта будуць працаваць над глыбокім вывучэннем марксізма-ленінізма, які, падобна сонцу, асвятляе наш шлях». І далей: «Мы запэўніваем Вас, мудры правадыр і настаўнік, што па-бальшавіцку разгорнем крытыку і самакрытыку, пераадолеем недахопы ў нашай творчасці. Мы нястомна будзем змагацца за ленінска-сталінскую партыйнасць у літаратуры, за высокую ідэйнасць, за народную прастату, за сапраўдную мастацкасць твораў». І яшчэ: «Ваша нястомная дзейнасць дзеля дабра савецкага народа, Ваш светлы і любімы воблік, Ваша дарагое імя натхняюць нас у нашай рабоце. Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, з Вашым імем у сэрцы мы пераможам».

Вось такія абяцанні, такая прысяга-клятва Вялікаму... Гэта – не жартачкі. Толькі паспрабуй хто ўхіліцца... Паспрабуй не перамагчы...

Прамова на сходзе Генеральнага сакратара ССП СССР А. Фадзеева таксама заслугоўвае ўвагі. Ужо сама яе назва ўражвае маштабнасцю пастаўленай задачы: «Створым камуністычнае мастацтва сусветна-гістарычнага значэння». Во як! Сусветна-гістарычнага! І не менш!.. І зноў жа – гэта былі не пустыя словы, гэта была глыбокая і шчырая вера ў прыгожы, высакародны ідэал... Прынамсі, для Фадзеева і такіх, як ён. Падаю некалькі цытат: «Мы з’яўляемся творцамі літаратуры, якой яшчэ не было да нас». «Сярод нас ёсць свядомыя і несвядомыя носьбіты нявер’я ў нашы сілы, людзі, якія схіляюцца перад заграніцай... Гэтае схіленне перад Захадам

перашкаджае нашаму руху наперад, цягне нас назад». «Нізкапаклонства перад Захадам – адзін з нашых ідэйных праціўнікаў, які перашкаджае развіццю нашай літаратуры і з якім мы павінны змагацца. Ёсць і другі ў нас праціўнік – буржуазны нацыяналізм, яго перажыткі і забабоны. (...) Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі буржуазныя нацыяналісты заўсёды былі здраднікамі сваёй нацыі і свайго народа; яны заўсёды былі прыслужнікамі замежнага капітала». У якасці ўзорнага нацыяналіста ў сучаснай савецкай літаратуры Фадзееў называе выдатнага ўкраінскага паэта Максіма Рыльскага. (Пра яго рэзка крытычна гаварыў на сходзе і госць з Украіны Сава Галаваніўскі). Рыльскі «імкнуўся ўваскрасіць у сваёй творчасці нацыяналістычныя забабоны», «імкнуўся ўзвысіць зброю буржуазнай рэакцыі». Аж во гэтак крута! Бедны Максім Тадэевіч!.. Калі сам Генеральны так гаворыць, ды з высокай трыбуны, а ніхто ні слова ў абарону, – то справы кепскія. Для паратунку – трэба неадкладна пісаць нешта марксісцка-ленінскае, дакладней – ленінска-сталінскае.

Зала прамову Фадзеева неаднойчы перабівала воплескамі. А вось фінал. «Дык будзем жа пад кіраўніцтвам нашага вялікага Сталіна ствараць нашае, сусветна-гістарычнага значэння, камуністычнае мастацтва!» (*Бурныя, доўга незмаўкальныя апладысменты*).

Даклады, зробленыя на сходзе (аб паэзіі – А. Куляшова, аб прозе – М. Лынькова, аб драматургіі – К. Крапівы), на працягу аж двух дзён абмяркоўваліся тымі, хто іх чуў. Канечне ж, слова бралі і незадаволеныя, «пакрыўджаныя». М. Лужанін, напрыклад, скрытыкаваў даклад Куляшова. Дык і не дзіва: успомнім ацэнку, дадзеную дакладчыкам ягонаму вершу «Васілёк». А. Кучар пакрыўдзіўся не за сябе, а за Купалу і Коласа. Цытую: «А. Кучар крытыкуе А. Куляшова за тое, што ён у дакладзе, аддаючы самую вялікую ўвагу творчасці В. Таўлая і М. Засіма, гэтым самым нібы арыентуе пісьменнікаў на іх творчасць. Ці не лепш было б арыентавацца ў творчасці на такіх пісьменнікаў, як Я. Купала, Я. Колас, у якіх вучыліся ўсе нашы паэты, у тым ліку В. Таўлай і М. Засім...»

І нарэшце такая інфармацыя: «Сход зацвердзіў рашэнне Праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР аб утварэнні сакратарыята ў складзе Галоўнага сакратара П. Броўкі, сакратара па прозе – М. Лынькова, сакратара па паэзіі – А. Куляшова, сакратара па драматургіі – К. Крапівы, сакратара па агульных пытаннях – П. Кавалёва».

Так П. Броўка (успамінаю пазнейшыя размовы) спіхнуў з пасады старшыні Праўлення СП БССР М. Лынькова і на васямнаццаць гадоў узначаліў пісьменніцкую арганізацыю рэспублікі. Гэта была, казалі, яго запаветная мара. «Дайце лейцы, лейцы дайце! Я пакажу, як трэба кіраваць пісьменнікамі!»

## 4.

У беларускай перыёдыцы 1948-49 гадоў, у тым ліку – у газеце «ЛіМ», вельмі значнае месца занялі публікацыі, прысвечаныя барацьбе з касмапалітамі – дзеячамі навукі, літаратуры, мастацтва, настроенымі на антыпатрыятычны, антысавецкі лад, свядомымі ці несвядомымі абаронцамі і праваднікамі варожай нам ідэалогіі капіталістычнага грамадства. У маім архіве захавалася аж восем «выразак» на гэтую тэму. Дарэчы, закрануў яе ў сваёй прамове і А. Фадзееў, абвясціўшы адной з галоўных задач нашай крытыкі – бескампрамісную барацьбу супраць нізкапаклонства перад Захадам. Сутнасць гэтай з'явы была лёгкадаступнай разуменню нават самых простых грамадзянаў краіны, тым больш – для творчай інтэлігенцыі. А што ж тут не разумець? Людзі не любяць і не шануюць нашу вялікую савецкую дзяржаву, наш гераічны народ, нашу цудоўную зямлю, нашу мову, нашу культуру (у тым ліку – наш фальклор, нашу музыку, нашы песні), нашу далёкую і асабліва нашу блізкую, гэта значыць савецкага перыяду, гісторыю. Вядома ж, гэтыя людзі – шкоднікі, злачынцы, ворагі, і натуральна – ім у нашай

грамадзе не месца, ва ўсякім разе – іх шкодніцкую дзейнасць мы абавязаны спыніць. Такіх апантаных патрыётаў-камсамольцаў, як я, што марылі пра сваю літаратурную будучыню, гэта хвалявала надзвычай. І канечне ж, было вельмі цікава ведаць імёны зламыснікаў.

У «ЛіМе» за 12 сакавіка 1949 года змешчаны артыкул сакратара СП БССР П. Кавалёва пад назвай: «Аб барацьбе з варожымі праявамі бязроднага касмапалітызма і некаторыя задачы нашай крытыкі». П. Кавалёў пралівае святло – адкуль усё пачалося, чаму так заварушыліся ў СП Беларусі. «Артыкулы газет «Правда» – «Аб адной антыпатрыятычнай групе тэатральных крытыкаў» і «Культура и жизнь» – «На варожых пазіцыях» з'яўляюцца для нашай пісьменніцкай арганізацыі дакументамі выключна вялікага ідэйнага значэння». Ну, а далей, як з мяшка, пасыпаліся імёны. «Бязродны касмапаліт, заядлы і закаранелы фармаліст Л. Літвінаў...»; «Другі касмапаліт, тэатральны крытык М. Модэль...»; «Суровага асуджэння заслугоўвае дзейнасць драматурга і рэжысёра В. Галаўчынера...»; «Касмапаліт Л. Бараг ужо на працягу многіх гадоў...»; «В. Гальперын у названым артыкуле працягвае...»; «Вось чаму крытычную і іншую «дзейнасць» А. Кучара трэба разглядаць, як яўна касмапалітычную...»

Паводле змагароў з гэтым варожым насланнём, былі касмапаліты зацятыя, кандовыя, а былі і іх падгалоскі. Артыкул І. Кудраўцава ў «ЛіМе» (2 красавіка 1949 года) так і называўся: «Касмапаліты і іх падгалоскі». Не ведаў я тады, калі выразаў гэты артыкул, што праз чатыры гады буду слухаць у БДУ лекцыі па замежнай літаратуры аднаго з «падгалоскаў» – дацэнта Давіда Яўсеевіча Фактаровіча. Імя яго кляймілася і ў другім лімаўскім артыкуле: «Ачысціць універсітэт ад касмапалітаў і іх падгалоскаў» з падзагалоўкам: «На адкрытым партыйным сходзе ў Беларускім Дзяржаўным універсітэце імя У.І. Леніна». Дасталося Фактаровічу за абарону на гэтым сходзе «паслядоўнага касмапаліта-антыпатрыёта» фальклярыста Л. Барага, які, па словах І. Кудраўцава, «задаўся мэтай зняважыць беларускі народ, зняважыць яго культуру», «сваімі бруднымі рукамі гэты ілжэвучоны бярэцца за святыню народа – яго вусную творчасць, у якой выказаны лепшыя думы, пачуцці і імкненні працоўных».

У стос лімаўскіх «выразак» на тэму нізкапаклонства перад буржуазным Захадам трапілі і чатыры старонкі з часопіса «Беларусь» (№ 3 за 1949 г.): дзве – з артыкулам У. Няфёда («Супроць бязроднага касмапалітызма, буржуазнага эстэцтва і антыпатрыятычных праяў у беларускай тэатральнай крытыцы»), а дзве другія – з артыкулам В. Бурносава, назва якога гучыць вельмі грозна: «Выкрыць і да канца разграміць бязродных касмапалітаў». Разграміць! Да канца!

Апрача прозвішчаў, ужо вядомых па ранейшых спасылках на артыкулы, у іншых лімаўскіх публікацыях называюцца як касмапаліты або іх падгалоскі фальклярыстка Меяровіч, літаратурныя крытыкі М. Смолкін, Я. Герцовіч, мовазнаўцы І. Матвеенка, Сулер і іншыя.

Тым часам, інфармуе газета, з дакладам «Аб савецкім патрыятызме і буржуазным касмапалітызме» па ўсёй Беларусі выступаюць вядомыя пісьменнікі і навукоўцы. Перш за ўсё – у абласных цэнтрах і буйнейшых гарадах рэспублікі. У Мінску, напрыклад, сакратар СП П. Кавалёў і міністр асветы БССР П. Саевіч, у Віцебску – супрацоўнік ЦК КП(б)Б «тав. І. Гутараў», у Мазыры – «галоўны сакратар Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР П. Броўка».

## 5.

Ёсць сярод маіх лімаўскіх «выразак» і яшчэ адна – з вершаваным творам выключнага дзяржаўна-палітычнага і культурна-грамадскага значэння. Твор гэты называецца «Вялікаму Сталіну ў дзень 70-годдзя ад беларускага народа».

Першыя два словы набраныя літарамі вышынёй амаль у запалку, астатнія – напалову меншымі. Твор займае ўсю першую паласу газеты. Без мала – чатырыста радкоў. У «ЛіМе» гэты опус быў надрукаваны 7 студзеня 1950 года. З таго часу я ні разу яго не перачытваў. І вось – перачытаў. Лепш бы я гэтага – цяпер, на краёчку жыцця – не рабіў. Чатырыста радкоў суцэльнай тарабаршчыны, высокапафаснай палітычнай траскатні, да таго ж – сям-там малапісьменнай. Ніводнага жывога радка, які б пасведчыў, што сапраўды гаворыцца ад шчырай душы і сэрца. Згадваю падобнае пасланне Вялікаму даваеннай пары. Ну з яго хоць адна страфа мне запомнілася, бо была сапраўды паэтычная, уражвала жывой чалавечай мовай:

Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.
Прымі ж прывітанне, якое прыносіць
Табе, правадыр, беларускі народ!

Але што за дзіва? У напісанні таго даваеннага прымаў удзел Янка Купала. А ці вядома, хто зварганіў гэтае – да 70-годдзя? Мне невядома. Хоць дакументы недзе ў архівах, несумненна, ёсць, павінны быць. Я, на жаль, не ведаю, але не сумняваюся, што такое заданне абы якім пісакам партыя даць не магла. Толькі вядомым і знакамітым. Дык што – і Куляшоў суаўтар? Ну хай і па загадзе, і па прымусе, але ж не маглі сапраўдныя майстры слова накілзаць такое! Зрэшты, побач з майстрамі маглі быць і немайстры.

Разбіўшы вал варожага нападу,
Развеяў орды дзікія ты ў прах...

(Аказваецца, і «разбіў вал», і «развеяў орды ў прах» – ён, ён, а не армія, не сцякаючы крывёю народ).

Савецкія байцы прайшлі праз буры,
Не баючыся смерці, ані ран,
Грудзямі засланялі амбразуры,
Кідаліся бясстрашна на таран.

Ты іх натхняў, ты быў заўсёды з імі,
Дзе б шлях іх гераічны ні пралёг,
Таварыш Сталін, правадыр любімы!
Генералісімус славутых перамог!

Змагаўся Брэст, як волат, на граніцы,
Фашыстаў білі Гомель, Рагачоў,
Іх нішчыў Мінск наш – родная сталіца,
Мазыр і Віцебск, Пінск і Магілёў.

Ну, паднесці Вялікаму Сталіну рыфму “Рагачоў – Магілёў” – у дзень юбілею! – гэта ўжо проста хуліганства, гэта здзек і насмешка. І не пабаяліся. Відаць, усур'ёз лічылі гэта паэзіяй.

Таварыш Сталін, бацька наш любімы!
Для нас няма нічога даражэй
Твайго імя, бо ўсе твае сыны мы,
Яднае нас святло тваіх ідэй.

Толькі сыны? А дочкі – ужо не яго? Жаночая палавіна народа – не яго?

На вернасць ім мы прысягаем справай,
На вернасць партыі бальшавікоў,

Авеяныя славай, зробім явай
Жаданы комунізм мы для вякоў.

«Авеяныя славай» – гэта пра сябе, гэта мы. Вельмі ж сціпла!..

Перачытваеш – і міжволі задумваешся: што гэта было? Ачмурэнне? Людзі ператалі цвяроза, рэалістычна мысліць? Але ж усе – атэісты-матэрыялісты кандовыя. Дык што – слепата? Ад страху? Ці такая ступень абалванення? Дурноцце? Ці звычайны падхалімаж, разлік на выгоды (слава, пасада, узнагароды)?

Трохі вышэй я выказаў сумненне, каб такія волаты нашай паэзіі, як Куляшоў, удзельнічалі ў накілзанні опуса «Вялікаму Сталіну». Здаецца, я паспяшаўся. Падобна на тое, што ўдзельнічаў, хоць, можа, і не быў галоўны. Разам з пісьмом «Вялікаму Сталіну» ў маім архіве захоўваюцца два лісты з часопіса «Беларусь» (№ 12 за 1949 г.), на якіх змешчана публіцыстычная паэма А. Куляшова «Слова аб правадыру народаў», прысвечаная, канечне ж, юбілею Вялікага. Не верш, а цэлая паэма, дух, пафас і мова якой вельмі сугучныя «Пісьму». Што такі ж самы пафас – гэта зразумела, нейкі іншы ён і не мог быць, але ж і мова, мова, – лексіка, фразеалогія, інтанацыя!..

Ляці маё слова ў Сафію,
У Прагу, Пекін і Шанхай,
Грымі з рупароў, маё слова,
Над плошчамі вольна лунай!
Ляці і туды, дзе няволя
Жыве па падвалах старых,
Дзе людзі ні неба, ні сонца
Не бачаць у вокнах сваіх.
.....................................

Там людзі, што сонца не знаюць,
Наш сонечны згадваюць дом,
Там Сталіна называюць
Сваім яны правадыром.
.....................................

Выходзьце, працоўныя людзі,
За шчасце сваё ваяваць,
І шчасця найбольшага Сталіну
Не зможаце вы пажадаць.
.....................................

Хоць войска варожае ўчора
Разбілі мы войскам сваім,
Ды бітва з капіталізмам
Не скончылася на тым.
.....................................

Такім запытаннем закончыць
Я гэтае слова хачу.
Працоўныя, разам са Сталіным,
Змагайцеся па Ільічу!

Вось з такім пафасам і такой «паэтычнай» мовай напісаны ўсе 350 радкоў. І гэта – пасля «Сцяга брыгады», пасля «Над брацкай магілай» і «Ліста з палону» – творамі геніяльнымі ў поўным сэнсе слова. Зусім не куляшоўскі верш. Неверагодная здрада густу, пачуццю меры. Так Куляшоў не піша. Ад пачатку да канца – твор нейкі вымучаны, а не выдыхнуты. Не гарачым натхненнем народжаны, а выраблены халодным разлікам. Па прымусе? Па загадзе «зверху»? Не змог адбіцца? Ці проста – творчая няўдача? Катастрафічны пралік у самой задуме і

ў наяўнасці вобразна-моўных рэсурсаў? Дарэчы, а навошта размахнуўся аж на цэлую паэму? Хапіла б і верша, але – куляшоўскага. Як гэта зрабіў выдатны расійскі паэт М. Ісакоўскі. Яго радкі:

Мы так вам верили, товарищ Сталин,
Как, может быть, не верили себе,

– гучаць, пры нагодзе, да гэтага часу. І зразумела – чаму.

Але вяртаюся да пісьма «Вялікаму Сталіну». У захапленне прыводзіць і тое, што надрукавана пад тэкстам паслання: «Пісьмо абмеркавана і прынята на агульных сходах працоўных на прадпрыемствах, у калгасах, саўгасах, МТС, сёлах, ва ўстановах і навучальных установах Беларускай ССР».

У калгасах, саўгасах і МТС? У 1949 годзе? Божа прасветлы! Да чаго даходзіла бессаромнасць!

Ну што застаецца сказаць на заканчэнне гэтага агляду? «Быў час, быў век, была эпоха...»

*2012-2013*



Анатоль Бутэвіч



...беларусы –

гэта нацыя донараў...

# Быць беларусам? Быць!

***Рэфлексія самапазнання***

Еўропа. Еўрапейскі.

Чаму мы ўвесь час намагаемся падкрэсліць сваю прыналежнасць да еўрапейскай цывілізацыі і сваю далучанасць да еўрапейскай гісторыі? Як быццам іншая гісторыя ўжо і не гісторыя, а іншая цывілізацыя гэта нешта ганебнае. Ці не стала такая гаворка проста моднымі словамі, якія мо не заўсёды шчырыя, не да канца асэнсаваныя і не цалкам усвядомленыя? Хацелася б верыць, што не.

Напэўна, найперш гаворым не толькі з жадання даказаць іншым (і сабе таксама) сваю роўнасць у гэтым еўрапейскім людскім хаўрусе, які нам, вядома ж, бліжэй за іншыя. Хоць і гэта – жаданне даказаць – таксама прысутнічае. Бо нас так доўга баламуцілі, змушалі паверыць, што беларуская дзяржаўнасць – гэта міф, што беларускі этнас гэта ніякі не суб’ект гісторыі, у лепшым выпадку яе аб’ект, што мы выбралі за лепшае раз за разам сцвярджаць нашу прыналежнасць да еўрапейскай супольнасці, нібыта гэтае прызнанне здымала з парадку дня ўсе іншыя пытанні нашай самаідэнтыфікацыі. Ды ўсё ж, відаць, на

генным узроўні мы разумелі і разумеем нешта больш істотнае, больш глыбокае і сутнаснае, калі гаворым пра еўрапейскі хаўрус. Тое, што было зразумела нашым далёкім і не надта аддаленым ад нас продкам. Тое, што перадавалася ад пакалення да пакалення і таму дайшло да нас, сённяшніх.

Мы не спрачаемся, што еўрапейская гісторыя – гэта гісторыя розных этнічных дзяржаў, што еўрапейскія этнасы здаўна цесна злітаваны між сабой самымі разнастайнымі повязямі. Так было, што гэтыя этнасы, утвараючы Еўропу – агульнай тэрыторыяй аб'яднаную гістарычную супольнасць, адзіны суб'ект сусветнай гісторыі і чалавечай еднасці – кіраваліся не толькі, а мо і не столькі, прасторавай блізкасцю. Было тут нешта іншае, больш значнае. Найперш – падабенства гістарычнага лёсу і духоўнага развіцця. Гэта быў менавіта той мацавальны раствор, які, захоўваючы нацыянальныя адметнасці кожнага этнасу, кожнай зямлі, кожнай тэрыторыі, аб'ядноўваў іх на грунце падабенства шляху духоўнага, культурнага і гістарычнага станаўлення.

І мо таму Еўропа стала разглядацца не як простая сукупнасць краінаў, аб'яднаных адной тэрытарыяльнай прыналежнасцю, а найперш як еднасць народаў і этнасаў, якія маюць цывілізацыйнае падабенства.

Вось у чым сэнс, вось тое ключавое і вызначальнае слова – цывілізацыя. Таму Еўропа стала не проста тэрыторыяй, а найперш апазнавальным знакам, прыкметай новай цывілізацыі, якая займела найменне еўрапейскай. Акрамя таго з'явіўся і еўрапейскі лад жыцця, еўрапейскі спосаб мыслення. І таму да панятку "Еўропа" як тэрытарыяльнага адзінства ўдала і натуральна далучыўся панятак "еўрапейская цывілізацыя". Стаў звыклым і вызначальным паняткам. Мо таму і мы, і іншыя этнасы нашага рэгіёна намагаюцца, даказваюць сваё права, імкнуцца ўвайсці ў гэтую цывілізацыю на роўных падставах з іншымі. Бо калі не сюды, то куды? Заставацца ў міжцывілізацыйнай прасторы? Не, гэта не вельмі ўтульна, не зусім натуральна, а праўдзіва кажучы, проста немагчыма.

Хоць, відаць, мы не заўсёды і не да канца разумеем пэўную парадаксальнасць такога еўрапейскага стану. Не варта забывацца, што еўрапейская цывілізацыя складаецца з сукупнасці розных этнічных утварэнняў. Але гэтая рознасць не замінае ім вызнаваць нешта большае, грунтоўнае і вызначальнае. Так, у кожнага з іх акрамя адрознасці дастаткова тых аб'яднальных, агульных з іншымі рысаў, каб не выпадаць з еўрапейскай цывілізацыі. Яна – своеасаблівая сістэма гістарычна, культурна з'яднаных этнасаў на агульнай для ўсіх тэрыторыі. Тэрыторыя то агульная, але тым не менш яна падзеленая на асобныя дзяржавы, што таксама справядліва і апраўдана.

Паўстае пытанне: а хто ж мы ў гэтай цывілізацыйнай прасторы? Як пачуваемся ў ёй? Ці бачым сябе ўключанымі, далучанымі да яе ў поўнай меры, ці толькі ў назыўным парадку, з нашага жадання?

Некаторым даследчыкам Беларусь здаўна падаецца занадта інтэрнацыяналізаванай краінай, дзе пэўныя гістарычныя абставіны, абумоўленыя кіраўнічымі памкненнямі ды пабочнымі ўплывамі больш моцных дзяржаваў, з рознай ступенню настойлівасці і выніковасці, з рознай мэтавай скіраванасцю змушалі беларусаў пазбавіцца, адмовіцца, адрачыся сваёй нацыянальнай сутнасці альбо намагаліся хоць бы нейтралізаваць яе.

У гэтых словах для мяне вызначальнымі з'яўляюцца "занадта інтэрнацыяналізаваная". Бо спакойны, разважны, можна сказаць, бытавы інтэрнацыяналізм бачыцца мне нармальнай з'явай. І акурат ён трымаў і мацаваў беларускую зямлю ў магнітым полі еўрапейскасці, не даючы яе насельнікам змізарнець, абрынуцца ў глыбіню непаразуменняў, сварак, зацятасці, зласлівасці і варожасці.

Хіба не мірна і не вынікова суіснавалі на нашых землях рускія, татары, яўрэі, цыганы, іншыя этнасы?

Хіба не быў горад Мір цыганскай сталіцай на ўсё Вялікае Княства Літоўскае?

Хіба не насуперак тагачасным законам, якія забаранялі іншаземцам мець права на зямлю ў ВКЛ, атрымаў у сваё валоданне Крэва і іншыя зямельныя надзелы збеглы ад цара Івана Грознага (Жахлівага) рускі князь Андрэй Курбскі?

Хіба Ліда не з'яўлялася для хана Залатой Арды Тахтамыша з яго дружынай надзейным прытулкам?

Хіба не ўліліся ў беларускую нацыю самым натуральным чынам татары, якія яшчэ з часу Вітаўта Вялікага адчувалі сябе на гэтых землях не горш, чым дома? Пра ролю Вітаўта ў гэтым вялікім чалавечым паразуменні гаворка асобная і не цяпер яе кранаць.

Хіба ўцякалі куды-небудзь адгэтуль ад смяротнай нядобразычлівасці яўрэі?

Нацыя – гэта надэтнічнае. Таму і беларусы прыветна прымалі ў свой хаўрус яўрэяў, татараў, прадстаўнікоў іншых этнасаў, хто ішоў сюды з мірам і без пагрозы. З мірам і без пагрозы... Бо іншым прыхадням маглі наладзіць адпаведную іхнім мэтам сустрэчу. А гэтыя этнасы на беларускай зямлі ў меру сваіх сілаў спрыялі стварэнню, развіццю і мацаванню беларускай нацыі. Так было ў нацыянальна-гістарычным і духоўна-культурным развіцці беларусаў. Варта ўсвядоміць і зразумець, што беларусы здаўна, праўда, не заўсёды вынікова, намагаліся стаць на сваёй тэрыторыі дзяржаваўтваральнай нацыяй, якая аб'ядноўвала б гэтым памкненнем і іншыя этнасы. І гэта нікога не прыніжала, не зневажала. Бо беларусы забяспечвалі магчымасць нацыянальнага развіцця іншым, гэта значыць, не касавалі ўмоваў для захавання іхніх нацыянальных адметнасцяў. Адметнасцяў, якія, тым не менш, былі аб'яднаныя нечым больш аб'ёмным і значным – інтарэсамі ўтварэння, захавання і развіцця беларускай нацыянальнай дзяржавы, то бок, беларускай нацыі. Таму рысы нацыянальнага, беларускага зусім натуральна рабіліся вызначальнымі, больш важкімі, значнымі і прыярытэтнымі менавіта на гэтай зямлі.

Тут няма нічога дзіўнага і выключнага. Так стваралася не толькі беларуская дзяржава. Падобны лёс, відаць, кожнай шматэтнічнай краіны. Пры гэтым быць беларусам (альбо прадстаўніком іншай тытульнай нацыі якой-небудзь еўрапейскай краіны) найперш азначае зразумець і прыняць прыналежнасць менавіта да гэтага этнасу (не змяняючы сваёй нацыянальнай адметнасці), настроіць на гэта сваё духоўнае жыццё. А для таго, каб стаць беларусам па прыналежнасці менавіта да гэтай дзяржавааформленай тэрыторыі, зусім не абавязкова быць этнічным беларусам, не трэба губляць, нівеляваць сябе ў беларускай духоўнай сферы. Не выракаючыся сваёй індывідуальнасці, можна проста плённа працаваць на агульную мэту.

Такі стан – заклад развіцця асобных этнасаў пры дамінуючых на дадзенай тэрыторыі адметнасцях беларусаў, свядомае далучэнне да гэтай дамінанты, забеспячэнне яе ўстойлівага дынамічнага развіцця. Прыкладаў хапае як у далёкім мінулым, так і ў сённяшнія дні. Хацеў бы спаслацца толькі на некаторыя, мо не надта гучныя, але, як на мой погляд, пераканаўчыя. Дастаткова назваць дзейнасць рускіх па нацыянальнай прыналежнасці Уладзіміра Мулявіна і Валянціну Гаявую, чый уклад у развіццё культуры тытульнай нацыі цяжка пераацаніць. А яўрэі – пісьменнік Змітрок Бядуля, скульптар Заір Азгур? А татарын – выкладчык філфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, даследчык беларускай літаратуры Сцяпан Александровіч? Канкрэтны спіс можа быць вельмі вялікім. Ды сэнс не ў колькасці, а ў тым сутнасным, што выпукла выяўляла і выяўляе характар беларускай нацыі.

Таму, калі ў Беларусі знікне або будзе "бязмерна інтэрнацыяналізавана" разуменне ролі беларускай нацыі як дзяржавастваральнай, што для мяне азначае страту нацыянальнай годнасці, то Беларусь проста перастане быць Беларуссю

ў сённяшнім еўрапейскім разуменні гэтага слова. Знікне спачатку не фізічна і тэрытарыяльна. Знікне спярша тое сутнаснае, што павінна рабіць Беларусь Беларуссю, што стварае яе існасць. Павінна ствараць!

Экстрэмальнае дапушчэнне: калі ў Беларусі знікне нейкі іншы этнас, страта будзе значнай, балючай, адчувальнай, але пры гэтым Беларусь не перастане быць Беларуссю. І той зніклы ў Беларусі этнас не знікне з нацыянальнай карты свету, бо ён існуе больш моцна ў іншых рэгіёнах, на іншых нацыянальных землях. А вось са знікненнем беларускага этнасу праблема існавання беларускай дзяржавы, з'яднанай у адну на аснове найперш беларускага этнасу і беларускага духоўнага пачатку, стане безальтэрнатыўнай. Вось чаму ў прызнанні прыярытэту беларускага на беларускай тэрыторыі бачыцца мне моцны аб'яднаўчы стрыжань. І гэта не павінна нікога ні прыніжаць, ні ўзвялічваць. Гэта звыклае разуменне дзяржаваўтваральнай ролі беларускай нацыі як кансалідуючага пачатку, што прызнаецца еўрапейскай супольнасцю і складае еўрапейскі менталітэт у дачыненні да іншых дзяржаваўтваральных этнасаў.

Безумоўна, гэта ніякім чынам не адмаўляе супярэчнасцяў, складанасцяў і цяжкасцяў у гэтай няпростай справе. Але яны не павінны стаць дамінуючымі, разбуральнымі, дэструктыўнымі. Бо тое, што бязмернае, тое нядобрае.

І нечакана знайшоў сугучнае мне ў кнізе расійскага даследчыка Мікалая Козіна "Россия. Что это? В поиске идентификационных сущностей" (Масква, 2012): "Нас все время призывают на голгофу служения во имя чужих интересов. А для этого нет более эффективного пути, как только полностью хаотизировать сферу нации, после чего нация оказывается беззащитна перед экспансией любых наднациональных ценностей и идеологем".

Не, у кнізе няма спасылак на прыклад беларускага этнасу, не закранаюцца праблемы яго станаўлення і развіцця. Але думкі аўтара міжволі пацягнулі мае развaжанні, прымусілі з яго пазіцый паспрабаваць зірнуць на нас, на нашую сітуацыю ў еўрапейскай энічнай супольнасці.

Дык вось, намаганні хаатызаваць беларускую нацыю, яе крокі да ідэнтыфікацыі і самаідэнтыфікацыі, відаць, не знікалі ніколі. Яны шмат у чым нашкодзілі гэтаму натуральнаму для іншых народаў працэсу, прывучылі беларусаў да асцярожнасці, маўклівасці, а то і абыякавасці, безуважнасці. Мы і дагэтуль не пазбавіліся тых даўніх рэцыдываў, усё яшчэ мітусімся, адгукаючыся на розныя прапановы, заклікі, поклічы, не ведаючы, дзе той глыбінны і плённы сэнс, які дапаможа нам у нашай галоўнай справе – ідэнтыфікацыі. Мо таму кожная з прапановаў, асабліва калі яна сыходзіць ад "сильных мира сего", напачатку ўяўляецца ратавальнай і карыснай для нас, адразу ўспрымаецца як неабходная і патрэбная. І толькі час паказвае, што не ўсё тое золата, што блішчыць. Але ж час ужо страчаны, намаганні аказаліся марнымі, жаданая мэта не дасягнута. Цягнік прагрукатаў міма. Альбо, як любілі казаць даўней, мы зноў спазніліся на свой цягнік. Хіба што суцяшацца высновай, што і на памылках вучацца. Вядома, лепш было б на чужых, чым увесь час на сваіх уласных. Суцяшае хіба што адно – цягнік, аказваецца, у нас усё-ткі ёсць, бо спазніліся ж мы "на свой..."

Каб ведаць, што трэба рабіць, трэба найперш ведаць, хто мы.

Патрэбна спакойная, не падагрэтая істэрыяй і не ахалоджаная развагамі аб марнасці і неабавязковасці ідэнтыфікацыя і самаідэнтыфікацыя. Найперш патрэбна ўсвядомлена засвоіць свой ідэнтыфікацыйны код. Засвоіць да такой ступені, каб ён набыў рысы прыроднага, сталага, звыклага. Ён павінен быць трывалым і дзейсным. Бо яго знарочыстая змена цягне за сабой балючы і няпросты працэс перакадзіроўкі. Перакадзіроўкі не толькі ўсёй нацыянальнай дзяржаўнай свядомасці, але і свядомасці асобнага чалавека. Не толькі этнічнага беларуса, але і іншых этнасаў, якія з гэтым дзяржаваўтваральным этнасам звязаныя.

Прывіднасць ідэнтыфікацыі, яе нетрываласць, недастатковасць і ёсць тым хаосам, які замінае захаваць нацыястваральную, дзяржавастваральную скіраванасць.

Такое становішча можа ўзнікнуць і пры адрыве ад гістарычных каранёў, ігнараванні – свядомым ці несвядомым – мінулага. Асаблівую шкоду прыносіць знарочыстае, паказное, свядомае ігнараванне. Памножанае на агрэсіўнасць, яно набывае разбуральны характар. Нам да балючасці патрэбна зразумець трыадзіную цэласнасць і еднасць і прымірыць між сабой мінулае – сённяшняе – будучыню. Не, не дзеля нейкіх меркантыльных выгодаў альбо з-за нечай агрэсіўнай нязгоды, а дзеля праўды.

Чамусьці беларусам выпала яшчэ адна няўдзячная роля – даказваць іншым (і зноў жа – сабе таксама) сваю далучанасць да ўтварэння і развіцця колішняй поліэтнічнай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага. Неяк так атрымалася, што з нашай маўклівай згоды нашую некалі агульную гісторыю пачалі прысабечваць іншыя. І, не дай Бог, станецца так, што не мелі нашы продкі дачынення да ВКЛ, быццам і не жылі на гэтай тэрыторыі, не спрыялі яе ўладкаванню па сваіх, адметных ад іншых, памкненнях і разуменнях. Падаецца, ад такога трактавання страчвае не толькі беларускі этнас, нешта вельмі істотнае губляе ўся еўрапейская цывілізацыя, гісторыя яе станаўлення і развіцця.

А мо мы яшчэ не засвоілі, што на самым пачатку свае гісторыі Вялікае Княства Літоўскае, якое працяглы час ствaралася намаганнямі розных этнасаў, не мела адназначна і канчаткова выяўленай дамінанты толькі нейкага аднаго этнасу, што і ў межах Княства памкненні і намаганні розных этнасаў (не заўсёды мірныя) маглі быць (і былі) рознымі? Аднак гэта не спыняла галоўнага імкнення: будаваць адну магутную дзяржаву, якая аднолькава абараняла б інтарэсы ўсіх.

Гэткае памкненне, відаць, мела месца, бо можна казаць аб яго прызнанні і разуменні іншымі дзяржаваафармленымі этнасамі. Адзін прыклад з даўняй гісторыі.

Даследчыкі адзначаюць пэўную складанасць адносінаў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Залатой Ардой, асабліва на пачатку XIV стагоддзя. Адчуванне такой напружанасці, як ні дзіўна, сыходзіла найперш з залатаардынскага боку. Гэта мо першым зразумеў тагачасны кіраўнік Улуса Джучы (Залатой Арды) мангольскі хан Узбек (каля 1283 – 1341). Таму ён шукаў магчымасці паразумецца з гаспадаром Княства вялікім князем літоўскім Гедымінам (каля 1275 – снежань 1341). Так, так. Сам Узбек-хан, якога сучаснікі цанілі вельмі высока, а арабскі пісьменнік Ібн Батута казаў, што "ён адзін з тых сямі цароў, якія найвялікія і наймагутныя цары свету". І гэты "адзін з наймагутных" уладароў шукае паразумення з вялікім князем літоўскім, жадае палепшыць адносіны з ім і ліквідаваць супярэчнасці. Значыць, не лічыў яго ніжэйшым і слабейшым настолькі, што можна зваяваць, захапіць альбо проста не звяртаць увагі. Хіба не пра гэта сведчыць наступны эпізод? Хоць, як на мой погляд, эпізод гэты варты значна большага, і пры ўважлівым да яго стаўленні і справядлівай ацэнцы пра многае гаворыць і многае высвятляе ў тагачасных міжэтнічных адносінах не толькі на еўрапейскай тэрыторыі.

Сын маскоўскага князя Івана Каліты Сямён Ганарлівы, як вядома, меў першай жонкай дачку Гедыміна Аўгусту (у праваслаўі Настассю). Іхні надзвычай пышны шлюб адбыўся ў Маскве ў 1333 годзе, пра што паведамляе Сімяонаўскі летапіс. Звычайная з'ява? А гэта як паглядзець. Мне бачыцца ў гэтым больш важкі сэнс.

Вядомая рэч, што той шлюб (дарэчы, як і многія тагачасныя) насіў палітычную афарбоўку, бо не пра палкае каханне, зразумела, тут ідзе. Гэтае шлюбаванне закранала як мінімум інтарэсы трох дзяржаўных утварэнняў. Найперш, вядома, яно мела на мэце палепшыць маскоўска-вялікалітоўскія стасункі. Але не толькі. Гэты шлюб самым непасрэдным чынам закранаў інтарэсы Залатой Арды.

У той час Масква залежала ад Залатой Арды, маскоўскія князі бралі ў

ардынскіх ханаў ярлык на княжанне (хоць апошнім часам з'явілася нямала публікацый расійскіх даследчыкаў, якія спрабуюць абвергнуць гэта, вывесці зусім іншую дамінанту тагачаснага палітычнага жыцця). Арда не хацела і не магла страціць свайго ўплыву на маскоўскую палітыку. Таму ханы пільна сачылі за ўсімі стасункамі маскоўскіх князёў з іншымі этнасамі, асабліва з вялікалітоўцамі. Дык ці мог у такіх умовах адбыцца шлюб маскоўскага князя і вялікалітоўскай княжны без дазволу ардынскага хана? Наўрад ці. Не зразумеў бы хан Узбек такога кроку залежнага ад яго маскоўскага князя. Тым больш у дачыненні да непрыветнага Залатой Ардзе Вялікага Княства Літоўскага. Такіх кантактаў Арда, мякка кажучы, не вітала. Згодна з тагачаснай традыцыяй бацька жаніха павінен быў прасіць рукі маладой непасрэдна ў яе бацькі. Значыць, Іван Каліта мусіў сустрэцца з вялікім князем літоўскім Гедымінам. Сустрэўся, але са згоды хана Узбека.

Што стаіць за ўсімі гэтымі "рэверансамі" акрамя чыста шлюбных праблем? Вядомая рэч, палітычная выгода. Але для каго найперш? Адразу для ўсіх трох суб'ектаў гэтай гісторыі. Іван Каліта мог разлічваць на спрыяльнае стаўленне Гедыміна да Маскоўскага княства. Як ні дзіўна, але на тое ж самае спадзяваўся і хан Узбек, толькі ў дачыненні да самога сябе. Яму вельмі было патрэбна нармалізаваць, кажучы сучаснай мовай, адносіны з ВКЛ і найперш з самім гаспадаром Княства Гедымінам. Якім чынам? Усе трое станавіліся нібыта звязаныя адной ніткай – шлюбам Сямёна і Аўгусты.

Бацька Сямёна просіць дазволу ў хана Узбека і князя Гедыміна. Узбек, даючы такую згоду, выказвае свае адносіны да Каліты (не выпускае яго з-пад свае ўлады) і адначасова да Гедыміна, спадзеючыся, што ў выпадку чаго на паводзіны гаспадара Княства ў дачыненні да Залатой Арды здолее паўплываць Іван Каліта, а затым і ягоны сын Сямён Горды, які таксама не пазбаўляўся залатаардынскага падпарадкавання.

Такім чынам, гэты дынастычны шлюб наўпрост уплываў на маскоўска-вялікалітоўскія адносіны і адносіны паміж Залатой Ардой і ВКЛ. Можна без перабольшання казаць, што Масква і Арда (і не толькі, Тэўтонскі ордэн і Польшча таксама, адзін з прыкладаў стасункаў з апошняй бачыцца ў падпісанні 14 жніўня 1385 года Крэўскай уніі і запрашэнні (запрашэнні!) на каралеўскі пасад вялікага князя літоўскага Ягайлы) бачылі ў Княстве значную палітычную сілу, якая здольна была рэальна ўплываць на міждзяржаўныя стасункі не толькі ў сваім рэгіёне. А гэта давала пэўныя дывідэнды і самому вялікаму князю літоўскаму Гедыміну, умацоўвала яго лідарскія пазіцыі. Адначасова гэта сведчыла аб значнай і ўсё больш прыкметнай у Еўропе ролі ВКЛ. З Княствам мусілі лічыцца не самыя слабыя суб'екты тагачаснай гісторыі.

Дык гэта шлюб Сямёна і Аўгусты. А перад тым адбыўся шлюб вялікага князя цвярскога Дзмітрыя Міхайлавіча Грозныя Вочы з дачкой Гедыміна Марыяй. Згадайма таксама шлюбы дачок Гедыміна Альдоны (Ганны) з каралём польскім Казімірам III Вялікім, Эльжбеты з сынам мазавецкага князя Баляслава II плоцкім князем Вацлавам, Офкі (Яўфіміі) з галіцка-валынскім князем Юрыем II Баляславам. А паездка князя Альгерда ў Маскву да вялікага князя Сямёна Гордага з просьбай пашлюбіцца з сястрой ягонай жонкі дачкой вялікага князя цвярскога Аляксандра Міхайлавіча Уллянай? Нібыта ў адказ князь суздальскі Канстанцін Васільевіч ажаніў свайго сына Барыса з дачкой Альгерда. І г.д., і да т.п. Дык ці не ўплывалі гэтыя шлюбы на ўзвышэнне ролі Княства і вялікага князя літоўскага ва ўсіх еўрапейскіх, і не толькі, справах? Ці не сведчылі пра жаданне многіх валадароў мець прыязныя адносіны з ВКЛ і ягоным гаспадаром?

Але ж не адно шлюбамі мацаваліся еўрапейскія повязі і вызначаліся еўрапейскія прыярытэты. Былі і іншыя рэальныя праявы. Я назваў бы адзін з напрамкаў падобнай сітуацыі так: беларусы – гэта нацыя донараў. З нашай зямлі ў іншы

высокі свет (і не толькі еўрапейскі), на іншыя блізкія і далёкія землі з'ехалі многія і многія народжаныя тут выбітныя асобы, а колькі паехала проста на заробкі, то й не злічыць. Прыкладаў можна прывесці безліч. Возьмем больш блізкія па часе і мо найбольш выразныя прозвішчы.

Ігнат Дамейка – нацыянальны герой Чылі. Тадэвуш Касцюшка – нацыянальны герой Польшчы і Амерыкі. Ураджэнец Міншчыны Іосіф Гашкевіч – першы расійскі консул у Японіі. Выхадзец з віцебшчыны Казімір Семяновіч – вынаходнік шматступеньчатай ракеты і тэарэтык артылерыі. Ураджэнец Ігуменскага павета Казімір Чарноўскі – вынаходнік падводнай лодкі. І нават выхаваўца дзяцей расійскага цара Аляксея Міхайлавіча філосаф і знаны паэт Сімяон Полацкі. Дарэчы, выхадцы з беларускіх земляў зрабілі вельмі і вельмі шмат у справе пабудовы і стварэння архітэтурнай і мастацкай выразнасці Масквы і Маскоўскага Крамля, іншых расійскіх мясцінаў. Нават маўзалей У.І. Леніна будавалі і беларусы. Прычым, не прадстаўнікі вялікіх гарадоў ці знаных паселішчаў. У гэтай справе бралі ўдзел жыхары вёскі Грабаўка з Гомельшчыны. З некаторымі я меў перапіску ў школьныя гады, іхнія лісты захоўваюцца ў маім архіве. Зрэшты, як сведчаць гістарычныя звесткі, у XVII стагоддзі кожны дзясяты жыхар Масквы быў выхадцам з беларускіх земляў.

Але тэму беларускага донарства пакінем для іншага разу. Адзначу толькі, што гаворка на ідзе аб тым, каб сёння "адабраць" у іншых народаў выхадцаў з нашай зямлі. Зусім не. Проста і нам, і жыхарам гэтых замежных краінаў трэба дакладна ведаць гісторыю, не губляць каранёў тых, хто некалі нарадзіўся на нашай зямлі і ў сілу розных прычынаў годна працаваў дзеля дабрабыту і славы іншых.

Вось чаму нам проста конча трэба поўнааб'ёмна ведаць сваё мінулае, як і належыць кожнай еўрапейскай нацыі. Ведаць глыбінна, без выняткаў і выкрэсліванняў. Не выбарачна на карысць любых па часе нашага жыцця ідэалагем. І тады ў гэтым разумным паяднанні з'явіцца яшчэ адна магчымасць зразумець: хто мы, дзеля чаго мы, які наш лёс і сэнс жыцця на гэтай зямлі.

*2013*

Алесь Бяляцкі



...унутраны неспакой,
няўрымслівасць і незадаволенасць
даволі паспяховага "савецкага" пісьменніка
захапляюць мяне і выклікаюць павагу...

# У смерці ўсе роўныя

***Беларускія сляды ў рамане Анатолія Рыбакова пра каханне і Халакост "Важкі пясок"***

Ёсць кнігі, большыя, чым кнігі. Яны выклікаюць зрухі ў грамадскай свядомасці. Адну з такіх кніг знайшоў я на паліцы ў агульным атрадным пакоі. Гэта раман "Важкі пясок" рускага пісьменніка Анатолія Рыбакова. Колісь у школьным дзяцінстве я з задавальненнем чытаў прыгодніцкія аповесці Анатолія Рыбакова "Корцік" і "Бронзавая птушка". Пазней, у 1987-м годзе, калі падчас "галоснасці" пачалі з'яўляцца забароненыя ці не прахадныя ў СССР творы пісьменнікаў, я прачытаў антысталінскі, антытаталітарны раман "Дзеці Арбата". Ён карыстаўся шалёнай папулярнасцю і выклікаў у грамадстве актыўныя дэбаты і сапраўдны фурор. І гэта быў зусім іншы Анатолій Рыбакоў, зусім не такі, якога я ведаў па прачытаных раней дзіцячых кніжках.

1987-ы год – гэта год, калі імкліва стала адкрывацца праўда пра сталінскія рэпрэсіі, калі і ў нас, у Беларусі, пачалі ў друку з'яўляцца творы забароненых і рэпрэсаваных беларускіх пісьменнікаў. І мы ясна ўбачылі злачынную сувязь

паміж сталінскім рэжымам і існуючай у 80-я гады сістэмай дзяржаўнага кіравання. Яны былі моцна звязаныя і гісторыяй, і традыцыяй, і ментальнасцю. Тагачасная ўлада і не думала адмаўляцца ці неяк пераасэнсоўваць ранейшыя крывавыя і злачынныя "заваёвы". Таму першыя Дзяды, якія публічна адзначаліся ў 1987-м годзе, былі прысвечаныя расстраляным у 1937-м годзе беларускім пісьменнікам. Яны мелі выразны антытаталітарны, дэмакратычны характар. Праз гэта яны і выклікалі непрыняцце ў беларускіх уладаў.


*Анатолій РЫБАКОЎ*

Гэтыя два Анатолії Рыбаковы (адзін – аўтар дзіцячых прыгодніцкіх аповесцяў, другі – майстра забароненага высокамастацкага і надзвычай актуальнага рамана "Дзеці Арбату") існавалі ў маёй свядомасці паасобку. Я доўгі час нават думаў, што гэта два розныя пісьменнікі. І вось цяпер я прачытаў "Важкі пясок", раман, прысвечаны трагедыі яўрэйскага народа падчас Другой сусветнай вайны. Але для аўтара ён быў "раманам пра каханне". У нашых, здавалася б, разнаполюсных поглядах на "Важкі пясок" няма супярэчнасцяў. Гэта сапраўды – раман пра каханне і пра Халакост.

Вось так у маёй свядомасці паўстаў і трэці Анатолій Рыбакоў, зусім не падобны на тых двух, якія ўжо існавалі.

Мне было цікава чытаць раман яшчэ з адной прычыны. Бо ў ім прысутнічаюць беларусы і Беларусь.

На жаль, мы неяк амаль не адсочваем, што і як пра нас, пра Беларусь, пішуць пісьменнікі, якія працуюць у іншых літаратурах. А гэты трэба рабіць. Бо погляд на нас, беларусаў, збоку, свежым, так бы мовіць, незамыленым вокам, у розным часе, разнастайных падзеях і жыццёвых сітуацыях часам выяўляе цікавыя назіранні і дае пэўныя высновы.

Мне захацелася напісаць пра гэты беларускі элемент у рамане Анатолія Рыбакова "Важкі пясок" крыху падрабязней і глыбей, таму я папрасіў маю калегу даслаць мне жыццяпіс пісьменніка. Алена Лапцёнак пастаралася, пашукала ў інтэрнэце і знайшла жыццяпіс Анатолія Рыбакова і два ягоныя інтэрв'ю. Пачытаўшы іх, я зразумеў, што толькі адным "беларускім пытаннем" у "Важкім пяску" не абысціся. І сама біяграфія Анатолія Рыбакова, і ягоныя погляды на жыццё, ягоны лёс выклікалі ў мяне ўвагу і цікавасць.

Анатолій Рыбакоў нарадзіўся ў 1911 годзе на Чарнігаўшчыне, па суседстве з Беларуссю, у яўрэйскай сям'і. Бацька пісьменніка – Навум Аронаў, маці – Дзіна Рыбакова. Прозвішча маці пісьменнік будзе выкарыстоўваць як псеўданім. Дзяцінства Анатолія Рыбакова прайшло ў шматнацыянальным мястэчку Сноўск, які стаіць на Лібава-Роменскай чыгунцы ў 40 кіламетрах ад Чарнігава і ў 65 кіламетрах ад Гомеля.

З 1919 года сям'я пісьменніка жыла ў Маскве. Дзіўнае супадзенне, я прачытаў, што Анатолій Рыбакоў вучыўся ў адной школе разам з іншым выдатным пісьменнікам, які стаў знакамітым у канцы 80-х гадоў, былым вязьнем сталінскіх лагераў, аўтарам здзіўляльных раманаў "Захавальнік старажытнасцяў" і "Факультэт непатрэбных рэчаў" Юрыем Дамброўскім. І яшчэ адное супадзенне: дылогію Юрыя Дамброўскага і "Важкі пясок" Анатолія Рыбакова я прачытаў тут, на зоне.

У 1933 годзе Анатолій Рыбакоў быў арыштаваны і асуджаны на тры гады ссылкі за "контррэвалюцыйную агітацыю і прапаганду" па сумнавядомым артыкуле

58-10 Крымінальнага кодэксу. Пасля ссылкі ён не меў права жыць у гарадах, дзе існаваў пашпартны рэжым, і працаваў там, дзе бралі на працу без запаўнення анкеты. Анатолій Рыбакоў ваяваў, прайшоў усю вайну ад Масквы да Берліна, скончыў службу ў званні маёра на пасадзе начальніка аўтаслужбы корпуса. За гераізм у баях з немцамі з Анатолія Рыбакова знялі судзімасць.

Пасля вайны ўжо ў сталым узросце Анатолій Рыбакоў пачаў пісаць. Да яго хутка прыйшло літаратурнае прызнанне. За "вытворчы" раман "Кіроўцы" ("Водители"), які выйшаў у 1950 годзе, у наступным 1951 годзе Анатолій Рыбакоў атрымаў Сталінскую прэмію.

Цікавая гэта з'ява – пасляваенныя пісьменнікі-лаўрэаты Сталінскіх прэміяў. З беларусаў іх атрымалі, як я ведаю, Іван Шамякін, Янка Брыль, Якуб Колас (здаецца, за паэму "Рыбакова хата"), і, здаецца, Максім Танк таксама. Можа, і яшчэ хто, але я ўжо не згадаю. Багата чаго патрабавалася ад літаратуры ў тыя гады, але мала было створана хоць чаго-небудзь вартага.

Нягледзячы на сталінскую прэмію і на выкупленую здароўем ранейшую судзімасць, Сталін не давяраў і не любіў Анатолія Рыбакова, называў яго "няшчырым чалавекам" – Анатолій Рыбакоў плаціў той самай манетаю, бо ўсе гады, пражытыя за Сталіным, адчуваў сябе ў скуры зайца, на якога ішло пастаяннае паляванне.

Падчас хрушчоўскай адлігі ў канцы 50-х – 60-я гады Анатолій Рыбакоў напісаў свой знакаміты раман "Дзеці Арбату". Антысталінская тэматыка, гады тэрору і прыніжэнняў ізноў хутка сталі забароненай тэмаю.

Няўдалыя спробы апублікаваць "Дзяцей Арбату" не спынілі Анатолія Рыбакова ў спробах выказаць пеpажытую, адчутую ім праўду ў сваёй літаратурнай творчасці. Гэты дзіўны ўнутраны неспакой, няўрымслівасць і незадаволенасць даволі паспяховага "савецкага" пісьменніка захапляюць мяне і выклікаюць павагу.

Кнігі Анатолія Рыбакова выходзілі вялікімі накладамі, ён быў папулярным і запатрабаваным пісьменнікам і сцэнарыстам. Ягоныя аповесці і раманы экранізаваліся. Я нават з майго ранняга дзяцінства памятаю дзіцячы прыгодніцкі фільм "Корцік", які ў Светлагорску мы хадзілі глядзець у Дом культуры энергетыкаў. Але са сваёй цвёрдай жыццёвай пазіцыяй ён проста не мог абмінуць Халакост – масавае забойства яўрэяў падчас вайны, бо гэтая трагедыя наўпрост датычылася яго самога, ягоных сваякоў і ягонага народу.

Анатолій Рыбакоў так апісвае задушлівую атмасферу тых гадоў: "дзяржаўны антысемітызм у брэжнеўскія часы захаваўся, набыўшы аблічча барацьбы з сіянізмам... Абмежавалі прыём яўрэяў у вышэйшыя навучальныя ўстановы, перагарадзілі шлях у дзяржаўны, партыйны і вайсковы апараты. Выходзілі шматлікія кнігі і артыкулы ўсялякіх яўсеевых, бегуноў ды іншых чарнасоценцаў таго часу, якія абвінавачвалі сіяністаў у антыкамунізме і контррэвалюцыі... Нават народны мастак Беларусі Савіцкі намаляваў каля ямы, куды скідвалі трупы забітых славянаў, двух катаў: эсэсаўца і яўрэя.

І нідзе ні згадкі пра страшэнную катастрофу еўрапейскага яўрэйства, нават у месцах масавых пахаванняў забітых яўрэяў на помніках пісалі толькі: ахвяры нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Ганенні на яўрэяў, якія пажадалі выехаць у Ізраіль, знакамітыя "адказнікі", пераслед за вывучэнне іўрыту – дадатковыя меткі брэжнеўскага часу...".

Цікава, што ў прыведзеных цытатах з інтэрв'ю Анатолія Рыбакова фігуруюць два "барацьбіты з сіянізмам" з Беларусі: "навуковец" У. Бягун і мастак М. Савіцкі. Зусім нядаўна, перад тым як я напісаў гэтыя радкі, прозвішча У. Бегуна трапілялася мне на вочы. Некалькі радкоў пра яго напісаў беларускі пісьменнік Адам Глобус. Я не ведаў Бегуна, але пара ягоных брашурак ёсць у маёй бібліятэцы. Я набыў іх яшчэ ў 80-я гады, бо заўсёды цікавіўся міжнацыянальнымі стасункамі

ў Беларусі і купляў розныя агітацыйныя брашуры з разлікам выцягнуць адтуль хоць нейкую фактуру.

І зноў жа, так атрымалася, што зусім нядаўна чытаў нататкі Адама Глобуса ў газеце "Звязда" пра Міхаіла Савіцкага, з якім тады яшчэ малады студэнт-мастак Валодзя Адамчык, як ён піша цяпер, нават выпіваў. Не ведаю, ці наліў бы сёння яму Міхаіл Савіцкі, прачытаўшы гэтыя нататкі. Вось жа, Адам Глобус апісвае Міхаіла Савіцкага як наскрозь дзяржаўнага чалавека і мастака, які ўсю сваю творчую кар'еру выбудаваў на дзяржаўных заказах. Можа, яно і так. Як і расповяд іншага майго знаёмага мастака, які няблага ведаў Міхаіла Савіцкага і лічыў таго зацятым прыхільнікам тэорыі сусветнай сіяністкай змовы.

Самае парадаксальнае для мяне ў гэтым тое, што Міхаіл Савіцкі ў вайну патрапіў у палон і быў вязнем канцлагераў, гэтых бязлітасных фабрык смерці, пабудаваных арыйцамі для знішчэння непаўнавартасных народаў. У гэтым спісе, апроч яўрэяў, цыганоў, былі таксама і ўсе славянскія народы, у тым ліку беларусы.

Напісаць раман пра Халакост Анатолія Рыбакова падштурхнулі як асабістыя ўражанні і перажыванні (амаль усе сваякі пісьменніка, якія жылі на Чарнігаўшчыне, загінулі), так і агульная атмасфера адносінаў да яўрэяў у СССР, якая склалася пасля вайны. Як пісаў Анатолій Рыбакоў, "я вырас у Маскве, у русіфікаванай сям'і, не ведаў яўрэйскай мовы, жыў, працаваў, бадзяўся па Расіі, ніякага антысемітызму да сябе не адчуваў. Я ваяваў за Расію, у Расіі нарадзіўся, у Расіі і памру. Мне было агідна тое, што творыцца ў маёй краіне".

І таму Анатолій Рыбакоў пачаў збіраць матэрыялы, неабходныя для напісання рамана. За асобную сюжэтную лінію была ўзятая гісторыя кахання, якую пісьменніку распавёў ягоны прыяцель, дзед якога прыехаў са Швейцарыі да сваякоў у адведкі і закахаўся ў прыгожую яўрэйку. Было гэта ў Сімферопалі. Ягоны дзед кінуў дзеля кахання Цюрых, пабраўся з дзяўчынаю і пераехаў жыць у Крым.

Пісьменнік перанёс гэтую рамантычную любоўную гісторыю ў мястэчка свайго дзяцінства, у Сноўск, і насыціў яе мясцовым каларытам, засяліў сваімі роднымі і знаёмымі. Ён апісаў гісторыю жыцця яўрэйскай сям'і ад пачатку ХХ стагоддзя да трагічных падзеяў масавага знішчэння яўрэяў падчас вайны. Аднавіць сямейную хроніку пісьменніку дапамагала ягоная цётка Ганна, якая адзіная з родных са Сноўска перажыла вайну.

Трагедыя беларускіх, менскіх, віленскіх яўрэяў таксама была там фактарам, які паказаў пісьменніку сапраўдныя маштабы нацыянальнай катастрофы яўрэйства, што зусім не афішавалася ў СССР. Як згадваў Анатолій Рыбакоў: "У сямідзясятых гадах на студыі "Беларусьфільм" здымаліся мае тэлевізійныя фільмы "Корцік", "Бронзавая птушка", "Апошняе лета дзяцінства". Кожны фільм па тры серыі. Здымкі адбываліся ў Беларусі, я ездзіў у Мінск, у іншыя гарады, туды, дзе за немцамі былі гета, дзе знішчаліся яўрэі, пазней мы з Таняй (жонка Анатолія Рыбакова. – *А.Б.*) пабывалі ў Вільні, у знакамітых Панарах, дзе знішчаныя дзясяткі тысячаў яўрэяў. Перада мной паўставала жахлівая карціна яўрэйскай катастрофы. Я прачытаў усё выдадзенае ў нас на гэтую тэму, але, па сутнасці, акрамя стэнаграмаў Нюрнбергскага працэсу, нічога не было. Сара Бабенышава, літаратурны крытык, мая сяброўка, якая жыла ў Перадзелкіна, адважная жанчына, звязаная з дысідэнтамі, забяспечвала мяне нумарамі падпольнага часопіса "Яўрэі ў СССР", дзе былі патрэбныя мне матэрыялы".

У іншым інтэрв'ю Анатолій Рыбакоў дадае: "У Шчорсе (так быў пераназваны Сноўск. – *А.Б.*) не было гета. Але калі я пісаў "Важкі пясок", то часта ездзіў у Беларусь: там здымаліся тэлевізійныя фільмы па маіх дзіцячых кнігах. Быў у Менску, у іншых гарадах, дзе пры немцах былі гета".

Такім чынам, напісанне рамана “Важкі пясок” было пэўным адказам на тыя балючыя пытанні, якія турбавалі пісьменніка. Падчас збору матэрыялаў для рамана Анатолій Рыбакоў з “рамана пра любоў”, які ён хацеў напісаць, стварыў “раман пра Халакост”.

Анатолій Рыбакоў едзе ў Сноўск, дзе, як ён згадвае, “ад трохтысячнага яўрэйскага насельніцтва засталося дзвесці чалавек”. Пісьменнік пачынае размаўляць з тымі, хто выжыў: “Аднаго са старых, былога мясцовага цырульніка Бярнарда Сямёнавіча, я памятаў па сваіх прыездах у Сноўск у дзяцінстве. Такі быў элегантны, прадстаўнічы пан, яго цырульня была ў свой час накшталт клуба мясцовай інтэлігенцыі. І цяпер яшчэ бадзёры, чысценькі, сівы, добрапрыстойны, ведаў і памятаў усіх, хто тут жыў, загінуў, з’ехаў, прыехаў. Падчас вайны быў у эвакуацыі, вярнуўся адразу пасля вызвалення горада. Разам з іншымі старымі хадзілі па дварах, пустках, дарогах, лясах і палях, збіралі ў мяхі парэшткі забітых. Трупы сатлелі, але некаторых Бярнард Сямёнавіч пазнаваў па валасах. Парэшткі гэтыя яны пахавалі ў брацкай магіле на могілках, хаця ніякіх яўрэйскіх могілак тады ўжо не было, надмагільныя пліты расцягнулі, а самі могілкі па загадзе нямецкай камендатуры перааралі. Могілкі аднавілі, яўрэі сталі зноў хаваць сваіх памерлых, але вось бяда – плот паваліўся.

Некалькі дзён Бярнард Сямёнавіч быў са мной, распавядаў пра лёс кожнага жыхара. Пасля вайны вярнуліся франтавікі, эвакуяваныя, распытвалі мясцовых жыхароў пра сваякоў, блізкіх, збіралі крупінкі звестак, зерне праўды, знайшліся людзі, якія выратоўваліся цудам ад расстрэлу, якія выпаўзлі з магілаў, пайшлі ў партызаны. Аповяды Бярнард Сямёнавіч запомніў і пераказаў мне, вадзіў да тых, хто застаўся жывы, хто быў сведкам таго, што адбылося, вадзіў да жанчынаў-паўкровак, якіх не паспелі расстраляць, высвятляючы, які ў іх адсотак яўрэйскай крыві”.

Анатолій Рыбакоў, чалавек, які багата што пабачыў і перажыў у сваім жыцці, быў у ссылцы, ваяваў, атрымаў ад пачутага і ўбачанага моцны эмацыйны і псіхалагічны стрэс: “Паступова ў мяне склалася карціна таго, што адбывалася ў Шчорсе, я добра памятаў сваіх дзядулю і бабулю, дзядзькоў, ясна ўяўляў сабе Рахіль і Якава (галоўныя героі рамана “Важкі пясок”. – *А.Б.*). І мог ужо дакладна сказаць, як бы кожны з іх дзейнічаў у гэтых абставінах, што б рабіў і як бы сябе паводзіў”.

Адбываецца пранікненне мінулых падзеяў у свядомасць пісьменніка. Уява перамешваецца з рэчаіснасцю: “Усё, што адбывалася з гэтымі людзьмі, адбылося са мной. Над горадам апусцілася ноч, я блукаў у гэтым змроку па тых самых вуліцах. І цені закатаваных брылі побач са мной ад хаты да хаты”.

На помніку на брацкай магіле на яўрэйскіх могілках у Сноўску быў зроблены надпіс па-руску: “Вечная памяць ахвярам нямецка-фашысцкіх захопнікаў”.

З надпісамі на помніках над забітымі яўрэямі ў Савецкім Саюзе была асобная гісторыя. Помнікі ўсталёўваліся з неахвотаю, у надпісах не дазвалялася згадваць, што забітыя былі яўрэямі, паўсюль пісалі “савецкія грамадзяне”. Як пісала даследчыца Халакосту Сімона Вайль, “ускладанне вянкоў з яўрэйскай сімволікай да месцаў масавай гібелі яўрэяў (уключаючы Бабін Яр) стала прыраноўвацца – да антысавецкай дзейнасці... Толькі ў Мінску, на пастаўленым у 1947 годзе помніку вязням гета, яўрэйская сімволіка засталася некранутай”.

У Сноўску, як і ў Менску, з надпісам на помніку таксама было не так, як паўсюль. Як згадвае Анатолій Рыбакоў, ён пацікавіўся ў сноўскіх старых яўрэяў: “Скажыце, – спытаўся я, – як вы пераклалі на яўрэйскую мову гэтыя словы: “Вечная памяць ахвярам нямецка-фашысцкіх захопнікаў”? Бярнард Сямёнавіч пасміхнуўся:

– Як пераклалі? Там напісана зусім іншае.

– Што менавіта?

– Там напісана з Бібліі: “Венікойсі, домом лой нікойсі...”

– Што гэта значыць?

– Гэта значыць: “Усё даруецца, але тым, хто праліў нявінную кроў, не даруецца ніколі”.

Калі я вярнуўся ў Маскву, я сказаў Тані:

– У мяне ёсць заканчальныя словы рамана”.

Вось так першапачатковая задума пісьменніка напісаць невялікую навэлу пра каханне ператварылася ў ідэю стварэння рамана. І хоць Анатолій Рыбакоў з іранічным сумам заўважае, што “я не ў лепшы час сеў пісаць раман пра яўрэяў”, унутрана ён быў свабодным, незапрыгоненым чалавекам і вонкавыя цяжкасці не маглі яго спыніць. Раман з першапачатковай назваю “Рахіль” быў ім напісаны ў 1975-77 гадах.

Няпростай была гісторыя публікацыі рамана. Яго адмаўляюцца друкаваць у цэнтральных расійскіх літаратурных чаопісах, у “Новом мире” і “Дружбе народов”. Нечакана пагадзіўся на друк часопіс “Октябрь”, рэдактарам якога на той час быў пісьменнік-франтавік Анатолій Ананьеў. Раман у часопісе быў моцна абскубаны. Анатолій Рыбакоў вымушаны быў пагадзіцца на праўкі, купюры, змяніць назву “Рахіль” на “Важкі пясок”, узяўшы гэты сімвалічны вобраз з біблейскай цытаты: “Калі б было ўзважанае гора маё і разам пакуты мае паклалі б на вагі, дык цяпер былі б яны больш важкія за пясок марскі: таму адчайныя словы мае”.

З раману таксама былі выразаныя ўсе эпізоды, датычныя рэпрэсіяў 30-х гадоў. Як згадвае Анатолій Рыбакоў: “Антысеміцкія ўлёткі з тэкстам з Дастаеўскага, якія раскідвалі немцы на фронце, я замяніў тэкстамі Кнута Гамсуна. Але ўсё ж такі штосьці ўдасца сказаць. Бо нават саму лічбу знішчаных яўрэяў – шэсць мільёнаў – хвалі, упершыню ў нас яна была названая ў маім рамане”.

“Важкі пясок” быў выдрукаваны ў пашкамутаным выглядзе. Але, як заўважаў Анатолій Рыбакоў: “колькі не выключай з рамана слова “яўрэй”, раман пра яўрэяў, і нікуды ад гэтага не падзенешся”.

Публікацыя “Важкага пяску” выклікала моцны эфект. Анатолій Рыбакоў прыгадваў: “Важкі пясок” меў поспех. Чытачы – яўрэі, рускія, украінцы, беларусы – прыслалі мноства лістоў, пісалі людзі, якія ацалелі ў лагерах знішчэння, у гета, у палоне, дзеці, якія страцілі бацькоў, бацькі, якія страцілі дзяцей... Лёсы страшныя... “Вы пісалі пра мяне, пра маю сям’ю, пра мой горад...” Але раман не быў ацэнены ў афіцыйным савецкім друку. Яўрэйская тэма, тэма Халакосту ў СССР заставалася забароненай. Страх і самацэнзура панавалі ў творчым асяроддзі. На ўсё на гэта накладаўся і прыхаваны антысемітызм. Анатолій Рыбакоў апісаў адзін з паказальных выпадкаў:

“Спыняе мяне ў Саюзе пісьменнікаў адзін вядомы крытык:

– Я плакаў, і жонка мая плакала, і маці жонкі ў Менску плакала, а мая маці ў Кіеве проста галасіла, казала, што вы апісалі яе родны горад Сарны, ведаеце, ёсць такі горад у Украіне.

– Вось і цудоўна, напішыце пра раман.

– Няёмка. Скажуць, яўрэй хваліць раман пра яўрэяў.

– Я таксама яўрэй, а напісаў, не пасаромеўся.

– Ці надрукуюць... Сумняюся.

– Я таксама не быў упэўнены, што надрукуюць, а пісаў.

– Трэба будзе падумаць... Але раман выдатны. Я плакаў, жонка мая плакала, яе маці ў Менску плакала, а мая маці ў Кіеве проста галасіла, усё згадвала Сарны.

Нічога ён, вядома, не напісаў”.

За мяжою раман Анатолія Рыбакова “Важкі пясок” стаў бестселерам. Ён быў

выдадзены ў 26-ці краінах, наклад толькі аднаго выдання ў Даніі быў 60 тысячаў асобнікаў.

Прыхаваны поспех рамана ў СССР і гучны за мяжой зусім не дапамог Анатолію Рыбакову ў публікацыі іншага нязручнага для ўладаў рамана – “Дзеці Арбату”, які быў напісаны значна раней, у 60-я гады. Асцерагаючыся за лёс твора, Анатолій Рыбакоў пераправіў два асобнікі рукапісу за мяжу на захаванне. Але пісьменнік хацеў, каб найперш “Дзеці Арбату” выйшлі ў СССР. Анатолій Рыбакоў не спяшаўся. Ён спадзяваўся, што прыйдуць лепшыя часы. Не меўшы ніякіх ілюзіяў да сталінскіх часоў, ён гэтак жа цвяроза ацэньваў і гады “развітага сацыялізму”: “За васемнаццаць гадоў кіравання Брэжнеў зноў загнаў краіну ў сталінскі хлеў. Ягоная ўласная абмежаванасць адпавядала абмежаванасці кіруючай наменклатуры... Гады брэжнеўскага праўлення называюць “спакойнымі”. Гэта быў спакой асуджаных. Не было трагедый і жахаў сталінскага тэрору, але няўмольна насоўваліся распад і хаос. Маразм лідэра распаўсюдзіўся на грамадства, скалечыў цэлыя пакаленні”.

Тым больш важным было для пісьменніка паказаць карані гэтага цяжкага стану, у якім апынулася нашае грамадства ў постсавецкі перыяд.

Так атрымалася, што ў сваёй літаратурнай дзейнасці, у сваіх найбольш значных, галоўных літаратурных творах, Анатолій Рыбакоў паказаў чалавеканенавісніцкую сутнасць двух найстрашнейшых таталітарных палітычных дактрынаў XX стагоддзя – камунізму і фашызму. Прычым рабіў ён гэта, зыходзячы з свайго асабістага жыццёвага вопыту, трагічнага лёсу сваіх родных і сваякоў, галоўная прыкладная задача якіх заключалася толькі ў адным – як выжыць. Але гэты шанец па волі лёсу быў дадзены далёка не ўсім.

Вяртаючыся да рамана “Важкі пясок”, мне хацелася б звярнуць увагу на ягоныя “беларускія” старонкі. Як я пісаў ужо раней, Анатолій Рыбакоў згадваў пра тое, што наведванне Менску ды іншых беларускіх гарадоў, дзе былі гета падчас вайны, дало яму пэўны штуршок для апісання падзеяў Халакосту ў рамане. Да ўсяго, мястэчка Сноўск, якое апісвае Анатолій Рыбакоў, знаходзіцца непадалёк ад Беларусі, на чыгунцы, якая звязвала Беларусь і Украіну. Таму і асноўныя падзеі ў рамане развіваюцца на кавалку гэтай чыгуначнай магістралі – ад Чарнігава і да Гомеля.

Цікавая гісторыя жаніцьбы дзеда галоўнага героя рамана “дзядулі Рахленкі”, які быў сынам яўрэйскага карчмара, сыйшоў з дому ў 15 гадоў і працаваў на будаўніцтве чыгункі, “цягаў шпалы, праца была па ім, бо фізічнай моцы ён быў незвычайнай”. Пасля ён працаваў у Адэсе, вывучыўся на чабатара, затым з’ехаў у Аргенціну і ўрэшце вярнуўся на Чарнігаўшчыну, пасяліўся ў Сноўску і заняўся чабатарным рамяством. Навэла пра жаніцьбу “дзядулі Рахленкі”, трэба меркаваць, з’яўлялася сямейнай гісторыяй сям’і пісьменніка. Напісаная яна ярка, жыва, каларытна, у стылі сямейных паданняў, і мае дачыненне да Беларусі. Яна вартая, каб быць тут прыведзенай цалкам. У спадзяванні, што чытач гэтага артыкула ведае рускую мову, падаю гэтую навэлу, як і ўсе астатнія, па-руску, каб не сапсаваць сваім перакладам аўтарскі стыль:

“Жену себе дедушка взял из Гомеля. Он много ездил. Если добрался до Аргентины, о Гомеле и говорить нечего. В Гомеле бабушка работала в парикмахерской, делала парики. В то время набожные женщины носили парики, собственные волосы стригли, не совсем, конечно, не наголо, немного оставляли, чтобы не выглядеть лысой без парика; как вы понимаете, в постель к мужу они ложились без парика, а на людях снова надевали, привязывали косу. Откуда это взялось, не знаю, так предписывал религиозный обычай.

Итак, бабушка в девушках жила в Гомеле, работала в парикмахерской, где-то они с дедушкой встретились, влюбились друг в друга и решили пожениться.

Для дедушки это было совсем не просто: красавец, много разъезжал, привык к холостой жизни и, понимаете, к *какой* холостой жизни, от женщин у него отбоя не было, и ему было нелегко поставить на этом крест, нелегко было *завязать*, как теперь говорят. Однако он решил поставить крест, завязать, жениться на бабушке. Но и для бабушки выйти замуж за него тоже была проблема, но совсем иная. Ее отец был ломовой извозчик, а в то время цеховые связи были очень крепкими, ремесленники часто жили на одной улице, женили своих сыновей на дочерях соседей, – таким образом, объединялось и укреплялось их дело. К бабушке, как дочери ломового извозчика, сватался тоже сын ломового извозчика, сам ломовой извозчик. И этот ее жених уговорил своих собратьев по цеху отколотить дедушку, чтобы тому неповадно было отбивать чужих невест, тем более из другого города и из другого цеха.

Приехал как-то дедушка в Гомель, зашел к бабушке, посидели, потом бабушка пошла проводить его на вокзал. И вот тут, на вокзале, извозчики набросились на дедушку.

Вы видели когда-нибудь, как дерутся ломовые извозчики? Они бьются насмерть, бьются железными ломами, которыми закручивают веревки на телегах. Сами понимаете: одно дело, если вам звезданут по башке кулаком или даже бутылкой, совсем другое – если железным ломом. Но дедушка сумел выхватить у одного извозчика лом и, отбиваясь, вбежал в вокзал. За ним ворвались извозчики. Женщины кричали, дети ревели, станционное начальство попряталось; станционное начальство храброе, когда перед ним безбилетный пассажир, – но когда перед ним разъяренная толпа ломовых извозчиков с железными ломами в руках, то у этого начальства душа уходит в пятки и оно прячется. А ни одно начальство в мире не умеет так прятаться, как железнодорожное. Когда в кассе нет билетов, а вам надо срочно ехать, попробуйте найти не то что начальника вокзала, а хотя бы дежурного – никогда не найдете. Дедушка был один на один с десятком рассвирепевших ломовых извозчиков, которые готовы были своими ломами сделать из него котлету. Но дедушка был не тот человек, из которого можно сделать котлету. С ломом в руках он пробился обратно на площадь, подхватил свою невесту, мою будущую бабушку, обежал с ней вокзал, вскочил в поезд и уехал в свой город. Там они и обвенчались".

Чытаючы гэтую навэлу ў рамане "Важкі пясок", разумееш, што як і ў любым рамантычным паданні тут ёсць і перабольшванні і нават пэўная міфалагізацыя фізічных здольнасцяў маладога "дзядулі Рахленкі", які прыехаў са Сноўска ў Гомель і ў барацьбе з супернікам адбіў і выкраў сваю нявесту. Але асноўны сюжэт навэлы не выклікае сумневу. З пераадольваннем цяжкасцяў, з асабістай адвагаю і рашучымі дзеяннямі "дзядулем Рахленкам" было захаванае права на стварэнне сям'і. Я падазраю, што і цяпер у кожнай нашай сям'і існуюць свае прыватныя гісторыі са шчаслівым ці не зусім канцом. Гэтая навэла ў рамане Анатолія Рыбакова дае дастаткова поўнае ўяўленне пра характар і асобу "дзядулі Рахленкі". Для нас таксама цікавым здаецца гэты хуткі зарыс з паўсядзённага жыцця Гомеля канца XIX стагоддзя.

Паказаны ў рамане "Важкі пясок" і Сноўск, што ён з сябе ўяўляе ў нацыянальных адносінах: "Население нашего города было смешанное, но дружное; жили в мире русские, украинцы, белорусы, евреи; тут же, неподалеку, шесть немецких сел, предки этих немцев, родом из Франкфурта-на-Майне, были поселены здесь Екатериной Второй. До этого, в семнадцатом веке, в здешние леса переселились раскольники–беспоповцы. А на железной дороге, в депо, работали поляки, высланные сюда после восстания 1863 года. В общем, население пестрое, но вражды, национальной розни – никакой! Достаточно сказать, что у нас ни разу не было погрома".

Апісанне Сноўска, з невялікімі зменамі, характэрнае і для шматлікіх беларускіх мястэчак і гарадоў. Мультыкультурнасць горада, мястэчка ў Беларусі і ва Украіне складалася стагоддзямі і была нашай адметнай гістарычнай рысай.

Раман Анатолія Рыбакова "Важкі пясок" з'яўляецца апроч усяго і раманам-успамінам, дзе большая яго частка – гэта ўспаміны галоўнага героя. Ці ўспаміны іншых персанажаў, пераказаныя галоўнаму герою, які, у сваю чаргу, распавядае іх чытачу. Пабудаваны раман у выглядзе доўгага шэрагу невялікіх навэлаў, аб'яднаных лёсам адной сям'і Іваноўскіх-Рахленка. Апроч сямейнікаў аўтар гэткім жа ж чынам, праз невялікія гісторыі-навэлы апісвае суседзяў, знаёмых, іншых людзей, якія жывуць у Сноўску. Распавядаючы пра жыццё-быццё свайго "дзядулі Рахленкі", аўтар апісвае і кола ягоных суседзяў і знаёмых. Так у рамане з'яўляецца другая "беларуская" навэла пра Апанаса Пракопавіча Сташанка:

"Рядом с нами жил шорник Сташенок Афанасий Прокопьевич, белорус, изготовлял то, что положено шорнику: сбрую упряжную, верховую, хомуты, постромки, шлеи, вожжи, седла, даже отделывал экипажи кожей и обивкой. Шорник – профессия родственная сапожной, разница только в игле: шов сапожника должен быть плотный, не пропускать пыли и воды, нитка должна полностью заполнять прокол, а шорник этим не связан и употребляет шило. Но материал у них один – кожа, и потому у дедушки с этим шорником Сташенком была некая кооперация: что не нужно одному, отдавалось другому, тем более – соседи. У дедушки был большой двор и большие сараи, и Сташенок этими сараями пользовался, у него было много кожевенного товара, и он полностью доверял дедушке. Они прожили рядом тридцать лет и за эти тридцать лет не сказали друг другу и тридцати плохих слов.

И вот однажды приезжают два цыгана, один дедушкин знакомый, по имени Никифор, другой незнакомый. Заехали во двор, поставили телегу, Никифор заказал у дедушки сапоги, взял какой-то товар у Сташенка, погрузил в телегу и выехал со двора. Но тут прибегают сыновья Сташенка и говорят, что цыгане что-то у них украли. Дедушка выходит на улицу, останавливает телегу и под сеном находит ворованное. Собирается толпа, хотят бежать за полицией, но дедушка запрещает – никакой полиции. Он приказывает отнести ворованное на место, потом спрашивает у знакомого цыгана:

– Как рассчитываться будем, Ничипор?

Тот молчит, что ему говорить?

Тогда дедушка ударяет его так, что Никифор летит на землю и изо рта и из носа у него идет кровь.

Второго цыгана, незнакомого, дедушка не тронул. Он бил не за воровство, а за предательство.

Вот такой человек был дедушка Рахленко".

Як мы бачым, гэтая пабытовая навэла, з тых, пра якія кажуць: "а вось яшчэ быў і такі выпадак..." Яна дае першае ўяўленне пра Апанаса Сташанка як пра фактычна такога самага, як і "дзядуля Рахленка", дробнага рамесніка. Местачковае жыццё яўрэяў, беларусаў, украінцаў, цыганоў было цесна пераплеценае, і стасункі між імі будаваліся не па нацыянальнай прыкмеце, а па спрадвечных людскіх маральных прынцыпах. Важны для разумення ўзаемаадносінаў "дзядулі Рахленкі" і Апанаса Сташанка вось гэты сказ з навэлы: "Яны пражылі побач трыццаць гадоў і за гэтыя трыццаць гадоў не сказалі адзін аднаму і трыццаці кепскіх словаў". Ён адразу расстаўляе ўсё на свае месцы. Іваноўскія-Рахленкі і Сташанкі жылі не проста як суседзі, а як дабрэнныя суседзі, гатовыя, калі трэба, заўсёды дапамагчы адзін аднаму. Гэтая карціна, ізноў жа, характэрная і для беларускага мястэчка, дзе беларусы, яўрэі, палякі жылі побач без вялікіх праблемаў.

Але такое супольнае жыццё не азначала сцірання культурных і нацыянальных

адметнасцяў паміж прадстаўнікамі розных нацыянальнасцяў. У рамане падрабязна апісаныя яўрэйскія традыцыі і звычаі, якія захоўваліся яўрэямі Сноўска і сям'ёй "дзядулі Рахленкі". Сам "дзядуля Рахленка" быў старастам у сінагозе. Дзякуючы ягоным намаганням, замест старой сінагогі ў Сноўску была пабудаваная новая.

Наступная "беларуская" навэла ў рамане "Важкі пясок", прысвечаная сям'і Сташанкоў, датычыць якраз апісання нацыянальных адметнасцяў побыту беларускай сям'і. У рускамоўным тэксце Анатолій Рыбакоў, для перадачы адпаведнай атмасферы, выкарыстоўвае беларусізмы, што надае гэтай навэле непаўторны "беларускі цымус" і гаворыць пра тое, што аўтар пры яе напісанні актыўна працаваў з беларускай мовай:

"Вы помните, конечно, дедушкиного соседа шорника Афанасия Прокопьевича Сташенка. Я уже говорил, что это были хорошие, порядочные люди: старик Сташенок, его жена, сыновья Андрей и Петрусь, дочь Олеся, светлокожие, светловолосые, сероглазые, среднего роста, на вид хрупкие, на самом деле физически сильные. Жены молодых Сташенков Ксана и Ирина были такие же белолицые, светловолосые, и дети их, внуки Афанасия Прокопьевича, тоже беленькие, бегали по улице в белых рубахах и белых портках.

Другие белорусы у нас говорили по-русски, одевались по-городскому. Сташенки говорили по-белорусски: галава вместо «голова», сяло – село, мылыдая – молодая, домоў – домой, дзед – дед, пойдзем – пойдем, дзверы – двери, дзяўчына – девушка, ну и так далее, мы их отлично понимали: когда с детства общаешься с людьми, привыкаешь к их речи. И одевались они с некоторой примесью белорусской одежды: под пиджаком рубаха навыпуск с косым вырезом и узким воротником, вышитым красной тесьмой, на женщинах – короткая кофточка со шнуровкой, плотно облегающая грудь, синяя или красная юбка, фартук, на голове платок. Женщины в доме Сташенка были очень красивые, и сам дом был особенный: вышитые рушнички, берестяные кружки, лукошки, деревянные ложки, за иконой пучок травы или вереска, – и уклад их жизни очень отличался от дедушкиного: шумного, деятельного, иногда скандального. Сташенки жили тихо, спокойно, разговаривали сдержанно, с большим достоинством.

Во время обеда старик Сташенок сидел в углу, рядом – сыновья, по старшинству, на другой стороне женщины, с краю – хозяйка. Крошить хлеб считалось большим грехом, упавшую крошку поднимали – уважали хлеб. Оплеух, которые дедушка Рахленко щедро раздавал своим сыновьям, в доме Сташенков и в помине не было. Сташенки были хорошие мастера, но жили скудно, работали медленно, не торопились, любили добротно и со вкусом сделанную работу. Как я уже рассказывал, до революции Сташенок отделывал экипажи кожей и обивкой. После революции никто в экипажах не ездил, Сташенки изготовляли и починяли упряжную сбрую: хомуты, постромки, шлеи, – а такое мужик и сам починит. Так что доходы, сами понимаете... Дело угасло, старший сын, Андрей, пошел в депо, ремонтировал приводные ремни к станкам, чинил сиденья в вагонах, второй сын, Петрусь, работал на кожзаводе, а старик продолжал кустарничать со своими хомутами. Но жили по-прежнему вместе, семья была дружная, радушная и гостеприимная. Встречали вас словами: «Кали ласка», не знаю, как это перевести по-русски: «Милости просим!», «Будьте как дома!», «Осчастливьте нас своим присутствием»... Обязательно посадят за стол. И хотя главной их пищей была бульба – картофель, но из картофеля они готовили вкуснейшие блюда: бульба со шкварками, бульба с грибами, бульба с кислым молоком... А драники – картофельные оладьи с медом, сметаной или грибами – пальчики оближешь!

Ребенком я приходил в их мастерскую. Пахло сыромятной кожей, скипидаром, купоросом, лаком, уксусом, столярным и рыбным клеем. Сташенки сидели верхом на скамейках, где были укреплены деревянные тиски с зажатой в них очередной

поделкой. Когда я приходил, Андрей и Петрусь лукаво переглядывались, и кто-нибудь из них начинал рассказывать о злых духах, обитающих в лесах, реках и болотах, добродушно пугал меня... Лесавик – отвратительное существо с громовым голосом и страшными, пышущими огнем глазами, сам кашлатый, то есть косматый, нячисьцики – черти, живущие в болоте, охотники до всяких проказ... Сказки, конечно, но Сташенки рассказывали их очень достоверно, с подробностями, а я был маленький, на меня это производило сильное впечатление и связывалось в моем воображении с волшебным, таинственным и фантастическим миром. Дом Сташенков – одно из самых трогательных и поэтических воспоминаний моего детства.

И еще они любили петь. Ни у кого из них, правда, не было такого голоса, как у моей матери Рахили, но пели Сташенки хорошо, особенно, когда пели вместе. Мелодия белорусской песни, если вы ее слышали, несколько однообразна, даже, может быть, заунывна, но в ней есть своя особенная грустная прелесть, человечность и доброта.

Песен их я слышал много, не только грустных, но и веселых, даже озорных, но особенно запомнилась мне одна, может быть, потому, что ее пела маленькая Олеся, и мне было странно, что такую песню поет девочка. Вот эта песня:

Ой, хацела ж мяне маць
Ды за першага аддаць,
А той першы
За мяне старэйшы,
Ой, не аддай мяне, маць!
Ой, хацела ж мяне маць
Ды за другага аддаць,
А той другі
Ходзіць да падругі,
Ой, не аддай мяне, маць!
Ой, хацела ж мяне маць
Да за трэцяга аддаць,
А той трэці
Як у полі вецер,
Ой, не аддай мяне, маць!
Ой, хацела ж мяне маць
За чацвёртага аддаць,
А той чацвёрты
Ні жывы, ні мёртвы,
Ой, не аддай мяне, маць!
Ой, хацела ж мяне маць
Ды за пятага аддаць,
А той пяты
П’яніца пракляты,
Ой, не аддай мяне, маць!
Ой, хацела ж мяне маць
Ды за шостага аддаць,
А той шосты
Хворы, недарослы,
Ой, не аддай мяне, маць!
Ой, хацела ж мяне маць
Ды за сёмага аддаць,
А той сёмы
Добры ды вясёлы,
Ён не схацеў мяне ўзяць...”

Як мы бачым, Анатолій Рыбакоў не пашкадаваў месца і вырашыў у рамане даць поўны тэкст беларускай народнай песні. Песні, якая стварыла адпаведны настрой перад апісаннем наступнай навэлы, звязанай з каханнем. Трэба яшчэ

адзначыць, што гэты тэкст песні ў рамане быў пададзены беларускім правапісам, без рускай транскрыпцыі і амаль без памылак.

Цікава, што ў рамане “Важкі пясок” хоць дзеянне і адбываецца на Украіне, але ў ім няма апісання ўкраінскага побыту. Зразумела, што ўспаміны дзяцінства і ранняга юнацтва, на якія абапіраецца аўтар, абіральныя. Але ўсё роўна ўражвае, з якой любоўю і сімпатыяй выпісаная беларуская сям’я Сташанкоў. Аўтар дакладны ў дробных побытавых дэталях, у беларусізмах у мове, у этнаграфізме беларускага адзення і ежы. Традыцыйнасць, пэўны здаровы кансерватызм беларускай сям’і Сташанкоў расцэньваецца і падаецца аўтарам як станоўчая рыса іхняга жыцця.

У пэўным сэнсе Анатолій Рыбакоў стварае ідэальную карціну беларускай сям’і, якая засталася ў ягоных дзіцячых успамінах. Але ж гэта не толькі некрытычны зарыс дзіцячай памяці. Ідэальная беларуская сям’я яшчэ спатрэбіцца Анатолю Рыбакову ў рамане для далейшага развіцця трагічнага жыццёвага сюжэту яўрэйскай сям’і Іваноўскіх-Рахленка. Бо раману прысутныя пэўныя рысы сімвалічнасці і міфалагізацыі. У трагедыі жыцця яўрэяў Сноўска, сям’і Іваноўскіх-Рахленка, дзе было так багата метафізічнага зла, зла ў ягоным чыстым і жахлівым выглядзе, мусіла існаваць і дабро. Бо калі б у свеце жыло толькі зло, такое жыццё страціла б сэнс. Вось жа роля такога сімвалічнага дабра якраз і адводзілася пісьменнікам беларускай сям’і Сташанкоў.

Наступная навэла развівае гісторыю ўзаемаадносінаў сем’яў Іваноўскіх-Рахленка і Сташанкоў. Яна датычыць маладога пакалення ў гэтых сем’ях. 20-я гады ХХ стагоддзя рашуча сцёрлі межы паміж рознымі нацыянальнымі супольнасцямі жыхароў мястэчак і гарадоў. Таму, не дзіва што гэтая навэла мае рамантычны настрой, адпаведны апісанню юначага кахання. Вось як Анатолій Рыбакоў распавядае пра яго:

“Олеся была в семье Сташенков поздним ребенком, на десять лет моложе Петруся, в общем ровесница моему брату Лёве, значит, на год старше меня, нежная, прозрачная, гибкая, как веточка, русалочка с льняными волосами. Знаете, когда в соседнем доме, соседнем дворе, рядом с тобой растет такая девочка и ты через низкий забор видишь, как она в саду, под яблоней, плетет венок и детским голосом напевает жалобную белорусскую песню, то, пока ты мальчик, ты не обращаешь на это внимания. Но когда подходит твой возраст и ты вдруг обнаруживаешь, что она уже не девочка, а девушка с сильными, стройными ногами и молодой грудью, то это переворот в твоей жизни. Но ты для нее всего лишь соседский мальчик, и она относится к тебе, как к мальчику, ласково, но снисходительно называет тебя «мілы хлапчук», хотя сам для себя ты уже не мальчик и тебе по ночам видится всякое, и то, что тебе видится, связано с этой девушкой... Все остается только при тебе, сначала тайной, потом воспоминанием...

Ну ладно... Олеся была комсомолкой, ей были поручены курсы ликбеза в деревне Тереховка, это от нас в двенадцати километрах, шагать туда и обратно надо пешим порядком. Хотя мы тогда недоедали, но были поразительно выносливы, вышагивали и по двадцать, и по тридцать километров, и не летом, летом крестьянин в поле, ходили осенью – в грязь, зимой – в снег и мороз. Отправлялись мы в Тереховку вместе, я и Олеся, она, как я уже говорил, на курсы ликбеза, я – для оформления стенгазеты, а вернее, чтобы охранять Олесю, все же девушка, а я, как ни говори, парень, хотя и младше ее, но, надо сказать, крепкий, здоровый; и, сознавая свою ответственность за Олесю, я чувствовал себя богатырем, был готов дать отпор кому угодно. Давать отпор было некому, банды были уже ликвидированы, и мы шлепали с Олесей проселочной дорогой, по осенней грязи, босиком, перекинув через плечо сапоги, связанные за ушки; у Олеси их всего одна пара, и у меня, хотя я и сын сапожника, и внук сапожника, и сам сапожник, тоже одна пара, и мне случалось давать свои сапоги ребятам,

у которых их вовсе не было. Перед деревней мы сапоги надевали: босоногий горожанин не имеет авторитета в деревне.

Тем же путем возвращались обратно. Иногда нам давали лошадь, мы ехали в подводе – осенью, а зимой – в санях, в деревенских розвальнях, набитых сеном... Вечер, опушка леса, луна освещает темноватый снег на полях, а белый снег на деревьях освещает милое Олесино лицо, голова ее и грудь крест-накрест перевязаны платком, блестят прекрасные, добрые и веселые глаза... Сено таинственно шуршит, нам тепло в этом сене, но мне кажется, что я чувствую ее, Олесино, тепло... Чего не вообразишь в пятнадцать лет, когда рядом с тобой такая девушка!

Я был тогда влюблен в Олесю, влюблен по-мальчишески, когда тебя будоражит молодая кровь, возраст и возраст же заставляет стыдиться этого чувства. Мне казалось, что все в нее влюблены. Может быть, так оно и было, но все мы знали, все мы видели: Олесе нравится мой старший брат Лёва".

Вёска Церахоўка – гэта ўжо сённяшняя Беларусь, дарэчы, месца нараджэння сучасных беларускіх спявачак Вольгі Цярэшчанкі і Русі. Але ў гады, якія апісвае аўтар, гэтая тэрыторыя адносілася да Расіі. Яе прыяднаюць да Беларусі разам з Гомелем, падчас трэцяга ўзбуйнення БССР у 1926 годзе. Хутчэй за ўсё, Сноўск і Церахоўка адносіліся да розных раёнаў і рэспублік, таму для мяне не зусім зразумела, чаму Алеся і галоўны герой рамана "Важкі пясок" Барыс хадзілі з украінскага Сноўска ў беларускую, а тады яшчэ падпарадкаваную Расіі Церахоўку. Можа так яно і было, а можа, аўтар і дадумаў гэтую гісторыю. Але з'явілася яна ў рамане, як мне падаецца, невыпадкова. Час ужо дазваляў яўрэйскаму юнаку закахацца ў беларусачку, хоць гэта і было першае юнацкае каханне, каханне рамантычнае і, калі можна так сказаць, несур'ёзнае. Час дазваляў таксама і беларусцы Алесі закахацца ў яўрэя, і гэта быў не яшчэ хлапчук Барыс, а ягоны старэйшы брат Лёва.

Анатолій Рыбакоў так апісвае іхнія пачуцці адно да аднаго:

"Олеся смотрела на Лёву, как и я, снизу вверх. Она выросла в простой семье, мать ее была домашней хозяйкой, и бабушки ее и золовки тоже были при доме, и Олеся тянулась за Лёвой, хотела, так сказать, соответствовать ему, хотела учиться, хотела работать, быть самостоятельной...

Но где у нас работать, куда пойти: двадцатые годы, нэп, в стране еще безработица, а о нашем городке и говорить нечего. Как и всюду, у нас была, конечно, бронь подростков на предприятиях, но какие это предприятия? Депо, кожевенный завод, сапожная артель... И все же Олесе удалось устроиться уборщицей в райисполкоме. Тогда райисполком, райком партии и райком комсомола, вообще все районные учреждения помещались в одном доме, некогда реквизированном у бывшего мучного торговца Фрейдкина. И вот Олеся в синем рабочем халатике и красной косынке стала украшением районной власти.

Нравилась ли она Лёве? У такого человека, как Лёва, этого не узнаешь, не давал волю чувствам. И все же я убежден: Олеся ему нравилась. Она всем нравилась, все ее любили: и моя мать, и мой отец, и дедушка, и бабушка. И когда они, Лёва и Олеся, стояли рядом, от них нельзя было глаз оторвать: Лёва высокий, стройный, черный, как цыган, Олеся ему по плечо, белолицая русалочка с льняными волосами...

Но ничего у них не получилось..."

Далей у рамане ідзе наступная навэла, у якой аўтар распавядае, чаму так сталася. Як гэта ні парадаксальна, але новы час, які зрабіў магчымым, дазволіў гэтае каханне, яго і знішчыў, забараніў. Лёва быў ідэйным сакратаром райкаму камсамола, а Алеся – дачкой дробнабуржуазнага элемента, кустара, бо яе бацька быў адзіным у горадзе шорнікам і ні ў якую новастворaную арцель не пайшоў, застаўся прыватнікам. У выніку "Лёва палічыў сябе абавязаным усё ёй прад'явіць", і на вучобу на рабфак паехала не Алеся, а іншы камсамолец, сын працоўнага:

“И когда Лёва произнес последние слова, Олеся встала и начала пробираться к выходу.

– Сташенок! – окликнул ее Лёва. – Собрание еще не кончено.

– Мне в деревню, уже поздно, – ответила Олеся.

Я поднялся и пошел вслед за ней. Лёва окликнул и меня:

– Ивановский, а ты куда?

– Туда же, – ответил я.

Все знали, что в Тереховку мы ходим вместе.

В деревню нам надо было идти только через два дня, но я хотел подтвердить Олесины слова, чувствовал себя обязанным выйти вслед за ней, хотя это и было нарушением комсомольской дисциплины.

На улице я сказал Олесе:

– Лёву часто заносит, ты не огорчайся.

Я думал, она заплачет. Нет, она не заплакала, она засмеялась... Да, да... Засмеялась. У нее оказался сильный характер. Сташенки вообще оказались людьми с характером, в этом вы еще убедитесь.

Она посмотрела на меня, улыбнулась и тихонько пропела:

Ой, хацела ж мяне маць
Ды за сёмага аддаць,
А той сёмы
Добры да вясёлы,
Ён не схацеў мяне ўзяць...

Опять засмеялась, потрепала меня по плечу:

– Милы ты хлапчук, Боря!

И ушла.

А недельки через две-три уехала в город Томск”.

Так час развёў Лёву і Алесю, а аўтар падрыхтаваў для іх розныя лёсы.

Пра Алесю Анатолій Рыбакоў коратка напісаў:

“А Олеся поступила в Томский университет, стала инженером-химиком, работала в нефтяной промышленности в Башкирии, на Волге, теперь в Тюмени, доктор наук, дети, внуки... Я ее встречал, она, естественно, приезжала к нам и до войны и после войны. Но все равно в моей памяти она остается такой, какой была тогда, в нашей далекой юности, когда мы ехали в розвальнях, луна освещала ее милое лицо в пуховом платке, мы лежали в сене, и мне казалось, что я чувствую ее тепло”.

Лёс Лёвы быў апісаны больш падрабязна. Ён рабіў камсамольскую, а потым партыйную кар’еру, у 30-я гады быў арыштаваны і рэпрэсаваны.

Вынік кахання Лёвы і Алесі быў першым трывожным, драматычным званком для сем’яў Іваноўскіх-Рахленкаў і Сташанкоў.

Аповед пра гэтае каханне паміж Лёваю і Алесяю, якое не склалася, таксама ўяўляецца шмат у чым сімвалічным. Рэпрэсіі, раскулачванне, абвінавачванні ва ўсялякіх -ізмах, у іншых грахах абваліліся на простых людзей, урэшце на саміх камуністаў, будаўнікоў і шчырых прыхільнікаў гэтай улады. У гэтым зусім ненадзейным і непрыстасаваным для спакойнага жыцця свеце, дзе агромністыя хвалі людскіх трагедыяў перакочваліся ад адной мяжы да другой, у перадваенныя гады ў СССР, проста і не магло ўтварыцца асобнае маленькае шчасце неардынарнага, разумнага яўрэйскага хлопца і прыгожай беларускай дзяўчыны. Рака часу несла гэты зменлівы свет да яшчэ большай для яўрэяў і беларусаў катастрофы, да Вялікай Айчыннай вайны.

Прыкладна траціна рамана “Важкі пясок” прысвечаная трагічным падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Сям’я Іваноўскіх-Рахленкаў не з’язджае ў эвакуацыю. Яны застаюцца у акупаваным фашыстамі Сноўску. Іх чакае жахлівы і няўхільны лёс усіх яўрэяў, якія не паспелі ўцячы. Бо ў чалавечую галаву не магло ўкласціся,

што ў Еўропе, у XX стагоддзі, цывілізаваныя немцы будуць забіваць людзей толькі за тое, што яны іншай нацыянальнасці. Забіваць усіх, татальна, без разбору, без шанцаў на выжыванне.

Апісанне гета, як ужо згадваў пісьменнік, было ўзята ім з гета, якія існавалі ў Беларусі. У безнадзейнай барацьбе за выжыванне ў гета сям'і Іваноўскіх-Рахленкаў дапамагаюць суседзі-беларусы Сташанкі:

"Главную помощь оказывали Сташенки. Если наша семья и пережила эту страшную зиму, то только благодаря Сташенкам. Они жили в бывшем нашем доме, раньше из него к дедушке мы ходили через сад Ивана Карловича, теперь ходить было нельзя: увидит часовой – пуля! Но у Игоря был лаз в сад Ивана Карловича, а оттуда – другой лаз под забором в наш двор. Игорь ночью прокрадывался к Сташенкам, они снабжали его чем могли, и тем же путем Игорь возвращался обратно. Кстати, у них в доме встречались и Оля с Анной Егоровной. Узнай об этом полицаи, они расстреляли бы всех Сташенков до единого. Но Сташенки были настоящими людьми, они не согнулись перед немцами, свой человеческий долг поставили выше страха.

Но у Сташенков не было ни продовольственного склада, ни продуктового магазина, они отрывали от себя, делились своей скудостью, снимали с себя последнее, чтобы помочь друзьям, погибающим в гетто".

Гінуць адзін за другім чальцы сям'і Іваноўскіх-Рахленкаў. За дапамогу партызанам гестапа арыштоўвае сям'ю Сташанкоў. Лёс беларускай сям'і сканчаецца трагічна:

"Знаете, что сделали наши садисты-полицаи? Они поставили Сташенков под виселицами так, в том же порядке, в каком те стояли на сцене клуба промкооперации, когда пели свои белорусские песни: с края Афанасий Прокопьевич, за ним его жена, потом Андрей, Ксана, Ирина и дальше дети, все белоголовые, босые, в белых рубахах... И табуретки из-под их ног вышибали по очереди, с паузами, пока не вышибли последний табурет из-под ног десятилетней Тани.

Вечная им память! Вечная слава мужественным сынам и дочерям белорусского народа!"

Анатолій Рыбакоў не дарэмна зводзіць лёсы дзвюх суседніх местачковых сем'яў яўрэяў і беларусаў да агульнай роўніцы. Пры фашысцкім рэжыме шанцаў на выжыванне не застаецца не толькі ў яўрэяў, але і ў беларусаў. Можа, таму так пафасна гучаць у рамане словы падзякі Анатолія Рыбакова беларусам, якія змагаліся супраць фашыстаў. Асабліва значна гэтыя словы гучаць у кантэксце трагічнага сюжэту рамана "Важкі пясок", твора пра каханне, пра Халакост.

У сваім трагедыйным пафасе раман "Важкі пясок" наўпрост перагукаецца з аповесцямі беларускага пісьменніка Алеся Адамовіча «Хатынская аповесць» і «Карнікі». Што датычыць псіхалагізму і мастацкай пераканаўчасці, на мой погляд, аповесці Алеся Адамовіча з'яўляюцца больш дасканалымі. У яго ўсё ж быў асабісты вопыт жыцця ў партызанах пад акупацыяй. Алесь Адамовіч браў удзел у напісанні і складанні кнігі выжылых ахвяраў генацыду беларусаў "Я з вогненнай вёскі", і аб'ём інфармацыі, якую ён ведаў пра "беларускі Халакост", быў вялізны. Затое "Важкі пясок" Анатолія Рыбакова меў большую актуальнасць і грамадскі рэзананс. Але што яднае пісьменнікаў, дык гэта агульны погляд і адносіны да таталітарных сістэмаў, да нечалавечых палітычных дактрынаў, якія панавалі ў фашысцкай Германіі і камуністычным Савецкім Саюзе. І Анатолій Рыбакоў, і Алесь Адамовіч бачылі, што адбываецца наўкол, аналізавалі мінулае, рабілі высновы і не ўмелі маўчаць. Яны абодва ў сваіх творах пра яўрэйскі Халакост і беларускі генацыд здолелі акумуляваць і паказаць трагедыю яўрэйскага і беларускага народаў. Трагедыю, якая аб'яднала нас у роўнасці. Бо ў смерці ўсе роўныя.

*Жнівень, 2013*
*Бабруйск*

Лада Алейнік



...усё ў стылі Федарэнкі –
шчыра і проста, шматзначна і складана.
Віртуозна, адным словам...

# “Рабі тое, да чаго ляжыць душа...”

## *Асоба і творчасць Андрэя Федарэнкі*

Творчую індывідуальнасць Андрэя Федарэнкі ахарактарызаваць складана. Калі паспрабаваць скласці “псіхалагічны партрэт” пісьменніка паводле яго твораў, то вобраз атрымаецца надзвычай супярэчлівы. Эпік і лірык, іронік і сатырык, рамантык і рэаліст. Сціплы і амбітны. Надзвычай далікатны, чуйны, датклівы... І выключна жорсткі. Шчыры, як дзіця, і хітраванец, якіх свет не бачыў. Ён шматаблічны і непрадказальны. Бясспрэчна адно: Федарэнка па-сапраўднаму таленавіты.

Яго талент быў заўважаны адразу. Пасля першых жа публікацый у часопісе “Маладосць” (у 1987 г.) пра А. Федарэнку імгненна “загаварылі”. Спачатку “кулуарна” – у рэдакцыйных кабінетах ды прыватных літаратурных кампаніях. А крыху пазней, пасля выхаду кнігі “Гісторыя хваробы” (1989), яго творчасць прыцягнула ўвагу крытыкаў і літаратуразнаўцаў. Гэта натуральна, бо ўжо ў дэбютнай кніжцы малады пісьменнік красамоўна “заявіў” пра свой эпічны талент, прадэманстраваў здольнасць да глыбокага псіхалагічнага аналізу і мастацкай тыпізацыі характараў. У артыкуле “Агрэсія формы. Стылёвыя пошукі маладой прозы” (1991) літаратуразнаўца Людміла


*Андрэй* ФЕДАРЭНКА

Корань слушна заўважыла: “Спосаб апавядання А. Федарэнкі, як і ўсе, здаецца, вядомыя спосабы апавядання ў свеце, з абсурдысцкімі ўключна, сто разоў апісаны лепшымі даследчыкамі класічнай псіхалагічнай прозы як рускай, так і замежнай. Гэта тая манера апавядання, калі пісьменнік паказвае адносна аўтаномную, асінхронную да праяў знешняга свету плынь унутранага жыцця чалавека, з абавязковым у той жа час паказам гэтага самага аб’ектыўнага пачатку – знешняга жыцця. Сам прынцып, такім чынам, не новы. Штука ў тым, каб адкрываць кожны раз нанова ў рэальным жыцці гэтыя сутнасныя “счапленні” розных з’яў і знаходзіць сродкі адэкватнага перакладу адкрытага на паперу. Выяўленчыя сродкі А. Федарэнкі якраз і даюць мажлівасць убачыць, як, з чаго склалася тое, што спраўдзілася, што маеш як факт, як падзею, як вынік, – тое, чаго ніхто не чакаў. Уражвае здольнасць маладога аўтара ўбачыць, асэнсаваць і напісаць жыццёвую з’яву ва ўсім перапляценні рознаўзроўневых узаемасувязей, абумоўленасцей, імпульсаў ва ўсёй уплеценасці ў жыццё” [1, с. 222 – 223]. Дарэчы, тады, у пачатку 1990-х, такіх высокіх ацэнак прозы А. Федарэнкі (публічных, ва ўсякім разе) амаль не было. Хутчэй, наадварот, прагнозы адносна далейшага лёсу пісьменніка рабіліся вельмі няпэўныя. Бо вядома, талент – талентам, але ж надта няпроста вызначыць, наколькі хопіць патэнцыялу ў маладога мастака, каб “кожны раз нанова” адкрываць з’явы жыцця, няпроста прадказаць спраўдзіцца ён ці адно “блісне” яркай знічкай...

Што ж, сёння, праз чвэрць стагоддзя пасля выхаду дэбютнай кніжкі, думаецца, ужо ні ў кога не засталося сумневу, што А. Федарэнка спраўдзіўся і з’яўляецца адным з найвыбітных майстроў у беларускім прыгожым пісьменстве.

...Кажуць, пра што б ні пісаў пісьменнік, ён заўсёды піша пра сябе. У адносінах да А. Федарэнкі гэтую крылатую фразу можна ўспрымаць амаль літаральна, бо шмат якія з яго твораў маюць аўтабіяграфічны характар. Да іх ліку належаць аповесці “Гісторыя хваробы”, “Вёска”, “Пра аднаго пісьменніка”, эсэ “З кошыкам, або Гісторыя ненапісанай аповесці”, раман “Рэвізія”, шматлікія апавяданні. У той жа час ніводзін з названых твораў не з’яўляецца літаральным жыццяпісам аўтара, фактычна ў кожным з іх пераважае мастацкі вымысел. Інакш кажучы, аўтабіяграфічны элемент прысутнічае, але ён падпарадкуецца творчай задуме, выступае матэрыялам пабудовы мастацкага сюжэта. Нават пра раман-эсэ “Мяжа” нельга сказаць, што ён з’яўляецца абсалютным адлюстраваннем рэальнага жыцця аўтара, хаця ў гэтым творы непасрэдны аўтабіяграфізм дамінуе над мастацкім фактам. Тут пісьменнік робіць спробу “разабрацца ў сабе”, зафіксаваць нараджэнне і рэалізацыю (з усёй непаслядоўнасцю, супярэчлівасцю, забяганнямі наперад і вяртаннямі назад) уласных задум. Тут адлюстраваны і працэс выспявання ідэй, і вырашальныя ўплывы знешняга жыцця, і само з’яўленне тэксту, – з памкненнямі адрэфлексаваць, зрабіць відавочным “патаемнае” ў творчым працэсе. Менавіта “Мяжа” дазваляе найбольш аб’ектыўна зразумець саму сутнасць асобы аўтара, манеру яго пісьма і лад мыслення.

Раман-эсэ быў надрукаваны пяць год таму (асобнай кнігай выдадзены ў 2011 г., але ў часопісе “Полымя” друкаваўся ў 2009 г.). Паводле сведчання аўтара, асноватворным “імпульсам”, які прымусіў яго “азірнуцца на сваё жыццё” – узяцца за напісанне аўтабіяграфіі – стала ўзроставая “мяжа”: “Сорак пяць... Сур’ёзная лічба. Крытычная,

небяспечная мяжа. З ёю не пажартуеш. Не па мне былі, хто гэтай мяжы нават не перасёк, – першыя імёны, якія прыходзяць у галаву: Чэхаў, Мапасан... Шукшын? І Шукшын. Зрэшты, хіба ў нас сваіх не хапае? Палуян, Багдановіч, Калюга... І тыя, хто дасягнуў гэтага слупа і проста на памежжы, на пагранічнай паласе зваліўся: Чорны, Гарэцкі... І тыя, хто ненамнога яе перасягнуў: Сыс, Пісьмянкоў, Асташонак... <...> Карацей: заступіўшы адной нагой на мяжу са слупам з лічбаю «45», адчуў я цягу да падрахункаў, чысткі, рэвізіі – у галаве, у жыцці, у літаратуры, пачаў перабіраць, праглядаць папкі з рэалізаваным і нерэалізаваным, розныя канспекты, планы, чарнавікі, пісьмы, дзённікі, скідваць сёе-тое на кампутар, не надта задумваючыся, навошта" [2, с. 4-5]. Зачын твора, як бачна, не надта аптымістычны. Усё – і "мяжа", і "падрахункі", і "рэвізія" – непасрэдна ўказваюць калі не на канчатковую завершанасць творчага працэсу, то, як мінімум, на творчы крызіс ці дэпрэсію. Калі не браць пад увагу ранейшыя творы А. Федарэнкі, то гэтаму прызнанню аўтара можна было б даць веры. (І сёй-той, між іншым, у гэта насамрэч паверыў! І смешна, і прыкра было чытаць у некаторых рэцэнзіях, што, маўляў "Федарэнка выпісаўся", што ён "сыходзіць з літаратурнай дыстанцыі" і да таго падобнае). Але прыгадаем некаторыя творы пісьменніка, што папярэднічалі "Мяжы", і ў якіх ён паспяхова выкарыстаў гэтую ж мастацкую "стратэгію".

Звернемся, напрыклад, да рамана "Рэвізія", які зрабіўся сапраўднай з'явай у беларускай літаратуры пачатку XXI стагоддзя, і дзе ў вобразе галоўнага героя Алеся Трухана/Трухановіча яўна пазнаецца аўтар. У гэтым творы А. Федарэнка наладзіў адмысловую *рэвізію*, выступіўшы ў трыадзінай іпастасі "аўтар – герой – рэвізор". Яго рэвізія ў пэўнай ступені была прысвечана дзейнасці літаратурнага аб'яднання "Тутэйшыя", але, безумоўна, не абмежавалася адно падсумаваннем творчых набыткаў Таварыства. Па сутнасці пісьменнік зрабіў спробу мастацкага асэнсавання агульных заканамернасцей у працэсе развіцця айчыннай літаратуры, агляду яе тэматычных і вобразна-выяўленчых абсягаў, а паралельна з гэтым паспрабаваў адказаць на самыя актуальныя для мастака пытанні: у чым сэнс і мэта мастацкай творчасці; ці варта ўвагі (а галоўнае – духоўных высілкаў) тое, што мы (я) робім; як і пра што трэба пісаць?.. Інакш кажучы, пісьменнік выступіў у творы ў ролі гісторыка літаратуры і яе крытыка.

Ключавым канфліктам рамана стала палеміка вакол беларускай літаратурнай класікі. Адзін з герояў, іранізуючы з традыцыі, заяўляў: "...Бо ведаю, што адгарну любую кнігу і ў соты раз прачытаю, як у Замошшы, што каля Заполля, на ўзлеску Востраверхай пушчы каля Мікіцішынага калодзежа, дзе Дзянісава палянка, Сёмкаў дуб, вячысты, рачысты, разложысты, спракавечны, караністы і гэ-дэ і да бясконцага тэ-пэ, раскінуўся гожа і высока, і шырока, і далёка, і Іванка помніць яшчэ тыя часы, калі быў малы і бацька саджаў яго на бухматы воз сена, які плыў пад дубам, і каржакаватыя яго галіны чаплялі сена і збівалі з малога шапку..." [3, с. 292]. Крыху пазней герой твора быццам бы пачынае сумнявацца ў сваіх крытычных ацэнках, імкнецца глыбей асэнсаваць рэчаіснасць. І ўрэшце прыходзіць да высновы: "Не тым цікавая палянка, што яна Данілава ці Мікіцішына, а тым, хто на яе ў дадзены момант пазірае, праз чые вочы, розум і душу яна перадаецца" [3, с. 391]. Гэтай выснове аўтара цяжка запярэчыць. Бо цудоўна вядома, напрыклад, што адну і тую ж падзею (тэму ці праблему) браліся адлюстроўваць адразу з дзясятак пісьменнікаў. Але ў гісторыю літаратуры ўвайшлі толькі адзін-два творы – тыя, у якіх падзея была адлюстравана па-мастацку таленавіта: вобразна і ярка, шматгранна і шчыра... цікава, у рэшце рэшт! А іншыя мастацкія ўзоры сышлі ў маргіналіі. Інакш кажучы, не бывае банальных тэм. Іх баналізуюць (альбо актуалізуюць) самі пісьменнікі.

Дарэчы, гэтая "тэарэтычная" тэза, арыгінальна ўвасобленая ў рамане "Рэвізія", віртуозна выкарыстана А. Федарэнкам у эсэ "З кошыкам, або Гісторыя ненапісанай аповесці" – тут пісьменнік ужо "на практыцы" дэманструе, што ў літаратуры няма

“вытаптаных дзялянак”, кожную тэму магчыма адлюстраваць па-новаму. У гэтым творы аўтар выступае наўпрост ад уласнага імя і дзеліцца асабістай гісторыяй: “Прыдумаў я аднойчы аповесць “З кошыкам”, лірычную, пра грыбы. І мо месяц насіўся са сваёй задумкаю, жыў ёю, усяляк адцягваў выкананне яе, а калі навальваліся праблемы, забівала тлумам галаву, тады ў патаемным куточку душы ўспыхвала – у цябе ж “радасць” наперадзе! <..> Ну і што, што тэма не новая? Я пастараюся не паўтарацца” [4, с. 162-163]. Але неўзабаве надараецца прыкрая гісторыя: “Прысылаюць мне з Масквы часопіс “Дружба народов”, №7, 2004 г., з перакладам майго апавядання. Але ледзь толькі я прабег вачыма змест на вокладцы, так на тое апавяданне забыўся, так іншае кальнула ў сэрца... Невядомы Барыс Васілеўскі. Аповесць “Апошняе паляванне”, з падзагалоўкам “Сёе-тое з жыцця грыбоў, а заадно і людзей”. Але хіба так бывае? Хіба праўда, што думкі, і творчыя замыслы, і сюжэты могуць перадавацца на адлегласці, як і магнітныя, і радыё-хвалі? Тады чым растлумачыць, што адзін-адзіны раз за апошнія дзесяць гадоў узяў у рукі тую “Дружбу народов” і адразу ж наляцеў на гатовае, матэрыяльнае ўвасабленне сваёй задумкі? <...> Была яшчэ, праўда, крохкая надзея – можа, памыляюся? Можа, так сабе творчык, у іхнім маскоўскім стылі, з усімі іхнімі цяперашнімі літвыкрунтасамі? <...> І з кожным новым сказам, абзацам, эпізодам сумненні зніклі. Я бачыў перад сабою ўласную будучую аповесць, толькі чужым прозвішчам падпісаную. Ды яшчэ выкананне было, бадай, лепшае, чым магло б быць у мяне. <...> З усіх бакоў, па ўсіх пунктах я бачыў сябе абкрадзеным. Не матэрыяльна, вядома, не ў сэнсе плагіяту, не – проста здавалася, у мяне адабралі тую самую дзіцячую “радасць”, з якой так прыемна насіцца і дзякуючы якой крыху лягчэй жыць на свеце” [4, с. 163-165]. Такім чынам, пісьменнік сведчыць, што яго творчая задума фактычна была ўвасоблена іншым аўтарам, і ў яго ўжо няма шанцу на яе рэалізацыю. Але далей, аналізуючы аповесць Барыса Васілеўскага і ў нечым з ім палемізуючы, А. Федарэнка вяртаецца да сваіх уласных уражанняў, назіранняў. Ён згадвае шматлікія неардынарныя “грыбныя” гісторыі, якія калісьці надарыліся асабіста з ім, вядзе гаворку пра літаратурныя традыцыі ўвасаблення гэткіх гісторый. І што ўрэшце? А ўрэшце пісьменнік стварае адмысловы мастацкі ўзор – арыгінальны і паводле зместу, і паводле формы! – і дэманструе, як банальная тэма, мноства разоў адлюстраваная ў літаратуры, можа выявіцца зусім па-новаму.

І яшчэ адзін прыклад – аповесць “Повесць”. (Пад такой назвай твор быў надрукаваны ў часопісе “Полымя” № 5 у 2006 г. Пазней А. Федарэнка перапрацаваў гэтую аповесць, змяніў яе кампазіцыю і ўзбуйніў сюжэт. У кнігу “Ланцуг” аповесць увайшла пад назвай “Пра аднаго пісьменніка”. Але паколькі гаворка ідзе пра адзін з характэрных мастацкіх прыёмаў пісьменніка, выяўленых асабліва выразна ў “Повесці”, то апелюю зараз менавіта да першага варыянта твора). Тут сюжэт пабудаваны на “канфлікце” вопытнага рэдактара літаратурна-мастацкага часопіса і аўтара-пачаткоўца – жанчыны, якая працуе “дыспетчарам пуці на невялікай станцыі-раз’ездзе” і ў даволі спелым узросце вырашае “паспрабаваць сваё пяро”. Паводле кампазіцыі твор уяўляе сабой “завочны” дыялог рэдактара і аўтара – цытаванне арыгінальнага твора суправаджаецца каментарамі спрактыкаванага літаратара. Пазіцыя рэдактара акрэслена адназначна: у дэбютанткі няма шанцаў на поспех. “Пахвальна, што Вы нарадзілі і выхоўваеце дваіх дзяцей, што Вас не засмактала жыццёвая багна, у душы захавалася прага самарэалізацыі і ўсё такое. Але дазвольце спытаць: што перашкаджае Вам самарэалізоўвацца непасрэдна па сваёй дыспетчарска-чыгуначнай лініі? У якой Вы напэўна разбіраецеся не горш, чым у літаратуры? <...> “Землю попашет, попишет стихи”... Іншыя цяпер часы, Людміла Аляксееўна! Цяпер пажадана, каб кожны займаўся ўсё ж такі справай сваёй: рэжысёры ставілі спектаклі і здымалі фільмы, даяркі – даглядалі кароў, пісьменнікі пісалі і выдавалі кнігі, дыспетчары – адпраўлялі і сустракалі цягнікі

і самалёты... <...> Далібог, не ментарства, Людміла Аляксееўна, ва мне гаворыць, а, калі хочаце, сімпатыя да Вас, жаданне падаслаць Вам саломкі, каб не вельмі балючым было падзенне. А ў падзенні асабіста я не сумняваюся, нават яшчэ і не пачаўшы чытаць Ваш твор" [5, с. 19 – 20]. Такім чынам, фактычна ў пачатку твора заяўлена катэгарычнае сцвярджэнне, што твору дэбютанткі наканавана параза. Але на працягу разгортвання сюжэта даказваецца адваротнае. Рэдактар палемізуе з нявопытнай пісьменніцай хутчэй па інерцыі – крытыкуе яе за стылёвыя хібы, моўныя штампы, неістотныя фактычныя памылкі і іншыя дробныя агрэхі, але на самой справе ён перажывае неймаверны шквал эмоцый. Незаўважна для самога сябе ён пачынае згадваць свае юнацкія гады, сяброў, каханую, па вялікім рахунку – герой нанава перажывае ўсё сваё жыццё. І гэтым самым А. Федарэнка даказвае неправамернасць тэзы, заяўленай у пачатку твора.

Вось гэткую ж мастацкую стратэгію пісьменнік выкарыстаў у рамане-эсэ "Мяжа". Тыя чытачы, якія былі больш-менш абазнаны ў творчай манеры А. Федарэнкі, цудоўна разумелі, што гаворку ён вядзе зусім не пра "падвядзенне рахункаў"... Асноўнай праблемай рамана-эсэ, думаецца, зрабіўся пошук адказу на самае важнае для пісьменніка пытанне: "Як я стаў тым, кім стаў?" А. Федарэнка фармулюе яго такім чынам: "У меру сіл мы хацелі прасачыць на адной канкрэтна ўзятай біяграфіі, на гэтых зведзеных у адно выпадках, гісторыях, сітуацыях зародак творчасці. Як у народзе кажуць – адкуль што бярэцца? Чалавек дзякуючы такой біяграфіі абавязкова рана ці позна павінен быў бы пісаць, ці ён ужо нарадзіўся «дзвінутым»?.." [2, с. 57]. Менавіта адказ на гэтае пытанне запатрабаваў звароту і да самых першых жыццёвых уражанняў, і згадак пра тое, як пазней нараджаўся той ці іншы твор.

Зразумела, найперш увага пісьменніка скіравана да дзіцячых гадоў. Ён даводзіць, што адтуль – з вёскі – большасць яго ўражанняў. Гэта не толькі назіранні за прыродай ці замілаванні відарысамі, не толькі захапленні традыцыйнымі для вясковых дзяцей гульнямі ці гаспадарскімі абавязкамі, але і вельмі каштоўны вопыт чалавечых адносінаў. У вёсцы – усё навідавоку, там цяжка нешта ўтаіць. І менавіта той дзіцячы досвед крыху пазней зробіцца асноватворным грунтам творчасці. А. Федарэнка вытлумачвае, што першымі ўзорамі "творчай" практыкі ў яго былі гульні ў "перастварэнне" рэальных жыццёвых гісторый. Разам з сябрам, дзеля забаўкі, яны выдумлялі анекдатычныя паказкі пра вяскоўцаў, пра ўласных настаўнікаў і аднакласнікаў. Пісьменнік прысвячае гэтым успамінам адзін з самых вялікіх раздзелаў твора – "Адзін зімовы дзень".

А далей – вучоба ў тэхнікуме, служба ў войску, праца... Новыя сустрэчы, знаёмствы, уражанні. І калі ў дзяцінстве фантазіраванне было суцэльнай гульнёй, то ў юнацтве яно робіцца, часам, адзіна магчымым выйсцем са складанай сітуацыі. Даверыць гісторыю паперы – гэта значыць перастварыць яе па-свойму і адначасова пераасэнсаваць, разабрацца ў ёй, "даць палёгку душы".

Творчы дэбют – адзін з найбольш уражлівых момантаў у жыцці мастака. А. Федарэнка расказвае, з якой рэальнай жыццёвай сітуацыі ўзнікла яго дэбютнае апавяданне і як яно было сустрэта крытыкай: "Усе водгукі, якія з'явіліся на маё першае ў жыцці «Сачыненне», былі адмоўныя. Захаваўся адзін. Анатоль Сідарэвіч. «Творы двух дэбютантаў – 23-гадовага студэнта Андрэя Федарэнкі і старэйшага за яго на дваццаць гадоў Г. Станкевіча – надрукаваны ў студзені і ў лютым. Што запомнілася? Фабула <...> Федарэнкавага апавядання пра сачыненне. Вучань напісаў самастойнае, арыгінальнае сачыненне. Выкладчыца падумала, што ён яго спісаў, і паставіла вучню «адзінку». Хацеў бы і я, чытаючы Федарэнкаву публікацыю, не паверыць і спытаць: «Няўжо аўтару ўсяго дваццаць тры гады?» І ўжо напэўна я не паўтарыў бы памылку тае настаўніцы..." [2, с. 51].

Вельмі выразна, па-свойму эмацыянальна вытлумачвае А. Федарэнка тое магутнае (амаль што вызваленчае) пачуццё, калі аб'ектыўна ўсвядоміў, чым хоча

займацца ў жыцці, да чаго ляжыць душа. Так, ён пісаў і раней, ды толькі ставіўся да гэтага занятку не ўсур'ёз, хутчэй, як да тых дзіцячых "гульняў-перастварэнняў", як да забаўкі. А пытанні выбару далейшага жыццёвага шляху неадступна даймалі яго, вярэдзілі: "Пара ўжо зразумець, дзе, з кім, у якім свеце я жыву і збіраюся жыць далей. Кім мне стаць у гэтым свеце? Прарабам? Доктарам, загадчыкам аддзялення? Следчым? Ці далучыцца да кампаніі і «мачыць» каго-небудзь групаю?.. Без жартаў. Трэба ведаць, кім хочаш стаць, і тады толькі можна выжыць" [2, с. 54-55]. Як сведчыць аўтар, на яго рашэнне прысвяціць жыццё літаратурнай творчасці ў вялікай ступені паўплывалі ўвага і словы падтрымкі з боку вядомай пісьменніцы, рэдактара аўтарытэтнай рэспубліканскай газеты: "І вось – сіні вялікі канверт са штэмпелем «Чырвонай змены». Пісьмо на афіцыйным бланку. Мой абразок быў на старонку, а адказ – на тры машынапісу праз адзін інтэрвал. «Талент... разуменне прыроды... пранікненне ў псіхалогію... пішыце»... Падпісана Вольгай Іпатавай. Дзе б ні быў, Воля Міхайлаўна, кім бы ні стаў, ніколі не забуду Вам гэтага, светлая мая... <...> Я знайшоў сябе. Я цяпер ведаю, кім буду. Як мне жыць. Хто будзе мяне акружаць. У гэтым сінім канверце – мой новы, бясконца сіні свет" [2, с. 56].

Не абыходзіць пісьменнік увагай праблему "выбару мовы" – адну з важнейшых для творцы: "Самае ж галоўнае, дзякуючы ўкраінцам, я раз і назаўсёды зняў пытанне аб мовах – на якой гаварыць, на якой думаць... Гэта ўзнікла само сабой, ніякай логікі ў тым не было, проста як чалавек устае адной раніцаю і са здзіўленнем заўважае, што яму не хочацца больш курыць і лёгка кідае сваю кепскую звычку, не разумеючы, чаму не здагадаўся зрабіць гэтага ранней, – так і я ў адно імгненне, без усялякай «сілы волі» пачаў думаць па-беларуску" [2, с. 71].

Складваецца ўражанне, што А. Федарэнка не пакінуў без увагі ўвогуле ніводную праблему, уласцівую творцу. Ён вытлумачвае, адкуль браліся сюжэты і вобразы, якія кнігі і пісьменнікі паўплывалі на яго светабачанне і мысленне, як працаваў над стылем, якія эмоцыі перажываў з-за крытыкі, якія пачуцці выклікалі публікацыі новых твораў. Ён даводзіць, што прайшоў праз многія жыццёвыя выпрабаванні, а па вялікім рахунку – проста выжыў, дзякуючы творчасці. І асноўнае перакананне, да якога прыйшоў шляхам спробаў і памылак, фармулюецца так: "Не важна, колькі разоў ты ўпаў, важна, колькі падняўся. <...> ...Пішы. Рабі тое, да чаго ляжыць душа, што ў цябе, як ты лічыш, лепш за іншае атрымліваецца, у чым ты бачыш сваё прызванне – а там як карта ляжа, там аддацца на волю закону: пашэнціла – не пашэнціла" [2, с. 105].

А. Федарэнка шмат разоў падкрэслівае, што яму менавіта "шэнціла". Але ж відавочна, што зусім не ў "шанцаванні" справа... Толькі вельмі сур'ёзная і засяроджаная праца, поўная самааддача той справе, якой займаўся, рабіліся падставамі "шанцавання". Ды і сам пісьменнік час ад часу прызнаецца: "Творчы чалавек, у прыватнасці, пісьменнік, не адпачывае ніколі і нідзе – ні ў адпачынку, ні на прыродзе, ні ў час выпіўкі, ні нават у сне. Гэта асаблівасць псіхікі" [2, с. 129].

У эпілогу заключнай часткі А. Федарэнка падводзіць своеасаблівае рэзюме, дзе, нарэшце, прызнаецца, што ў тыя "падсумаванне" і "падвядзенне вынікаў", пра якія ішла гаворка ў пачатку твора, ён сам не надта верыць. "Заўважана, што розныя споведзі, аўтабіяграфічныя раманы, рэвізіі, успаміны, жыццяпісы, мемуары, межы, падвядзенні рысаў, выбраныя месцы з перапіскі з сябрамі і інш., інш., з'яўляюцца тады, калі пісьменнік пачынае выпісвацца як мастак. Інакш кажучы, у яго творчы крызіс. <...> Мы маем мноства прыкладаў, калі дзякуючы такім споведзям, такому вымятанню сусекаў, падвядзенню нібыта заключнай тлустай рысы пад сваім ранейшым жыццём і творчасцю ў пісьменніка раптам узнікала другое дыханне, з'яўлялася невядома адкуль энергія, і ўжо на іншым, больш высокім узроўні ён пачынаў ствараць новыя мастацкія рэчы. Нам даспадобы менавіта гэты варыянт" [2, с. 143-144]. Пісьменнік ізноў падкрэслівае, што пры ўсіх выдатках і пакутах

літаратурная творчасць з'яўляецца магутнай матывацыяй для самога існавання мастака, яна адначасова – і лад жыцця, і яго сэнс.

А цяпер варта спраўдзіць, якія творчыя набыткі займеў А. Федарэнка за гэтыя пяць год, што прайшлі з моманту друкавання "Мяжы". Інакш кажучы, ці ж з'явілася ў яго тое "другое дыханне"...

Мяркуйце самі.

У 2012 г. пісьменнік выдаў кнігу прозы "Ланцуг" (у якую ўвайшлі шэсць аповесцяў) і зборнік літаратурных эсэ "Сечка". Пераклаў на рускую мову кнігу "Афганская шкатулка". У 2013 г. выдаў зборнік выбраных твораў "Вёска" і надрукаваў шэраг твораў у літаратурна-мастацкіх часопісах. Пры гэтым можна без перабольшвання сказаць, што фактычна кожная публікацыя рабілася літаратурнай падзеяй. Аповесць "Ціша", напрыклад, якая выйшла ў "Маладосці" (№ 7), адразу ж выклікала рэзананс у літаратурных колах. Гэта аповесць "двухадрасная", яна з аднолькавай цікавасцю чытаецца і падлеткамі, і дарослымі. Кожны чытач, натуральна, знаходзіць тут свае сэнсы, бо твор шматмерны і шматузроўневы, надзвычай канцэнтраваны паводле зместу. У ім выключна глыбока распрацаваны характары, арыгінальна выбудаваны сюжэт – складаныя падзеі "дарослага" жыцця і нават пытанні аксіялагічнага кшталту выяўлены праз свядомасць дзіцяці...

Альбо аповесць "Дзядзька Адольф", надрукаваная напрыканцы 2013 г. у "Дзеяслове" (№ 67), у якой вобраз галоўнага героя атрымаўся настолькі неадназначным, што яго "ідэнтыфікацыі" палягаюць у дыяметральна супрацьлеглых маральна-этычных каардынатах. Некаторыя чытачы, напрыклад, лічаць героя шараговым правінцыйным няўдачнікам – наіўным, крыху абмежаваным, не надта шчаслівым, які заслугоўвае адно спачування ды шкадавання. Іншыя схільны бачыць у ім "маленькага фюрэра" – беспадстаўна амбітнага, эгаістычнага і эгацэнтрычнага, жорсткага, няздольнага не толькі да любові, але нават да элементарнага спачування... Ізноў усё ў стылі Федарэнкі – шчыра і проста, шматзначна і складана. Віртуозна, адным словам.

Такім чынам, ёсць усе падставы сцвярджаць, што сваё пяцідзесяцігоддзе А. Федарэнка сустракае ў творчым росквіце. У яго ёсць фактычна ўсё, пра што можа марыць пісьменнік – талент, плён, запатрабаванасць, прызнанне крытыкаў і літаратуразнаўцаў, чытацкая ўвага і павага. Чаго ж можна пажадаць такому пісьменніку з нагоды слаўнага юбілея? ...Згадваецца, як цёпла напісаў Федарэнка ў заключным раздзеле "Сечкі" пра Янку Брыля, які "здолеў усё, што трапляла ў поле яго зроку, падпарадкаваць любімай справе". Вось і самому Федарэнку хочацца пажадаць таго, пра што ён з белай зайздрасцю пісаў у дачыненні да жыцця і творчасці Брыля: "...Пахадзіць па свежай пакошы, папіць у спёку халоднага малака нагбом з паліванай гладышкі, паслухаць рып маладога снегу пад падэшвамі, пасумаваць разам з жоўтым восеньскім лістом, памацаць у пальцах клейкую пахкую веснавую пупышку, пачытаць любімую кнігу, няспешна, роўным прыгожым почыркам запісаць усё гэта..." [6, с. 130].

Літаратура:

1. Корань, Л. Цукровы пеўнік: Літ.-крытыч. арт. / Л. Корань. – Мінск: Маст. літ., 1996.
2. Федарэнка, А. М. Мяжа : раман-эсэ, апавяданні / А. М. Федарэнка. – Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. – 264 с.
3. Федарэнка, А. Рэвізія / А. Федарэнка // Нічые : аповесці, раман // А. Федарэнка. – Мінск: Маст. літ., 2009. – С. 279 – 429.
4. Федарэнка, А. М. З кошыкам, або Гісторыя ненапісанай аповесці / А. Федарэнка // Ланцуг : аповесці / Андрэй Федарэнка. – Мінск: Маст. літ., 2012. – С. 161 – 191.
5. Федарэнка, А. "Повесць" / А. Федарэнка // Полымя. – 2006. - № 5. – С. 19 – 45.
6. Федарэнка, А. Сечка : літаратурныя эсэ / Андрэй Федарэнка. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 136 с.

Славамір Адамовіч



...Іваноў атакаваў мяне
сеансамі паэтычнай псіхадэлікі
ўласнай вытворчасці амаль штовечар...

# Іваноў

***Успамін пра даўняга сябра***

Я прыехаў у сталіцу колішняй БССР горад-герой Мінск у верасні 1983-га, каб пасля пяці месяцаў фізічных практыкаванняў манцёрам пуці маладэчанскай дыстанцыі Беларускай чыгункі пашукаць большага заробку на якім-небудзь сталічным заводзе. У бюро па працаўладкаванні, якое тады месцілася на вуліцы Чырвонай, мяне накіравалі на станкабудаўнічы імя Кірава, дзе без лішніх словаў прапанавалі ўліцца ў рабочую сям'ю 10-га механічнага цэху ў званні вучня свідравальшчыка.

Атрымаўшы работу, займеў і некалькі квадратных метраў асабістай прасторы ў адным з рабочых інтэрнатаў на вуліцы Малініна ў сталічным мікраараёне Серабранка.

З моманту засялення ў двухмясцовы пакой на восьмым паверсе згаданага прытулку і пачынаецца маё знаёмства з беларускім Івановым – маім будучым шматгадовым таварышам і аднадумцам.

...А засяліцца ў адзін і той самы пакой нам пашанцавала з даволі нетрывіяльнай, як для членаў пралетарскай сям'і,

прычыны: абодва мы хацелі мець за суседа чалавека якраз непралетарскіх паводзінаў, ці, як сказалі б цяпер, адэкватнага.

Памятаю, у інтэрнат я прыйшоў засяляцца дзесьці пасля абеду. Прашу каменданта, каб трапіць, значыцца, у пакой да каго-небудзь з ціхіх, не надта каб буйных, а то я хлапец вясковы, далікатны, на разгулы-лаянкі рэагую хваравіта...

Ну, мне камендант і адказвае:

– Дык тут адзін такой з час назад а том жа прасіл. Падайдзёт?..

“Адзін такой” ужо раскладаў у шафцы свае рэчы, калі ў пакой уваліўся я.

– Сяргей, – замест прывітання адрапартаваў ён. – Сяргей Іваноў. Па-бацьку – Леанідавіч. Як бачыш, куру (тут ён паказаў на адкрыты пачак балгарскіх цыгарэтаў “Апал”), і куру многа. Люблю выпіць добрага віна. Зрэшты, як і добрай гарэлкі... Ды ты не бойся, я ціхі, калі мне пад п’яную руку не пярэчыць... Вось толькі што мастаком на завод Кірава ўладкаваўся. А ты?

– Дык, і мяне сёння на Кірава ўзялі. Праўда, гэта, вучнікам да нейкага Барадзіча аформілі. Свірлаўшчыкам... – пачаў я заікацца ў адказ.

– Не “свірлаўшчыкам”, тваю макаўку, а свідравальшчыкам, калі ўжо па-нашаму. А не па-нашаму я і не люблю... Сам адкуль?..

Вось неяк так прыкладна ў адзін з апошніх дзён верасня 1983-га пачаўся наш супольны з Івановым беларускі шлях, на якім Сяргей Леанідавіч доўгі час заставаўся для мяне аўтарытэтам і ведуном, які ведаў і вёў – за сабою і поплеч з сабою.

У сваім яшчэ напалову рускамоўным дзённіку за 1983-ці год упершыню я згадваю свайго наваспечанага суседа ў запісе ад 23-га кастрычніка:

“Был с соседом по комнате в Бел. госуд. художественном музее...”.

І сапраўды, з першых жа дзён знаёмства Іваноў пачаў цягаць мяне ў выходныя і святы па музеях. Як я цяпер разумею, Іванову пасля малявання на заводзе розных плакатных марксаў-ленінаў, атлетычных савецкіх малатабойцаў і паўнацелых кранаўшчыц хацелася расслабіцца сузіраннем сапраўднага жывапісу...

Сяргей Леанідавіч быў усяго на год старэйшы за мяне, а бачыўся мне больш сталым і даўно сфармаваным чалавекам. Так яно, зрэшты, і было: выглядаў Леанідавіч старэй за свае 22. Магчыма, з-за акуляраў, якія ён насіў пастаянна, здымаючы толькі перад сном...

Іваноў быў родам з Верхнядзвінска, дзе ў сваім доме жылі ягоныя бацькі-настаўнікі і старэйшая сястра.

Да гонару Леанідавіча, ён хоць і быў акулярыкам з класічнай інтэлігенцкай мястэчковай сям’і, аднак ад службы ў Савецкай арміі не “касіў” і чэсна адбарабаніў кірзачамі два гады ў будбаце дзесьці на прасторах цэнтральнай РСФСР.

Гэты факт біяграфіі я мушу адцеміць спецыяльна, бо ці не ў названым родзе войскаў прыдбаў мой сусед Іваноў пагібельную звычку ўжываць алкаголь, не бачачы краёў і не ведаючы меры?..

Аднак пакуль што ўсяго 1983-ці, мне 21 год веку, Іванову 22, мы адчуваем сябе поўнымі сілаў, здароўя і надзеяў на будучыню. Леанідавіч бадзёра малюе перадавікоў на заводзе, а вечарамі ў нашым пакойчыку ўпарта спрабуе намаляваць акварэллю мой профіль, пакуль я гартаю падсунуты мне ім жа двухтомнік “К. Маркс и Ф. Энгельс. Об искусстве”.

Іваноў так і не намаляваў мяне ні акварэллю, ні алейнымі фарбамі, а вось той самы зялёны двухтомнік у мяне захаваўся. У ім засталіся падкрэсліванні алоўкам, якія рабіў Іваноў, і мае – чорным атрамантам (ужо тады мне хацелася пакінуць выяўны след хоць бы на старонках прачытаных мною кніг).

Дык вось, першы год нашага знаёмства Іваноў не разлучаўся з эцюднікам – упарта спрабаваў нешта маляваць. Я назіраў. Але назіраць асабліва не было чаго

– жывапіс Леанідавічу не даваўся. Прычым – абсалютна. Аднак Іваноў, як мне здавалася, асабліва не засмучаўся, бо яшчэ заставаліся беларуская літаратура, паэзія, фальклор...

На жаль, у 83-м я яшчэ толкам не ўмеў весці дзённік, запісваў не столькі факты і падзеі, колькі нейкія юначыя рэфлексіі і выпіскі з прачытаных кніг. Аднак сёе-тое пра нас з Івановым усё ж занатаваў. Вось, напрыклад, другі запіс, у якім згадваю факт ужывання алкаголю і... паэзіі:

“29 октября (суббота). Читал. Вечером к соседу Сергею зашёл его друг Анатолий. Посидели втроём за бутылкой сухого вина. Сергей читал свои стихи, из “Нестерки”. Поспорили довольно горячо, а тема – о языке родном, о культуре...”.

Як бачна, *о родном языке* я яшчэ *спорил* па-руску. Іваноў – адпачатку па-нашаму. Прычым, беларуская мова ягоная была натуральнай настолькі, наколькі гэта магчыма, а не тая, у многім штучная, неафітная, з якою я сутыкнуўся ў маладзёжнай суполцы “Талака” на філфаку БДУ і ў “Тутэйшых” у другой палове 80-х.

Я не запісаў у свой дзённік пра той дзень, калі мы з Івановым атрымлівалі свае першыя заробкі, але запомніў яго добра. А справа была вось якая. Аднаго разу дзесьці ў пачатку снежня мы зайшлі ў ашчадкасу, каб атрымаць свае сумленна зробленыя савецкія рублі. Мы ўзялі са стосіка па некалькі чыстых чырвоных расходных квітанцыяў і селі запаўняць. Пакуль я ў патрэбных клетачках старанна выводзіў літаркі і лічбы, Іваноў неяк хутка, быццам рабіў гэта ўжо не адзін год, запоўніў свой расходны лісток і чакаў мяне.

Я ўсё яшчэ кешкаўся, псуючы паперу сваім прыгожым роўным почыркам, калі Сяргей Леанідавіч нечакана ўстаў, сунуў акуляры пад нос, зірнуў у мае пісьмёны і, стрымліваючы дэцыбелы свайго даволі моцнага голасу, прыглушана рыкнуў:

– Вось табе на! Адамовіч, ты чаму не па-нашаму пішаш? – і прадоўжыў, усміхаючыся: – А я думаю, што ён паўгадзіны тры радкі напісаць не можа... На вось, перапішы, як у мяне, ды пойдзем. Нас чакаюць вялікія справы!

Я зірнуў на падсунутую мне паперчыну майго кампаньёна, якая была запоўнена па-беларуску, і гэтак жа па-беларуску напісаў у сваёй, адначасова разважаючы: і сапраўды, вечарам у пакоі *таўчом ваду ў ступе* пра гэтую мову, а на практыцы – па-руску; і галоўнае, ведаю, і пісаць магу, а чаго ж тады не ўжываю, не пішу па-свойму, а адразу па-руску?! На чорта мне руская, калі я магу па-нашаму!..

Мяне пачынала забіраць...

Тым часам падышла нашая чарга, і Іваноў першы падаў свой чырвоны расходны квіток. Касірка прыняла паперчыну, на хвіліну з таго боку плексігласавага бар’еру ўзнікла нейкае нестандартнае варушэнне, але ў выніку мой сусед атрымаў тое, што з такім нецярпеннем чакаў – сваю першую сталічную зарплату.

Сяргей Леанідавіч яшчэ стаяў побач і пералічваў свае рублі з лысымі ленінскімі чарапамі і маскоўскімі крамлямі, калі, вяртаючы мне мой расходны ліст, касірка заявіла: “Заполніте как нада, па-рускі”.

Як? Што? Разам са мною да вакенца падсунуўся і мой сусед Іваноў. Праз імгненне высветлілася, што я пры адкрыцці рахунку заяву напісаў па-руску, таму, маўляў, і ўсе астатнія паперкі цяпер трэба запаўняць на той мове, на якой напісана заява...

Мы сталі пярэчыць. У маёй галаве рынулася ў атаку цэлая конніца аргументаў за родную мову, вершнікі бязладна замахалі шабелькамі з папяровых радкоў савецкай канстытуцыі...

Не ведаю, як бы я сам даў рады той сітуацыі, але, на шчасце, побач са мною быў Іваноў, сын сваіх бацькоў-настаўнікаў, патомны інтэлігент і былы салдат будаўнічага батальёна СА (Савецкай арміі). Ён не стаў уступаць у доўгія дыскусіі, а з веданнем справы, нагадаўшы адпаведныя абзацы з дзейнай тады канстытуцыі

СССР, заявіў, што калі расходны лісток не будзе прыняты да абслугоўвання, то ён як сведка ўзніклай калізіі дапаможа грамадзяніну Адамовічу напісаць і падаць у адпаведнасці з працэдурай заяву на імя пракурора горада і ў камісію партыйнага кантролю.

Пасля залпу з гарматаў такога калібру на той бок плексігласавага бар'еру касірка здалася без лішніх ваганняў: мой расходны лісток прынялі, а замест яго выдалі мне першы заводскі заробак. Адзінае, чаго не памятаю, гэта ці перапісваў я тую заяву на адкрыццё рахунку па-беларуску. У любым выпадку з таго часу і да сённяшняга дня ўсе афіцыйныя і неафіцыйныя, дзяржаўныя і недзяржаўныя паперы і паперкі я запаўняю па-нашаму, у поўнай згодзе з парадай незабыўнага Іванова.

***

Гісторыя з чырвоным расходным квітком, якую ініцыяваў Леанідавіч, стала маім ўласным arche – пачаткам, пунктам адліку майго беларускага жыцця, Беларускага Шляху, калі хочаце. Праўда, пройдзе яшчэ нямала часу, перш чым я канчаткова вярнуся да роднай мовы як на пісьме, так і ў вуснай маўленчай практыцы.

Пра гэта яскрава сведчаць усё тыя ж дзённікавыя запісы. Вось як гэты, напрыклад:

"11 декабря, воскресенье. Сидим с Серёжей (это мой сосед по койке), полемизируем. У нас вообще непрестанные споры. Он читает мне свои стихи, размышления своего худ. героя Нестерки. Он работает художником на заводе Кирова. Его всепоглощающий ум будоражит устройство соврем. соц. государства, он кричит, что мы, белорусы, не "ведаем роднае мовы", забываем истину, истоки родной белорусской "культурнай спадчыны". Дарэчы, я зноў перайду на родную мову. Мы з ім спрачаемся (...), ён стварае свае творы, выдае іх на суд мой. Сёння ж з'ехалі з ім у гістарычны музей, толькі і паспелі агледзець экспанаты на першым паверсе. Зноў спрэчкі, прымешваем у свае выпады Леніна, марксізм-ленінізм і Сталіна!.."

Як ні дзіўна, але гэта было сапраўды так: пасля васьмігадзіннага рабочага дня ў нас яшчэ хапала часу на літаратуру і філасофска-паэтычныя дыскусіі, на сухач "рыслінг" і венгерскае "такайскае" за тры семдзесят бутэлька (цана паўлітра гарэлкі). Іваноў атакаваў мяне сеансамі паэтычнай псіхадэлікі ўласнай вытворчасці амаль штовечар. Прычым, ён не проста дэкламаваў, не. Чытанню вершаў папярэднічалі рознага роду інтрадукцыі, інтэрмецца, прэлюдыі з глыбіняў ананімных паэм "Тарас на Парнасе" і "Энеіда навыварат", доўгія адхіленні з драматычнымі апавяданнямі пра Багрымаву жырандолю, жаўрукоў і царскую салдатчыну з выхадам на Багдановічаву "Пагоню" і "Народ, беларускі народ, ты цёмны, сляпы, быццам крот...". Пасля такіх абавязковых словаў пачыналася дэкламацыя ўласных тэкстаў, якія ўспрымаліся ўсяго толькі як паўтарэнні даўно пройдзенага, недарэчныя для 80-х гадоў 20-га стагоддзя. Карацей, уласная пісаніна суседа Іванова магла натхніць мяне хіба што на "вып'ем з гора (гдзе жа кружка), целу станець весялей".

Пасля ўжыцця "па сто" Іваноў пераходзіў да наступнага ўзроўню творчай эксцэсіі: адну за адной ён здымаў са сваіх кніжных паліцаў паэтычныя зборнікі нашых сучаснікаў, раскрываў наўздагад старонкі, чытаў уголас выпадковыя радкі і бязлітасна крытыкаваў, ці, больш за тое, – не пакідаў каменя на камені ад чужых вобразаў, метафар, параўнанняў.

– Ну што, што гэта за бл...дства!? – грымеў над маім вухам Іваноў, тыцкаючы мне пад нос радкі з верша паэткі, лірычная гераіня якой на 39-й старонцы зборніка "Адгукнуся голасам жалейкі" прызнавалася:

А я ў адным бясконца вінавата:
Яму – ўсё дваццаць, мне – ледзь-ледзь пад сорак.

І пакуль я набіраў у грудзі паветра, пакуль нараджаў першы гук у абарону мне тады яшчэ невядомай паэтэсы, Іваноў ужо цягнуў з паліцы чарговую ахвяру сваёй крытыкі – напрыклад, новы, толькі што з выдавецтва, зборнік вершаў Жэні Янішчыц “Пара любові і жалю” ў цвёрдай вокладцы, з выкшталцоным фотаздымкам аўтаркі і цудоўнай графікай мастака Міколы Селешчука, надрукаваны на крэйдавай паперы...

На канец 1983-га Іваноў быў першым і адзіным маім знаёмым, хто, як і я, хацеў ад жыцця чагосьці большага, чымсьці праца на заводзе з васьмі раніцы да чатырох дня, аванс, палучка і жонка – прадаўшчыца ў сталічным ГУМе. Мы хацелі большага, але, як мне спярша здавалася, Іваноў апярэджваў мяне на крок, два, а то і на ўсе тры. У яго ўжо быў эцюднік, алейныя фарбы і пэндзлі, якія прыгожа стаялі ў керамічных гладышах на падваконні і кніжных паліцах. У рэшце рэшт, ён пісаў вершы, пісаў па-беларуску, дэкламаваў іх мне і сам жа іх абараняў ад магчымай з майго боку крытыкі.

А хто быў я на той момант? Ніхто! Катэгарычна! Іваноў – быў, я – не. Я восем гадзінаў у дзень свідраваў дзіркі ў чыгунных станінах, вечарамі чытаў Дастаеўскага напару з Гарэцкім і слухаў бясконцыя маналогі Іванова. Набліжаліся Каляды 1983-га. На кніжных паліцах у суседа, акрамя зборнікаў Янішчыц і Баравіковай, з’явілася кніжка Ларысы Геніюш “На чабары настоена”. Потым пайшлі мужычкі: першы зборнік Лёні Дранько-Майсюка “Вандроўнік”, першы – цесляра Віці Шніпа “Гронка святла”. Яшчэ “Знак аховы” Някляева, “Шлях-360” Разанава... Невядомыя прозвішчы, невядомая паэзія. Адно, што пазнавалася, – мова!..

***

У 1984-м годзе мы з Івановым працягвалі таварышаваць, але ў хуткім часе ён вырваўся наперад – паступіў на філфак БДУ, а я ў ліпені таго ж года трапіў у інстытут сухотаў з саркаідозам Бека ў грудзях.

У суботу 12 студзеня 1985-га Іваноў адведваў мяне ў тым жа самым пакойчыку інтэрната на Малініна, распавядаў, як прамінулым летам ён хадзіў у госці да самога Уладзіміра Караткевіча і атрымаў ад апошняга кансультацыю наконт легендарных яцвягаў...

...У 1999-м Іваноў пад псеўданімам “Сяргей Краснята” выдасць прынтэрным спосабам дзве свае паэмы (альбо – “паэмкі”, як сам аўтар любіў казаць) – “Душа зямлі” і “Быліна Дзвіны”. У першай у вершаванай форме распавядаецца пра легендарных яцвягаў-язычнікаў, у другой – пра князя-чараўніка полацкага Усяслава Чарадзея. Не ведаю, наколькі Іванову як аўтару дапамаглі парады Караткевіча-гісторыка, аднак уплыў Караткевіча-паэта на верш Сяргея Красняты роўны нулю. Зразумела, тут наш вялікі лірык і раманіст-рамантык абсалютна ні прычым. Проста Іваноў не быў паэтам, які імкнецца да прыгожага асэнсавання рэчаіснасці і выказвання эмоцый словам. Але не быў ён і графаманам. Іванову карцела выкладаць вершам спасцігнутыя ім веды з вялікай і складанай, у бальшыні сваёй схаванай ад нас нашай беларускай гісторыі. Іваноў без сумневу быў здольным настаўнікам-наратарам, які валодаў вершаванай тэхнікай версіфікатарства, аднак далей за гэтую “тэхналогію” словаўжывання Іваноў так і не здолеў выйсці, каб усё ж дабіцца да Паэзіі...

Усё гэта я бачу цяпер, калі пішу гэтае эсэ. А ў 84-м я быў паслухмяным вучнем Леанідавіча, я прагна слухаў яго і вучыўся.

Вучыўся, напрыклад, што і як чытаць. Я і сёння згаджаюся з Івановым у тым, што ў пошуках ведаў трэба чытаць не толькі “разумныя” кніжкі, але і такую на

першы погляд нечытэльную макулатуру, як партыйныя зборнікі і царкоўныя кантычкі. Калі ж Іваноў чарговы раз даставаў з паліцы паэтычны зборнік якога-небудзь нашага паэта-сучасніка і пачынаў яго бязлітасна крытыкаваць за “кветачкі-парастачкі” (у другім слове націск на першы склад – *С.А.*), г.зн., за бяззубую, нічым, на думку Іванова, не апраўданую лірычнасць, я, у сваю чаргу, разумеў, што ў маіх уласных будучых вершах павінна прысутнічаць не толькі “чыстая” лірыка, апісальніцтва, але й не менш чыстая энергетыка, эмоцыя й парыў такой з’явы, як чалавечы дух.

Пражылі мы з Івановым у адным пакоі ўсяго і аж цэлы год – з верасня 83-га па верасень 84-га. За гэты час мы паспелі не адну пляшку *алкуголю* выпіць, не адну кніжку раскрытыкаваць і не адзін раз схапіцца за грудзі. Прычынай канфліктаў, як мне прыгадваецца, быў пераважна я, бо, акрамя чытання кніжак, я любіў яшчэ й адпаведную часу музычку паслухаць: ну, разумееце, якіх-небудзь Чэлентану Андрыяна, “Квін” ці савецкі “Задыяк”... А Іваноў усёй гэтай “папсы” на дух не пераносіў. Ну, ясная справа, мы не біліся *на кулакі*, не пускалі адзін аднаму юшку, а як сапраўдныя адродныя (ад роду) інтэлігенты хапалі адзін аднаго за грудзі, а там... хто каго першы паваліў, той і перамог...

Увесь 1985-ы я жыў адзін. Іваноў паступіў на філфак і вучыўся – на дзённым аддзяленні. Час ад часу заходзіў да мянеў госці; мы заседжваліся за пляшкай – заставаўся начаваць. Доўгі час не мог забраць у студэнцкі пакой свае кніжкі разам з паліцай.

Так і жылі – ізноў паасобку, але і разам, бо ні ў Іванова, ні ў мяне не знайшлося новых сяброў-таварышаў, з кім бы мы так натхнёна-шчыра штудыявалі работы Маркса, Энгельса і К°.

У 1986-м я “дагнаў” Іванова – паступіў на першы курс філфака БДУ (Сяргей Леанідавіч ужо займаўся на 3-м). З гэтага года пачаўся перыяд майго інтэнсіўнага вырастання ў грамадзяніна і нацыяналіста (у адным толькі 86-м я змог паступіць, пазнаёміцца з КДБ “у рэале” і ажаніцца з дачкою адстаўнога маёра савецкіх ВПС). Іваноў вучыўся і працягваў пісаць свае паэмкі, назаляючы сваёю дэкламацыяй ужо іншым слухачам.

У 1989-м у складзе, бадай, першага ў сваім родзе беларускага патрыятычнага студэнцкага будатрада мы разам з Івановым працавалі ў Карэліі. Тут Сяргей Леанідавіч паказваў сябе з найлепшага боку як рыбалоў і кухар. Хто быў тады з намі, той не дасць мне схлусіць.

Праз год, у 1990-м, Іваноў быў ганаровым госцем і зноў жа – кухарам на маім 28-годдзі, якое мы адзначалі ў 7-м студэнцкім інтэрнаце на вуліцы Кастрычніцкай у Менску. Нагадаю, што гэта быў пярэдадзень скону СССР, у крамах з прадуктаў былі хіба што яйкі, марская капуста ды хлеб с сінім, як і яйкі, малаком. І ўсё ж майстэрства Іванова-кухара дазволіла з мінімуму прадуктаў зрабіць сытны стол. Зрэшты, магчыма, гэта таму, што былі мы маладыя, пераважна *вясковай* загартоўкі і таму неператборлівыя.

Далей... А што было далей?

Нечакана нават для нас, 30-гадовых, перастаў існаваць СССР, а разам з ім перасталі быць актуальнымі і думкі Маркса-Энгельса пра мастацтва, якія мы так шчыра штудыявалі ў 1984-м. Нас літаральна накрыла хваля свабоды, свабоды самай што ні ёсць рэальнай, і варта было адно карыстацца ёю напоўніцу. Я нырнуў у вір беларускага грамадска-палітычнага жыцця, але постаць Іванова ў гэты час на маім даляглядзе праяўляецца вельмі слаба. Я не памятаю, каб Іваноў, які вучыў мяне ў 84-м гаварыць па-беларуску, у 91-м рабіў бы разам са мною бел-чырвона-белыя значкі, шыў сцягі ці па паштовых скрынях раскідваў улёткі навастворанага БНФ. Ішоў дзесьці нябачным для мяне паралельным курсам. Зрэшты, раздваенне нашай дарогі адбылося яшчэ ў называным тут 86-м, калі я адкрыў для сябе дзясяткі

"івановых", якія, як і мы з Леанідавічам, гаварылі па-нашаму і арганізоўваліся, каб не толькі гаварыць, але і дзейнічаць. Такіх "івановых" у 86-м я знайшоў у маладзёжнай мінскай "Талацэ". Сярод іх былі Вінцук Вячорка і Анатоль Сыс. Мой запіс у дзённіку за 25 сакавіка сведчыць, што ў гэты дзень, сустрэўшы Іванова на філалагічным факультэце БДУ, я запрасіў яго прыходзіць на "талакоўскія" зборкі. Але ўжо вечарам 29-га, пасля суботняй "талакі" я запісаў:

"Быў на "талацэ". Прыйшло шмат народу. (...) Ёсць яшчэ змагары! (...) С. Іванова не было".

Як пакажа час, акрамя філфака, Іванова я рэдка дзе потым убачу. Чым больш насычаным рабілася нашае беларускае жыццё, тым менш я чуў пра Іванова, тым радзей яго бачыў.

У 90-х, пасля заканчэння філфака, Іваноў, казалі, пісаў кандыдацкую, пазней нават працаваў як выкладчык у Полацкім універсітэце. У перыяд напісання кандыдацкай жыў з аспіранткай мовазнаўства Мячыкавай і зрабіў ёй дачушку. Апошні факт мне хацелася б удакладніць асабліва, мне стала б лягчэй, здаецца, каб я быў пэўны, што пасля Іванова засталося дзіця...

24 лістапада 2000 года Іваноў наведаў мяне ў маёй уласнай аднапакаёўцы ў менскай Курасоўшчыне і надпісаў свае так дарагія яму паэмкі, выдадзеныя ў той жа год, што й мае "Плавільшчыкі расы" – у 1999-м. Аўтограф быў наступны: "Славаміру Адамовічу ад Красняты для ўзняцця байцоўскага духу. 24.11.2000. (подпіс)".

Між тым, *байцоўскага духу* трэба было настойліва жадаць самому Сяргею Леанідавічу, які больш ужо не рухаўся паралельным са мною курсам – дзесьці з канца 80-х ён канчаткова зламаў свой шлях, свой вектар руху і пайшоў кудысьці ўбок і глыбока ўніз. Алкаголь і табака перамаглі ў ім дрысенскага яцвяга...

Пасля таго, як з-за п'янства свайго ён мусіў пакінуць кар'еру выкладчыка ў Полацкім універсітэце, Іваноў нейкі час працаваў вартаўніком на розных аб'ектах. Некалькі гадоў ён ахоўваў былую ваенную базу недзе каля Асееўкі, купленую жвавым чалавечкам *на ўсякі выпадак*. Начаваў у былой казарме для ўзвода аховы і нават трымаў пры сабе чатырохлапага сябра...

Неаднойчы я прыязджаў да Іванова на яго "базу", прывозіў *пачастунак* і закусь, і ўжо пад чарку яшчэ і яшчэ раз прасіў вярнуцца ў свет людзей – туды, дзе змагаюцца і пераадольваюць і не такое.

Я прасіў і разумеў: позна, Іваноў больш не вернецца...

***

Калі ў 2009-м годзе я вярнуўся з Нарвегіі ў Беларусь, Іваноў быў першым, хто пастукаў у мае дзверы.

Не ведаю, ад каго ён пачуў пра мае вяртанне, але факт застаецца фактам: Іваноў першы наведаў мяне, свайго ўдзячнага вучня. Я быў увесь такі немагчыма нарвежскі, увесь у воблаку мужчынскае парфумы, з капшуком грошай у тытанавым сейфе на электронных замках і чамусьці вінавата паглядаў на майго Настаўніка, які з гэткім жа вінаватым выглядам доўга таптаўся ў дзвярах. Зняўшы чаравікі, Іваноў нарэшце прайшоў на кухню, выцягваючы з кішэняў лахмана аптэкарскія бутэлечкі з-пад настойкі баярышніку. Адна ці дзве яшчэ былі поўныя. Але нядоўга. За якую хвіліну ён іх "апрыходаваў" і тады ўжо змог вымавіць:

– Ну, расказвай...

І я расказваў, расказваў, а ў голасе маім нарастала ярасць, цела налівалася мускульнай сілай фізічнага супраціву і жаданнем пайсці і ўзарваць усё адным махам...

На нейкі час баярышнік супакоіў Іванова: ён курыў смярдзючыя тутэйшыя цыгарэты і слухаў мае апавяданні з нарвежскага жыцця. Потым яму ізноў

закарцела, ён папрасіў моцнай заваркі, і ў перапынках паміж прагнымі глыткамі расказаў пра сваё існаванне апошнімі гадамі...

Выходзіла, што ён канчаткова згубіў свае мінімальныя сувязі з соцыумам. Пасля смерці бацькоў прадаў сваю палову хаты ў Верхнядзвінску, а грошы спусціў на пракорм і прапой. Ужо нават вартаўніком працаваць не здольны – бамжуе, пабіраецца каля праваслаўных цэркваў, дзе яго, здараецца, б'юць гэткія ж самыя жабракі.

Час ад часу Іванова пускаюць пераначаваць старыя знаёмыя, разам з начаваннем даюць і выпіць-з'есці...

– Як жа так, Іваноў? – пытаюся. – Мы ж разам пачыналі, нейкі час ішлі адной дарогаю, потым яна распалавінілася на дзве, але мы не пераставалі рухацца – паралельна, у адным напрамку... І што ж цяпер, адзін з нас саступіў з дыстанцыі? Іваноў, ты ж настаўнік мой! Не ведаю, што я без тваёй навукі рабіў бы цяпер?!

Але Іваноў маўчаў, час ад часу агрызаючыся:

– Ну добра, добра... Ну што ўжо...

20 снежня 2010-га Іваноў пазваніў, пацікавіўся, ці не забралі мяне падчас начнога хапуна. Дамовіліся, што спаткаемся на сталічным паштамце. Не атрымалася. Рэжым так баяўся паўтарэння народных дэфіле, што... да галоўпаштамта я не дайшоў сто метраў – забралі, і 15 сутак...

У 2011-м я яшчэ прывячаў Іванова ў сваёй менскай кватэрцы – раз ці два, частаваў ягоным любімым чыфірам і гарэлкай... Вясною я ізноў ад'ехаў у Нарвегію, а вярнуўся ў Беларусь у канцы лістапада. З таго часу я чакаю, калі ж у мае дзверы зноў пазвоніць Іваноў, і я, лаючы яго на чым свет, упушчу ў кватэру, дам вялікі махровы ручнік і адпраўлю ў душавы пакой. І пакуль мой Настаўнік будзе змываць з сябе шматгадовую каросту беспрытульнасці, я пайду на кухню, завару яму крутой гарбаты, наллю нам па сто нарвежскай акавіты і, чакаючы госця, прысяду за стол і прачытаю вось гэты слупок з паэмкі Іванова "Душа зямлі":

Душа – несмяротная, з целам не гіне.
Яна ў шуме лесу, ў дыханні вятроў,
У песнях, паданнях і назвах Радзімы,
У еднасці кроўнай бацькоў і сыноў...

in memoriam

## Сяржук Мацін



...Я сыду па-англійску:

няветліва, незаўважна...

# "Ты маеш цяпер толькі цень..."

*Памяці Сержука Мацина*

У мяне дасюль у фэйсбуку вісіць сярод кантактаў ягонае фота. Як і фота гарадзенскага паэта Юрыя Гуменюка.

І ніяк не наважуся выдаліць – хаця перапіска ўжо немагчымая... Таму што гэтыя ўсмешлівыя твары паглядаюць ужо праз непераадольную мяжу, якая аддзяляе свет жывых і памерлых. Гэтак жа, як не прыбіраю ўжо каторы год з нататніка мабільнага тэлефона нумар свайго даўняга суаўтара, гісторыка Віталя Скалабана – хаця той не пазвоніць ніколі, і паспела выйсці кніга, прысвечаная ягонай памяці...

Не ведаю, ці набярэцца настолькі аб'ёмная пасмяротная кніга твораў сябра суполкі "Літаратурнае прадмесце" Сержука Мацина? Урэшце, яму было ўсяго 19 гадоў.

Але, на шчасце, ён паспеў стварыць дастаткова, і на такім узроўні, каб гэта дазволіла яму стаць часткай гісторыі найноўшай беларускай літаратуры.

У дзевятнаццаць гадоў – стаць гісторыяй...

Звестка проста шакавала. Хлопец, студэнт хімфака БДУ, выйшаў ндзельнай раніцай, 15-га снежня 2013 года, з дому. Паслізнуўся, упаў, ударыўся скроняй...

Я ледзь паспела на развітанне. Таксовец доўга ганяў машыну паміж карпусоў Рэспубліканскай бальніцы, і калі я падбегла да залы для жалобных цырымоніяў, труну ўжо выносілі.

Але я ўсё-ткі паспела правесці маладога паэта ў апошні шлях.

Неаднойчы ён праводзіў мяне пасля паседжанняў суполкі “Літаратурнае прадмесце”, якой я кірую, калі мы збіраліся ў Купалаўскім музеі: яму было па дарозе, і разам ехалі ў жыццярадасна зялёным аўтобусе №57, які ходзіць да паныласці рэдка.

Сяржук многім здаваўся старэйшым, чым ёсць: ён быў надзіва начытаны, сур’ёзны, цікавіўся тымі пытаннямі, якімі спаконвек цікавяцца толькі надзеленыя вострым розумам і чуллівай душой маладыя людзі, кшталту сэнсу жыцця.

Калі мы з іншымі сябрамі суполкі ехалі з развітальнай цырымоніі, у аўтобусе разгаварыліся з жанчынай, чыя дачка сябравала з Сержуком. І, аказваецца, пасябравала так: абітурыенты тусілі ў калідоры, а Сяргей Мацін сядзеў на падваконні і чытаў раман Дастаеўскага “Ідыёт”. Ну, і дзяўчыне стала цікава...

Так, Сяржук вылучаўся ў любой кампаніі, і можна было прадбачыць, што ён, з ягонымі максімалісцкімі поглядамі на жыццё, фенаменальнай шчырасцю, дапытлівасцю, няўменнем маніць з цяжкасцю прыстасуецца ў кампаніях. Аднойчы на дыскусію ў “Кніжны салон” ён прыйшоў з паголенай налыса галавой. Адзін з апошніх ягоных запісаў у фэйсбуку пачынаўся словамі: “Бываюць хвіліны, калі хочацца наўпрост крычаць...”

А неяк патрапіў ён на студэнцкую працу на Расійскую чыгунку, на маршрут Масква-Анапа ў якасці праваднікa. Другія праваднікі прымушалі стажора прадаваць пасажырам гарбату даражэй, чым па афіцыйным цэнніку. Здаецца, дробязь... Для Сяржука гэта было непрымальна. І ён, абураны і адчайны, уцёк проста на выпадковай станцыі, у форме, пакінуўшы свае рэчы і грошы ў вагоне, дабіраўся дадому з Расіі, як мог. Пасля напісаў “выкрывальны” верш “Сабачая праца”, ну і прозу...

Так, ён пісаў і прозу, і вершы, і планы ў яго былі вялікія...

Памятаю, як у адзін з першых разоў на паседжанне суполкі “Літаратурнае прадмесце” прынёс яблычную шарлотку, якую спёк сам.

Паэты з’елі яе вокамгненна – было вельмі смачна...

І вельмі кранальна. Бо адчувалася – як хлопцу не хапае кампаніі аднадумцаў, як ён хоча шчырасці і цяпла.

Ён заўсёды казаў тое, што думае. Калі што – спрачаўся, не згаджаўся... Мы паспелі абмеркаваць ягоныя творы на суполцы. Адбываецца гэта ў нас даволі жорстка. Яшчэ калі мы з Віктарам Шніпам засноўвалі суполку, дэкляравалі: будзе сур’ёзная літаратурная вучоба, трэба вучыцца крытыкаваць і прымаць крытыку. Таму не дзіва, што калі паседжанне прысвячаецца разбору творчасці кагосьці з сяброў суполкі, на стале зазвычай фігуруе рытуальная валяр’янка. Бурліва абмеркавалі і Сержука. Рабілі заўвагі, абаранялі, спрачаліся... Асабліва пра ягоныя вершы, напісаныя ад віртуальнай гераіні Алісы Чапскай на расейскай мове, у гэткай куртуазнай манеры, што нагадвала выдуманую Валошыным Чэрубіну дэ Габрыяк. Але ўсе адзначылі – хлопец вельмі таленавіты, ад яго можна шмат чакаць. Усім было цікава, што ж ён напіша далей?

Ён хацеў быць настаўнікам.

Хаця са сваім выдатным атэстатам мог выбраць любы факультэт, любую прафесію.

Вось запіс з ягонага фэйсбуку за 28 красавіка 2013 года:

“Я ж, дарэчы, учора ды пазаўчора настаўнікам хіміі папрацаваў. У дваццаць дзявятай гімназіі на Мельнікайтэ (паміж «Фрунзенскай» і гасцініцай «Юбілейная»). Правёў па пяць урокаў 16-га і 17-га.

Агульнае ўражанне ад працы – пры ўменні знаходзіць падыход да розных вучняў проста рай, а не праца. Нават з тымі, каму хімія на халеру не патрэбная,

можна знайсці агульную мову, кінуўшы ацынкаваны цвік у сульфат медзі ды прадэманстраваўшы ім «медны» цвік праз сорак пяць хвілінаў.

– А чё, круто, это ж можно взять кучу гвоздей, омеднить их и сдать на цветмет, если сборщик по пьяни будет!

– Допустим, – стрымана адказаў я.

– А коку вы сможете заводяжить? – спытаўся іншы вучань.

– Думаю, не стоит.

З тымі ж, хто цікавіцца хіміяй, хутка разумееш, наколькі сам яшчэ дрэнна ведаеш прадмет, які выкладаеш: спыніць такі разумнік на калідоры, пачне пытацца наконт практычнага ажыццяўлення электроліза раствора солі кальцыя, а ты й не ведаеш, што адказаць, каб не паслаць у Гугл ці яшчэ куды.

Вопыты з бялкамі ўчора паказваў, нават яйкі прынёс, каб было з чым вопыты праводзіць. Тэорыі занадта мала, каб расказваць яе сорак пяць хвілінаў, а па паўгадзіны дапытваць вучняў наконт хатняга задання – не мой метад. Хімія – гэта не гісторыя, але ж і не матэматыка!”.

Сяргей шмат падарожнічаў. Калі паглядзець ягоны блог, там увесь час радасныя запісы: “Наведаў Салігорск”, “Наведаў Навагрудак”, “Наведаў Каложскую царкву”, “Наведаў Варонеж”, “Наведаў Ясную Паляну”, “Наведаў Санкт-Пецярбург”, “Наведаў Ужгарад”.

Грошай на падарожжы асабліва не меў, але – заплечнік за спіну, і... Было б жаданне, была б прага ведаў...

У яго была. Як быццам прадчуваў хуткі сыход і хацеў пабачыць як мага болей зямнымі вачыма.

І сябры ў яго былі. Паўсюль: на Беларусі, у Расіі, на Украіне... Вось запіс з ягонага фэйсбуку за 28 чэрвеня 2013 года:

“У стылі Логвінаўскіх «Фрашак ад кнігарні».

Сёння ў Мінск прыехалі мае знаёмыя з Варонежа. Іх, натуральна, павазілі на аўтобусе па праспектах, павадзілі па ўсіх храмах і па Траецкаму прадмесцю (па апошняму – мала, з-за залевы). Потым жа я павёў іх (і яшчэ аднаго знаёмага, з Барысава) ад гатэлю «Планета» па месцах, дзе турысты бываюць рэдка. Пастаялі ля «Ямы», паблукалі па Траецкаму прадмесцю, перайшлі Нямігу па новазбудаваным мосце і выйшлі да музея гісторыі Мінска. Я прапанаваў зайсці. Унутры апынуліся нейкія дзве дзяўчынкі і вахторка.

– А вы на какую свадьбу? – спыталі яны.

– Мы не на свадьбу – мы в музей истории Минска, вот же табличка висит...

– Музей истории Минска? – актывізавалася вахторка. – Нет у Минска никакой истории!

Мы выбеглі адтуль, быццам з пекла, і пайшлі абвяргаць на практыцы тэзу вахторкі музея гісторыі горада Мінска”.

Сяргей Мацін сачыў за беларускай літаратурай, выдатна ведаў беларускую гісторыю – прымаў беларушчыну сэрцам. У сваім статусе ён цытуе словы Наталкі Бабінай і так разважае над імі: «Калі тыя, чые дзяды гаварылі па-беларуску, будуць гаварыць па-беларуску, тыя, чые дзяды гаварылі па-ўкраінску, – будуць гаварыць па-ўкраінску, тыя, чые дзяды гаварылі па-польску, будуць гаварыць па-польску, толькі тады тыя, чые дзяды гаварылі па-расейску, нас пачуюць». Так, і толькі так! Вось таму і вывучыў усе тры мовы, на якіх размаўлялі мае продкі...”

А вось яшчэ запіс:

“Хімія – хіміяй, а вершы – вершамі. Гэты пачаў пісацца ва Ўкраіне, пасля наведвання могілак, дзе пахаваны прадзед (а было гэта першага студзеня, каля дзвюх гадзін дня па ўкраінскім часе), дапісаны ж учора, на семінары па арганічнай хіміі. Праца натхняе, ці гэта проста вясна?..

### ІМЯ

Хто скажа, якой краіне
Належыць маё імя?
«Шляхетны» – пісалі ў Рыме
Лацінай па камянях.
«Святы, Візантыі слава!» –
 Гучала ў старой царкве.
«Расіі! Якая справа,
Што ёсць паўзасохлы квет?»
Ды толькі чужыя словы –
Лухта ў параўнанні з тым,
Што промнем гарыць вясновым,
Прасонечна-залатым,
Што ў сэрцы нашу заўсёды,
Куды б ні закінуў лёс:
Празрыстасць начнога лёду,
Азёрны блакіт нябёс,
Вясёлка над ціхай вулкай,
Праз поле і вёску шлях...
«Айчыну, – мільгае думка, –
Не знойдзеш у міражах».

*01.01.13, Русанаўцы – 17.04.13, Мінск”*

Сяржук двойчы адзначаў з суполкай Літаратурныя Дзяды – падчас святкавання кожны ўспамінае кагосьці з памерлых беларускіх пісьменнікаў, нашых літаратурных дзядоў. Сяржук Мацін прыносіў кнігі, зачытваў вершы, згадваў сярод іншых Адама Гурыновіча, Уладзіміра Жылку... Вельмі закранулі яго вершы Ігара Поглазава. Гэта мінскі паэт, які ў трынаццаць гадоў скончыў самагубствам, пакінуўшы вельмі моцныя, недзіцячыя творы. Сяржук нават папрасіў у мяне зборнік Поглазава дахаты, пачытаць...

З Сержуком можна было пагаварыць на любыя інтэлектуальныя тэмы. Ён шмат разважаў. Натуральна, быў у яго самы ўзрост для духоўных пошукаў, некаторага духоўнага раздраю – хто ж ведаў, што мы так і не пабачым, як і куды далей прастуе ягоны шлях...

Апошні запіс, які ён пакінуў у маім фэйсбуку – падзякаваў за напамін, што сябры суполкі возьмуць удзел у святкаванні дня народзінаў Максіма Багдановіча.

У музей Максіма Багдановіча, дзе цяпер збіраецца суполка, Сяржук так і не прыйшоў.

Калі пабачыла паведамленне, якое прыслаў Мікола Кандратаў, пра развітанне з Сержуком Мацiным, падумала – дурны жарт. Кепска сфармуляваная абвестка пра якісь перформанс...

На пахаванні было шмат моладзі. Прыгнечаныя, маўклівыя, разгубленыя... Мне казалі, што многія адчувалі сваю віну перад загінулым – не ўспрымалі ўсур'ёз, хтось, мабыць, і здзекваўся... Ён жа быў зусім безабаронны – адкрыты, шчыры... Часам занадта гучна гаварыў – ён не чуў на адно вуха. А выказвацца любіў. Старанна наведваў літаратурныя вечарыны, удзельнічаў у конкурсах. Дарэчы, займаўся і спартовым арыентаваннем.

З'явіліся першыя публікацыі – у “Маладосці”, газеце “Звязда”. Там нават гутарку з ім зрабілі – настолькі адметнай асобай падаўся.

Апошняя ягоная публікацыя атрымалася ў газеце “Рэспубліка” за 7 снежня 2013 года, у агульнай падборцы сяброў суполкі “Літаратурнае прадмесце”. Я давала некалькі вершаў на выбар – а ў газеце выйшаў гэты, у якім пасля ўсе ўгледзелі прадчуванне, ад якога цяпер – дрыжыкі па скуры...

Я сыду па-англійску: няветліва, незаўважна,
Назнарок пакідаючы ўсё, што калісьці займеў,
Без увагі. Імгненна. Дазвання. Хіба толькі спеў
У паветры зазначыць: «Ты маеш надзеі? Няважна!»

Праз тыдзень пасля публікацыі гэтага верша аўтар загінуў.

26 лютага 2014 года Сержуку Маціну споўнілася б дваццаць гадоў.

Упэўнена – Сяржук напісаў бы шмат, і цікавага. Творчы ягоны рост быў вельмі заўважны. Апошнім часам у яго атрымліваліся сапраўды добрыя вершы. Дарэчы, мяркуйце самі.

Паўтару толькі думку, якую неаднойчы прамаўляла на паседжаннях суполкі, на якіх прысутнічаў і Сяржук Мацін: народ павінен памятаць сваіх паэтаў. Няважна, колькі яны пражылі, колькі паспелі пакінуць – збор твораў альбо адзіны таненькі зборнічак. Упэўнена, што зборнік Сержука Маціна выйдзе, і змусіць шкадаваць, захапляцца, разважаць пра несправядлівасць лёсу і трагічнасць гісторыі беларускай літаратуры... А пакуль – вось гэтая падборка.

**Людміла Рублеўская,**
**кіраўнік суполкі "Літаратурнае прадмесце"**

## Сяржук МАЦІН

### *САНЕТ ДАГАРЫ НАГАМІ*

Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца,
Карал расце, схаваны пад вадой,
Не знаецца з няўдачай і нудой,
Будуе ўласным целам камяніцу.

Вакол яго пануе цеплыня
У студзені, сакавіку ды жніўні,
І рыбы праплываюць тым актыўней,
Чым час бліжэй да дзвюх гадзінаў дня.

Калі ж падняцца ўмэнт на сотню метраў –
Пабачыць, як ляціць па волі ветру
Адвечны пыл (яго цяпер знайшлі),

Як грае штосьць музыка ў стылі рэтра...
Не ўбачыш аднаго хіба: раллі
Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі.

*Чырвонае мора каля Хургады*
*(у падводнай частцы карабля), 21.01.2012*

### *ЦЫКЛ «РАПТОЎНЫ СНЕГАПАД»*

#### *І. Кастрычнік цемру сустракае*

Усходні вецер. Мокры снег.
Кастрычнік цемру сустракае.
Яго нічога не злякае:
Усходні вецер, мокры снег...

Паміж шматпавярховых стрэх
Царкоўны перазвон блукае.
Усходні вецер. Мокры снег.
Кастрычнік цемру сустракае...

*Мінск, 27.10.2012*

### *II. Уяўны снежань*

Уяўны снежань надышоў,
Не даўшы рады лістападу.
Ты скуль, паўночная прынада –
Уяўны снежань – надышоў?

«Схавайце восень у мяшок!» –
Гучыць таемная парада...
Уяўны снежань надышоў,
Не даўшы рады лістападу.

*Мінск, 27.10.2012*

### *III. Ліхтар-вар'ят*

Імжа. Ліхтар-вар'ят злуецца:
Сняжынкі зіхацяць упарта.
Здзіўляцца гэтаму не варта:
Імжа! Ліхтар-вар'ят злуецца...

Няма куды яму падзецца –
Тут вам не Ява ці Джакарта.
Імжа. Ліхтар-вар'ят злуецца,
Сняжынкі зіхацяць упарта...

*Мінск, 27.10.2012*

## *КСЕНІІ Т.*

Чорныя вочы, голас прарочы,
Чары наіўных радкоў,
Шлях, на які паралельна я збочыў,
Човен паўздзейсненых сноў.

Страціўшы меру, цалкам паверыў
У навастораны цуд,
Рушыў наўпрост праз уяўныя дзверы,
Ледзь не загінуўшы тут.

Лезці на кручы дужа балюча,
Падаць – шматкроць цяжэй.
Сэрца, бы полымем, спалена: змучыў
Так, што не бачу, як крочыць далей.

Феніксам-птушкай трэба падняцца
Дзеля таго, каб працягваць гульню
І не спыняцца: дзесяць ці дваццаць
Шнараў – ахвяра наступнаму дню!

*Мінск, 29.01.2013*

## САБАЧАЯ ПРАЦА

Ведаеш, хлусы з саюзаў ды партыяў –
Бы немаўляты, калі параўнаць
Іхнія крокі і нашыя ўпартыя
Спробы прайсці праз пякельную гаць.
Нас падманулі – цынічна, бязлітасна.
Падзарабіць здагадаешся, як:
Гэта няцяжка, калі давязлі да сна
Ўсіх пасажыраў. Калі не лайдак –

З кожнай бялізны, гарбаты ці кавы
Маеш рублі – ад пяці да паўста.
Час прабаўляеш у спрэчках цікавых?
Піва? Хай п'юць, каб народ не паўстаў.

Спіш тры гадзіны – і так пару месяцаў,
Хтосьці спрабуе яшчэ заляцацца...
Нават у верш адчуванні не ўмесцяцца,
Толькі два словы – сабачая праца.

*ст. Старамінская, 28.07.2012*
*(падчас працы праваднікам на цягніку 349/350*
*Расійскіх чыгунак)*

## МАРЫ ХМАР

Мары хмар – не маркотны прысмерк
У трымценні халодных зім,
І знікаць на бязлюднай выспе
Неахвотна таксама ім.

Мары хмар – не раптоўны вецер,
Што ў бясконцасць упарта мкне,
І на высахлыя суквецці
Дождж запознены не ліне.

Мары хмар зразумець няпроста,
Але сутнасць усё ж адна:
З увільготненага пагоста
Кветкі мкнуць дагары здаўна.

*мяжа Украіны і Румыніі, 30.06.2012*

## *Пецярбургскія мары*

### *ПЯТАГА СНЕЖНЯ*

Снег нарэшце лятае ў паветры,
У марознай прасторы зімы.
Ён схавае зямлю; адпаведны
Крок з пачуццямі зробім і мы.

Ці згадаеш цяпер дзень далёкі,
Што мінуў, а пасля яго – год?
Чую толькі птушыныя клёкі,
Бачу толькі адсутнасць прыгод...

Адчуваю – ў суботу сарвуся,
Уратую няіснае штосьці...
Дзесьці ў выраі лётае бусел,
Кантынент перасекшы наскрозь.

Не на поўдні – на поўначы шчасця
Дачакацца я мару цяпер.
Раскрываю ўсе вокны зноў насцеж...
Трэба ласкаю дзейнічаць. Вер.

*Мінск, 05.12.2012*

### *МАРА*

Няхай усе забабоны пойдуць да лысага чорта,
А ўсе перашкоды знікнуць, бы апоўдні туман,
І шчасце нарэшце знішчыць мой звыклы
самападман,
Які прымушаў ізноў дзяўчат да сябе прыгортваць.

Засвоены ўрок заўжды будзе ўплываць на мары,
Пакуль не абвергне ўсё ж настаўнік-жыццё яго.
Бязлітасны стрэл – у слуп. Бязлітасны ўдар таго,
Хто створаны, каб спяваць, атрымліваючы ўдары!

Сустрэча была. Яна засведчыла толькі боязь,
Звязаную з парушэннем агульнапрынятых густаў.
Не здолелі ноччу ўсё ж тры словы прамовіць
вусны,
Але сакавіцкі ранак павінен засведчыць повязь.

*Мінск, 13.02.2013*

### *АЙЧЫННЫ ПАХ*

Дадатак атруты ці лекі? – вось
Пытанне, паўсталае пазаўчора.

Амаль што для ўсіх – выпадковы госць,
Які завітаў у паўночны горад.
Хаваецца праўда пад коўдрай сноў,
На снежных абшарах сусветнай сеткі.
Сустрэнемся ўлетку дакладна. Слоў
Не трэба – крый Божа, пачуюць сведкі...
З далёкай дарогі застаўся шлях
Праз Оршу наўпрост да сталіцы роднай.
І дым цеплавозу – айчынны пах –
Здаецца патрэбным і неабходным.

*Віцебск, 04.03.2013*

## КАСТРЫЧНІЦКАЯ НОЧ

У змроку сцюдзёнай кастрычніцкай ночы
Амаль што нічога не бачна наўкол.
А дзесьці на Поўнач ідзе ледакол
У змроку сцюдзёнай кастрычніцкай ночы...

Так хочацца ў жнівень вярнуцца ізноў,
У спёку, якой там было пагатоў...
Амаль што нічога не бачна наўкол
У змроку сцюдзёнай кастрычніцкай ночы.

*Мінск, 18 кастрычніка 2010*

## ПЕРШЫ СНЕГ У ЛІЦЭІ

*Прысвячаецца Кацярыне Глухоўскай і Андрэю Строцаву*

Пад першы снег, што ўчора ледзь не выпаў,
Філолагі пабеглі, быццам дзеці,
Нягледзячы на холад і на вецер,
Бо першы снег, што ўчора ледзь не выпаў,

Чароўным быў, як тая Маргарыта,
Па-майстарску пагойдвалася вецце...
Пад першы снег, што ўчора ледзь не выпаў,
Філолагі пабеглі, быццам дзеці.

*Ліцэй, 23 кастрычніка 2010 –*
*тралейбус №4, 23 траўня 2013*

## ЗЯЛЁНЫ БУДЫНАК

*Прысвячаецца будынку па вул. Маякоўскага, 94*

Зялёны будынак старога Ліцэя!
Я там не вучыўся, але зараз я
Гляджу на яго, і свядомасць мая
Зялёны будынак старога Ліцэя

«Сваім» успрымае. Чаму – зразумела:
Ля Свіслачы з маці блукаў у гаях
Ды першыя крокі рабіў там нясмела...
Будынак – адна з нешматлікіх праяў

Тых дзіўных часоў, бо навокал квітнее
Сучаснасць у безлічы знакаў (чыя?)
Зялёны будынак старога Ліцэя
Ўсё болей і болей ацэньваю я.

*Стары Ліцэй, 18 кастрычніка 2010 –*
*тралейбус №4, 23 траўня 2013*

## УЗОРАМІ ЛІТАР

Катаванне адсутнасцю блізкага сэрца
Нам прызначана лёсам і часам.
Што мне рытмы – адажыа, фортэ ды меццa –
Калі зноўку з сабою сам-насам?

Ты таксама, як я, выбудоўваеш гмахі
Нечаканых падзей і варункаў:
Міражы-краявіды, прыемныя пахі,
Ды найболей у творах – стасункаў.

Ці паспеем свае патаемныя мары
Мы прадставіць на суд паспаліты?..
Да апошняга ўздыху, нібыта Ікары,
Будзем рушыць узорамі літар.

*Баранавічы, 31.03.2013*

## РАЗМАЛЁЎВАЦЬ СУСВЕТ!

Не саромецца быць сабой,
Крочыць упадабаным шляхам,
З лёсам не пачынаць двубой,
Кіравацца вясновым пахам,

Не зважаць на сабачы брэх,
На світанку ўсміхацца сонцу,
У завулках ды паміж стрэх
Размалёўваць Сусвет бясконца!

*17 сакавіка 2013, Мінск*

## ЧАС ВЫНІШЧАЦЬ ТАЯМНІЦЫ!

Знікнуць з жыцця з-за такой драбязы –
Глупства наўпрост, і кропка!
Сэрца казыча нямы прызыў,

Трушчыцца лёд крохкі...

Выратуй тое, што змог утрымаць,
Як у пустэльні – крыніцу.
Годзе раздзелена існаваць –
Час вынішчаць таямніцы!

*9 снежня 2013, Мінск*

## *РАЗВІТАЛЬНАЕ*

Я сыду па-англійску: няветліва, незаўважна,
Назнарок пакідаючы ўсё, што калісьці займеў,
Без увагі. Імгненна. Дазвання. Хіба толькі спеў
У паветры зазначыць: «Ты маеш надзеі?
Няважна!»

Я сыду назаўсёды, як двойчы рабіў у жыцці,
Толькі гэты мой выклік каханню – папраўдзе
апошні.
Не зачэпіць больш сэрца яно. Сноп не зрушыцца
з пожні.
Са згарэлага рысу ніколі не зварыш куцці.

Я сыду ў накірунку такім жа, нібыта нябёсы
Над краінаю нашай у цёплы і сонечны дзень.
Выбачай, калі ласка. Ты маеш цяпер толькі цень.
Пашкадуй і схавай у шуфляду – да іншых
дзівосаў.

*Мінск, 08.06.2012*

Ціхан Чарнякевіч



...кожны можа даць сваю люстрацыю,
але далёка не заўсёды ў тваім люстэрку
адаб'ецца нешта яшчэ, акрамя цябе самога...

# Гісторыя аднаго шпацыру

***Рэцэнзія на кнігу Аляксандра Л.***

***Аляксандар, Л. "Зкімбы-зымбы": кніга люстрацыяў. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 270 с. – (Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў"; вып. 14)***

Стаяў у гарэлачнай краме "Крышталь", цадзіў сваю каву перасалоджаную, глядзеў на былую вуліцу Варвашэні, разрабаваную рамонтнікамі. Чухалі злева направа машыны, матацыклы, 903-я аўтобусы з таніраванымі людзьмі, якія ледзь угадваліся праз шкло; перлі па тратуары мянты з акадэміі, чужая мова, чужы час, чужое месца.

Але загледзеўся на нейкага таўстуна ў аранжавай уніформе. Трамвайныя рэйкі разабралі, дантыстычна звінелі фартункі, а ён раптам узлез на бетонную бандуру пасярод былых рэек і закурыў. І было яму яўна добра: да электрапілаў прывык, а машынкі з аўтобусікамі сталіся штодзённымі дэкарацыямі працы, ад якой ён відавочна лавіў свой прыватны кайф.

Чамусьці ўсё гэта ў мяне наклалася на тое, што задумаў я напісаць водгук на кнігу. Пісьмянкоў вось думаў вершы, а я




хаджу па горадзе і думаю рэцэнзіі, і часам кніжка сутыкаецца з заўважаным па дарозе, і тады пісаць становіцца крыху лягчэй. Прынамсі, ты ўжо ведаеш, што сказаць. Напрыклад, што рэчаіснасць, а з ёю і літаратура, становіцца зонай адчужэння, дзе моўца, перш чым уставіць свае тры капейкі, лічыць за гонар адасобіцца ад усяго наваколля. Нібыта ўвесь свет, начытаўшыся *мондрых* кніжок, пачаў бавіцца ў ролевыя гульні "Свае/Чужыя" і "Я/Іншы".

Тым часам у кнізе, пра якую я сабраўся пісаць, аўтар весела ператасаваў бінарныя апазіцыі, і атрымалася "Я/Свае". Разгортваючы "Я", ён абапіраўся на "сваё"; надзвычай ярка расфарбаваны аповед, тым не менш, не станавіўся толькі суб'ектыўнай рэфлексіяй, а ператвараўся ў дзіўную карцінку з натуры: "Я" прыцягвала магнітам тое, што было найбліжэй. Гэтаму не супярэчыла і структура кнігі: гаворка ішла ад самага пачатку, ад таго, што ўспрымала "Я" ў дзяцінстве, да чаго гарнулася і прыцягвалася; гэта былі нібы перадчасныя мемуары, аўтабіяграфія чалавека, які не збіраецца паміраць, а праводзіць эксперымент з магчымасцямі мовы, збіваючы ў адзін сказ адну сітуацыю, такім чынам ператвараючы яе ў кадр. Дарэчы, такое вось "збіццё" ў адзін сказ мне даспадобы, бо нагадвае штодзённую кашу ў галаве пасля прагляду навінаў, ды і наогул пасля шпацыру па горадзе, бо калі ты шыбуеш па праспекце і глядзіш на людзей, альбо сядзіш у парку Янкі Купалы і глядзіш на лісцё, ты так і не можаш вызначыцца з дамінантай, бо кадры мільгаюць занадта хутка, але, саштурхоўваючы іх у адно, ты хаця б можаш даць "сваім" нейкае ўяўленне пра тое, што робіцца ў тваёй галаве, і, можа, яны даруюць табе сёе-тое.

Якраз і сядзеў я ў парку, глядзеў на лістапад і думаў, што рэцэнзіі на такія кнігі лепш пісаць улетку, калі задушліва і спякотна, калі можна падмацавацца найгрышам Ангуса Янга і паспрабаваць трапіць у яркі, пазітыўны ключ аўтарскага стылю, дастасаваць да яго свой ключ. Але цяпер час быў безнадзейна страчаны, і на плэеры грала "Summer's Almost Gone", недарэчы ўспаміналася, што "был же и я когда-то счастлив, жил в плену у ангелов, ходил на вурдалаков", і цалкам верагодна, што гэта можна было б неяк выкарыстаць у рэцэнзіі, загнаць у падтэкст, але як – я не ведаў. Як не ведаў я і тых верных сяброў, пра якіх пісаў аўтар, выкарыстоўваючы крыптанімы, але мне чамусьці вельмі хацелася мець менавіта такіх сяброў. Увогуле – добра думалася пра вартасць сяброўства, пра ўсякія дзіўныя ўчынкі, якія можна рабіць з сябрамі, і як гэтыя ўчынкі потым ператвараюцца ў сюжэт тваёй біяграфіі.

Зноў і зноў углядаючыся ў назву на кнізе, падумаў, што няблага было б выпіць. "Душа была беспрытульная, захацелася піва", – так, здаецца, пачынаўся "Жоўты колер..." Асташонка. Балазе, выпіць было за каго, бо адгарнуў я наступны раздзел, хутчэй памінальны, чым ярка-іранічны. Аўтар добра вытрымліваў храналогію: нават чыстае немаўлё асуджанае на смерць. Некалі я думаў пра гэта, гуляючыся з ручкамі маленькага сына: "Вось тыя ручкі, якія кінуць тры жмені пяску на маю дамавіну". І, зрэшты, дай Бог, каб так і было. Бо ў кнізе аўтар гаварыў пра зусім маладых памерлых, напрыклад, Каткоўскага, якога хавалі жывыя бацькі. Але ўсе, пра каго аўтар пісаў у раздзеле "Люстрацыі наадварот", паспелі здзейсніцца, адбыцца, і менавіта тым, чым яны здзейсніліся, і сталі для аўтара "сваім", таксама сталі неад'емнай часткай ягонай біяграфіі. Яны былі крыху вышэйшыя за сваё імя і прозвішча альбо, наадварот, іх імя і прозвішча азначыла, у рэшце рэшт, не толькі іх саміх. З усіх узгаданых асабіста я ведаў толькі Скалабана. Нядаўна я пісаў пра яго для зборніка in memoriam: "Прастора запамінае чалавека. Калі той знікае, натуральна мяняецца і прастора. Пры гэтым не скажаш, што чалавек – дэталь, шрубка прасторы. У карціны няма дэталяў, але ёсць каларыт. Вось якраз

ён і змяняецца, карціна мізарнее, як быццам застаўшыся нязрушанай. Пасля смерці Віталя Уладзіміравіча Скалабана нібыта змеркла ўся культурная прастора. Калі ж перайсці ад абстракцый да канкрэтыкі – адсутнасць яго мажной фігуры ў чытальных залах мінскіх архіваў, у рэдакцыйных калідорах, між стэлажоў Нацыянальнай бібліятэкі адчуваецца амаль фізічна. Яшчэ горш з тае прычыны, што раней ён, такое ўражанне, знаходзіўся ва ўсіх гэтых месцах адначасна; прынамсі, сустрэць яго там можна было штодзень. І прысутнасць тая супакойвала: ну, дзякуй Богу, зараз падыду ды спытаю, а то замучыўся ўжо шукаць сам, адзін".

Па сутнасці, кожны можа даць сваю люстрацыю, але далёка не заўсёды ў тваім люстэрку адаб'ецца нешта яшчэ, акрамя цябе самога.

Вавёрак не было. Ці жывуць яны ў купалаўскім парку? На Чалюскінцах дакладна ёсць. Успомнілася вавёрка на дрэве каля ўваходу ў стары корпус Кіеўскага ўніверсітэта імя Шаўчэнкі.

Сякія-такія водгукі на кнігу я чуў. У прыватнасці, гаварылася пра тое, што аўтар дарэмна не давёў свае ўспаміны да канца (але як можна давесці ўспаміны да канца?) і разбіў цэльны тэкст на дзве часткі, сярод якіх быкаўская стала больш моцнай. Я вырашыў, што ў рэцэнзіі, апелюючы да ўласнага разумення аўтарскай задумы, рашуча запярэчу і дакажу, што быкаўская частка ў кнізе з'яўляецца лагічным працягам папярэдніх, яна размыкае "асабістае-са-сваім" у нацыянальнае, і якраз тут мне можна было б забабахаць грунтоўны перыяд у беларускім казуістычным літаратуразнаўчым стылі, што было б да месца, бо рэцэнзія выходзіла дужа кароткай. Але моцы на рашучасць і пярэчанні ўжо не заставалася: каля парка, як заўсёды, нешта капалі і будавалі, і я з жахам падумаў пра Івана Дамінікавіча – як ён церпіць гэта дзень пры дні?

Я закурыў, устаў з лаўкі і вырашыў прагуляцца да крамы "Вянок".

Выданні Быкава з аўтографам траплялiся мне ў кнігарнях чатыры разы, таму добра ўставаў у памяці ясны почырк, круглаватыя літары, напісаныя чорнай асадкай і не заўсёды на беларускай мове. Я сустракаў людзей, якія ставіліся да Быкава паблажліва, не прызнаючы за ім асаблівых дасягненняў у літаратуры. Але мала хто з маіх знаёмых не чытаў Быкава, таму ён уяўляўся мне пісьменнікам народным. Чуў я не раз у грамадскім транспарце з вуснаў падпітых дзядзькоў радкі Коласа, Крапівы, Гілевіча, але ўспрымалася яно навакольнымі выключна як хохма, як "набліжэнне да народа" – быццам трэба было ўвайсці ў нейкі вакуум, зачыніць за сабой дзверы і толькі тады стаць часткай народа.

Быкаў гэты вакуум растварaў. Яго чыталі, хоць звычайна і "некалі", "раней", але менавіта таму, што мелі ў гэтым неабходнасць. Нядаўна для аднаго радыё я накідаў невялікі тэкст, у якім, сярод іншага, пісаў: "«Чалавек — гэта цэлы свет»: максіму Кузьмы Чорнага Быкаў даводзіць амаль што да паняцця з філасофіі саліпсізму. Што можа аб'яднаць гэтыя сусветы? Як яны могуць паразумецца? Што імі кіруе, акрамя інэрцыйнага руху да ўласнае смерці? Гвалт? Лёс? Улада законаў і табу? Дробныя жарсці, распаленыя дачырвана?". Зразумела, быкаўскія пытанні былі важнымі і для мяне, і для гэтай кнігі таксама. Тут яны хутчэй замянялі ілюстрацыі, гравюры на метале: вытраўленыя словы ўразаліся ў памяць, хоць нешта з іх я ўжо чытаў раней у кніжках і газетах.

Мабыць, аўтар падумаў, што кніга атрымліваецца вельмі "лёгкай", і вырашыў ураўнаважыць гэтую лёгкасць цяжарам быкаўскіх ацэнак. Так ці інакш, глядзелася гэта натуральна і добра.

Ад "Вянка" я ішоў з лёгкім сэрцам і цяжкім заплечнікам. Збіраліся хмары, трэба было хутчэй сядаць у электрычку і ехаць дамоў. Рэцэнзія больш-менш вытанцоўвалася, заставалася толькі знайсці форму і патрэбныя словы.

*Кастрычнік, 2013*

# Параходзік сучаснасці

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Святлана Алексіевіч. Час sekond-hand (Канец чырвонага чалавека) / пер. В. Стралко, Ц. Чарнякевіч. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 384 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 48).**

Кніга Святланы Алексіевіч, якая была перакладзеная на многія еўрапейскія мовы і атрымала некалькі прэстыжных літаратурных прэмій, цяпер даступная па-беларуску. У прадмове аўтарка піша: “За семдзесят з лішкам гадоў у лабараторыі марксізму-ленінізму выгадавалі адмысловы чалавечы тып — homo soveticus. Адны лічаць, што гэта трагічны персанаж, іншыя называюць яго “саўком”. Мне здаецца, я ведаю гэтага чалавека, ён мне добра знаёмы, я побач з ім, поплеч, пражыла шмат гадоў. Ён — гэта я. Гэта мае знаёмыя, сябры, бацькі. Некалькі гадоў я ездзіла па ўсім былым Савецкім Саюзе, бо homo soveticus — гэта не толькі рускія, але і беларусы, туркмены, украінцы, казахі... Цяпер мы жывем у розных дзяржавах, размаўляем на розных мовах, але нас ні з кім не пераблытаеш...”

Кніга “Час second-hand (Канец чырвонага чалавека)” закранае маштабныя гістарычныя тэмы: Вялікую Айчынную вайну, Афганістан, Чарнобыль, час “перабудовы” і развал сацыялістычнай імперыі. У творы даследуецца феномен мыслення савецкага чалавека, феномен сацыялізму і выкладаецца аўтарская канцэпцыя найноўшага часу, які пісьменніца называе “часам сэканд-хэнд”.




**Анатоль Дэбіш. Зірні ў люстэрка. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 232 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 48).**

У новую кнігу берасцейскага паэта Анатоля Дэбіша ўвайшлі напісаныя цягам апошніх дваццаці гадоў выбраныя вершы і драматычная паэма “Уваскрэсенне Іуды”, у якіх аўтар спалучае фальклорныя традыцыі і сучаснае паэтычнае пісьмо. Анатоль Дэбіш вядомы як аўтар зборнікаў вершаў “Калядная вячэра”, “Стодзівы”, якія выйшлі ў пачатку дзевяностых. Спадар Анатоль актыўна друкуецца ў перыёдыцы, у часопісах “Маладосць”, “Дзеяслоў”, “Беларусь”, газеце “Літаратура і мастацтва”, у калектыўных зборніках.




**Новы замак: літаратурны альманах. Гродна. MMXIII. №2. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 256 с.**

Пабачыў свет другі выпуск літаратурнага альманаха “Новы Замак”, які выдаецца Гродзенскім абласным аддзяленнем ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”. Укладальнікам выдання выступіў Сяргей Астравец, рэдактарам — старшыня абласнога аддзялення СБП Юрка Голуб.

У “Новым Замку” змешчаныя творы двух дзясяткаў аўтараў — паэзія, проза, драматургія, пераклады, дзённікі, успаміны. У рубрыцы “Са спадчыны” публікуецца драматычная паэма “Каранацыя Міндоўга” Міколы Арочкі і вершы Юрыя Кісялеўскага. Успаміны Алы Петрушкевіч пра Едруся Мазько і Сяргея Астраўца пра Юрыя Гуменюка можна знайсці

ў раздзеле In memoriam. Адметныя пераклады з Міраслава Качмарэка, Эльжбеты Міхальскай, Юлія Тувіма, Яна Паўла II у перастварэнні, адпаведна, Дануты Бічэль, Юркі Голуба, Юрыя Кісялеўскага, Алеся Чобата. Прадмову да перакладаў напісаў Анатоль Брусевіч.

Віктар Сазонаў прадстаўляе нізку апавяданняў, раней апублікаваных толькі па-польску. Завяршаецца альманах рубрыкай "Хроніка", дзе расказваецца пра правядзенне гарадзенскага слэму і іншыя культурныя падзеі рэгіёна.




**Кацярына Оаро. Сарочае радыё. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 94 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; Пункт адліку).**

Першая кніга Кацярыны Оаро — маладой беларускай аўтаркі, якая цяпер жыве і працуе ў Францыі — сталася дзясятым выпускам серыі "Пункт адліку". Увазе чытачоў — "свежая" проза і ў простым, і ў пераносным сэнсах. Перад намі — прыклад гарадской маладзевай прозы на вострасацыяльную тэматыку. У аповесці "Сарочае радыё. Лісты падзякі" апісваюцца будні маладой журналісткі, якая працуе на адным з беларускіх незалежных радыё. Месца дзеяння пазнавальнае — гэта Мінск. Настолькі ж пазнавальнымі многім чытачам могуць падацца і сённяшнія беларускія рэаліі, і тыповыя сацыяльныя характары, і першы журналісцкі досвед студэнта-пачаткоўца. Кніга будзе цікавай не толькі равеснікам аўтаркі, пакаленню дваццаці- або трыццацігадовых, але і старэйшай чытацкай аўдыторыі.




**Параходзік сучаснасці. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 130 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; вып. 50).**

Кнігу "Параходзік сучаснасці" можна назваць візітоўкай Школы маладога пісьменніка, якая працуе пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў з 2012 года. Яе склалі вершы, апавяданні і пераклады першага набора навучэнцаў. У "Параходзік..." увайшлі аўтарскія творы 18 наведнікаў школы, а таксама пераклады. Цягам васьмі месяцаў Школу маладога пісьменніка наведвалі як пачаткоўцы, так і аўтары, вядомыя чытацкай аўдыторыі. Напрыклад, на старонках зборніка можна прачытаць вершы Рамана Абрамчука, Насты Грышчук, Антона Рудака, Волі Чайкоўскай, прозу Дар'і Вашкевіч, Кірыла Дубоўскага, Насты Манцэвіч, Наталлі Ярмольчык ды іншых.

"Параходзік сучаснасці" аздоблены фотаздымкамі, на якіх адлюстраваныя найярчэйшыя моманты працы Школы. Майстар-класы праводзілі Наталка Бабіна, Генадзь Бураўкін, Вера Бурлак, Пятро Васючэнка, Вольга Гапеева, Адам Глобус, Сяргей Дубавец, Сяргей Кавалёў, Інга-Ліна Ліндквіст, Алесь Разанаў, Людміла Рублеўская ды многія іншыя аўтарытэтныя творцы. Практычныя семінары вялі Валянцін Акудовіч і Алесь Пашкевіч, куратарамі паэтаў і перакладчкаў паэзіі былі Уладзімір Някляеў і Андрэй Хадановіч. Арганізоўвалі працу школы Юля Цімафеева і Алена Казлова.




**Чытанка для маленькіх / уклад. В. Вячорка, П. Садоўскі. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 60 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; падсерыя "Каляровы ровар"; вып. 2).**

Новай цудоўнай кнігай "Чытанка для маленькіх" папоўнілася серыя "Каляровы ровар", што выходзіць у Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў. У кніжку ўвайшлі творы з першай часткі "Чытанкі для дзіцячага садка", укладзенай Вінцуком Вячоркам і Пятром Садоўскім, якая выходзіла ў 2008 годзе і многім палюбілася. Новае выданне выйшла ў выдавецтве "Кнігазбор" на замову МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

"Чытанка для маленькіх" — гэта выдатны падарунак для тых, у каго маленькія дзеці. Кніга змяшчае вершы і казкі, калыханкі і гульнёвыя прыпеўкі для дзетак да трох гадоў. Творы ў чытанцы сабраныя як народныя, так і аўтарскія. Дзеткі могуць смела гартаць гэтую кніжку, бо яна ў цвёрдай вокладцы, а старонкі надрукаваныя на шчыльнай паперы. А гартаць яе яны будуць з сапраўдным задавальненнем, будзьце пэўныя! Выданне аздобленае прыгожымі і яркімі малюнкамі мастачкі Святланы Канськовай-Дударэнка.

# ЗМЕСТ часопіса "Дзеяслоў" №1-6 (62-67) за 2013 год

***Паэзія***



***Проза***

***Дэбют***



***Пераклады***



***Спадчына***



***Дзённікі. Запісы. Згадкі***



***Эсэ***

# Нашыя аўтары

**Адамовіч Славамір** — паэт, эсэіст, публіцыст. Аўтар кніг «Кальварыйскія клёны», «Зямля Ханаан», «Турэмны дзённік», «Плавільшчыкі расы» і інш. Нарадзіўся ў 1962 годзе на станцыі Унежма Архангельскай вобласці (Расія). Жыве ў Мінску.

**Алейнік Лада** — крытык, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кнігі "Пясочны гадзіннік", шматлікіх публікацыяў у рэспубліканскім друку. Нарадзілася ў 1970 годзе ў вёсцы Чапліцы на Случчыне. Жыве ў Мінску.

**Ананка Яраслава** – паэтка, перакладчыца, літаратуразнаўца. Друкавалася ў часопісах «Дзеяслоў», «Монолог», «Урал» (Екацерынбург), «День-Ночь» (Краснаярск), а таксама ў альманахах «Минская школа» (Мінск) і «Камчия» (Сафія). Пераможца конкурсаў «Дзень Зямлі» (2003), «Малады літаратар. Да стагоддзя «Нашай Нівы» (2006). Перакладае з польскай і нямецкай моў. Нарадзілася ў 1987 годзе. Жыве ў Берліне.

**Бічэль Данута** – паэтка. Лаўрэат Дзяржаўная прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1984). Аўтар зборнікаў паэзіі «Дзявочае сэрца», «Нёман ідзе», «Запалянкі», «Доля», «Ты – гэта ты», «Браткі», «Дзе ходзяць басанож», «Загасцінец», «Даўняе сонца», «А на Палессі», «Божа, мой Божа», «Снапок», «На белых аблоках сноў», «Стакроткі ў вяночак Божай Маці», «Ойча наш...»; кнігі нарысаў, мемуараў і эсэ «Хадзі на мой голас», кнігі прозы «Мост святога Францішка». Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Гарадзеншчыне. Жыве ў Гародні.

**Бутэвіч Анатоль** — празаік, перакладчык, эсэіст, журналіст. Аўтар кніг «Прыгоды лісціка-карунчыка», «Прыгоды памаўзлівай Рыскі», «Прыгоды віруса Шкодзі», серыі кніг «Сем цудаў Беларусі», рамана «Каралева не здраджвала каралю», гістарычных эсэ «На далонях вечнасці», кніг перакладаў С. Лема, Э. Ажэшкі, Э. Хемінгуэя, Д. Олдрыджа, Р. Курыльчыка і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Язавец на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Бяляцкі Алесь** — празаік, крытык, літаратуразнаўца, публіцыст. Аўтар кніг «Літаратура і нацыя», «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера», «Асьвечаныя беларушчынай». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Карэліі. Цяпер адбывае тэрмін зняволення ў Бабруйску.

**Вапа Яўген** — паэт, публіцыст, журналіст. Галоўны рэдактар тыднёвіка «Ніва», кіраўнік «Радыё Рацыя». Аўтар шматлікіх публікацый у беларускім і польскім друку. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Доўгі Брод на Гайнаўшчыне. Жыве ў Беластоку.

**Вішнёў Зміцер** — празаік, паэт, мастак. Адзін са стваральнікаў літсуполкі «Бум-бам-літ». Аўтар кніг «Бочкавы краб», «Клёкатамус», «Штабкавы там-там», «Тамбурны маскіт», «Верыфікацыя нараджэння», «Замак, пабудаваны з крапівы» і інш. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў г. Дэбрэцэн (Венгрыя). Жыве ў Мінску.

**Гатальская Арыя-Ульрыка** – паэтка. Дыпламант фестываля аўтарскай песні і паэзіі ў Гомелі «Вясна-92». Першая публікацыя ў рэспубліканскім друку – часопіс «Першацвет» (1993). Удзельнічала ў літруху «Бум-Бам-Літ». Нарадзілася ў вёсцы Лебядзёўка на Жлобіншчыне. Жыве ў Гомелі.

**Гілевіч Ніл** — народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, драматург, перакладчык, фалькларыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Перазовы», «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Святлынь», «Родныя дзеці», «І чую я голас...», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Ільючык Мікола** – празаік, паэт. Аўтар кніг вершаў «Дзе жыве душа» , «Шматкроп'е кропель», прозы «Роспач

і надзея». Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Багданаўка Лунінецкага раёна на Берасцейшчыне. Жыве ў Лунінцы.

**Кіршбаум Генрых** – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар паэтычнага зборніка «Междуречие» і манаграфіі «Валгаллы белое вино. Немецкая тема в поэзии О. Мандельштама». Перакладае з польскай і нямецкай моў. Нарадзіўся ў 1974 годзе. Жыве ў Берліне.

**Лавіцкі Дзмітрый** – паэт. Нарадзіўся ў 1988 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

**Ляхновіч Павел** – празаік, журналіст, перакладчык. Аўтар кніг «Пачатак сезона», «Зялёны дуб». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Сярэдняя на Міншчыне. Жыве ў Пінску.

**Мацін Сяржук** – паэт. Быў сябрам суполкі «Літаратурнае прадмесце». Нарадзіўся ў 1994 годзе ў Мінску. Загінуў 15 снежня 2013 года.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі імя Ежы Гедройца (2013). Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі» прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Пазьняк Зянон** — палітык, гісторык, паэт, фотамастак. Аўтар кніг «Браслаўшчына», «Рэха даўняга часу», «Сапраўднае аблічча», «Курапаты» , «Глёрыя Патрыя», «Беларуска-расейская вайна» і інш. Нарадзіўся ў 1944 годзе ў мястэчку Суботнікі на Іўеўшчыне. Ад 1996 года ў палітычнай эміграцыі. Жыве ў Варшаве.

**Плотка Алесь** – паэт. Друкаваўся ў гомельскім самвыдаце. Лаўрэат «дзеяслоўскай» прэміі «Залаты апостраф» за лепшы дэбют (2011). Нарадзіўся ў 1984 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Трэнас Віка (Вікторыя Ляйкоўская)** – паэтка. Аўтар кніг «Цуд канфіскаванага дзяцінства», «Экзістэнцыйны пейзаж». Займаецца арганізатарскай і менеджэрскай дзейнасцю: супольна з паэткай Юліяй Новік ажыццяўляе доўгатэрміновыя літаратурна-мастацкія праекты «Выявы», «Францыя ў сэрцы Беларусі». Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Усеня Алесь** – паэт, празаік, сатырык, выдавец. Аўтар кніг «Я хачу на сваю планету», «Здань на хутары», «Дзежка дзёгцю, «Пустадомкі», «Мой лістапад» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Пасека на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Чарнякевіч Ціхан** – крытык, літаратуразнаўца. Аўтар бібліяграфічнага даведніка «Пераклады твораў замежнай літаратуры ў часопісе «Крыніца» (1988-2003)», укладальнік і каментатар кніг «Максім Багдановіч: вядомы і невядомы», «Лявон Савёнак “Творы”». Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Пінску. Жыве ў Мінску.

**Шчур Макс** — паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кніг «Спадарыня Адзіноцтва», «Амфітэатар», «Ранні збор», «Амальгама», «Ліст, знойдзены на папялішчы» і інш. Перакладае з чэшскай, іспанскай і ангельскай моваў. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Берасці. Жыве ў Празе.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**






У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Юрыя Дзядзінкіна, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.